КРАІНА БЕЛАРУСЬ

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

## ІЛЮСТРАВАНАЯ ГІСТОРЫЯ

Тэкст Уладзіміра Арлова
Мастак Зьміцер Герасімовіч



KALLIGRAM

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч
кандыдат гістарычных навук Уладзімір Ляхоўскі

Рэдактар Зміцер Санько
Картограф Віктар Цемушаў
Карэктары Яніна Марціновіч, Марыя Кавальчук

Кніга выдадзеная пры падтрымцы






ISBN 978-985-6919-82-7




KALLIGRAM, spol. s r.o., 2012



Выданню спрыялі:
Аўкцыённы дом «Парагіс»
Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва
Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта
Бібліятэка Красінскіх у Варшаве
Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве
Гарадзенскі гістарычна-археалагічны музей
Музей беларускага кнігадрукавання
Нацыянальная бібліятэка Беларусі
Нацыянальны мастацкі музей Беларусі
Нацыянальны гістарычны музей Беларусі
Нацыянальны музей у Варшаве
Нацыянальны музей у Кракаве
Польскі інстытут у Менску

Кніга, якую вы трымаеце ў руках, у пэўным сэнсе з'яўляецца працягам папулярнага ілюстраванага выдання «Краіна Беларусь». Займальная і даступная для чытача любога ўзросту, яна прысвечаная найцікавейшай эпосе нашай мінуўшчыны – часам Вялікага Княства Літоўскага. У гэтай магутнай еўрапейскай дзяржаве, дзе скансалідаваўся беларускі народ, беларускія землі адыгрывалі вызначальную ролю, а беларуская мова была дзяржаўнай.
Сваёй гістарычнай радзімаю Вялікае Княства Літоўскае лічаць і летувісы, і ўкраінцы, якія доўгі час жылі з беларусамі ў агульнай краіне, а таксама беларускія татары і габраі-ліцвакі.
Аднак гэтая кніга мае на мэце расказаць найперш пра дзяржаватворчую ролю нашых продкаў.
Вас чакае сустрэча з выдатнымі гістарычнымі асобамі: палітыкамі, военачальнікамі, асветнікамі. Вы даведаецеся пра жыццё і побыт, ваенныя перамогі і культурныя дасягненні прадзедаў.
На аснове гістарычных фактаў кніга даводзіць, што Вялікае Княства Літоўскае – наша дзяржава, а найменні «Літва» і «ліцьвіны» на працягу некалькіх стагоддзяў былі назовамі Беларусі і беларусаў.
У кнізе змешчаныя блізу дзвюх тысяч ілюстрацый, у тым ліку летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры, унікальныя фотаздымкі і рэканструкцыі. Шмат якія ілюстрацыі беларускаму чытачу дагэтуль былі невядомыя.
Гісторыя нашай краіны разглядаецца як частка агульнаеўрапейскага руху цывілізацыі.

Змест





# СЛАВЯНЕ І БАЛТЫ

Бронзавая фібула з срэбнымі накладкамі. Сярэдзіна I тысячагоддзя. Селішча Тайманава. Быхаўскі раён

## Балты

Як сведчаць назовы рэк і азёраў, а таксама археалагічныя знаходкі, у бронзавым веку тэрыторыю нашай краіны засялялі старажытныя балты. Яны продкі не толькі беларусаў, але і суседніх народаў – летувісаў і латышоў.

Летапісы захавалі найменні балцкіх плямёнаў, што жылі на нашых землях: яцьвягі, нальшчаны, дайнова. Да іх звычайна далучаюць і літву.

Яцьвягі займалі абшары паміж рэкамі Нёманам і Наравам. Гэта быў мужны і ваяўнічы народ, што некалькі стагоддзяў з поспехам бараніў свае паселішчы ад ворагаў. У яцьвяжскіх пахаваннях археолагі знаходзяць шмат зброі і рыштунку баявых коней. З часам яцьвягі цалкам славянізаваліся і сталі часткаю беларускага народа.

При канцы 3-га – на пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. з поўдня і захаду на сучасны абшар Беларусі прыйшлі плямёны індаеўрапейцаў. Ад іх вядуць свой род шмат якія сучасныя народы Еўропы, у тым ліку славяне і балты.

Жалезныя дзюбы суліцаў – кароткай тронкавай зброі для кідання, а таксама дзіды (злева). V–VII стст. Мядзельшчына

Вельмі пашыранымі прыладамі працы і надзейнай зброяй былі ў той час жалезныя сякеры

Памінальны камень IX–X стст. з вострава Готлянд (сучасная Швецыя), які меў даўнія гандлёвыя сувязі з Полацкам

**ХРАНАЛОГІЯ**

Канец 3-га тыс. да н. э. – На абшары Беларусі з'явіліся плямёны індаеўрапейцаў.

Пачатак 2-га тыс. да н. э. – VII ст. да н. э. – Бронзавы век у Беларусі. Нашыя землі заселеныя старажытнымі балтамі.

VI–VIII стст. – Пачатак славянізацыі Беларусі.

VIII–X стст. – Існаванне аб'яднанняў летапісных плямёнаў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў.



Вітая шыйная грыўня з бронзы

Такімі бронзавымі фібуламі зашпільвалі верхняе адзенне. Знойдзена пад Мядзелам

Бронзавая падвеска-абярэг у выглядзе коніка. Знойдзена ў жаночым пахаванні XIII–XIV стст. на Вілейшчыне

Арбалетападобная фібула IX–XIII стст. Бронза

Фібулу, аздобленую выявамі змяіных галовак, археолагі знайшлі ў курганным могільніку VI–XII стст. паблізу вёскі Засвір Мядзельскага раёна

Гэтай бронзавай фібуле болей за дзве тысячы гадоў

Літва, якая традыцыйна лічыцца балцкім племем, таксама жыла на захадзе сучаснай тэрыторыі Беларусі, была больш шматлікай і адыграла ў нашай гісторыі значную ролю. Яна дала найменне Вялікаму Княству Літоўскаму – адной з наймагутнейшых дзяржаваў сярэднявечнай Еўропы.

Аднак некаторыя навукоўцы трымаюцца думкі, што летапісная літва – гэта таксама славяне, якія пад націскам немцаў перасяліліся на нашыя землі з захаду. Да такога меркавання схіляюцца, напрыклад, Паўла Урбан і Алесь Жлутка, што даследвалі малавядомыя гістарычныя крыніцы.

**Рассяленне балтаў на будучым беларускім этнічным абшары**

Курганныя могільнікі з знаходкамі прадметаў балцкага паходжання

Рассяленне балцкіх плямёнаў напярэдадні з'яўлення славянаў

Межы рассялення беларусаў паводле М. Доўнара-Запольскага

Сучасная мяжа Беларусі

Бронзавыя фібулы з могільніка каля вёскі Чаплін Лоеўскага раёна. Ранні жалезны век

Пахаванне паводле абраду інгумацыі. Курганны могільнік Банцараўскай культуры каля вёскі Берагоўцы Шчучынскага раёна. VI–VIII стст. Большасць вучоных лічаць, што гэтая археалагічная культура належала балтам з славянскім уплывам

Грабеньчык XIII ст. З раскопак старажытнага Менска

Падвеска-лунніца з бронзы, знойдзеная каля вёскі Адаменка Быхаўскага раёна

Аздобленая чырвонай эмаллю лунніца III–IV стст. з Магілеўшчыны

## Славяне

Гісторыкі працягваюць спрачацца аб паходжанні славянаў. У працах грэцкіх і рымскіх аўтараў яны згадваюцца ад самага пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. Але шэраг вучоных лічаць першай пісьмовай звесткай пра нашых далёкіх продкаў паведамленне славутага антычнага гісторыка і географа Герадота пра племя неўраў, што ў VI ст. да н. э. жыло на поўнач ад скіфаў, у басейнах рэк Гарынь і Паўднёвы Буг.

Прарадзіму славянаў адны навукоўцы змяшчаюць на рацэ Дунаі, але большасць – паміж Віслай і Одрай на тэрыторыі цяперашняй Полышчы. Існуе і меркаванне, што гэтай прарадзімаю было міжрэчча Дняпра і Заходняга Буга, а таксама паўднёвая Беларусь.

Бронзавыя падвескі-абярэгі ў выглядзе жывёл. Віцебшчына

У V ст. славяне ўлучыліся ў «Вялікае перасяленне народаў». Якраз тым часам датуюцца першыя славянскія паселішчы на нашых землях, знойдзеныя археолагамі ў горадзе Петрыкаве і каля вёскі Хатомель Столінскага раёна.

Бронзавая падвеска з імітацыяй зерні. X–XI стст. Ашмяншчына

Старажытны серп з Гарадзеншчыны

Шкляныя пацеркі X–XI стст. Друцак

Паганскі ідал, знойдзены на беразе ракі Серабранка каля Шклова. X ст.



Арнаментаваныя касцяныя накладкі на тулы (калчаны) з Ваўкавыска (уверсе) і Менска. XIII ст.

Рассяленне славянаў на землях сучаснай Беларусі адбывалася паступова. Яны рухаліся па рэках, на берагах якіх будавалі свае паселішчы. Суіснаванне новага насельніцтва з ранейшым балцкім было пераважна мірным. Славяне мелі вышэйшы ўзровень грамадскай арганізаванасці, больш развітую гаспадарку, лепшыя прылады працы. Усё гэта разам з падобнымі паганскімі (язычніцкімі) вераваннямі і звычаямі спрыяла міжэтнічным кантактам і зблiжэнню суседзяў.

Касцяная падвеска з гэтак званым «вочкавым» арнаментам. XII–XIII стст.

Славянскае гарадзішча V–VII стст. у Верхнім Падняпроўі. Рэканструкцыя

На нашай зямлі захавалася шмат старажытных гарадзішчаў. Смаргоншчына. Фота Анатоля Кляшчука. 2003 г.



Скроневыя колцы з пацеркамі. XIII ст. Гарадзеншчына

Гэтую срэбную шыйную грыўню IX–X стст. з арабскімі манетамі-дырхемамі знайшлі ў Дняпры паблізу Магілева

Ад такой старажытнай срэбнай аздобы не адмовілася б і жанчына XXI ст.

## Крывічы. Дрыгавічы. Радзімічы

Крывічы займалі землі Падзвіння і верхняга Падняпроўя. Летапісы называюць моцнае адгалінаванне крывічоў – палачанаў. Іх цэнтрам быў найстаражытнейшы беларускі горад Полацак (вядомы з 862 г.), збудаваны на беразе Дзвіны ля яе сутоку з Палатой. Другім важным цэнтрам крывічоў стаў Смаленск. На цяперашняй тэрыторыі нашай краіны знаходзяцца старажытныя крывіцкія гарады Віцебск, Ворша, Заслаўе, Браслаў.

Поўная славянізацыя балтаў расцягнулася на некалькі стагоддзяў, але ў VIII ст. ужо ўтварыліся новыя міжпляменныя аб'яднанні крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў.



Завушніцы з срэбра і сердаліку

Рассяленне славян на тэрыторыі Беларусі






Бронзавыя бранзалеты XI–XII стст. з Полаччыны (справа) і Меншчыны





Срэбныя скроневыя колцы, знойдзеныя на Гомельшчыне

Такія срэбныя пярсцёнкі насілі на Піншчыне тысячу гадоў таму

Ліцейная форма полацкага ювеліра XII ст.

Скроневыя колцы дрыгавічанак XI–XII стст. Срэбра. Мазыршчына

Наваградчанка, якая насіла гэтыя пацеркі ў XI ст., магла б супернічаць з сучаснымі прыгажунямі. Сердалік, пазалочанае шкло, зернь

Завушніцы і скроневыя колцы заможнай жанчыны. Срэбра, залачэнне, зернь і скань. Знойдзеныя ў ваколіцах Галышанаў. Ашмянскі раён

Дрыгавічы жылі ў паўднёвай частцы Беларусі. Цэнтрамі гандлю і рамяства ў іх былі Тураў, Пінск, Давыд-Гарадок, Слуцак, Берасце (Брэст), Клецак, Капыль, Рагачоў. На крывіцка-дрыгавіцкім памежжы стаялі Менск, Лагойск, Барысаў.

Гарады ў беларусаў узніклі на некалькі стагоддзяў раней, чым у суседзяў – летувісаў і латышоў.

У басейне ракі Сож, на ўсход ад дрыгавічоў, жылі радзімічы. На іх абшары вылучаліся старажытныя Чачэрск і Прапошаск (Слаўгарад).

Найважнейшая роля ў нашай гісторыі належыць крывічам. Яны стварылі першую беларускую дзяржаву – Полацкае княства, якое летапісы называюць таксама Полацкай зямлёй. Народы-суседзі менавалі нашых продкаў крывічамі і пасля таго, як гэтае пляменнае найменне знікла з усходнеславянскіх летапісаў. Для немцаў вялікая частка Беларусі была Крывіяй нават у XIV ст. Доўгі час назоў «крывічы» азначаў не старую пляменавую, а дзяржаўную прыналежнасць і быў гістарычным этнонімам беларусаў. Па-латышску беларусаў і цяпер завуць «baltkrievs». Калі ў часы нашага Адраджэння на пачатку XX ст. ішло змаганне за аднаўленне беларускай дзяржавы, гучалі прапановы назваць яе Крыўяй або Крывіяй.



Радзіміцкія скроневыя колцы з срэбра. XII ст.

На старажытных беларускіх землях апрача Полацкага існавалі таксама моцныя Смаленскае і Тураўскае княствы. Але найбольш пасяхова адстойвала сваю незалежнасць Полацкая зямля.

# СТАРАЖЫТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ КНЯСТВЫ

«Мерцвякі б'юць палачанаў». Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу, якая алегарычна адлюстроўвае чумны паморак

## Полацкае княства

Першым вядомым з летапісаў полацкім князем быў Рагвалод, які праводзіў сваю, не залежную ні ад Кіева, ні ад Ноўгарада палітыку. Спадзеючыся на падтрымку палачанаў у барацьбе за кіеўскі пасад, да Рагвалодавай дачкі Рагнеды пасватаўся ноўгарадскі князь Уладзімір Святаслававіч. Ён атрымаў адмову, бо Рагнеда ўжо рыхтавалася да шлюбу з кіеўскім князем Яраполкам.

Сабраўшы вялікае войска з варагаў, славенаў і чудзі, Уладзімір здолеў перамагчы Рагвалода і зруйнаваць крывіцкую сталіцу. Сам полацкі ўладар трапіў у палон і разам з жонкаю і двума сынамі быў забіты. Жывой пакінулі толькі Рагнеду, якую Уладзімір насуперак яе волі зрабіў сваёю жонкай. Неўзабаве ён перамог Яраполка і стаў кіеўскім князем.

Аднаго разу Рагнеда зрабіла спробу паквітацца за родных і паняволеную Айчыну, але Уладзімір адбіў удар яе мяча. Непакорлівую палачанку з малалетнім сынам Ізяславам выслалі на радзіму. Дзякуючы вялікай княгіні Рагнедзе захавалася княская дынастыя Рагвалодавічаў, якая валодала Полацкай зямлёй у X–XIII стст.

За князем Ізяславам, які вярнуўся ў Полацак, горад адрадзіўся і пачаў зноў узыходзіць у сілу. Ізяслаў сын Брачыслаў, здзейсніўшы некалькі пераможных паходаў (у тым ліку на Ноўгарад), значна пашырыў межы Полацкай зямлі і прымусіў кіеўскага князя Яраслава Мудрага прызнаць яе незалежнасць.

Полацак вырас на старажытным гандлёвым шляху «з варагаў у грэкі», што праходзіў па Дзвіне. Ён звязваў Балтыйскае мора з Чорным і спрыяў развіццю навакольных крывіцкіх земляў, якія прызналі ўладу полацкіх князёў. Так ужо ў сярэдзіне X ст., а магчыма, і на стагоддзе раней узнікла найстаражытнейшая дзяржава нашых продкаў.

Кампазіцыя, прысвечаная заснавальнікам Полацка – крывічам. Скульптар Алесь Шатэрнік

### ХРАНАЛОГІЯ

Сярэдзіна X ст. – Утварэнне Полацкага княства, першай старажытнабеларускай дзяржавы.
Блізу 980 г. – Летапісныя звесткі пра нашага першага князя Рагвалода.
988–1001 гг. – Княжанне ў Полацку Ізяслава.
992 г. – Утварэнне Полацкай епархіі.
1003–1044 гг. – Княжанне ў Полацку Брачыслава Ізяславіча.
1005 г. – Заснаванне Тураўскай епархіі.
1044–1101 гг. – Княжанне Усяслава Чарадзея.
1050–1055 гг. – Будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора.
3 сакавіка 1067 г. – Бітва на Нямізе.
1078 г. – Перамога палачанаў над войскамі Уладзіміра Манамаха.
Каля 1104 г. – 1167 г. – Жыццё і дзейнасць Еўфрасінні Полацкай.
1127–1159 гг. – Княжанне ў Смаленску Расціслава Мсціславіча.
Блізу 1130 г. – пасля 1190 г. – Жыццё і дзейнасць Кірылы Тураўскага.
1158 г. – Заваёва незалежнасці Тураўскім княствам.





Фрагмент знакамітай карты свету, створанай у 1290 г. у Эбсторфскім кляштары (Нямеччына) на пергамене з 30 казіных скураў. У выглядзе аленя на карце пазначаны Полацак, а справа ад яго ў абліччы зубра – Смаленск. Тагачасныя заходнееўрапейскія картографы падкрэслівалі тым самым значнасць гэтых гарадоў для хрысціянскага свету

Полацкае княства ў часы Усяслава Брачыслававіча





Знойдзеная ў Полацку віслая пячатка тураўскага і кіеўскага князя Усевалада Яраслaвіча. XI ст.

Полацкае княства мела ўсе адзнакі дзяржаўнасці – суверэнную ўладу князя і веча, сваю адміністрацыю, войска, узятыя пад ахову межы.

Паспяховыя паходы палачанаў на Ноўгарад і Новагародак (цяперашні Навагрудак) устрывожылі трох сыноў Яраслава Мудрага на чале з кіеўскім князем Ізяславам. Бітва паміж войскам Усяслава Чарадзея і злучанымі сіламі Яраславічаў, якія перад тым захапілі і спалілі памежны горад Полацкага княства Менск, адбылася ў 1067 г. на рацэ Нямізе. Усяслаў, хоць і дарагой цаной, здолеў абараніць дзяржаву, змусіўшы Яраславічаў адвесці войскі.

Княгіня Рагнеда спрабуе забіць князя Уладзіміра, помсцячы яму за бацькоў, братоў і родны горад. Фрагмент мініяцюры Радзівілаўскага летапісу





Князевіч Ізяслаў заступаецца за Рагнеду пасля яе замаху на Уладзіміра. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Старажытны Полацак часоў Усяслава і ягоных наступнікаў. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 1999 г.



Бітва дружыны князя Уладзіміра з радзімічамі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Не дасягнуўшы перамогі ў бітве, ворагі запрасілі полацкага князя на перамовы. Парушыўшы клятву, дадзеную на крыжы, яны захапілі Усяслава з старэйшымі сынамі ў палон. Праз год у Кіеве выбухнула паўстанне. Яго ўдзельнікі вызвалілі Чарадзея з турмы і абвясцілі вялікім князем кіеўскім. Але праз сем месяцаў ён намерыўся вярнуцца на радзіму. Пасля зацятага змагання Усяслаў цалкам вызваліў Полацкае княства. У 1078 г. палачане атрымалі надзвычай важную перамогу над аб'яднанымі войскамі паўднёвых княстваў, ноўгарадцаў і полаўцаў, якія вёў на незалежную Полацкую зямлю Уладзімір Манамах.

За Усяславам Полацкае княства ахоплівала большую частку тэрыторыі сённяшняй Беларусі і адпавядала сваімі памерамі такім тагачасным краінам, як герцагства Баварскае або каралеўства Партугальскае. Апрача сталіцы наша першая дзяржава налічвала яшчэ паўтара дзясятка гарадоў: Віцебск, Заслаўе, Браслаў, Менск, Ворша, Копысь, Усвят, Лагойск, Барысаў, Друцак, Лукомль... На землях, дзе жылі продкі сучасных латышоў, стаялі гарады Герсіка і Кукенойс, у якіх кіравалі полацкія васалы. Улада Полацка пашыралася на ніжняе Падзвінне да самага Варажскага (Балтыйскага) мора. Гэта значыць, што Полацкае княства было марской дзяржавай.

Найвышэйшага ўздыму наша першая дзяржава дасягнула ў другой палове XI ст., у часы Усяслава Брачыславіча, што за свае шматлікія таленты і незвычайныя якасці атрымаў імя Чарадзей. На загад Усяслава ў Полацку быў збудаваны велічны Сафійскі сабор, трэці такі храм на ўсходнеславянскіх землях, які сімвалізаваў роўнасць Полацка з Кіевам і Ноўгарадам.



Касцяная шахматная пешка з Менска. XII–XIII стст.

Крэсіва часоў Полацкага княства

Нажніцы, зробленыя гарадзенскім майстрам тысячу гадоў таму

Фігура пешкі-«бубнача» ад шахматаў, якімі гулялі жыхары старажытнага Ваўкавыска

Скураны абутак XII ст. з Полацка

Срэбныя гузікі XI–XIII стст.

## ХРАНАЛОГІЯ

Першыя звесткі пра беларускія гарады ў пісьмовых крыніцах:

- 862 г. – Полацак.
- 863 г. – Смаленск.
- 974 г. – Віцебск.
- 980 г. – Тураў.
- Блізу 985 г. – Заслаўе.
- 1019 г. – Берасце.
- 1044 г. – Навагародак.
- 1059 г. – Копысь.
- 1065 г. – Браслаў.
- 1067 г. – Менск, Ворша.
- 1070 г. – Вільня (Крывіч-горад).
- 1078 г. – Лагойск, Лукомль, Друцак.
- 1097 г. – Пінск.
- 1102 г. – Барысаў.
- 1116 г. – Слуцак.
- 1127 г. – Горадня, Клецак.
- 1136 г. – Крычаў, Прапошаск (Слаўгарад).
- 1142 г. – Гомель, Рагачоў.
- 1155 г. – Мазыр.
- 1156 г. – Амсціслаў.
- 1159 г. – Чачэрск.
- 1252 г. – Бельск, Здзітаў, Слонім, Ваўкавыск.
- 1253 г. – Турыйск.
- 1267 г. – Магілеў.

Так выглядала Горадня васямсот гадоў таму. У XII ст. горад ужо быў цэнтрам Гарадзенскага княства, але пэўны час падпарадкоўваўся Полацку. Рэканструкцыя 1949 г.



Амфара-галаснік з Каложскай царквы ў Горадні





Залатыя ювелірныя ўпрыгожанні XI ст., знойдзеныя ў Полацку

Гарады Полацкай зямлі, як і іншых старажытных беларускіх княстваў, былі буйнымі цэнтрамі рамяства і гандлю. Археолагі падлічылі, што ў Полацку жылі майстры больш чым шасцідзесяці спецыяльнасцяў. Купцы гандлявалі не толькі з суседнімі гарадамі, але і з далёкімі землямі, найперш з Візантыяй і Блізкім Усходам. Адтуль прывозілі віно, аліўкавы алей, тканіны і прыправы. З Заходняй Еўропы рамеснікі атрымлівалі волава, медзь і цыну. Адным з найважнейшых імпартных тавараў некалькі стагоддзяў была соль. З беларускіх княстваў на продаж вывозілі найчасцей футра, мёд, воск, паташ, вугаль і смалу, а пазней таксама збожжа і жалеза.

У Полацкім княстве існавала сістэма ўлады, пры якой разам з князем вялікая роля належала вечу – агульнаму сходу палачанаў. На ім разглядаліся найбольш важныя грамадскія і дзяржаўныя справы. Полацкае веча мела права прызначаць князя і пазбаўляць яго ўлады. Ад імя князя і полацкага епіскапа яно падпісвала дамовы з іншымі гарадамі і дзяржавамі. Закладзеныя тады дэмакратычныя традыцыі захоўваліся ў Полацку на працягу некалькіх стагоддзяў.

Помнік князю Барысу Усяславічу ў Барысаве. Скульптар Анатоль Арцімовіч. 2002 г.



Усе спробы Кіева далучыць Полацкую дзяржаву да сваіх уладанняў нязменна заканчваліся правалам. Княства заставалася незалежным і адыгрывала важную ролю ва Усходняй Еўропе. Прызнаннем міжнароднага аўтарытэту Полацкай зямлі сталася блізкае сваяцтва Рагвалодавічаў з візантыйскім імператарскім домам Камнінаў, а таксама з іншымі еўрапейскімі дынастыямі. Дачка Усяслава Чарадзея ўзяла шлюб з імператарам Аляксеем Камнінам.

Усяславава праўнучка Сафія, дачка менскага князя Валадара Глебавіча, у 1157 г. павянчалася з каралём Даніі Вальдэмарам I, адным з найславуцейшых уладароў у гісторыі сваёй краіны. Нашчадкі нашай суайчынніцы займалі каралеўскія пасады ў Даніі, Швецыі і Францыі. У дацкім горадзе Калундбарг каралева Сафія пабудавала катэдральны сабор, які меў за ўзор Сафійскі сабор у Полацку.

Срэбны пярсцёнак XIII ст. з Гомельшчыны





Гэты далікатны пярсцёнак археолагі знайшлі на Полаччыне ў культурным пласце XII–XIII стст.



Вырабы смаленскіх майстроў-ювеліраў X–XII стст.

## Смаленскае княства

Першыя паведамленні пра Смаленск летапісцы пакінулі пад 863 г., але незалежнасці Смаленская зямля дасягнула толькі ў 1127 г., у часе валадарання князя Расціслава Мсціславіча. У XII ст. у яе склад уваходзілі Ворша, Крычаў, Копысь, Амсціслаў, Прапошаск, Таропец, Рослаў, Дарагабуж, Ельня ды іншыя гарады. На ўсходзе Смаленску належалі абшары да вышнявінаў рэк Угры і Масквы, дзе межы княства супадалі з этнаграфічнымі межамі рассялення беларусаў.

Князь Расціслаў Мсціславіч валадарыў болей за трыццаць гадоў і стаў пачынальнікам дынастыі смаленскіх князёў. Ён заснаваў у Смаленску самастойную епіскапію. Пры ім у сталіцы княства былі пабудаваныя ўмацаванні і некалькі мураваных храмаў. Найстаражытнейшы з іх – царква Пятра і Паўла, якая захавалася да нашых дзён.

Сын Расціслава Раман працягваў бацькаву палітыку ўмацавання самастойнасці Смаленскай зямлі. Вялікую ўвагу ён адаваў асвеце: адчыняў школы, запрашаў у княства замежных вучоных, сабраў багатую па тых часах бібліятэку.

На ўсходзе Полацкая зямля межавала з іншай створанай крывічамі дзяржавай – Смаленскім княствам. На яго абшары скрыжоўваліся важныя гандлёвыя шляхі, якія ішлі па Дняпры, Волзе і Дзвіне.

Медная паясная накладка з-пад Воршы. XIII ст.



Пячаткі, знойдзеныя на смаленскім дзядзінцы IX–X стст.



Радзівілаўскі летапіс называе Смаленск сярод гарадоў, заснаваных крывічамі

Петрапаўлаўская царква ў Смаленску. Сярэдзіна XII ст. Сучасны выгляд. Фота Генадзя Мацура. 2009 г.



Смаленскае княства ў часы князя Расціслава Мсціславіча






Бронзавыя шпількі XII ст. Берасцейшчына

Паясная накладка з бронзы. XIII ст. Берасце



Фрагмент тагачаснага плеценага бранзалета

## Тураўскае княства

Адрозна ад Полацка Тураў, першыя звесткі пра які датуюцца 980 г., на пачатку сваёй гісторыі прызнаваў уладу Кіева.

Пад 1097 г. летапісцы ўпершыню паведамілі пра Пінск, які вырас на беразе Піны, на тым месцы, дзе яна зліваецца з Прыпяццю. Менш чым за стагоддзе Пінск апярэдзіў Тураў у развіцці, што пазней дало гісторыкам падставы называць княства Турава-Пінскім.

Сваю незалежнасць яно заваявала ў 1158 г. пры князі Юр'ю Яраславічу. У гэты год Тураў, а следам за ім Пінск здолелі абараніцца ад вялізнага кіеўскага войска.

Цесную лучнасць з Тураўскім княствам мела Берасцейшчына. Апрача самога Берасця тут існавалі гарады Кобрынь, Каменец, Дарагічын, Бельск, Мельнік. У другой палове XII–XIII ст. гэтыя землі ўваходзілі ў склад Уладзіміра-Валынскага княства, але захоўвалі значную самастойнасць. У тым часе была збудавана знакамітая Камянецкая вежа.

Тураўскія князі часта займалі вялікакняскі кіеўскі пасад, што сведчыць пра значнасць галоўнага горада дрыгавічоў. Адзнакай ягонай самастойнасці было існаванне тут на пачатку XI ст. біскупскай катэдры заходняга абраду на чале з біскупам Райнбэрнам.

Раскапанае археолагамі старажытнае Берасце



Тураўскае княства пры Юр'ю Яраславічу






Каменны крыж з Турава. XII ст. Паданні пра тураўскія крыжы, якія растуць з зямлі, захаваліся да нашых дзён

Помнік абарончага дойлідства XIII ст. Камянецкая вежа – лічыцца адным з сімвалаў Беларусі





Пазалочаны каменны абразок XII ст. з выявамі святых Канстанціна і Алены. Археалагічныя раскопкі ў Полацку



Царква Звеставання (Дабравешчання) ў Віцебску. XII ст. Рэканструкцыя 1990-х гадоў

## Прыняцце хрысціянства

У X ст. беларускія землі адначасова з шэрагам іншых еўрапейскіх краінаў сталі часткаю хрысціянскага свету. Трывалыя сувязі Полацкага княства з Канстанцінопалем, што выяўляліся і ў дынастычных шлюбах, і ў магутным уплыве візантыйскай культуры, дазваляюць лічыць, што новая вера прыйшла сюды наўпрост з Візантыі.

Важнай асаблівасцю прыняцця хрысціянства ў Беларусі быў ягоны негвалтоўны, добраахвотны характар. Цягам стагоддзяў яно мірна суіснавала з ранейшым светаўспрыманнем, даўнімі традыцыямі і звычаямі. Нашыя князі прынялі хрост яшчэ перад афіцыйным падзелам царквы на ўсходнюю і заходнюю плыні, які адбыўся ў 1054 г. Хрысцячыся паводле грэцкага абраду, жыхары беларускіх княстваў не адчувалі варожасці да вернікаў-лацінянаў. У XII ст. у Полацкай зямлі працягвалі пашырацца жыццяпісы рымскіх святых. Ужо ў тым часе продкам быў уласцівы дух талеранцыі – рэлігійнай і нацыянальнай цярпімасці.

Старажытны крыжык з гарадзішча каля вёскі Лукомль Чашніцкага раёна

На берагах Валовай азярыны (у межах сучаснага Полацка) тысячу гадоў таму месціўся цэлы комплекс паганскіх капішчаў. Фота Алеся Аркуша. 2005 г.

У XII ст. толькі ў сталіцы нашай першай дзяржавы былі ўзведзеныя дзесяць каменных храмаў, сярод якіх Спасаўская царква, што лічыцца вяршыняй полацкай архітэктурнай школы. Пры цэрквах і манастырах навучалі грамаце, перапісвалі кнігі.



Старажытны крыж у лесе каля вёскі Перавоз Расонскага раёна. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што менавіта там знаходзіцца магіла Рагнеды

Так званы «Варацішын крыж» XI – пачатку XII ст. паблізу вёскі Камена Вілейскага раёна. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2009 г.





Сабор святой Сафіі, пабудаваны над Дзвіной у сярэдзіне XI ст., сімвалізаваў незалежнасць Полацкага княства і ягоную роўнасць з Кіевам і Ноўгарадам. Рэканструкцыя





Крыж святой Еўфрасінні, узноўлены пры канцы XX ст. мастаком-ювелірам Міколам Кузьмічом. Захоўваецца ў Полацкім Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры



Фрагмент фрэскавай размалёўкі ў малельні святой Еўфрасінні. Спасаўская царква ў Полацку. XII ст.

Еўфрасінню першую сярод усходнеславянскіх жанчын праваслаўная царква абвясціла святой. Сёння яна шануецца як нябёсная заступніца Беларускай зямлі.

Так выглядае сёння Спасаўскі храм, збудаваны ў сярэдзіне XII ст. полацкім дойлідам Іаанам



Першымі вядомымі з гістарычных крыніцаў хрысціянамі ў Беларусі былі княгіня Рагнеда (яна прыняла манаства пад імем Настасся) і яе сын Ізяслаў. Летапісы называюць гэтага князя чалавекам пабожным і вялікім кніжнікам. Ізяслаў увёў у Полацку пісьменства і навучанне грамаце, стаўшы, такім чынам, нашым першым асветнікам.



Уваход у келлю святой Еўфрасінні ў Спасаўскай царкве

Полацкая епархія – царкоўная акруга на чале з епіскапам – утварылася яшчэ ў 992 г., Тураўская – у 1005 г. На беларускіх землях распачалося будаўніцтва мураваных храмаў і манастыроў.




Помнік Еўфрасінні Полацкай у скверы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Скульптар Ігар Голубеў. 1999 г.



Мастак-рэстаўратар Уладзімір Ракіцкі аднавіў фрэскі XII ст. у барабане Спасаўскага храма

У XII–XIII стст. старажытныя беларускія княствы паводле роўню развіцця адукацыі, кніжнай справы, дойлідства ды іншых галінаў культуры нічым не саступалі суседнім еўрапейскім дзяржавам.

## Культура

Праз хрысціянства Беларусь увайшла ў еўрапейскую цывілізацыю.

Царкоўнаславянская мова тагачасных рэлігійных кніг сталася своеасаблівай «усходнееўрапейскай лацінай», якой валодалі адукаваныя людзі ад Балтыйскага да Адрыятычнага мора.

Выдатнай асветніцай той эпохі ў маштабе ўсяго хрысціянскага свету была ўнучка князя Усяслава Чарадзея Еўфрасіння Полацкая, адна з самых адукаваных жанчын Еўропы. Яна перапісвала і перакладала з грэцкай і лацінскай моваў царкоўныя кнігі і хронікі, пісала ўласныя творы. Магчыма, пяро асветніцы выводзіла радкі Полацкага летапісу. Вялікі размах пашырэнню пісьмовага слова Еўфрасіння надала, заснаваўшы ў Полацку жаночы і мужчынскі манастыры. Там былі адчыненыя майстэрні па перапісванні кніг – скрыпторыюмы. Перадавую праграму мелі створаныя асветніцай школы, дзе юныя палачане вывучалі царкоўнаславянскую, грэцкую і лацінскую мовы, гісторыю, паэтыку і рыторыку.

Збіраючы вакол сябе таленты, Еўфрасіння ўвайшла ў гісторыю і як наша першая мецэнатка. На яе замову геніяльны полацкі дойлід Іаан у 50-х гадах XII ст. збудаваў храм Спаса, які захаваўся да нашых дзён і збярог у сваіх сценах унікальныя тагачасныя фрэскі. Асветніца была замоўцаю створанага ў 1161 г. полацкім майстрам Лазарам Богшам знакамітага Крыжа, які зрабіўся нацыянальнай святыняй Беларусі.

Помнік Усяславу Чарадзею ў Полацку. Пры гэтым князі Полацкая зямля не толькі пасяхова адстойвала сваю незалежнасць, але і дасягнула высокага роўню культуры. Скульптар Аляксандр Прохараў. 2007 г.



Такімі арнаментамі старажытныя майстры аздобілі Барысаглебаўскую (Каложскую) царкву XII ст. у Гародні





Славянскі асветнік Мяфод з перапісчыкамі. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу



Арнаментаваны тылавы бок цэры – васкаванай дошчачкі, на якой пісалі жалезнымі пісаламі. XI–XIII стст.

Старэйшым сучаснікам Еўфрасінні Полацкай быў славуты пісьменнік і прапаведнік Кірыла Тураўскі, якога назвалі другім Залатасловам, што «паче всех воссиял на Руси». «Словы»-казанні, павучальныя аповесці і вершы-малітвы епіскапа Кірылы перапісваліся, а потым неаднаразова перавыдаваліся ў Беларусі, Украіне і Маскове. Цяпер яны перакладзеныя на сучасную беларускую мову.

Буйным культурным цэнтрам старажытнай Беларусі стаў Смаленск. Князь Расціслаў Мсціславіч адчыніў у ім навучальню, якая давала веды такога роўню, што яе менавалі акадэміяй. У Смаленску складаўся свой летапіс. Там на пачатку XII ст. нарадзіўся пісьменнік, філосаф і царкоўны дзяяч Клім Смаляціч. Ён атрымаў адукацыю ў Канстанцінопалі, выдатна ведаў біблійныя тэксты, творы «айцоў царквы», а таксама Гамэра, Арыстоцеля, Платона. Па вяртанні на радзіму Смаляціч неўзабаве быў абраны кіеўскім мітрапалітам – кіраўніком хрысціянскай царквы на ўсіх усходнеславянскіх землях. Клім Смаляціч выхаваў вучня і паслядоўніка Аўрама Смаленскага – асветніка, шчодра надзеленага красамоўствам і літаратурным талентам.



Беларуская царква святога Кірылы Тураўскага ў нью-ёркскім раёне Бруклін



Тураўскае Евангелле XI ст. – самая ранняя вядомая кніга, створаная на беларускіх землях. Цяпер знаходзіцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Летувы



Помнік Кірылу Тураўскаму ў скверы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Скульптар Аляксандр Прохараў. 2001 г.

Вучоныя даўно выказалі думку, што менавіта наш невядомы суайчыннік з'яўляецца аўтарам «Слова пра паход Ігаравы» – геніяльнага твора, што знаходзіцца ля вытокаў беларускай, украінскай і расейскай літаратур. У «Слове» няраз згадваюцца падзеі з гісторыі Полацкага княства, а Усяслаў Чарадзей паказаны як мудры палітык і таленавіты палкаводзец, які праз усё жыццё пранёс вернасць Бацькаўшчыне.

# ПАГРОЗА З ЗАХАДУ І ЎСХОДУ

## Змаганне з крыжакамі

Для нашых продкаў, як і для многіх еўрапейскіх народаў, XIII стагоддзе сталася перыядам цяжкіх выпрабаванняў. З захаду на славянскі свет распачалі націск крыжакі, з усходу і поўдня смяротную небяспеку неслі мангола-татарскія орды.

Пячатка з дамовы паміж біскупам Лівоніі і магістрам Ордэна мечаносцаў. Першая палова XIII ст.

Пячатка рыжскага арцыбіскупа. XIII ст.





Була папы рымскага Інацэнта IV з абвяшчэннем крыжовага паходу на Прусію. 1243 г.

Тагачасныя нямецкія ваяры: пешы ды конны рыцары і лучнік. Малюнак Г. Тэрнэра. 1990-я гады

**ХРАНАЛОГІЯ**

- 1186–1216 гг. – Княжанне ў Полацку Валодшы.
- 1208 г. – Абарона Кукенойса князем Вячкам.
- 1216 г. – Падрыхтоўка аб'яднанага паходу супроць крыжакоў і смерць князя Валодшы.
- 1240 г. – Удзел палачанаў у разгроме шведскіх рыцараў на Няве.
- 1242 г. – Разгром нямецкіх рыцараў на Чудскім возеры.
- 1258–1259 гг. – Першы паход мангола-татараў на Беларусь.





Крыжацкі замак Кокенгаўзен, збудаваны пасля захопу немцамі падуладнага Полацку горада Кукенойса. Малюнак Э. Дальбэрга. Другая палова XVII ст.

Пасля няўдалых крыжовых паходаў у Палесціну заходнееўрапейскія рыцары скіравалі свой позірк на ўсходняе ўзбярэжжа Балтыкі і суседнія славянскія землі. Пры канцы XII ст. у вусці Дзвіны нямецкія рыцары, святары і купцы заснавалі горад Рыгу і ператварылі яго ў моцную фартэцу. Праз год там быў створаны вайсковаманаскі Ордэн мечаносцаў (пазней яго называлі Інфлянцкім або Лівонскім). Сваёй мэтай ён абвясціў пашырэнне хрысціянства сярод балцкіх плямёнаў земгалаў, латгалаў і куршаў, а таксама ліваў і эстаў, што належалі да вугра-фінскіх плямёнаў. Але напраўду крыжакі імкнуліся да захопу чужых земляў і прасоўвання на ўсход.

Ніжняе Падзвінне знаходзілася пад уладай Полацка, дзяржаўныя інтарэсы якога наўпрост сутыкнуліся з крыжацкай агрэсіяй. Барацьбу з заваёўнікамі ўзначаліў полацкі князь Валодша (Уладзімір). Нямецкія хронікі называлі яго «каралём Вальдэмарам». У 1208 г. крыжакі ўзялі ў аблогу падуладны Полацку горад Кукенойс, дзе кіраваў князь Вячка. Ён вымушаны быў спаліць сваю фартэцу і адступіць з дружынай у Ноўгарадскую зямлю. Пазней гэты таленавіты военачальнік стаў на чале эстаў пад час абароны Юр'ева (Тарту) і гераічна загінуў. Праз год пасля Кукенойса немцы захапілі другі фарпост Полацка ў балцкіх землях – горад Ерсіку.

Князь Валодша падпісаў з рыжскім біскупам Альбертам дамову, паводле якой адмаўляўся ад земляў у Прыбалтыцы. Але Полацак выкарыстоўваў мір для падрыхтоўкі вялікага паходу на захопнікаў. У ім павінны былі ўдзельнічаць войскі ўсёй Полацкай зямлі і яе хаўруснікі. Якраз напярэдадні выступу князь Валодша раптоўна памёр – найверагодней, быў атручаны агентамі крыжакоў. Паход не адбыўся, аднак полацкі ўладар так і не дазволіў заваёўнікам ступіць на крывіцкія землі.



Двухлязовыя нямецкія рыцарскія мячы мелі гэтак званыя «крывасцёкі» і ў даўжыню перасягалі метр



Пячатка магістраў Інфлянцкага (Лівонскага) ордэна. Гэтая агрэсіўная рыцарская дзяржава існавала ў XIII–XVI стст. У 1561 г. Ордэн быў скасаваны, а ягоная тэрыторыя стала часткай Вялікага Княства Літоўскага



Дзюбы суліцаў і дзіды (у цэнтры) з курганоў у наваколлі вёскі Засвір. Мядзельскі раён

Такую дзюбу мела суліца, якая служыла камусьці з жыхароў старажытных ваколіц сучаснай Смаргоні. X–XIII стст.



Медны вадаліў з Горадні. Найбольш імаверна, што гэты выраб нямецкага майстра быў вайсковым трафеем гарадзенцаў







Змацаваная пячаткамі дамова інфлянцкага біскупа з мечаносцамі. 1226 г.



Рыцарскі шалом гэтак званага «гаршковага» тыпу. Сярэдзіна XIII ст.



У такой кальчузе магло быць 60 тысяч колцаў. Полацкі краязнаўчы музей



Подзвіг Якава Палачаніна ў Неўскай бітве. Мініяцюра сярэдзіны XVI ст.

Крыжацкая экспансія штурхала Полацак да альянсу з Ноўгарадам, якому таксама пагражалі захопнікі. У 1239 г. ноўгарадскі князь Аляксандр Яраславіч павянчаўся з Аляксандрай, дачкой полацкага князя Брачыслава. Праз год полацкая дружына дапамагла ноўгарадцам здабыць перамогу над шведамі на Няве, пасля чаго Аляксандр дадаў да свайго імя ганаровае прозвішча Неўскі. Палачане разам з віцяблянамі складалі траціну ўсяго славянскага войска ў славутым Лядовым пабоішчы з немцамі на Чудскім возеры ў 1242 г.

Заснавальнік Мангольскай імперыі Чынгісхан. Тагачасны кітайскі малюнак

Мангольскія ваяры. Мініяцюра з «Гісторыі свету» Рашыда Аль-Дзіна. 1307 г.

## Напады мангола-татараў

Старажытным беларускім землям ў той самы час пачаў пагражаць новы вораг – мангола-татары, якія ўжо падпарадкавалі сабе велізарныя абшары ад Кітая да Цэнтральнай Еўропы. Летапісцы згадваюць пра напад усходніх заваёўнікаў на Берасце. Пазнейшая легенда апавядае пра вялікую бітву з татарскім войскам хана Койдана пад горадам Крутагор'ем. Чужынцы, што ішлі на Менск, пацярпелі паразу. Койдан загінуў і быў у тых мясцінах пахаваны, пасля чаго Крутагор'е нібыта было названае Койданавам (цяпер горад Дзяржынск).



Манголы каля муроў польскага горада Легніцы ў 1241 г. На малюнку з рукапісу сярэдзіны XV ст. паказана насаджаная на дзіду галава сілезскага князя Генрыка Пабожнага. Бібліятэка Уроцлаўскага ўніверсітэта



Розныя тыпы дзюбаў для стрэл, якія наносілі ворагу шырокія раны і выклікалі вялікую страту крыві. XIII ст.



Жалезная сякера XIII ст. з Магілеўшчыны

Гэтая баявая сякера – сучасніца першых мангола-татарскіх нападаў на нашыя землі

Паспяховае супроцьстаянне вонкавай небяспецы для беларускіх земляў стала-ся магчымым у выніку іх задзіночання ў новую дзяржаву. Ролю аб'яднаўчага цэнтра ўзяў на сябе Новагародак.

Легендарным героем часоў мангола-татарскага нашэсця з'яўляецца кананізаваны праваслаўнай царквой Меркур Смаленскі. Паводле жыцця, уначы перад нападам ворагаў на Смаленск Меркуру ўдалося прайсці ў іх стан і забіць там «магутнага волата». Гэта і перадвызначыла перамогу смаленцаў, хоць сам герой паклаў у сечы галаву.

Да рэальных, а не легендарных падзеяў належыць напад татараў на чале з ханам Бурундаем на захад Беларусі ўзімку 1258/1259 г. Спустошальныя набегі паўтараліся ў 1275, 1277 і 1287 гг. Аднак адрозна ад расейскіх земляў беларускія княствы не трапілі пад мангола-татарскі прыгнёт і ніколі не плацілі Залатой Ардзе ганебнай даніны. Натуральны працэс гістарычнага руху на нашых землях не быў парушаны. Дзякуючы гэтаму тут яшчэ на стагоддзі захаваліся вечавыя дэмакратычныя традыцыі. Тым часам у Маскоўскай дзяржаве ў выніку 240-гадовай няволі сцвердзілася азіяцкая дэспатыя.

**Старажытныя беларускія княствы напярэдадні нападаў крыжакоў і мангола-татараў**




Святы Меркур Смаленскі – абаронца роднага горада ад мангола-татарскіх захопнікаў. Фрагмент абраза пачатку XVIII ст. Беларуская школа

# НОВАГАРОДАК І ЛІТВА


Бронзавы фрагмент папругі з старажытнай Навагрудчыны


Першая старонка «Аповесці мінулых гадоў», у якой літва згадваецца як суседні з славянамі народ

## Навагародская зямля

На старонках летапісаў Новагародак (Навагрудак) упершыню згадваецца пад 1044 г., але горад існаваў ужо пры канцы X ст. У першай палове XI ст. была абжытая Замкавая гара, дзе навагародцы збудавалі магутныя ўмацаванні – дзядзінец.

У XII–XIII стст. горад, размешчаны на пагорках Навагрудскага ўзвышша, перажываў свой росквіт. Тут былі развітыя дзясяткі рамёстваў, у тым ліку будаўнічая справа, апрацоўка жалеза, каляровых і высакародных металаў, косці, бурштыну. Знаходкі археолагаў сведчаць пра існаванне ў Новагародку багатага жылога квартала з двухпавярховымі будынкамі, якія мелі шкляныя вокны (на той час вялікая раскоша і рэдкасць) і нават фрэскавыя размалёўкі.

Горад вёў актыўны гандаль не толькі з Полацкай, Кіеўскай ды іншымі ўсходнеславянскімі землямі, але і з краінамі Заходняй Еўропы, Прыбалтыкай і Прычарнамор'ем, Візантыяй і Блізкім Усходам.


Рагавая вухавёртка з выяваю музыкі. Новагародак. XII ст.


Помнік архітэктуры XII–XVII стст. навагрудская Барысаглебаўская царква першапачаткова мела рысы полацкай школы дойлідства. Фота 2007 г.

У XIII ст. Новагародак стаў самым значным горадам Панямоння і сталіцаю княства, куды ўваходзілі таксама гарады Слонім, Ваўкавыск і Здзітаў. Новагародская зямля адыгрывала ў рэгіёне ўсё большую ролю. Летапісы паведамляюць пра новагародскага князя Ізяслава, які ў 1237 г. у хаўрусе з галіцкавалынскім князем Данілам Раманавічам хадзіў у паход на Конрада Мазавецкага. У цеснай лучнасці з Новагародкам знаходзілася Гарадзенскае княства.


Тагачасны срэбны пярсцёнак з надпісам «Люба», знойдзены пад Смаргонню


Ладдзя, якой хадзілі гарадзенскія шахматысты першай паловы XII ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

X ст. – Узнікненне Новагародка паводле археалагічных дадзеных.
1009 г. – Першая пісьмовая згадка пра Літву.
XIII ст. – Утварэнне Новагародскага княства.




Старонка «Кведлінбургскіх аналаў», дзе паведамляецца пра забойства паганцамі святога Бруна, званага таксама Баніфатам

## Летапісная Літва

Навукоўцы дагэтуль спрачаюцца, адкуль паходзіць назоў «Літва» і што ён азначае.

Першая згадка пра Літву датаваная 1009 г. Адна з лацінамоўных сярэднявечных хронік XI ст. паведамляе, што ў гэтым годзе хрысціянскі місіянер Бруна прыняў «на мяжы Русі з Літвой» пакутніцкую смерць ад паганцаў.

Самы старажытны ўсходнеславянскі летапісны звод «Аповесць мінулых гадоў» называе літву сярод суседніх з славянамі народаў. У другой палове XII ст. назоў «Літва» пачынае ўсё часцей сустракацца ў пісьмовых крыніцах з прычыны не вайсковай актыўнасці. Яна часта нападала на блізкія і далёкія суседзяў, з выняткам роднага ім насельніцтва беларускага Панямоння, Падзвіння і Падняпроўя.

Вучоныя не маюць агульнай думкі пра тое, дзе знаходзілася летапісная Літва. Традыцыйна лічыцца, што яна займала тэрыторыю на паўночным захадзе сучаснай Рэспублікі Беларусь і на Віленшчыне.

Некаторыя навукоўцы-летувісы, імкнучыся давесці дзяржаватворчую ролю сваіх продкаў, лічаць першай сталіцай Літвы Кернаў. Між тым, гэтае паселішча, размешчанае на Віліі, было такім самым асяродкам полацкай каланізацыі, як і Крывіч-горад (Вільня): вынікі археалагічных раскопак там дэманструюць тыповы набор знаходак, характэрны для тагачасных беларускіх гарадоў. Дый згадваецца Кернаў у хроніках толькі ў 1279 г.

Больш пераканаўчым падаецца іншае меркаванне, якое грунтуецца на аналізе шматлікіх летапісных звестак. Паводле яго старажытная Літва размяшчалася на абшары цяперашняй Беларусі: паміж Новагародкам і Менскам (з захаду на ўсход) і Маладзечнам і Слонімам (з поўначы на поўдзень).

Гэта пацвярджаецца і дадзенымі тапанімікі. Менавіта на акрэсленай тэрыторыі знаходзяцца пяць вёсак з найменнем Літва (у Маладзечанскім, Стаўпецкім, Уздзенскім, Ляхавіцкім і Слонімскім раёнах). Нідзе болей у Беларусі такіх тапонімаў няма, хоць паселішчы з аднакарэннымі назовамі, а іх болей за паўсотні, – Ліцьвінава (Літвінава), Ліцьвіны (Літвіны), Ліцьвінавічы (Літвінавічы), Ліцьвінкі (Літвінкі), Ліцьвяны (Літвяны), Ліцьвякі, Літоўшчына, Літоўск, Літвічы, Літвякова Горкі, Літоўчыкі ды інш. – сустракаюцца па ўсёй нашай краіне.

Насельніцтва летапіснай Літвы большасць вучоных лічаць мяшаным славянска-балцкім, а само племя літва залічаюць да балтаў. Аднак ёсць і іншая версія, паводле якой літва (лютва) – гэта частка вялікага заходнеславянскага племя люцічаў, якое жыло паміж рэкамі Лабай і Одрай (Эльбай і Одэрам) на паўночным усходзе сённяшняй Нямеччыны. Пасля доўгага змагання з немцамі рэшта люцічаў, ратуючыся ад паняволення і вынішчэння, перасялілася на ўсход.

У кожным разе нельга блытаць цяперашніх літоўцаў (летувісаў) і старажытных ліцьвіноў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі і ўдзельнічалі ў фармаванні беларускага этнасу.

Адрозна ад суседніх крывічоў і дрыгавічоў продкі сучасных летувісаў не мелі тады ні гарадоў, ні пісьменства, ні мураванага дойлідства і яшчэ доўга заставаліся паганцамі. У іх ужо існаваў падзел на заможных і простых людзей, але дзяржаву балцкія плямёны не стварылі.


Фрагмент візантыйскага кубка XI ст., знойдзены ў Навагрудку





Паясны набор сярэдзіны XII ст. з Наваградчыны.
Бронза з залачэннем, цісненнем і гравіраваннем



Меч метровай даўжыні. XII–XIII стст.
Мядзельшчына





Ліст папы рымскага Інацэнта IV з даручэннем арцыбіскупу Лівоніі і Прусіі «высвяціць брата Хрысціяна на біскупа Літовіі». 1253 г.

## Літва і Летува

На працягу 2-га тысячагоддзя назоў «Літва» ў розныя часы меў розны сэнс. Урэшце, ужо ў XX ст. ён набыў чатыры галоўныя значэнні:

1) старажытнае (летапіснае) племя і тэрыторыя, якую яно засяляла;
2) Вялікае Княства Літоўскае;
3) гістарычны рэгіён, які традыцыйна звалі Літвою, пасля таго як Вялікае Княства Літоўскае знікла з палітычнай карты;
4) новая дзяржава (Летува), якая ўзнікла ў 1918 г.

Нават на пачатку XX ст., калі ўжо даўно не існавала Вялікага Княства Літоўскага, заходнія і цэнтральныя беларускія землі ў Расейскай імперыі працягвалі называцца Літвой. Сітуацыя кардынальна змянілася толькі пасля Першай сусветнай вайны, калі найменне «Літва» (Lietuva) афіцыйна узяў для сваёй дзяржавы народ, які сфармаваўся на населеных балтамі тэрыторыі Жамойці і прылеглых да яе землях. Падрабязней пра гэта гаворыцца ў наступных раздзелах, але будзьма памятаць: ні ў якім разе нельга атаесамляць сярэднявечныя і сучасныя назовы «Літва», «літоўцы», «ліцвіны».



Тагачасны меч з аздабленнем скрыжавання і навершніка, знойдзены паблізу Смаргоні



Летувісы выступаюць супраць ужывання тэрмінаў «Летува» і «летувіс» у іншых мовах. Між тым карыстанне гэтай тэрміналогіяй мае ўжо даўнюю традыцыю ў самой Летуве. Да прыкладу, у 1928 г. для шматлікай супольні расейскіх старавераў, што жылі ў Летувіскай рэспубліцы, на замову ўрадоўцаў быў зроблены пераклад дзяржаўнага гімна, які пачынаўся словамі:

*Летува, отчизна наша,*
*Ты – земля героев,*
*И сыны Твои на прошлом*
*Все величье строят.*

Літва ў гістарычным сэнсе – гэта наша дзяржава, а ліцвінамі або літоўцамі называлі нашых продкаў. Каб пазбегнуць блытаніны, сучасную суседнюю з Беларуссю краіну варта менаваць яе саманазовам – Летува, яе жыхароў – летувісамі, а мову – летувіскаю.

Старажытным цэнтрам Новагародка быў замак на месцы колішняга гарадзішча, заснаваны ў XI ст. Пры канцы XIV – на пачатку XV ст. замак меў чатыры мураваныя вежы: 5-ярусную Шчытавую з сценамі таўшчынёю 2,75 м, а таксама Касцёльную, Малую і Пасадскую. Дзеля забеспячэння замка вадой над крыніцай на ўсходнім схіле была збудаваная вынасная Калодзежная вежа. Да нашых дзён часткова захаваліся дзве вежы: Шчытоўка і Касцёльная. Сучасны выгляд Наваградскага замчышча. Фота Сяргея Плыткевіча. 2008 г.



Вісляя пячатка Міндава. Сучасная рэканструкцыя. Мастак Віталь Катовіч

# НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА. МІНДАЎ

## Міф пра літоўскую заваёву

Некалькі стагоддзяў, пачынаючы з Сярэднявечча, існаваў міф, нібыта беларускія землі, спустошаныя і знясіленыя мангола-татарскай навалай, захапілі літоўскія князі Эрдзівіл і Мінгайла. Навука даўно высветліла, што не было ў гісторыі ні татарскага нашэсця на Беларусь, ні міфічных Эрдзівіла з Мінгайлам, ні самой «літоўскай заваёвы». Тым не менш гэтая байка, выгадная як летувісам, так і расейцам (апошнія ў такім разе прэтэндавалі на ролю «вызваліцеляў»), сталася жывучай і нават замацавалася ў навуковай літаратуры. «Заваёўнікам» цяпер спрабуюць абвясціць князя Міндоўга, асобу рэальную, але з зусім іншай гістарычнай роляй.

З гэтым міфам звязаны іншы – пра існаванне на балцкай тэрыторыі раннефеадальнай летувіскай дзяржавы, што як быццам была папярэдніцаю Вялікага Княства Літоўскага. Усе пошукі слядоў той дзяржавы – і з дапамогаю аналізу пісьмовых сведчанняў, і шляхам археалагічных даследванняў – скончыліся марна.

Ва ўмовах няспыннай пагрозы нападу нямецкіх рыцараў-крыжакоў з захаду і мангола-татараў з усходу старажытныя беларускія княствы былі зацікаўленыя ў аб'яднанні. Надзвычай важную ролю ў гэтым працэсе адыграў князь Міндаў. Форма гэтага імя Міндоўг (і блізкія да яе) фігуруе ва ўсходнеславянскіх летапісах, якія захаваліся ў пазнейшых спісах. Адтуль яна і трапіла ў гістарычную літаратуру. Форма ж Міндаў ужывалася ў дакументах, якія выходзілі з ягонай канцылярыі. Гэтай формаю карыстаюцца і еўрапейскія даследнікі, публікатары архіўных крыніц.



Сведчанне Рыжскай рады і капітула пра намер літвы перайсці ў хрысціянства. 1298 г.

### ХРАНАЛОГІЯ

- 1219 г. – Першая згадка пра Міндава (Міндоўга) у летапісах.
- 1235 г. – Летапіснае паведамленне пра «Літву Міндава».
- 1246 г. – Пачатак княжання Міндава ў Навагародку.
- 1253 г. – Каранацыя Міндава.
- 1260 г. – Разгром крыжакоў каля возера Дурбэ.
- 1263 г. – Забойства князя Міндава.
- 1263–1264 гг. – Княжанне вялікага князя Траняты.



Авіньёнскі царкоўны сабор 1242–1243 гг., удзельнікі якога абмяркоўвалі прапанову папы рымскага Інацэнта IV пра крыжовы паход супраць манголаў. Сярэднявечная мініяцюра





Вялікі князь Міндаў быў здольным палітыкам і дыпламатам. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

## Князь Міндаў

Імя Міндава ўпершыню сустракаецца ў летапісах пад 1219 г. у сувязі з ягонай дамовай з галіцка-валынскімі князямі супраць Польшчы. У адным з беларускіх летапісаў – «Хроніцы Быхаўца» – апавядаецца, што, забіўшы частку сваіх супернікаў і выгнаўшы на чужыну іншых, Міндаў у 1235 г. «пачаў княжыць ва ўсёй зямлі Літоўскай адзін, меў славу і гонар вялікі і не цярпеў супроць сябе нікога».

Шматлікія незадаволеныя васалы распачалі з Міндавам зацятую барацьбу. У пошуках хаўрусніка князь скіраваў свой позірк у бок Новагародскага княства. Навагародцы ж бачылі ў суседнім валадары таленавітага ваяра і палітыка, які мог спрыяць умацаванню іхнага княства і пашырэнню яго межаў. Яны падтрымалі Міндава і запрасілі на навагародскі пасад.

Напачатку новая дзяржава займала тэрыторыю верхняга і сярэдняга Панямоння і мела апрача сталічнага Навагародка гарады Ваўкавыск, Горадню, Слонім і Здзітаў.

Палітычны альянс наймацнейшага горада прынёманскага беларускага абшару з самым моцным з літоўскіх князёў меў вынікам стварэнне новай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, якой наканавана было набыць значную вагу ў Еўропе і існаваць больш за пяць стагоддзяў.

Узыходжанне Міндава на пасад у Новагародку датуецца 1246 г. Пад тым самым годам пазнейшы Густынскі летапіс паведамляе, што літоўскі князь, які быў паганцам, нібыта прыняў праваслаўе – веру сваіх падданых, але абставіны прымусілі яго яшчэ раз змяніць веравызнанне.

Сталася так, што першыя гады існавання Вялікага Княства праходзілі ў цяжкім змаганні з Галіцка-Валынскім княствам, варожымі балцкімі князямі і нямецкімі рыцарамі Інфлянцкага (Лівонскага) ордэна. Каб разбурыць гэтую магутную кааліцыю, Міндаў пагадзіўся на пераход у каталіцтва. У 1251 г. князь з жонкай Мартай і двума малодшымі сынамі прыняў у Новагародку хрост паводле заходняга абраду.

Разам з сваім валадаром у новую веру перайшоў ягоны двор і тая частка войска, што складалася з паганцаў. Хрышчэнне адбывалася ў Новагародку з удзелам высокіх асобаў Інфлянцкага ордэна, які, такім чынам, з ворага ператварыўся ў хаўрусніка. Гэта паспрыяла перамогам над яцвягамі і жамойтамі. Княства ліквідавала небяспеку для сваёй незалежнасці. Міндава падтрымаў сам папа рымскі Інацэнт IV.

Хрышчэнне Міндава. Фрагмент карціны невядомага мастака XVIII ст.



Ліст караля Міндава з прыкладзенай пячаткаю нашага манарха. 1255 г. Захоўваецца ў Дзяржаўным архіве прускай культурнай спадчыны ў Берліне



Тэкст булы папы рымскага Інацэнта IV пра каранацыю Міндава





Кароль Міндаў на гравюры XVII ст.



Гэтая карона, на думку адных гісторыкаў, магла належаць Сігізмунду Бургундскаму, а паводле іншых, – Міндаву. Другая чвэрць XIII ст.

## Каранацыя ў Навагародку

Прыняўшы ад пасloў валадара Вялікага Княства Літоўскага лісты з просьбаю пра апеку, папа рымскі даў згоду і накіраваў у Навагародак булу, дзе называў Міндава каралём, а ягоную дзяржаву – каралеўствам. У другой буле, адрасаванай рыжскаму, дорпацкаму (дэрпцкаму) і эзэльскаму біскупам, найвышэйшы кіраўнік каталіцкай царквы прасіў дапамагчы «каралю літоўскаму, які хоча павярнуць паганцаў да хрысціянскай веры».

Міндавы паслы атрымалі таксама дазвол на каранацыю навагародскага князя каралеўскай каронаю. Папа даручыў зрабіць гэта хэлмінскаму біскупу Генрыху.

Цырымонія адбылася 6 ліпеня 1253 г. Адну карону папскі пасланец усклаў на галаву Міндаву, другую – ягонай жонкі Марты.

Міндаў таксама дамогся заснавання ў Навагародку Літоўскага арцыбіскупства з беспасярэднім падпарадкаваннем папу. Каранацыя і стварэнне для краіны асобнай дыяцэзіі (царкоўнай акругі) былі актамі вялікага дзяржаўнага значэння. Каралеўства Літоўскае здабыло прызнанне ў Еўропе, і хоць Міндавы наступнікі не мелі каралеўскага тытулу, каранацыя засталася ў гісторыі як важнае сведчанне існавання нашай незалежнай дзяржавы.

Як сведчыць Іпацеўскі летапіс, «вялікі князь літоўскі Міндаў каранаваны быў на Каралеўства Літоўскае ў Навагародку, з дабраславення папы Інацэнта праз Генрыха біскупа, у Прусах кардынала».





Курган Міндава ў Пінску. Гэты помнік нашай гісторыі быў знішчаны ў 1955 г. Фота пачатку XX ст.

## Забойства караля

Праз некалькі гадоў кароль Міндаў разарваў пагадненне з сваім пратэктарам – Інфлянцкім ордэнам. Найверагодней, што прычынаю сталася імкненне далучыць Жамойць, якая раней была аддадзеная крыжакам. Улетку 1260 г. нашае войска ўшчэнт разграміла нямецкіх рыцараў каля возера Дурбэ. Міндаў распачаў з Інфлянцкім ордэнам адкрытую вайну.

Амаль беспярэпыннае змаганне з Ордэнам, галіцка-валынскімі князямі, Польшчай і Прусіяй ішло з пераменным поспехам і ўзмацніла апазіцыю Міндаву на землях васалаў. У змову супраць валадара дзяржавы ўступілі нальшчанскі князь Даўмонт і жамойцкі Транята, які марыў пра навагародскі пасад.

У 1263 г. Міндаў паслаў свае войскі на Бранск. Даўмонт пагадзіўся на ўдзел у паходзе, але з дарогі нечакана павярнуў назад і ўначы напаў на Міндава. Караля і двух ягоных малодшых сыноў напаткала смерць.

У выніку гэтага забойства ў Літве пачаў княжыць Транята, але ягонае валадаранне скончылася вельмі хутка. Праз колькі месяцаў Траняту забілі Міндавы слугі, якія выканалі волю Войшалка – старэйшага сына Міндава.

Разрыў Міндава з Інфлянцкім ордэнам прывёў да стварэння немцамі міфа, нібыта наш кароль адвярнуўся ад папы рымскага і стаў адступнікам веры. Але ж пасля смерці Міндава папа Клімент IV пісаў пра яго як пра «слаўнай памяці караля, падступна забітага сынамі здрады». Больш за тое, ён рупіўся пра аднаўленне ў Літве каралеўскага пасаду і даваў даручэнне каралю Багеміі Атакару каранаваць сына Міндава. Тытул «кароль ліцьвіноў» у дачыненні да манархаў Вялікага Княства выкарыстоўваўся ў актах дзяржаўнай канцылярыі і дыпламатычным ліставанні да Крэўскай вуніі 1385 года.

Міндаў увайшоў у гісторыю як заснавальнік новай беларускай дзяржавы з першай сталіцай у Навагародку. Ён убачыў перспектыўнасць павароту палітыкі на Захад. Дзякуючы каралю Міндаву нашая дзяржава атрымала міжнароднае прызнанне.



Opiſanie

Zабойства Міндава. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.



Імаверная выява Міндава з прыдворнымі. Копія сярэдзіны XIX ст. з малюнка XV ст.

# АБ'ЯДНАННЕ НАШЫХ ЗЕМЛЯЎ



Абклад Лаўрышаўскага Евангелля XIV ст. Існуе меркаванне, што ў вобразе святога паказаны заснавальнік старажытнага Лаўрышаўскага манастыра пад Навагрудкам вялікі князь Войшалк (у манастве Лаўрыш)

За Войшалкам Вялікае Княства павялічыла сваю тэрыторыю і ўключала Навагародскую, Літоўскую, Пінскую, Нальшчанскую і Дзяволтаўскую землі. Нават Полацак прызнаў уладу Навагародка, але дачыненні паміж імі доўгі час нагадвалі раўнапраўны альянс.

## Князь Войшалк

Заручыўшыся падтрымкай у Пінску і Новагародку, старэйшы сын Міндава Войшалк, што нейкі час быў манахам, вярнуў сабе вялікакняскі пасад і жорстка расправіўся з бацькавымі ворагамі. На чале аб'яднанага навагародска-пінскага войска ён заваяваў Літоўскую зямлю. У 1265 г. з дапамогаю галіцка-валынскай дружыны Войшалк падпарадкаваў балцкія землі Нальшчаны і Дзяволтву. Забойца Міндава нальшчанскі князь Даўмонт мусіў ратавацца ўцёкамі ў Пскоў.

Пэўны час Войшалк валадарыў у Вялікім Княстве разам з сваім шваграм (мужам сястры) Шварнам, што быў сынам Данілы Галіцкага. Неўзабаве вялікі князь намерыўся вярнуцца ў заснаваны ім пад Новагародкам Лаўрышаўскі манастыр і перадаў уладу Шварну. Вельмі незадаволены гэтым быў галіцкі князь Леў Данілавіч, які разлічваў, што ўлада дастанецца яму. Ён запрасіў Войшалка на паляванне і сваімі рукамі здрадліва засек князя-манаха. Па нейкім часе ад рук Льва Данілавіча загінуў і князь Шварн.

Медныя паясныя накладкі XIII–XIV стст. з Магілеўшчыны



Тагачасная дэкаратыўная спражка, знойдзеная ў ваколіцах Шклова





Пячатка князя Трайдзеня



LITHVANIÆ

*Lenicienſe (?) ... à Lituanis vaſtatur.* *Troidenus trucidatur.*

Dovmantus Pſkouienſium & Polocenſium Princeps, Troidenum natu minorem fratrem Magno Ducatui Lituanico dominari ægrè ferens, tres ruſticos ſubordinauit pretio corruptos, qui eum de balneo euntem incautum obtruncarunt. Dovmantus itaq; copiis conſcriptis validiſsimo cum exercitu ad Lituaniam occupandam progreſſus à Rimunto filio Troideni ex monacho principe facto viribus Lituanicis profligatur, trucidaturq; qui eius ſanguine parenti victorioſe parentauit. Factus in Kiernowa conuentione anno ... hæreditarium in Magno Ducatu abdicauit, ſecularique principatu ſpreto, vitam monaſticam continuare delegit. Vitenen verò Samogitam de familia Kitaurarum ex Romanis Principibus oriundum, virum ſtrenuum & magnanimum in Magnum Ducem Lituaniæ conſtituit: quamuis enim ſupereſſent Patrueles ſui duo Giedroceñſis, & Holſanenſis Duces, ad quos magnus Ducatus iure hæreditario pertineret, ſed quod erant puerili ætate, ad imperium minus habili, ideò principatum ad eos deferri diſuaſit, dicens: patruum ſuum Narimuntum fœlicis memoriæ, arma ſiue inſigne Magni Ducatus ſibi fabricaſſe, virum armatum cum gladio equo inſidentem, ideò oportere, vt princeps, armis bellicoſis, ſtrenuè corresponderet.

Vitenes Princeps Lituaniæ.

Anno quo

Вялікі князь літоўскі Трайдзень. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

1264–1267 гг. – Княжанне вялікага князя Войшалка.
1267–1270 гг. – Княжанне вялікага князя Шварна.
1270–1282 гг. – Княжанне вялікага князя Трайдзеня.
1295–1316 гг. – Княжанне вялікага князя Віценя.
1307 г. – Канчатковае ўваходжанне Полацкай зямлі ў Вялікае Княства Літоўскае.
1314 г. – Перамога Давыда Гарадзенскага над рыцарамі Тэўтонскага ордэна.
1315 г. – У Вялікае Княства ўвайшла Берасцейская зямля.



## Князь Трайдзень

Наступны вялікі князь Трайдзень працягваў палітыку ўмацавання дзяржавы. Ён канчаткова далучыў да Вялікага Княства верхняе Панямонне, дайнову і яцьвягаў.

Войскі Вялікага Княства няраз рабілі пераможныя выправы і на польскія землі. Бліжэйшая з іх – Мазовія шукала міру з нашай дзяржавай. Дзеля гэтага мазавецкі князь Баляслаў Плоцкі ўзяў шлюб з дачкою Трайдзеня Гаўдэмундай, якая ў хросце стала Соф'яй.

Трайдзень паспяхова супрацьстаяў нападам галіцка-валынскіх князёў і татарскім паходам. Ён даваў прытулак прусам, якія на сваёй зямлі вялі зацятую барацьбу з нямецкімі захопнікамі. Уцекачоў з Прусіі на загад вялікага князя сялілі ў ваколіцах Слоніма і Горадні.

Вялікае Княства Літоўскае ў гады гаспадарання Трайдзеня ўмацавалася і пашырыла замежнапалітычны ўплыў.



Гэты меч належаў нашаму далёкаму продку з старажытнага Рагачова. XIV ст.

Вялікае Княства Літоўскае ў другой палове XIII ст.




Ліцвінскае войска рабіла ўдалыя паходы ва ўладанні крыжакоў, даходзячы да эстонскага вострава Саарэма. Інфлянцкія рыцары атрымалі цяжкія паразы ў 1270 і 1279 гг., а ў 1281 г. Трайдзень змусіў крыжакоў перадаць яму замак Дынабург (Дзвінск, цяперашні Даўгаўпілс).

Летапісы звязваюць з імем Віценя з'яўленне нашага старажытнага дзяржаўнага герба – «Пагоні». Як сведчыць летапіс, князь «прыдумаў сабе герб: рыцар збройны на кані з мячом, названы „Пагоня"». У сапраўднасці гэты сімвал мае яшчэ больш даўнюю гісторыю і паходзіць з Полацка. Расейскі гісторык В. Таціщчаў, які карыстаўся страчаным пазней полацкім летапісам, сцвярджаў, што «гербам Беларусі спрадвеку быў вершнік з мячом». Падобны сімвал мелі і палабскія славяне, частка якіх, магчыма, перасялілася на нашыя землі.

## Князь Віцень


Дазвол рыжскага арцыбіскупа капітулу горада Рыгі на валоданне замкам у Кірхгольме. 1299 г.



Галоўным клопатам вялікага князя Віценя сталася абарона нашай дзяржавы ад крыжакоў. Скарыўшы Прусію, Тэўтонскі ордэн узмацніў націск на Вялікае Княства. Асабліва жорсткімі былі напады на Гарадзеншчыну, дзе знаходзілі другую радзіму прусы-перасяленцы.

Ад 1300 г. да канца ўладарання Віценя ордэнскія войскі здзейснілі блізу дваццаці паходаў на Літву, дасягаючы сталічнага Навагародка. У 1284, 1295, 1305 і 1306 гг. нямецкія рыцары нападалі на Гародню. Аднак Княства ўпарта баранілася: у памежных замках стаялі моцныя залогі, разбураныя ўмацаванні хутка аднаўлялі, а за ворагам наладжвалі пагоню.


DESCRIPTIO. Fol. 8.

Anno quo verbum Diuinum salutiferum humana in carne mundo cælitus apparuit 1279. Vithenes communi omnium suffragio Princeps salutatus in Lituania & magna parte Russiæ latè imperauit, frequenterq; bella cum Polonis finitimis, Russiæq; Ducibus gessit.

Annoq; Domini 1282. cum Lituanis & Iaczwingis 24. die Septembris in terram Lublinensem deuenit, & quindecim diebus eam vastando magnam prædam in Lituaniam referebat. Lesko autem niger Rex Poloniæ Lublini ex visione angelica consolatus ad persequendosq; barbaros animatus est, quos cum parua manu Polonorum militum inter Narew & Nemen cõsequutos, securè agentes facile prostrauit ad decẽq; millia barbarorum trucidauit, & spolia abegit, ac in signum victoriæ Lublini Eccle-

Lituani profligantur.

Bb 3

Віцень удала выкарыстаў канфлікт Ордэна з Рыгай і ўчыніў з ёй і рыжскім арцыбіскупам дамову пра супольныя дзеянні. У 1298 г. войску Вялікага Княства Літоўскага з дапамогай рыжанаў удалося нанесці крыжакам адразу дзве цяжкія паразы.

Князь Віцень здолеў істотна пашырыць абшар дзяржавы, далучыўшы да яе ў 1315 г. Берасцейскую зямлю. Яшчэ раней, у 1307 г., на ўмовах захавання значнай аўтаноміі ў Вялікае Княства Літоўскае з згоды мясцовых баяраў і купцоў канчаткова ўвайшла Полацкая зямля. Палачане атрымлівалі ад вялікіх князёў пісьмовыя гарантыі «не рухаць старыны, не ўводзіць навіны».

Князь Віцень значна пашырыў межы дзяржавы, улучыўшы ў яе Полацкае княства і Берасцейскую зямлю. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматы» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

Пад кіраўніцтвам Віценя наша дзяржава здолела стрымаць агрэсію Тэўтонскага ордэна. Гэта мела важнае значэнне для далейшага лёсу не толькі Вялікага Княства Літоўскага, але і ўсёй Усходняй Еўропы.



## Давыд Гарадзенскі


Пячатка магістра Інфлянцкага ордэна, які ў 1237 г. быў далучаны да Тэўтонскага

У часе валадарання Віценя гучную славу ў дзяржаве і за яе межамі здабыў гарадзенскі староста Давыд. У ім жыхары беларускага Панямоння знайшлі мужнага і шчодра надзеленага вайсковым талентам абаронцу ад няспынных крыжацкіх нападаў. Давыд нераз граміў няпрошаных гасцей на сваёй зямлі і вадзіў дружыны ў нямецкія ўладанні.

Найвыдатнейшай перамогі ён дасягнуў у 1314 г., калі крыжакі тройчы нападалі на Вялікае Княства. Буйное рыцарскае войска павёў у паход сам маршал Тэўтонскага ордэна. Гарадзенцы на чале з Давыдам зрабілі свой замак непрыступным. Расчараваныя адсутнасцю здабычы, немцы рушылі далей. Тым часам Давыд Гарадзенскі захапіў зробленыя крыжакамі ў пушчы харчовыя запасы і варожых коней. На зваротным шляху рыцары ўбачылі на месцы сховаў толькі пабітую варту. Рэшткі галоднага рыцарскага войска ахапіла роспач. Амаль ніхто з тэўтонцаў у Прусію не вярнуўся.

У росквіце славы Давыд загінуў. У 1326 г. у адным з паходаў здрадніцкім ударам у спіну яго забіў падкуплены крыжакамі польскі рыцар.


Капітэль з выявай вялікага магістра Тэўтонскага ордэна. Мальборк. Польшча


Мемарыяльны камень у гонар Давыда Гарадзенскага паблізу Барысаглебаўскай (Каложскай) царквы ў Гародні. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2005 г.

# ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ГЕДЗІМІН



Адзін з дзяржаўных сімвалаў Вялікага Княства Літоўскага герб «Калюмны». Існуе меркаванне, што напачатку ён быў гербавым знакам Полацкай зямлі, якая стала часткаю Вялікага Княства, захаваўшы вялікую самастойнасць. З малюнка 1555 г.




Вялікі князь Гедзімін аб'яднаў пад сваёй уладаю ўжо большасць беларускіх земляў. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

## Пашырэнне межаў

За часамі князя Гедзіміна, які заняў пасад пасля Віценя, у Вялікім Княстве знаходзілася ўжо большая частка тэрыторыі сучаснай Беларусі. Далучэнне новых земляў адбывалася рознымі шляхамі, але амаль заўсёды мела мірны характар, бо давала прыядналым княствам надзейную абарону ад ворагаў і магчымасць спакойна займацца земляробствам, рамёствамі і гандлем.

На пачатку XIV ст. канчаткова ўвайшлі ў склад новай дзяржавы Тураўская і Пінская землі, крыху пазней – Менскае княства. Віцебская зямля стала часткаю Вялікага Княства ў выніку шлюбу Гедзімінавага сына Альгерда з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай. Дэманструючы палітычную мудрасць, набытым землям гаспадар (так называлі вялікіх князёў) Гедзімін гарантаваў захаванне ранейшых традыцыйных правоў і законаў.



Пячатка полацкага князя Нарымонта-Глеба Гедзімінавіча з старажытнай выявою «Пагоні». 1338–1341 гг.



Генеалагічнае дрэва Гедзімінавічаў. Фрагмент гравюры Аляксандра Тарасевіча. 1672 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1316–1341 гг. – Княжанне вялікага князя Гедзіміна.
1317 г. – Заснаванне самастойнай Літоўскай мітраполіі.
1320 г. – Перамога над крыжакамі пад Меднікамі. Часткаю Вялікага Княства Літоўскага стала Віцебская зямля.
Каля 1325 г. – У склад дзяржавы ўвайшло Менскае княства.
1326, 1327 гг. – Войскі Вялікага Княства нанеслі паразы хаўрусніку тэўтонцаў Брандэнбургу.
1331 г. – Разгром немецкіх рыцараў на рацэ Акмяне.





Замак у Медніках. Літаграфія з малюнка Напалеона Орды. Другая палова XIX ст.



Збудаваны Гедзімінам вялікакняскі замак у Троках. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2008 г.



Герб Трокаў. На тарчы ў рыцара – «Калюмны»

## Барацьба з тэўтонцамі

Ужо на пачатку свайго гаспадарання Гедзімін разбіў тэўтонцаў пад Жэймамі. Гэтая перамога была замацаваная наступнай – у 1320 г. каля Меднікаў. У 1326 г. ліцьвінскія войскі на чале з Давыдам Гарадзенскім, а налета – з Гедзімінавым сынам Альгердам нанеслі цяжкія паразы Брандэнбургу, які быў хаўруснікам тэўтонскіх рыцараў.

У барацьбе з Ордэнам гаспадар Вялікага Княства абапіраўся на альянс з Рыгай, што праз гандаль знаходзілася ў цеснай лучнасці з Полацкам. Пасля-доўна падтрымліваў Гедзімін таксама варожых крыжакам Польшчу і Пскоў.

Як і ягоныя папярэднікі, Гедзімін мусіў весці зацятае змаганне з Тэўтонскім ордэнам. Дзеля стрымлівання націску агрэсіўных суседзяў вялікі князь загадаў збудаваць магутныя замкі ў Троках (цяпер Тракай), Вільні, Навагародку, Крэве, Медніках (сёння Мядзінінкай), Лідзе і Мядзеле.



Крыжакі былі выдатна ўзброенымі і вывучанымі прафесійнымі вcovers... 

Рыга. Гравюра з кнігі С. Мюнстэра «Касмаграфія». Базэль. 1550 г.



Перанясенне сталіцы падкрэслівала, што Полацкая зямля набыла ў дзяржаве асаблівую вагу. У Вільні і ў іншых гарадах Гедзімін сяліў запрошаных з еўрапейскіх краін купцоў, рамеснікаў, адукаваных людзей. Такая палітыка спрыяла культурнаму поступу дзяржавы.

## Перавод сталіцы ў Вільню

У 1323 г. Гедзімін перанёс сталіцу дзяржавы з Новагародка ў Вільню.

Паводле гістарычнай легенды, што трапіла ў некаторыя хронікі, гэты горад заснаваў сам Гедзімін. Гаспадар нібыта ўпаляваў на высокай гары тура, пасля чаго ўбачыў сон, які паганскі святар патлумачыў як знак збудаваць на гэтым месцы горад.

Напраўду Вільня заснаваная на некалькі стагоддзяў раней. Напачатку яна мела назоў Крывы (Крывіч) горад і была старадаўнім цэнтрам крывіцкай каланізацыі. На думку аўтарытэтнага летувіскага вучонага К. Бугі, крывічы з'явіліся тут яшчэ ў VI–VII стст. У 1070-х гадах горад стаў сталіцаю Віленскага ўдзела Полацкага княства. У часы Гедзіміна Вільня ўяўляла сабой ужо даволі вялікае места.

Гедзімін пачаў афіцыйна менавацца сябе «каралём Літвы і Русі», або «каралём ліцьвіноў і русінаў». Русінамі, або «рускімі», тады называлі праваслаўных жыхароў нашай краіны. Пашыраючы межы, дзяржава «пашырала» і найменне. На пачатку XIV ст. яна называлася Літвой. Пасля далучэння Жамойці, украінскіх земляў ды іншых абшараў нашы манархі тытулаваліся як вялікія князі «ўсёй Літоўскае, Жамойцкае і многіх Рускіх земляў». Найменне, такім чынам, адлюстроўвала не федэрацыйную будову дзяржавы, а тэрытарыяльныя набыткі, уладанні вялікага князя. У Статуце 1529 г. быў замацаваны наступны назоў дзяржавы: «Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае». Але найчасцей тагачасную краіну нашых продкаў скарочана называлі Вялікім Княствам Літоўскім ці проста Літвой.



Вежа Гедзіміна на Замкавай гары ў Вільні. Фота Дзяніса Раманюка. 2001 г.



## Літоўская мітраполія

Гедзімін заставаўся паганцам, але не чыніў перашкодаў хрысціянам, якія складалі большасць насельніцтва дзяржавы. У Вільні будавалі і праваслаўныя, і каталіцкія храмы ды манастыры. Адметная яшчэ для старажытнага Полацкага княства традыцыя талеранцыі (цярпімасці да людзей іншага веравызнання і этнічнага паходжання) атрымала за Гедзімінам заканадаўчае пацверджанне і захоўвалася ў Беларусі цягам стагоддзяў.

Гаспадар клапаціўся і пра тое, каб ягонымі падданымі, што вызнавалі праваслаўе, кіравалі не маскоўскія, а свае царкоўныя герархі. У 1317 г. у Вялікім Княстве была ўтвораная самастойная праваслаўная мітраполія. Наш мітрапаліт Феафіл, што ўзначаліў яе, меў рэзідэнцыю ў Новагародку.

Першы мітрапаліт Літвы загінуў у бітве з рыцарамі пры аблозе крыжацкай фартэцы Баербург. Тамсама абарвалася і жыццё князя Гедзіміна.

У Княстве працягвалася мірны працэс асіміляцыі балтаў. Сістэма кіравання ўсталёўвалася на ўзор старажытнабеларускіх земляў, а ў якасці дзяржаўнай уводзілася тагачасная беларуская мова.



Літва ва ўяўленні заходнееўрапейцаў. Ілюмінаваная гравюра М. Вальгемута і В. Плэйдэнвурфа з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля. Нюрнбэрг. 1493 г.



Помнік вялікаму князю Гедзіміну на плошчы, названай ягоным імем, у сталіцы сучаснай Летувы. Скульптар В. Кашуба. 1994 г. Фота Дзяніса Раманюка

У часы гаспадарання Гедзіміна Вялікае Княства Літоўскае зрабілася моцнай дзяржавай, якая атрымала міжнароднае прызнанне і падставы для лідэрства ва Усходняй Еўропе. Новая сталіца – крывіцкая Вільня стала рэальнай прэтэндэнткай на ролю збіральніцы ўсіх усходнеславянскіх земляў.

# ПАХОДЫ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ АЛЬГЕРДА

Сучаснікі пакінулі сведчанні пра Альгерда як пра загартаванага ў паходах чалавека, які вёў суровы лад жыцця, быў непераборлівы ў ежы і зусім не ўжываў хмельных напояў. Адзін з маскоўскіх летапісцаў даў нашаму гаспадару такую характарыстыку: «Ён не піў ні віна, ні піва, меў вялікі розум і падпарадкаваў шмат земляў. Свае паходы рыхтаваў скрытна, ваяваў не колькасцю вояраў, а розумам і ўменнем».

## Прыход да ўлады

Альгерд быў сынам гаспадара Гедзіміна. Ён ажаніўся з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай і неўзабаве стаў княжыць у Віцебску. Альгерд таксама меў вялікі ўплыў на Полацак, дзе ўладарыў ягоны сын Андрэй. Пазней Альгерд атрымаў ад бацькі Крэўскае княства. Усё гэта давала яму падставы лічыць сябе прэтэндэнтам на вялікакняскую карону. Аднак пасля смерці Гедзіміна пасад заняў Яўнут, малодшы брат Альгерда.

Разам з іншым братам Кейстутам Альгерд у 1345 г. выступіў супраць улады Яўнута, які быў узяты ў палон. Кейстут захапіў Вільню, але прызнаў гаспадаром Альгерда, што кантраляваў большую частку дзяржавы. Сам Кейстут застаўся кіраваць у заходняй частцы Вялікага Княства Літоўскага.

Рыцар, які наведаў Вільню ў складзе нямецкага пасольства, пісаў пра Альгерда: «У князя велічны пагляд, вочы блакітныя, валасы светла-русыя. Рост ён мае вышэйшы за сярэдні, гаворыць гучна і выдатна ездзіць на кані». Альгерд добра ведаў нямецкую мову, але з крыжацкімі пасламі заўсёды размаўляў праз перакладчыка.



Грамата пра замірэнне Інфлянцкага ордэна з валадарамі Літвы Альгердам і Кейстутам. 1367 г.



Пячатка вялікага маршала Тэўтонскага ордэна

## Бітвы з крыжакамі

Тэўтонскі ордэн імкнуўся адрэзаць нашую дзяржаву ад Балтыйскага мора. На Альгердава валадаранне прыпаў пік нямецкіх паходаў. Яшчэ ў 1342 г. Альгерд дапамог адбараніцца ад крыжакоў суседняму Пскову.

Займаючы вялікакняскі пасад, ён адбіў шэсць вялікіх нападаў. У 1348 г. ліцьвінскае войска сустрэлася з немцамі на нёманскай прытоцы Стрэве. У крыжацкіх шыхтах знаходзіліся рыцары-наймiты з Англіі і Францыі. Большую частку нашага войска складалі палкі з Полацка, Віцебска, Смаленска, Берасця.

Сеча на рацэ Стрэве была доўгай і надзвычай жорсткай. Ордэн распускаў чуткі пра сваю перамогу, але напраўду поспеху дасягнулі ваяры Княства. Упарты супраціў крыжацкай агрэсіі працягваўся.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1341–1345 гг. – Княжанне вялікага князя Яўнута.
1345–1377 гг. – Княжанне вялікага князя Альгерда.
1348 г. – Перамога над нямецкімі рыцарамі на рацэ Стрэве.
1356 г. – У склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшло Бранскае княства.
1358 г. – Далучэнне Амсціслаўскага княства.
1362 г. – Разгром татараў на Сініх Водах.
Уваходжанне ў склад нашай дзяржавы ўкраінскіх земляў разам з Кіевам.
1368, 1370, 1372 гг. – Пераможныя паходы князя Альгерда на Маскву.
1373–1375 гг. – Аблога войскамі Андрэя Полацкага крыжацкай фартэцы Дынабург (Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс).
1376 г. – Паход Альгерда на Польшчу.
1399 г. – Бітва з татарамі на рацэ Ворскле.
Смерць апошняга полацкага князя Андрэя.






Адзін з найславуцейшых уладароў нашай дзяржавы вялікі князь Альгерд. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

## Разгром татараў на Сініх Водах

На паўднёвых межах Вялікага Княства таксама было неспакойна. Адтуль зноў і зноў нападалі татары. Яны стварылі велізарную дзяржаву – Залатую Арду, якая займала абшары ад Заходняй Сібіры да Дуная і трымала ў васальнай залежнасці расейскія і ўкраінскія княствы.

Альгерд пастанавіў разграміць ардынцаў у генеральнай бітве і рушыў з 30 тысячамі вояраў углыб варожай тэрыторыі. Аснову войска складалі беларускія палкі, да якіх далучылася кіеўскае і валынскае рушанне (апалчэнне). Татарскую арду ўзначальвалі князі Кутлубуг, Качубей і Дзімітр.

Бітва адбылася ў 1362 г. каля ракі Сінія Воды – прытокі Паўднёвага Буга. Татары разлічвалі выкарыстаць сваю звычайную тактыку – імклівай атакай зайсці з флангаў і абкружыць нашае войска. Але Альгерд яшчэ раз выявіў выдатны вайсковы талент і сарваў гэтыя планы, паставіўшы шэсць сваіх палкоў у лінію глыбокай абароны. Ардынцы мусілі распачаць франтальны бой. Адбіўшы іхны націск, Альгердава войска само атакавала ворага з фронту і з флангаў. Татары не вытрымалі магутнага ўдару і паказалі спіны. Рэшткі варожай конніцы ратаваліся ўцёкамі да самага Дуная. Асабліва вызначыліся ў той сечы навагародскія ваяры.



Вояр-лучнік. З мініяцюры пачатку XIV ст.

Разгром стэпавікоў на Сініх Водах стаўся першай ва ўсёй Усходняй Еўропе буйной перамогай над татарамі. У выніку яе ад ардынскага прыгнёту былі вызваленыя і далучаныя да Вялікага Княства Літоўскага ўкраінскія землі – Кіеўская, Валынская, Ноўгарад-Северская і Падолле. Княжыць у Кіеве Альгерд прызначыў свайго сына Уладзіміра.



Прачысценская царква ў Вільні, збудаваная за часамі Альгерда, у XIX ст. змяніла свой выгляд. Сучаснае фота



Мангольскі шалом перыяду Залатой Арды

Укладная грамата жонкі Альгерда вялікай княгіні Уляны

Паспяхова ваявала Вялікае Княства і з заходнім суседам – Польскім Каралеўствам. Толькі за адзін паход у 1376 г. Альгердава войска вывела адтуль амаль 25 тысяч палонных.

Грамата з умовамі Любуцкага замірэння (1372 г.), якім завяршыліся паходы вялікага князя Альгерда на Маскоўю



За часамі Альгерда Вялікае Княства Літоўскае няраз дапамагала свайму хаўрусніку – Цвярскому княству. На мініяцюры XIV ст. – цвярскі князь Міхаіл Яраславіч і яговая жонка княгіня Аксіння пад апекаю Хрыста на фоне Цвярскога дзядзінца

## Перамогі над Масковіяй і Польшчай

Гаспадар Альгерд вёў палітыку далучэння новых земляў на ўсходзе. Другі раз ён узяў шлюб з цвярской княжнаю Улянай і меў уплыў на моцнае Цвярское княства. Гэта выклікала вострую незадаволенасць у Маскве.

У 1368 г. маскоўскае войска рушыла на Цвер. Яе князь Міхайла звярнуўся па дапамогу да нашага манарха. Той адгукнуўся, і высланыя супроць Альгерда палкі былі разбітыя, прычым амаль усе варожыя ваяводы загінулі. Напалоханы маскоўскі князь Дзімітр (які потым увайшоў у летапісы як Данскі) спаліў драўляныя пасады і зачыніўся ў Крамлі.

Войска Вялікага Княства Літоўскага яшчэ раз з'явілася каля крамлёўскіх муроў у 1370 г. Пасля тыднёвай аблогі Дзімітр зноў папрасіў міру і прыслаў Альгерду вялізны выкуп – «дары многія, нязлічона золата, срэбра, жомчугу і сабалёў». Вялікі князь пашкадаваў крамлёўскага ўладара – «любоў сваю над ім учыніў, з Масквы яго не здабываў ды мір з ім узяў». Пры гэтым наш гаспадар сказаў словы, што таксама засталіся ў летапісах: «Хоць я з табой і замірыўся, але хачу сабе яшчэ тую славу ўчыніць, што вялікі князь Альгерд дзіду сваю пад Масквою прыхінуў». Поўную перамогу ён засведчыў тым, што пад'ехаў на кані да Крамля і пастукаў у яго сцены дзідай.

Памяткаю пра тыя падзеі засталася Паклонная гара ў Маскве. Менавіта туды маскоўскія баяры прыходзілі з выкупам на паклон да Альгерда.

Мір з Масквой, аднак, цягнуўся нядоўга. У 1372 г. цвярскі князь чарговым разам папрасіў падтрымкі ў змаганні з агрэсіўнай Масквой. Трэці паход Альгерда зноў быў пераможны і скончыўся замірэннем.



Альгердава войска пад Масквой у 1370 г. Сваю перамогу наш вялікі князь засведчыў тады, пастукаўшы сваёй дзідай у крамлёўскія муры. Мініяцюра XV ст.

## Князь Андрэй Полацкі

У Альгерда было дванаццаць сыноў. Найстарэйшы з іх, Андрэй, княжыў у Полацку. Ён вёў наступальную палітыку ў дачыненні да суседніх Пскова і Смаленска, паспяхова супрацьстаяў пагрозе старажытным крывіцкім землям з боку крыжакоў. Вядома, што ў 1373–1375 гг. Андрэй трымаў у аблозе нямецкую фартэцу Дынабург.

Пасля бацькавага скону Андрэй разлічваў заняць вялікакняскі пасад. Але гаспадаром стаў іншы Альгердаў сын – Ягайла. Андрэй з дружынаю мусіў пакінуць Полацак і пайсці на пагадненне з маскоўскім князем Дзімітрам.



Маскоўскае войска сустракае ў 1380 г. хаўруснікаў – князёў Андрэя Альгердавіча Полацкага і Дзімітра Альгердавіча Бранскага. Мініяцюра з рукапіснага «Сказання пра Мамаева пабоішча». XVII ст.

Дзве тысячы полацкіх вояраў на чале з сваім князем удзельнічалі ў Кулікоўскай бітве 1380 г. Андрэй камандаваў «палком правай рукі» – правым флангам славянскага войска.

Па нейкім часе Андрэй адваяваў Полацак. Доўгае і бурнае жыццё ён скончыў у 1399 г. у бітве з татарамі на Ворскле.

Апошняму ў гісторыі полацкаму князю ішоў тады 75-ты год.

Расейская гістарычная навука перабольшвае значнасць Кулікоўскай бітвы. Перамога над ханам Мамаем не стала пачаткам вызвалення расейскіх земляў ад татарскага ярма. Яшчэ цэлае стагоддзе пасля таго масхоўцы плацілі татарам ганебную даніну.

Вялікае Княства Літоўскае ў часы Альгерда




Князь Альгерд паказаў сябе дальнабачным палітыкам і таленавітым военачальнікам. За часы ягонага гаспадарання нашая дзяржава ўдвая павялічыла тэрыторыю і значна ўмацавала свой аўтарытэт у Еўропе.

Дзяржаўнай моваю Вялікага Княства Літоўскага ад моманту стварэння гаспадарскай канцылярыі была беларуская.



У бітве з татарамі на рацэ Ворскле фартуна адвярнулася ад нашых продкаў. Сярэднявечная гравюра

# КНЯЗЬ ЯГАЙЛА. КРЭЎСКАЯ ВУНІЯ



Герб Ягайлы з фрэскавай размалёўкі Замкавай капліцы ў Любліне, зроблений беларускімі мастакамі. Пачатак XV ст.

## Змаганне з Кейстутам

Стаўшы гаспадаром, Ягайла адразу ж сутыкнуўся з супрацівам свайго магутнага дзядзькі Кейстута, які княжыў у Троках. У 1381 г. Кейстут захапіў Вільню і вялікакняскі пасад, аднак праз год Ягайла здолеў вярнуць сабе сталіцу. У часе перамоваў ён паланіў Кейстута, зняволіў яго ў вежы Крэўскага замка, а потым загадаў задушыць.

Ягайла захаваў уладу, але яе не прызналі ні полацкі князь Андрэй, ні Кейстутаў сын Вітаўт. Андрэй як найстарэйшы сын Альгерда лічыў сябе законным спадкаемцам бацькавай кароны, аднак пацярпеў паразу і на некалькі гадоў трапіў у палон. Вітаўт Кейстутавіч таксама быў зняволены, але здолеў уцячы з Крэўскага замка і працягваў змаганне.



Князь Кейстут кіраваў заходняй часткаю Вялікага Княства. Гравюра пачатку XIX ст.



Кейстут і Вітаўт, зняволеныя Ягайлам у Крэве. Мастак Войцех Герсан. 1873 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

1377–1381, 1382–1392 гг. – Княжанне вялікага князя Ягайлы.
1381 г. – Княжанне вялікага князя Кейстута.
1382 г. – Забойства князя Кейстута ў Крэве.
1385 г. – Крэўская вунія Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.
1386 г. – Супраць Крэўскай вуніі і Ягайлы выступіў князь Андрэй Полацкі.
1386–1434 гг. – Ягайла (Уладзіслаў II) – кароль Польшчы.
1422 г. – Шлюб Ягайлы з князёўнай Соф'яй Гальшанскай, які паклаў пачатак еўрапейскай дынастыі Ягайлавічаў (Ягелонаў).



Пячатка князя Кейстута, які меў роўную вялікакняскай уладу





Мірнае пагадненне магістра Інфлянцкага ордэна з «каралём Ягайлам» і палачанамі. 1380 г.

## Замежная палітыка

Гаспадар Ягайла найперш намагаўся замацаваць за дзяржавай яе тэрыторыі на ўсходзе. Дзеля гэтага ён нават часова саступіў крыжакам Жамойць. У 1380 г. Вільня ўчыніла з Залатой Ардой дамову супраць Маскоўскага княства. Ягайла планаваў удзельнічаць у Кулікоўскай бітве на баку Мамая, але войска Вялікага Княства спынілася за 20 вёрстаў ад поля сечы і не ўдарыла ў спіну маскоўцам. Ваярыліцвіны добра памяталі, як білі ардынцаў на Сініх Водах, і не хацелі ўздымаць зброю на адзінаверцаў. Разам з тым Ягайла сам быў зацікаўлены ў прамаруджванні і чаканні, на чый бок схіліцца поспех, каб не апынуцца ў пройгрышы.




Вялікі князь Ягайла. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.



Конны партрэт Ягайлы. Фрэска ў Замкавай капліцы ў Любліне, фундаваная самім каралём у 1418 г.

У 1383 г. Ягайла ваяваў з крыжакамі і адначасова вёў перамовы пра хаўрус супраць іх з маскоўскім князем Дзімітрам Данскім. Альянс меркавалася замацаваць шлюбам нашага гаспадара з дачкою Дзімітра, але гэтыя намеры не здзейсніліся.

Тым самым часам, у 1383–1384 гг., Ягайла ажыццявіў пераможныя паходы ў Польшчу, адкуль вярнуўся з багатай здабычай і вялікім палонам.

Ягайла (у праваслаўі Якаў, у каталіцтве Уладзіслаў) быў старэйшым сынам вялікага князя Альгерда і цвярской князёўны Ульяны. Альгердавы дзеці выхоўваліся ў праваслаўным і беларускамоўным асяроддзі, хоць часам у палітычных мэтах і атрымлівалі паганскія імёны.

Партрэт Уладзіслава Ягайлы. Невядомы мастак сярэдзіны XVII ст.




## Вунія ў Крэве

Польскае Каралеўства перажывала надзвычай цяжкі перыяд. Яно засталося без уладара, а каралеве Ядзьвізе споўнілася толькі трынаццаць гадоў. Польшча страціла Сілезію, Памор'е і выйсце да Балтыкі. Яна апынулася перад пагрозаю заваёвы немцамі і страты незалежнасці.

Польскія паслы прыехалі ў Крэва (цяпер мястэчка ў Смаргонскім раёне), дзе была рэзідэнцыя Ягайлы, і папрасілі яго стаць іхным каралём, ажаніўшыся з Ядзьвігай. Дзеля гэтага ён мусіў прыняць каталіцтва, а таксама ахрысціць у яго падданых, якія вызнавалі паганства. Апрача таго, акт падпісанай у жніўні 1385 г. у Крэўскім замку вуніі змяшчаў абзацанне Ягайлы вызваліць дзясяткі тысяч хрысціян-палякаў, што знаходзіліся ў палоне ў Вялікім Княстве.

Шмат хто з буйных польскіх феадалаў бачыў выйсце ў альянсе сваёй дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім, якое таксама ўяўляла для Каралеўства значную пагрозу. Небяспека з боку тэўтонцаў рабіла збліжэнне з Польшчай выгадным і нашай краіне.



Манеты часоў вялікага князя Ягайлы. Срэбра



Пячатка князя полацкага, троцкага і кіеўскага Скіргайлы

Муры Крэўскага замка і сёння ўражваюць сваёй былой магутнасцю. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2009 г.

Тэкст Крэўскай вуніі з умовамі шлюбу Ягайлы і каралевы Ядзьвігі, а таксама з пацверджаннем права захоўваць на польскім троне тытул вялікага князя літоўскага. На думку некаторых даследнікаў, гэты дакумент з'яўляецца падробкай




Пазней, у XV–XVI стст., палякі выстаўлялі як арыгінал Крэўскага акту дакумент, які ўтрымліваў проста фантастычныя абавязанні Ягайлы. Той нібыта даклараваў аддаць палякам увесь свой дзяржаўны скарб, заплаціць 200 тысяч фларынаў Вільгельму Аўстрыйскаму за адмову ад шлюбу з Ядзьвігай (за такія грошы тады можна было купіць цэлую краіну). І наагул Ягайла як быццам абяцаў зліквідаваць Вялікае Княства, далучыўшы яго да Польшчы.

Гэты тэкст нагадваў акт капітуляцыі і даваў усе падставы дзяржаўным дзеячам Вялікага Княства лічыць яго падробкай. Палякі ж няраз выкарыстоўвалі сфальшаваны дакумент (пры жыцці Ягайлы ён быў невядомы і не згадваецца ў беларускіх летапісах) для абгрунтавання сваіх прэтэнзіяў на беларускія землі.



Манеты з выявай вялікага князя Ягайлы і дзяржаўнага герба. Канец XIV ст. Срэбра





Партрэт Ягайлы з каралеўскімі рэгаліямі і зброяй. Катэдральны касцёл у польскім горадзе Сандаміры. Фрэска XVI ст.



Радаводнае дрэва Ягайлавічаў. 1521 г.

## Узаемавыгадны альянс

Направду Крэўская вунія азначала ўзаемавыгадны хаўрус двух самастойных дзяржаваў. Ён значна павялічваў іх вайсковую магутнасць (найперш у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам), спрыяў пашырэнню эканамічных і культурных сувязяў паміж нашым гаспадарствам і Польшчай, а таксама іншымі еўрапейскімі краінамі.

У прывілеі Ягайлы 1387 г. гаворыцца пра поўную дзяржаўную незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага. Тады ж, дарэчы, ён адзначаў, што традыцыя абароны «нашай літоўскай зямлі па-народнаму называецца пагоняй», гэта значыць залічаў сам сябе да ліцвіноў – тагачаснага беларускага этнасу.

Нічога пра ўваходжанне нашай дзяржавы ў склад Польшчы не сказана і ў падпісаных неўзабаве пасля Крэўскай вуніі Востраўскім пагадненні 1392 г. і Віленска-Радамскай вуніі 1401 г.

Як Крэўская, так і наступныя вуніі Вялікага Княства Літоўскага з Польскім Каралеўствам (да Люблінскай 1569 г.) мелі асабісты (персанальны) характар.



Вялікая пячатка Уладзіслава Ягайлы з выявай манарха ў атачэнні анёлаў, якія трымаюць гербы польскіх ваяводстваў



VLADISLAUS IAGIELLO
FILIUS OLGIERDI MAGNI DUCIS Lithæ. ANTEQUAM HEDVIGIM REGINAM IN UXOREM DUXERIT, FIDEM ORTHODOXAM CUM INNUMERO NUMERO HOMINUM GENTIS SUÆ SUSCEPIT, DUCATUM Lithæ REGNO ADIUNXIT, CRUCIFEROS INGENTI CLADE DEBELLAVIT ALIAQ PLURIMA COMMODA PATRIÆ ATTULIT. OBIIT IN GRODEK Aº 1432. SEPULTUS CRACOVIÆ. REGNAVIT ANNIS 46.

Кароль Ягайла. Невядомы мастак XVIII ст.

Хрышчэнне Ягайлам паганцаў у 1386–1387 гг. Гравюра О. Магнуса. 1555 г.



Каралеўскі герб Ягайлавічаў з Яснагурскага імшала. 1505–1510 гг.



## На польскім троне

У 1386 г. Ягайла-Якаў перахрысціўся ў Кракаве ў каталіцтва і пасля шлюбу з Ядзьвігай быў каранаваны на польскі трон пад імем Уладзіслава II, захаваўшы за сабою і пасад вялікага князя літоўскага. Яшчэ праз год у каталіцкую веру перавялі паганскае насельніцтва Вялікага Княства. Сваім прывілеем Ягайла даваў шляхце (баярству) дадатковыя правы і вольнасці пры ўмове хрышчэння паводле рымскага абраду. Ад таго часу на беларускіх землях сталі будавацца касцёлы і каталіцкія манастыры – кляштары. Імкненне Ягайлы зрабіць каталіцкую царкву дзяржаўнай выклікала пратэст у праваслаўных.

Пражыўшы некалькі дзесяцігоддзяў у Польшчы, Ягайла, як сведчаць летапісы і хронікі, размаўляў па-беларуску, трымаўся звычаяў продкаў. Ён прывёз з Вільні беларускіх пісцоў, музыкаў, мастакоў. Майстры-ліцьвіны на замову караля аздаблялі фрэскамі храмы ў Кракаве, Любліне, Гнезне ды іншых польскіх гарадах.




Уладзіслаў Ягайла, кароль польскі. Гравюра Ф. Бэнойта. 1703 г.

Вавельскі замак (у цэнтры) у Кракаве цягам стагоддзяў быў рэзідэнцыяй польскіх каралёў. Ілюмінаваная гравюра М. Вальгемута і В. Плэйдэнвурфа з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля. Нюрнбэрг. 1493 г.








Фрэскі Замкавай капліцы ў Любліне, збудаванай на сродкі Ягайлы. Беларускія мастакі. Пачатак XV ст.



Сустрэча Уладзіслава Ягайлы з імператарам Святой Рымскай імперыі Сігізмундам Люксембургскім у 1423 г. Тагачасны малюнак

На польскім троне Ягайла праявіў сябе найперш як адзін з пераможцаў у Грунвальдскай бітве. Ён захаваў любоў да радзімы продкаў і, калі ў 1431 г. пачалася вайна за Падолле, таемна папярэдзіў суайчыннікаў-ліцьвіноў пра рух і намеры польскага войска.



Касцёл Перамянення Гасподняга ў Навагрудку збудаваны на месцы старажытнага храма, дзе ў 1422 г. кароль Ягайла вянчаўся з ліцьвінскай князёўнай Соф'яй Гальшанскай. Гэты шлюб запачаткаваў дынастыю Ягайлавічаў. Фота Таццяны Царук. 2008 г.

Герб Вялікага Княства Літоўскага «Пагоня» з надмагілля Ягайлы ў катэдральным касцёле Вавельскага замка ў Кракаве



У трох першых шлюбах Ягайла не меў спадчыннікаў. Увесну 1422 г. у Навагародку ён павянчаўся з князёўнаю Соф'яй Гальшанскай, якая нарадзіла каралю сыноў Уладзіслава і Казіміра. Так была заснаваная еўрапейская манархічная дынастыя Ягайлавічаў (Ягелонаў). З яе выйшлі гаспадары Вялікага Княства, каралі Польшчы, Чэхіі і Вугоршчыны (Венгрыі).

# КРАІНА АД МОРА ДА МОРА. ВІТАЎТ ВЯЛІКІ



Вітаўтава вялікакняская пячатка. 1407 г.

## Бунт супроць Ягайлы

Вітаўту выпаў цяжкі і драматычны шлях на вяршыню дзяржаўнай улады. Ягоны бацька Кейстут загінуў ад рук забойцаў, падасланых Ягайлам. Вітаўт таксама быў зняволены ў Крэўскім замку, але здолеў вырвацца на волю.

Ён не мог скарыцца з роляю Ягайлавага васала і не адпомсціць за бацькаву смерць.

Шукаючы хаўруснікаў, Вітаўт спачатку накіраваўся да крыжакоў. З дапамогай Ордэна ён авалодаў Коўнай і Трокамі, дайшоў да прадмесцяў Вільні, але ўрэшце мусіў пагадзіцца на мір з Ягайлам і атрымаў ад яго Горадню і Берасце.



Касцёл Вітаўта ў Коўне, заснаваны ў XIV ст.

Неўзабаве пасля падпісання Крэўскай вуніі Вітаўт упэўніўся ў яе небяспецы для будучыні дзяржавы. Гэтыя погляды падзялялі паны і баярства Вялікага Княства, якія хацелі бачыць на чале гаспадарства не Ягайлавага намесніка, а паўнапраўнага манарха з незалежнай нутраной і замежнай палітыкай.

Ліст Вітаўта да князя Скіргайлы з абяцаннем братэрскага хаўрусу і дапамогі супраць любых ворагаў, апрача польскага караля. 1389 г.

Пасля жорсткай і ўпартай барацьбы з Ягайлам шалі вагаў схіліліся на бок Вітаўта. У 1391 г. ён заняў Гарадзенскі замак, а праз год увайшоў у Навагародак. Ягайла змушаны быў пайсці на таемныя перамовы. Разарваўшы васальныя стасункі з Тэўтонскім ордэнам, Вітаўт спаліў тры рыцарскія замкі і вярнуўся на радзіму. У жніўні 1392 г. браты сустрэліся ў Востраве пад Лідай. Паводле падпісанага там пагаднення ўлада ў Вялікім Княстве пажыццёва перадавалася Вітаўту.

У 1389 г. Вітаўт узначаліў незадаволеных і ўзняў іх на бунт супроць Ягайлы, свайго стрыечнага брата. Не здабыўшы Вільні, якую абараняў моцны польскі гарнізон, сын Кейстута зноў папрасіў падтрымкі ў крыжакоў, якім перадаў ва ўладанне Жамойць. Каб забяспечыць сабе спакой на ўсходзе, Вітаўт выдаў дачку Соф'ю замуж за маскоўскага князя Васіля I.

Разумеючы палітычную вагу свайго цесця, крамлёўскі ўладар пазней, перад смерцю, даручыў жонку і непаўналетняга сына-спадкаемца апецы князя Вітаўта.



Соф'я Вітаўтаўна з мужам – маскоўскім князем Васілём I. Вышыванка XV ст.

### ХРАНАЛОГІЯ

1350–1430 гг. – Жыццё і дзейнасць князя Вітаўта.
1382 г. – Уцёкі Вітаўта з палону ў Крэўскім замку.
1389 г. – Пачатак змагання Вітаўта супраць Крэўскай вуніі і ўлады Ягайлы ў Вялікім Княстве.
1391, 1392 гг. – Вітаўт займае Горадню і Навагародак.
1392 г. – Востраўскае пагадненне аб перадачы ўлады ў Вялікім Княстве Літоўскім Вітаўту.
1392–1430 гг. – Княжанне вялікага князя Вітаўта.
1404 г. – Уваходжанне Смаленскага княства ў склад Вялікага Княства Літоўскага.
1408 г. – Вызначэнне мяжы паміж нашай дзяржавай і Маскоўскім княствам па рэках Угра і Ака.
1413 г. – Гарадзельская вунія Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.
1415 г. – Заснаванне незалежнай праваслаўнай мітраполіі Вялікага Княства з цэнтрам у Навагародку.
1422 г. – Далучэнне да нашай дзяржавы Жамойці (Жмудзі).
Пасланае Вітаўтам на дапамогу гусітам 5-тысячнае беларускае войска ўступіла ў Прагу.
1425 г. – Маскоўскае княства становіцца васалам Вітаўта.



Пры Вітаўце наша дзяржава дасягнула найвышэйшай магутнасці. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.



Пячатка князя Вітаўта. 1384–1385 гг.

## Умацаванне дзяржавы

Атрымаўшы тытул «вялікага князя Літвы і Русі», Вітаўт узяўся актыўна мацаваць Вялікае Княства. Ён быў шчодра адораны якасцямі, неабходнымі выдатнаму дзяржаўнаму дзеячу таго часу: палітычнай мудрасцю і дыпламатычнымі здольнасцямі, ваяўнічасцю і вайсковым талентам, уладарнасцю і прастатой у побыце. Галоўнай апораю Вітаўта сталі баяры, якіх ён надзяляў зямлёю і сялянамі. За Вітаўтам наша дзяржава пачала біць уласную манету.

Ідэя незалежнасці ў Вялікім Княстве мела велізарную папулярнасць. Аднаго разу жонка Ягайлы каралева Ядзвіга выказала незадаволенасць палітыкай Вітаўта і нагадала яму пра васальнае становішча. У адказ гаспадар звярнуўся найпрост да сваіх паноў і баяраў. Сойм у Вільні прыняў аднагалосную пастанову: «Мы не падданыя Польшчы, і заўсёды былі вольныя. Продкі ніколі не плацілі даніны палякам, і мы не будзем плаціць, а застанемся назаўсёды пры сваіх вольнасцях».

Калі князі Свідрыгайла, Дзімітр Северскі і Фёдар Падольскі паўсталі супраць Вітаўта, ён пазбавіў іх удзельных княстваў, што спрыяла цэнтралізацыі дзяржаўнай улады.



Князь Свідрыгайла, які пазней на кароткі час атрымаў вялікакняскую карону. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.



Такой пячаткаю Вітаўт карыстаўся ў 1404 г.



Першы праваслаўны мітрапаліт Вялікага Княства Літоўскага Рыгор Цамблак у 1418 г. на чале дэлегацыі з 300 асобаў браў удзел у Канстанцкім саборы, дзе меркавалася падпісанне вуніі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Тагачасная гравюра

Справе ўмацавання дзяржавы паслужыла і ўтварэнне Вітаўтам незалежнай ад Масквы праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Навагародку. У 1415 г. сабор беларускіх епіскапаў абраў першым мітрапалітам Вялікага Княства вядомага вучонага, кніжніка і прапаведніка Рыгора Цамблака. Дзеля кансалідацыі дзяржавы, дзе жылі паслядоўнікі розных веравызнанняў, Вітаўт выношваў ідэю вуніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў.



Манеты, бітыя пры Вітаўце. Срэбра.



**Вялікае Княства Літоўскае ў часы Вітаўта Вялікага**

ТЭРЫТОРЫІ
- Вял. Кн. Літ., падуладныя Вітаўту ў 1392 г.
- найбольш уплывовых удзельных княстваў, скасаваных Вітаўтам да 1394 г.
- іншых княстваў і ленных уладанняў Вял. Кн. Літ., лаяльных да ўлады Вітаўта
- далучаныя да Вял. Кн. Літ. да 1430 г.
- сумесных уладанняў Вялікага Ноўгарада і Вял. Кн. Літ.
- спрэчныя паміж Вял. Кн. Літ. і Польшчай
- Вялікага княства Маскоўскага ў 1389 г. і далучаныя да яго да 1425 г.
- замацаваныя за Тэўтонскім ордэнам паводле Салінскага дагавора, уключаныя ў склад Вял. Кн. Літ. фактычна ў 1411–1413 гг., канчаткова ў 1422 г.

- Сталіцы дзяржаваў
- Цэнтры земляў і княскіх уладанняў
- *Іншыя населеныя пункты*
- Межы дзяржаваў у 1392 г.
- Мяжа Вял. Кн. Літ. у 1430 г.
- Сучасная мяжа Беларусі
- 1404 Даты далучэння тэрыторый да Вял. Кн. Літ.

Старонка «Слова Ісака Сірына», «пісанага воляю і хаценнем» вялікага князя Вітаўта у Смаленску. 1428 г.

## Далучэнне новых абшараў

Гаспадар Вітаўт настойліва і паспяхова працягваў Альгердаву палітыку пашырэння дзяржавы найперш за кошт славянскіх земляў. У 1404 г. да Вялікага Княства канчаткова далучылася Смаленская зямля з старажытным крывіцкім Смаленскам. Пад пратэктарат вялікага князя трапілі Ноўгарад Вялікі і Пскоў.

Пасля трох паходаў Вітаўта на Маскву з маскоўскім князем Васілём І было дасягнутае пагадненне, паводле якога межы паміж нашай краінай і Масковіяй праходзілі па рацэ Угры – прытоцы Акі. Па смерці маскоўскага князя Вітаўт падпарадкаваў Цвярское і Разанскае княствы, а таксама землі ў вышнявіне Акі. У тым часе ўдава Васіля Соф'я Вітаўтаўна стала рэгенткаю пры малалетнім сыне Васілі ІІ і прызнала бацькаў пратэктарат. Такім чынам, Маскоўскае княства зрабілася васалам Вітаўта. На поўдні ён авалодаў нізавінай Дняпра, дзе нашая дзяржава атрымала выйсце да Чорнага мора.

Гаспадар запрасіў у Вялікае Княства хана Тахтамыша, якога ў Залатой Ардзе пазбавілі ўлады. Хан меў сваю рэзідэнцыю ў Лідзе. Ад таго часу на беларускіх землях і з'явіліся мірныя татары, што знайшлі тут другую радзіму. Шмат іх перасялілася да нас пасля супольных паходаў Вітаўта і Тахтамыша пад Азоў і ў Крым у 1397–1398 гг. Татары атрымалі землі паблізу Вільні, у Лідскім, Ашмянскім, Навагародскім, Берасцейскім паветах і былі прыраўнаваныя ў правах да мясцовага насельніцтва. Тахтамышаў сын Джалалад-Дзін у складзе нашага войска браў удзел у Грунвальдскай бітве.

Галоўная роля ў дзяржаве належала беларускім землям. Нашыя продкі займалі бальшыню найвышэйшых пасадаў, у тым ліку ў Жамойці ды на іншых населеных балтамі абшарах (у Коўне кіраваў баярын Іван Фёдаравіч, а войскам жамойтаў камандаваў князь Юрай). Беларусы-ліцьвіны складалі і бліжэйшае абкружэнне Вітаўта. Захаваліся дакументы пра сустрэчу вялікага князя з крыжацкім пасольствам у 1397 г. Тады Вітаўта суправаджалі князі Юрай Пінскі, Міхайла Заслаўскі, Аляксандр Старадубскі, Іван Альшанскі і Іван Друцкі. Пасол Тэўтонскага ордэна паведамляў, што сам гаспадар і яго двор гаварылі пабеларуску, на старабеларускай мове вялося і дзяржаўнае справаводства.

Крыжакі пасля паразы пад Грунвальдам адмовіліся ад прэтэнзіяў на Жамойць, што яшчэ больш умацавала пазіцыі Вялікага Княства ў Еўропе.

Жамойць ды астатнія землі з балцкім жыхарствам займалі менш за 1/15 тэрыторыі Вялікага Княства, якое за Вітаўтам стала найбуйнейшай краінай Еўропы. Дзяржаўнае жыццё ў Княстве праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах.



Татары, якія пасяліліся ў Вялікім Княстве за часамі Вітаўта, засвоілі беларускую мову, але захавалі сваю веру. Мячэць у Навагрудку. Сучасны выгляд



Брама Луцкага замка (цяпер Украіна), у якім няраз спыняўся Вітаўт. Фота 2009 г.





Адзін з актаў Гарадзельскай вуніі паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам

## Гарадзельская вунія

Для абмеркавання далейшых дачыненняў Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства ў 1413 г. у замак Гарадля на Заходнім Бугу з'ехаліся манархі, паны і баярства абедзвюх краінаў.

47 ліцьвінскіх баярскіх родаў абмяняліся гербамі з польскай шляхтай. У выпадку смерці Вітаўта вярхі Княства абяцалі не абіраць сабе гаспадара без парады і згоды палякаў. Але тыя ў сваю чаргу таксама не павінны былі праводзіць выбары новага караля без згоды Вітаўта і ягоных баяраў.



Пячатка Вітаўта Вялікага

Новая персанальная вунія спрыяла з'яднанню сілаў Вялікага Княства і Польшчы ў змаганні з вонкавай небяспекай і мела на мэце супакоіць кіраўніцтва каталіцкай царквы ў Рыме, устрывожанае разгромам Тэўтонскага ордэна.

Шляхоцкія гербы



«Дуб»

«Дуброва»

«Біберштайн»

«Булат»

«Радзіч»

Паводле Гарадзельскай вуніі самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага захоўвалася і пасля скону Вітаўта. У Польшчы зразумелі, што падпарадкаваць такую магутную дзяржаву немагчыма.

Акт пагаднення вялікага князя Вітаўта і караля Ягайлы з краінамі Кальмарскай вуніі (Данія, Нарвегія і Швецыя), якое было скіраванае супроць Брандэнбурга і Тэўтонскага ордэна. Бакі гарантавалі ўзаемную вайсковую дапамогу і дамаўляліся пра ўмовы падзелу ваенных трафеяў. 1419 г.

За Вітаўтам нашая дзяржава мела дыпламатычныя зносіны з усімі значнымі заходнееўрапейскімі краінамі, а таксама з Асманскай (Турэцкай) імперыяй і Маскоўшчынай.



Партрэт вялікага князя Вітаўта. Невядомы мастак XVIII ст.

## Еўрапейскае прызнанне

Прызнаннем вагі Вялікага Княства ў тагачаснай геапалітыцы сталася запрашэнне Вітаўта на чэшскі трон. Вялікі князь атрымаў яго ў час нацыянальна-вызвольнага і рэфармацыйнага руху чэхаў, вядомага як гусіцкія войны. Каб не канфліктаваць з каталіцкім светам, наш гаспадар адказаў на прапанову тым, што накіраваў на дапамогу гусітам 5-тысячнае беларускае войска. На чале яго стаяў Вітаўтаў пляменнік Жыгімонт Карыбутавіч, здольны палкаводзец, які прасланіўся ў Грунвальдскай бітве. У траўні 1422 г. Жыгімонт увайшоў у Прагу, дзе пазней быў выбраны чэшскім каралём. Ліцьвіны, многія з якіх прынялі гусіцкую веру, ваявалі поплеч з чэхамі болей за дзесяць гадоў.

Тады сама Вітаўту прапанавалі каралеўскую карону імператар Святой Рымскай імперыі германскай нацыі Сігізмунд I і рымскі папа Марцін V, якія спадзяваліся, што наш гаспадар дапамога задушыць гусіцкі рух. Гэтая прапанова таксама была сведчаннем міжнароднага аўтарытэту нашай дзяржавы.

Вітаўт даў згоду на каранацыю, якая была прызначаная на восень 1430 г. На ўрачыстую цырымонію ў сталіцу Княства з'ехаліся чужаземныя манархі ды іншыя высокія госці. Усе цярпліва чакалі, калі будучы кароль адужае хваробу і ўстане з ложка. Аднак 27 кастрычніка ў Троках сэрца Вітаўта спынілася. Існуе версія, што гэтаму паспрыялі інтрыгі польскіх магнатаў. Занепакоеныя далейшым узмацненнем Вялікага Княства, палякі, паводле легендарных звестак, напалі на імператарскіх паслоў, што везлі ў Вільню каралеўскую карону, і скралі яе.

Пасля сябе гаспадар Вітаўт пакінуў самую буйную ў Еўропе дзяржаву, якая ў гады ягонага княжання дасягнула найвышэйшай магутнасці.

Прага. Ілюмінаваная гравюра М. Вальгемута і В. Пляйдэнвурфа з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля. Нюрнбэрг. 1493 г.






Жыгімонт Карыбутавіч уваходзіць з сваім войскам у Прагу, дзе будзе абраны чэшскім каралём. Малюнак XV ст.



Фрагменты двух срэбных пазалочаных паясоў канца XVI – пачатку XVII ст., знойдзеных у 1990-х гадах каля вёскі Літва Маладзечанскага раёна ў старажытным скарбе. У літаратуры гэтыя знаходкі атрымалі ўмоўную назву «паясы Вітаўта»



Вялікі князь літоўскі на троне. Унізе герб дынастыі Гедзімінавічаў «Калюмны». Малюнак пачатку XVI ст.



Менавіта ў часы Вітаўта Вялікае Княства стала вялікім не толькі паводле наймення і тэрыторыі, якая складала болей за 900 тысяч квадратных кіламетраў (дзеля параўнання: тэрыторыя Рэспублікі Беларусь – 207,6 тысячы квадратных кіламетраў), але і паводле сваёй палітычнай ролі ў Еўропе.



Горадня XIII–XIV стст. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 2008 г.



Пячатка магістра Інфлянцкага ордэна. 1367 г.

# РАЗГРОМ ТЭЎТОНЦАЎ ПАД ГРУНВАЛЬДАМ

## Тэўтонскі ордэн

Найбольш небяспечнай для славянаў сілай ва Усходняй Еўропе заставаўся Тэўтонскі, або Нямецкі, ордэн, заснаваны ў Палесціне пад час крыжовых паходаў. У 1234 г. крыжакоў неабачліва запрасіў да сябе на дваццаць гадоў мазавецкі князь Конрад. У абмен на згоду скарыць балцкае племя прусаў ён пагадзіўся на стварэнне самастойнай рыцарскай дзяржавы. Праз тры гады пасля гэтага тэўтонцы значна павялічылі сваю магутнасць, аб'яднаўшыся з Ордэнам мечаносцаў (Інфлянцкім). На чале Ордэна стаяў пажыццёва абраны вялікі магістр, якому падпарадкоўваліся камтур, маршал ды іншыя вышэйшыя асобы. Ад 1309 г. рэзідэнцыяй вялікага магістра і сталіцай тэўтонцаў быў горад Мальборк (Марыенбург), збудаваны на захопленых польскіх землях у дэльце Віслы недалёка ад марскога ўзбярэжжа.

Немцы зноў і зноў рабілі захопніцкія рэйды на балцкія і славянскія землі. Колькасць такіх нападаў дасягала васьмі на год.



404 Des Andern Theils III. Capitel.

Schaacken/

Das andere Haupt-Ampt.

Сталіца Тэўтонскага ордэна Мальборк (Марыенбург) у XIV ст. Гравюра з «Гісторыі Прусіі» К. Гарткнаха. Ляйпцыг. 1684 г.




Вялікі магістр тэўтонцаў Герман фон Зальц. Гравюра з «Гісторыі Прусіі» К. Гарткнаха. Ляйпцыг. 1684 г.



Напярэдадні Грунвальдскай бітвы тэўтонцы небеспадстаўна сцвярджалі, што маюць найлепшую ў Еўропе армію. Заходнееўрапейскія ваяры: лучнік, пешы і конны рыцары. Канец XIV ст. Мастак А. МакБрайд. 1980-я гады

**ХРАНАЛОГІЯ**

1409–1411 гг. – «Вялікая вайна» нашай дзяржавы і Польскага Каралеўства супраць Тэўтонскага ордэна.

Снежань 1409 г. – Таемная нарада гаспадара Вітаўта і караля Ягайлы ў Берасці.

15 ліпеня 1410 г. – Разгром арміі тэўтонцаў пад Грунвальдам.

1411 г. – Торунскі мір Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага з Тэўтонскім ордэнам.





Войска на маршы. Малюнак канца XV ст. Нямеччына

Пяць разоў крыжакі спрабавалі захапіць Полацак, чатыры разы – Новагародак. Шмат цярпелі ад агрэсіўных суседзяў іншыя беларускія гарады і найперш Горадня. Тэўтонцы некалькі разоў трымалі гарадзенскі замак у аблозе.

Вялікае Княства імкнулася вярнуць захопленую крыжакамі Жамойць, Польшча – сваё Памор'е, Добжынскую ды іншыя сумежныя землі. Крыжакі, наадварот, былі зацікаўленыя ў тым, каб замацаваць іх за сабой, асабліва Жамойць, якая служыла своеасаблівым «мостам» паміж паморска-прускімі і інфлянцкімі (лівонскімі) уладаннямі Ордэна. Сутыкненне гэтых інтарэсаў прывяло да вайны, што ў гістарычнай літаратуры атрымала назоў «Вялікая».



Выява вялікага магістра над брамай Ніжняга замка ў Мальборку



Штурм Гарадзенскага замка крыжакамі ў 1403 г. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 2008 г.

У 1408 г. на радзе ў Навагародку вялікі князь Вітаўт і кароль Ягайла прыйшлі да высновы, што спыніць агрэсію Тэўтонскага ордэна можна толькі разграміўшы яго, і пастанавілі зрабіць гэта супольна.






Тагачасная тарча-«павеза» з ліпавага дрэва, абклеенага свіной скурай і льняным палатном, магла важыць сем кілаграмаў. Музей Войска Польскага ў Варшаве

Вялікі князь літоўскі Вітаўт. Невядомы мастак XVII ст.



## «Вялікая вайна»

Напярэдадні вайны абодва бакі разгарнулі актыўную дыпламатычную дзейнасць. Вялікае Княства Літоўскае забяспечыла сабе тыл, падпісаўшы мірную дамову з Маскоўскім княствам. У сваю чаргу тэўтонцам паабяцалі дапамогу вугорскі і чэшскі каралі. Пасланцы крыжакоў ездзілі па ўсёй Еўропе, вярбуючы ў сваё войска наймітаў. Тым часам на пачатку лета 1409 г. супраць Ордэна паўстала Жамойць, якую таемна падтрымаў наш вялікі князь.

Баявыя дзеянні распачаліся ў жніўні, калі немцы напалі на польскія гарнізоны ў Добжынскай зямлі. Гэтая тэрыторыя неўзабаве была захопленая Ордэнам. Наагул, ваенная кампанія 1409 г. склалася няўдала для Польшчы. Войскі Вялікага Княства, наадварот, атрымалі некалькі перамог і выгналі крыжакоў з Жамойці.

У снежні адбылася таемная нарада Вітаўта і Ягайлы ў Берасці. Цягам дзевяці дзён манархі ўзгаднялі стратэгію і тактыку будучай летняй кампаніі. Яны вызначылі колькасць, час і месца збору аб'яднаных сілаў, дамовіліся пра пабудову пантоннага моста цераз Віслу. На берасцейскай сустрэчы прысутнічаў сын хана Тахтамыша Джалалад-Дзін, які камандаваў залатаардынскай конніцай, што была на службе ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Распрацаваны хаўруснікамі план, які прадугледжваў валоданне стратэгічнай ініцыятывай, дзеянні на тэрыторыі праціўніка і правядзенне генеральнай бітвы, пачаў неадкладна здзяйсняцца. Вялікія замовы атрымалі майстры-збройнікі. У лясах і пушчах, найперш у Белавежскай, ішла нарыхтоўка правіянту для войскаў. Па ўсім Княстве было наладжанае навучанне маладых вояроў баявому майстэрству.

Пры канцы траўня 1410 г. у Горадні з усёй дзяржавы сабраліся палкі-харугвы – баявыя аддзелы, у якіх было ў сярэднім па трыста вершнікаў, а таксама лучнікі і пахолкі-збраяносцы.



Паўтараручныя двухлязовыя мячы. Другая палова XIV ст.

Рыцарскі меч з інкруставаным медззю скрыжаваннем. Першая палова XIV ст.

Большая частка з сарака харугваў Вялікага Княства прыйшла з беларускіх земляў. Вечную славу пад Грунвальдам здабылі амсціслаўская, аршанская, ашмянская, берасцейская, быхаўская, ваўкавыская, віленская, віцебская, гарадзенская, дарагічынская, друцкая, клецкая, кобрынская, крычаўская, крэўская, лідская, лукамльская, магілеўская, медніцкая, мельніцкая, менская, навагародская, пінская, полацкая, слонімская, слуцкая, смаленская, старадубская, троцкая, тураўская ды іншыя харугвы. Трыццаць з іх мелі на сваіх сцягах «Пагоню». Украінскімі паводле свайго складу былі, апрача кіеўскай, крамянецкая, ратненская, луцкая і ўладзімірская. Яшчэ блізу пяці харугваў некаторыя даследнікі лічаць цалкам балцкімі (летувіскімі). Тагачасныя гістарычныя хронікі згадваюць з іх толькі ковенскую.



Кароль Ягайла моліцца перад Грунвальдскай бітвай. Гравюра канца XVI ст. з кнігі Барталамея Папроцкага «Каралеўскі сад»

## Разгром крыжакоў

Нашае войска сустрэлася з ворагам 15 ліпеня 1410 г. на ўзгорыстым полі паміж тагачаснымі прускімі мястэчкамі Танэнбергам і Грунвальдам.

Тэўтонцы на чале з вялікім магістрам Ульрыхам фон Юнгінгенам з'явіліся першыя і добра падрыхтаваліся да бітвы. Крыжакі размясцілі сваю наймацнейшую ў тагачаснай Еўропе армію ў дзве лініі на фронце 2,5 кіламетра на ўзвышшы. Поруч з немцамі стаялі рыцары з Англіі, Францыі, Швейцарыі ды іншых заходнееўрапейскіх краінаў. Наперадзе закутых у панцыры крыжацкіх «кліноў» знаходзіліся, як паведамляе «Хроніка Быхаўца», замаскаваныя дзёрнам «воўчыя ямы» – пастка для непрыяцельскай конніцы. За баявымі шыхтамі рыцараў чакалі сігналу арбалетнікі і бамбардзіры. Крыжакі выставілі 51 харугву – болей за 30 тысяч вояроў.

Войскі Вітаўта і Ягайлы ўтварала роўны па даўжыні фронт з праціўнікам. Сорак харугваў Вялікага Княства знаходзіліся на правым фланзе. У складзе Вітаўтавых сілаў была татарская кавалерыя хана Джэлалад-Дзіна. Маскоўскі князь Васіль і ад удзелу ў паходзе ўхіліўся. Ягайлава войска, як і тэўтонскае, складалася з 51 харугвы. На дапамогу Вялікаму Княству і Польшчы прыйшлі таксама аддзелы чэхаў і мараваў.

Злучаныя сілы дзвюх дзяржаваў мелі блізу 40 тысяч вояроў. Крыжакоў было прыкладна на 10 тысяч меней, аднак яны мелі лепшае ўзбраенне, хоць і ў шэрагах нашай арміі шмат вояроў у рыцарскім рыштунку нічым не саступалі ворагам.



Шалом тыпу «басінет» з завесамі пад заслону. Быў вельмі пашыраны пры канцы XIV – на пачатку XV ст.



Шалом з спічастай заслонай, якая ахоўвала ад стрэл і дзідаў. Першая чвэрць XV ст.

Звесткі пра агульную колькасць удзельнікаў бітвы ў розных гістарычных крыніцах значна разыходзяцца. Некаторыя хронікі называюць лічбы 100 і нават 150 тысяч. У кожным разе гэта была адна з найбуйнейшых бітваў Сярэднявечча, ад якой залежала будучыня цэлых народаў.

Грунвальдскае поле. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 2008 г.



Найвышэйшыя асобы Тэўтонскага ордэна. Справа – вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген. Гравюры з «Гісторыі Прусіі». К. Гарткнаха. Ляйпцыг. 1684 г.



Тэўтонскія срэбныя шылінгі з манетнага двара ў Мальборку. Канец XIV – пачатак XV ст.

Традыцыйна лічыцца, што аб'яднанымі сіламі кіраваў кароль Ягайла. Але гэтае кіраванне было намінальным. Ёсць важкія доказы ў тых гісторыкаў, якія сцвярджаюць, што арміяй рэальна камандаваў Вітаўт. (Наш гаспадар, дарэчы, старшынаваў на апошняй перад сечаю вайсковай радзе.)



Наш старажытны гімн «Багародзіца». Рукапіс 1407 г.

Пасля спявання ўсім войскам «Багародзіцы» першай па сігнале баявых трубаў пайшла ў наступ лёгкая, а затым цяжкая кавалерыя Вялікага Княства. Пярэднія шэрагі вершнікаў праваліліся ў «воўчыя ямы», аднак астатнія знайшлі праходы і не далі атацы захлынуцца. Татарская конніца выкарыстала старую ўлюбёную зброю – арканы, у выніку чаго пярэдні шыхт крыжакоў на вокамгненні апынуўся пад капытамі ўласных коней. Вітаўт увесь час быў сярод сваіх вояроў і сам кіраваў імі ў сечы.

Спадзяванні тэўтонцаў на артылерыю сталіся марныя. Нашыя вершнікі пасеклі кананіраў і арбалетнікаў. Але вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген разам з вялікім камтурам Кунам фон Ліхтэнштайнам і вялікім маршалам Фрыдрыхам фон Валенрадам, якія камандавалі правым і левым флангамі, былі спакойныя. Яны ведалі, што ўзначальваюць наймацнейшую ў Еўропе армію, і не сумняваліся ў поспеху.

Загула зямля, і на харугвы Вялікага Княства рушыла цяжкая тэўтонская кавалерыя. Праз гадзіну ўпартай сечы ліцвіны сталі адыходзіць да абозу. Крыжакі, ужо прадчуваючы перамогу, кінуліся ў пагоню. Яны не ведалі, што «ўцёкі» ліцвіноў напраўду былі тактычным манеўрам Вітаўта, які меў на мэце парушыць баявыя парадкі цяжкой кавалерыі непрыяцеля і рассеяць яе на шырокай прасторы.



Бітва пад Грунвальдам. Мініяцюра Д. Шылінга Старэйшага. Другая палова XV ст. Гістарычны музей у Берліне

Асабістая сакрэтная пячатка Конрада фон Юнгінгена, які ўзначальваў Тэўтонскі ордэн у 1393–1407 гг.

Нямецкі рыцарскі меч даўжынёю блізу 110 сантыметраў

Гэтай пячаткаю карыстаўся вялікі маршал Тэўтонскага ордэна Фрыдрых фон Валенрад

Вялікі шалом, аздоблены геральдычнай выяваю з дрэва і скуры. Такія шаломы насілі выдатныя рыцары-палкаводцы

Пячатка імператара «Святой Рымскай імперыі», вугорскага (венгерскага) і чэшскага караля Сігізмунда Люксембургскага, які быў арганізатарам крыжовых паходаў супраць гусітаў

Тэўтонскія сцягі-харугвы, якія «трапілі ў палон» да пераможцаў пад Грунвальдам. Гэта былі надзвычай важныя трафеі, бо страта харугвы азначала капітуляцыю ўсяго вайсковага аддзела, які пад ёю ваяваў. Малюнкі з «Гісторыі Польшчы» Яна Длугаша, напісанай у 1455–1480 гг.



Грунвальдская бітва. Мініяцюра Д. Шылінга Малодшага. Пачатак XVI ст. Гістарычны музей у Берліне



Рыцарская астрога (шпора)

Вечную славу ў гэты перыяд бітвы здабылі нашы амсціслаўская, аршанская і смаленская харугвы (у расейскай гістарычнай літаратуры іх беспадстаўна называюць «русскими смоленскими полками»). Тры гэтыя харугвы, пакінутыя Вітаўтам для прыкрыцця правага флангу палякаў, праявілі незвычайную мужнасць.



Тыповая амуніцыя рыцара – удзельніка Грунвальдскай бітвы

Адна з харугваў цалкам палегла, дзве іншыя панеслі велізарныя страты, але выстаялі. Тым часам тэўтонская кавалерыя, што гналася за «ўцекачамі», была знішчаная. Вярнуўшыся на поле бітвы, нашы галоўныя сілы ўдарылі ў тыл крыжакам, што секліся з палякамі.

Харугвы вялікага магістра і правы фланг нямецкай арміі неўзабаве былі абкружаныя і апынуліся ў двух вялізных «катлах». Надвячоркам жорсткая і бязлітасная сеча скончылася поўным разгромам тэўтонцаў. Ад рукі аднаго з Вітаўтавых ваяроў-ліцьвіноў загінуў вялікі магістр Ордэна. Палегла ўсё ягонае кіраўніцтва: вялікі і ўсе астатнія камтуры, вялікі маршал, скарбнік, большасць войтаў.



Помнік вялікаму князю Вітаўту ў Кракаве, пастаўлены ў гонар 500-годдзя Грунвальдскай перамогі 15 ліпеня 1910 г. Скульптар Антон Вівульскі



Такое ўяўленне пра бітву пад Грунвальдам маглі атрымаць чытачы нямецкіх «Хронік» Г. Рэдэнса. XVI ст.



Ліст палоннага нямецкага рыцара Гольбрэхта фон Лейма з абяцаннем заплаціць выкуп памерам 150 коп чэшскіх грошаў (капа – 60 грошаў). Апрача выкупа тэўтонец абяцаў за сваё вызваленне баявы панцыр і два арбалеты. 1410 г.



Найбольш вядомая выява бітвы пад Грунвальдам. «Хроніка Еўрапейскай Сарматы» Аляксандра Гваніні. 1581 г.



Нямецкі шалом тыпу «басінет». XV ст.

Наладзіўшы пагоню, Вітаўт і Ягайла мелі шанец канчаткова дабіць Ордэн. Але перамога далася вельмі дарагой цаной. Палова войска Вялікага Княства навекі засталася ў чужой зямлі. З другога боку, Вітаўт не імкнуўся да поўнага разгрому Тэўтонскага ордэна, бо гэта ўзмацняла б Польшчу.

Перамога пад Грунвальдам (беларускія летапісы называюць гэтую бітву Дубровенскай, а нямецкія хронікі – Танэнбэргскай) паўплывала на гістарычны лёс шэрагу еўрапейскіх народаў. Была спыненая больш чым 200-гадовая нямецкая экспансія на ўсход. Паводле ўмоваў падпісанага ў 1411 г. Торунскага міру крыжакі мусілі вызваліць усе захопленыя землі і заплаціць пераможцам 300 тысяч дукатаў.

## Міжнароднае значэнне бітвы

Разгромлены Ордэн не змог аднавіць сваёй магутнасці і быў асуджаны на знікненне як самастойная дзяржава. Баланс сілаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе змяніўся на карысць славянскіх краінаў. Вялікае Княства Літоўскае ўмацавала незалежнасць і атрымала амаль стагоддзе параўнаўча мірнага існавання.

Трыюмфальны поспех аб'яднаных сілаў ужо шэсць стагоддзяў натхняе і будзе натхняць пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў... Праз сто гадоў бліскуча апеў выдатную перамогу пад Грунвальдам беларускі паэт-лацініст Ян Вісліцкі. Ягоная гістарычная паэма «Пруская вайна» (Кракаў, 1516) атрымала агульнаеўрапейскую вядомасць.

У 1960 г. на месцы бітвы (яно знаходзіцца непадалёку ад польскага горада Ольштына) адчынены помнік. Усё Грунвальдскае поле з'яўляецца своеасаблівым мемарыялам. На ім цяпер штогод адбываецца шматтысячнае святкаванне перамогі з удзелам рыцарскіх клубаў з розных краінаў Еўропы, якія інсцэнізуюць найбольш важныя этапы бітвы. Нязменны поспех на гэтых святах спадарожнічае беларусам – нашчадкам славы ваяроў Вітаўта Вялікага. Некалькі сотняў нашых сучасных рыцараў удзельнічалі ў рэканструкцыі Грунвальдскай бітвы ў 2010 г., калі шырока адзначалася 600-годдзе разгрому крыжакоў.




Паэма Яна Вісліцкага «Пруская вайна», у якой апявалася перамога нашых продкаў над Грунвальдам. Кракаў. 1516 г.

# УЛАДАРАННЕ КАЗІМІРА ЯГАЙЛАВІЧА


Дынастычнае дрэва вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. 1506 г.


Срэбны грош часоў Казіміра Ягайлавіча

## Вайна Свідрыгайлы з Жыгімонтам

Пасля смерці гаспадара Вітаўта дзяржаву напаткалі нялёгкія выпрабаванні. Спачатку вялікакняскі пасад заняў Ягайлаў брат Свідрыгайла (у праваслаўі Леў, у каталіцтве Баляслаў). Ён разарваў вунію з Польшчай, але не здолеў утрымаць уладу.

У выніку змовы, падтрыманай польскімі панамі, вялікім князем быў абраны малодшы Вітаўтаў брат Жыгімонт Кейстутавіч, які адначасова скасаваную папярэднікам персанальную вунію. Амаль увесь час уладарання ён мусіў весці вайну з Свідрыгайлам. Каб залучыць на свой бок беларускіх і ўкраінскіх паноў, якія падтрымлівалі былога гаспадара, Жыгімонт у 1434 г. ураўнаваў асабістыя і маёмасныя правы каталікоў і праваслаўных. Тым не менш вайна працягвалася яшчэ пяць гадоў.

Цэласць Княства ўдалося захаваць, але краіна панесла вялікія страты. Дзяржаўная ўлада была аслабленая. Урэшце Жыгімонта забілі ў Троцкім замку змоўшчыкі, звязаныя з Свідрыгайлам.

## Паўстагоддзя міру

Узмацнілася роля вялікакняскай Рады. Яна зрабілася найвышэйшым органам улады на час працяглых ад'ездаў гаспадара ў Польшчу. Ад неабмежаванай манархіі дзяржава пераходзіла да манархіі парламенцкага тыпу.

Спакой і парадак у дзяржаве ўдалося навесці наступнаму вялікаму князю Казіміру Ягайлавічу, малодшаму сыну Ягайлы і княгіні Соф'і Гальшанскай. Забойства Жыгімонта Кейстутавіча азначала ліквідацыю персанальнага альянсу з Польшчай. Вунія з суседзямі была аднаўленая толькі праз сем гадоў, пасля абрання Казіміра на польскі трон.

За Казімірам Вялікае Княства вярнула занятую палякамі Дарагічынскую зямлю, замацавала за сабой Валынь, на якую прэтэндавала і Польскае Каралеўства.

Вайна з Тэўтонскім ордэнам (Казімір Ягайлавіч вёў яе сіламі Польшчы) завяршылася тым, што крыжацкая дзяржава прызнала васальную залежнасць. Казімір дамогся выбрання свайго старэйшага сына Уладзіслава каралём Чэхіі, а затым і Вугоршчыны.


Пячатка вялікага князя Казіміра Ягайлавіча. 1453 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1430–1432 гг. – Княжанне вялікага князя Свідрыгайлы.
1432–1440 гг. – Княжанне вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча.
1434 г. – Прывілей Жыгімонта пра ўраўнаванне правоў каталікоў і праваслаўных.
1440–1492 гг. – Княжанне вялікага князя Казіміра Ягайлавіча.
1447 г. – Прывілей вялікага князя пра шырокія правы баярства.
Абранне Казіміра каралём Польшчы.
1454–1466 гг. – Вайна з Тэўтонскім ордэнам і ператварэнне яго ў васала.
1468 г. – Прыняты Статут Казіміра, першы збор законаў дзяржавы.




Акт васальнай прысягі вышэйшых станаў Прусіі каралю польскаму і вялікаму князю літоўскаму Казіміру. 1454 г.

Выдадзеным у Вільні ў 1447 г. прывілеем Казімір даў шырокія правы і свабоды князям, панам і баярам незалежна ад іх веравызнання. Гаспадар дзяржавы дазволіў ім судзіць падданых. Сяляне баярскіх маёнткаў вызваляліся амаль ад усіх дзяржаўных натуральных і грашовых павіннасцяў на карысць уладальніка. Вялікі князь абвяшчаў, што зямлю і пасады ў дзяржаве будуць мець толькі народзінцы Вялікага Княства Літоўскага. Баярства атрымала права вольнага выезду за мяжу.

На ўсходнім кірунку замежная палітыка вялікага князя не вызначалася рашучасцю і, хоць спрыяла захаванню міру, была недальнабачнай. Казімір адмовіўся на карысць маскоўскага князя ад прэтэнзіяў на Пскоў, што толькі ўзмацніла захопніцкую актыўнасць Масковіі. Шукаючы ў змаганні з ёю падтрымкі, Ноўгарадская рэспубліка выказала намер далучыцца да Вялікага Княства пры ўмове захавання аўтаноміі. Казімір абмежаваўся тым, што паслаў ноўгарадцам свайго намесніка. Неўзабаве Ноўгарад Вялікі быў канчаткова падпарадкаваны Маскве.

Казімір Ягайлавіч меў славу прыхільніка і апекуна «літоўскага», гэта значыць беларускага, мастацтва. Якраз у гады яго валадарання ў Кракаве выйшлі першыя кнігі, надрукаваныя кірылічным шрыфтам.


Прывілей, якім Казімір Ягайлавіч пацвярджаў усе правы і свабоды, атрыманыя падданымі ад ягоных папярэднікаў. 1453 г.

## Статут 1468 года

Заслугай Казіміра была ягоная заканадаўчая дзейнасць. У 1468 г. ён зацвердзіў першы збор законаў Вялікага Княства Літоўскага, складзены на аснове мясцовага звычаёвага права і судовай практыкі.

Гэты Статут складаўся з 25 артыкулаў і адлюстроўваў тагачасны стан беларускага права. Статут Казіміра бараніў прыватную ўласнасць, замацоўваў прыгонную залежнасць сялянаў, прадугледжваў абавязковае выкананне судовых пастановаў, уводзіў прынцып індывідуальнай адказнасці.

Статут устанавіў адзіныя для ўсяго Вялікага Княства віды пакаранняў за злачынствы супроць прыватнай уласнасці, абмежаваў праслед жонкі і дзяцей за злачынныя дзеянні мужа і бацькі. Упершыню ўводзілася паняцце проціпраўнага дзеяння – «із права выступае», «на права сягнуў».


Фрагмент скульптурнай выявы Казіміра Ягайлавіча з ягонага надмагілля ў кракаўскім замку Вавель

Казіміраў Статут быў напісаны на беларускай мове, якая ўжо даўно была моваю гаспадарскага двара, адміністрацыі і справаводства ўсёй дзяржавы. Гэты збор законаў умацаваў адзінства краіны і істотна паўплываў на наступныя Статуты Вялікага Княства.

# ЦАРКВА І ТАЛЕРАНЦЫЯ



З дапамогаю гэтай формы беларускі майстар XV ст. адліваў абразкі з выявою арханёла Міхала

Адрозна ад шмат якіх еўрапейскіх краінаў, не кажучы ўжо пра Масковію з яе нецярплівасцю да ўсякага іншадумства, у нас людзі розных веравызнанняў лепш ладзілі між сабою. Паміж праваслаўнымі і каталікамі, а таксама юдэямі і татарамі-мусульманамі, якія жылі на нашых землях ад часоў Вітаўта, ніколі не было крывавых канфліктаў.

Маці Божая Адзігітрыя Ерусалімская. Абраз пачатку XVI ст. Паходзіць з вёскі Здзітаў Жабінкаўскага раёна



У Сярэднявеччы рэлігія была надзвычай важнай часткаю культуры і пранікала ва ўсе сферы жыцця грамадства.

Пераважную большасць насельніцтва нашай дзяржавы ў той перыяд складалі праваслаўныя, якія належалі да Полацкай, Турава-Пінскай, Смаленскай, Навагародскай, Уладзіміра-Берасцейскай і Чарнігаўскай епархіяў.

Пасля Крэўскай вуніі 1385 г., якая давала перавагі каталікам, становішча пачало мяняцца. Было заснаванае Віленскае каталіцкае біскупства. Гаспадар Ягайла даў біскупу дазвол будаваць касцёлы. У сярэдзіне XVI ст. толькі на Віленшчыне іх налічвалася ўжо болей за 250. Пры канцы XIV ст. у Вялікім Княстве з'явіліся першыя манаскія ордэны.

Святадухаўская царква ў Вільні, заснаваная пры канцы XVI ст. праваслаўнымі брацтвамі. Сучасны выгляд





Прывілей вялікага князя Вітаўта канонікам віленскага капітула. 1399 г.



Вялікі князь Аляксандр Казіміравіч праводзіў палітыку лаяльнага стаўлення да праваслаўных жыхароў Вялікага Княства. Гравюра пачатку XVII ст.

Імшу ў касцёлах правілі на лаціне, але захаваліся пераклады набажэнскіх тэкстаў на беларускую мову, зробленыя ў XV ст., каб вернікі разумелі, што адбываецца ў храме. Пазней, у 1585 г., каталікі выдалі па-беларуску катэхізіс, які вызначаўся чысцінёй мовы («Ісус», а не «Езус», «Госпад», а не «Пан»). З'явіўшыся ў Беларусі ў другой палове XVI ст., езуіты выкарыстоўвалі беларускую мову як мову навучання ў сваіх калегіюмах, як выкладалі таксама як асобную дысцыпліну. Нашая мова гучала і ў касцёлах. Да прыкладу, у 1682 г. віленскі біскуп Мікалай Стафан Пац загадаў у нядзелі і святы тлумачыць Евангелле і выкладаць катэхізіс па-беларуску.



Прывілей вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, якім праваслаўная і каталіцкая шляхта была ўраўнаваная ў палітычных правах. 1563 г.







Адзін з найбольш упывовых магнатаў Вялікага Княства ў другой палове XVI ст. князь Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч Астрожскі. Доўгі час захоўваючы вернасць праваслаўю, род Астрожскіх падтрымліваў царкоўныя брацтвы, фундаваў школы і друкарні. Невядомы мастак XVII ст.

Абразок з выявай Маці Божай Аранты. Берасце. Сярэдзіна XIII ст.





Вялікі князь Казімір Ягайлавіч з жонкаю сярод манахаў-бернардзінцаў. Невядомы мастак XVII ст.

У асяроддзі свецкай і духоўнай эліты была папулярная ідэя вуніі (аб'яднання) каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Калі ў 1439 г. Фларэнційскі сабор прыняў адпаведную пастанову, свой подпіс пад ёй паставіў мітрапаліт кіеўскі Ісідар, што стаяў тады на чале «ўсходняй» царквы Вялікага Княства Літоўскага. Ідэя вуніі ў той час не ажыццявілася найперш праз варожыя захады Масквы.

Рэлігійная талеранцыя, уведзеная яшчэ вялікім князем Гедзімінам, зрабілася адным з галоўных прынцыпаў дзяржаўнай палітыкі. Ужо ў першай палове XV ст. ранейшыя абмежаванні для праваслаўных былі зънятыя. Арыстакраты «грэцкае веры» атрымлівалі найвышэйшыя дзяржаўныя пасады. Да прыкладу, пасаду найвышэйшага гетмана і троцкага ваяводы займаў праваслаўны князь Канстанцін Астрожскі.



Срэбны пярсцёнак XIV ст. з знакам Маці Божай. Меншчына



Нагрудны крыж-складзень, называны энкалпіёнам. XII–XIII стст.



«Божае Нараджэнне». Частка беларускага абразка-складня XIII–XV стст.

Дзеля абгрунтавання сваіх «правоў» на беларускія землі маскоўскія ўладары зноў і зноў заяўлялі пра «нечуваныя здзекі», якія цярпяць браты па веры ў Вялікім Княстве Літоўскім. Такі падыход замацаваўся і ў расейскай гістарычнай навуцы, але нічога агульнага з праўдай ён не мае. За вялікім князям Казімірам Ягайлавічам на абшары сучаснай Беларусі было зафундавана сем праваслаўных храмаў і толькі тры каталіцкія. Гаспадар Аляксандр Казіміравіч шчодра надзяляў вёскамі і сялянамі полацкіх і смаленскіх праваслаўных епіскапаў. У 1503 г. гэты вялікі князь выдаў Віцебску грамату, якая сведчыць, што ў праваслаўе пераходзілі нават палякі і летувісы: «Каторыя будуць жмудзін або лях, хрышчаны ў Рускую веру і хто з таго роду і цяпер жыве, таго нам не рушыці, права іх хрысціянскага ні ў чым не ламаці».

Пераканаўчым доказам таго, што паслядоўнікі ўсходняй царквы не цярпелі ўціску, было захаванне вернасці манарху-каталіку з боку праваслаўных князёў і баяраў у часе бясконцых войнаў з Маскоўскім княствам. Калі б «грэцкая» вера ў нашай дзяржаве сапраўды пераследвалася, сюды не ўцякалі б шматлікія падданыя маскоўскіх уладароў – і князі з баярамі, і, пазней, дзясяткі тысяч простых вернікаў, якія не прынялі царкоўных зменаў і былі абвешчаныя «раскольнікамі».

Параўнаўча з Маскоўшчынай праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім мела большую незалежнасць ад свецкай улады. Тут захоўвалася недатыкальнасць царкоўнай маёмасці, судовая самастойнасць, права падаваць скаргі самому манарху ды іншыя замацаваныя ў дзяржаўных законах правы, у якіх царква і касцёл да сярэдзіны XVI ст. былі роўныя. Духавенства, як і шляхта, было вызваленае ад дзяржаўных падаткаў.



Касцёл Арханёла Міхала ў вёсцы Гнезна Ваўкавыскага раёна сваімі архітэктурнымі рысамі нагадвае Мірскі замак. Пабудаваны каля 1524 г. Сучаснае фота



Віленскі касцёл бернардзінцаў. Фрагмент фрэскі XVI ст. Фота Вадзіма Глінніка. 2005 г.





«Хрыстос Уладар Сусвету». Абраз XVI ст. Паходзіць з вёскі Быцень Івацэвіцкага раёна



Замак апекуноў праваслаўя князёў Астрожскіх у іх родавым гняздзе – горадзе Астрозе (цяпер Ровенская вобл., Украіна). Сучасны выгляд



Касцяны абразок XV–XVI стст. з Турава

Паслядоўна лаяльнае стаўленне дзяржавы да праваслаўнай царквы ў Вялікім Княстве красамоўна паказвае хуткі рост колькасці яе манастыроў і храмаў. Ад канца XIII да паловы XVI ст. на беларускіх землях былі заснаваныя больш за 40 манастыроў: 17 – на Полаччыне, 7 – у Новагародскім павеце, па 5 – у Аршанскім і Пінскім, па 4 – у Віцебскім і Менскім, па 3 – у Берасцейскім, Гарадзенскім і Амсціслаўскім. Сярод храмаў у беларускіх гарадах пры канцы 60-х гадоў XVI ст. абсалютную перавагу мелі праваслаўныя цэрквы. У Пінску іх было 14, у Новагародку – 10 (і ўсяго адзін касцёл), у Берасці – 9, у Віцебску – 7, у Горадні і Слоніме – па 6. Толькі ў сталічнай Вільні існавала раўнавага – 15 цэркваў і 14 касцёлаў.

Адрозна ад шмат якіх еўрапейскіх краінаў наша талерантная дзяржава не ведала ў сваёй гісторыі ні рэлігійных войнаў, ні падзеяў кшталту жудаснай Варфаламееўскай ночы ў Парыжы. Правалам скончылася і спроба ўвесці ў Вялікім Княстве Літоўскім інквізіцыю.



Фарны касцёл у Горадні («Фара Вітаўта») упершыню згадваецца ў вялікакняскай грамаце 1389 г. Гэты ўнікальны помнік нашага дойлідства з рысамі готыкі быў зруйнаваны ў 1961 г.

# КУЛЬТУРНЫЯ ЗДАБЫТКІ

Трон Божы. Фрагмент фрэскавай размалёўкі XV ст. у капліцы Люблінскага замка. Беларускія майстры

## Абарончае дойлідства



Аркатурны пояс муроў Лідскага замка. 1330-я гады



Муры Крэўскага замка. Фота Яна Булгака. 1916 г.

Вялікае Княства часта рабілася арэнай ваенных дзеянняў: нападаў нямецкіх рыцараў, наездаў крымскіх татараў, уварванняў маскоўскіх войскаў. Гэта выклікала вялікую патрэбу ў адмысловых абарончых збудаваннях, асноўным тыпам якіх сталі замкі. У іх будаўніцтве па-ранейшаму пераважаў раманскі стыль.

У XIV ст. магутныя адна-, двух- або шматвежавыя мураваныя (каменныя) замкі былі ўзведзеныя ў Троках, Вільні, Медніках, Крэве, Лідзе, Навагародку... Разам яны стварылі моцную лінію абароны. Таўшчыня муроў Крэўскага замка дасягала трох метраў, а вышыня – трынаццаці. Нераз непрыступнай фартэцай паўставалі на шляху тэўтонскіх заваёўнікаў навагародскія ўмацаванні. У 1394 г. Лідскі замак паспяхова вытрымаў цяжкую аблогу ангельскіх і французскіх рыцараў, якія выкарыстоўвалі балісты ды іншую абложную тэхніку.



Лідскі замак, збудаваны за часамі вялікага князя Гедзіміна, уваходзіў у лінію супроцькрыжацкае абароны: Наваградак–Крэва–Меднікі–Трокі. Фота Сяргея Плыткевіча. 2005 г.

Складаны комплекс пабудоваў уяўляў сабой на пачатку XV ст. пяцівежавы Гарадзенскі замак. Яго сцяна, звернутая да Нёмана, мела даўжыню 120 метраў, а да рэчкі Гараднічанкі – 90. Паміж чацвертай і пятай вежамі знаходзіўся мураваны двухпавярховы палац вялікага князя Вітаўта (45 x 15 м). Пакоі ў ім размяшчаліся ў адзін рад, а вокны на другім паверсе мелі выгляд байніцаў.

Іншаземныя падарожнікі называлі тагачасную Літву-Беларусь «краінаю замкаў».



Стары замак у Горадні быў улюбёнай рэзідэнцыяй Вітаўта Вялікага. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 2008 г.



## Царкоўная архітэктура





Вонкавы выгляд і інтэр'ер Траецкага касцёла ў вёсцы Ішкалдзь Баранавіцкага раёна. 1472 г. Беларуская готыка. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2002 г.

У XIV ст. у нашай дзяржаве актыўна працягвалася будаўніцтва мураваных храмаў. Праваслаўныя цэрквы і саборы ў гэты час былі ўзведзеныя ў Вільні, Троках, Новагародку, Віцебску ды іншых гарадах. У сувязі з пашырэннем каталіцтва пасля Крэўскай вуніі 1385 г. пачалі будаваць касцёлы. З згоды вялікага князя Ягайлы яны былі заснаваныя ў Гайне на Лагойшчыне, Абольцах пад Талачыном, Крэве, Лідзе, Менску, Берасці... Адзін з найбольш старажытных каталіцкіх храмаў, што захаваліся да нашых дзён, – касцёл святога Андрэя ў вёсцы Уселюб Наваградскага раёна, пабудаваны, паводле некаторых звестак, у 1433 г.

На змену раманскаму стылю, уласціваму раннехрысціянскім храмам, у тыя часы прыходзіла готыка. Яскравым узорам новага архітэктурнага кірунку стаў Траецкі касцёл у вёсцы Ішкалдзь паблізу Баранавічаў, які і сёння захапляе сваёй суладнасцю. Пабудаваны ў 1472 г. Мікалаем Немировічам, храм мае стромкі двухсхільны дах, пяцігранную апсіду і вежу з вітымі ўсходамі. Усярэдзіне касцёл падзелены чатырма слупамі, якія падтрымліваюць крыжовыя скляпенні.

І праваслаўныя, і каталіцкія храмы на нашых землях у XV ст. набывалі рысы абарончых збудаванняў. У выпадку небяспекі ў іх мурах маглі бараніцца вяяры і хавацца ад ворага мірныя жыхары.



Касцёл святой Ганны ў Вільні. Найпрыгажэйшы помнік беларускай готыкі, пабудаваны ў 1495–1500 гг. Фота 1980-х гадоў



У першай траціне XV ст. канюшы вялікага князя Вітаўта Ян Няміра зафундаваў касцёл святога Андрэя ў вёсцы Уселюб (цяпер Наваградскі раён). Фота Тацяны Царук. 2007 г.



«Маці Божая Замілаванне». Абраз канца XIV – пачатку XV ст. з Маларыты



Хрыстос укрыжаваны. Канец XIV ст. Падзвінне

## Жывапіс і скульптура

Праваслаўныя і каталіцкія храмы былі багата аздоблены іконамі. Адзін з найбольш даўніх твораў беларускага іканапісу – абраз «Маці Божая Замілаванне» з Маларыты. Паводле стылю ён яшчэ належыць да візантыйскага мастацтва, але разам з тым ужо сведчыць пра ўзнікненне сваёй, беларускай, школы.

Касцёлы адрозна ад цэркваў аздабляліся і скульптурай. Выявы святых рабілі з дрэва і размалёўвалі фарбамі. У 1470–1480-х гадах полацкія майстры стваралі скульптуры святых, якія ўражваюць сваім падабенствам да рэальных асобаў.

Пад уплывам гатычнага мастацтва ў нашых каталіцкіх храмах з'явіліся складаныя скульптурна-жывапісныя алтары.

У гэтым часе ў Вялікім Княстве Літоўскім – нашмат раней, чым у суседняй Маскові, – зарадзілася свецкае партрэтнае мастацтва. З гістарычных крыніцаў вядома, што ў замкавай царкве ў Віцебску захоўваўся «партрэт княгіні Улляны старажытнага пісьма, дзе яна з мужам сваім князем Альгердам».

Узвзеденне храмаў спрыяла развіццю выяўленчага мастацтва. Фрэскавыя размалёўкі ўпрыгожвалі не толькі цэрквы, але і княскія палацы ў Полацку, Віцебску, Гарадні. На загад вялікага князя і караля Ягайлы беларускія майстры стварылі выдатныя фрэскі ў Люблінскім замку. Размалёўкі нашых суайчыннікаў XV ст. захаваліся ў капліцы Святога Крыжа ў Кракаўскім катэдральным касцёле.



Фрагмент размалёўкі XIV ст. Віленскі катэдральны касцёл



Уваход у Ерусалім. Замкавая капліца ў Любліне, якую аздобілі фрэскамі беларускія майстры. Пачатак XV ст.

Невядомыя беларускія мастакі пакінулі свой геній у фрэсках капліцы Святога Крыжа ў Кракаўскай катэдры. Блізу 1470 г.



## Кнігі і бібліятэкі

Высокага роўню дасягнула мастацтва кнігі. Пры буйных храмах і манастырах у Полацку, Навагародку, Смаленску, Вільні, Лаўрышаве, Супраслі дзейнічалі скрыпторыюмы, дзе быў падзел працы паміж перапісчыкамі ды іншымі адмыслоўцамі. Тэксты ўпрыгожваліся маляванымі загалоўкамі (ініцыяламі) і каляровымі мініяцюрамі. Вокладкі мелі эмалевыя выявы і багатую аздобу з каштоўных камянёў.



«Актоіх», выдрукаваны ў 1491 г. у Кракаве Швайпольтам Фіёлем. Ягоная друкарня (першая ў свеце з кірылічным шрыфтам) была заснаваная ліцьвінскімі магнатамі дзеля задавальнення патрэбаў праваслаўнага насельніцтва краіны



Выдатны ўзор беларускай рукапіснай кнігі – Жыровіцкае Евангелле XV ст. Цяпер знаходзіцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Летувы



Евангеліст Ян. Мініяцюра Лаўрышаўскага Евангелля XIV ст.

Для старажытнага Лаўрышаўскага манастыра ў першай палове XIV ст. было напісанае знакамітае Евангелле з 19 мініяцюрамі на біблійныя сюжэты. На срэбнай пласціне, пасярэдзіне абцягнутай аксамітам вокладкі, знаходзіцца выява святога з шчытом і дзідаю. Магчыма, тут увасоблены заснавальнік манастыра сын Міндава князь Войшалк, у манастве Лаўрыш.

Выдатнымі ўзорамі беларускай рукапіснай кнігі сталі таксама Смаленскі Псалтыр XIV ст., Друцкае (XIV ст.) і Жыровіцкае (XV ст.) Евангеллі.

Вялікая роля ва ўзбагачэнні і развіцці тагачаснай афіцыйнай і літаратурнай беларускай мовы належала вялікакняскай канцылярыі. Яе пісары карысталіся менавіта гэтай мовай – дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага.

У Вялікім Княстве ўжо існавалі значныя бібліятэкі-кніжніцы. Найстаражытнейшай з іх была бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора. Апрача рэлігійных кніг там зберагаліся летапісы, «Жыціпіс Еўфрасінні Полацкай», пераклады з антычных і візантыйскіх аўтараў. Пазней узніклі бібліятэкі пры манастырах Звеставання ў Супраслі, пры Святатраецкім – у Вільні, Траецкім – у Слуцку...

## Летапісы

У XIV–XV стст. на змену колішнім летапісам асобных княстваў прыйшлі агульнадзяржаўныя. Найбольш даўні помнік нашага летапісання – створаны блізу 1430 г. на беларускай мове ў Смаленску «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Ён стаў асноваю для беларускага летапісу 1446 г., які ахопліваў усю гісторыю Вялікага Княства, апавядаў пра падзеі ад IX да сярэдзіны XV ст. Аўтар гэтага летапіснага зборy выступаў за аб'яднанне ўсходнеславянскіх земляў у складзе нашай дзяржавы, падкрэсліваў яе важнае месца ў Еўропе. У летапісе падрабязна апавядалася пра княжанне Вітаўта і змяшчалася ўзнёслая «Пахвала» гэтаму славутаму ўладару – адзін з першых твораў беларускай свецкай панегірычнай прозы.



Старонка летапіснага зборy, складзенага пры канцы XV ст. у Пскове або Ноўгарадзе. Гэтая хроніка, якая ахоплівае падзеі ва Усходняй Еўропе да 1468 г., была ў 1495 г. перапісаная ў беларускім Смаленску і атрымала назву «Летапіс Аўрамкі»

Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася на скрыжаванні духоўных традыцыяў Усходняй і Заходняй Еўропы. Гэта абумовіла багацце і своеасаблівасць нашых культурных здабыткаў. Пры канцы XV ст. у Беларусь прыйшлі ідэі Рэнесансу, што неўзабаве спрычыніліся да росквіту беларускай культуры.

# ТЭРЫТОРЫЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА



Герб Троцкага ваяводства

Асноўная частка Княства ад часоў Альгерда і Кейстута падзялялася на дзве паловы, якія ў 1413 г. былі пераўтвораныя ў Віленскае і Троцкае ваяводствы. Тут знаходзілася большыня земляў, якімі валодаў сам вялікі князь. Галоўныя пасады ён раздаваў буйной арыстакратыі з старажытных родаў.

Фармаванне абшару нашай дзяржавы – цалкам яна называлася Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і Інфлянцкае – працягвалася і ў XVI ст. Даследнік гэтага працэсу Мацвей Любаўскі вылучаў у Княстве дванаццаць гістарычна-тэрытарыяльных частак: уласна Літву, Русь Літоўскую, Жамойць, Палессе, Падляшша (Берасцейскую зямлю), пяць асобных вобласцяў-земляў (Полацкую, Віцебскую, Смаленскую, Кіеўскую, Валынскую і Падольскую) і раздробленыя Чарнігаўска-Северскія землі. Ядром дзяржавы былі абшары, якія ўваходзілі ў вялікакняскую (гаспадарскую) вотчыну. Яе ўтваралі родавыя ўладанні вялікіх князёў і далучаныя да іх воласці з парадамі Новагародкам, Горадняй, Берасцем, Менскам, Магілевам, Пінскам, Браславам, Слонімам, Бабруйскам, Мазыром, Гомелем, Рагачовам, Клецкам.

На тэрыторыі Беларусі ў XV ст. яшчэ існавалі ўдзельныя княствы: Амсціслаўскае, Слуцкае, Заслаўскае і Клецкае ў Віленскім ваяводстве; Пінскае, Тураўскае, Свіслацкае, Кобрынскае і Гарадзецкае (з сталіцай у цяперашнім Давыд-Гарадку) – у Троцкім. Імі найчасцей кіравалі князі-васалы з дынастыі Гедзімінавічаў.

На гэтай карце Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, складзенай гуманістам Мікалаем Кузанскім, пазначаныя Вільня, Трокі, Меднікі ды іншыя гарады нашай дзяржавы. Вялікае Княства Літоўскае падзеленае на дзве часткі – Літву і Жамойць (Самагітыю). З атласа С. Пталамея «Геаграфія». Страсбург. 1513 г.








Гербы ваяводстваў: Віленскага, Навагрудскага, Смаленскага, Берасцейскага, Полацкага і Жамойцкай зямлі

На ўсходніх межах дзяржавы знаходзіліся Ноўгарад-Северскае, Старадубскае, Бельскае і Вярхоўскія (у вышнявінах Акі) княствы. Імі звычайна валодалі залежныя ад вялікага князя Рурыкавічы. У гэтых землях гаспадар надзяляў вотчынамі знатных перабежнікаў з Маскоўшчыны. Напрыклад, гарады Бранск, Старадуб і Гомель у 1446 г. Казімір Ягайлавіч аддаў князю Васілю Бароўскаму, а пазней – Івану Мажайскаму.

Асаблівае становішча ў Вялікім Княстве займалі Полацкая, Віцебская і Смаленская землі. Яны падпарадкоўваліся Вільні на аснове ўзаемавыгаднай дамовы («рады»). Перад тым як пасадзіць у сталіцы зямлі свайго намесніка, гаспадар выдаваў адпаведны прывілей (устаўную грамату). Ён дакляраваў «вечнае і непарушнае» захаванне правоў і «вольнасцяў», у тым ліку абяцаў берагчы цэласць тэрыторыі ўсёй зямлі («не дарыці нікому»).

Устаўныя граматы падкрэслівалі добраахвотны характар далучэння зямлі да Вялікага Княства. Яны гарантавалі маёмасныя правы жыхароў, давалі ім магчымасць выезду за мяжу («пуць чысты, куды хто хоча, без усякай зачэпкі»). Пры гэтым прывілей атрымліваў не нейкі адзін стан, а ўсё насельніцтва – «мяшчане і ўвесь горад, і ўся зямля Полацкая», «мяшчане места Віцебскага і ўсёй зямлі Віцебскай».

Зямля-вобласць захоўвала ўласную судовую і фінансавую самастойнасць, сама вырашала пытанні замежнага гандлю. Палачане, да прыкладу, па-ранейшаму незалежна ад Вільні падпісвалі гандлёвыя дамовы з Рыгай. Судзіць палачаніна можна было толькі ў межах сваёй зямлі на аснове мясцовых законаў. Сваіх намеснікаў вялікі князь прысылаў у Полацак і Віцебск толькі пасля згоды агульнага сходу месцічаў.




Вялікае Княства Літоўскае. Карта выдатнага еўрапейскага картографа Г. Меркатара. 1592 г.

Удзельныя княствы мелі значную аўтаномію, але адмаўляліся ад самастойнай замежнай палітыкі і былі абавязаныя выстаўляць ваярoў у агульнадзяржаўнае войска. Паступова ўдзелы ліквідоўваліся і там пачыналі кіраваць прызначаныя гаспадаром намеснікі.

Карта Вялікага Княства Літоўскага, створаная Тамашом Макоўскім з патрыятычнай ініцыятывы Мікалая Крыштопа Радзівіла Сіроткі. Надрукаваная ў 1613 г. у Амстэрдаме




Князь Скіргайла. У 1387 г. Ягайла пацвердзіў ягонае права на валоданне Полацкім і Троцкім княствамі, а таксама даў яму Менск, Бабруйск, Рэчыцу ды іншыя гарады. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

Аўтаномія земляў не аслабляла дзяржавы. Усходнія і паўночныя беларускія землі не аддзяліліся ад Вялікага Княства, нават з увагі на цяжкія і доўгія войны з адзінавернай Масковіяй. Гэтаму спрыяла адзінства палітычных і эканамічных інтарэсаў, а таксама цярпімасць вышэйшай улады да мясцовых парадкаў і традыцыяў. Тым часам маскоўскія князі, далучыўшы новыя землі, бязлітасна знішчалі іх ранейшы лад, а саміх жыхароў часта перасялялі ўглыб дзяржавы.

Расейскія гісторыкі часам сцвярджаюць, нібыта Вялікае Княства Літоўскае было раз'яднаным і слабым дзяржаўным утварэннем і ўяўляла сабой у тагачаснай Еўропе нейкую анамалію. Але ў XVI ст. Гішпанія таксама складалася з Кастыліі, Арагона, Леона ды іншых земляў, аб'яднаных толькі адзіным манархам. Кангламерат розных тэрыторыяў утвараў у гэты час Святую Рымскую імперыю нямецкай нацыі. Італія тады наагул перажывала паглыбленне палітычнай раздробленасці. Такім чынам, ніякім выняткам з агульнаеўрапейскай гісторыі наша дзяржава не была.

Вялікае Княства пацвердзіла сваю моц і жыццяздольнасць ужо тым, што цягам некалькіх стагоддзяў змагло процістаяць агрэсіўнай Маскоўшчыне.

Літва. Гэтая карта Г. Меркатара была надрукаваная ў 1595 г. у нямецкім горадзе Дуйсбурзе



# ГАСПАДАР. РАДА. СОЙМ



Пячатка вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. 1555 г.

## Вялікі князь

На чале дзяржавы стаяў вялікі князь, або, як яго ад XV ст. называлі дзяржаўныя дакументы, гаспадар. У часы Гедзіміна, Альгерда і Вітаўта ўлада вялікага князя лічылася неабмежаванай. Пасля смерці Вітаўта манарха выбіралі, але толькі з дынастыі Ягайлавічаў.



Ліст Жыгімонта Старога з пячаткаю манарха. 1530 г.



З часам усё больш складаныя патрэбы нутраной і замежнай палітыкі дзяржавы прывялі да ўтварэння шэрагу пасадаў і органаў кіравання. Яшчэ за Вітаўтам з'явіліся такія найвышэйшыя ў Княстве ўрады (пасады), як канцлер (кіраўнік вялікакняскай канцылярыі і хавальнік дзяржаўнай пячаткі), падскарбі (загадчык дзяржаўнага скарбу) і маршалак (кіраўнік вялікакняскага двара), пазней – гетман (галоўны военачальнік). Апрача іх існавалі ўрады гаспадарскага пісара, падчашага, падстоляга, крайчага, кухмістра, канюшага... Прызначэнне на пасаду знаходзілася ў кампетэнцыі гаспадара. Арыстакрат, які атрымліваў пасаду, звычайна валодаў ёю пажыццёва і пакінуць мог, толькі пераходзячы на вышэйшую.




Вялікі князь і кароль Аляксандр Ягайлавіч з каронным канцлерам Янам Ласкім. Гравюра 1506 г.

Галоўным абавязкам гаспадара была абарона краіны. Ён узначальваў узброеныя сілы, абвяшчаў вайну і падпісваў мірныя пагадненні, выдаваў законы, распараджаўся дзяржаўным скарбам (казной), ажыццяўляў дыпламатычныя зносіны з іншымі краінамі.



Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст. Невядомы мастак. Блізу 1570 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1492 г. – Віленскі вальны Сойм і абранне гаспадаром Аляксандра Казіміравіча.
1492–1506 гг. – Княжанне вялікага князя Аляксандра.
1492 г. – Прывілей гаспадара Аляксандра аб пашырэнні правоў Рады.
1506–1548 гг. – Княжанне вялікага князя Жыгімонта Старога.
1506 г. – Прывілей гаспадара Жыгімонта пра абавязковае абмеркаванне з Радай усіх дзяржаўных пастановаў.
1548–1572 гг. – Княжанне вялікага князя Жыгімонта Аўгуста.
1563 г. – Прывілей Жыгімонта Аўгуста пра поўную роўнасць палітычных правоў праваслаўнай і каталіцкай шляхты Вялікага Княства.
1581 г. – Стварэнне Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага.





Вялікакняскі палац у Вільні. Літаграфія з малюнка Напалеона Орды. Сярэдзіна XIX ст.

## Рада

Паступова ўсё большую вагу набывала вялікакняская Рада, або, як яе яшчэ называлі, Паны-Рада. Спачатку гэта быў дарадчы орган з найбліжэйшых асобаў гаспадара. Ведама, што Вітаўт раіўся з сваімі баярамі наконт стварэння ўласнай праваслаўнай мітраполіі ды наконт сваёй каранацыі. Статут 1468 г. вялікі князь Казімір Ягайлавіч уклаў «з князямі і з паны-радаю нашаю Вялікага Княства Літоўскага». У часы гэтага гаспадара, які часта адʼязджаў у Польшчу (калі стаў і польскім каралём), Рада выконвала абавязкі найвышэйшай улады.

Значна пашырыў правы Рады прывілей, дадзены ў 1492 г. вялікім князем Аляксандрам Казіміравічам. Цяпер гаспадар не мог без узгаднення з Панамі-Радай праводзіць замежную палітыку і прызначаць на дзяржаўныя пасады. Яшчэ больш вырасла роля Рады ў 1506 г., пасля прывілея гаспадара Жыгімонта Старога. Паводле яго ўсе дзяржаўныя пастановы вялікі князь меў права выдаваць толькі пасля іх абавязковага абмеркавання з Панамі-Радаю. (У лацінамоўных крыніцах гэты дзяржаўны орган называўся Сенатам.)

Рада складалася з 45 радных. (У заходнееўрапейскіх дакументах яе называлі Сенатам, а радных – сенатарамі.) У іх лік уваходзілі біскупы – віленскі, луцкі, кіеўскі і жамойцкі, ваяводы (або старасты) – віленскі, полацкі, смаленскі, наваградскі, віцебскі, падляшскі, троцкі, кіеўскі, луцкі, жамойцкі, намеснікі ваяводаў – кашталяны, канцлер, падканцлер, падскарбі, гетман, маршалак, пісар вялікакняскай канцылярыі ды іншыя высокія дзяржаўныя чыноўнікі.

З агульнага складу радных вылучалася старшая, або пярэдняя, рада. Яе прадстаўнікі – віленскі біскуп, а таксама віленскія і троцкія ваяводы і кашталяны – на паседжаннях сядзелі на пярэдняй лаве. Гэтыя найбольш уплывовыя ў дзяржаве людзі часам збіраліся сваім вузкім колам і прымалі пастановы за ўсю Раду.



Пасольская палата ў Каралеўскім замку ў Варшаве, дзе збіраліся ўдзельнікі Соймаў. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2005 г.

Шлях да пасады, якая давала права засядаць у Радзе, адкрываўся толькі для эліты Вялікага Княства. Гэта былі знакамітыя арыстакратычныя роды Астрожскіх, Валовічаў, Войнаў, Гальшанскіх, Гаштаўтаў (Гаштольдаў), Глінскіх, Гляботічаў, Забярэзінскіх, Збаражскіх, Іллінічаў, Кезгайлаў, Кішак, Пацаў, Радзівілаў, Сапегаў, Солтанаў, Хадкевічаў, Храптовічаў...

У паўнамоцтвы Рады ўваходзілі кантроль за дзейнасцю манарха, дыпламатычныя зносіны дзяржавы, яе абарона, заканадаўства і фінансы, справы шляхоцтва, раздача земляў, некаторыя судовыя пытанні. Радзе належала вызначальная роля ў выбары вялікага князя.

Падскарбі, а затым падканцлер Вялікага Княства Стафан Пац. Невядомы мастак канца XVII ст.





Гарачы прыхільнік незалежнасці Вялікага Княства Крыштоп Радзівіл Пярун на сваім жыццёвым шляху займаў пасады падчашага, палявога гетмана, падканцлера, ваяводы віленскага і вялікага гетмана. Гравюра Гершкі Ляйбовіча. Сярэдзіна XVIII ст.

Уладар дзяржавы Аляксандр сярод сенатараў і земскіх паслоў. Ілюмінаваны дрэварыт 1506 г.



Паслы (дэпутаты) Сойму. Гравюра з малюнка Яна Матэйкі. Другая палова XIX ст.

Палітычная вага Рады ў жыцці дзяржавы пачала змяншацца, калі ўтварыўся новы найвышэйшы орган кіравання – Сойм. Такія органы былі тыповай з'явай для тагачаснай Еўропы: у Англіі існаваў парламент, у Гішпаніі – картэсы, у Швецыі – рыгсдаг, у Нямеччыне – райхстаг, у Польшчы – сейм.

Найчасцей Соймы склікаліся ў сталічнай Вільні, але часам іх паседжанні адбываліся і ў іншых гарадах – Навагрудку, Горадні, Берасці.

Рада і Сойм складалі разам двухпалатную парламенцкую сістэму Вялікага Княства Літоўскага.

## Сойм

Утварэнне Сойму азначала далейшае абмежаванне ўлады гаспадара, а таксама стрымлівала самаўладдзе алігархаў.

Гістарычныя дакументы XV ст. захавалі шмат сведчанняў пра дзейнасць земскіх соймаў у Полацку, Віцебску, Смаленску ды іншых землях Вялікага Княства. У такіх сойміках, якія працягвалі традыцыі старадаўняга веча, бралі ўдзел вылучэнцы розных станаў – баяраў, шляхты, мяшчан. Пазней соймікі ператварыліся ў выключна шляхоцкія органы.

Пры канцы XV ст. на аснове соймікаў асобных земляў утварыўся агульны Сойм Вялікага Княства. Палітычнае адзінства краіны цяпер грунтавалася не толькі на прызнанні землямі аднаго манарха, але і на ўдзеле іх паслоў (дэпутатаў) у найвышэйшым органе ўлады.

Агульнадзяржаўны Сойм называўся вальным. На яго апрача вялікакняскай Рады і шматлікіх службоўцаў дзяржаўнага апарату з'язджаліся князі, паны і баяры з усіх частак краіны. На Сойм спачатку запрашалі наагул усю шляхту, што рабіла паседжанні надзвычай шматлюднымі. Таму пазней была зацверджаная норма прадстаўніцтва: ад кожнага павета – па два шляхціцы-паслы, якіх выбіралі на павятовых сойміках.

Першым вальным Соймам стаў скліканы ў 1492 г. Панамі-Радай Віленскі з'езд, які абраў вялікім князем Аляксандра Казіміравіча. У часы княжання Жыгімонта Старога паседжанні Сойму пачалі збіраць рэгулярна. На іх разглядалі лёсавызначальныя дзяржаўныя пытанні: выбранне гаспадара, альянсы з іншымі краінамі, заканадаўства і дзейнасць судоў. У сувязі з няспыннай ваеннай небяспекай з боку Маскоўшчыны і Крымскага ханства вальныя Соймы мусілі найперш займацца абаронаю краіны. Дэпутаты абвяшчалі вайну, разглядалі ўмовы замірэнняў, прымалі пастановы аб вайсковых падатках.

**ХРАНАЛОГІЯ**

Утварэнне ваяводстваў

- 1404 г. – Смаленскае.
- 1413 г. – Віленскае, Троцкае.
- 1471 г. – Кіеўскае.
- 1503 г. – Віцебскае.
- 1504 г. – Полацкае.
- 1520 г. – Падляшскае.
- 1565 г. – Амсціслаўскае, Брацлаўскае, Валынскае, Менскае, Навагрудскае.
- 1566 г. – Берасцейскае.





Прывілей гаспадара Жыгімонта Аўгуста аб правядзенні перад Соймам мясцовых шляхоцкіх соймікаў. 1565 г.

Дзяржаўныя асобы Вялікага Княства. Гравюры з кнігі Барталамея Папроцкага «Гняздо цноты». 1578 г.



Падскарбі



Ваявода



Кашталян



Падкаморы



Харужы

## Кіраванне ваяводствамі і паветамі

У сярэдзіне XVI ст. нашая краіна падзялялася на ваяводствы, а тыя – на паветы. Ваяводстваў было чатырнаццаць: Амсціслаўскае (Амсціслаўскі павет), Берасцейскае (Берасцейскі і Пінскі паветы), Брацлаўскае (Брацлаўскі і Вінніцкі), Віленскае (Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі), Віцебскае (Аршанскі, Віцебскі), Валынскае (Камянецкі, Луцкі, Уладзімірскі), Жамойцкае (Жамойцкая зямля), Кіеўскае (Кіеўскі, Мазырскі), Менскае (Менскі, Рэчыцкі), Навагрудскае (Ваўкавыскі, Навагрудскі, Слонімскі), Падляшскае (Бельскі, Дарагічынскі, Мельніцкі), Полацкае (Полацкі), Смаленскае (Смаленскі і Старадубскі) і Троцкае (Гарадзенскі, Ковенскі, Троцкі, Упіцкі паветы).

Уся ўлада ў ваяводствах належала ваяводам. У іхнай кампетэнцыі знаходзіліся галоўныя гаспадарчыя, фінансавыя, вайсковыя і судовыя справы. На чале ўзброеных сілаў ваяводства стаяў кашталян. Падваявода кіраваў ваяводскай канцылярыяй. Гараднічы быў адказны за ўмацаванні ваяводскага замка. За зборам падаткаў і адбываннем павіннасцяў наглядаў ключнік. Ляснічы і лоўчы адказвалі за стан лясоў і пушчаў. Ваяводскімі стайнямі (канюшнямі) загадваў стайнік.

Уладу ў паветах трымалі ў сваіх руках старасты. За выкананнем іх загадаў сачылі цівуны, сотнікі і прыставы. Цывільныя справы жыхароў павета разглядаў земскі суд, крымінальныя – замкавы, зямельныя спрэчкі – падкаморскі. Павятовы маршалак кіраваў шляхтай, склікаў і вёў павятовыя соймікі. Вайсковым кіраўніком мясцовай шляхты быў павятовы харужы, які прызначаў сабе памочнікаў – ротмістраў.

Полацкае і Віцебскае ваяводствы працягвалі карыстацца значнай самастойнасцю. Пасады гараднічага, ключніка, стайніка і лоўчага тут маглі займаць толькі мясцовыя народзінцы. На ваяводскім судзе ў Полацку і Віцебску адрозна ад іншых ваяводстваў абавязкова прысутнічалі старэйшыя баяры і мяшчане. Самога ваяводу вялікі князь прызначаў палачанам і віцьблянам «з іх волі».





Кодэкс, які рэгуляваў дзейнасць найвышэйшага суда дзяржавы – Трыбунала Вялікага Княства. Тытульны аркуш і старонка. Вільня. 1586 г.

Адрозна ад Маскоўскай дзяржавы, дзе набірала сілу азіяцкая тыранія, а падданыя (нават з самых знакамітых баярскіх родаў) былі асуджаныя на ролю «государевых людишек», у нашай краіне асоба мела нязмерна шырэйшыя магчымасці для самасцверджання і рэалізацыі сваіх правоў. Гэта – яскравае сведчанне ўлучанасці Вялікага Княства Літоўскага ў агульнаеўрапейскую цывілізацыю, па-за межамі якой заставаліся нашы ўсходнія суседзі.



Дукат гаспадара Жыгімонта Аўгуста. Аверс і рэверс. 1563 г.

## Трыбунал Вялікага Княства

Найвышэйшым судом дзяржавы быў створаны ў 1581 г. Трыбунал Вялікага Княства, або Галоўны трыбунальскі суд. Ён складаўся з суддзяў (па двое ад павета), якіх шляхта штогод выбірала на сойміках. Выбранымі маглі быць толькі народжаныя ў Княстве асобы, якія валодалі маёнткамі і добра ведалі мясцовыя звычаі і правы. Яны ў сваю чаргу шляхам галасавання вызначалі маршалка (старшыню). Паседжанні Трыбунала па чарзе праводзіліся ў Вільні, Навагрудку і Менску.

У кампетэнцыю Галоўнага суда ўваходзілі апеляцыі на пастановы земскіх, замкавых і падкаморскіх судоў, скаргі на незаконныя дзеянні мясцовых службоўцаў, а таксама апеляцыі шляхцічаў, засуджаных на пакаранне смерцю, доўгае зняволенне і вялікую грашовую кару. Справы разглядалі калегіі з некалькіх суддзяў. Працэсы адбываліся адкрыта, з удзелам бакоў ды іх пракуратараў (адвакатаў).

Свае дэкрэты (пастановы) трыбунальскія суддзі прымалі большасцю галасоў і накіроўвалі для выканання павятовым судам.

Стварэннем Галоўнага трыбунальскага суда завяршылася фармаванне сістэмы найвышэйшых органаў дзяржаўнай улады.



Прывілей трыбунальскаму суду, выдадзены вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам у 1570 г.





Партрэт вялікага князя Жыгімонта Старога. Невядомы мастак. 1511 г.

## «Залаты век» дзяржавы

Вялікі князь Жыгімонт Стары быў прыхільнікам роўнасці шляхты незалежна ад яе этнічнага паходжання і рэлігійнай прыналежнасці.

У гады княжання гэтага гаспадара адбылося скасаванне Гарадзельскай пастановы 1413 г., якая забараняла праваслаўным уваходзіць у дзяржаўную Раду.

Пасаду троцкага ваяводы атрымаў праваслаўны князь Канстанцін Астрожскі, які на паседжаннях Рады заўсёды сядзеў на першай лаве. Пазней туды трапіў і праваслаўны троцкі кашталян Рыгор Хадкевіч.

Такая палітыка ўмацоўвала адзінства нашай дзяржавы, якая тады мусіла весці частыя войны з агрэсіўным усходнім суседам – Маскоўшчынай.

Жыгімонт Стары атрымаў добрую адукацыю і валодаў некалькімі мовамі. Ён меў славу мецэната і апекуна навук. Значную ролю ў жыцці дзяржавы адыгрывала ягоная жонка Бона, што паходзіла з знанага італійскага роду Сфорца. Яна павялічыла зямельныя ўладанні дынастыі Ягайлавічаў і праводзіла аграрныя рэформы.

Сын Жыгімонта Старога і Боны Сфорца вялікі князь Жыгімонт Аўгуст працягваў бацькаву палітыку. Ягоны подпіс замацаваў пастанову, у якой галоўным крытэрам ацэнкі кандыдата на дзяржаўную пасаду называліся не паходжанне і веравызнанне, а здольнасці і заслугі перад Айчынай. Следам за бацькам гэты гаспадар падтрымліваў мастакоў, архітэктараў, літаратараў, музыкаў ды іншых людзей мастацтва.

Вялікае Княства Літоўскае дало ўсёй тагачаснай Еўропе прыклад дзяржавы, дзе мірна жылі розныя народы і спакойна суіснавалі розныя рэлігіі.

XVI стагоддзе ў гісторыі нашай краіны называюць яе «залатым векам».

Часы Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста, апошняга з дынастыі Ягайлавічаў на вялікакняскім пасадзе, сталіся ў нашай дзяржаве перыядам росквіту культуры Рэнесансу.



Партрэт вялікай княгіні Боны Сфорца. Мастак з кола Лукаса Кранаха Малодшага. Сярэдзіна XVI ст.

# ГЕРБ. СЦЯГ. ГІМН



Герб Вялікага Княства Літоўскага з Кодэкса Бэргсгамэра. Пачатак XV ст.



Манеты нашай дзяржавы з выявамі «Пагоні». Канец XIV ст.

Гербам Вялікага Княства ад часоў гаспадара Віценя была «Пагоня». Яе выява звязаная з старажытнай традыцыяй нашых продкаў выпраўляцца ў пагоню за ворагамі, каб паквітацца за забітых і вызваліць палонных. У адной з вялікакняскіх граматаў канца XIV ст. гаварылася: «У тым жа разе, калі давядзецца гнацца за ворагамі і непрыяцелямі нашымі, дык у гэтае сцігаванне, што па-народнаму завецца пагоняй, абавязаныя ісці не толькі рыцары, але і кожны мужчына, незалежна ад паходжання і багацця, абы ён здольны быў насіць зброю».

Старажытныя сімвалы «Пагоні» даследнікі звязваюць таксама з паганскім богам Ярылам, які ў хрысціянскія часы пачаў атаясамлівацца з святым Юр'ем.



Кахля з дзяржаўным гербам. XV ст.

Паводле законаў дзяржавы герб абавязкова змяшчаўся на пячатках паветаў, упрыгожваў гарадскія брамы, вежы магістратаў і сцягі ваяводстваў. Рыцар з узнятым мячом быў і на тагачасным сцягу Вялікага Княства. Даўней гэты сцяг меў выгляд пурпуровага або чырвонага палотнішча з вышытымі на ім «Пагоняй» з аднаго боку і Багародзіцай з немаўляткам – з другога. З баявым воклічам «Багародзіца! Памагай!» войска ішло ў бой.



Пячатка князя Лугвена Альгердавіча з «Пагоняй». 1379 г.



Дукат вялікага князя Яна Казіміра. 1665 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1295 г. – Зацверджанне «Пагоні» гербам Вялікага Княства Літоўскага.
XV ст. – «Песняй Айчыны» (гімнам дзяржавы) становіцца «Багародзіца».
Пачатак XVI ст. – Бел-чырвона-белы сцяг стаў фактычна афіцыйным сцягам.





Шасціканцовы крыж на манеце Ягайлы, знойдзенай у Горадні



Пячатка Скіргайлы Альгердавіча, князя полацкага, троцкага і кіеўскага, які пэўны час быў у дзяржаве другой паводле свайго ўплыву асобай пасля вялікага князя. Гэта рэдкі варыянт «Пагоні», дзе рыцар трымае ў руцэ не меч, а дзіду

Зацверджанне «Пагоні» як герба нашай дзяржавы адбылося ў 1295 г., але значна раней выявай коннага ваяра з мячом ужо карысталіся ў Полацкай зямлі. За князем Ягайлам на шчыце гербавага вершніка з'явіўся шасціканцовы крыж, які сваімі абрысамі нагадвае нацыянальную святыню – крыж Еўфрасінні Полацкай. Канчаткова склаўшыся, герб дзяржавы выглядаў як пурпуровы шчыт з белым конным рыцарам. Чырвоны колер сімвалізаваў агонь, мужнасць і ваяўнічасць. Белы колер, які ў геральдыцы адпавядае срэбру, азначаў у вачах продкаў чысціню, дабро, незалежнасць. Золата шасціканцовага крыжа на шчыце было сімвалам жыцця, святла, надзеі і высакароднасці.

«Пагоня» была на харугвах 30 з усіх 40 палкоў Вялікага Княства, якія ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве.



Выява вершніка з нямецкага гербоўніка. 1530 г.



Грош часоў Жыгімонта Аўгуста. 1547 г.



«Пагоня» з рукапіснага гербоўніка Э. Коміна. 1575 г.



Герб дзяржавы нашых продкаў адпавядаў усім канонам еўрапейскай геральдыкі. 1555 г.




Шмуцтытул кнігі Аляксандра Гваніні «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі», выдадзенай у перакладзе з лаціны на польскую мову ў 1611 г. Аўтар падае звесткі з гісторыі, геаграфіі і культуры шэрагу еўрапейскіх народаў. Значная ўвага аддадзеная Вялікаму Княству Літоўскаму. Гваніні адным з першых пазнаёміў Заходнюю Еўропу з мінулым нашай дзяржавы. «Хроніка» перакладалася таксама на нямецкую, чэшскую, італійскую ды іншыя мовы





Такая кахля з «Пагоняй» аздабляла сцены вялікакняскага палаца ў Вільні. XVI ст.




Харугва паспалітага рушання (шляхоцкага апалчэння) Гарадзенскага павета. 1613–1619 гг.



Срэбная манета (чворак) часоў гаспадара Жыгімонта Аўгуста. 1568 г.



Гэтай пячаткаю змацоўваў свае прывілеі вялікі князь Жыгімонт Ваза ў 1621–1632 гг.



Фрагмент батальнай карціны «Бітва пад Воршай», на якім выразна відаць бел-чырвона-белыя сцягі нашых рыцараў. Мастак з кола Лукаса Кранаха Старэйшага. 1524–1530 гг.





«Пагоня» з гербоўніка XVI ст.

Старонка Статута Вялікага Княства 1588 г. з гербам дзяржавы





Картуш з гербам «Пагоня», які аздабляе палац Эразма Цёлка ў Кракаве. Архітэктар і скульптар Аўгусцін Ліцынак. 1599 г.

У агульнадзяржаўным зборы законаў – Статуце 1566 г. – сцвярджалася: «Тэж мы, Гаспадар, даем пад гербам таго паньства нашага Вялікага Князьства Літоўскага, Пагоняю, пячаць да каждага павету». «Пагоню» на сваіх пячатках мелі адміністрацыйныя адзінкі толькі беларускай этнічнай тэрыторыі (Жамойць, да прыкладу, мела «мядзведзя», Валынь – крыж).

У XVI ст. ва ўсёй Еўропе пачалі ўзнікаць дзяржаўныя сцягі, каляровая гама якіх звычайна ўтваралася ад гербаў. Прынцып быў такі: гербавая выява давала асноўны колер сцяга, а геральдычны шчыт – дадатковы. Срэбная «Пагоня» на чырвоным шчыце дала бел-чырвона-белы сцяг. Упершыню нашы нацыянальныя сцягі паказаныя на батальнай карціне XVI ст., прысвечанай славутай бітве пад Воршай у 1514 г.

Колеры нашага сцяга супадаюць з хрысціянскай сімволікай. Бел-чырвона-белыя стужкі аздабляюць адзенне царкоўных герархаў. Белы колер сімвалізуе тут чыстую душу верніка, а чырвоны – слова праўды, пасеянае ў ёй праз пакуты і смерць Хрыста.



Бел-чырвона-белая стужка на ўрачыстым уборы вуніяцкага мітрапаліта Язафата Булгака. Фрагмент партрэта. Мастак Іван Хруцкі. 1838 г.



«Пагоня» з галаўнога ўбору камандзіра 17-га палка літоўскіх уланаў напалеонаўскай арміі Міхала Тышкевіча. 1812 г.






Харугва паўстанцкай коннай брыгады генерала Э. Тачаноўскага. 1863 г.




Паштоўка з беларускім нацыянальным сцягам. Пачатак XX ст.

У XIX ст., калі Беларусь цярпела нацыянальны прыгнёт у Расейскай імперыі, «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг адрадзілі ў якасці сваіх сімвалаў удзельнікі вызвольных паўстанняў 1831 і 1863 гг.

Пасля краху таталітарнай сістэмы Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў 19 верасня 1991 г. законы аб дзяржаўным сцягу і дзяржаўным гербе, паводле якіх нацыянальная сімволіка зноў набыла дзяржаўны статус.

Бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» зрабіла сваёй дзяржаўнай сімволікай Беларуская Народная Рэспубліка, незалежнасць якой была абвешчаная 25 сакавіка 1918 г.



Нотны запіс музыкі старажытнага гімна Вялікага Княства – «Багародзіцы». З выдання пачатку XX ст.

Гімнам, або, як тады казалі, «песняй Айчыны», у Вялікім Княстве Літоўскім была «Багародзіца». Словы і музыка гэтай песні створаныя яшчэ ў XIII ст. Першыя звесткі пра яе выкананне ў якасці гімна звязаныя з Грунвальдскай перамогай над Тэўтонскім ордэнам. Тагачасныя хронікі паведамляюць, што перад тым, як рушыць на крыжакоў, усё нашае войска заспявала «Багародзіцу».

У XVI ст. «Багародзіцу» не толькі спявалі на пачатку кожнай бітвы, але і выконвалі на дзяржаўных і вайсковых урачыстасцях. Тэкст «песні Айчыны» быў змешчаны ў першай рэдакцыі Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г.:

*Багародзіца Дзявіца,*
*Богам слаўлёная Марыя,*
*У Твайго Сына Госпада*
*Маці абраная, Марыя!*
*Зыч жа нам...*

Старажытны ліцьвінскі гімн у нашыя дні адроджаны музычным гуртом «Стары Ольса» і хорам «Унія».

Пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Арлова, выдадзены 14 лістапада 1995 г.






Выступ прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Біла Клінтана ў Акадэміі навук Беларусі пад час афіцыйнага візіту ў нашу краіну. Студзень 1994 г.

# ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА



Фундацыйны надпіс Ягайлы на сцяне Замкавай капліцы ў Любліне. Старабеларуская мова



Прывілей вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча пра вызваленне сваіх падданых ад выплаты мыта на ўсім абшары дзяржавы. Выдадзены на старабеларускай мове ў Троках 23 верасня 1432 г.

У палітычным, эканамічным і культурным жыцці Вялікага Княства дамінавалі беларускія землі і наш народ. Цалкам заканамерна беларуская мова зрабілася ў краіне дзяржаўнай.

Віленскі вялікакняскі двор здаўна быў беларускамоўным. Ад моманту стварэння ў XIV ст. вялікакняскай канцылярыі ў ёй выкарыстоўвалася тагачасная беларуская мова, якая была добра распрацаваная і цалкам магла забяспечваць усе патрэбы жыцця краіны. Мова, на якой тады размаўлялі продкі сучасных летувісаў – жамойты, яшчэ не была пісьмовай. Іхнае пісьменства ўзнікла толькі ў сярэдзіне XVI ст., тым часам як беларускае мела ўжо 500-гадовую гісторыю.

Наша мова – адна з найдаўнейшых дзяржаўных нацыянальных моваў у Еўропе. Дзеля параўнання: кастыльская (гішпанская) ужывалася ва ўрадавых дакументах ад XIII ст., ангельская зрабілася афіцыйнай у 1362 г., а французская – у 1400 г.

На нашай мове ствараліся і выдаваліся ўсе зборы законаў дзяржавы ад Статута (Судзебніка) вялікага князя Казіміра Ягайлавіча 1468 г. да самага дасканалага ў Еўропе Статута 1588 г.

Па-беларуску гаварылі, выдавалі граматы і прывілеі манархі і ўсе галоўныя асобы Княства. Па-беларуску пісалі соймавыя пастановы. Наша мова актыўна выкарыстоўвалася ў дыпламатычным ліставанні з Масковіяй ды іншымі суседнімі краінамі. Не існуе ніводнага дзяржаўнага дакумента Вялікага Княства, які быў бы напісаны па-летувіску.





Гэтым прывілеем гаспадар Вітаўт у 1399 г. ахвяраваў новыя зямельныя ўладанні канонікам Віленскага капітула. Старабеларуская мова

**ХРАНАЛОГІЯ**

Другая палова XIV ст. – Беларуская мова становіцца дзяржаўнай.

1468 г. – На беларускай мове пабачыў свет першы збор законаў дзяржавы – Статут (Судзебнік) вялікага князя Казіміра Ягайлавіча.

1588 г. – Дзяржаўнасць беларускай мовы пацвярджае трэці Статут Вялікага Княства.





Грамата пінскага і клецкага князя Фёдара і ягонай жонкі Аляксандры (Алены) баярыну Ігнату Пятровічу Ахмату на валоданне зямлёй і людзьмі. Пачатак XVI ст.

У Смаленскім княстве яшчэ да яго ўваходжання ў Вялікае Княства Літоўскае тагачасная беларуская мова таксама была моваю княскага двара.



Тагачаснае справавое пагадненне з подпісамі бакоў



Старонка дыпламатычнай граматы XVI ст. на беларускай мове, якая была моваю ліставання Вялікага Княства з Масковіяй ды іншымі дзяржавамі-суседзямі. У перапісцы з Масквой нашу мову выкарыстоўвалі і палякі. Вядома некалькі выпадкаў, калі дыпламаты Польскага Каралеўства накіроўвалі ў Масковію лісты па-польску, але там патрабавалі пісаць, як «издавна повелось» – па-беларуску

Падкрэсліваючы значнасць дзяржаўнай беларускай мовы, канцлер Леў Сапега з гонарам пісаў: «А если которому народу стыдъ правъ своих не умеци, пагатоў нам, которые не обчым якім языком, але сваім уласным правы спісаныя маем і кождага часу, чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды, ведаці можам».



Ліст, якім вялікі князь Аляксандр Ягайлавіч зацвярджаў правы намесніка Фёдара Янушэвіча валодаць сядзібай і млынам на рацэ Мухавец. 1496 г.

Мовaю судаводства ў Вялікім Княстве таксама была беларуская. Судовая кніга 1522 г.



Статут Вялікага Княства 1588 г., выдадзены па-беларуску ў Віленскай друкарні Мамонічаў. У гэтым, самым перадавым на той час, зборы законаў у Еўропе пацвярджаўся дзяржаўны статус нашай мовы



Выкарыстанне беларускай мовы ў афіцыйным справаводстве і судаводстве заканадаўча замацоўваў Статут Вялікага Княства, дзе патрабавалася, каб земскі пісар пісаў «усе лісты, выпісы і позвы» менавіта па-беларуску, «а не іншым языком». Тады праваслаўных беларусаў-ліцьвіноў звычайна называлі «рускімі» (а продкаў цяперашніх расейцаў – «маскавітамі», «маскоўцамі»). Таму наша мова, на якой апрача дзяржаўных дакументаў ствараліся летапісы і хронікі, шматлікія мастацкія творы, звалася не толькі «літоўскай», але і «рускай». У вершы беларускага паэта першай паловы XVII ст. Яна Казіміра Пашкевіча ёсць поўныя гонару за родную мову радкі:

*Польска квітнець лацінаю,*
*Літва квітнець рушчызнаю.*
*Без той у Польсцэ не прабудзеш,*
*Без сей у Літве блазнам будзеш.*

У тагачасным Польскім Каралеўстве ўсе ўстановы – як свецкія, так і духоўныя – вялі справаводства на незразумелай простым людзям лаціне.

Апрача ўжывання ў справаводстве мова нашых продкаў была на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства сродкам зносінаў паміж людзьмі розных нацыянальнасцяў.

Па-беларуску складзеная велізарная колькасць разнастайных матэрыялаў Літоўскай Метрыкі (архіва вялікакняскай канцылярыі), якая налічвае больш за 600 тамоў. Пераважная іх большасць у XIX ст. трапіла ў Расею. Калі ў 1920 г. бальшавіцкі ўрад падпісаў мірную дамову з незалежнай Летувой, тая, прэтэндуючы на гістарычную спадчыну Вялікага Княства, запатрабавала вярнуць ёй Метрыку. Адзін з запрошаных экспертаў – беларускі гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі прапанаваў перадаць летувісам усе дакументы на іхнай мове. Такіх у сотнях тамоў Метрыкі не знайшлося ніводнага.

У гэтай самай справе летувісы звярталіся па дапамогу і да Вацлава Ластоўскага, старшыні эміграцыйнага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Нават пасля атрымання катэгарычнай адмовы яны працягвалі настойваць. Урэшце В.Ластоўскі даручыў урадавай канцылярыі падрыхтаваць праект пагаднення, паводле якога згаджаўся на перадачу Летуве дакументаў Метрыкі, складзеных па-летувіску. У сваю чаргу просьбіты мусілі назаўсёды адмовіцца ад дакументаў, напісаных па-беларуску. Летувіскі ўрадовец з радасцю падпісаў пагадненне і, як сведчаць відавочцы, спрабаваў апераваць ім у Маскве «на вялікі канфуз свой і свайго начальства».





Старонка Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Беларуская мова



«Катэхізіс» Марцінаса Мажвідаса. Першая кніга, надрукаваная на летувіскай мове. Кёнігсбэрг. 1547 г.

Першая друкаваная Біблія на летувіскай мове. 1735 г.





Адзін з тамоў Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага (архіва вялікакняскай канцылярыі), публікацыя якой ажыццяўляецца цяпер супольнымі намаганнямі беларускіх і летувіскіх навукоўцаў. Менск. 2002 г.

Насуперак відавочным фактам гісторыкі Летувы не хочуць прызнаваць дзяржаўнасць старабеларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Не маючы аніякіх падставаў назваць дзяржаўную мову Княства летувіскай, яны ў сваіх мэтах упарта вынаходзяць іншыя назовы для беларускай, характарызуючы яе, да прыкладу, як «афіцыйную славянскую» або «канцылярскую». Часам ужываюць даўнейшае найменне «руская», але ў сучасным значэнні гэтага слова. З другога боку, летувіскія вучоныя імкнуцца давесці, што вялікія князі хоць і пісалі «па-славянску», але гаварылі па-летувіску. Ды гэтаму няма нават ускосных пацверджанняў. Між тым з гістарычных дакументаў вядома, што, выпраўляючыся ў які-небудзь населены жамойтамі кутох дзяржавы, гаспадары і віленскія вялікакняскія службоўцы бралі з сабой перакладнікаў.



Пячатка і подпіс вялікага князя Сцяпана Батуры. Дакумент на дзяржаўнай беларускай мове. 1579 г.

Сваю функцыю дзяржаўнай беларуская мова захоўвала да самага канца XVII ст. У 1696 г. Сойм Рэчы Паспалітай, у склад якой тады ўваходзіла наша краіна, надаў афіцыйны статус на тэрыторыі Вялікага Княства польскай мове. На той час яна ўжо фактычна выціснула беларускую з афіцыйнага ўжытку. Але паводле соймавай пастановы ўсе напісаныя і выдадзеныя па-беларуску дакументы і зборы законаў захоўвалі юрыдычную сілу.

# СЯЛЯНСТВА


Срэбны шэлег часоў Сціпана Батуры. Аверс і рэверс. 1584 г.


Аплецены карою збан быў своеасаблівым тагачасным тэрмасам

Самую значную частку насельніцтва дзяржавы складалі сяляне. Да сярэдзіны XV ст. яны яшчэ пераважна заставаліся асабіста незалежнымі ад землеўласнікаў. Селянін меў дзялку (надзел) зямлі, за якую разлічваўся з дзяржавай цяглом – натуральнымі і грашовымі павіннасцямі. У цягло ўваходзіла даніна (аброк) і гаспадарчыя працы. На захадзе Беларусі адзінкаю абкладання была «служба» – два ці тры «дымы» (сялянскія гаспадаркі). У Падзвінні і Падняпроўі доўгі час існавалі валасці, жыхары якіх займаліся найперш промысламі і плацілі толькі даніну. Дакументы называюць у іх ліку бортнікаў, баброўнікаў, асочнікаў, лаўцоў, сакольнікаў, рыбаловаў, руднікаў. За карыстанне лясамі і пушчамі дзяржава брала плату бабрамі, куніцамі, мёдам.

Паступова сяляне страчвалі правы на зямлю, дзе здавён працавалі. Побач з людзьмі «пахожымі» (вольнымі) сярод вясковага насельніцтва з'явіліся «непахожыя» (часова несвабодныя), а таксама амаль бяспраўная «чэлядзь нявольная» (парабкі). «Воляй» для селяніна было права вольнага пераходу да іншага гаспадара.




Сялянская праца. Малюнкі з інвентара Берасцейска-Кобрынскай эканоміі. 1742 г.


Апостал Ян. Першая палова XVII ст. Скульптура паходзіць з вёскі Мсцібава Ваўкавыскага раёна


Колюць свіней. Тагачасная гравюра


Пчальнік. Гравюра 1542 г.


Каровы на пашы. Гравюра 1542 г.




Рыбакі. Сярэднявечная гравюра


Старадаўнія прылады працы земляроба. Музей «Малая Радзіма» Дарафея Фіёніка ў Студзівадах. Бельск (цяпер Польшча)

Працэс юрыдычнага запрыгоньвання сялянаў звязаны з прывілеем вялікага князя Казіміра Ягайлавіча, выдадзеным у 1447 г. Гаспадар дзяржавы забяспечваў васалам валоданне зямлёй на правах поўнай уласнасці і дазваляў чыніць суд над залежным насельніцтвам. У вялікакняскіх уладаннях сяляне яшчэ доўга мелі права пераходу, але таксама траплялі ва ўсё большую залежнасць. Буйнымі землеўласнікамі былі і манастыры, якія часам валодалі дзясяткамі вёсак.

Паводле сваіх павіннасцяў сяляне падзяляліся на цяглых і дваровых. Першыя плацілі пану аброк збожжам, мясам ды іншымі прадуктамі або грашовы аброк – чынш. Дваровыя сяляне служылі пры панскім двары стайнікамі (конюхамі), агароднікамі, шаўцамі, краўцамі, сталярамі, паляўнічымі...

Павіннасці, якія трэба было адбываць на панскай зямлі, называліся паншчынай. Цяглыя сяляне нярэдка і плацілі аброк, і мусілі працаваць на паншчыне. Апрача таго, на залежных сялянаў клаліся дадатковыя павіннасці: будаўніцтва і рамонт замкавых умацаванняў і мастоў, пракладанне дарог, перавозка грузаў.

Да канца XVI ст. амаль усё сялянства было запрыгонена. Нешматлікі вышэйшы пласт вяскоўцаў утваралі служылыя сяляне – «слугі путныя, панцырныя, шчытныя, конныя». Яны былі асабіста вольнымі, неслі вайсковую службу, але не вызваляліся і ад цягла, якое было проста лягчэйшае. Звычайна служылыя сяляне, асабліва пасля спусташальных войнаў, папаўнялі шляхоцкі стан.

У сярэдзіне XVI ст. у Вялікім Княстве Літоўскім пачала праводзіцца аграрная рэформа, гэтак званая «Валочная памера». У якасці зямельнай меры ўводзілася валока (21,36 га), якая рабілася адзінкай абкладання падаткамі. За карыстанне валокай зямлі цяглыя сяляне працавалі на паншчыне два дні на тыдзень, а таксама выконвалі іншыя павіннасці (талокі, згоны).


Цягам стагоддзяў прасніцы амаль не мяняліся



Гравюра «Верны слуга» з сцэнамі сельскага жыцця. 1655 г.


Старажытная каменная вага з Гарадзеншчыны

# МАГНАТЫ І ШЛЯХТА

Алегарычная выява грамадскіх цнотаў (дабрачыннасцяў) – Вернасці, Абароны і Справядлівасці. З гравюры 1594 г.




У Вялікім Княстве зямля дзялілася на прыватную і дзяржаўную, галоўным уладальнікам якой быў манарх-гаспадар. Дзяржаўныя землі пашыраліся за кошт далучэння да краіны новых абшараў.

Уладальнікі прыватных земляў мелі права прадаваць, дарыць і мяняць сваю маёмасць. З развіццём феадальных дачыненняў колькасць прыватнаўласніцкіх земляў расла і ўтвараліся буйныя латыфундыі.




Стараста менскі, чачэрскі і слонімскі, пісар літоўскі Андрэй Казімір Завіша. Невядомы мастак XVII ст.



Рэшткі палаца Барбары Радзівіл у Вільні. Літаграфія з малюнка Напалеона Орды. Другая палова XIX ст.



Пячатка слуцкага і капыльскага князя Міхала Алелькавіча

Шляхоцкі куфар захоўваў родавыя рэліквіі і скарбы

Імаверны фундатар старажытнага касцёла святых Пётры і Паўла ў мястэчку Дрысвяты Браслаўскага раёна Ян Сегень з гербам. Фрагмент абраза XVII ст. з алтара сучаснага храма, збудаванага ў 1920-х гадах







Шляхоцкія гербы: «Ладдзя» і «Бяліна»

Гаспадароў вялікіх абшараў у другой палове XIV ст. пачалі называць «панамі». Гэтае найменне пашыралася і на іншых уласнікаў. Найбагацейшыя сталі звацца магнатамі. Шмат хто з іх меў княскія або графскія тытулы: Радзівілы, Сапегі, Гальшанскія, Хадкевічы, Слуцкія, Друцкія, Астрожскія, Тышкевічы, Алелькавічы, Гаштаўты, Чартарыйскія.

Людзі, якія атрымлівалі зямлю ад вялікага князя за вайсковую службу, называліся баярамі. Зямля належала ім часова, але баярын мог выслужыць або выкупіць свой надзел у вотчыну, гэта значыць у поўнае ўладанне.

Як асобная палітычная сіла баярства ўмацавалася ўжо пры Вітаўце. Клапоцячыся пра моц войска, гаспадар шчодра раздаваў землі васалам. Гарадзельская вунія 1413 г. надзяліла прывілеямі і гербамі толькі буйное баярства (51 род) каталіцкага веравызнання. Аднак такое становішча трывала нядоўга. Вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч у 1434 г. ураўнаваў у правах каталіцкую і праваслаўную арыстакратыю. У часы Казіміра Ягайлавіча баяры таксама атрымалі аднолькава шырокія прывілеі – незалежна не толькі ад веры, але і ад памераў уладанняў.

Ад XV ст. разам з даўнейшым назовам «баяры» ўсё часцей пачаў ужывацца новы «шляхта», што ў перакладзе з тагачаснай нямецкай мовы азначала «род, парода». На пачатку XVI ст. усіх вайскова-служылых людзей ужо называлі шляхціцамі.

Партрэт шляхціча ў рыцарскім панцыры. Невядомы мастак XVIII ст.

Герб «Газдава»





Старонка кнігі Барталамея Папроцкага «Гняздо цноты», у якой апавядалася пра шляхоцкія роды і паходжанне іхных гербаў. Кракаў. 1578 г.

Шляхоцкія паслы збіраліся на Соймы ў строях сваіх паветаў. Малюнак XVIII ст.



Даўнія ўборы заможнай шляхты ў XV ст. Малюнак Юльюша Косака. 1870-я гады







Герб роду Радзівілаў з уязной брамы Нясвіжскага замка

Прывілей імператара Святой Рымскай імперыі Фердынанда I, якім пацвярджаецца княскі тытул Мікалаю Радзівілу Чорнаму. Аўгсбург, 14 снежня 1547 г.

На левай старонцы: генеалагічнае дрэва Радзівілаў. Сярэдзіна XVIII ст.

Шляхта Вялікага Княства карысталася надзвычай шырокімі правамі. Яна мела асабістую недатыкальнасць і магчымасць вольнага выезду за мяжу, вызвалялася ад натуральных павіннасцяў і плацяжоў з маёнткаў, вольна распараджалася вотчынамі, судзіла сваіх сялянаў.



Барбара Радзівіл. Мастак Лукас Кранах Малодшы. 1553–1556 гг.



Кароль Станіслаў Радзівіл займаў пасаду канцлера Вялікага Княства Літоўскага. Невядомы мастак XVII ст.

Самога ж шляхціча маглі судзіць толькі роўныя яму, гэта значыць шляхоцкі суд. Праз мясцовыя соймікі і вальны Сойм шляхта ўдзельнічала ў самакіраванні ў паветах і ваяводствах, а таксама ў вызначэнні палітыкі ўсёй краіны. Менавіта шляхта выбірала вялікага князя і суддзяў усіх роўняў да самага галоўнага – Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага.



Лізавета Радзівіл. З нясвіжскай калекцыі Радзівілаў. Невядомы мастак XVIII ст.

Да самай багатай і ўплывовай арыстакратыі Еўропы належаў ліцьвінскі род Радзівілаў. У ягоных уладаннях знаходзіліся болей за дваццаць замкаў, 426 гарадоў і мястэчкаў, блізу 2 тысяч маёнткаў з 10 тысячамі вёсак. Радзівілы далі дзяржаве шмат славутых палітыкаў, палкаводцаў, культурных дзеячоў. Выдатную ролю ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага адыгрывалі таксама магнацкія роды Астрожскіх, Сапегаў, Хадкевічаў...



Попіс шляхты Вялікага Княства, які абавязваў адбываць вайсковую службу. 1567 г.



Гузікі да абавязковай часткі шляхоцкіх строяў – кунтуша часта рабілі з золата ды срэбра і аздаблялі каштоўнымі камянямі. XVII–XVIII стст.

Асноўным абавязкам шляхоцкага стану была абарона Айчыны. За «нявартыя» заняткі рамяством або гандлем пагражала страта шляхоцтва.

У залежнасці ад сваёй маёмасці і палітычнай вагі шляхта падзялялася на тры групы. Верхнюю складала арыстакратыя – вялікія паны і князі, якія былі нашчадкамі Рурыкавічаў і вялікакняскіх дынастыяў. Яны мелі велізарныя зямельныя абшары і тысячы прыгонных сялянаў, ішлі на вайну пад уласнай харугвай на чале свайго войска з баяраў і слугаў. Попіс (перапіс) узброеных сілаў Вялікага Княства паказвае, што траціну ўсяго войска выстаўлялі толькі блізу дваццаці родаў – Радзівілы, Кезгайлы, Алелькавічы, Астрожскія, Осцікавічы, Глябовічы, Забярэзінскія, Кішкі, Хадкевічы, Сангушкі ды іншыя.

Да асноўнай часткі шляхты належалі сярэднія і дробныя землеўласнікі, што валодалі ў лепшым разе некалькімі дзясяткамі сялянскіх «дымоў». Апошнюю прыступку займалі самыя дробныя шляхцічы, якія мелі зямельны надзел без падданых.



Партрэт Станіслава Антона Шчукі, маршалка Сойму ў 1699 г., падканцлера Вялікага Княства Літоўскага. Невядомы мастак пачатку XVIII ст.



Адзенне заможных шляхціча і шляхцянкі. Рэканструкцыя Юрася Піскуна. 2005 г.

Замак магнацкага роду Сапегаў у Гальшанах у першай палове XVII ст. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 2008 г.





Уласныя манеты князёў Аляксандра Патрыкеевіча Старадубскага, Міхала Алелькавіча і Фёдара Бельскага. Канец XV ст.





Шляхоцкія гербы: «Навіцкі», «Лебедзь», «Астоя» і «Ясеньчык»

Больш за 80% шляхты паводле крыві былі беларусамі, але незалежна ад этнічнага паходжання і веры ўвесь шляхоцкі стан Княства ўтвараў адзіную агульнадзяржаўную супольнасць.

Шляхта вяла настойлівае змаганне за пашырэнне сваіх правоў і кантроль над дзейнасцю вышэйшых дзяржаўных органаў і чыноўнікаў. Гэта прывяло пазней да стварэння своеасаблівай шляхоцкай рэспублікі.

Разглядаючы пазнейшыя падзеі, некаторыя аўтары памылкова называюць шляхту былога Вялікага Княства польскай. Напраўду наша шляхта, хоць і карысталася ў XIX ст. польскай мовай, была мясцовага паходжання. Яна ніколі не захоплівала гэтай зямлі, а, наадварот, бараніла яе ад ворагаў, паўставала супроць акупантаў, добра ведала беларускую мову і традыцыйную народную культуру.



Нашы магнаты былі неадлучнай часткаю еўрапейскай арыстакратыі, з якой іх звязвала не толькі падобнае эканамічнае і палітычнае становішча ў грамадстве, але нярэдка і агульныя гербы. Імператар Святой Рымскай імперыі Карл V надае ў Аўгсбурзе княскі тытул Мікалаю (сыну Яна) Радзівілу. Невядомы мастак XVII(?) ст.

Адыход панавальнага стану ад сваіх каранёў адбываўся не толькі ў нас. Да прыкладу, вярхі нарвежскага грамадства засвоілі дацкую культуру, чэшскага – нямецкую, а расейскага – французскую. Але, калі наспелі новыя гістарычныя ўмовы, пачалося вяртанне эліты да нацыянальных каштоўнасцяў. Літва-Беларусь не была тут выняткам. Нягледзячы на намаганні паланізатараў і русіфікатараў, наш край не стаў ні польскім, ні расейскім. Гэта засведчылі і настроі шляхты.

Паводле дадзеных перапісу насельніцтва, праведзенага ў Расейскай імперыі ў 1897 г., 65 тысяч, або каля 50%, дваранаў у беларускіх губернях (дзе шмат было тады і наезных) назвалі роднай мовай беларускую.

Параўнальна з іншымі еўрапейскімі краінамі шляхоцкі (дваранскі) стан складаў у Вялікім Княстве Літоўскім вельмі значную долю насельніцтва. Гэта тлумачыцца частымі войнамі і неабходнасцю мець вялікую колькасць вайскова-служылых людзей. У XVII ст. шляхцічам быў прыкладна кожны дзясяты жыхар нашай краіны (у суседніх Расеі, Аўстрыі і Прусіі дваранства складала блізу 1% жыхарства, у Францыі – 2–3%).

Шматлікасць і велізарная роля шляхты далі гісторыкам падставу называць яе «палітычным народам» Княства. Гэты народ вызначаў шлях дзяржавы на працягу некалькіх стагоддзяў.

Надмагілле Альбрэхта Гаштаўта ў Віленскім катэдральным касцёле. Сярэдзіна XVI ст.





Выява Полацкага Сафійскага сабора з фрэскавай размалёўкі ў Віленскім бернардзінскім касцёле. Другая палова XVI ст.

# МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА

Герб Вільні на гарадской пячатцы. 1644–1669 гг.

## Месты і мястэчкі

Гістарычныя дакументы сведчаць, што пры канцы XVI ст. у Вялікім Княстве было 530 гарадоў (якія тады называлі местамі) і мястэчак. Іх жыхары складалі ўсяго 15–20% насельніцтва краіны, але адыгрывалі вельмі значную ролю.

Вялікія князі заўсёды ўлічвалі ўплыў буйных гарадоў як даўніх палітычных і эканамічных цэнтраў сваіх земляў. Дэлегацыі Полацка і Віцебска, да прыкладу, разам з Гедзімінам у 1338 г. бралі ўдзел у падпісанні гандлёвага пагаднення з Тэўтонскім ордэнам. Пасланцы Полацка, Вільні, Віцебска, Менска, Навагрудка, Берасця і Смаленска падпісалі супольна з баярамі дамову паміж Ордэнам і вялікім князем Свідрыгайлам.



Віленская ратуша. Малюнак П. Росі. Сярэдзіна XVIII ст.

### ХРАНАЛОГІЯ

Атрыманне беларускімі гарадамі і мястэчкамі магдэбургскага права і гербаў

- 1387 г. – Вільня.
- 1390 г. – Берасце (Брэст).
- 1391 г. – Горадня (Гродна).
- 1440 г. – Сураж-Падляшскі.
- 1441 г. – Слуцак.
- 1444 г. – Трокі.
- 1493 г. – Бранск-Падляшскі.
- 1494 г. – Высокае.
- 1495 г. – Бельск.
- 1498 г. – Полацак, Дарагічын-Набужскі.
- 1499 г. – Менск.
- 1500 г. – Браслаў.
- 1501 г. – Мельнік.
- 1503 г. – Ваўкавыск, Каменец.
- 1511 г. – Навагрудак, Рэчыца.
- 1523 г. – Поразаў.
- 1529 г. – Нарва.
- 1531 г. – Слонім.
- 1559 (?) г. – Крэва.
- 1560 г. – Гомель.
- 1561 г. – Аўгустоў.
- 1563 г. – Барысаў.




Горадня. Гравюра Д. Майснэра. Першая палова XVII ст.





Панарама Берасця. Малюнак Э. Дальбэрга. 1657 г.



Выява Вільні на рэверсе медаля віленскага біскупа Астафея Валовіча. Срэбра, чаканка, залачэнне. 1626 г.



Акт вялікага князя і караля Аўгуста III, якім пацвярджаліся ранейшыя прывілеі на магдэбургскае права Горадні. 1750 г.

Гербы беларускіх местаў. Адбіткі з дакументаў



Берасце



Полацак



Мазыр



Ушачы

Гарадскія паселішчы былі звычайна не надта вялікія і мелі дзве-тры тысячы жыхароў. Але існавалі і значныя гарады з больш чым 10-тысячным насельніцтвам – Магілеў, Віцебск, Берасце, Менск, Пінск. Да сярэдзіны XVI ст., калі пачалася Інфлянцкая (Лівонская) вайна, самым буйным у дзяржаве быў Полацак, які і колькасцю жыхарства, і багаццем перасягаў сталічную Вільню. Некаторыя дакументы сцвярджаюць, што колішняя сталіца Полацкага княства мела каля 100 тысяч насельнікаў.

У гарадах жылі пераважна рамеснікі і купцы, а таксама шляхта з прыслугаю. Гараджанаў называлі месцічамі, або мяшчанамі, ад слова «места», што ў тагачаснай беларускай мове азначала «горад». Насельніцтва нашых вялікіх гарадоў здаўна было шматэтнічным. У Полацку знаходзілася цэлая факторыя Ганзейскага гандлёвага хаўрусу нямецкіх гарадоў. Нямецкія супольні існавалі ў Берасці і Горадні. Ад часоў Вітаўта ў беларускіх местах сяліліся таксама габраі, татары, палякі.

Мяшчане часта цярпелі ад самавольства вялікакняскіх намеснікаў і імкнуліся мець сваю незалежную ўладу. Гаспадары дзяржавы таксама былі зацікаўленыя ў надзяленні гарадоў самастойнымі правамі, каб спрыяць іх гандлёва-рамеснаму развіццю і прывабіць туды новае насельніцтва. Магчымасці для стварэння ўласнага кіравання давала гораду магдэбургскае права.



Гарадскія пячаткі Менска (1591–1696 гг.) і Крычава (1734–1768 гг.). Адбіткі з дакументаў

Магдэбургскае (майдэборскае) права, або права горада на самакіраванне, упершыню ўзнікла пры канцы XIII ст. у нямецкім горадзе Магдэбурзе, адкуль хутка пашырылася па Еўропе.

## Гарадское самакіраванне

У нашай дзяржаве граматы (прывілеі) на магдэбургскае права выдавалі местам вялікія князі. Першай у 1387 г. такі прывілей атрымала Вільня, а следам за ёю, у 1390 і 1391 гг., – Берасце і Горадня. У грамаце на самакіраванне Полацку (1498 г.) гаспадар Аляксандар дакляраваў, што надзяляе горад правамі «на вечныя часы, каб людзі нашы, там жывучы, праз урад добры і справядлівы былі размножаныя».

Дадзены ў 1499 г. прывілей на магдэбургскае права Менску прадугледжваў, што месцічы могуць судзіцца толькі сваім судом, падаваць скаргі непасрэдна вялікаму князю і выбіраць уласнае кіраўніцтва. Менчукі не толькі вызваляліся ад шэрагу ранейшых павіннасцяў, але атрымлівалі права мець важніцу з капніцай (памяшканні, дзе ўзважвалі тавар і тапілі воск) і лазню, даходы ад якіх ішлі ў гарадскі скарб. Жыхары места Менскага маглі секчы дрэвы (на будоўлю і апал) у дзяржаўных лясах і пушчах.

Пячатка Жыгімонта Аўгуста з прывілея, якім пацвярджалася самакіраванне Горадні. 1540 г.



Менская ратуша, разбураная на загад расейскіх уладаў у сярэдзіне XIX ст., на пачатку XXI ст. была аднаўленая і стала адной з «візітовак» сталіцы незалежнай Беларусі. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2006 г.

### ХРАНАЛОГІЯ

1569 г. – Дзісна, Крынкі, Сураж.
1577 г. – Магілеў, Мазыр.
1581 г. – Пінск.
1582 г. – Дзвінск (Дынабург).
1585 г. – Вяліж.
1586 г. – Нясвіж.
1589 г. – Кобрынь.
1590 г. – Ліда, Любча, Пружаны.
1597 г. – Віцебск.
1611 г. – Смаленск.
1613 г. – Горкі, Жыровічы.
1620 г. – Ворша, Друя.
1623 г. – Невель, Рослаў, Себеж.
1625 г. – Дарагабуж, Красны, Старадуб.
1626 г. – Мглін.
1633 г. – Крычаў, Лагішын.
1634 г. – Амсціслаў, Чавусы.
1637 г. – Ружаны.
1641 г. – Чэрыкаў.
1643 г. – Орля.
1649 г. – Радунь.
1652 г. – Капыль, Клецак.
1654 г. – Заблудаў.





Нясвіжская ратуша з гандлёвымі радамі была пабудаваная ў XVI ст. Сучаснае фота

Жыхарам дазвалялася будаваць «клеці хлебныя», «камору пастрыгальную» і млын. Прывілей даваў права на свой гарадскі сцяг-харугву.

Магдэбургскае права мела большасць беларускіх гарадоў і мястэчкаў. Яно вызваляла жыхароў ад улады і суда намеснікаў, ваяводаў, старастаў ды іншых дзяржаўных асобаў. Мяшчане пазбаўляліся ад цяжкіх феадальных павіннасцяў, у тым ліку ад талок і «гвалтаў» (збораў на агульную працу), ад фурманкавай павіннасці (выдзялення фурманак), утрымання ганцоў і паслоў, неабходнасці выстаўляць варту-«старожу» на замках. Цяпер гараджане ахоўвалі толькі муры і брамы самога места.

Насельніцтва «вольных» гарадоў атрымлівала права гандляваць у дзяржаве без мытных падаткаў, збіраць прыбытак ад гарадскіх мераў, вагаў і крамаў, будаваць грамадскія будынкі і нават бровары. Мяшчане набывалі ў наваколлі значныя зямельныя абшары. Буйныя гарады будавалі для замежных купцоў адмысловыя гасціныя двары.



У правай частцы гэтага фрагмента абраза святога Мікалая, на думку даследнікаў, – выява полацкай ратушы. XVIII ст. Полацкі нацыянальны гістарычна-культурны запаведнік



Гарадская пячатка Нясвіжа. 1598–1765 гг.



Слуцкая брама ў Нясвіжы сустракае падарожнікаў ад 1690 г. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2005 г.

Абавязкі местаў з магдэбургскім правам зводзіліся да выплаты ў дзяржаўны скарб фіксаванага падатку, «чыншу карчомнага» і «сярэбшчыны» (надзвычайнага падатку на ваенныя мэты).




Прыбыццё маскоўскага пасольства ў Горадню. Ілюмінаваная гравюра М. Цюндта. 1568 г.



Магілеўская ратуша. Рэканструкцыя Данілы Рыбкіна. Будынак адноўлены ў 2008 г.



Адна з кніг Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. 1511–1518 гг.

## Магістрат

Местам кіравалі выбарны магістрат, які складаўся з дзвюх «палатаў» – рады і лавы. Рада займалася маёмаснымі і цывільнымі справамі мяшчанаў. Лава разглядала крымінальныя злачынствы.

У раду штогод на агульных выбарах горад абіраў радцаў (райцаў), у лаву – лаўнікаў. Калі насельніцтва належала да розных веравызнанняў, рада выбіралася на парытэтных асновах: палову месцаў мелі праваслаўныя, палову – каталікі. Да прыкладу, у прывілеі, дадзеным Вільні, адзначалася, што «палавіца тае рады закону Рымскага, а палавіца закону Грэцкага, так як абодвум права Магдэбургскае дано».

Раду ўзначальвалі выбарныя бурмістры, а лаваю кіраваў прысланы вялікім князем або прызначаны ўладальнікам горада войт. Але ў Воршы, Мазыры, Нясвіжы і ў некаторых іншых гарадах войта выбіралі самі месцічы. Паводле звычаю войт прысягаў на крыжы, што будзе верна служыць месту. Колькасны склад магістрата залежаў ад насельніцтва места: Полацак абіраў 24 радцы, Менск – 12, Навагрудак – 6.

Беларускія месты не проста механічна перанймалі заходнееўрапейскія нормы самакіравання, але дастасоўвалі іх да мясцовых асаблівасцяў і традыцыяў. Апрача магістрата судовыя справы ў Слуцку, Слоніме ды некаторых іншых гарадах разбіраў яшчэ і традыцыйны копны суд. У Полацку, Воршы, Віцебску, Амсціславе і Крычаве ў магдэбургскія органы ўвайшла вядомая ад вечавых часоў пасада сотніка.

Для паседжанняў магістрата будаваліся адмысловыя будынкі – ратушы (майдэборыі), якія разам з гербамі таксама былі своеасаблівымі сімваламі гарадской «вольнасці». У ратушы знаходзіліся канцылярыя, скарб і архіў, захоўваліся граматы з дадзенымі месту прывілеямі. Магістрат збіраў падаткі, сачыў за правільнасцю мераў і вагаў на рынках, бараніў інтарэсы сваіх гандляроў і рамеснікаў, падтрымліваў у месце належны парадак.



Рэстаўратары вярнулі Віцебскай ратушы аблічча, якое яна мела ў 1775 г. Фота 2006 г.



Trzeciy
Bożoiu Miłostiu Korol
Polski Wielikiy Kniaz Litowski Ruskiy Rusk Żmoydski
Mazowecki Inflianskiy Szwedskiy
Khotski Wandalski Dedyczny Korol

Віцебск атрымаў магдэбургскае права паводле прывілея вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы ў 1597 г.



Асуджаны магістрацкім судом арыштант у калодках. Гравюра 1578 г.

Гарадская ўлады не цырымоніліся з парушальнікамі. Напрыклад, месціч, які на людзях зняважыў бурмістра, пастановаю рады мог быць не толькі пазбаўлены на нейкі час права займацца рамяством, але й публічна пакараны бізуном на гарадскім пляцы.





Месцічы. Мініяцюра XIV ст.

## Патрыцыят і паспольства

Мяшчанства не было аднародным. Багатыя жыхары (патрыцыят) імкнуліся кіраваць паўнаўладна, бяднейшыя («паспольства») адстойвалі свае правы, патрабуючы, каб іх дэпутаты кантралявалі ўсю дзейнасць магістрата. Архіўныя дакументы паведамляюць, напрыклад, пра сход «полацкіх магістрацкіх асобаў усіх трох сесій і паспольства», які прапанаваў магістрату скласці пры ўдзеле паспалітых гараджанаў падатковы спіс і надалей збіраць падаткі «з багатага і ўбогага, без ніякае карунцыі».

Розніца паміж гарадскімі вярхамі і простымі рамеснікамі або гандлярамі была надзвычай вялікай. Запавет полацкага купца Якуба Хадыкі, складзены ў сярэдзіне XVII ст., сведчыць, што той меў чатыры крамы, прыгарадны маёнтак і жыў у доме, сцены якога аздаблялі «на палатне карцін шаснаццаць». У пераліку маёмасці і сродкаў згадваюцца 69 срэбных талерак, сподкаў і кубкаў, а таксама «476 копаў літоўскіх грошаў, 1600 чырвоных злотых, 349 шведскіх талераў» і доўг пазычальнікаў – 3850 копаў грошаў (капа – 60 штук).



Універсал віленскага патрыцыяту, накіраваны ў Лідскі павет з заклікам выправіць на з'езд у Вільню пасолаў, якія не прызнаюць абранне на вялікакняскі трон Жыгімонта Вазы. 1587 г.

Беларускія гарады сваім выглядам і арганізацыяй жыцця, культурай і побытам нагадвалі гарады ўсёй тагачаснай Еўропы. На ўсход ад Вялікага Княства Літоўскага, у Масноўшчыне, а потым у Расейскай імперыі, дзе панавала азіяцкая дэспатыя з яе адсталымі феадальнымі парадкамі, магдэбургскага права ніколі не існавала.

Але незалежна ад заможнасці жыхары места паводле магдэбургскіх прывілеяў мелі роўныя правы, якія замацоўваліся ў агульнадзяржаўных законах. Кожны мешчанін, у прыватнасці, мог прыцягнуць да адказнасці шляхціча – «калі каму з мяшчанаў нашых права майдэборскага каторая крыўда дзеяла ад князей, паноў і зямян і падданых іх... такога кожнага мешчанін маець да суду земскага павятовага пазваці».

Паспольства павялічвалася галоўным чынам за кошт сялянаў, якія ўцякалі ад прыгнёту сваіх уладальнікаў. Уцекачоў, што сяліліся ў месце, магістрат браў пад апеку і не дазваляў вяртаць былому гаспадару, якое б высокае становішча той ні займаў.



Гарадскія пячаткі Слуцка (1661–1698 гг.) і Шклова (1762–1767 гг.)



Адбудаваная ў 2000 г. Шклоўская ратуша, як і даўней, упрыгожвае гарадскі цэнтр. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2007 г.

Сцвярджаючы волю і правы асобы, магдэбургскае права ўлучала нашую дзяржаву ў прастору агульнаеўрапейскай цывілізацыі, адной з самых важных адметнасцяў якой і было гарадское самакіраванне.

# КУПЦЫ І РАМЕСНІКІ


Старадаўнія вагі. Музей-аптэка ў Горадні


Гэтая кахля з мудрагелістым арнаментам была знойдзеная ў мястэчку Мір. Першая палова XVI ст.

## Развіццё рамёстваў

Магдэбургскае права спрыяла развіццю рамяства, якое было асноўным заняткам мяшчанаў. У тагачасных беларускіх гарадах працавалі майстры каля 200 спецыяльнасцяў. Да прыкладу, у Магілеве іх налічвалася болей за 80: збройнікі, ліцейнікі, муляры, кафляры, разьбяры, катляры, каптаннікі, сярмяжнікі, саф'яннікі, піўвары ды інш.

Найбольшым попытам карысталіся вырабы кавалёў, краўцоў, шаўцоў, гарбароў, ткачоў, цесляроў, ганчароў, бондараў. Знаходзіла сваіх спажыўцоў і прадукцыя майстроў больш вузкай спецыялізацыі: капялюшнікаў, панчошнікаў, замочнікаў, залатароў, сярэбранікаў, чаканшчыкаў. У спісах збройнікаў «места Полацкага» згадваюцца парахоўнікі, мечнікі, шабельнікі, пішчальнікі. З полацкім портам было звязанае жыццё пільнікаў, стырнавых, майстроў па вырабе ветразяў. Далёка за межамі Княства славіліся беларускія майстры-гарматнікі.

Вырабы рамеснікаў звычайна спалучалі ў сабе практычную, эстэтычную і сімвалічна-абрадавую функцыі і часта былі сапраўднымі творамі мастацтва. Сярэднявечныя майстры, напрыклад ювеліры, нярэдка валодалі такімі тэхнічнымі сакрэтамі, якія з цяжкасцю раскрываюцца сёння.

Нашы таленавітыя землякі атрымлівалі запрашэнні з іншых краінаў. Да прыкладу, еўрапейскую вядомасць здабыў майстар Ян з Вільні, што ў 1562 г. стаў прыдворным ювелірам дацкага караля Фрэдэрыка II.

Частыя ваенныя дзеянні абумовілі развіццё лекарскай справы. Вялікай павагай карысталіся зельнікі – знаўцы лекавых раслінаў-зёлак. Шырокую спецыялізацыю мелі цырульнікі, якія не толькі займаліся пастрыганнем і галеннем, але і лячылі вывіхі і пераломы, рабілі хірургічныя аперацыі.


Шкляны посуд XVI ст. Рэканструкцыя паводле археалагічных знаходак


Скарбовы куфар. У такіх акутых жалезам скрынях з складанымі замкамі захоўвалі грошы, дакументы ды іншыя каштоўнасці. XVI–XVII стст.




Кахля з гербам Магілева. XVI ст.


Харугва гарадзенскага цэха млынароў


Гэтак званая «замкавая» цэгла ў драўлянай форме. Рэканструкцыя Андрэя Шулаева. 2005 г.


Знак старшыні гарадзенскага цэха муляроў, цесляроў і ганчароў. XVII ст.

## Майстры і цэхі

Бароначы свае інтарэсы ад канкурэнтаў, рамеснікі беларускіх гарадоў, як і ва ўсёй Еўропе, аб'ядноўваліся ў цэхі – своеасаблівыя тагачасныя прафесійныя звязы.


Фрагмент каклі з мужчынскай выявай з Маладзечанскага замка. XVI–XVII стст.

Стварэнне цэхаў прадугледжвалася граматамі на магдэбургскае права або асобнымі дакументамі, што горад атрымліваў ад гаспадара дзяржавы ці ад свайго ўладальніка.

Прывілей на заснаванне цэха звычайна меў статут, у якім пералічваліся правы і абавязкі ягоных удзельнікаў, зацвярджалася цэхавая пячатка, герб і харугва. Цэхавыя статуты падрабязна рэгламентавалі вытворчасць і збыт прадукцыі, якасць сыравіны і тавараў, тэхналогію, час і ўмовы працы. Цэхі існавалі практычна ва ўсіх гарадах і мястэчках. У Магілеве іх, да прыкладу, налічвалася 21, у Слуцку – 17, Берасці – 14, Менску – 9.

Размалёўка камяніцы на старадаўняй вуліцы Нямецкай (цяпер Вокечу) у Вільні. XVI ст.

Рамесніцкія цэхі мелі складаную герархію. Іх узначальвалі абраныя на год старасты-цэхмістры. Наступныя прыступкі займалі старэйшыя і малодшыя майстры, за імі ішлі падмайстры, чаляднікі, пахолкі і «хлопцы» (вучні). У вялікіх цэхах былі дапаможныя службоўцы – ключнікі, «сталовыя», пісары, шафары (бухгалтары).



Адмысловыя каваныя замкі з ключамі. Гарадзеншчына. XVI–XVII стст.


Зельніца, у якой захоўвалі лекавыя расліны – зёлкі. Рэканструкцыя


Рытуал замацавання дамовы на малюнку XVI ст.


У сярэднявечнага краўца. Фрэскавая размалёўка. 1500 г.


Праца на гуце. Мініяцюра XV ст.

Рамеснікі, якія не ўваходзілі ў прафесійныя суполкі, не маглі прадаваць свае вырабы на гарадскіх рынках і нават у ваколіцах. Так, полацкі цэх кушняроў і гарбароў карыстаўся правам за тры мілі ад горада канфіскоўваць ва ўсіх майстроў-аднаасобнікаў тавар, а іх саміх саджаць у астрог.


Прывілей Ягайлы з дазволам на раздробны гандаль сукном. 1405 г.


Келіх з скарбу, знойдзенага ў наш час у Віленскім катэдральным касцёле. Срэбра з пазалотай. Канец XVI ст.

Дзеля таго каб падняцца па цэхавай лесвіцы, найперш трэба было мець дакумент пра законнае нараджэнне, потым доўгія гады вучыцца і плаціць складкі. Да ўступлення ў цэх дапускалі людзей «жанатых і дабрачынных», а вось «п'яніцы або гульцы ў косці» з гэтай мараю мусілі развітацца.

Прэтэндэнт на пераход у майстры павінны быў вытрымаць цяжкое выпрабаванне – «зрабіць штуку», шэдэўр свайго майстэрства. Экзамен (яго дазвалялася здаваць тры разы) адбываўся пад пільным наглядам найлепшых прафесіяналаў, якія сачылі, каб кандыдат у майстры працаваў абсалютна самастойна. Каваль, да прыкладу, мусіў выштукаваць падкову, цясак і сякеру, а слесар – змайстраваць складаныя замкі для куфра і крамы. Экзамены завяршаліся шчодрым частаваннем экзаменатараў у карчме.




Сталы попыт у заможных ліцвіноў мелі аздобы з вышыванкамі


Апякун шаўцоў святы Валянцін. Малюнак з рукапіснай цэхавай кнігі XVII–XVIII стст.


Так званая «каробкавая» кахля з Брагінскага замка. Сярэдзіна XVI ст.

Рамеснікаў, якія не ўваходзілі ў цэхі ці былі выгнаныя з іх за парушэнне статуту, называлі «партачамі». Іх вырабы звычайна мелі меншы кошт, але і ніжэйшую якасць. Цэхавыя рамеснікі пераследвалі партачоў у судовым парадку і нярэдка выганялі з горадоў.


Праца ў вінярні. Гравюра 1568 г.


Рэліквар для мошчаў святога Станіслава. Выраб віленскага рамесніка XV–XVI стст.


У гэтым старадаўнім гаманцы трымаў грошы хтосьці з заможных гарадзенцаў


Скарбонка з кавана га жалеза. Другая палова XVI ст.


Звон, адліты беларускімі майстрамі ў 1679 г.


Месцічы робяць закупы. Гравюра XVI ст.



Нажніцы, якімі карысталіся ў першай палове XVIII ст.



Срэбны траяк часоў вялікага князя Жыгімонта Вазы. Аверс і рэверс. 1596 г.

## Гандаль

У цэхі аб'ядноўваліся таксама купцы, якім магдэбургскае права стварала лепшыя ўмовы для гандлю. Агульнадзяржаўныя і гарадскія прывілеі вызвалялі купцоў Вялікага Княства ад мыта за правоз тавараў цераз дзяржаўную мяжу, а таксама давалі ім іншыя перавагі. Іншаземныя купцы не маглі гандляваць ураздроб, а павінны былі здаваць тавар гуртам (оптам), хоць для кірмашоў рабілі выняткі. Дзеля абароны ўласнага рынку іспавалі своеасаблівыя «квоты» на продаж і набыццё замежнымі купцамі шэрагу тавараў. Да прыкладу, дадзены Полацку ў 1498 г. прывілей папярэджваў, што «ні адзін купец Рызскі, або каторы іншы чужы не мае моцы інака прадаваці і купаваці, толькі пад меру, надалей выпісаную».

Дзяржава і гарадскія ўлады патрабавалі стварэння ў прымежных гарадах «складаў» імпартных тавараў. Кожны купец-іншаземец пад пагрозаю канфіскацыі мусіў абвясціць колькасць, кошт і месца прызначэння свайго тавару, а потым заплаціць адпаведнае мыта. Апрача гэтага прыезджых купцоў чакалі іншыя зборы – «маставыя» (за пераезд цераз мост), «бруковыя» (за праезд па добрай дарозе), грэбельныя (за праезд па грэблі). Такая сістэма часта прыводзіла да таго, што замежнікі пакідалі свой тавар на складзе, а ўнутры дзяржавы ім гандлявалі мясцовыя купцы.

Найважнейшымі імпартнымі таварамі былі сукно, ядвабныя (шаўковыя) тканіны, палатно, медзь, волава, цына, соль, віно і прыправы. З Вялікага Княства ў Заходнюю Еўропу вывозілі найперш воск і футра. На экспарт ішлі таксама драўніна, вугаль, скуры, сала, смала, дзёгаць, паташ, жалеза, хмель. З канца XV ст. асноўным экспартным прадуктам стала збожжа. Галоўным гандлёвым шляхам дзяржавы, як і ў папярэднія стагоддзі, заставалася Дзвіна. Месты гандлявалі і з вёскай, дзе былі патрэбныя вырабы гарадскіх майстроў.



Білонавы падвойны пенязь. Аверс і рэверс. 1614 г.



Медны солід вялікага князя і караля Яна Казіміра. Аверс і рэверс. 1655 г.




Перш чым набыць знаёмую нам канструкцыю, вагі безліч разоў удасканальваліся. Музей-аптэка ў Гародні





Сярэднявечны цэхавы знак з выявай рыбы. Гародня

Карыстаючыся выгодным геаграфічным становішчам краіны, беларускія купцы актыўна гандлявалі з Прыбалтыкай, Польшчай, Нямеччынай, Чэхіяй, Вугоршчынай, Масковіяй.



Гандаль соллю, а таксама сушанай і вэнджанай рыбай. Гравюра 1555 г.

Раз ці два на тыдзень ва ўсіх гарадах і мястэчках адбываліся таргі. Рынак займаў самы вялікі гарадскі пляц. У Магілеве на ім стаялі больш за 400 крамаў.

У кожным буйным горадзе Княства можна было без праблем памяняць грошы іншай краіны. Тагачасныя «абменнікі» бралі за паслугу 4–5 адсоткаў. Ад XV ст. Вялікае Княства карысталася зручнай дзесятковай сістэмаю грашовых наміналаў, на якую шэраг еўрапейскіх дзяржаваў перайшоў толькі ў XIX ст.

Сцэнка на рынку. Акварэль Яна Пятра Норбліна. Канец XVIII ст.





Такія кубкі з біблійнымі сюжэтамі не былі рэдкасцю ў дамах багатых месцічаў



Шавец. Малюнак на камені. XVIII ст.



# ВІЛЬНЯ – СТАЛІЦА НАШАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Пячатка места Віленскага з дакументаў XVI–XVII стст.




План сталіцы Вялікага Княства. Гравюра Ф. Гогенбэрга. 1581 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

Сярэдзіна XI ст. – Утварэнне Віленскага княства.
1070 г. – У Вільні ўладарыць полацкі князь Расціслаў Рагвалодавіч.
1264 г. – Віленскае княства ўвайшло ў Вялікае Княства Літоўскае.
1323 г. – Вялікі князь Гедзімін перавёў у Вільню сталіцу дзяржавы.
1387 г. – Вільня атрымала прывілей на магдэбургскае права.
1401 г. – Віленска-Радамская вунія Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства.
1413 г. – Утварэнне Віленскага ваяводства.
1495 г. – Заснаванне Віленскага манетнага двара.



Рака Вілія непадалёку Вільні. Фота Яна Булгака. Пачатак XX ст.





Гедзімін будуе замак у Вільні. Гравюра з малюнка Міхала Андрыёлі. 1882 г.



Археалагічныя знаходкі з экспедыцыі Віленскага музея старажытнасцяў. Літаграфія сярэдзіны XIX ст.

### Крывы горад

Летувіскія гісторыкі трымаюцца думкі, нібыта Вільню заснаваў вялікі князь Гедзімін. Гэта не болей як прыгожая легенда, якая не вытрымлівае праверкі гістарычнымі фактамі. Ужо ў XI ст. на месцы сучаснай Вільні існавала заснаванае крывічамі гарадское паселішча, што першапачаткова называлася Крывым горадам. Славянскае паходжанне меў і пазнейшы назоў – ад ракі Вільні, якая тут зліваецца з Вяллёй (Віліяй).

Крывы горад (часам яго менавалі таксама Крывіч-горадам) быў сталіцаю ўдзельнага княства Полацкай зямлі. У ім валадарылі князі полацкай дынастыі: у 1070 г. – Расціслаў Рагвалодавіч, а пазней – ягоныя сыны. У часы вялікага князя Войшалка Віленскае княства ўвайшло ў Вялікае Княства Літоўскае. Крывы горад згадваецца ў гістарычных крыніцах яшчэ і ў XIV ст. Нямецкія хронікі паведамляюць, што гэта – «русінскае места». Назоў Вільня ўпершыню сустракаецца ў грамаце нямецкіх гарадоў Ганзейскага гандлёвага хаўрусу, датаванай 1323 г.



Пячатка Віленскага біскупства. 1654 г.

### Віленскае насельніцтва

Пераважная частка насельніцтва Віленскага княства, як і самой старажытнай Вільні, была крывічамі. Славяне, а дакладней нашыя продкі – беларусы-ліцвіны складалі бальшыню жыхароў Вільні на працягу некалькіх стагоддзяў. Паводле перапісу 1897 г., летувісаў сярод віленчукоў налічвалася менш за 2%.

Пра беларускі характар віленскага жыцця ў Сярэднявеччы і ў пазнейшы перыяд пераканаўча сведчыць гарадская тапанімія: вуліца Вялікая, Крывая (Лысая) гара, Зялёны мост, Траецкая, Мокрая, Вострая брама, прадмесці Зарэчча, Пагулянка, Паплавы, Папоўшчына.

Яшчэ адно яскравае сведчанне таго, што асноўным насельніцтвам тагачаснай Вільні былі праваслаўныя беларусы, – колькасць храмаў. У 1511 г. места Віленскае мела 14 праваслаўных цэркваў, у тым ліку Прачысценскую, Спасаўскую, Міхайлаўскую, Кацярынінскую, Пятніцкую, Юр'еўскую на Росах, Петрапаўлаўскую на Зарэччы... Побач з імі мірна стаялі сем касцёлаў, прыхаджанамі якіх таксама былі пераважна беларусы.

Апрача беларусаў і нязначнай колькасці жмудзінаў (летувісаў) у месце ад Альгердавых часоў жылі габраі і немцы. Гаспадар Вітаўт пасяліў тут частку крымскіх татараў, якія перайшлі да яго на службу і хутка збеларусіліся, але захавалі пры гэтым сваю рэлігію. У першай палове XV ст. вялікі князь Жыгімонт Кейстутавіч запрасіў сюды колькі дзясяткаў майстроў з Італіі і Польшчы.

Як і ва ўсёй дзяржаве, у Вільні панавала рэлігійная і нацыянальная талеранцыя.

Віленская партрэтная кахля XVI ст. уражвае сваім хараством і багаццем колеравай гамы



Не выклікае сумневу беларускае паходжанне абсалютнай большасці службовых асобаў, згаданых у актах Віленскага магістрата: войт Вышка, бурмістры і радцы Юрай Нястука, Васіль Фядкевіч, Гаўрыла Аліфаровіч, Мікола Сялькович, Рыгор Мэка...


Славутую Вострую Браму ў Вільні безліч разоў апявалі паэты. Пабудаваная ў стылі рэнесансу ў 1503–1522 гг. Фота Дзяніса Раманюка. 2006 г.

З Вільняй звязаная дзейнасць вялікакняскай канцылярыі, працоўнай мовай якой была беларуская. Пры канцылярыі захоўваўся дзяржаўны архіў – Метрыка Вялікага Княства. З пашырэннем кнігадруку там пабеларуску «бітымі літарамі» выдаваўся Статут – агульнадзяржаўны збор законаў.

## Палітычны цэнтр краіны

У 1323 г. Вільня пераняла ў старажытнага Навагародка ролю сталіцы. Падпісаная ўвосень таго самага года мірная дамова Вялікага Княства Літоўскага з Інфлянцкім ордэнам і Рыгай ужо называе места Віленскае сталічным і згадвае размешчаны ў ім палац гаспадара Гедзіміна.

У Вільні знаходзілася не толькі рэзідэнцыя вялікіх князёў, але і ўсе галоўныя дзяржаўныя органы і ўстановы. Тут звычайна збіралася вялікакняская Рада, найчасцей праводзіліся паседжанні Сойму, падпісваліся важныя міжнародныя дамовы. У 1401 г. князі і паны нашай дзяржавы замацавалі тут сваімі подпісамі і 40 пячаткамі акт Віленска-Радамскай вуніі з Польшчай. Ён пацвярджаў правы князя Вітаўта на самастойнае кіраванне, а абедзве дзяржавы рабіў раўнапраўнымі ўдзельнікамі палітычнага і вайсковага альянсу. Адным з вынікаў гэтай вуніі сталася Грунвальдская перамога над Тэўтонскім ордэнам.


Купчая, паводле якой віленская супольнасць рэфарматаў-евангелістаў набыла гарадскую капліцу ў старасты Пётры Стаброўскага. 1590 г.


Вялікая пячатка гаспадара Жыгімонта Старога, якой ён карыстаўся ў 1506–1544 гг.





Карта Вялікага Княства Літоўскага з прылеглымі землямі, створаная Г. Меркатарам і Ё. Гондыюсам. З атласа, выдадзенага ў 1607 г. у Амстэрдаме

Пасля Гарадзельскай вуніі 1413 г. Вільня зрабілася адначасова цэнтрам Віленскага ваяводства, куды напачатку ўваходзілі вялізныя абшары ад Вількаміра і Уцянаў на поўначы да Рэчыцы і Чачэрска на поўдні.

Ад 1416 г. у Вільні знаходзілася рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага.

Сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Гравюра XVII ст.




Срэбны траяк Жыгімонта Аўгуста. Аверс і рэверс. 1562 г.




Дукат вялікага князя Яна Казіміра. Аверс і рэверс. 1666 г.

У 1495 г. пачаў дзейнічаць Віленскі манетны двор – асноўны цэнтр грашовай эмісіі ў краіне. Аднак гісторыкі маркуюць, што манеты ў Вільні білі яшчэ значна раней – ад канца XIV ст. На ўсіх манетах нязменна адціскаўся дзяржаўны герб – «Пагоня».



Віленскі касцёл бернардзінцаў. XV ст.
Фота Дзяніса Раманюка. 2001 г.

## Гарадская культура

У сярэдзіне XVI ст. Вільня мела больш за 20 тысяч жыхароў і колькасцю насельніцтва саступала ўва ўсёй дзяржаве толькі Полацку.

Магдэбургскае права, атрыманае Вільняй у 1387 г., прычынілася да росквіту рамёстваў і гандлю. Вялікакняскі прывілей даваў мясцовым купцам права бязмытна гандляваць на ўсім абшары дзяржавы. Два разы на год у Вільні віравалі велізарныя кірмашы, на якія з'язджаліся купцы з дзясяткаў краін і гарадоў. У месце існавалі Нямецкі і Маскоўскі гандлёвыя двары. Віленскіх майстроў больш чым ста спецыяльнасцяў аб'ядноўвалі 20 рамесніцкіх цэхаў, першы з якіх – кушнерскі – узнік у 1458 г.





Фрагмент унікальнай познегатычнай фрэскавай размалёўкі Віленскага бернардзінскага касцёла, на якім адлюстраваны падзеі Інфлянцкай вайны. Другая палова XVI ст.



Выгляд Вільні на гравюры з кнігі С. Мюнстэра «Касмаграфія». 1550 г.

На пачатку XVI ст. горад уражваў замежных паслоў і падарожнікаў сваёй еўрапейскай планіроўкай, велічнымі храмамі і раскошнымі палацамі Радзівілаў, Хадкевічаў, Астрожскіх, Сапегаў, Кішкаў ды іншых беларускіх арыстакратаў. Памерамі Вільня была роўная Кракаву з усімі яго перадмесцямі. Тут налічвалася больш за 100 двух- і трохпавярховых мураваных будынкаў. Разам з нашымі ў Вільні працавалі архітэктары, запрошаныя з Нямеччыны, Галандыі, Італіі. Тады ўжо дзейнічаў першы гарадскі водаправод з драўлянымі трубамі.



ГРАММАТІКА.
...
Отрочатом.
...
Року...

«Граматыка славянскага языка». Друкарня Мамонічаў. Вільня. 1621 г.

Вільня зрабілася адным з еўрапейскіх культурных цэнтраў. Гістарычныя дакументы паведамляюць пра высокі ровень ведаў, якія давала заснаваная ў другой палове XIV ст. школа для дзяцей месцічаў. Апрача дзяржаўнай беларускай там выкладаліся лацінская, грэцкая, нямецкая і габрайская мовы. Больш за сто выпускнікоў школы паступілі ў Кракаўскі ўніверсітэт. У 1579 г. была заснаваная свая вышэйшая школа – Віленская акадэмія, якая мела ўніверсітэцкі статус.

На пачатку XVI ст. беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар Францішак Скарына выдаў у Вільні першыя ў Вялікім Княстве друкаваныя кнігі. Ягоную справу працягвалі тут Пётра Мсціславец, Кузьма, Лукаш і Лявон Мамонічы.



Старонка з кнігі «Апостал» Францішка Скарыны. Вільня. 1525 г.



Палац Сапегаў і катэдра ў Вільні. На другім плане руіны замка Гедзіміна. Акварэль Напалеона Орды. 1875 г.

Сталіцу нашай дзяржавы ў розныя часы наведвалі і знаходзілі тут гасцінны прытулак шмат якія выдатныя дзеячы еўрапейскай культуры. У 1413 г. вялікі князь Вітаўт з пашанаю прымаў у Вільні паплечніка Яна Гуса магістра Геранiма Пражскага, які цэлы год свабодна прапаведваў у нашай краіне гуманістычныя ідэі гусітаў. Пры вялікакняскім замку пад апекаю гаспадара Аляксандра жылі астраном Войцех з Брудзева і публіцыст Эразм Вітэлій.



Адзін з ідэйных правадыроў гусітаў, сябар і паплечнік Яна Гуса магістр Геранім Пражскі, які наведаў Вільню ў 1413 г. Тагачасная гравюра

# БЕЛАРУСКАЕ РЫЦАРСТВА

Попіс войска Вялікага Княства Літоўскага 1567 г. У часе попісаў рэгістраваліся і падлічваліся ўзброеныя сілы дзяржавы



Гістарычныя дакументы сведчаць, што ў 1528 г. Віленскае ваяводства давала ў шляхоцкае войска 3605 коннікаў, Троцкае – 2861, Падляшша – 1747, Полацак – 709, Пінск – 111... Тады сама князь Юрай Алелькавіч Слуцкі выстаўляў 433 кавалерыстаў, Канстанцін Астрожскі – 426, князі Сангушкі – 170. Населеная продкамі сучасных летувісаў Жамойць пасылала на вайну 1855 коннікаў. У татарскім войску Вялікага Княства тады налічваліся 673 конныя вояры.



На гравюры «Навуходаносар, цар вавілонскі, здабывае Ерусалім» паказаны баявыя шыхты і сутычка кавалерыі XVI ст. Чацвертая кніга «Царствы» Францішка Скарыны. Прага. 1518 г.

## Паспалітае рушанне

Асноваю войска Вялікага Княства Літоўскага на працягу некалькіх стагоддзяў заставалася ўсеагульнае апалчэнне, якое называлася паспалітым рушаннем. Паводле закону вайсковаабавязанымі былі ўсе мужчыны, што валодалі зямлёй. Апрача таго, кожны шляхціч выстаўляў добра ўзброеных і навучаных ваяроў. Іх колькасць вызначалася велічынёй зямельных уладанняў. Бараніць краіну выпраўляўся адзін ваяр ад васьмі гэтак званых службаў (служба была роўная дзвюм сялянскім гаспадаркам). Дробныя шляхціцы, які не меў сялянаў, ішоў у войска толькі сам. Ад княжання Вітаўта адметную частку нашага войска складалі беларускія татары. Часам узброеныя сілы дзяржавы папаўняліся аддзеламі прафесійных наймітаў-іншаземцаў.

Рыцарскі панцыр нямецкага тыпу. Некалькі такіх камплектаў былі зробленыя ў сярэдзіне XVI ст. на замову князёў Радзівілаў



Пастанову пра пачатак ваенных дзеянняў і склікание паспалітага рушання прымаў вальны Сойм. Па ўсіх паветах рассылаліся вялікакняскія ганцы з загадамі-універсаламі, дзе паведамлялася пра месца і час вайсковага збору.



Рыцарскі меч пачатку XVI ст. Гарадзенскі дзяржаўны гістарычна-археалагічны музей



Адналязовы меч – корд быў у XVI ст. тыповай зброяй конных рыцараў Вялікага Княства

Кожны павет выстаўляў сваю харугву. Злучаныя харугвы ваяводства ўзначальваў кашталян. Пасля адыходу шляхты з рушаннем на вайну за парадак у паветах адказвалі адмысловыя службовыя асобы – войскія.

Як і арміі большасці краінаў тагачаснай Еўропы, паспалітае рушанне складалася з двух асноўных частак – капійнікаў і стральцоў. Баявая адзінка з аднаго цяжкаўзброенага рыцара, які спецыялізаваўся выключна ў рукапашным баі, а таксама некалькіх стральцоў з лёгкім узбраеннем называлася кап'ём. Колькасць ваяроў у кап'і залежала ад фінансавых магчымасцяў землеўладальнікаў. Часам сустракаліся коп'і з адных капійнікаў або з адных стральцоў. Капійнікі і стральцы маглі быць коннымі або пешымі, але галоўная роля ў войску належала кавалерыі.

Такія тарчы з рэнесансавымі арнаментамі былі на ўзбраенні знатных еўрапейскіх ваяроў. Блізу 1600 г.

Пра падрыхтоўку нашых продкаў-ліцьвіноў да вайсковай службы ў паэме «Песня пра зубра» піша выдатны беларускі паэт XVI ст. Мікола Гусоўскі. У мірны час баявым станам рабіліся «бязмежныя пушчы і кожнае поле», дзе ваяры практыкаваліся ў коннай яздзе, валоданні мячамі, шаблямі і дзідамі, стральбе з лукаў і арбалетаў.

*Князь наш загадваў стварацъ у сваіх уладаннях*
*Лагер ваенны пры кожным паселішчы ў пушчах...*
*Выган пры вёсцы, і там ад відна да сутоння*
*Носяцца коннікі з гіканнем цугам па кругу,*
*Шабляй і стрэламі цэляць у вешкі...*
*Звычай у коннікаў быў сваё лукі ды стрэлы*
*Ўкручваць у клунак з адзежай і гэтак сухімі*
*Потым выносіць на бераг... Вось рынулі коні,*
*Пырханне чуеш адно, бачыш вушы ды храпы,*
*А на стырне, уп'іўшыся ў грывы, мільгаюць*
*Конных галовы. Свабодную левай рукою*
*Кожны грабе, памагае каню выбірацца...*

Каманду над сабраным агульнадзяржаўным войскам прымаў гетман. Існавалі пасады найвышэйшага (вялікага) і палявога гетмана. Іх маглі займаць толькі падданыя Вялікага Княства. У сярэдзіне XVI ст. пасада найвышэйшага гетмана стала пажыццёвай і ён ператвараўся фактычна ў вайсковага міністра: не толькі камплектаваў войска, але і распараджаўся яго фінансамі, адказваў за стан памежных замкаў, меў права суда і смяротнага пакарання падначаленых.

Арбалеты былі ўлюбёнай і вельмі эфектыўнай зброяй нашых ваяроў. Пачатак XVII ст.

## Узбраенне

Да зброі блізкага бою належала клінковая, дрэўкавая і абуховая. Сярод клінковай найбольш пашыраныя былі адна-, паўтара- і дзвюхручныя мячы. Разам з імі выкарыстоўваліся карацейшыя і аднаязовыя цесакі і корды. З часоў Вітаўта ў Вялікім Княстве вядомыя шаблі, якім спачатку належала галоўнае месца ў арсенале беларускіх татараў. Дакументы XVI ст. паведамляюць, што шаблі па распаўсюджанасці ўжо займалі другое месца пасля корда ва ўсёй кавалерыі. Ваяры добра валодалі кінжаламі, шпагамі і канчарамі – мячамі з доўгім кантовым клінком-джалам, прызначаным для прабівання панцыраў.

Кінжал-дага для левай рукі. Спічастая форма клінка і даўжыня блізу 50 сантыметраў дазваляла смяротна параніць нават закутага ў панцыр рыцара. 1650 г.



Узброены конны рыцар на гербе Вялікага Княства Літоўскага. З нямецкага гербоўніка 1530 г.



Частка рыцарскага панцыра славутага гетмана Юр'я Радзівіла, празванага «літоўскім Геркулесам». Нясвіжская збраёўня. 1525 г. Парыжскі Музей артылерыі



Меч саксонскага тыпу з пакрытым скураю дзяржальнам. Даўжыня 127 сантыметраў. 1520-я гады

Гэты двухлязовы меч італійскага тыпу меў даўжыню блізу 115 сантыметраў. 1570 г.



Пярнач з паўкруглымі пёрамі, прызначаны крышыць зброю непрыяцеля. Другая палова XVI ст.



Грознаю зброяй, здольнай прабіць рыцарскі шалом, быў пярнач з вострымі лопасцямі-пёрамі. Першая палова XVI ст.



Баявы цэп-кісцень з каваным ланцугом. 1520-я гады

Частка панцыра баявога каня Мікалая Радзівіла Чорнага. 1555 г. Узбраенне гэтага знакамітага рыцара і выдатнага дзяржаўнага дзеяча захоўваецца цяпер у музеях Вены і Парыжа

Вельмі пашыранай наступальнай дрэўкавай зброяй і ў конных, і ў пешых ваяроў былі дзіды (коп'і) розных тыпаў: рагаціны, вошчапы, суліцы. У баі з цяжкай варожай конніцай найбольшы эфект давалі алебарды. Гэта было ўдалае спалучэнне дзіды, сякеры і крука, прызначанага для сцягвання кавалерыста з каня. Побач з алебардамі на ўзбраенні знаходзіліся бердышы і «партызаны» (пратазаны) – своеасаблівыя дзіды з доўгім і шырокім двухлязовым зрэзнем.



Шляхоцкі герб «Высокі II»

Абуховая зброя складалася з сякераў, чаканаў, кляўцоў (баявых молатаў для прабівання панцыраў), кісцянёў (баявых цапоў), булаваў, пярначоў (булаваў з сталёвымі пёрамі). Важнай часткаю баявога арсенала традыцыйна заставаліся лукі і арбалеты (самастрэлы).





Шляхоцкі герб «Вуж»

Ад варожых куляў і ўдараў ваяра абаранялі разнастайныя панцыры, шаломы і шчытытарчы.

Апрача кавалерыі і пяхоты нашае войска славілася артылерыяй. У сярэдзіне XVI ст. у Вільні дзейнічала вядомая ў Еўропе людвісарня (гарматня), дзе за дзень маглі вырабіць 18 гарматаў, што стралялі чыгуннымі ядрамі. Іншая славутая людвісарня знаходзілася ў Нясвіжы. Шмат якія з нясвіжскіх гарматаў, што вылучаліся сваімі баявымі характарыстыкамі, мелі нават свае назовы («Гідра», «Сава»).

Войска нашай дзяржавы было ўзброенае нароўні з арміямі іншых еўрапейскіх краінаў. Жаўнеры мелі агняпальную зброю – ручніцы і аркебузы, а таксама ручную халодную, якая падзялялася на некалькі відаў.



Баявыя алебарды сярэдзіны XVI ст.



Такія цяжкія рыцарскія панцыры сярэдзіны XVI ст. выкарыстоўваліся «капійнай» кавалерыяй, якая ў бітве праломвала варожыя шыхты. Капійнікаў паступова замянілі гусары, што таксама мелі цяжкае ўзбраенне





Узоры тагачаснай агняпальнай зброі з рыцарскай кнігі, якая належала імператару Святой Рымскай імперыі Максіміляну I. 1502 г.





Шляхоцкі герб «Забава»

Шляхоцкія гербы «Вадвіч» і «Вол»

## Рыцарства

Правы і абавязкі рыцараў, якія не складалі асобнага стану, а былі заможнейшай часткаю шляхты, рэгламентаваліся законам. Найперш ваяры мусілі клапаціцца пра ўзбраенне. Рыцар меў права выехаць у іншую дзяржаву (апрача непрыяцельскай) «дзеля прымнажэння славы». Побач з ідэаламі роўнасці і ўзаемадапамогі рыцарскі кодэкс патрабаваў падтрымліваць царкву, бараніць слабых, шанаваць жанчыну,



Партрэт выдатнага дзяржаўнага і вайсковага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага канцлера Мікалая Радзівіла Чорнага, створаны Тыцыянам. 1550 г.



Уладзіслаў Ельскі ў рыцарскім панцыры. Невядомы мастак пачатку XIX ст.



Паручнік Крыштоп Тэабальд Завіша. Невядомы мастак першай паловы XIX ст.



дэманстраваць асабістую мужнасць, а таксама дбаць пра адукацыю і навуку. Правілы не дазвалялі забіваць праціўніка ззаду. Пячатка ганьбы клалася на таго, хто ў двубоі конны забіў пешага або ўзброены – безбройнага.

Найгалоўнейшымі з рытуалаў былі цырымонія рыцарскага пасвячэння і турніры. Асабліва часта турніры, ладжаныя паводле класічных еўрапейскіх правілаў, адбываліся ў Вільні за гаспадаром Жыгімонтам Аўгустам. У 1547 г. на вялікія рыцарскія спаборніцтвы ў сталіцу Вялікага Княства з'ехаліся арыстакраты з дзесяці краінаў. У турнірных міжбоях выступаў сам вялікі князь.

Вандроўных ваяроў з берагоў Дзвіны, Дняпра і Нёмана можна было бачыць пры дварах манархаў розных дзяржаваў. Шмат хто з нашых рыцараў браў удзел у заходнееўрапейскіх турнірах. Турнірныя гербоўнікі мелі асобныя раздзелы, прысвечаныя рыцарству Вялікага Княства Літоўскага.

Тырольскі герцаг Фердынанд у 1581 г. намерыўся стварыць у фамільным замку музей «еўрапейскай славы». Ён звярнуўся да самых знакамітых рыцараў з просьбаю прысласць сваю зброю. У іх лік трапілі нашы суайчыннікі Радзівілы – Мікалай Руды і Мікалай Чорны. Цяпер іх парадныя панцыры экспануюцца ў Венскім гістарычным музеі.



Частка панцыра князя Мікалая Радзівіла Чорнага. 1555 г. З калекцыі Венскага гістарычнага музея

У Вялікім Княстве Літоўскім, як і ў іншых еўрапейскіх краінах, існавала рыцарства. У 1387 г. гаспадар Ягайла паставіў подпіс пад граматай, дзе ўпершыню згадваюцца «рыцары і баяры». Гэтую дату можна лічыць пачаткам пашырэння рыцарскіх традыцыяў у нашай дзяржаве.

У XV ст. беларускае рыцарства здабыло сабе славу пад Грунвальдам і ў гусіцкіх войнах, дзе нашы суайчыннікі змагаліся на баку чэхаў.



Сябар сучаснага рыцарскага клуба на фэсце сярэднявечнай культуры. Фота Анатоля Кляшчука. 2002 г.

Шляхта нашай дзяржавы лічыла сябе нашчадкамі ваяўнічых, вольных і ўдачлівых сарматаў, якія за тысячу гадоў да гэтага былі ўладарамі велізарных еўрапейскіх абшараў і кідалі выклік самому Рыму. Новыя сарматы кіраваліся дэвізам «Жыццё – Айчыне, гонар – нікому». Сёння ўяўленне пра рыцараў Вялікага Княства Літоўскага дае асобны гістарычны жанр жывапісу – так званы сармацкі партрэт.

Традыцыі беларускага рыцарства належаць не толькі гісторыі. Цяпер у адным Менску дзейнічае блізу пятнаццаці рыцарскіх клубаў, а ў краіне іх болей за трыццаць. Яны рэгулярна бяруць удзел у святкаванні гадавінаў Грунвальдскай і Аршанскай перамог. У Менску, Навагрудку, Нясвіжы адбываюцца міжнародныя рыцарскія фэсты. Разам з турнірамі ў іх праграму ўваходзяць бугурты (штурмы абарончага ўмацавання), спаборніцтвы лучнікаў і арбалетнікаў, конкурсы старадаўніх строяў.

Вобразы рыцараў Вялікага Княства стварыў у XVI ст. невядомы аўтар жывапіснага батальнага твору «Бітва пад Воршай», які захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. На гэтай карціне першы раз з'яўляюцца бел-чырвона-белыя баявыя штандары ваяроўліцьвіноў.

# АБАРОНА АД МАСКОВІІ І ТАТАРАЎ

«Стаянне» ў 1480 г. маскоўскіх і татарскіх войскаў на рацэ Угры – мяжы паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масковіяй. Лічыцца заканчэннем яе залежнасці ад Залатой Арды. Мініяцюра XVI ст.




Масква.
Гравюра Г. Браўна і Ф. Хогенберга. 1575 г.

Пасля захопу туркамі ў 1453 г. Канстанцінопаля і гібелі апошняга візантыйскага імператара Масква заявіла аб сваіх прэтэнзіях на ролю «трэцяга Рыму». Крамлёўскія ўладары называлі сябе спадкаемцамі «істинно христианского царства» – Візантыі, а значыцца, выратавальнікамі хрысціянаў ад усіх «паганых» і «раскольнікаў». Маскоўскія князі з дапамогаю сваёй царквы пашыралі байкі пра іх паходжанне ад імператара Аўгуста. «Два Рима пало, а Москва третий есть, а четвертому не быти», – заяўлялася ў дзяржаўных дакументах.



Прывоз ноўгарадскага вечавога звона ў маскоўскі Крэмль. Мініяцюра XVI ст.

## «Трэці Рым»

Тэўтонскі ордэн быў разгромлены, але праз некалькі дзесяцігоддзяў нашая дзяржава сутыкнулася з новай небяспекай, цяпер ужо на ўсходзе, дзе ўзмацнілася Маскоўскае княства. Яго вызваленне ад татарскага прыгнёту, гэтай найвялікшай трагедыі расейскага народа, было толькі вонкавым. Маскоўшчына пераняла дзяржаўную будову Арды і, па сутнасці, зрабілася яе адлюстраваннем. Пра гэта сведчыла жорсткае адзінаўладдзе, сляпая падначаленасць «холопов государевых», чынгісханаўская ідэя ўлады над усім светам. У татараў пазычылі і арганізацыю войска, і тактыку выпаленай зямлі, і нялюдскія расправы з насельніцтвам сумежных дзяржаваў, што было прадэманстравана пры знішчэнні Ноўгарадскай і Пскоўскай рэспублік.

### ХРАНАЛОГІЯ

1480–1541 гг. – Жыццё і дзейнасць Юр'я Радзівіла.
1492–1494 гг. – Першая вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім.
1500–1503 гг. – Другая вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім.
14 ліпеня 1500 г. – Бітва на рацэ Вядрошы.
5 жніўня 1506 г. – Разгром татараў пад Клецкам.
1507–1508 гг. – Трэцяя вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім.
1508 г. – Перамога над татарамі каля Слуцка.
1512 г. – Разгром татарскай арды пад Вішняўцом на Гарыні.






Вялікі князь Казімір Ягайлавіч. Медаль XVIII ст. Срэбра. Аверс

## Пачатак войнаў з Маскоўшчынай

Маскоўскі князь Іван III, узяўшы шлюб з пляменніцай апошняга візантыйскага імператара Соф'яй Палеалог, абвясціў сябе абаронцам усіх праваслаўных Усходняй Еўропы і ў 1478 г. запатрабаваў ад вялікага князя Казіміра Ягайлавіча «Полацка, Віцебска, Смаленска ды іншых земляў рускіх». Наступны гаспадар нашай дзяржавы Аляксандр Казіміравіч адразу пасля бацькавай смерці мусіў уступіць у распачатую Маскоўшчынай у 1492 г. вайну за гэтак званую «вотчыну». Падпісанае замірэнне 1494 г. Аляксандр замацаваў шлюбам з дачкой Івана III Аленай. Аднак гэты дынастычны шлюб не прынёс спакою. Двор вялікай княгіні ў Вільні стаў прыкрыццём для дзейнасці маскоўскіх выведнікаў.

У 1500 г. Іван III зноў накіраваў на Вялікае Княства велізарнае 40-тысячнае войска. 14 ліпеня каля рэчкі Вядрошы на Смаленшчыне захопнікі ўбачылі перад сабой гатовыя да бітвы нашыя харугвы, дзе было ўсяго чатыры з паловаю тысячы вояроў. Яны біліся з неверагоднай мужнасцю і амаль усе загінулі. У выніку той вайны нашая дзяржава часова страціла 19 гарадоў, у тым ліку Гомель, Чарнігаў, Бранск, Старадуб, Невель і Вяліж.

Праз некалькі гадоў вальны Сойм Княства пастанавіў склікаць паспалітае рушанне і адваяваць свае землі. Не чакаючы гэтага, маскоўскае войска ўварвалася ў Беларусь з поўначы і ўсходу. Варожыя ваяводы паведамлялі свайму гаспадару Васілю III, што «землю воевали мало не до Вильны, везде огонь пускали, и шкоды чинили и полону на колко десять тысяч взяли». Аднак здабыць непрыяцель здолеў толькі Друцак. Ворша, Слуцак, Клецак, Слонім, Наваградак ды іншыя гарады абараніліся. Асаблівая мужна два тыдні адбіваў прыступы захопнікаў Менск, які разам з невялікім гарнізонам баранілі ўсе мяшчане.

Пры аблозе тагачасных гарадоў часта выкарыстоўваліся «бліды» або «трыбушэты» – кідальныя машыны вагарнага дзеяння, якія пасылалі камяні на сотні метраў



Маскоўскі князь Васіль III распачаў дзве захопніцкія вайны з нашай краінай. Гравюра 1575 г.




Маскавіты, гатовыя да паходу. Гравюра 1605 г.

Трэцяя вайна скончылася «вечным мірам» 1508 г., але праз чатыры гады Масква распачала чарговую інтэрвенцыю.

Турэцкі султан Баязід II (справа) з татарскімі васаламі. Фрагмент мініяцюры XVI ст.



Татары гоняць палонных у няволю. Ілюмінаваная гравюра XV ст.

Змены ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XV – першай трэціне XVI ст.

Мяжа Вял. Кн. Літ. у 1486 г.
Даты далучэння тэрыторый:
1503 да Масквы 1508 да Вял. Кн. Літ.
Тэрыторыі, далучаныя да Вялікага княства Маскоўскага:
у 1494 г. у 1503 г.
у 1522 г. у 1537 г.
Тэрыторыі, вернутыя ў склад Вял. Кн. Літ.:
у 1508 г. у 1537 г.
Сучасная мяжа Беларусі

## Наезды стэпавікоў

Яшчэ адным небяспечным ворагам Вялікага Княства ў гэты час зрабілася Крымскае ханства, якое ўзнікла пасля распаду Залатой Арды. У другой палове XV ст. яно ператварылася ў васала Асманскай імперыі і адначасова ўчыніла пагадненне пра хаўрус з Масковіяй. Выпраўляючыся ў захопніцкія наезды, татары пустошылі Падолле, Валынь, Кіеўшчыну, урываліся на Берасцейшчыну ды іншыя беларускія землі. У 1497 г. была паруйнаваная Мазыршчына.

Амаль штогоду татары палілі гарады і вёскі, гналі ў няволю тысячы палонных. Нашыя войскі разбілі захопнікаў у 1503 г. пад Давыд-Гарадком, але наезды не спыняліся.

Хаўруснік татараў маскоўскі князь Іван III вымагаў ад крымскага хана хадзіць «да Слуцка, і да Турава, і да Пінска, і да Менска». Двойчы татарскія загоны нападалі на беларускую зямлю ў 1503 г., а ў 1505-м іхная 5-тысячная конніца зрабавала менскія ваколіцы.



Бронзавая фальканета з вайсковых аддзелаў Радзівілаў. XVI ст.





Шляхоцкі герб «Глінскі»

## Бітва пад Клецкам

Улетку 1506 г. на Беларусь рушыла 20-тысячная конная арда, якую вялі крымскія «царэвічы» Біці і Бурнаш. Супроць яе выйшлі харугвы навагрудскага, гарадзенскага і менскага рушання. 6 жніўня нашае войска на чале з князем Міхайлам Глінскім сустрэлася з ворагам непадалёку ад Клецка.

Пад камандаю князя было блізу 10 тысяч вояроў, але адрозна ад захопнікаў яны мелі апрача лукаў і агняпальную зброю – ручніцы і некалькі гарматаў. Пад іх заслонай ліцьвіны загацілі дзве пераправы цераз раку Лань. Аднак правы фланг нашага войска паспяшаўся перабрацца на другі бераг і трапіў пад зніштачальны націск лепшых татарскіх сечкароў.

Князь Глінскі здолеў паскорыць пераправу астатніх сілаў, і харугвы «левай рукі» ўдарылі ўпоперак варожых загонаў. Шляхоцкая конніца ў сталёвых панцырах рассекла шыхты стэпавікоў на дзве часткі. Тым часам перайшло ў наступ і войска «правай рукі». Частка татараў апынулася ў абцугах і была пасечаная, астатнія ратаваліся ўцёкамі. Пагоня пераймала іх каля Слуцка, Петрыкава і нават ва Украіне. Усяго некалькі сотняў з вялікага войска дабраліся да Крыма. Вяры Міхайлы Глінскага вызвалілі 40 тысяч палонных беларусаў-ліцьвіноў і адбілі ў ворага 30-тысячны табун коней.

Падзеі гэтага вайсковага трыюмфу захоўваюць як пісьмовыя крыніцы, так і людская памяць. Яшчэ ў XIX ст. на месцы перамогі ўзвышаўся крыж. У 1996 г. героям тае бітвы нашчадкі ўшанавалі помнікам.

Пазней, у 1508 г., нашыя продкі разбілі татараў каля Слуцка, а ў 1512 г. 5-тысячнае войска Вялікага Княства разграміла 25-тысячную арду пад Вішняўцом на Гарыні. У гісторыі засталася і бітва на рацэ Альшаніцы недалёка ад Кіева, дзе вяры-ліцьвіны ў 1527 г. вярнулі свабоду 80 тысячам нашых суайчыннікаў.



Бітва з татарамі. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні паводле больш ранняга дрэварыту з «Хронікі ўсяго свету» Марціна Бельскага (Кракаў). 1551 г.)





Турак. Ілюмінаваная гравюра канца XV ст.

Клецкая бітва сталася першай буйной перамогай над крымскімі татарамі. Напалоханы хан Менглі-Гірэй пачаў мірныя перамовы і на нейкі час ператвараўся ў хаўрусніка Вялікага Княства Літоўскага.

Партрэт канцлера Мікалая Радзівіла, бацькі «літоўскага Геркулеса». Невядомы мастак XVII ст.



Пераправа князя Юр'я Радзівіла цераз Дняпро на карціне «Бітва пад Воршай». Пачатак XVI ст.



## «Літоўскі Геркулес»

У абароне Айчыны ад захопнікаў з усходу і поўдня праславіўся князь Юрай Радзівіл. Лаўры пераможца даставаліся яму ў трыццаці бітвах.

Сучаснікі так і называлі яго – Victor, што ў перакладзе з лаціны азначае «пераможца». Юрай Радзівіл заслужыў таксама ганаровае імя «літоўскі Геркулес».

У 1511 г. ён разам з князем Юр'ем Слуцкім і кіеўскім ваяводам Андрэем Неміровічам (які паходзіў з Навагрудчыны) у выніку начнога нападу на татарскі лагер вызваліў некалькі тысяч палонных ліцьвіноў. Праз год Радзівіл удзельнічаў у пераможнай бітве пад Вішняўцом, а затым вызначыўся ў знакамітым разгроме маскоўцаў пад Воршай.

На чале шляхоцкага рушання ў 1519 г. Юрай Радзівіл спыніў пад Крэвам маскоўскае войска, якое рвалася да Вільні. У тым самым годзе ён з уласным рыцарскім аддзелам дапамагаў Польшчы ў вайне з Тэўтонскім ордэнам. Невялікі корпус «літоўскага Геркулеса» ўзяў варожыя замкі Голанд, Брандэнбург, Любаву і змусіў крыжакоў прасіць міру. Атрымаўшы пры канцы жыцця булаву вялікага гетмана, князь Юрай вызваліў ад маскоўскіх захопнікаў Гомельскую і Старадубскую землі.

У бітве польска-вугорскага войска з арміяй турэцкага султана і ягоных васалаў пад Варнай у 1444 г. сілы хрысціянаў былі разгромлены, а сын Ягайлы польскі кароль Уладзіслаў III загінуў. Пасля гэтага татарскія наезды на нашую дзяржаву зрабіліся больш частымі. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.



«Літоўскі Геркулес» стаў заснавальнікам біржаўска-дубінкаўскай галіны роду Радзівілаў, якая дала шмат выдатных вайсковых і дзяржаўных дзеячоў. Ягоная дачка Барбара – жанчына незвычайнай прыгажосці і трагічнага лёсу – была жонкай вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, а сын Мікалай, названы Рудым, гэтаксама застаўся ў гісторыі як мужны абаронца нашай краіны ад ворагаў.



План Біржаў (цяпер Біржай у Летуве) – галоўнай рэзідэнцыі запачаткаванай Юр'ем Радзівілам біржаўска-дубінкаўскай галіны гэтага роду. Гравюра Тамаша Макоўскага. Блізу 1600 г.



Герб з акта пра наданне роду Радзівілаў княскага тытула. 1547 г.



Партрэт Барбары Радзівіл. Невядомы мастак XVII ст.



Дзяржаўны і ваенны дзяяч Вялікага Княства, вялікі гетман Юрай Радзівіл здабыў еўрапеўскую славу палкаводца, атрымаўшы перамогі ў трыццаці бітвах. Партрэт з Нясвіжскай калекцыі Радзівілаў. Невядомы мастак першай паловы XVII ст.



Татарскі хан. Гравюра з малюнка XVI ст.

# АРШАНСКАЯ БІТВА



Выява Аршанскага замка на керамічным фрагменце. XVII ст.



Маскоўскі князь Васіль III вёў у дачыненні да нашай дзяржавы непрыхавана агрэсіўную палітыку. Гравюра XVI ст.

## Новая вайна

Увосень 1512 г. маскоўскі князь Васіль III, што любіў паўтараць: «Пакуль конь мой хадзіць будзе і меч секчы, не дам спакою Літве», распачаў новую інтэрвенцыю. Маскве на той час удалося схіліць на свой бок імператара Святой Рымскай імперыі Максіміляна I. У таемную кааліцыю супраць нашай дзяржавы мелі ўвайсці Прусія, Данія, Саксонія.




Нямецкі «лятучы лісток» з паведамленнем пра вайну Вялікага Княства Літоўскага з Масковіяй. 1514 г.



Прыбыццё ў 1514 г. маскоўскіх паслоў да імператара Святой Рымскай імперыі Максіміляна I. Гравюра XVI ст.

Непрыяцельскія палкі, якія вялі баярын Чаляднін і князь Булгакаў-Голіца, складаліся пераважна не з простых ратнікаў, а з баяраў, дваранаў і «дзяцей баярскіх». Вялікі князь Жыгімонт Стары выслаў насустрач ворагу 30-тысячную армію. Абсалютную большасць яе складалі нашыя продкі – рыцары-ліцвіны з усіх беларускіх паветаў. Часткаю войска Вялікага Княства Літоўскага былі блізу 3 тысяч наймітаў-палякаў, якія ваявалі пад нашымі сцягамі і атрымлівалі заробак з вялікакняскага скарбу. (Сцвярджанні польскіх гісторыкаў, нібыта ў арміі, што выступіла супраць захопнікаў, знаходзілася 17 тысяч польскіх кавалерыстаў і пяхотнікаў, ёсць фантастычнымі, бо не падмацоўваюцца ніякімі гістарычнымі крыніцамі – нічым, акрамя імкнення ўсялякім спосабам падкрэсліць вырашальную ролю палякаў.)

Аддзеламі лёгкай конніцы Княства камандаваў празваны «літоўскім Геркулесам» палкаводзец Юрай Радзівіл, які пазней стаў найвышэйшым гетманам дзяржавы. Асобныя аддзелы кавалерыі былі ў падпарадкаванні Івана Сапегі. На чале арміі стаяў найвышэйшы гетман Канстанцін Астрожскі.

На трэці год вайны амаль 100-тысячная арда захопнікаў злолела ўзяць Смаленск і рушыла ўглыб Вялікага Княства на Друцак і Воршу. «Войскі літоўскія да Масквы як быдла пугамі прыгнаць!» – такі загад даў сваім ваяводам Васіль III, якому ўжо мроілася поўная перамога.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1460(?)–1530 гг. – Жыццё і дзейнасць Канстанціна Астрожскага.
1512–1522 гг. – Чацвертая вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім.
8 верасня 1514 г. – Аршанская перамога.
1534–1537 гг. – Пятая вайна Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім.
1535 г. – Войска Вялікага Княства вызваліла ад захопнікаў Гомельскую і Старадубскую землі.






Астрожскі замак. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 2006 г.



Шляхоцкі герб «Астрог», якім карыстаўся род Астрожскіх

## Гетман Канстанцін Астрожскі

Старажытны род Астрожскіх паходзіў з тураўскіх князёў. Мужчыны з гэтага роду спрадвеку славіліся ваярскім майстэрствам. Князь Канстанцін яшчэ ў юнацтве выявіў талент ваяводы. Ён стаў адным з герояў барацьбы з крымскімі татарамі: некалькі разоў разбіваў іхныя аддзелы і аднаго разу захапіў у палон самога хана Махмет-Гірэя.

Ацаніўшы заслугі Астрожскага ў абароне Айчыны, гаспадар Аляксандр у 1497 г. прызначыў яго найвышэйшым гетманам – начальнікам усіх узброеных сілаў Вялікага Княства. Князю Канстанціну было ўсяго 37 гадоў. Ніхто раней не атрымліваў гэтай высокай пасады ў такім маладым веку.

Апрача вайсковых клопатаў гетман Астрожскі будаваў цэрквы і манастыры, адчыняў школы і шпіталі. Па колькасці зямлі і сялянаў ён быў тады другім у дзяржаве пасля віленскага ваяводы А. Гаштаўта і выстаўляў з сваіх маёнткаў у войска больш за 400 конных ваяроў.



Найвышэйшы гетман Канстанцін Астрожскі святкаваў перамогу больш чым у шасцідзесяці бітвах. Невядомы мастак першай паловы XVII ст.



Канстанцін Іванавіч Астрожскі перад бітвай. Мастак Павел Татарнікаў. 2006 г.

Цяжкія выпрабаванні напаткалі гетмана ў 1500 г. У бітве на рацэ Ведрошы, дзе маскоўскія захопнікі мелі перавагу ў дзесяць разоў, войска Астрожскага амаль цалкам палегла, а сам ён трапіў у палон. Адмовіўшыся ад выгадных прапановаў маскоўскага князя, гетман праз сем гадоў змог уцячы і вярнуцца на радзіму.

За сваё жыццё Канстанцін Астрожскі перамог у шасцідзесяці трох бітвах, але вечную славу яму прынёс трыюмф пад Воршай.



Пернач з шасцю ўдарнымі пёрамі. Першая палова XVI ст.



Рыцарскі наруч меў складаную канструкцыю з наплечніка, верхняй і ніжняй трубаў, а таксама налокніцы

Перад бітвай гетман, стоячы пад дзяржаўным сцягам з «Пагоняй» і выявай Багародзіцы, звярнуўся да сваіх ваяроў з кароткай гарачай прамовай: «Мужныя рыцары! Няхай адвага і храбрасць вашы будуць вартыя слаўных бацькоў!..»





Шляхоцкія гербы «Рох» і «Задора»


78 Opisanie

złaczywszy sie Krol/ ciagnał z ludem służebnym do Minska. Co Glinski vsłyszawszy / zaraz od Minská odciagnał / á pod Borysow z Moskiewskim ludem prosto sie vdał. Krol też zszykowawszy znowu vssy v Minská/ciagnał po nim/ y dogonil go v Orszey nád Dnieprem / gdzie mu iuż ono woysko Moskiewskie ze dwiemá pomienionymi Hetmány w sześćidziesiat tysiecy ludu przybyło : Przeto zrozumiawszy oni wodzowie / że Glinski vcieká/ á Krol Zygmunt zá nim idzie / wnet z niespodziáney trwogi vpádło im ono serce hárde/ y záraz vwodzili woyská swoie w sámey vcieczce nádzieie pokładáiac : á przepráwiwszy sie názad z

Glinski pod Minskiem.

wielko

Пачатак Аршанскай бітвы. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

Дзвюхручны меч і на пачатку XVI ст. заставаўся грознай зброяй

## Разгром маскоўцаў

На самым пачатку восені 1514 г. маскоўскія ваяводы з велізарным 80-тысячным войскам наблізіліся да Воршы. Тут 8 верасня, у дзень нараджэння Дзевы Марыі, на рацэ Крапіўне і адбылася вырашальная бітва.

Маючы амаль трохразовую колькасную перавагу над Астрожскім, ваяводы Чаляднін і Булгакаў-Голіца не сумняваліся ў лёгкай перамозе. Яны лічылі, што здольныя разбіць ліцьвіноў, нават дзейнічаючы паасобку. Самаўпэўненасць саслужыла ім дрэнную службу, але галоўную ролю ў далейшых падзеях адыграў талент Астрожскага і гераізм нашых ваяроў, якія баранілі родную зямлю.



Рыцарскі панцыр. 1540 г.





Шляхоцкі герб «Вашкевіч»



Князь Юрай Радзівіл у Аршанскай бітве камандаваў правым флангам нашага войска. Невядомы мастак XVIII ст.



Фрагмент карціны «Бітва пад Воршай», які адлюстроўвае ўдалыя дзеянні нашай кавалерыі. Пачатак XVI ст.

Уначы перад бітваю гетман пераправіў свае аддзелы цераз Дняпро. Частка кавалерыі перайшла раку ўброд, для астатняга войска былі хутка наведзеныя масты на звязаных, добра прасмоленых бочках. На досвітку нашы баявыя шыхты занялі пазіцыі насупраць расцягнутага на некалькі вёрстаў расейскага войска.

Наперадзе Канстанцін Астрожскі паставіў найлепшых пешых стралкоў з ручніцамі, на флангах – конніцу. Частка гарматаў прыкрывала пяхоту, але астатнія сілы артылерыі былі схаваныя ў засадзе.

Загрымелі баявыя бубны, заспявалі трубы-сурмы з турыных рагоў, і сеча пачалася. Конныя палкі «правай рукі» маскоўскага войска пайшлі ў атаку. «Наперад, дзеці!» – крыкнуў 54-гадовы гетман сваім рыцарам, кідаючы іх у контрнаступ. На доўгіх дзідах нашых конных ваяроў віліся бел-чырвона-белыя сцяжкі.

Неўзабаве конніца ваяводы Булгакава-Голіцы кінулася наўцёкі. Другі маскоўскі ваявода Чаляднін вырашыў не дапамагаць яму, бо хацеў сам выйграць бітву. Цяпер сеча закіпела на нашым правым флангу, якім камандаваў Юрай Радзівіл. Генман Астрожскі быў сярод сваіх жаўнераў. Ягоная ўзнятая над галавою булава дадавала мужнасці слабейшым.



Закрыты шалом кавалерыста-капійніка. Пачатак XVI ст.



Пераправа нашымі ваярамі гарматы цераз Дняпро. Фрагмент карціны «Бітва пад Воршай»

(На адгорце)
Бітва пад Воршай. Невядомы мастак пачатку XVI ст. з кола Лукаса Кранаха Старэйшага. Аўтар гэтай карціны сам быў удзельнікам баталіі, а таму здолеў дакладна адлюстраваць краявід, узбраенне ваяроў і тактычныя асаблівасці дзеяння войскаў. Бітва паказаная на трох розных этапах. Мастак тройчы намаляваў Канстанціна Астрожскага: перад пераправаю пад гетманскай харугвай, на нарадзе з ваяводамі і ў часе бітвы пад сваёй харугваю. Мастак пакінуў і выяву сябе самога: сядзіць на беразе за пантонным мостам. Твор знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве

Найвышэйшы гетман Канстанцін Астрожскі. Трыюмфатар бітвы пад Воршай паказаны з знакам сваёй вайсковай улады – гетманскай булавой. Мастак Павел Татарнікаў. 2009 г.



Аршанская бітва завяршылася поўным разгромам маскоўскага войска. Пазней вядомы царскі гісторык М. Карамзін у сваёй «Гісторыі Расейскай дзяржавы» пісаў, што войскі Вялікага Княства «нікалі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі». Летапісы і хронікі паведамляюць, што непрыяцель страціў забітымі 40 тысяч. Яшчэ блізу пяці тысяч захопнікаў разам з усімі сцягамі трапілі ў палон. Сярод іх былі самі Чаляднін з Булгакавым-Голіцам і яшчэ восем маладшых ваяводаў. У ліку трафеяў пераможцы ўзялі варожы абоз і 20 тысяч коней.

Шляхоцкія гербы



«Стары конь»



«Зяновіч II»



«Рамульт I»



«Здан»

Нейкі час вайсковае шчасце не хілілася ні на чый бок. І тут здарылася нечаканае: кавалерыя Астрожскага спыніла націск, а потым і наагул пакацілася назад. Узрадаваны ваявода Чаляднін кінуў у бой усе свае сілы. Расцягнутыя баявыя парадкі расейцаў з пераможнымі крыкамі перайшлі ў наступ. Толькі хвілінаў нашая конніца вельмі праўдападобна дэманстравала ўцёкі, а затым, падзяліўшыся на дзве паловы, зрабіла імклівы бакавы манеўр. Маскоўскія вершнікі апынуліся перад пакінутымі ў засадзе артылерыяй і пяхотай з ручніцамі. Ужо першыя залпы нанеслі ворагу вялікія страты і спарадзілі паніку.

Тысячы ахопленых жахам заваёўнікаў рассеяліся на шырокім прырэчным полі, страціўшы ўсякую здольнасць да супраціву. Шмат хто ў роспачы кідаўся ў Дняпро. Ворагаў гналі і seклі яшчэ пяць вёрстаў. Рэчку Крапіўну загацілі целы забітых. Пасля заходу сонца сеча аціхла, хоць некаторыя нашы конныя аддзелы пераследвалі непрыяцеля яшчэ восем літоўскіх міляў, гэта значыць шэсцьдзясят кіламетраў, і вярнуліся з тысячамі палонных.



Залаты медаль з выявай гетмана Канстанціна Астрожскага. Дзяржаўны Эрмітаж у Санкт-Пецярбурзе. Аверс. XVI ст.



Нашы вояры адстаялі пад Воршай суверэнітэт дзяржавы. Трыюмф Астрожскага аддаў ініцыятыву вайны ў рукі Вялікага Княства. Усе захопленыя Масквой гарады, апрача Смаленска, былі вызваленыя.

Аршанская перамога трывала ўвайшла як у летапісы, так і ў памяць народа, які склаў пра тыя падзеі песню-баладу:

*Масква стала наракаці,*
*Места Воршу пакідаці.*
*А як з Воршы уцякалі,*
*Рэчку невялічку праклiналі:*
*«Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,*
*Як наша слава тутака прапала;*
*Бадай высыхала да скanчэння свету,*
*Што нашай славанькі ўжо нету».*
*Слава Воршы ўжо не горша.*
*Слаўся, пан Астрожскі!*

Штогод у пачатку верасня на векапомным Крапівенскім полі адбываецца святкаванне ўгодкаў Аршанскай перамогі.



Шляхоцкі герб «Самсон»

## Еўрапейскі розгалас

Бітва на Крапіўне атрымала шырокі розгалас у свеце. Бліскучую перамогу тры дні святкавалі на Вацлаўскім пляцы ў Празе нашыя браты-чэхі, каралём якіх быў тады Уладзіслаў IV, сын вялікага князя літоўскага Казіміра Ягайлавіча. Пра перамогу ліцвінскага войска паведамілі тагачасныя газеты-ўлёткі, надрукаваныя ў Ляйпцыгу, Нюрнбэрзе, Рыме ды іншых еўрапейскіх гарадах. Ужо ў пераможным 1514 годзе ў Кракаве выйшаў паэтычны зборнік з творамі ў гонар трыюмфу ліцвінскай зброі. Кніга падобнага зместу – «Вершы пра векапомны разгром маскоўцаў» – пабачыла свет у 1515 г. у Рыме.

Пасля перамогі Астрожскага еўрапейскія дзяржавы, і найперш імператар Святой Рымскай імперыі Максімілян, адмовіліся ад таемнага альянсу з маскоўскім князем.

Аднак Масква не пакідала прэтэнзіяў на беларускія землі. У 1534 г. разгарэлася новая вайна з усходнім суседам. Вонкавая агрэсія аслабляла дзяржаву, але, з іншага боку, спрыяла яе кансалідацыі.

Расейскія гісторыкі часта пішуць пра «спрадвечнае імкненне» праваслаўных беларусаў да аб'яднання з расейскімі братамі па веры. Але перамогу над маскоўскімі захопнікамі ў 1514 г. атрымала войска, дзе пераважную бальшыню складалі праваслаўныя беларусы-ліцьвіны. Гэта было сведчаннем іх дзяржаўнага патрыятызму. Ён яскрава выявіўся і тады, калі з захопленага Смаленска ў Вялікае Княства ўцякло 50 баярскіх і шмат мяшчанскіх праваслаўных родаў. А маскоўскі князь Васіль III успрымаўся нашымі продкамі як «ворага і супастат веры хрысціянскае, праваслаўнае».

Гетмана Астрожскага называлі другім Ганібалам, а яго рыцараў часта параўноўвалі з мужнымі ваярамі антычнай Македоніі.

Аршанскую бітву, якая стала адной з найбуйнейшых у Еўропе XVI ст., вывучалі ў розных краінах (у тым ліку ў Расеі) як прыклад бліскучых дзеянняў малалікай арміі супраць значна большай сілы праціўніка.

# БЕЛАРУСКІ НАРОД. МЫ – ЛІЦЬВІНЫ



Барбара Радзівіл. Невядомы скульптар XVI ст. Мармур з пазалотай

Этнічнай асноваю беларусаў сталіся тры пранароднасці – крывічы, дрыгавічы і радзімічы, у мове і звычаях якіх перапляліся славянскія і балцкія прыкметы.

Вывучэнне полацкіх і смаленскіх граматаў ды іншых помнікаў пісьменства прывяло вучоных да высновы, што ўжо ў XIII ст. існавалі аканне, дзеканне, цвёрдае «р» – рысы, уласцівыя беларускай мове.




Карта Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з кнігі С. Мюнстэра «Касмаграфія». Базэль. 1572 г.

## Русь, русіны, ліцьвіны

Пасля ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага нашыя продкі нейкі час яшчэ працягвалі традыцыйна называць сябе па найменні колішніх дзяржаваўземляў – «палачане», «віцябляне», «случане». Аднак у свядомасці і ў пісьмовых крыніцах пачалі сцвярджацца новыя назовы, якія адлюстроўвалі жыццё ў агульнай дзяржаве.

Доўгі час існавалі дзве асноўныя формы самаазначэння нашых продкаў: «Русь» («русіны») і «Літва» («ліцьвіны»). Жыхары Падзвіння і Падняпроўя часцей былі вядомыя як русіны, «рускія». (Як «Рускі» згадваецца заснаваны палачанамі ў Рызе гандлёвы двор.) Насельніцтва заходніх абшараў Княства называлася «ліцьвінамі», а часам і «літоўцамі».

Вялікае Княства Літоўскае стала дзяржаваю, у якой канчаткова скансалідаваўся і заняў галоўнае месца беларускі народ. Працэс яго фармавання пачаўся яшчэ раней, у перыяд існавання старажытных княстваў. Надзвычай важную ролю ў этнагенезе беларусаў адыграла даўнейшае балцкае насельніцтва сучаснай тэрыторыі Беларусі. Балты былі славянізаваныя, але прынеслі ў культуру новай супольнасці шмат свайго. Гэтае ўзаемадзеянне шмат у чым і абумовіла адметнасць нашага народа і ягоныя адрозненні ад суседзяў.

Літва і Русь былі часткамі аднаго цэлага – Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Аднак ужо ў гістарычных дакументах XIV ст. у «літоўскія месты» залічаліся не толькі Гародня або Навагардак, але і Полацак, Менск, Ворша, Барысаў, Віцебск, Крычаў – усе гарады, што знаходзіліся пад уладай вялікага князя. Разам з тым тады сама нямецкі храніст Віганд Марбургскі пісаў пра Вільню як пра «рускі горад».



Найменні «русін» і «ліцьвін» не заўсёды адпавядалі і падзелу паводле веравызнання, бо і ў XVI ст. большасць насельніцтва беларускіх земляў складалі праваслаўныя. У тагачасных дзяржаўных і прыватных паперах шмат разоў сустракаюцца такія азначэнні, як «руския рымскае веры» або «ліцьвіны грэцкага закону», «ліцьвіны рускага роду». Францішак Скарына ў залежнасці ад месцазнаходжання менаваў сябе то палачанінам, то русінам, то ліцьвіном.

Паступова назоў «ліцьвіны» пашырыўся на ўсіх жыхароў-славянаў Вялікага Княства Літоўскага незалежна ад іх паходжання і рэлігіі. У гэтым продкі выяўлялі адчуванне свайго адзінства і дзяржаўны патрыятызм. Найменне «ліцьвін» больш за стагоддзе захоўвалася і пасля захопу Вялікага Княства Расейскай імперыяй.



Прывілей вялікага князя Аляксандра на магдэбургскае права Полацку. 1498 г. Захоўваецца ў Дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве



Святыня ліцьвіноўбеларусаў – абраз Вастрабрамскай Божай Маці. Вільня. XV ст.

«Нарадзіўся я ліцьвінам», – пісаў наш славуты суайчыннік Тадэвуш Касцюшка. Ліцьвінамі лічылі сябе беларус па бацьку Адам Міцкевіч і першы прафесійны беларускі пісьменнік новага часу Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Дзясяткі тысяч беларусаў маюць сёння прозвішчы з коранем 'літв' ('ліцьв'): Літвін (Ліцьвін), Літвіновіч (Ліцьвіновіч), Літвінка (Ліцьвінка), Літвіненка (Ліцьвіненка), Літвінёнак (Ліцьвінёнак), Літвіная (Ліцьвіная), Літвінаў (Ліцьвінаў), Літвінчык (Ліцьвінчык), Літвінюк (Ліцьвінюк), Літвінчук (Ліцьвінчук), Літвінскі (Ліцьвінскі), Літоўчанка, Ліцьвінец... На беларускім Палессі нават цяпер жыхары шмат якіх вёсак называюць сябе ліцьвінамі. Вядомыя выпадкі, калі пад час перапісу насельніцтва Рэспублікі Беларусь ужо пры канцы XX ст. некаторыя нашы суайчыннікі ў афіцыйных дакументах вызначалі сваю нацыянальнасць як ліцьвін.





Ліцьвінскі ваяр і шляхцянка. Гравюры 1590 г.

Жыхароў Літвы-Беларусі ўсходнія суседзі заўсёды ўспрымалі як іншаземцаў. Праваслаўных «літоўскіх» паслоў не пускалі ў цэрквы, а палонных хрысціянаў усходняга абраду прымушалі браць «сапраўднае» хрышчэнне.

У сваю чаргу ліцьвіны ніколі не ўжывалі свае даўнія найменні «русь» і «русіны» ў дачыненні да жыхароў Масковіі, якія былі для нашых продкаў «маскавітамі», «маскоўцамі», а пазней «маскалямі». Гуманіст XVI ст. Сымон Будны пісаў пра славянскія народы так: «Русіны, маскавіты, сербы ды іншыя славяне».

Паводле назову дзяржавы жыхароў Вялікага Княства Літоўскага менавалі ліцьвінамі або літоўцамі і ў краінах-суседзях. У Масковіі «ліцьвінамі» былі полацкія і менскія купцы, Францішак Скарына і Пётра Мсціславец. Войска, што нераз прыходзіла пад сцены Масквы і амаль цалкам складалася з беларусаў, маскоўскія летапісы таксама называлі «літоўскім». (Гэта паўтараюць сучасныя расейскія гісторыкі, бяздумна, а часцей наўмысна ўкладаючы ў гэтае слова зусім іншы сэнс.)

«Русь» і «Расея» – гэта розныя паняцці, якія мелі дачыненне да розных тэрыторыяў і розных дзяржаўных утварэнняў у розны час. Аднак атрымалася так, што назоў «Русь» быў манапалізаваны Расеяй, што і цяпер выкарыстоўваецца ў імперскіх мэтах.



Герб Жамойці з кнігі Барталамея Папроцкага «Гняздо цноты». 1578 г.

Летувіскія гісторыкі сцвярджаюць, што вялікія князі літоўскія мелі балцкае паходжанне. Між тым ні ў якіх сярэднявечных дакументах нельга знайсці ні «Вітаўтаса», ні «Альгірдаса». І самі гаспадары нашай дзяржавы ніколі так сваіх імёнаў не пісалі. Апошнім часам, дарэчы, даказана, што імя нашага першага вялікага князя, а затым караля Міндава, як і імёны яго-ных сыноў, маюць славянскае паходжанне.



Serenissimus atq victorio sissimus Princeps et dominus Dominus SIGISMUNDUS dei gratia Rex Polonie Magnus dux Lituanie Russie Prussie Samagitie Mazouieq etc dominus & heres.

Прывілей гаспадара Вітаўта Вялікага габрайскаму насельніцтву. 1388 г.



Рэшткі Ковенскага замка. Сучаснае фота

Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае на карце О. Магнуса. Венецыя. 1539 г.

## Жамойты

Жамойты – ядро будучага летувіскага этнасу – канчаткова апынуліся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага толькі праз дванаццаць гадоў пасля Грунвальдскай бітвы, у 1422 г. Каб падкрэсліць сваю адрознасць ад русінаў і ліцьвіноў, яны папрасілі ў князя Вітаўта аўтаномных правоў і асобнага дадатку да найменне дзяржавы, якая пачала называцца Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Гэтая дыстанцыя захоўвалася і значна пазней. Нават у XVI ст. у рэестры дзяржаўнага войска нешматлікія жамойцкія харугвы пералічваліся асобна.

Жамойты неаднаразова звярталіся ў Сойм Вялікага Княства з просьбамі не прысылаць да іх на адміністрацыйныя пасады «чужынцаў»-ліцьвіноў. Аналагічныя звароты накіроўваліся вялікаму князю, якога жыхары Жамойці прызнавалі гаспадаром, але "сваім" не лічылі. Непрыхільнае стаўленне жамойтаў да дзяржаўных службоўцаў адлюстравалася ў старадаўнім заклёне: «Perkune, dievaiti, nemušk žemaiti, mušk gudą, kaip šuni rudą» –«Пяруне, божа, не бі жамойта, а бі гуда, як сабаку рудога». (Гудамі летувісы здавён называюць ліцьвіноў-беларусаў.)

Не вытрымліваюць ніякай крытыкі спробы абвясціць гаспадара Вітаўта жамойтам. Ён ніколі не ставіўся да Жамойці як да роднай зямлі, а, наадварот, выкарыстоўваў яе ў шматлікіх палітычных камбінацыях, у тым ліку нярааз аддаваў тэўтонцам.

Тытульны аркуш кнігі «Быццё» з Бібліі беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара Францішка Скарыны. Прага. 1519 г.

## «Руская» мова

У Вялікім Княстве старабеларуская мова, якая была дзяржаўнай, здаўна афіцыйна звалася «рускай». Таму Біблія Ф. Скарыны і мае назоў «Руская».

«Па-руску», «рускімі літарамі» патрабавала ад службоўцаў складаць дакументы наша тагачаснае заканадаўства.

У Маскве мова нашых продкаў лічылася «літоўскай», і яе там слаба разумелі, патрабуючы ў паслоў або купцоў перакладніка.

Ліцвіны мову суседняй дзяржавы называлі «маскоўскай».

«Літоўскай» беларускую мову нярэдка менавалі і заходнееўрапейскія падарожнікі. Да прыкладу, у першай палове XVI ст. аўстрыйскі дыпламат Сігізмунд Гэрбэрштайн пісаў, што палітоўску бізон будзе зубр (Suber). Тым часам летувісы завуць гэтага звера stumbras.

Аднак былі выпадкі, калі і самі жыхары Княства, як, напрыклад, асветнік Лаўрэн Зізані, называлі нашую мову «літоўскай» або «літоўска-рускай». Адам Міцкевіч, які ў 40-х гадах XIX ст. чытаў у Парыжскім універсітэце лекцыі пра славянскія літаратуры, казаў: «На беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай, гавораць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі».

Цяпер гістарычны назоў «руская мова» таксама прыватызаваны ўсходнімі суседзямі, што служыць асновай для вялікадзяржаўных спекуляцыяў. Да прыкладу, некаторыя расейскія аўтары характарызуюць дзяржаўную мову Вялікага Княства Літоўскага як «русскую» (у сучасным разуменні), а Ф. Скарыну называюць «русским печатником и просветителем».



Ілюстраваны Псалтыр 1397 г. з запісам уладальніка: «Езофовіч, подскарбій земскій Велікого Князьства Літовского»

Вокладка кнігі «Беларускія (крывіцкія) казкі». Мастак Язэп Горыд. Вільня. 1929 г.

## Беларусь, беларусы

Назоў «Белая Русь», «Беларусь» не ёсць для нашай краіны старажытным. У XIII–XV стст. такое найменне ва ўсходніх славянаў практычна не згадвалася. Ім доўга карысталіся толькі заходнееўрапейскія храністы і картографы, у якіх «Russia Alba» (што на лаціне значыць «Белая Русь») знаходзілася то ў раёне Вялікага Ноўгарада, то каля Белага мора, то на Доне. Пасля заваёвы Ноўгарадскай рэспублікі гэты назоў перайшоў на саму Маскоўскую дзяржаву. На адной з картаў таго часу так і напісана: «Белая Русь Масковія». Толькі на пачатку XVII ст. найменне «Белая Русь» больш-менш трывала замацавалася за ўсходнімі абшарамі Вялікага Княства Літоўскага – Полацкім, Віцебскім, Смаленскім і Амсціслаўскім ваяводствамі.

У XIX ст., нават праз сто гадоў пасля інкарпарацыі Вялікага Княства Літоўскага ў склад Расейскай імперыі, нашыя заходнія землі па-ранейшаму называліся Літвой. «Радзіма Літва»! – звяртаўся да роднай Наваградчыны Адам Міцкевіч. Літвой называў бацькоўскую зямлю Кастусь Каліноўскі.

Тое, што Літва – спрадвечна славянскі край, добра разумелі і ў Расеі. «Литва ли, Русь ли, что гудок, что гусли, всё нам равно, было бы вино», – засведчыў Аляксандр Пушкін у трагедыі «Барыс Гадуноў». У вершы «Клеветникам России» ён жа называў вызвольнае антырасейскае паўстанне 1831 г. «волнением Литвы», «спором славян между собою».

Найменні «Беларусь» і «беларусы» значна больш адпавядалі інтарэсам імперыі, бо дазвалялі трактаваць наш край як частку Русі – Расеі, а ягоных жыхароў – як разнавіднасць расейцаў. Царскія ўлады спрыялі распаўсюджванню гэтых назоваў. Тым не менш як азначэнне ўсёй тэрыторыі і ўсяго насельніцтва краю яны пашырыліся вельмі позна – на мяжы XIX і XX стст.

Мы – беларусы, але мы – і ліцвіны, спадкаемцы гісторыі і культуры магутнай еўрапейскай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага.

Партрэт кашталяна Мікалая Завішы. Невядомы мастак XVII ст. Завішы, як і ўсе шляхоцкія роды Вялікага Княства, незалежна ад свайго паходжання гаварылі на беларускай мове

Найменні «Белая Русь» і «беларусы» Масква выкарыстоўвала ў сваіх захопніцкіх мэтах. Цары і вярхі расейскага праваслаўя заяўлялі, што гэтыя землі неабходна злучыць з «усёй Руссю».

Каб падкрэсліць нашую адметнасць і выбіць з рук у расейскіх шавіністаў іх даўні «козыр», некаторыя дзеячы руху за нацыянальную незалежнасць яшчэ сто гадоў таму выступалі за перайменаванне краіны. Вацлаў Ластоўскі прапагандаваў назоў «Крывія». Свае прыхільнікаў мела «Літва», а пазней «Вялікалітва». Адпаведна прапаноўвалася беларусаў называць вялікаліцвінамі, а беларускую мову – вялікалітоўскай. Але сталася так, што сцвердзіўся назоў «Беларусь», па якім нас і ведаюць сёння ў свеце.

# ЛІТВА-БЕЛАРУСЬ – УСХОДНІ РУБЕЖ РЭНЕСАНСУ



Партрэт Томаса Мора. Мастак Ганс Гольбайн Малодшы. 1527 г.




Востраў Утопія, дзе людзі жывуць у шчасці і гармоніі. Тагачасныя мысляры марылі пра асвечанае грамадства, заснаванае на прынцыпах сацыяльнай справядлівасці. Ідэальную мадэль такога ладу даў у сваім творы «Утопія» Томас Мор. Рэнесансавая заходнееўрапейская гравюра

Эпоха Рэнесансу (XIV – першая палова XVII ст.) у еўрапейскай гісторыі была пераходным перыядам ад Сярэднявечча да Новага часу. Яна характарызавалася ўздымам навукі і мастацтва, станаўленнем нацыянальных моваў, літаратураў і самасвядомасці, гуманістычным светапоглядам.




Карта Цэнтральнай і Усходняй Еўропы з кнігі С. Мюнстэра «Касмаграфія». 1552 г.

XVI – пачатак XVII ст. сталіся эпохай найвышэйшага ўзлёту беларускай культуры. Яго абумовілі багатая культурная спадчына папярэдніх стагоддзяў, эканамічны ўздым краіны і магутны ўплыў агульнаеўрапейскага Адраджэння, або Рэнесансу.

Нашыя продкі жылі ў талерантнай дзяржаве, шырока адкрытай для кантактаў з астатнім светам. Пранікненню заходняй культуры спрыялі беспасярэднія сувязі з рымска-каталіцкай царквой. Прывілей вялікага князя Казіміра Ягайлавіча 1447 г. даў шляхце заканадаўча замацаванае права вольнага выезду ў кожную (апрача непрыяцельскай) краіну «дзеля лепшага шчасця набыцця або ўчынкаў рыцарскіх». У заходні «лацінскі» свет накіроўваліся і каталікі, што ў Вялікім Княстве па-ранейшаму былі ў меншасці, і ліцьвіны-праваслаўныя.

Падарожжамі па Еўропе выславіўся пан Аляксандр Солтан праваслаўнага веравызнання, які ў 1467–1469 гг. абʼездзіў двары самых вядомых манархаў і здзейсніў паломніцтва ў Святую зямлю. Шмат вандраваў, жыў у Ляйпцыгу і Альтдорфе шляхціч Полацкага ваяводства Саламон Рысінскі, вядомы паэт XVI ст. Ён сабраў надзвычай каштоўную тысячатамовую бібліятэку. З антычнымі творамі Гамэра і Герадота, Тацыта, Авідзія, Ювенала ў ёй суседзілі кнігі Томаса Мора, Ульрыха фон Гутэна, Яна Каханоўскага ды іншых выдатных гуманістаў.






Пры канцы XVI ст. Варшава зрабілася сталіцаю суседняй Польшчы і прыкметным асяродкам ідэяў Рэнесансу. Ілюмінаваная гравюра Г. Браўна і Ф. Гогэнбэрга. Кёльн. 1617 г.



Прароцтвы знакамітага еўрапейскага астролага і прадказальніка Мішэля Настрадамуса былі добра вядомыя і ў Вялікім Княстве. Мастак Ц. Настрадамус. 1614 г.

Юнакі-ліцьвіны яшчэ з сярэдзіны XIV ст. вучыліся ва ўніверсітэтах Прагі і Кракава. Сярод іх былі арыстакраты, аднак пераважную бальшыню складалі дзеці мяшчанаў і шляхты. Традыцыйнымі для тых, хто імкнуўся атрымаць дзяржаўную пасаду, рабіліся як універсітэцкае навучанне, так і служба пры адным з еўрапейскіх двароў. У сваіх мемуарах навагрудскі падсудак Хведар Еўлашоўскі, напрыклад, з гонарам адзначыў, што ягоны сын служыў у італійскіх князёў Гонзага ў Мантуі.



Герб вялікай княгіні і каралевы Боны Сфорца на кахлі, знойдзенай пад час рэканструкцыі вялікакняскага замка ў Вільні

Дзясяткі мастакоў, музыкаў, настаўнікаў ды іншых адукаваных асобаў, якія натхняліся ідэямі Рэнесансу, прыбылі ў нашую дзяржаву з Італіі разам з герцагіняю Бонай Сфорца, што стала жонкаю вялікага князя Жыгімонта Старога.

Беларускі вучоны першай паловы XVII ст. Іван Ужэвіч, выконваючы, як мяркуюць даследнікі, замову кардынала Рышэльё, напісаў для Французскай акадэміі славянскую граматыку. Рукапіс гэтага лацінамоўнага шэдэўра тагачаснай беларускай філалогіі зберагаецца цяпер у Нацыянальнай бібліятэцы у Парыжы.




Славянская граматыка, напісаная Іванам Ужэвічам для Французскай акадэміі. 1645 г.



У Кракаўскім Ягелонскім універсітэце, рэарганізаваным у 1400 г. вялікім князем і каралём Ягайлам на ўзор Парыжскага ўніверсітэта, атрымлівалі адукацыю сотні юнакоў-ліцьвіноў. Гравюра Г. Браўна і Ф. Гогэнбэрга. Кёльн. 1618 г.



Выдатны гуманіст, філосаф і пісьменнік Эразм Ратэрдамскі адстойваў ідэю актыўнасці чалавека і яго здольнасці супрацьстаяць ліху. Асаблівую папулярнасць у адукаваных колах Еўропы, у тым ліку ў нашай краіне, мела ягоная кніга «Пахвала глупству». Мастак Ганс Гольбайн Малодшы. 1523 г.



Рэнесансавая кахля з выявай заможнай жанчыны. Археалагічная знаходка XVI ст. з Мазыра



Паліхромная кахля з віленскага вялікакняскага замка з выявай заможнага месціча. XVI ст.

У рэнесансавым садзе. Гравюра 1560 г.



Ідэі Рэнесансу знаходзілі сваіх прыхільнікаў у беларускіх брацтвах – рэлігійна-дабрачынных і культурных аб'яднаннях гарадскога насельніцтва, што ўтвараліся пры праваслаўных (а пазней і пры вуніяцкіх) цэрквах і манастырах, а таксама пры каталіцкіх парафіях. Брацтвы істотна ўплывалі на пашырэнне асветы і кнігадрукавання, развіццё літаратуры і музыкі, іканапісу і дойлідства.



Жонкі вялікага князя Жыгімонта Аўгуста – Лізавета і Барбара Радзівіл (справа). Кола Лукаса Кранаха Старэйшага. XVI ст.



Адукаваныя пласты грамадства нашай дзяржавы дзякуючы перакладам чыталі на тагачаснай беларускай мове не толькі тэксты Святога Пісьма і папулярныя ў Еўропе духоўныя аповесці, але і свецкія творы – прысвечаную Аляксандру Македонскаму «Александрыю», «Аповесць пра Трышчана і Іжоту», «Сказанне пра Сівілу Прарочыцу», гістарычную «Аповесць пра Траянскую вайну». Героі «Александрыі» згадваюцца ў беларускіх летапісах і хроніках, а бітва Аляксандра Македонскага з індыйскім царом Порам нават увайшла ў рэпертуар нашага старажытнага лялечнага тэатра – батлейкі.

Эпоха Рэнесансу змяніла ўсе сферы жыцця краіны, найбольш выразна выявіўшыся ў адукацыі і кнігадрукаванні, літаратуры і мастацтве. Але гэтыя змены не азначалі адмаўлення продкаў ад ранейшых культурных дасягненняў, што ўзбагачаліся і напаўняліся новым гуманістычным зместам.

Знаходзячыся на скрыжаванні ўсходніх і заходніх культурных уплываў, Вялікае Княства Літоўскае было ўсходнім аванпостам Рэнесансу і годна папоўніла яго агульную скарбніцу сваімі шэдэўрамі. З другога боку, Княству выпала быць своеасаблівым культурным мостам паміж Еўропай і Расеяй. На вялікі жаль, наша ўсходняя суседка засталася па-за межамі еўрапейскага Адраджэння. Жыхары Вялікага Княства мелі нязмерна большыя магчымасці атрымаць адукацыю, непараўнана болей правоў і духоўнай свабоды.



Беларускі пераклад «Аповесці пра Трышчана і Іжоту». Канец XVI – пачатак XVII ст. Захоўваецца ў Бібліятэцы Рачынскіх у Познані



Лабараторыя алхіміка. Гравюра пачатку XVII ст. У эпоху Рэнесансу алхімікі, працягваючы шукаць «філасофскі камень», зрабілі шэраг навуковых адкрыццяў

З Рэнесансам у нашай дзяржаве, як і ў іншых еўрапейскіх краінах, цесна пераплятаўся сацыяльны і рэлігійны рух Рэфармацыі.

# АДУКАЦЫЯ. БЕЛАРУСКІЯ СТУДЭНТЫ Ў ЕЎРОПЕ

Астралаг.
Гравюра XVII ст.

## Школы і калегіюмы

Вялікае Княства Літоўскае мела разгалінаваную сістэму адукацыі, у якую ўваходзілі навучальныя ўстановы розных роўняў. Гістарычныя крыніцы паведамляюць пра гарадскія школы пры цэрквах і касцёлах, праваслаўных брацтвах і пратэстанцкіх зборах. Вядома пра існаванне школаў пры каталіцкіх храмах у Горадні, Полацку, Менску, Віцебску, Міры, Нясвіжы, Гайне, Мастах, Палонцы, Трабах, Зэльве, Лідзе, Слоніме, Шчучыне ды іншых гарадах і мястэчках.



Полацкі праваслаўны Багаяўленскі манастыр, заснаваны ў 1581 г. Сучаснае фота

Засвоіўшы пачатковыя веды, вучні тагачасных школаў пераходзілі да «сямі вызваленых навук», якія падзяляліся на «трывіюм» (граматыка, рыторыка, дыялектыка) і «квадрывіюм» (арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка). Вялікая ўвага аддавалася вывучэнню моваў – грэцкай, лацінскай, царкоўнаславянскай, польскай. Вучні практыкаваліся ў вершаскладанні і дэкламацыі. Пры вывучэнні «квадрывіюма» і ў каталіцкіх, і ў праваслаўных навучальнях карысталіся падручнікамі, выдадзенымі ў Заходняй Еўропе. У кожнай школе быў хор, наладжваліся тэатральныя паказы.



Малюнак з «Кнігі рупліўцаў» Кракаўскага ўніверсітэта, у якой давалася апісанне факультэтаў і чытаных на іх курсаў лекцый. XVII–XVIII стст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1348 г. – Заснаванне Карлавага ўніверсітэта ў Празе.
1364 г. – Заснаванне Кракаўскага ўніверсітэта.
1480 г. – Ян Ліцьвін адчыніў першую друкарню ў Лондане.
1570 г. – Адчынены Віленскі езуіцкі калегіюм.
1581 г. – Адкрыццё Полацкага калегіюма.



Выдадзеная ў Амстэрдаме карта Еўропы.
Аўтар В. Блаў. 1641–1642 гг.

Славілася сваімі выкладчыкамі брацкая школа Полацкага праваслаўнага Багаяўленскага манастыра, дзе пачынаў шлях у навуку Сімяон Полацкі. Навучальні такога кшталту дзейнічалі таксама ў Вільні, Магілеве, Берасці, Менску, Слуцку.



Кракаўскі ўніверсітэт.
Астранамічныя прылады XV–XVI стст.
Фота Зьмітра Герасімовіча.
2007 г.



Экзамен
у XVI стагоддзі.
Тагачасны
дрэварыт



Вышэйшыя калегіюмы давалі адукацыю, якая паводле свайго роўню мала адрознівалася ад універсітэцкай. Напрыклад, у Полацку выкладаў паэтыку і рыторыку выдатны паэт-лацініст і філосаф першай паловы XVII ст. Мацей Казімір Сарбеўскі. У часе працы ў Полацкім калегіюме ён напісаў даследванне з антычнай міфалогіі «Багі паганскіх народаў» і кнігу «Паэтыка», якім была наканаваная еўрапейская слава.

Найбольшую актыўнасць у пашырэнні асветы выяўляла Таварыства Ісуса, як афіцыйна называўся Ордэн езуітаў. Беларусь была пакрытая цэлай сеткаю іх школаў і калегіюмаў. Раней за іншыя былі заснаваныя калегіюмы ў Вільні (1570 г.), Полацку (1581 г.), Горадні (1584 г.) і Нясвіжы (1586 г.).

У XVII ст. такія ўстановы дзейнічалі ў Амсціславе, Берасці, Віцебску, Воршы, Дарагічыне-Набужскім, Магілеве, Менску, Навагрудку, Пінску, Смаленску, Хвойніках (Хойніках). У калегіюмы прымалі дзяцей з розных станаў і неабавязкова каталіцкага веравызнання. Навучанне было бясплатнае і доўжылася шэсць-сем гадоў. За гэты час шкаляры атрымлівалі класічную гуманітарную адукацыю, авалодвалі лацінскай і грэцкай мовамі. Калегіюмы вышэйшага тыпу мелі яшчэ трохгадовы курс філасофіі і чатырохгадовы – тэалогіі.

У сваёй педагагічнай практыцы выкладчыкі ўжывалі прагрэсіўныя метадыкі і прынцыпы: засяроджвання на адной праблеме, індывідуальнага падыходу, паступовага ўскладнення заданняў, заглыблення ў моўную стыхію. Некаторыя з вынаходак тагачасных педагогаў увайшлі ў арсенал іх сённяшніх калегаў. Прынцып заглыблення, калі на ўроках лаціны дазвалялася размаўляць толькі на гэтай мове, цяпер часта выкарыстоўваецца на курсах паскоранага вывучэння замежных моваў.




Прага з яе ўніверсітэтам, заснаваным у сярэдзіне XIV ст., цягам некалькіх стагоддзяў была адным з самых папулярных у ліцвінскай моладзі цэнтраў адукацыі. Гравюра Г. Брауна і Ф. Гогэнбэрга. 1598 г.

Мовамі навучання да сярэдзіны XVII ст. як у езуіцкіх, так і ў іншых навучальных установах былі беларуская і лацінская. Па меры паланізацыі шляхты адбываўся пераход на польскую.

У 1480-х гадах у Лондане дзейнічала друкарня, заснаваная нашым суайчыннікам Янам Ліцьвіном. Фрагмент гравюры Ё. Гомана. 1730 г.






Сын вялікага канцлера Льва Сапегі Казімір Леў атрымаў бліскучую адукацыю ў Віленскім, Мюнхенскім і Лювэнскім універсітэтах. Гравюра невядомага мастака XVII ст.

Дзяржаўны і ваенны дзяяч, пісьменнік і мецэнат Мікалай Крыштоп Радзівіл Сіротка вучыўся ва ўніверсітэтах Страсбурга і Цюбінгена. Гравюра Л. Кіліяна. 1638 г.



## Ліцьвіны ў заходніх універсітэтах

Юнакі з беларускіх земляў пракладалі шлях па асвету ў навучальныя ўстановы Еўропы яшчэ ў XIV ст. Дзясяткі нашых суайчыннікаў здабывалі веды ў Карлавым універсітэце ў Празе, заснаваным у 1348 г. Метрычныя кнігі гэтай альма-матэр толькі за XV – першую палову XVI ст. захавалі імёны 33 студэнтаў з Вялікага Княства Літоўскага. Некаторыя гісторыкі лічаць, што сярод іх быў адзін з папярэднікаў Скарыны Ян (Іван) Ліцьвін, што ў 1480 г. адчыніў першую друкарню ў Лондане.

Ад 1364 г. адлічвае сваю гісторыю Кракаўскі ўніверсітэт, які пасля праведзенай Ягайлам рэформы стаў навучальнай установай як Польшчы, так і Вялікага Княства. Для «ліцьвіноў і русінаў» у Кракаве дзейнічала адмысловая студэнцкая бурса. На працягу XV–XVI стст. там вучылася каля 500 выхадцаў з нашых земляў, прычым прыкладна палова выпускнікоў атрымала навуковую ступень бакалаўра. Пры канцы XV ст. магістр Ян з Полацка чытаў у Кракаўскім універсітэце курс лекцый «Лісты Цыцэрона», а яго калега Ян з Мастоў выкладаў «Этыку» і «Метафізіку» Арыстоцеля. Адначасова з Францішкам Скарынам у гэтай альма-матэр авалодвалі навукамі Ян і Павел з Горадні, Станіслаў з Клецка, Вінцэсь з Слуцка, Мікола з Ашмяны, Марка з Нямігі. Сярод студэнтаў былі не толькі дзеці мяшчанаў і шляхты, але і сялянаў.

Пазней, у сувязі з пашырэннем рэфармацыйных ідэяў, колькасць ліцьвіноў, што вучыліся ў даўняй польскай сталіцы, пачала скарачацца. Большую папулярнасць набыло навучанне ў пратэстанцкіх краінах. Арыстакратыя нярэдка пасылала сыноў у старажытныя прэстыжныя ўніверсітэты. Перавага аддавалася Італіі, асабліва Балонні і Падуі, што былі цэнтрамі рэнесансавай думкі. Ліцьвіны штудыявалі навукі ў Вітэнбэрзе, Франкфурце, Караляўцы (Кёнігсбэрзе). У Ляйпцыгскім універсітэце вучыўся будучы вялікі канцлер Леў Сапега, у Страсбургскім і Цюбінгенскім – вялікі маршалак, мецэнат і пісьменнік Мікалай Радзівіл Сіротка.



Кніжная ілюстрацыя XVII ст. з алегарычнай выяваю карабля, на якім выкладчык з вучнямі кіруюцца ў Краіну ведаў

Набыўшы еўрапейскую адукацыю, маладыя ліцьвіны амаль заўсёды вярталіся дадому. У духу гуманістычных традыцыяў Рэнесансу яны найперш імкнуліся служыць сваёй дзяржаве і свайму народу.




Панарама Антвэрпэна. Гравюра Г. Пробста. 1730 г.

# Віленская акадэмія



Пячаткі Віленскага ваяводства і Віленскай акадэміі, а таксама жазло рэктара з Музея старажытнасцяў у сталіцы былога Вялікага Княства. Літаграфія другой паловы XIX ст.

Магчымасць атрымліваць вышэйшую адукацыю на радзіме ў ліцвінскай моладзі з'явілася пасля адкрыцця Віленскай акадэміі. У 1579 г. калегіюм, які дзейнічаў у сталіцы дзяржавы, прывілеем вялікага князя Сцяпана Батуры быўператвораны ў першую ва Усходняй Еўропе акадэмію з усімі правамі ўніверсітэта. Новая навучальная ўстанова, такім чынам, вызвалялася ад падаткаў і набывала права прысвойваць вучоныя ступені, мець уласнае выбарнае кіраўніцтва і сваю юрысдыкцыю.



In Nomine Domini Amen

Прывілей Сцяпана Батуры аб стварэнні Віленскай акадэміі

Да заснавання акадэміі прычынілася Таварыства Ісуса, якое стварыла самую перадавую для таго часу сістэму адукацыі.

Першым рэктарам акадэміі стаў Пётра Скарга – знакаміты прапаведнік, пісьменнік і красамоўца, які нарадзіўся ў Польшчы, але добра валодаў беларускай мовай і напісаў на ёй шэраг твораў.

Вялікі князь і кароль Сцяпан Батура абвяшчае пра заснаванне Віленскай акадэміі. Мастак Вінцэнт Смакоўскі. Сярэдзіна XIX ст.



Першы рэктар акадэміі Пётр Скарга. Невядомы мастак XVII ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1579 г. – Віленскі калегіюмператвораны ў акадэмію.
1586 г. – Адкрыццё акадэмічнай друкарні.
1753 г. – Стварэнне астранамічнай абсерваторыі.
1781 г. – Акадэмія пераўтвораная ў Галоўную школу Вялікага Княства Літоўскага.





Выкладанне ва ўніверсітэце. Гравюра XVI ст.



Вялікі двор Віленскай акадэміі. Малюнак Францішка Смуглевіча. 1786 г.




Мемарыяльная дошка ў гонар Сцяпана Батуры ў Віленскім універсітэце



Астранамічная абсерваторыя Віленскай акадэміі. Акварэль Станіслава Янушэвіча. Пачатак XIX ст.



Герб Віленскага ўніверсітэта

Сучасны выгляд Віленскага ўніверсітэта. Фота Дзяніса Раманюка. 2006 г.

Напачатку віленская альма-матэр мела тэалагічны і філасофскі факультэты, а з 1641 г. – і юрыдычны. Студэнтамі, як і выкладчыкамі, былі пераважна выхадцы з беларускіх земляў. У 1632 г. у акадэміі навучаліся блізу 1200 юнакоў.





Партрэт рэктара Віленскага ўніверсітэта, славутага астранома Марціна Пачобута-Адляніцкага. Мастак Язэп Аляшкевіч. Пачатак XIX ст.

Трактат Марціна Смігледкага «Логіка» з пячаткаю бібліятэкі Віленскай акадэміі. 1618 г.

У розны час тут чыталі лекцыі Пётра Скарга; славуты паэт, філасоф і тэарэтык літаратуры XVII ст. Мацей Казімір Сарбеўскі; ягоны сучаснік, вядомы ў Еўропе знаўца рыторыкі Жыгімонт Лаўксмін; правазнавец Арон Алізароўскі; гісторык Альберт Каяловіч; паэт Міхал Карыцкі; астраном і асветнік Марцін Пачобут-Адляніцкі ды шмат якія іншыя знакамітыя вучоныя, педагогі, дзеячы мастацтва. Многія з іх, у тым ліку М. Сарбеўскі, А. Каяловіч і А. Алізароўскі, самі былі выхаванцамі акадэміі. Сярод найбольш знаных яе выпускнікоў пісьменнік і філолаг Мялет Смятрыцкі; педагог, пісьменнік і асветнік Сімяон Полацкі; філосаф Марцін Смігледкі; архітэктар Лаўрын Гуцэвіч.





Перавыданне кнігі знакамітага антычнага медыка Галена «Мастацтва медыцыны» 1561 г. Бібліятэка Віленскай акадэміі



Выкладчык і студэнты. Гравюра 1507 г.



Касцёл святога Яна ў Вільні лічыўся ўніверсітэцкім храмам. Фота Дэяніса Раманюка. 2001 г.








Выкладчык Віленскай акадэміі, славуты паэт, тэарэтык літаратуры і філосаф першай паловы XVII ст. Мацей Казімір Сарбеўскі. Яго даследаванні знаходзіліся на роўні найлепшых еўрапейскіх навуковых прац таго часу. Невядомы мастак XVII ст.

«Лірыка» М. Сарбеўскага. Кёльн. 1625 г. Гэтая кніга вытрымала пры жыцці аўтара шэсць выданняў



Выхаванец Віленскай акадэміі Казімір Леў Сапега займаў у сярэдзіне XVII ст. пасаду падканцлера Вялікага Княства Літоўскага. Гравюра невядомага мастака. 1667 г.

У Віленскай акадэміі вучыліся дзеці беларускай шляхты і магнатаў Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Валовічаў, Пацаў, Тышкевічаў, Пузынаў, Завішаў ды іншых. Арыстакратыя падтрымлівала акадэмію шчодрымі ахвяраваннямі. Сын Льва Сапегі – Казімір Леў падараваў багатую бібліятэку і стаў фундатарам юрыдычнага факультэта. На сродкі амсціслаўскай каштылянкі Лізаветы Пузыны тут была заснаваная адна з першых у Еўропе навуковых астранамічных абсерваторый. Князь Мікалай Радзівіл Сіротка перадаў акадэміі друкарскае абсталяванне і шрыфты.

У першай палове XVI ст. якасцю навучання Віленская акадэмія не саступала суседнім універсітэтам у Каралявцы і Кракаве або ў Ляйпцыгу. Паводле звестак акадэмічнага архіва, за час свайго існавання наша альма-матэр надала вучоныя ступені 4076 сваім выпускнікам.




Аўтар гэтай ілюмінаванай гравюры беларускі мастак Лявон Тарасевіч вучыўся ў нямецкім Аўгсбурзе. 1688 г.

Адчыненая ў 1586 г. акадэмічная друкарня выдавала на некалькіх еўрапейскіх мовах падручнікі, слоўнікі, тэалагічную, філасофскую, юрыдычную літаратуру, гістарычныя даследаванні, мастацкія творы. Тут, у прыватнасці, убачылі свет трактаты Арыстоцеля і Пётры Скаргі, некалькі выданняў «Гісторыі Вялікага Княства Літоўскага», «Гісторыя Англіі», «Радзівілаўскія хронікі з кароткім зместам подзвігаў роду князёў Радзівілаў». З друкарняй супрацоўнічалі славутыя беларускія гравёры Тамаш Макоўскі, Аляксандр і Лявон Тарасевічы.



Палемічная кніга выпускніка Віленскай акадэміі Мялета Смятрыцкага «Трэнас». 1610 г. Бібліятэка Кракаўскага ўніверсітэта

У 1781 г. акадэмія была пераўтвораная ў Галоўную школу Вялікага Княства Літоўскага, а пазней – у Віленскі ўніверсітэт.

# ЛІТАРАТУРА ЭПОХІ РЭНЕСАНСУ

Галоўнай тэмаю паэмы Яна Вісліцкага «Пруская вайна» стаў гераізм нашых продкаў у бітве пад Грунвальдам. Юбілейнае выданне славутай паэмы, якое выйшла ў перакладзе на польскую мову пад назовам «Песня пра Грунвальд». 1910 г.

Адным з першых здабыў славу на радзіме і ў Еўропе паэт-лацініст Ян Вісліцкі. Галоўнай тэмай яго выдадзенай у 1516 г. паэмы «Пруская вайна» была Грунвальдская перамога над Тэўтонскім ордэнам. Вісліцкі добра разумеў яе эпахальнае значэнне для лёсу краіны. У паэме ўслаўляліся гераічнае мінулае Вялікага Княства, гаспадар Вітаўт, нашы ваяры, «славутыя сваёй мужнасцю на вайне». Паэт з гонарам згадваў іншыя бліскучыя перамогі нашай зброі – над татарамі пад Клецкам і над маскоўцамі пад Воршай.

Еўрапейскіх вышыняў у эпоху Рэнесансу дасягнула беларуская літаратура і найперш паэзія, якая тады стваралася пераважна на лаціне – міжнароднай мове літаратурнай творчасці і навукі.

«Пруская вайна» Яна Вісліцкага запачаткавала ў беларускай літаратуры жанр гістарычнай эпапеі.


CARMEN
NICOLAI HVSSOVIANI
de statura feritate ac venatione
Bisontis.

Тытульны аркуш кнігі Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра». Кракаў. 1523 г.

Праз некалькі гадоў пабачыла свет паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра аблічча, дзікасць зубра і паляванне на яго», або скарочана «Песня пра зубра». Гэты геніяльны твор, напісаны ў Рыме і выдадзены ў Кракаве, прагучаў як сапраўдны гімн нашай дзяржаве, яго гісторыі і народу. Паэт паказаў Вялікае Княства Літоўскае як бастыён змагання з турэцка-татарскай пагрозай, якая тады навісла над Еўропай, і разам з тым як абарончы заслон ад агрэсіўнай Масковіі.




Тытульны аркуш «Песні пра зубра», перавыдадзенай у 2008 г. на лацінскай мове ў Італіі. Мастак Юрась Якавенка

## ХРАНАЛОГІЯ

Блізу 1470 г. – пасля 1533 г. – Жыццё і дзейнасць Міколы Гусоўскага.
1480–1520 гг. – Жыццё і дзейнасць Яна Вісліцкага.
1516 г. – Выданне паэмы Я. Вісліцкага «Пруская вайна».
1523 г. – Выхад у свет паэмы М. Гусоўскага «Песня пра зубра».
1547 г. – пасля 1590 г. – Жыццё і дзейнасць Мацея Стрыйкоўскага.
Блізу 1560 г. – 1625 г. – Жыццё і дзейнасць Саламона Рысінскага.
1582 г. – Надрукаваная «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага.
1595–1640 гг. – Жыццё і дзейнасць Мацея Казіміра Сарбеўскага.
1625 г. – Першае выданне «Лірыкі» М. Сарбеўскага.





«Паэт». Партрэт Міколы Гусоўскага. Мастак Юрась Якавенка. 2008 г. Афорт, мецацінта

Геніяльнай «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага была наканаваная еўрапейская слава.

*Ратнікі нашы з Піліпаўкі аж па Грамніцы*
*Маюць аддуху ў лясах — паляванне на звера.*
*Мабыць, свой звычай і Марс пераняў у ліцвінаў*
*І ў адпачынак мячы гартаваць на марозах...*
*Войны! Злачынная справа — вайна выклікае*
*Гнеў мой, і слёзы, і боль. Без падтрымкі, бясконца*
*Войны вядзём мы адзін на адзін за свяшчэнны*
*Братні саюз хрысціянства з навалай з усходу...*

У прысвячэнні вялікай княгіні літоўскай і каралеве польскай Боне Сфорца, з дапамогай якой выйшла ягоная паэтычная кніга, Гусоўскі пісаў: «Дзяржава абапіраецца больш на мужнасць духу, чым на сілу цела, пра што сведчаць як грэкі, так і рымляне. Яны былі наймагутнейшыя якраз тады, калі квітнелі навукі і мастацтва».



Помнік выдатнаму беларускаму паэту эпохі Рэнесансу Міколу Гусоўскаму ў скверы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Скульптар Уладзімір Панцялееў. 1993 г.

Герб канцлера Льва Сапегі і прысвечаная яму эпіграма Андрэя Рымшы. Старонка Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.





Кніга Альберта Каяловіча «Гісторыя Літвы» падавала мінулае нашай дзяржавы ад старажытных часоў да ўладарання вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. 1650 г.

У еўрапейскіх краінах чыталі і творы іншых беларускіх пісьменнікаў – «Дэкатэрас» Андрэя Рымшы, «Радзівіліяду» Яна Радвана, «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» Галляша Пельгрымоўскага. А. Рымша складаў паэтычныя творы па-беларуску ды па-польску і стаў заснавальнікам у нашай тагачаснай літаратуры жанру панегірычнай паэзіі. Лацініст Я. Радван, які атрымаў універсітэцкую адукацыю ў Падуі, быў паслядоўнікам Вергілія. На беларускай, лацінскай і польскай мовах пісаў Г. Пельгрымоўскі.

Ян Радван, Андрэй Рымша і ягоны сябар і калега Ян Казаковіч, падпісваючы свае творы, звычайна дадавалі да імя і прозвішча патрыятычнае ўдакладненне – Ліцьвін.

«Маршалкоўскае жазло на пахаванні Яна Станіслава Сапегі, выстаўленае ў Вільні». М. Сарбеўскі. Вільня. 1635 г.

Выпускнік Віленскай акадэміі паэт-лацініст Мацей Казімір Сарбеўскі заслужыў у сучаснікаў найменне «хрысціянскага Гарацыя». Першы з славянаў ён быў увянчаны лаўровым вянком на Капіталійскім пагорку ў Рыме, дзе з даўніх часоў ушаноўвалі найталенавіцейшых паэтаў.




Паэта Мацея Казіміра Сарбеўскага сучаснікі называлі «хрысціянскім Гарацыем». Тытульны аркуш і першая старонка з кнігі «Лірыка». Антвэрпэн. 1632 г. Ілюстрацыі Пітэра Паўля Рубенса

Кніга Мацея Казіміра Сарбеўскага «Лірыка» вытрымала пры жыцці аўтара ў розных гарадах Еўропы шэсць выданняў, адно з якіх, антвэрпэнскае, ілюстраваў Пітэр Паўль Рубенс. (Да канца XX ст. агульная колькасць перавыданняў гэтай славутай кнігі дасягнула 60.) «Чалавек – сімвал свету, бо ўтрымлівае ў сабе дасканаласць усяго існага», – пісаў Сарбеўскі. Паэзію ён лічыў сферай духоўнай свабоды, а стварэнні ёю мастацкі свет – ідэальнай рэальнасцю, што існуе побач з светам, які нарадзіла Божая воля.



Кніга твораў старажытнагрэцкага вучонага-энцыклапедыста Пталамея з бібліятэкі вялікага князя і караля Жыгімонта Аўгуста. Базэль. 1541 г.



Кішанёвае выданне кнігі «Рэспубліка» папулярна апавядала тагачаснаму еўрапейскаму чытачу пра геаграфію і гісторыю Вялікага Княства і Польскай Кароны. 1627 г.




Паэт і перакладнік Саламон Рысінскі быў першым збіральнікам беларускіх прыказак, прымавак і прыпавесцяў, пісаў вытанчаныя эпітафіі, пераклаў для Віленскай пратэстанцкай супольні псалмы цара Давіда.

Гамэрам Вялікага Княства называлі Мацея Стрыйкоўскага. Паляк паводле нараджэння, ён у 16-гадовым веку пераехаў у нашую краіну і стаў яе адданым патрыётам. Вялікую папулярнасць мелі ягоныя гістарычныя вершаваныя і празаічныя творы, дзе апавядалася «аб мужнасці, справах рыцарскіх і хатніх слаўнага народа літоўскага, рускага і жамойцкага». Галоўнай працай М. Стрыйкоўскага стала «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» – першая друкаваная гісторыя Вялікага Княства. Цікава, што ў творах Стрыйкоўскага сустракаецца назоў «Белая Русь», але ён выкарыстоўваецца ў дачыненні да Масковіі.

Гісторык і паэт Мацей Стрыйкоўскі заслужыў ганаровае найменне «Гамер Вялікага Княства». Гравюра 1582 г.

Тытульны аркуш «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі». Мацей Стрыйкоўскі. Каралявец (Кёнігсбэрг). 1582 г.

Старонка Баркулабаўскай хронікі, створанай на пачатку XVII ст.



Працягваліся традыцыі летапісання. Найбольш значнымі і цікавымі творамі гэтага жанру былі напісаныя па-беларуску «Хроніка Быхаўца» і «Баркулабаўская хроніка». Іх аўтараў адрозна ад ранейшых летапісцаў усё больш вабіла не толькі гісторыя краіны, але і лёс асобнага чалавека. Побач з хронікамі з'явілася літаратура зусім новага жанру – дыярыюшы (дзённікі) і мемуары. Напісаныя жывой моваю, насычаныя дасціпнымі назіраннямі і развагамі былі ўспаміны навагрудцаў Хведара Еўлашоўскага і Самуля Маскевіча, «Лісты» аршанскага старасты Філона Кміты-Чарнабыльскага, «Дыярыюш» праваслаўнага манаха Апанаса Філіповіча.




Папулярная ў Еўропе XVI ст. кніга Балдасарэ Кастыльёні «Прыдворны» ў Вялікім Княстве Літоўскім выйшла ў вольным перакладзе Лукаша Гурніцкага. 1566 г.

Каля 20 выданняў у перакладах на розныя еўрапейскія мовы вытрымала кніга «Перыгрынацыя». Яе аўтар Мікалай Крыштоп Радзівіл Сіротка апісаў сваё падарожжа ў Святую зямлю, пад час якога ён наведаў таксама Крыт, Кіпр, Сірыю і Егіпет.









Вокладка і тытульныя аркушы кнігі Мікалая Крыштопа Радзівіла «Пэрэгрынацыя», дзе апавядаецца пра падарожжа ў Святую зямлю. Выданні 1601 і 1614 гг.




«Касмаграфія» С. Мюнстэра паведамляла заходнееўрапейскаму чытачу звесткі з гісторыі і геаграфіі Вялікага Княства Літоўскага. Базэль. 1552 г.







Ілюстрацыі да аднаго з перавыданняў «Гіпікі» Крыштопа Мікалая Дарагастайскага. 1647 г.



Вядомы дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства, ганаровы грамадзянін Венецыі Крыштоп Мікалай Дарагастайскі стаў аўтарам унікальнага для ўсёй тагачаснай Еўропы трактата «Гіпіка, або Кніга пра коней». Гравюра Э. Садэлера. Прага. 1605 г.

Унікальным літаратурным помнікам той эпохі, калі часам няпроста было правесці мяжу паміж мастацкім творам і навуковым трактатам, ёсць праца Крыштопа Мікалая Дарагастайскага «Гіпіка, або Кніга пра коней». Упершыню надрукаваная ў 1603 г. у Кракаве, яна цягам XVII–XVIII стст. выходзіла яшчэ сем разоў. Гэта была першая ў Еўропе і свеце энцыклапедыя, прысвечаная коням.




Тытульны аркуш кнігі гуманіста XVI ст. Міхалона Літвіна «Аб норавах татараў, ліцвіноў і маскавітаў». Базэль. 1615 г.

Гуманіст і мысляр Міхалон Літвін, які быў паслом Вялікага Княства да крымскага хана, блізу 1550 г. стварыў на лацінскай мове трактат «Пра норавы татараў, ліцвіноў і маскоўцаў». Ён разважаў над тым, як пераадолець «сапсаванасць нораваў» і зрабіць грамадства больш справядлівым. Падзяляючы ідэі тагачасных еўрапейскіх утапістаў, М. Літвін марыў пра свет без маёмаснай няроўнасці, раскошы і марнатраўства.

Творы нашых пісьменнікаў XVI – пачатку XVII ст. сталі неадлучнай часткаю еўрапейскай літаратуры эпохі Рэнесансу.

Вялікае пашырэнне ў нашай дзяржаве атрымала публіцыстычная літаратура ў выглядзе трактатаў, прадмоваў і пасляслоўяў, якія ствараліся пераважна па-беларуску. Выдатнымі майстрамі гэтага жанру былі Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Андрэй Валян, Леў Сапега, Мялет Смятрыцкі, Іпат Пацей.

Наша пісьмовая мова ў гэты час вызвалялася ад даўнейшых рысаў царкоўна-славянскай. Пачалі ўсё часцей з'яўляцца беларускія тэксты лацінкаю (лацінскім альфабэтам). У такім выглядзе, да прыкладу, дайшоў да нас адзіны вядомы спіс «Хронікі Быхаўца». Лацінкаю напісаны і такі помнік нашай літаратуры XVII ст., як «Ліст да Абуховіча». Вялікая колькасць беларускіх тэкстаў лацінкаю захоўваецца ў Шведскім дзяржаўным архіве. Сярод іх – 150-старонкавы дыпламатычны дыярыюш з апісаннем перамоваў з маскавітамі.

Герб князёў Вішнявецкіх у кнізе Мялета Смятрыцкага «Трэнас». 1610 г.



# АРХІТЭКТУРА І МАСТАЦТВА



Помнік архітэктару Яну Марыя Бэрнардоні ў Нясвіжскім парку. Скульптар Сяргей Гуміleўскі. 1993 г.

Паступова ў беларускае манументальнае дойлідства пранікаў стыль барока. Самым раннім яго помнікам у Вялікім Княстве Літоўскім стаў збудаваны ў 1588–1593 гг. у Нясвіжы езуіцкі касцёл. Запрошаны Мікалаем Радзівілам Сіроткам з Італіі архітэктар Ян Марыя Бэрнардоні ў сваёй працы ўзяў за ўзор знакаміты храм Эль Джэзу ў Рыме.



Касцёл Божага Цела, збудаваны ў Нясвіжы Янам Марыя Бэрнардоні на ўзор рымскага храма Эль Джэзу, стаў самым раннім помнікам архітэктуры барока ў Літве-Беларусі. Фота Анатоля Кляшчука. 2002 г.



Царква ў вёсцы Мураванка Шчучынскага раёна – адзін з яскравых узораў беларускага абарончага дойлідства. Пачатак XVI ст. Сучаснае фота

## Дойлідства

На эпоху Рэнесансу прыпадае росквіт беларускага храмавага дойлідства. У гарадах, мястэчках, замках і манастырах будаваліся храмы розных тыпаў. Іх адметнымі рысамі былі спалучэнні архітэктурных стыляў готыкі і рэнесансу, абарончыя элементы, багатая аздоба фасадаў і інтэр'ераў. Выдатнымі помнікамі таго часу засталіся на нашай зямлі Сынкавіцкая (Зэльвенскі раён), Мураванкаўская (Шчучынскі раён) і Супраслеўская (Беласточчына) цэрквы-фартэцы, касцёл абарончага тыпу ў вёсцы Камаі (Пастаўскі раён), Чарнаўчыцкі Траецкі касцёл (Берасцейскі раён) і касцёл Дзевы Марыі ў вёсцы Вішнева на Валожыншчыне. Рэнесансавымі формамі вызначаліся пратэстанцкія храмы ў Смаргоні, Заслаўі, у вёсцы Дзераўная (Стаўпецкі раён), а таксама першыя мураваныя сінагогі ў Берасці і Горадні.



Унікальная царква-фартэца ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна спалучае ў сваім архітэктурным аблічы рысы готыкі і рэнесансу. Канец XV – пачатак XVI ст. Рэканструкцыя Аляксандра Сямёнава. Пачатак XXI ст.



Перліна беларускай архітэктуры царква-фартэца ў Супраслі (цяпер Польшча). Была пабудаваная ў 1503–1511 гг. на фундацыю маршалка Вялікага Княства А. Хадкевіча і мітрапаліта кіеўскага Я. Солтана. Знішчаная ў 1944 г. і адбудаваная ў 1999 г. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2005 г.

Узор беларускага барока – сабор святога Мікалая ў Магілеве. Другая палова XVII ст. Сучасны выгляд





Руіны замка Радзівілаў у Вільні. Малюнак невядомага мастака XIX ст.



Сінтэз готыкі і рэнесансу захаваў да нашых дзён касцёл Яна Хрысціцеля ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна, узведзены ў 1603–1606 гг. Сучаснае фота

Спалучэнне заходнееўрапейскіх уплываў з мясцовымі архітэктурнымі традыцыямі дало Беларусі велічныя палацава-замкавыя комплексы ў Міры, Геранёнах, Смалянах, Нясвіжы, Гальшанах. Новае, адпаведнае часу аблічча набывалі нашыя гарады. Трапіўшы ў тагачаснае беларускае места, падарожнік з Заходняй Еўропы знаходзіў вялікае падабенства з тым, што бачыў на радзіме. Спачатку ў Слуцку, Нясвіжы, Быхаве, а потым і ў іншых гарадах адбываўся пераход ад сярэдняевечнай радыяльна-колцавай планіроўкі да рэгулярнай забудовы з кварталамі і архітэктурным ансамблем цэнтральнага пляца. Паўсюль узводзіліся мураваныя ратушы, палацы, шпіталі, дамы цэхавых брацтваў.

Горадня ў 1601 г. Мастацкая рэканструкцыя Паўла Татарнікава. 2008 г.





Рэнесансава-барокавы архітэктурны сілуэт Менска з боку Барысаўскага тракту. Фрагмент літаграфіі Б. Лаверня. 1840 г.

Замак у Любчы ў сярэдзіне XVII ст. Фрагмент мастацкай рэканструкцыі Паўла Татарнікава. 2011 г.



Фрагмент дэкору Нясвіжскага замка





Віленскі касцёл бернардзінцаў. Фота 2010 г.

Адзін з сімвалаў Беларусі – Мірскі замак, збудаваны на пачатку XVI ст., – улучаны ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЭСКО. Фота Ігара Коршунава. 2006 г.





Святая сям'я з Францыскам. Абраз XVII ст. Касцёл Узнясення Дзевы Марыі ў Пінску



Маці Божая з святымі Кацярынай і Даротай. Скульптурны алтар-трыпціх з капліцы ў вёсцы Мохавічы Лідскага раёна

## Выяўленчае мастацтва

Пад уздзеяннем рэнесансавай культуры новая плынь з'явілася ў беларускім іканапісе. Ствараючы абразы, іх аўтары смела ўводзілі ў біблійныя сюжэты побытавыя і этнаграфічныя дэталі,

У XVI ст. склалася самастойная беларуская іканапісная школа.

Важныя перамены адбыліся ў свецкім жывапісе, дзе галоўнае месца заняў партрэт. У ім адлюстроўвалася рэнесансавая ўвага да асобы чалавека, яго псіхалагічнага стану. Асобны жанр сарматскага партрэта ўслаўляў рыцарскую мужнасць і годнасць ліцвінскай шляхты.



Сярод самых шанаваных у Беларусі здавён быў абраз «Маці Божая Адзігітрыя» з касцёла Спачыну Дзевы Марыі ў Будславе Мядзельскага раёна



Маці Божая Адзігітрыя. Абраз першай паловы XVII ст. Беларуская школа. Гэты сюжэт стаўся для нашых іканапісцаў адным з улюбёных яшчэ ад часоў Еўфрасінні Полацкай, якая атрымала з Візантыі абраз Адзігітрыі, намаляваны нібыта самім апосталам Лукой



знаёмыя архітэктурныя краявіды. Святыя часта нагадвалі рэальных зямных асобаў або фальклорных герояў. Цікава, што сюжэт «Страшнага суда» ў беларускіх абразах практычна адсутнічаў, а найбольш пашыранымі былі выявы Маці Божай Адзігітрыі.



Вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст. Мастак Лукас Кранах Малодшы. Музей Чартарыйскіх у Кракаве. 1553 г.

Вялікая княгіня і каралева Ганна, дачка Жыгімонта Старога і жонка Сцяпана Батуры. Невядомы мастак з кола М. Кобэра. Канец XVI ст.





Партрэт Міхала Барысовіча. Невядомы мастак канца XVI – пачатку XVII ст.



Габелен з «Пагоняй» – дзяржаўным гербам Вялікага Княства Літоўскага. Вавельскі каралеўскі замак. Брусэльская мануфактура. Другая палова XVI ст.



Вялікі князь і кароль Жыгімонт Стары. Мастак Лукас Кранах Малодшы. Блізу 1572 г.



Евангелле ад Яна. Беларускі рукапіс. XVI ст.

У палацах арыстакратыі, а часам і ў дамах багатых месцічаў з'яўляліся партрэтныя галерэі знакамітых продкаў. Найбагацейшы такі збор захоўваўся ў нясвіжскай рэзідэнцыі Радзівілаў. У часы вялікіх князёў Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста беларускія магнаты часта запрашалі да сябе мастакоў з Заходняй Еўропы, найперш з Італіі. Іх вучні – мясцовыя жывапісцы звычайна не падпісвалі сваіх карцінаў, але таксама стваралі сапраўдныя шэдэўры.

Высокамастацкія творы пакінулі беларускія гравёры Тамаш Макоўскі, Пётра Мсціславец, Максім Вашчанка... Яны не толькі аздаблялі кнігі, але і стваралі графічныя партрэты, геральдычныя кампазіцыі, карты, складаныя ілюстрацыі да навуковых трактатаў.

Скульптарам той эпохі належаць дасканалыя ўзоры паліхромнай драўлянай скульптуры і складаных алтарных кампазіцыяў. З каменю рабілі партрэтныя надмагіллі магнатаў.





Арганы Віленскага ўніверсітэта. XVIII ст.

## Музыка і тэатр

Шматлікімі асяродкамі царкоўнай і свецкай музычнай культуры ў XVI–XVII стст. былі брацкія школы, а таксама музычныя бурсы пры калегіюмах і манастырах, якія існавалі ў Вільні, Полацку, Віцебску, Магілеве, Горадні, Жыровічах (пад Слонімам) ды ў шмат якіх іншых гарадах і мястэчках. Бурсы мелі свае капэлы, ставілі музычныя спектаклі.

З будаўніцтвам новых каталіцкіх храмаў звязаныя з'яўленне арганаў і папулярызацыя арганнай музыкі. Захаваліся звесткі аб прыдворным арганісце вялікага князя Ягайлы, які ў першай палове XV ст. падарожнічаў па Літве-Беларусі. Болей за 50 арганаў налічваюць даследнікі на землях Княства ў XVI–XVII стст. Адметнасцю беларускай арганнай культуры было выкарыстанне гэтага музычнага інструмента ў літургіях не толькі ў рымска-каталіцкіх, але і ў грэцка-каталіцкіх (вуніяцкіх) храмах. Каштоўныя помнікі музычнай культуры той эпохі – рукапісныя зборнікі «Полацкі сшытак» і «Куранты». Творы з іх часта ўлучаюць у свой рэпертуар сучасныя беларускія выканаўцы.

Высокапрафесійных вакалістаў і музыкаў меў уладкаваны на еўрапейскі ўзор вялікакняскі двор у Вільні. Побач з айчыннымі талентамі там выступалі кампазітары і выканаўцы з іншых краінаў.




Паэт. Гравюра 1618 г.

Вялікае значэнне музыцы ў выхаванні асобы надавалі дзеячы тагачаснай культурнай эліты Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Андрэй Рымша. Францішак Скарына ў сваёй прадмове да кнігі «Прамудрасць Ісуса Сына Сірахава» заклікаў вучыцца «музыцы, то ест пеўніцы».

При калегіюмах ды іншых навучальнях у XVI ст. узнікаюць гэтак званыя школьныя тэатры. Адзін з найдаўнейшых пачаў сваю дзейнасць у 1585 г. у Полацкім езуіцкім калегіюме. Першым спектаклем, які ўбачылі палачане, стала трагікамедыя «Навуходанасор» з інтэрмедыямі, балетнымі і 
оперными фрагментамі. Акторак у школьных тэатрах не было, жаночыя ролі выконвалі юнакі ў масках. Удзельнікам усіх сцэнічных відовішчаў быў хор.



Паказы батлейкі, якія збіралі гледачоў цягам некалькіх стагоддзяў, адбываюцца ў Беларусі і сёння. Гравюра К. Келісінскага. Першая палова XIX ст.

Вялікую папулярнасць сярод простых людзей меў лялечны тэатр – батлейка (ад біблійнага Бэтлеема, дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос). Рэпертуар батлейкі звычайна складаўся з двух частак: рэлігійнай і свецкай. Батлеечнік часта спалучаў у сваёй асобе драматурга і актора, мастака і музыку.



Беларускія мядзведнікі даходзілі з сваімі выхаванцамі нават да Парыжа. Гравюра XVI ст.

Не толькі на радзіме, але і ў замежжы мелі славу нашы скамарохі, якія вандравалі з горада ў горад з «вучонымі» мядзведзямі. Паказы мядзведнікаў-ліцьвіноў у XVI–XVII стст. адбываліся ў шмат якіх краінах. Асяродкам развіцця гэтага віду народнага мастацтва стала заснаваная Радзівіламі гэтак званая «Смаргонская акадэмія».

# БЕЛАРУСКАЯ БІБЛІЯ. ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

На выдавецкім знаку (сыгнеце) Ф. Скарыны святло ведаў перамагае цемру невуцтва

Волат беларускага і ўсяго еўрапейскага Рэнесансу нарадзіўся ў сям'і купца ў старажытным Полацку. Адтуль у 1504 г. ён выправіўся па навуку ў Кракаўскі ўніверсітэт, філасофскі факультэт якога скончыў з ступенню бакалаўра. Пазней Скарына стаў доктарам «вольных навук» (філасофіі), а ў 1512 г. з'явіўся ў Падуанскім універсітэце – самым аўтарытэтным у тагачаснай Еўропе. Бліскуча вытрымаўшы там экзамены, ён першы сярод усходніх славянаў атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны (якую, напэўна, вывучаў раней у Капенгагене). Сёння выяву нашага знакамітага суайчынніка можна ўбачыць у Падуі ва ўніверсітэцкай мемарыяльнай зале сярод партрэтаў сарака выдатных дзеячоў навукі і мастацтва, што выйшлі з сценаў гэтай альма-матэр.



«Францішак Скарына з Полацка». Фрэскавы партрэт у мемарыяльнай зале славутага Падуанскага ўніверсітэта, дзе знаходзяцца выявы сарака самых знакамітых дзеячоў навукі, якіх выхавала гэтая альма-матэр. Побач з Скарынам змешчаныя партрэты ягоных братоў па духу Галілео Галілея і Мікалая Каперніка. Мастак Дж. Форна. 1942 г.



Двор Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2005 г.




Падуанскі ўніверсітэт. Дрэварыт Я. Тамасіні. 1654 г.



Падуя. Ілюмінаваная гравюра з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля. Нюрнбэрг. 1493 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

Блізу 1490 г. – блізу 1551 г. – Жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны.
1506 г. – Заканчэнне Ф. Скарынам Кракаўскага ўніверсітэта.
1512 г. – Скарына атрымаў у Падуанскім універсітэце ступень доктара медыцыны.
6 жніўня 1517 г. – У Празе выйшла першая друкаваная беларуская кніга «Псалтыр».
1517–1519 гг. – Скарына выдае ў сваім перакладзе 23 кнігі Бібліі.
Блізу 1520 г. – Заснаванне Ф. Скарынам Віленскай друкарні.
1522 г. – Выданне «Малой падарожнай кніжкі».
1525 г. – Ф. Скарына надрукаваў кнігу «Апостал».






Прага. Гравюра Г. Браўна і Ф. Гогэнбэрга. 1598 г.



Францішак Скарына. Фрагмент карціны Лазара Рана. 1956 г. Музей беларускага кнігадрукавання ў Полацку

Замест спакойнага жыцця на пасадзе лекара пры двары якога-небудзь князя ці магната Скарына як сапраўдны сын эпохі Рэнесансу абраў іншы шлях. Ён вырашыў даць свайму народу «лекі духоўныя» – друкаваную Біблію на зразумелай мове.

Першая з яго кніг – Псалтыр – пабачыла свет 6 жніўня 1517 г. у чэшскай Празе. У прадмове да яе гуманіст пісаў: «Я, Францішак Скарынін сын з Полацка, у лекарскіх навуках доктар, павялеў Псалтыру цісну́ці... наперад ка чці і к пахвале Богу ў Тройцы адзінаму і прачыстай яго мацеры Мары... а потым к пажытку паспалітага, добрага, найболей з тае прычыны, іжэ мя міласціvы Бог з таго языка на свет пусціў». Такім чынам, беларусы першыя сярод усходніх славянаў і ўсіх усходнееўрапейскіх народаў атрымалі друкаваную кнігу на роднай мове.

Славуты палачанін пакінуў нашчадкам 23 перакладзеныя і выдадзеныя пастарабеларуску біблійныя кнігі і гэтым увёў Вялікае Княства і беларусаў-ліцвіноў у сям'ю перадавых еўрапейскіх народаў. Друкаваная беларуская Біблія Францішка Скарыны – чацвертая ў свеце, выдадзеная на жывой мове народа (пасля нямецкага, італійскага і чэшскага перакладаў).



Цар Давід грае ў гуслі. Тытульны аркуш другой кнігі «Царствы». 1518 г.



Саламон гутарыць з царыцай Саўскай. Тытульны аркуш «Эклезіяста». 1518 г.



Францішак Скарына. Скульптар Аляксей Глебаў. Дрэва. 1954 г.



Вавілонская царыца Эсфір прыйшла ў Ерусалім прасіць за свой народ. Тытульны аркуш кнігі «Эсфір». 1519 г.



Фараонава дачка знаходзіць Майсея ў вадзе. Тытульны аркуш кнігі «Выхад». 1519 г.

Скарынавая Кніга кніг выйшла раней за Лютэраву. Яна была першай друкаванаю Бібліяй ва ўсходне- і паўднёваславянскіх народаў і амаль на паўстагоддзя апярэдзіла польскую. Скарына выдаў свой пераклад раней, чым з'явіліся французскі і ангельскі. Ягоны «Псалтыр» убачыў свет за 47 гадоў да «Апостала», з якога пачалося расейскае кнігадрукаванне. Сама ж Біблія па-расейску ўпершыню была выдадзеная ў 1876 г.



Ахвярнік Аарона. Гравюра з кнігі «Выхад». 1519 г.




Помнік выдатнаму дзеячу еўрапейскага Рэнесансу гуманісту Францішку Скарыну ў Менску. Скульптар Алесь Дранец. 2006 г.

Вярнуўшыся на радзіму, Скарына блізу 1520 г. з дапамогаю заможных віленскіх месцічаў Якуба Бабіча, Багдана Анковіча (Онкава) і Юр'я Адверніка, якія, відаць, падтрымлівалі яго і раней, заснаваў друкарню ў сталіцы нашай дзяржавы – Вільні. У 1522 і 1525 гг. там выйшлі «Малая падарожная кніжка» і «Апостал». Віленская друкарня Францішка Скарыны была першай ва Усходняй Еўропе.

Ён увайшоў у гісторыю не толькі як беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, але і як філосаф, чый светапогляд спалучаў хрысціянскія, антычныя і гуманістычныя ідэі. Як пісьменнік – празаік і паэт, што служыў не эліце або нейкаму стану, а ўсяму народу. Як выдатны перакладнік з некалькіх старажытных і новых моваў, як рэдактар і выдавец, што дасягнуў найвялікшай гармоніі слова і друкарскага мастацтва. (На думку спецыялістаў, сваёй прыгажосцю і дасканаласцю Скарынавы кнігі перасягаюць як ранейшыя царкоўнаславянскія выданні, так і бальшыню славутых у той час венецыянскіх.)



Тытульны аркуш «Пасланняў апостала Паўла» з кнігі «Апостал». Вільня. 1525 г.

Вучоныя дагэтуль не могуць адназначна сказаць, якога ён быў веравызнання. Гуманістычныя перакананні асветніка ставілі яго па-над канфесіямі, што выклікала незадаволенасць зацятых прыхільнікаў і праваслаўя, і каталіцтва.

Пяру Скарыны належыць геніяльна просты і самы прачулы ў нашай гісторыі патрыятычны гімн-хваласпеў любові да Бацькаўшчыны: «Панежэ ад прыраджэння звяры, ходзячыя ў пустыні, знаюць ямы свая, птіцы, лятаючыя па воздуху, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плываючыя па мору і ў рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобныя бароняць вулляў сваіх, – така ж і людзі, ігдзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку імаюць».



Партрэт нашага першадрукара, які ён тройчы змяшчаў у сваіх пражскіх выданнях



Ізраільцяне каля храма Божага. Тытульны аркуш чацвертай кнігі Майсея. 1519 г.

Сын народа, што жыве ў геаграфічным цэнтры Еўропы, Скарына бліскуча спалучыў у творчасці традыцыі візантыйскага Усходу і лацінскага Захаду. Ён аздобіў свае кнігі шматлікімі высокамастацкімі гравюрамі, па якіх можна вывучаць тагачаснае жыццё – побыт, адзенне, тэхніку будоўлі, вайскову справу. Смела адступаючы ад царкоўных канонаў, ён змясціў у Бібліі ўласную выяву – першы ў гісторыі сусветнага мастацтва партрэт кнігавыдаўца.

У жыцці першадрукара адбілася ўся натхнёная, вірлівая і авантурная эпоха пераходу ад Сярэднявечча да Новага часу. На думку некаторых гісторыкаў, ён нейкі час працаваў сакратаром дацкага караля Ганса. Скарына сустракаўся з рэфарматарам Лютэрам і медыкам ды алхімікам Парацэльсам. Браў удзел у складанні агульнадзяржаўнага збору законаў – першага Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г. Быў сакратаром і прыдворным лекарам у віленскага біскупа Яна. Скарыну запрашаў да сябе на службу магістр Тэўтонскага ордэна Альбрэхт Брандэнбургскі, які надаў яму шляхоцтва.

Калі за браты даўгі крэдыторы кінулі Скарыну ў вязніцу, яго вызваліў сам вялікі князь Жыгімонт Стары. На знак прызнання асаблівых заслуг перад Айчынаю манарх выдаў вучонаму палачаніну адмысловы ахоўны прывілей.

Ведаючы, што Маскоўшчына не мае сваіх друкарняў, Францішак Скарына прывёз у яе сталіцу партыю сваіх кніг і прапанаваў наладзіць выдавецкую справу. Але і свецкія, і духоўныя ўладары паставіліся да гэтага варожа. Маскоўскі князь Васіль III загадаў скласці з Скарынавых кніг вогнішча. Іх публічнае паленне сталася яшчэ адным сведчаннем велізарнай розніцы ў культурных роўнях Вялікага Княства Літоўскага і Масковіі.

Зямны шлях выдатнага гуманіста завяршыўся ў Празе, дзе да яго некалі прыйшла еўрапейская слава. У старажытнай частцы чэшскай сталіцы, на Градчанах, памяць нашага суайчынніка ўшанаваная помнікам.



Славуты медык, алхімік і філосаф эпохі Адраджэння Парацэльс у 1520-х гадах наведаў Вільню, дзе ў дыспуце з ім браў удзел доктар медыцыны Ф. Скарына. Невядомы мастак XVI ст.

Скарынавыя выданні мелі шырокую чытацкую аўдыторыю не толькі ў нашай дзяржаве. Іх ведалі ў Польшчы, Чэхіі, Нямеччыне. Цяпер першадрукі славутага палачаніна захоўваюцца пераважна ў бібліятэках Расеі і Украіны, а таксама ў кнігазборах Кракава, Варшавы, Лондана, Кембрыджа, Капенгагена, Любляны, Прагі. Невядомы раней асобнік Скарынавай Бібліі знойдзены нядаўна ў Нямеччыне.



Бібліятэка і Музей імя Францішка Скарыны ў Лондане, дзе захоўваецца блізу 50 000 кніг, а таксама камплектаў газет і часопісаў, у тым ліку рэдкія беларускія старадрукі



Памяць нашага першадрукара ўшанаваная і ў Празе. Скульптар Эдуард Астаф'еў. 1996 г.

# КНІГАДРУК

Аправа «Евангелля напрастольнага», выдадзенага Пятром Мсціслаўцам у Вільні. 1575 г.

Славутая Берасцейская Біблія, надрукаваная пратэстантамі па-польску коштам канцлера Вялікага Княства Мікалая Радзівіла Чорнага. 1563 г.

Пасля Скарыны кнігадрукаванне ў Вялікім Княстве аднавілася ў сярэдзіне XVI ст. і ўжо не спынялася. Адразу некалькі друкарняў дзейнічалі ў 1550-х – 1570-х гадах у Берасці пад апекаю канцлера Мікалая Радзівіла Чорнага. Толькі ў адной з іх, якой кіраваў Цыпрыян Базылік, выйшла больш за 40 выданняў рознага зместу. Значная частка была адрасаваная простаму, «паспалітаму» чытачу. Сярод гэтых кніг «Размова паляка з ліцьвіном», дзе разглядаўся дзяржаўны і палітычны лад у Вялікім Княстве і Польскім Каралеўстве напярэдадні Люблінскай вуніі 1569 г. Тамсама пабачыла свет так званая Берасцейская, або Радзівілаўская, Біблія, якая лічыцца выдатным помнікам польскамоўнага кнігадрукавання ў Беларусі.

Сведчаннем высокага культурнага развіцця Вялікага Княства Літоўскага ў эпоху Рэнесансу было існаванне шматлікіх друкарняў. У іх выпускалася неабходная для патрэбаў дзяржавы і яе жыхароў разнастайная літаратура: рэлігійныя кнігі, зборы законаў, навуковыя трактаты, падручнікі і слоўнікі, мастацкія творы.

Прадмова В. Цяпінскага да ягонага «Евангелля» вызначаецца гарачым патрыятызмам

Васіль Цяпінскі пераклаў на беларускую мову і выдаў у сваёй друкарні Евангелле. Гравюра 1576 г.



Старонка беларускага «Катэхізіса» С. Буднага. Нясвіж. 1562 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

Заснаванне друкарняў пасля Францішка Скарыны:

1553 г. – Берасце.
1560 г. – Нясвіж.
Блізу 1563 г. – Масква.
1569 г. – Заблудаў.
1572 г. – Лоск.
1574 г. – Вільня.
1570-я гады – Цяпіна.
1572 г. – Альбоў (Львоў).
Блізу 1578 г. – Астрог.
1580 г. – Вільня.
1583 г. – Вільня.
1595 г. – Вільня.
1610 г. – Еўе.
1612 г. – Любча.
1616 г. – Магілеў.
1622 г. – Менск.
1630 г. – Куцейна.
1632 г. – Буйнічы.
Блізу 1690 г. – Супрасль.



Беларускае кнігадрукаванне ў Вялікім Княстве Літоўскім пасля Францішка Скарыны прадоўжыў Сымон Будны. Шаржаваны партрэт XVI ст.

У Нясвіжскай друкарні, якую ўзначальвалі Сымон Будны, Мацей Кавячынскі і Лаўрэн Крышкоўскі, выйшлі па-беларуску кнігі «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» і «Катэхізіс». Скарынаўскую традыцыю кірылічнага кнігадрукавання працягваў Васіль Цяпінскі, што заснаваў друкарню ў родавым маёнтку Цяпіна пад Чашнікамі. Вялікую ролю ў жыцці дзяржавы адыгрывала Віленская друкарня братоў Мамонічаў, дзе па-беларуску быў выдадзены Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. і яшчэ болей за 50 кніг кірыліцай.



Вадзяныя знакі з паперы, якой карысталіся беларускія друкары

У сярэдзіне XVI ст. беларусы заснавалі кнігавыдавецкую справу ў Маскоўіі. Гэта былі Пётра Мсціславец родам з Амсціслава ды Іван Федаровіч (Фёдараў), які належаў да шляхоцкага роду герба «Шранява». Усё друкарскае начынне яны прывезлі з радзімы, дзе кнігі выходзілі ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Аднак кансерватыўнае маскоўскае духавенства і цёмнае баярства паставіліся да беларускіх асветнікаў варожа. Неўзабаве пасля выдання першай расейскай кнігі «Апостал» (1564 г.) Мсціславец і Федаровіч былі абвінавачаныя ў «пашырэнні ерасі», а іхную друкарню разбурыў раз'юшаны натоўп. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, нашыя суайчыннікі працягвалі працу ў Заблудаўскай друкарні пад Беластокам, якую фундаваў беларускі магнат Рыгор Хадкевіч. Там выйшлі вядомыя «Евангелле вучыцельнае» і «Псалтыр» з «Часаслоўцам».

«Граматыка» Мялета Сматрыцкага. Еўе (цяперашні Вевіс у Летуве). 1619 г.

Друкарні пры брацтвах, манастырах, навучальных установах, дварах магнатаў існавалі ў Менску, Полацку, Куцейне (каля Воршы), Магілеве, Буйнічах, Любчы, Супраслі. У Евейскай друкарні паблізу Вільні ў 1619 г. сышла з варштату славутая «Граматыка» Мялета Сматрыцкага, якая два стагоддзі служыла ва ўсім усходнеславянскім свеце падручнікам царкоўнаславянскай мовы.

Помнік Пятру Мсціслаўцу ў яго родным Амсціславе. Скульптар Аляксандр Бацвінёнак. 2001 г.

Евангелле напрастольнае паводле святога Лукі. П. Мсціславец. Вільня. 1575 г.

Праз колькі гадоў Іван Федаровіч пераехаў у Альбоў (так беларусы даўней называлі Львоў), дзе заснаваў першую друкарню ва Украіне. Там былі выдадзеныя першая дакладна датаваная ўкраінская кніга «Апостал» (1574 г.) і першы друкаваны ўсходнеславянскі падручнік «Азбука». Неўзабаве Федаровіч адчыніў друкарню і ў горадзе Астрозе. Шрыфты і гравюры для альбоўскіх і астрожскіх выданняў рабіў беларус Грынь Івановіч.

Выдавецкі знак з кнігі «Апостал» украінскага першадрукара беларуса Івана Федаровіча (Фёдарава). Альбоў (Львоў). 1574 г. На знаку змешчаны шляхоцкі герб Федаровіча «Шранява» (справа)

Герб Рыгора Хадкевіча з «Вучыцельнага Евангелля», якое выйшла ў заснаванай гэтым магнатам друкарні ў Заблудаве (цяпер Польшча). 1569 г.

Наступнік Скарыны ліцьвін Іван Федаровіч стаў пачынальнікам кнігадрукавання ў Расеі і Украіне.



Тытульны аркуш «Евангелля», выдадзенага Святадухаўскай брацкай друкарняй у Вільні. 1644 г.



Астрожская Біблія – адзін з першых славянскіх перакладаў Бібліі і першае завершанае выданне Бібліі на царкоўнаславянскай мове. Надрукаваная ў Астрозе Іванам Федаровічам у 1581 г. з дапамогай праваслаўнага князя Канстанціна-Васіля Астрожскага. Шрыфты для гэтай кнігі і яе аздабленне рабіў таксама беларус Грынь Івановіч

Сярод іншай літаратуры дзякуючы нашым друкарам тады пабачыла свет славутая Астрожская Біблія – першае поўнае выданне Святога Пісьма кірыліцай.



«Евангелле вучыцельнае». Еўе. 1616 г.

Увагаю да антычнай спадчыны вызначалася дзейнасць беларускага друкара Яна Карчана, якога з гэтае прычыны параўноўвалі з славутым венецыянскім выдаўцом Альдам Мануцыо. Спачатку Карчан друкаваў кнігі ў Лоску (каля Крэва), а ў 1580 г. заснаваў друкарню ў Вільні. Дзякуючы яму прыйшлі да чытача больш за сто выданняў, што ў бальшыні мелі свецкі характар. Адным з першых быў трактат Цыцэрона «Пра абавязкі». Вялікую папулярнасць здабыла кніга «Апафегматы» – зборнік афарызмаў і кароткіх апавяданняў з жыцця знакамітых людзей старажытнага свету. Побач з «Гісторыяй Юдэйскай вайны» Флавія, творамі Эразма Ратэрдамскага ды іншых заходнееўрапейскіх гуманістаў Карчан друкаваў кнігі тагачасных беларускіх пісьменнікаў Сымона Буднага, Андрэя Рымшы, Андрэя Валяна, Яна Казаковіча, Беняша Буднага. Шырока разыходзіліся медычныя трактаты, падручнікі, календары, палемічныя выданні.



Ірмалой – зборнік рэлігійных спеваў для набажэнства. Супраслеўская друкарня. Канец XVI ст.



Праваслаўны манастыр у Супраслі (цяпер Польшча) быў значным асяродкам беларускага кнігадрукавання. Фота Зміцера Герасімовіча. 2005 г.

Святадухаўская царква Куцеінскага Багаяўленскага манастыра ў Воршы. Першая палова XVII ст. Пры манастыры дзейнічала вядомая друкарня, заснаваная ў 1630 г. асветнікам і выдаўцом Спірыдонам Собалем. Сучаснае фота





«Евангелле вучыцельнае». Еўе. 1616 г.



Тытульны аркуш кнігі «Неба новае». Гравёр Васіль Вашчанка. Магілеў. 1699 г.



Выдадзены Спірыдонам Собалем «Апостал». 1638 г.



Разгорт кнігі «Новы Запавет і Псалтыр». Куцейна. 1652 г.

У Куцеінскім Багаяўленскім манастыры (перадмесце Воршы) плённа працавала друкарня асветніка Спірыдона Собаля. Шырокую вядомасць атрымалі выдадзеныя ім кнігі «Малітваслоў», «Часаслоў», «Новы Запавет і Псалтыр» і асабліва «Буквар». Пазней С. Собаль працягваў сваю выдавецкую дзейнасць у Буйнічах і Магілеве.

Куцеінская друкарня выпускала кнігі на царкоўнаславянскай і старабеларускай мовах і была ў XVII ст. асноўным цэнтрам беларускага кірылічнага кнігадрукавання.

Друкар віленскага праваслаўнага брацтва Самуль Рагаля ў 1643 г. стварыў першую друкарню ў Малдове і выдаў там кірыліцай першую друкаваную малдаўскую кнігу «Картя дэ ынвенцатурэ» («Евангелле вучыцельнае»).

Кнігі нашых друкарняў эпохі Рэнесансу не толькі пашыралі веды, але і служылі маральнаму ўдасканаленню жыхароў краіны, выхоўвалі патрыятычныя ідэалы. Вялікі попыт на літаратуру засведчыў высокую для таго часу адукаванасць беларускага грамадства.

# ІНФЛЯНЦКАЯ ВАЙНА. СЦЯПАН БАТУРА



Захоп Полацка маскоўскім войскам. Гравюра 1563 г. Аўгсбург

Прагнучы прарвацца да Балтыйскага мора, Маскоўская дзяржава ў 1558 г. напала на Інфлянты (Лівонію) – канфедэрацыю з пяці прыбалтыйскіх княстваў. Войскі Івана IV захапілі Нарву і Дорпат (Тарту). Спадзеючыся на падтрымку, інфлянцкі магістр прызнаў сябе васалам Вялікага Княства Літоўскага. Гетман Мікалай Радзівіл Руды павёў ліцьвінскія палкі на дапамогу суседзям.

У 1562 г. маскоўскія ваяводы ўступілі на тэрыторыю нашай дзяржавы і, ужываючы тактыку выпаленай зямлі, дайшлі да Віцебска, Дуброўны, Воршы, Копысі і Шклова. Пра паход на Віцебск маскоўскі летапісец занатаваў: «Астрог узялі ды папалілі, і пасады ў горада ўсе папалілі, і людзей у астрозе многіх пабілі, і вёскі з сёламі папалілі ды паваявалі». Ад таго часу галоўным тэатрам баявых дзеянняў у Інфлянцкай вайне сталі беларускія землі.



Вялікі князь маскоўскі Іван IV Жахлівы. Невядомы мастак пачатку XVII ст.



Ліст Івана IV да імператара Святой Рымскай імперыі Фердынанда I. У яго-най асобе Масква шукала хаўрусніка для ажыццяўлення сваіх захопніцкіх планаў. 1560 г.



Маскавіты XVI ст. Малюнак А. МакБрайда. 1980-я гады



Ваяры-маскоўцы. Гравюра з кнігі С. Гербэрштайна «Нататкі пра маскоўскія справы». Вена. 1549 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

1558–1582 гг. – Інфлянцкая (Лівонская) вайна.
1562 г. – Масковія распачала ваенныя дзеянні супраць Вялікага Княства Літоўскага.
1563 г. – Войскі Івана IV захапілі Полацак.
26 студзеня 1564 г. – Перамога над маскоўцамі на рацэ Вуле.
1 лютага 1564 г. – Аршанская бітва.
1576–1586 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Сцяпана Батуры.
Жнівень 1579 г. – Вызваленне Полацка.
1582 г. – Ям-Запольскае замірэнне.



### Захоп Полацка




Падзеі Інфлянцкай вайны знайшлі адлюстраванне ў кнізе Аляксандра Гваніні «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі». 1581 г.

Прапанова гаспадара Жыгімонта Аўгуста пра ўзаемны адвод войскаў не задаволіла Івана IV, які меў намер захапіць Полацак – тады найбуйнейшы і найбагацейшы горад Вялікага Княства. На пачатку 1563 г. асноўныя сілы маскоўцаў на чале з Іванам Жахлівым узялі яго ў аблогу. 60-тысячнай варожай ардзе з 200 гарматамі супрацьстаяў зусім невялікі гарнізон ваяводы Станіслава Давойны.

Гетман Радзівіл меў толькі 3,5 тысячы кавалерыі з 20 гарматамі і не мог дапамагчы палачанам. Нягледзячы на гэта, абаронцы адмовіліся скласці зброю. Яны геройчна трымаліся больш за два тыдні і аднойчы нават наважыліся на начны вылаз, каб адбіць у непрыяцеля гарматы. Аднак сілы былі занадта няроўныя. Ваявода Давойна спярша мусіў вярнуць сваіх людзей у замак, а пасля сёмага варожага прыступу капітуляваў.

Парушыўшы абяцанні, Іван IV абвясціў палоннымі не толькі жаўнераў, але і ўсіх жыхароў. Італіец Аляксандр Гваніні, які тады быў віцебскім ваенным камендантам, пісаў у кнізе «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі», што захопнікі вывелі з Полацка ў Масковію 50-тысячны палон, у тым ліку ўсю шляхту. Некалькі тысяч не вытрымалі дарогі і загінулі ад марозу і голаду. Расейскія стральцы вынішчылі ў горадзе ўсіх каталікоў, а юдэяў – ад старых да немаўлятаў – патапілі пад лёдам Дзвіны і Валовага возера.




Тытульны аркуш «Праўдзівага паведамлення пра здабыццё вялікага горада і замка Полацка». Лондан. 1579 г.



Маскавіты паводзілі сябе на нашых землях з неверагоднай жорсткасцю. Гэтая гравюра з нямецкага «лятучага лістка» паказвае расправу над мірнымі жыхарамі. 1560-я гады

Страта Полацка была для Вялікага Княства Літоўскага надзвычай цяжкім ударам. Распачаліся перамовы аб міры, але яны не далі плёну: Масква не хацела вяртаць Полаччыну, а Вільня не згаджалася ад яе адмовіцца.



Захопнікі пачуваліся ў небяспецы і будавалі замкі для акупацыйных гарнізонаў. Гравюры 1579 г. Некаторыя даследнікі лічаць іх аўтарам Станіслава Пахалавіцкага (Пахаловіча)

Захоп фарпоста еўрапейскай цывілізацыі і жорсткасць расправы з абаронцамі і мірнымі жыхарамі Полацка выклікалі гучны рэзананс у іншых краінах. «Лятучыя лісткі» з апісаннем трагедыі выходзілі па-нямецку, па-ангельску, па-французску, па-чэшску, па-лацінску, па-галандску ў розных гарадах Еўропы ад Любека да Ліёна.



Вульскі замак няраз рабіўся месцам гарачых баёў. Гравюра другой паловы XVI ст. Венецыя

## Бітва на Вуле

У студзені 1564 г. вораг распачаў новую ваенную кампанію. Дзве расейскія арміі з боку Полацка і з-пад Смаленска павінны былі злучыцца пад Воршай і рушыць на Менск, Навагрудак і Вільню. Але захопніцкія планы сарвалі вялікі гетман Мікалай Радзівіл Руды і палявы гетман Рыгор Хадкевіч.

25-тысячнае войска маскоўцаў на чале з Пятром Шуйскім рухалася левабярэжжам ракі Вулы быццам па сваёй зямлі, нават не высылаючы наперад дазораў. Ваявода быў упэўнены, што ліцьвінскія харугвы, у якіх агулам было не болей за 8 тысяч ваяроў, не адважацца ўступіць у бітву. Аднак увечары 26 студзеня каля вёскі Іванск паблізу Чашнікаў гетман Радзівіл з аддзелам адборнай конніцы атакаваў маскоўскі авангард.



Удзельнік пераможнай бітвы на Вуле Раман Сангушка. Невядомы мастак пачатку XIX ст.

Пасля кароткай сечы ліцьвіны пачалі адступаць, заваблівачы праціўніка за сабой. Гэта адкрыла прастору для раптоўнага ўдару нашых галоўных сілаў па варожай калоне. Стральцы не паспелі ні надзець брані, ні стаць у баявыя шыхты. Кінуўшы абоз, яны ў паніцы рассеяліся па полі і спрабавалі ратавацца ўцёкамі. Лава нашай кавалерыі секла маскоўцаў, не даючы ім апаматацца.

У месяцовым святле ліцьвіны некалькі міляў пераследвалі рэшткі разгромленага войска. Дабіваць захопнікаў дапамагалі тамтэйшыя жыхары. Пад сякерай простага селяніна з Іванска скончылася жыццё самога ваяводы Шуйскага. Ад куляў, шабляў і дзідаў у бітве на Вуле (яе называюць таксама бітвай на Іванполі) палегла дзесяць тысяч акупантаў і гэтулькі сама патанула ў рацэ. У Полацак вярнулася толькі пятая частка маскоўцаў. З нашага боку страты склалі некалькі сотняў палеглымі і параненымі. Сярод камандзіраў вылучыліся ваяры з славутых беларускіх родаў Ян Хадкевіч, Раман Сангушка, Багдан Саламярэцкі, Мікалай Сапега, Юрай Тышкевіч, Богуш Карэцкі, Юрай Зяновіч.

У выніку зімовай кампаніі 1564 г. была аднаўленая ваенная раўнавага паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўшчынай і пачалося пазіцыйнае супрацьстаянне з лакальнымі сутычкамі.



Адкрыты шалом тыпу «марыён». 1580 г.



Ротмістр-ліцьвін гусарскай панцырнай харугвы XVI ст. Гравюра XIX ст. з карціны Ф. Сыпнеўскага



«Паўпанцыр» удзельніка Інфлянцкай вайны Мікалая Радзівіла Сіроткі, параненага пры аблозе Полацка. Французскі майстар. 1570-я гады

На падзеі 1564 г. гісторык і паэт Мацей Стрыйкоўскі адгукнуўся паэмаю «Бітва на Вуле». Гэты твор сярод іншых цікавых дэталяў паведамляе, што звесткі пра паход маскоўцаў гетман Радзівіл атрымаў ад наблізанага да яго праваслаўнага святара, які няраз пабываў у Полацку з таемнымі даручэннямі, «выкарыстоўваючы хітрасць Адысея».

Метровая шпага венецыянскага тыпу. Канец XVI ст.

Такая шпага ва ўмелых руках была надзвычай небяспечнай зброяй. Даўжыня 115 сантыметраў. Італія. 1570 г.

Праз тыдзень пасля тае перамогі адбылася яшчэ адна важная для далейшага ходу вайны бітва. Пад Воршай амсціслаўскі ваявода Юрай Осцікавіч і аршанскі староста Філон Кміта-Чарнабыльскі малымі сіламі здзейснілі імклівую атаку на перадавы полк 50-тысячнага войска ваяводы Пятра Абаленскага-Сярэбранага. Ваенчай хітрасцю нашы камандзіры здолелі пераканаць ворагаў, што на іх напала ўсё пераможнае войска Радзівіла. Маскоўцы пакінулі абоз на 25 тысяч вазоў з тысячамі коней і спехам адступілі да Смаленска.

Сцяпан Батура. Копія XIX ст. з партрэта М. Кобэра 1583 г.

## Вялікі князь Сцяпан Батура

Дарма што была падпісаная Люблінская вунія, палякі не спяшаліся на дапамогу Княству. Пералом у Інфлянцкай вайне надышоў толькі тады, калі ў 1576 г. вялікім князем літоўскім і каралём польскім быў абраны вугорац Іштван Батары, якога ў нас называлі Сцяпанам Батурам.

Новы гаспадар паходзіў з старажытнага вугорскага роду Баторыяў Шомлё. З пятнаццаці гадоў ён знаходзіўся на вайсковай службе ў караля Чэхіі і Вугоршчыны Фердынанда, разам з ім быў у Італіі і вучыўся ў славутым Падуанскім універсітэце. Трапіўшы ў палон да немцаў, Батура тры гады нявolі прысвяціў навукам, у тым ліку вывучэнню працаў антычных гісторыкаў. Да абрання нашым манархам ён уладарыў у Трансільванскім княстве (цяпер тэрыторыя Румыніі).

Сцяпан Батура прыйшоў да ўлады пасля таго, як у цяжкіх умовах вайны Вялікае Княства Літоўскае мусіла падпісаць Люблінскую вунію 1569 г. з Польскім Каралеўствам. Павёўшы мудрую палітыку, ён паспяхова стрымліваў прэтэнзіі палякаў на падпарадкаванне нашай дзяржавы. На думку гісторыкаў, сам манарх браў удзел у падрыхтоўцы будучага Статута Вялікага Княства 1588 г. – найдасканалейшага збору законаў у Еўропе XVI ст.

Каранаваўшыся, Батура пісьмова гарантаваў самастойнасць і раўнапраўнасць Княства ў хаўрусе з Польшчай. Ён абавязаўся не прызначаць палякаў военачальнікамі, дбаць пра вяртанне страчаных земляў, склікаць агульныя Соймы па чарзе ў Княстве і Каралеўстве. Батура зацвердзіў найвышэйшы апеляцыйны суд Вялікага Княства – Галоўны трыбунал, што значна ўмацавала наш суверэнітэт.

Паходы Сцяпана Батуры

Вялікая пячатка С. Батуры. 1576–1586 гг.

Вялікі князь быў не толькі здатным дыпламатам і рэфарматарам, але і мецэнатам, апекуном навукі. Высока цэнячы створаную езуітамі агульнаеўрапейскую сістэму адукацыі, ён падтрымліваў дзейнасць Таварыства Ісуса ў Вялікім Княстве.



Акт пацверджання правоў Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства Сцяпанам Батурам. 4 траўня 1576 г.

Манета вартасцю дзесяць дукатаў С. Батуры. Аверс. 1580 г.

Зброя Сцяпана Батуры. Мастак Ян Матэйка. 1872 г.

У часы Батуры была заснаваная першая ў дзяржаве вышэйшая навучальная ўстанова – Віленская акадэмія, а затым Полацкі калегіюм. Пра шырокія погляды манарха кажа ягонае блізкае сяброўства з Каспарам Бекешам – філосафам-вальнадумцам і таленавітым военачальнікам, які нейкі час быў гарадзенскім ваяводам.

Горадню вялікі князь абраў сваёй галоўнай рэзідэнцыяй. Для яго там стары замак Вітаўта перабудавалі ў раскошны рэнесансавы палац. У ім Батура прымаў замежныя пасольствы, склікаў дзеля разгляду дзяржаўных справаў Раду. Улюбёны горад гаспадара атрымаў ад яго некалькі прывілеяў. Паводле аднаго з іх значныя сродкі выдзяляліся штогод на ўтрыманне Гарадзенскай саборнай Прачысценскай царквы. Батура быў ініцыятарам заснавання ў Горадні езуіцкага калегіюма.

У горадзе над Нёманам і завяршыўся зямны шлях Сцяпана Батуры. Цікава, што і сваім сконам ён паслужыў развіццю навукі. Дыягназы розных лекараў моцна разыходзіліся, і дзеля высвятлення сапраўднай прычыны смерці манарха ягонае цела ўскрылі. Гэта было першае паталагаанатамічнае даследванне ва Усходняй Еўропе.

Горадня. Гравюра 1605 г.

Карона і жазло вялікага князя і караля Сцяпана Батуры. Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей







Медаль у гонар вызвалення Полацка і Інфлянтаў. Срэбра. Аверс і рэверс. 1582 г.

## Вяртанне Полацка

Сцяпан Батура меў шматстайныя таленты дзяржаўнага дзеяча, але найперш застаўся ў нашай гісторыі як выдатны палкаводзец.

Адразу пасля каранацыі ён прысягнуў, што заўсёды будзе асабіста ўзначальваць войска і верне захопленыя Маскоўшчынай землі. Дарэчы, Батура пасылаў Івану IV выклік на дуэль, але маскоўскі князь маладушна адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што не лічыць абранага манарха роўным яму, які сеў на трон «по божию изволению».

Галоўнай мэтаю гаспадара было вяртанне Полацка. Добра падрыхтаваўшыся да паходу, Батура з 40-тысячнай арміяй улетку 1579 г. падышоў да старажытнай крывіцкай сталіцы. Пасля трох тыдняў неверагодна цяжкай аблогі і некалькіх прыступаў Полацак быў вызвалены. Пад камандаваннем вялікага князя знаходзіліся таксама вугорскія, нямецкія і польскія палкі, аднак найбольшую мужнасць выявілі ліцьвінскія аддзелы Сцяпана Збаражскага, Мікалая Дарагастайскага, Юр'я Зяновіча і Яна Глябовіча. Адборную конніцу прывёў пад полацкія сцены сын героя Аршанскай бітвы 1514 г. князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі.

Полацкія замкі. Гравюра з малюнка Станіслава Пахалавіцкага. Рым. 1580 г.

Неўзабаве нашае войска авалодала ўсімі пабудаванымі на поўначы Беларусі варожымі фартэцамі, якія маскавіты лічылі непрыступнымі. Затым Батуравы ваяры ўзялі Вяліж, Невель, Усвят, Вялікія Лукі.

Далейшыя наступальныя дзеянні былі спынены пад Псковам. Зняўшы з яго аблогу, Сцяпан Батура пайшоў на перамовы з Масквой.

## Вынікі вайны

Падпісанае ў 1582 г. Ям-Запольскае замірэнне засведчыла цяжкую паразу Маскоўскай дзяржавы. Яна адмаўлялася ад заваяваных раней інфлянцкіх і беларускіх абшараў, вяртаючы пры гэтым сорак гарадоў. У складзе Вялікага Княства Літоўскага замацоўваліся не толькі Полаччына, але і іншыя нашы землі, прыкладам Невель і Вяліж, захопленыя маскоўцамі яшчэ ў часе вайны 1500–1503 гг.

Разам з тым для Вялікага Княства Інфлянцкая вайна мела нялёгкія наступствы. Яна сталася прычынай вымушанай вуніі з Польшчай, што несла небяспеку страты суверэнітэту.



Аблога Полацка ў жніўні 1579 г. Тагачасны малюнак Станіслава Пахалавіцкага

# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ АБОДВУХ НАРОДАЎ

Пячатка з гербам Рэчы Паспалітай. Другая палова XVI ст.

Абмеркаванне ўмоваў аб'яднання пачалося яшчэ ў 1563 г. на Варшаўскім сойме, у паседжаннях якога ўдзельнічала дэлегацыя Вялікага Княства. Польскі бок, спасылаючыся на старыя акты часоў Ягайлы, дамагаўся поўнай інкарпарацыі (улучэння) Княства ў склад Польшчы. Нашыя дэлегаты не прызнавалі гэтых дакументаў, называючы іх фальшывымі, і паслядоўна выступалі за раўнапраўны альянс дзвюх краінаў. Паны-Рада ўсяляк зацягвалі час, пакідалі агульныя Соймы, давалі сваім паслам адпаведныя інструкцыі. Захаванне незалежнасці было прынцыповай пазіцыяй Радзівілаў, Валовічаў, Хадкевічаў ды іншых беларускіх магнатаў.

Вострыя спрэчкі доўжыліся не адзін год, а тым часам ваенная сітуацыя ўсё больш абвастралася. Шляхта, якая найперш цярпела ад маскоўскіх захопнікаў, была гатовая пагадзіцца на польскія ўмовы. Яе прываблівалі таксама шырокія вольнасці, што меў шляхоцкі стан у Польскім Каралеўстве. Пра неабходнасць вуніі заявілі на Берасцейскім вальным сойме паслы зваяванага маскоўцамі Віцебскага ваяводства. Праз год на Гарадзенскім сойме шляхта зноў прасіла вялікага князя Жыгімонта Аўгуста паскорыць аб'яднанне.

Цяжар спусташальнай Інфлянцкай вайны з Масковіяй штурхаў Вялікае Княства Літоўскае да больш шчыльнага альянсу з Польскім Каралеўствам. Без дапамогі заходніх суседзяў немагчыма было перамагчы інтэрвентаў, што захапілі амаль палову дзяржавы і прэтэндавалі на саму Вільню.

Супольны Сойм Вялікага Княства і Польскага Каралеўства распачаў паседжанні ў Любліне 10 студзеня 1569 г. і адразу выявіў прынцыпова розныя падыходы. Радзівілы супрацьпаставілі польскаму праекту вуніі свой – з прадугледжанымі для Княства асобнымі дзяржаўнымі органамі і ўласным Соймам. Нашы сенатары і дэпутаты праводзілі нарады асобна ад палякаў. Тыя запатрабавалі ад Жыгімонта Аўгуста (які, згодна з персанальнай вуніяй, адначасна быў і польскім каралём), каб ён прымусіў ліцвіноў прыняць нявыгадныя ўмовы. 1 сакавіка наша абураная дэлегацыя пакінула Люблін.

Карыстаючыся адсутнасцю Паноў-Рады і ліцвінскіх пасłоў, палякі падступна дамагліся ад манарха ўказаў пра далучэнне да Польшчы велізарных і багатых тэрыторыяў Вялікага Княства. 5 сакавіка Люблінскі сойм прыняў акт пра інкарпарацыю Падляшша, 27 траўня – Валыні, затым былі далучаныя Кіеўскае і Брацлаўскае ваяводствы. Адбывалася анексія вялікай часткі нашай дзяржавы. Шляхта, службоўцы і гарады гэтых абшараў пад ціскам ваенных абставінаў вымушаныя былі прысягаць Кароне Польскай. Найбольш працівіліся магнаты, але ўрэшце пачалі даваць прысягу і яны. Рашуча не прыняў улучэння ў Польшчу толькі соймік Мазырскага павета, які, хоць і ўваходзіў у Кіеўскае ваяводства, застаўся ў складзе Княства.



Дзяржаўныя гербы Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства з гербоўніка 1602 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

10 студзеня 1569 г. – Пачатак паседжанняў Люблінскага сойма.

5 сакавіка 1569 г. – Сойм прыняў пастанову пра далучэнне да Польшчы Падляшша.

Травень–чэрвень 1569 г. – Да Польшчы адышлі Валынь, Кіеўскае і Брацлаўскае ваяводствы.

Чэрвень 1569 г. – Соймік Мазырскага павета Кіеўскага ваяводства выступіў супроць далучэння да Польшчы.

1 ліпеня 1569 г. – Аб'яднанне Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства ў Рэч Паспалітую.





Люблінскі сойм. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. 1581 г.

Шляхоцкія гербы



«Геральт»



«Ларыса»



«Лукаш»

Вільня адгукнулася на анексію бурай пратэстаў. Паны-Рада абвясцілі аб падрыхтоўцы да вайны з Польшчай, але змаганне на два франты немінуча прывяло б краіну да гібелі. Не заставалася нічога іншага, як працягваць перамовы.

У чэрвені дэлегацыя Вялікага Княства вярнулася ў Люблін. Найвышэйшыя ўраднікі, найперш Астафей Валовіч, Ян Хадкевіч, Леў Сапега, Мікалай Радзівіл Руды, намагаліся вярнуць страчаныя ваяводствы і рабілі ўсё магчымае, каб захаваць самастойнасць сваёй дзяржавы. Урэшце ўдалося дасягнуць кампрамісу, на аснове якога 1 ліпеня 1569 г. Люблінская вунія была падпісаная.

Акт вуніі абвяшчаў, што Вялікае Княства і Польскае Каралеўства злучаюцца ў адно «непадзельнае цела» і складаюць цяпер «адну агульную Рэч Паспалітую» з агульным Соймам і манархам, які будзе як каралём польскім, так і вялікім князем літоўскім. На абшары ўсёй дзяржавы дэкларавалася поўнае раўнапраўе шляхты. Палякі атрымлівалі магчымасць свабодна набываць у нашай краіне зямлю і займаць дзяржаўныя пасады. Прадугледжвалася адзіная замежная палітыка і адзіная грашовая сістэма. Заканадаўства Вялікага Княства трэба было прывесці ў адпаведнасць з польскім.



Медаль з партрэтам вялікага князя і караля Жыгімонта Аўгуста, які зацвердзіў пастановы Люблінскага сойму. Медальер Дж. Каральё. Срэбра. Рэверс. Сярэдзіна XVI ст.

Аднак у сапраўднасці ўсё адбылося іначай. Ужо сам кампрамісны і даволі супярэчлівы акт Люблінскай вуніі ўтрымліваў нормы, паводле якіх дзве дзяржавы захоўвалі значную частку суверэнітэту. Выканаўчая ўлада (з выняткам асобы манарха) разам з усімі дзяржаўнымі пасадамі заставалася ў Вялікім Княстве Літоўскім асобнай.



Акт Люблінскай вуніі, які абвяшчаў утварэнне Рэчы Паспалітай

Сойм мусіў прымаць асобныя законы для Княства і асобныя для Польшчы. Акт вуніі пакідаў нашай краіне права на выпуск сваёй манеты. Дзяржаўнай мовай заставалася беларуская.

Абедзве часткі Рэчы Паспалітай захоўвалі ўласныя войскі, якія падпарадкоўваліся асобным гетманам. Соймавыя пастановы неаднаразова забаранялі ім парушаць межы Літвы і Польшчы: «Пастанаўляем, каб жаўнер літоўскі за межы, да Кароны, не прыходзіў і ў Кароне не спыняўся, ані таксама жаўнер каронны ў Вялікім Княстве».

Вільня праводзіла самастойную замежную палітыку і нярэдка ўчыняла міждзяржаўныя дамовы без уліку меркавання палякаў, а часам і насупор ім. Так адбывалася пад час вайны з Швецыяй у першай палове XVII ст., калі Вялікае Княства Літоўскае падпісала замірэнне, а Польшча працягвала баявыя дзеянні, вінавацячы ліцьвіноў у скасаванні вуніі.

Насуперак Люблінскаму акту віленскія палітыкі пастанавілі, што манарх мусіць даваць Вялікаму Княству асобную прысягу і асобна пацвярджаць непарушнасць яго правоў.



Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Сцяпан Батура на гравюры мастака і выдаўца М. Дэ Клерка. Амстэрдам. 1621 г.

Самастойнасць нашай краіны ў Рэчы Паспалітай яшчэ болей умацавалася, калі ў 1576 г. новым вялікім князем стаў Сцяпан Батура. Сваім першым прывілеем ён скасаваў усе пастановы Люблінскага сойму, якія ўтрымлівалі нормы, нераўнапраўныя ў дачыненні да Вялікага Княства. Адмысловая камісія ўдакладніла межы паміж дзвюма дзяржавамі. У гэтым часе былі вернутыя акупаваныя маскоўскімі войскамі ўсходнія беларускія землі.

Урэшце Статут 1588 г. канчаткова замацаваў палітычны, эканамічны і культурны суверэнітэт Княства. Тым не менш Люблінская вунія спрыяла паскарэнню пачатай ужо раней паланізацыі вярхоў ліцьвінскага грамадства.





Юбілейны медаль у гонар 300-годдзя Люблінскай вуніі. Медальер П. Тасэ. Медзь. Аверс

Ацэньваць умовы падпісанага ў Любліне акта можна па-рознаму, але нельга забываць, што вунія перадухіліла захоп Масковіяй усяго Вялікага Княства Літоўскага, які ў Інфлянцкай вайне быў вельмі рэальным. Ці не напаткаў бы ў такім разе нашую дзяржаву і наш народ лёс Ноўгарадскай рэспублікі? Пасля яе далучэння да Маскоўшчыны адбылося знішчэнне цэлага самабытнага ўсходнеславянскага этнасу з развітой культурай і дэмакратычнымі вечавымі традыцыямі.

Анексія ўкраінскіх земляў, якія ў 1569 г. перайшлі да Польшчы, была для Вялікага Княства надзвычай цяжкою стратай, найперш з эканамічнага гледзішча. Аднак яе таксама не варта разглядаць толькі адмоўна. Па-першае, пасля гэтага якраз на Польшчу лёг цяжар абароны паўднёвых межаў ад няспынных нападаў крымскіх татараў. Па-другое, Літва-Беларусь пазбаўлялася ад шматлікіх праблемаў, звязаных з прысутнасцю ў межах дзяржавы іншага вялікага этнасу, што ўсё больш аслабляла, а не ўмацоўвала Княства.



Старонка дыярыюша (дзённіка) Люблінскага сойму. Сакавік 1569 г.

Вялікае Княства Літоўскае пасля Люблінскай вуніі не спыніла свайго існавання. Абедзве дзяржавы захавалі вельмі значную самастойнасць. Разам з тым на палітычнай карце Еўропы з'явілася новае ўтварэнне – Рэч Паспалітая Абодвух Народаў, якое было, па сутнасці, канфедэрацыяй.

Рэч Паспалітая (назоў цалкам адпавядае лацінскаму res publica) была тады адной з самых вялікіх і магутных еўрапейскіх краінаў. Вялікае Княства Літоўскае знаходзілася ў яе складзе да канца XVIII ст.

Люблінская вунія. Мастак Ян Матэйка. 1869 г.



# СТАТУТЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА



Першы Статут
Вялікага Княства Літоўскага.
Спіс XVI ст.
Старабеларуская мова

## Першы і другі Статуты дзяржавы

Папярэднікам збораў нашых дзяржаўных законаў, якія ўвайшлі ў гісторыю як Статуты Вялікага Княства Літоўскага, быў Статут вялікага князя Казіміра, уведзены пасля ўзгаднення з Панамі-Радай у 1468 г. Ён датычыў найперш дзейнасці судоў і рэгламентаваў павіннасці землеўласніка.

У сферы заканадаўства і кадыфікацыі права Вялікае Княства займала адно з перадавых месцаў у тагачаснай Еўропе.



Пераклад
Статута 1529 г.
на лацінскую мову



Статут, зацверджаны Віленскім соймам у 1529 г., складаўся з 13 раздзелаў і 282 артыкулаў

Збор законаў быў напісаны на дзяржаўнай беларускай мове, таму некаторыя гісторыкі называюць яго таксама «беларускім Статутам».

Аднак розныя землі Вялікага Княства працягвалі выкарыстоўваць поруч з Статутам даўнейшыя мясцовыя законы. Дзеля ўмацавання адзінства дзяржавы быў патрэбны грунтоўны кодэкс з адзінымі юрыдычнымі нормамі. Прапановы пра яго стварэнне няраз гучалі на соймавых паседжаннях. Добра разумеў неабходнасць агульнадзяржаўнага збору законаў і вялікі князь Жыгімонт Стары.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1529 г. – Першы Статут Вялікага Княства.
1566 г. – Другі Статут Вялікага Княства.
1588 г. – Трэці Статут Вялікага Княства.





Вялікі князь Казімір.
Гравюра 1605 г.
Статут гаспадара Казіміра
быў папярэднікам агульнадзяржаўных
збораў законаў



Малая пячатка
з акта аб утварэнні
павятовых і земскіх
соймікаў. 1565 г.

Першы Статут набыў афіцыйную сілу пасля зацверджання на Віленскім сойме ў 1529 г. Ён складаўся з 282 артыкулаў, аб'яднаных у 13 раздзелаў, і распаўсюджваў сваю праўную моц на ўсіх жыхароў Вялікага Княства (з выняткам мяшчанаў, якія жылі паводле магдэбургскага права). Статут утрымліваў добра распрацаваныя нормы дзяржаўнага, цывільнага, сямейнага, крымінальнага і працэсуальнага права. Адмысловыя артыкулы гарантавалі захаванне абшару і палітычнай незалежнасці дзяржавы.

Уводзіліся перадавыя на той час юрыдычныя прынцыпы: персанальная адказнасць за злачынства, роўнасць усіх перад законам, асаблівая абарона правоў жанчыны. (Да прыкладу, за згвалтаванне прадугледжвалася смяротная кара.)

Службовыя асобы мусілі прыносіць прысягу і кіравацца ў сваёй дзейнасці законам ды інтарэсамі дзяржавы.

Статут 1529 г. засведчыў высокі ровень праўнай культуры Вялікага Княства паралельна з большасцю еўрапейскіх дзяржаваў. З народаў-суседзяў свае зборы законаў раней стварылі толькі чэхі і вугорцы, а Польскае Каралеўства яго яшчэ не мела.



Старонка другога
Статута нашай
дзяржавы.
Рукапіс XVI ст.

Юрыдычныя здабыткі першага Статута працягнуў і развіў новы збор законаў, ухвалены ў 1566 г. Калі дагэтуль у палітычным жыцці дзяржавы прыярытэт належаў князям і панам, то цяпер права ўводзіць і змяняць законы меў выключна вальны Сойм.



Зборы законаў яшчэ доўга разыходзіліся па краіне як у друкаваным, так і ў рукапісным выглядзе. Віцебскі спіс другога Статута. XVI ст.



Польскамоўны спіс
Статута Вялікага
Княства Літоўскага
1566 г.
Канец XVII ст.

Другі Статут, прыняты ў часе цяжкой Інфлянцкай вайны з Маскоўскай дзяржавай, патрабаваў захоўваць тэрытарыяльную цэласць Вялікага Княства і абавязваў гаспадара вярнуць страчаныя землі.

Трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага быў самым перадавым зборам законаў у тагачаснай Еўропе. Тытульны аркуш з выдання Віленскай друкарні Мамонічаў. 1588 г.

Вяршыняю еўрапейскай юрыдычнай думкі XVI ст. стаў трэці Статут Вялікага Княства.

Праз усе 14 раздзелаў і 488 артыкулаў новага збору законаў праходзіла ідэя праўнай дзяржавы, у якой усе органы і службоўцы павінны дзейнічаць толькі ў адпаведнасці з законам. Нормы і патрабаванні Статута мусілі выконваць як жыхары Вялікага Княства, так і чужаземцы, што знаходзіліся на яго зямлі.

Статут 1588 г. замацоўваў ідэю рэлігійнай талеранцыі і бараніў інтарэсы жыхароў краіны незалежна ад веравызнання.



Партрэт вялікага князя Жыгімонта Вазы на адной з старонак зацверджанага гэтым манархам Статута 1588 г.

## Статут 1588 года

Камісіяй найлепшых правазнаўцаў, якая стварала збор законаў, кіравалі канцлер Астафей Валовіч і падканцлер Леў Сапега. У працы бралі ўдзел віленскі біскуп Валяр'ян Пратасевіч, сакратар гаспадара Аўгусцін Ратундус, жамойцкі кашталян Мельхіёр Шэмет і па адным шляхціцы ад кожнага ваяводства: ад Полацкага – князь Павел Сакалінскі, ад Віцебскага – Ян Сколка, ад Менскага – Марцін Валадковіч, ад Берасцейскага – Кірдзей Крычаўскі, ад Навагрaдскага – Бенядзікт Юрага... Праект Статута абмяркоўвалі павятовыя соймікі, Рада і вальныя Соймы. Да яго падрыхтоўкі меў дачыненне ўвесь «палітычны народ» дзяржавы.

Ва ўступе да збору законаў Леў Сапега, згадваючы словы Цыцэрона, пісаў: «Ёсць мы няволнікамі праў дзеля таго, абы вольнасці ўжываці маглі».

Адрозна ад лацінамоўных кодэксаў іншых еўрапейскіх краінаў Статут быў напісаны і выдадзены на зразумелай абсалютнай большасці жыхароў Княства беларускай мове. Ён меў адмысловы артыкул, які пацвярджаў яе дзяржаўнасць і шырокія правы. У сярэдзіне XIX ст. пра гэта з гонарам казаў, чытаючы лекцыі ў Парыжы, у Калеж дэ Франс, наш суайчыннік Адам Міцкевіч.

Грунтоўна было распрацаванае ў Статуце крымінальнае права. Закон уводзіў прэзумпцыю невінаватасці для ўсіх станаў, прадугледжваў адказнасць шляхціца за забойства простага чалавека, гарантаваў удзел у судовым працэсе адваката. Ад крымінальнага пераследу вызваляліся дзеці і падлеткі, а часам і тыя, што ўчынілі злачынства «па глупстве». Забаранялася караць смерцю цяжарных жанчын. Наагул сістэма пакаранняў параўнаўча з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі мела больш гуманны характар.

Паводле закону асабіста свабодных людзей ні за якое злачынства нельга было аддаць у вечную няволю. Кожны вольны чалавек меў права выехаць за мяжу, абы гэта не рабілася на шкоду Бацькаўшчыне.

Разам з тым Статут адлюстроўваў няроўнасць жыхароў краіны. Галоўшчына (грашовая кара) за забойства шляхціца складала 100 копаў грошай, войта або бурмістра – 50 копаў, звычайнага месціча – 30 копаў. Мяшчане не мелі права ўдзельнічаць ні ў агульнадзяржаўных Соймах, ні нават у павятовых сойміках.

Юрыдычна замацоўваючы незалежнасць краіны, новы Статут не паўтараў ніводнага пункта Люблінскай уніі і нават не згадваў яе.

Закон ахоўваў прыродныя багацці краіны, у прыватнасці каштоўныя віды звяроў і птушак. Паводле раздзела X «Аб пушчах, аб паляванні, аб дрэвах бортных, аб азёрах і сенажацях» за разбурэнне сакалінага або лебядзінага гнязда вінаваты плаціў ад трох да шасці копаў грошай, за адлоў ці адстрэл бабра – ад дзвюх да чатырох. (Дзеля параўнання: рабочы вол ці жарабец каштавалі тады дзве капы.)

Тым часам як у іншых еўрапейскіх краінах панаваў антысемітызм, існаваў рэлігійны і этнічны ўціск, у Вялікім Княстве Літоўскім габраі і татары не толькі былі абароненыя законам, але і мелі магчымасць зрабіць вайсковую і палітычную кар'еру.

Шляхта на сойме. Гравюра паводле малюнка Яна Матэйкі. Другая палова XIX ст.



Соймік у касцёле. Малюнак Яна Пятра Норбліна. Канец XVIII ст.

Польскі бок рашуча пярэчыў прыняццю новага Статута, але Жыгімонт Ваза мусіў зацвердзіць яго, бо іначай Вялікае Княства адмаўлялася прызнаць Вазу сваім манархам. У XVI–XVII стст. палякі неаднаразова патрабавалі «паправіць» або скасаваць «няўзгодненыя законы», але ўсе гэтыя спробы засталіся безвыніковымі.

Пры канцы XVIII ст. вядомы вучоны і палітычны дзеяч Гуга Калантай, выступаючы на Сойме, даў нашаму збору законаў такую характарыстыку: «Статут робіць гонар чалавечаму розуму. Ён складзены так разумна, што яго можна лічыць найдасканалейшай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе».

Усе найважнейшыя дзяржаўныя справы (вайны і міру, склікання паспалітага рушання) мог вырашаць толькі вальны Сойм Вялікага Княства. Адмысловы дазвол патрабаваўся нават на тое, каб правесці праз нашу тэрыторыю польскае войска. Статут захоўваў свае ўласныя дзяржаўныя ўстановы, армію, фінансавую сістэму, мытную службу. У Рэчы Паспалітай не існавала ніводнага агульнага для Княства і Каралеўства міністра.

Абвешчанае Люблінскай вуніяй раўнапраўе ліцьвінскай і польскай шляхты скасоўвалася. Палякі разглядаліся ў Статуце як чужаземцы і не мелі права займаць дзяржаўныя пасады і набываць зямлю. Новы збор законаў фактычна не прызнаваў тэрытарыяльных стратаў на карысць Польшчы і вымагаў ад гаспадара вярнуць іх у склад Княства.

## Міжнародны ўплыў трэцяга Статута

У расейскае «Соборное уложение» шмат якія артыкулы трэцяга Статута перайшлі без аніякіх зменаў. Нашымі праўнымі нормамі карысталіся на Украіне, у судах Латвіі і Эстоніі.

Надрукаваны адразу пасля свайго зацверджання ў Віленскай друкарні Мамонічаў, Статут 1588 г. шмат разоў перакладаўся з беларускай на еўрапейскія мовы: нямецкую, французскую, лацінскую, польскую, украінскую, расейскую. Гэта было прызнаннем вычарпальнасці і дасканаласці нашага збору законаў, які выкарыстоўвалі ва ўнармаванні свайго заканадаўства Польшча, Прусія, Расея ды іншыя краіны.

Сёння трэці Статут Вялікага Княства лічыцца ў Еўропе выдатным помнікам юрыдычнай думкі. Яго, напрыклад, цягам цэлага семестра вывучаюць на спецыяльным курсе студэнты-юрысты Сарбоны.

На абшары Вялікага Княства Літоўскага Статут 1588 г. дзейнічаў нават пасля захопу нашых земляў Расеяй: ва ўсходніх губернях Беларусі – да 1831 г., а ў Менскай, Гарадзенскай і Віленскай – да 1840 г.



Тытульны аркуш польскамоўнага перакладу трэцяга Статута. Віленская друкарня Мамонічаў. 1614 г.




Wielkiego Księstwá
Litewskiego/
Od Naiásnieyszego hospodárá Królá Jego Mośći
ZYGMVNTA III. NA KORONACYEY
W Krákowie/ Roku 1588. wydány.



WWILNIE, V Leona Mámonicżá Typographá Królá J. M. Roku/ 1614.

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА

Герб магнацкага роду Сапегаў «Ліс»

Выдатным дзяржаўным дзеячом перыяду Вялікага Княства Літоўскага быў Леў Сапега – патрыёт, мудры палітык і таленавіты дыпламат.

Леў Сапега паходзіў з старажытнага беларускага роду, які лічыўся ў дзяржаве другім паводле значнасці пасля Радзівілаў. Будучы канцлер нарадзіўся ў вёсцы Астроўна (цяпер у Бешанковіцкім раёне). Шасцігадовага хлопчыка бацька завёз у Нясвіж. Там ягоным апекуном стаў аддаНЫ прыхільнік незалежнасці Вялікага Княства Мікалай Радзівіл Чорны.

Спачатку ў Нясвіжскай пратэстанцкай школе, а затым у Ляйпцыгскім універсітэце, куды Радзівіл паслаў трынаццацігадовага Льва разам з сваімі сынамі, Сапега атрымаў выдатную адукацыю. У Ляйпцыгу ён грунтоўна вывучаў гісторыю, філасофію і права, што зрабіла яго добра падрыхтаваным да палітычнай дзейнасці. Гэтаму спрыяла і вольнае валоданне пяццю мовамі. Пад час навучання Сапега перайшоў у кальвінізм, але талеранцыя, якая панавала пры двары Радзівіла, з дзяцінства заклала ў ягоныя душу і розум непрыняцце рэлігійнага фанатызму.




Канцлер Вялікага Княства Леў Сапега.
Невядомы мастак. 1616 г.

Вярнуўшыся з Нямеччыны, ён быў прыняты на службу да вялікага князя і караля Сцяпана Батуры. Манарха ўразіла адукаванасць Сапегі і дасканалае веданне ім лацінскай мовы. Апекуны Радзівілы паралі маладому палітыку застацца пры двары, каб бараніць інтарэсы дзяржавы пасля Люблінскай вуніі.

У дваццаць тры гады Леў ужо займаў высокую пасаду сакратара Вялікага Княства. Ён вёў пасляхову палітыку, накіраваную супроць імкнення Польшчы да гегемоніі над нашай краінай. Становішча Сапегі яшчэ больш умацавалі ягоны ўдзел у Інфлянцкай вайне. Сваім коштам ён сфармаваў і ўзброіў гусарскі полк, на чале якога выявіў мужнасць і вайсковыя здольнасці ў бітве пры Вялікіх Луках і аблозе Пскова.

Батура накіраваў Льва Сапегу з надзвычай адказнай дыпламатычнай місіяй у Маскву. У выніку быў падпісаны вельмі выгадны для нашай дзяржавы «вечны мір», які пацвярджаў, што Масква прызнае за Вялікім Княствам Полаччыну і Інфлянты. Дыпламатычная ўдача паспрыяла кар'еры таленавітага палітыка. У 1585 г. Сапега заняў пасаду падканцлера, а праз чатыры гады стаў канцлерам – другім чалавекам у дзяржаве, які выконваў функцыі міністра нутраных і замежных справаў.

## ХРАНАЛОГІЯ

4 сакавіка 1557 г. – 7 ліпеня 1633 г. – Жыццё і дзейнасць Льва Сапегі.

1570–1573 гг. – Навучанне ў Ляйпцыгскім універсітэце.

1579–1582 гг. – Леў Сапега камандуе гусарскай харугвай у Інфлянцкай вайне.

1589 г. – Прызначэнне канцлерам Вялікага Княства Літоўскага.

1625 г. – Леў Сапега атрымаў пасаду вялікага гетмана.



Радаводнае дрэва Сапегаў, якое абгрунтоўвае іх паходжанне ад Нарымонта – сына Гедзіміна. Менавіта Леў Сапега дамогся ад Жыгімонта Вазы зацверджання Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Сярэдзіна XVIII ст. Бібліятэка Красінскіх у Варшаве



Пячатка Льва Сапегі, які быў у дзяржаве другой асобаю пасля вялікага князя

Выдатная заслуга Льва Сапегі ў тым, што ён дамогся ў 1588 г. зацвярджэння нашага трэцяга Статута, самага перадавога на той час у Еўропе збору законаў. Падрыхтаваны з удзелам Сапегі, ён гарантаваў палітычную і эканамічную незалежнасць краіны. Сам канцлер няўхільна трымаўся 12-га артыкула III раздзела Статута, які забараняў раздаваць польскай шляхце маёнткі і пасады ў нашай дзяржаве. Статут быў выдадзены пад асабістым наглядам Сапегі, з яго прадмовай і ягоным коштам.

Перайшоўшы ў каталіцтва, канцлер стаў прыхільнікам аб'яднання праваслаўнай і каталіцкай царкваў, якое закліканае было ўмацаваць дзяржаву. У 1596 г. ён як прадстаўнік вялікага князя і караля выступаў за вунію каталікоў і праваслаўных на Берасцейскім царкоўным саборы. У сваіх лістах да духоўных уладаў Сапега перасцерагаў іх ад гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да суайчыннікаў іншага веравызнання.

Першая старонка Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Друкарня Мамонічаў у Вільні

Вызначальная роля належала Сапегу ў ваенных кампаніях з Масковіяй у 1609–1611 і 1617–1618 гг. Тады Княства значна пашырыла межы, вярнуўшы сабе Смаленск, Дарагабуж, Старадуб, Себеж ды іншыя землі. Пры канцы жыцця Леў Сапега восем гадоў быў вялікім гетманам, паказаўшы сябе таленавітым военачальнікам. І тут інтарэсы Айчыны ён ставіў вышэй за ўсё. У часе вайны з Швецыяй гетман і ягоны сын Ян ахвяравалі на змаганне з ворагам вялікую частку сваёй маёмасці.




Палітык і мецэнат Леў Сапега. Гравюра Міхала Падалінскага. 1819 г.

Захоўваючы найвышэйшую пасаду на працягу трыццаці з лішкам гадоў, Леў Сапега вызначаў палітыку Вялікага Княства Літоўскага. Ён быў пасядоўным прыхільнікам не абсалютнай манархіі, а моцнай праўнай дзяржавы, дзе пануюць законы, а не асобы. Асноўным ягоным клопатам заўсёды заставалася ўсебаковае ўмацаванне дзяржаўнага суверэнітэту краіны. З удзелам Сапегі быў створаны Трыбунал Вялікага Княства – галоўны апеляцыйны суд, рашэнні якога мелі сілу соймавых пастановаў.



Касцёл Уцшэсця Дзевы Марыі ў Дзятлаве, пабудаваны на сродкі Льва Сапегі ў 1624–1646 гг. Сучаснае фота





Праект Сенатарскай залы палаца Сапегаў у Горадні. 1726 г.

Жыровіцкае Евангелле XV ст. называюць таксама «Евангеллем Сапегі», бо яно мае фундушавы (дарчы) запіс канцлера Льва Сапегі. Знаходзіцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Летувы



Дзякуючы дзейнасці Льва Сапегі нашая дзяржава ў складаных гістарычных абставінах не толькі захавала незалежнасць, але і перажыла перыяд гаспадарчага і культурнага росквіту. Гэты час гісторыкі з поўным правам называюць «эпохай Сапегі».

Леў Сапега меў таксама заслужаную славу шчодрага мецэната, апекуна мастакоў і пісьменнікаў. Паэт XVI ст. Андрэй Рымша ў панегірыку на герб вялікага канцлера пісаў:

*Пры каторых з аружжам конны воін стаіць,*
*Знакам таго, іж ся з іх ні адзін не баіць*
*Служыць сваім спадаром ку кождай патрэбе,*
*Не літуючы скарбаў, ні самога себе.*

Герб Сапегаў з кнігі «Новы Запавет». Вільня. 1623 г.

Сапега спрыяў развіццю беларускага кнігадрукавання. Ён сам быў вялікім аматарам кніг і сабраў у сваім палацы ў Ружанах вялікую бібліятэку. На загад нашага знакамітага палітыка былі спарадкаваныя і перапісаныя некалькі сотняў тамоў Літоўскай Метрыкі – архіва дзяржавы, які ў выніку збярогся для нашчадкаў. Перад сконам Леў Сапега шчодра адарыў зафундаваныя ягоным родам храмы і быў пахаваны ў адным з іх – віленскім касцёле святога Міхала.



Арганны дэкор з гербам Сапегаў «Ліс»

Надмагілле Льва Сапегі і ягоных жонак. Віленскі касцёл святога Міхала. Пачатак XVII ст.




Аўтограф Льва Сапегі, які, займаючы на той час пасаду падканцлера, быў адным з кіраўнікоў камісіі правазнаўцаў – стваральнікаў Статута 1588 г.



# РЭФАРМАЦЫЙНЫ РУХ

Жан Кальвін. Заснаваная ім рэфармацыйная плынь знайшла найбольшае пашырэнне ў Літве-Беларусі. Гравюра Т. дэ Брая. 1650 г.

Змаганне каталіцкай царквы з рэфарматамі часта суправаджалася паленнем кніг ідэйных праціўнікаў. Гравюра з «Сусветнай хронікі» Г. Шэдэля. 1493 г.

Рэфармацыя (ад лацінскага слова reformatio – пераўтварэнне, выпраўленне) – гэта шырокі сацыяльны і рэлігійны рух у еўрапейскіх краінах, які набыў асаблівы размах у XVI ст. Ён узнік як пратэст супраць каталіцкай царквы і яе ролі ў грамадстве (адсюль ягоны другі назоў – пратэстанцтва). Яго прыхільнікі былі абураныя масавым продажам індульгенцыяў (якія нібыта пазбаўлялі ад грахоў), маральнай разбэшчанасцю герархаў, выступалі супраць жорсткай царкоўнай дысцыпліны і падпарадкаванасці папу рымскаму. У Вялікім Княстве Літоўскім, як і ў іншых дзяржавах Еўропы, Рэфармацыя была шчыльна звязаная з Рэнесансам.

## Ідэі і праграма рэфарматаў

У першай палове XVI ст. большасць жыхароў Княства вызнавалі праваслаўе. Старой «грэцкай» веры трымаліся 23 княскія і большасць шляхоцкіх родаў. За вялікім князем Жыгімонтам Старым у сталічнай Вільні на чатырнаццаць праваслаўных храмаў прыпадала сем каталіцкіх, а ў Магілеве, Амсціславе і Воршы першыя касцёлы з'явіліся толькі на пачатку XVII ст.

Біблія Марціна Лютэра. Заснавальнік рэфармацыйнай плыні лютэранства адной з галоўных справаў свайго жыцця лічыў пераклад Біблії на нямецкую мову, які быў завершаны ў 1542 г. Вітэнбэрг. 1582 г.

Ілюстрацыя Лукаса Кранаха Старэйшага да Лютэравай Бібліі. 1520-я гады

Тым часам каталіцтва няўхільна ўмацоўвала пазіцыі. Маючы падтрымку вялікіх князёў, актыўна дзейнічалі манаскія ордэны. Касцёл рабіўся буйным землеўласнікам: да прыкладу, Віленскае біскупства валодала 11500 сялянскімі «дымамі». Гэта выклікала незадавальненне магнатаў і набліжанай да іх шляхты.

Інквізіцыя. Допыт на дыбе. У талерантным Вялікім Княстве Літоўскім інквізіцыя праіснавала ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў, але яе дзейнасць у заходнееўрапейскіх краінах была добра вядомая ліцвінскаму грамадству і заўсёды выклікала ў ім пратэст. Тагачасная гравюра

**ХРАНАЛОГІЯ**

1515–1565 гг. – Жыццё і дзейнасць Мікалая Радзівіла Чорнага.
1530–1593 гг. – Жыццё і дзейнасць Сымона Буднага.
1530-я гг. – 1600(?) г. – Жыццё і дзейнасць Васіля Цяпінскага.
1553 г. – Вялікі канцлер Радзівіл Чорны абвясціў пра сваю падтрымку Рэфармацыі.
1557 г. – У Вільні адбыўся ўстаноўчы сінод пратэстанцкіх супольняў Вялікага Княства Літоўскага.
Блізу 1560 г. – блізу 1635 г. – Жыццё і дзейнасць Яна Ліцынія Намыслоўскага.
1562 г. – Выданне С. Будным у Нясвіжы беларускага «Катэхізіса».
Блізу 1580 г. – В. Цяпінскі выдаў беларускі пераклад Евангелля.



Ліст Жана Кальвіна да сваіх прыхільнікаў у Вільні. 9 кастрычніка 1561 г.

Адзін з ідэйных правадыроў еўрапейскай Рэфармацыі Марцін Лютэр. Мастак Лукас Кранах Старэйшы. Гравюра сярэдзіны XVI ст.

Праваслаўная царква ў Вялікім Княстве перажывала глыбокі крызіс. Яна была занадта кансерватыўнай і не прымала пераменаў, што адбываліся ў еўрапейскай адукацыі і культуры. Святары звычайна мелі нізкі ровень асветы, часта не разумелі нават царкоўнаславянскай мовы, на якой маліліся, і не здольныя былі канкураваць з добра адукаваным каталіцкім духавенствам. Глыбокія карані ў асяроддзі праваслаўнага духавенства пусціла паланізацыя. З іншага боку, у брацкіх школах выкаранялася «простая» (беларуская) мова. Да таго ж прыхадскія і брацкія праваслаўныя навучальні не маглі даць вышэйшай адукацыі. Па яе даводзілася выпраўляцца на Захад.

Якраз з Заходняй Еўропы ў Літву-Беларусь і прыйшлі ідэі Рэфармацыі. Упершыню гэта здарылася яшчэ ў часы Яна Гуса, калі ў нашай краіне прапаведваў ягоны найбліжэйшы паплечнік Геранім Пражскі.

У сярэдзіне XVI ст. рэфармацыйны рух у Вялікім Княстве набыў агульнадзяржаўны характар. Асабліва масавым ён стаў пасля таго, як пра падтрымку пратэстантаў афіцыйна заявіў канцлер Мікалай Радзівіл Чорны.

Праграма новай царквы была дэмакратычнай і прывабнай для ўсіх сацыяльных станаў. Рэфарматы адмаўлялі царкву як пасярэдніка паміж Богам і чалавекам, спрасцілі набажэнства, адмовіліся ад багатага аздаблення храмаў. Адзінай крыніцаю веры прызнавалася Біблія (усе акты царкоўных сабораў, папскія пасланні ды іншыя дакументы такога кшталту адмаўляліся). Святароў замянілі настаўнікі. Праваднікі Рэфармацыі асуджалі тыранію і выступалі за праўную дзяржаву, дзе чалавек меў бы магчымасці свабоднай працы, духоўнага і фізічнага развівалення.

Помнік Яну Гусу на Старамескім плацы ў Празе. Фота 1990-х гадоў


WIECZERZA
EWANGELICKA
W WILNIE

Тытульны аркуш выдадзенай рэфарматамі кнігі «Вячэра евангелічная». Вільня. 1594 г.

Да рэфармацыйнага руху далучыліся амаль усе магнацкія і княскія, а таксама шматлікія шляхоцкія роды Вялікага Княства. У 1572 г. у Радзе з 22 сенатараў 16 (або 3/4) былі пратэстантамі, і толькі 6 месцаў належалі пароўну каталікам і праваслаўным.

## Прыхільнікі новай царквы

Арыстакраты-пратэстанты заходнееўрапейскіх краінаў імкнуліся да перадзелу на сваю карысць велізарных царкоўных землеўладанняў. У нашай дзяржаве, дзе такія ўладанні былі значна меншыя, існавала іншая сітуацыя. Падтрымаўшы Рэфармацыю, магнацкія роды Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў, Глябовічаў, Кішкаў, Храбтовічаў, Валовічаў, Саламярэцкіх, Корсакаў разлічвалі адасобіцца ад каталіцкай Польшчы і замацаваць суверэнітэт Княства.

У новае веравызнанне пераходзіла і шмат мяшчанаў у Віцебску, Менску, Полацку ды іншых гарадах. На землях паноў-пратэстантаў шэрагі іх паслядоўнікаў папаўняліся за кошт сялянаў. Але параўнаўча з Заходняй Еўропай у нас гэты рух не паспеў ператварыцца ў народны.

Рэфармацыя ўключала некалькі плыняў – лютэранства, кальвінізм, сацыніянства (арыянства). Найбольшае пашырэнне ў Вялікім Княстве атрымаў кальвінізм. У 1550-х гадах кальвінісцкія супольні дзейнічалі ў Нясвіжы, Берасці, Клецку, Навагрудку, Койданаве, Ляхавічах, крыху пазней з'явіліся ў Віцебску, Менску, Полацку, Воршы, Глыбокім, Івянцы, Смаргоні. У 1557 г. пратэстанты Вялікага Княства правялі ў Вільні свой установчы сінод (з'езд). Пры канцы XVI ст. з 207 пратэстанцкіх святыняў у нашай краіне 189 былі кальвінісцкімі.


Віленскі лютэранскі збор. Фота Яна Булгака. 1917 г.


На пачатку 1560-х гадоў Клецкі фарны касцёл быў пераабсталяваны пад кальвінскі збор, дзе служыў Сымон Будны. Фота 1930-х гадоў


Кальвінскі збор у Заслаўі ўражвае гарманічнай прастатой сваіх архітэктурных формаў. Другая палова XVI – пачатак XVII ст. Фота Анатоля Кляшчука. 2005 г.

Шмат моладзі з пратэстанцкіх шляхоцкіх сем'яў вывучалі вайсковую справу сярод аднадзінаверцаў у Нідэрляндах. Гравюра А. дэ Брэйна. 1577 г.






Старонка пратэстанцкай Берасцейскай Бібліі. 1563 г.

## Культурна-асветная дзейнасць пратэстантаў

У другой палове XVI ст. пратэстантам належала блізу дзесяці друкарняў, найбуйнейшымі з якіх былі Берасцейская, Нясвіжская, Лоская і Любчанская. Дзякуючы ім выйшлі ў свет сотні твораў айчынных і замежных аўтараў на беларускай, польскай, лацінскай ды іншых мовах. Сярод гэтых кніг – выдадзеная ў Берасці ў 1563 г. славутая пратэстанцкая Біблія. Тэхнічнае абсталяванне рэфармацкіх друкарняў, мастацкае афармленне і разнастайнасць іх выданняў адпавядалі тагачаснаму еўрапейскаму роўню.

Евангелікі заснавалі некалькі дзясяткаў школаў, у тым ліку знакамітую Слуцкую кальвінісцкую гімназію, якая праіснавала два з паловаю стагоддзі і дала такіх вядомых дзеячоў культуры, як паэт і філасаф Андрэй Белабоцкі, асветнік Галляш Капіевіч, вучоны-славяназнавец Зарыян Даленга-Хадакоўскі, астраном Вітаўт Цэраскі. Ствараючы свае самыя лепшыя на той час школы, Таварыства Ісуса шмат што пераймала якраз у пратэстантаў. Напачатку годнае месца ў рэфармацкіх навучальнях з іх гуманістычнай сістэмай выкладання займала беларуская мова, на якой прамаўлялі казанні, пісалі творы. Разам з тым бальшыня кніг выдавалася пратэстантамі-ліцвінамі па-польску.

Рэфармацыя спрыяла развіццю ўсяго духоўнага жыцця грамадства. Культура Вялікага Княства Літоўскага ўзбагачалася здабыткамі еўрапейскай філасофскай думкі. Беларускія мысляры і асветнікі станавіліся ўпоравень з заходнееўрапейскімі братамі па духу.

Рэфармацыя пакінула глыбокі след у нашай гісторыі і культуры. Евангелікі (так называлі рэфарматаў) збудавалі ў Вялікім Княстве блізу 250 сваіх збораў (храмаў). Некаторыя з іх, да прыкладу ў Заслаўі, Койданаве, Смаргоні, сталі адметнымі помнікамі беларускай архітэктуры.

«Навука лютэранская». Гравюра 1623 г. Вільня




Кальвінскі збор у Смаргоні. Сярэдзіна XVI ст. Сучасное фота


Старонка з пачаткам Евангелля ад Маркі, перакладзенага на беларускую мову і надрукаванага Васілём Цяпінскім. Блізу 1575 г.


Дыспут. Помнік Сымону Буднаму і Васілю Цяпінскаму ў двары Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Скульптар Ігар Голубеў. 2000 г.

Мікалай Радзівіл Чорны, які займаў пасады канцлера і віленскага ваяводы, адкрыта падтрымаў рэфармацыйны рух і спрыяў яго пашырэнню. Гравюра Гершкі Ляйбовіча. Сярэдзіна XVIII ст.

Сымон Будны стаў ідэйным правадыром беларускай Рэфармацыі. Ён выступаў за творчую свабоду асобы, за абмежаванне прыгоніцтва і роўнасць усіх станаў перад законам. Філосаф не прымаў рэлігійнага фанатызму, заклікаў уладароў клапаціцца пра асвету простага народа. Адстойваючы свае погляды, ён разгарнуў шырокую публіцыстычную і выдавецкую дзейнасць.

## Дзеячы Рэфармацыі

Адным з лідэраў рэфармацыйнага руху быў выдатны дзяржаўны дзяяч і мецэнат, пераканаы прыхільнік незалежнасці Вялікага Княства Мікалай Радзівіл Чорны, які займаў высокія пасады канцлера і віленскага ваяводы. У сваіх уладаннях ён зачыніў 187 каталіцкіх храмаў, перавёўшы падданых у кальвінізм. Канцлер штогод фундаваў пратэстанцкія друкарні ў Берасці і Нясвіжы, адчыняў кальвінскія зборы і школы.

Пад апекаю Радзівіла Чорнага пэўны час працаваў адзін з найадукаванейшых людзей той эпохі філосаф-гуманіст Сымон Будны. Ён скончыў Кракаўскі ўніверсітэт, ліставаўся з ангельскім гісторыкам Дж. Фоксам ды іншымі вядомымі еўрапейскімі вучонымі. У заснаванай Будным Нясвіжскай друкарні выйшлі напісаныя па-беларуску ягоныя кнігі «Катэхізіс» і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам».

У Лоскай друкарні, якую заснаваў прыхільнік плыні арыянства магнат Ян Кішка, Будны выпусціў Новы Запавет з сваімі каментарамі, а таксама трактаты «Аб дзвюх прыродах Хрыста» і «Аб свецкай і духоўнай уладзе». На думку шмат якіх даследнікаў, навукова-крытычны ровень выдадзенага С. Будным Новага Запавету – самы высокі сярод вядомых на той час аналагічных выданняў у Еўропе.

Аднадумцам і прадаўжальнікам гуманістычнай традыцыі Сымона Буднага быў Васіль Цяпінскі. У сваёй друкарні ў маёнтку Цяпіна на Полаччыне ён выдаў беларускі пераклад Евангелля, у прадмове да якога бараніў родную мову, гісторыю і звычаі народа. Асноўнай мэтаю чалавечага жыцця Цяпінскі лічыў служэнне радзіме.

Інтэр'ер кальвінскага збору, пабудаванага Радзівіламі ў Кейданах. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2009 г.

Самуэль Дамброўскі, нашчадак аселага ў Вялікім Княстве роду гусітаў-уцекачоў, стаў на пачатку XVII ст актыўным дзеячом лютэранскай царквы. Тагачасная гравюра

Біблія Сымона Буднага. Тытульны аркуш. 1572 г.



Выпускнік Кракаўскага ўніверсітэта, мысляр, пісьменнік і таленавіты прамоўца Ян Ліцыній Намыслоўскі надрукаваў у Лоску рэфармацкі падручнік «Зброя вучэння Арыстоцеля» і зборнік вершаваных маральнапавучальных выказванняў «Сентэнцыі, неабходныя ў грамадскім жыцці», які быў напісаны па-лацінску, па-польску і па-нямецку і стаў першым у Вялікім Княстве падручнікам замежных моваў. Вялікі розгалас мела яшчэ адна ягоная кніга – «Анатомія і гарманічнасць хрысціянскага чалавека». Доўгі час Намыслоўскі ўзначальваў славутую арыянскую школу ў Іўі.

Старонка славутай кнігі «Перэгрынацыя» Мікалая Крыштопа Радзівіла, дзе апавядаецца пра паломніцтва ў Святую зямлю, здзейсненае гэтым магнатам пасля разрыву з кальвінізмам. 1601 г.

Аўтар «Перэгрынацыі» Мікалай Радзівіл Сіротка змясціў у кнізе свой партрэт

Да тых або іншых рэфармацыйных плыняў належалі шмат якія палітыкі, філосафы, пісьменнікі – Астафей Валовіч, Леў Сапега, Саламон Рысінскі, Андрэй Валян, Андрэй Рымша, Гальляш Пельгрымоўскі.

Збудаваны ў 1612 г. у стылі рэнесансу кальвінскі збор у вёсцы Жодзішкі Смаргонскага раёна. Фота 2004 г.

Тытульны аркуш «Катэхізіса» Сымона Буднага. Нясвіж. 1562 г.

Рэфармацыя ў Еўропе і ў Вялікім Княстве змянілася перыядам Контррэфармацыі. Каталіцкая царква перайшла ў наступ. Але ў нашай традыцыйна талерантнай дзяржаве змаганне з рэфарматамі не магло набыць такіх жорсткіх формаў, як у заходнееўрапейскіх краінах, дзе адбываліся працяглыя рэлігійныя войны. У нас немагчыма было нават уявіць крывавай Варфаламееўскай ночы, калі з згоды караля каталікі перарэзалі ў французскай сталіцы больш за тры тысячы пратэстантаў-гугенотаў.

У час Контррэфармацыі амаль уся ліцьвінская арыстакратыя прыняла каталіцтва. (Да ранейшай праваслаўнай веры вярнуўся толькі Астафей Валовіч.) Гэты працэс паглыбіў паланізацыю вышэйшых слаёў грамадства.

Колішняя лютэранская бажніца ў Полацку. Цяпер краязнаўчы музей. Сучаснае фота

# БЕРАСЦЕЙСКАЯ ВУНІЯ. ЯДНАННЕ ЦЭРКВАЎ


Спрэчка каталіцкага і праваслаўнага духавенства. Гравюра 1508 г.

Вунія магла дапамагчы пазбавіцца ад прэтэнзіяў Масквы і Варшавы, а таксама ад небяспекі рэлігійнай варожасці ў самой дзяржаве. Гэта разумелі і свецкія, і духоўныя асобы Вялікага Княства – прыхільнікі ягонай незалежнасці.


Епіскап Кірыла Тарлецкі. Гравюра XIX ст.

Ідэя аб'яднання праваслаўнай і каталіцкай цэркваў з'явілася ў Вялікім Княстве яшчэ ў часы Вітаўта. З мэтаю ўмацавання адзінства дзяржавы яе падтрымлівалі ўсе вялікія князі. Першая спроба ўвесці вунію была звязаная з пастановай аб'яднаўчага Фларэнційскага царкоўнага сабора 1439 г., але тады яна не атрымала належнай падтрымкі. У XVI ст. для гэтага ўзніклі больш спрыяльныя ўмовы.

Утварэнне Рэчы Паспалітай несла пагрозу ўзмацнення ў Вялікім Княстве польскіх уплываў. Тым часам у 1589 г. у Маскве з'явілася свая патрыярхія, якая абвясціла сябе пераемніцай ўлады заваяванага туркамі Канстанцінопаля і прэтэндавала на ўсе населеныя праваслаўнымі землі. Патрыярхі падтрымлівалі захопніцкія імкненні уладароў Масковіі, што называлі нашую краіну сваёй вотчынай. Разам з тым і праваслаўная, і каталіцкая царквы Княства мелі агульную патрэбу супрацьстаяць рэфармацыйнаму руху.



Святая Параскева. Абраз 1642 г. Беларуская школа


Для стварэння і ўмацавання вуніі царкваў шмат зрабіў епіскап Іпат Пацей. Невядомы мастак XVIII ст.

У Рым накіраваліся перакананыя прыхільнікі вуніі епіскап уладзімірска-берасцейскі Іпат Пацей і епіскап луцкі Кірыла Тарлецкі. Ад імя праваслаўных герархаў яны выказалі згоду на аб'яднанне пры ўмове прызнання зверхнасці рымскага папы, але захавання ранейшых «грэцкіх» абрадаў і літургіі. Таленавіты палітык і высокаадукаваны пісьменнік-палеміст Іпат Пацей здолеў прыцягнуць на свой бок шматлікіх святароў, у тым ліку і праваслаўнага кіеўскага мітрапаліта Міхайлу Рагозу.


Рэлікварый святога Язафата Кунцэвіча. Пачатак XVIII ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1541–1613 гг. – Жыццё і дзейнасць Іпата Пацея.
1574–1637 гг. – Жыццё і дзейнасць Язэпа Руцкага.
1577–1633 гг. – Жыццё і дзейнасць Мялета Смятрыцкага.
1580–1623 гг. – Жыццё і дзейнасць Язафата Кунцэвіча.
9 кастрычніка 1596 г. – Сабор у Берасці абвясціў вунію праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Рэчы Паспалітай.
1617 г. – Заснаванне вуніяцкага Ордэна базыльянаў.
12 лістапада 1623 г. – Забойства полацкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча.




Акт Берасцейскай царкоўнай вуніі, які змацавала сваімі подпісамі большасць праваслаўных епіскапаў Рэчы Паспалітай

У 1596 г. быў скліканы Берасцейскі царкоўны сабор. Ён адбываўся ў складанай сітуацыі. У Берасце з'ехалася шмат дэлегатаў з Украіны, дзе шляхта адкрыта выступала супраць вуніі. Да гэтага лагера належаў і князь Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. Тым не менш большасць праваслаўных епіскапаў, у тым ліку Іпат Пацей, уладыка полацкі Герман і пінскі Ёна, 9 кастрычніка паставілі пад актам вуніі свае подпісы.

Аб'яднанне цэркваў не было вынікам «падкопаў езуітаў» і «гвалту над праваслаўнымі», як пра гэта часта пішуць расейскія гісторыкі. Прынцыпе вуніі мела важкія нутраныя прычыны, а канфлікт вакол яе выклікала рознае разуменне ўмоваў альянсу.


Бажніца святога Мікалая ў Берасці, дзе была падпісаная царкоўная вунія. Гравюра XVIII ст.

Усталяванне вуніяцкай, або грэцка-каталіцкай, веры, якая спалучала традыцыйную ўсходнюю абраднасць з каталіцкімі царкоўнымі дагматамі, напачатку ішло няпроста. Вострая палеміка адбывалася на Соймах і ў літаратуры. Да сярэдзіны XVII ст. у Вялікім Княстве было надрукавана блізу 150 выданняў «за» і «супраць» вуніі. Яны выходзілі далёка за межы царкоўнай дагматыкі, закраналі агульнадзяржаўныя і культурныя праблемы. Гэтыя палемічныя трактаты, пасланні, памфлеты, лісты, казанні (сярод іх варта адзначыць «Казанні» Лявона Карповіча) утварылі цэлую літаратурную плынь.


Медаль у гонар Берасцейскай вуніі. Пасярэбраная медзь. Аверс

На жаль, змаганне прыхільнікаў і праціўнікаў вуніі не заўсёды захоўвала мірныя формы, што адлюстравалася ў трагічным жыццёвым шляху грэцка-каталіцкага арцыбіскупа Язафата Кунцэвіча.

Ён нарадзіўся ва Украіне ў сям'і перасяленцаў з Беларусі і прыехаў па навуку ў Вільню. Мітрапаліт Іпат Пацей накіраваў здольнага юнака вучыцца ў Віленскую акадэмію, а потым сам пастрыг яго ў манахі. Кунцэвіч быў таленавітым прапаведнікам і энергічным царкоўным дзеячом. За перавод у вуніяцтва тысяч віленчукоў ён атрымаў біскупскую катэдру, а ў 1618 г. стаў полацкім арцыбіскупам.

Не шкадуючы сябе, уладыка, аднак, бываў нялітасцівы і да іншых. Яму супрацьстаялі аб'ядналыя ў брацтвы праваслаўныя месцічы, якіх падтрымлівала яшчэ шматлікая праваслаўная шляхта. Увосень 1623 г. Кунцэвіч прыехаў у Віцебск, дзе ягоны супернік, праваслаўны архіепіскап, адлучыў полацкага ўладыку ад царквы. Натоўп узброеных бунтаўнікоў учыніў над вуніяцкім герархам жорсткую расправу. Пазней Язафат Кунцэвіч быў прылічаны да святых. Цяпер ягоныя мошчы спачываюць у галоўным каталіцкім храме свету – рымскім саборы святога Пятра.

Вуніяцкая царква прызнала новы «грыгарыянскі» каляндар, уведзены ў 1582 г. папам рымскім Рыгорам XII.


Выява святога Язафата Кунцэвіча на харугве для рэлігійных працэсій. XIX ст.

Маці Божая Берасцейская. Абраз XVI ст. Беларуская школа

Ліст удзельнікаў Берасцейскага сабору да кароннага канцлера Яна Замойскага ў справе падтрымкі царкоўнай вуніі, падпісаны Львом Сапегам, Мікалаем Крыштопам Радзівілам ды іншымі магнатамі. 1596 г.

Прыхільнікам яднання цэркваў быў першы рэктар Віленскай акадэміі, царкоўны і палітычны дзяяч Пётр Скарга. Гравюра пачатку XVII ст.

Крыж святой Еўфрасінні Полацкай вуніяты лічылі сваёй святыняй. Адваротны бок вобраза нашай нацыянальнай рэліквіі, узноўленай сучасным мастаком-ювелірам Міколам Кузьмічом. 1997 г.

IOSEPHVS IV VELMIN RVTSKI

Заснавальнік базылянскага ордэна, таленавіты пісьменнік, прапаведнік і педагог мітрапаліт Язэп Руцкі. Гравюра XVIII ст.

Але паступова новая царква ўмацоўвала свае пазіцыі. Шмат зрабіў дзеля гэтага наступнік Іпата Пацея на мітрапаліцкім пасадзе пісьменнік, педагог і прапаведнік Язэп Руцкі. Ён заснаваў вуніяцкі манаскі Ордэн базылянаў, назоў якога паходзіць ад імя аднаго з айцоў царквы святога Васіля (Базыля) Вялікага. Базыляне актыўна займаліся кнігадрукаваннем, адчынялі пры кляштарах школы і калегіюмы. Руцкі патрабаваў, каб сябры ордэна заўсёды прамаўлялі казанні на «народнай» (беларускай) мове і рабілі на ёй усе свае публічныя выступы. У пастанове VI Генеральнай кангрэгацыі (з'езду) базылянаў у 1636 г. было запісана: «Мы настойваем, каб айцы і браты прамаўлялі слова Божае не інакш, як на мове народа нашага».

Існуе думка, нібыта базыляне і наагул вуніяты «скакалі пад езуіцкую дудку». Дакументы сведчаць пра іншае. Да прыкладу, базыляне судзіліся з езуітамі за крыж святой Еўфрасінні Полацкай і не аддалі святыні. Вядомы выпадак, калі Таварыства Ісуса падавала на супольнікаў Ордэна базылянаў у суд за тое, што яны сцвярджалі, быццам «рэлігія рымская не пагаджаецца з святым Евангеллем».

За Язэпам Руцкім вуніяцкая царква пачала істотна адрозніваць ад традыцыйных праваслаўя і каталіцтва і набыла самабытны нацыянальны характар. У грэцкакаталіцкіх храмах і манастырах гучала жывая беларуская мова, якой карысталіся ў казаннях, у школьным навучанні, царкоўных спевах.

Прывілей вялікага князя і караля Уладзіслава Вазы на фундацыю манастыра базылянак у Вільні. 1639 г.

Па-беларуску выходзіла вуніяцкая літаратура: творы самога Язэпа Руцкага, Пётры Скаргі, Іпата Пацея, Язафата Кунцэвіча. Дарэчы, у дзейнасці праваслаўных брацкіх школаў і сярод праваслаўнага духавенства ў гэты перыяд, наадварот, усё шырэй выкарыстоўвалася польская мова.

Новая царква няўхільна перамагала як сапраўды народная. Так яе расцэньвалі пазней Кастусь Каліноўскі, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Адам Станкевіч, а таксама Фрыдрых Энгельс, які грунтоўна вывучаў гісторыю Рэчы Паспалітай.

Кажучы пра гістарычны лёс беларусаў, некаторыя аўтары параўноўваюць Берасцейскую вунію з перамогаю пад Грунвальдам. Разгром тэўтонцаў адвёў пагрозу фізічнага вынішчэння нашых продкаў, аб'яднанне цэркваў уратавала ад смерці духоўнай.



У праваслаўным асяроддзі краіны не ставала адукаваных асобаў, якія маглі б весці высокаінтэлектуальную палеміку з вуніятамі. Выняткам стаў полацкі архіепіскап Мялет Смятрыцкі. Ён скончыў Віленскую акадэмію, а затым удасканальваў веды ў Ляйпцыгскім і Вітэнбэргскім універсітэтах. Пяру Смятрыцкага, які быў знаным пісьменнікам, належыць шмат твораў у абарону праваслаўя. Асаблівую славу прынесла яму выдадзеная па-польску ў 1610 г. кніга «Трэнас, альбо Лямант адзінай святой усходняй царквы». У ёй аўтар ад імя «маці-царквы» заклікаў народы Беларусі і Украіны аб'яднацца супроць каталіцтва. Аднак на схіле гадоў Смятрыцкі перайшоў на бок грэка-каталікоў і ў новых творах пераконваў чытачоў у царкоўнай і дзяржаўнай мэтазгоднасці вуніі.

Палемічная кніга полацкага праваслаўнага архіепіскапа Мялета Смятрыцкага «Трэнас, альбо Лямант адзінай святой усходняй царквы». 1620 г.

Напружанасць у канфесійных стасунках была зняткая некалькімі пастановамі Соймаў, якія гарантавалі правы «ўсходняй» царквы, а таксама зацверджанымі ў 1633 г. «Артыкуламі супакаення рэлігіі грэцкай». Праваслаўныя атрымалі дазвол будаваць храмы, школы, шпіталі, адчыняць друкарні. Яшчэ раней аднавілася іерархія праваслаўнай царквы.

Тым часам вунія заваёўвала ўсё болей прыхільнікаў. У другой палове XVII ст. з трынаццаці менскіх манастыроў праваслаўным застаўся толькі адзін. Грэцка-каталіцкімі былі славутыя Жыровіцкі манастыр і Полацкая Сафія, якая зрабілася Меккаю вуніяцкіх паломнікаў.

Святыня беларускіх грэка-каталікоў – абраз Маці Божай Жыровіцкай. Гравюра Лявона Тарасевіча. 1682 г.

Адным з магутных асяродкаў вуніяцтва быў манастыр у Жыровічах паблізу Слоніма. Гравюра другой паловы XIX ст.

При канцы XVIII ст. грэка-каталікамі былі ўжо тры чвэрці ўсіх жыхароў Беларусі. (Праваслаўныя складалі ўсяго 6 %.) Вуніяты добра ведалі, што яны не палякі і не расейцы. Таму так ненавідзелі вунію маскоўскія цары і вярхі расейскага праваслаўя.

Вуніяцтва – вялікая і неаддучная частка беларускай гісторыі і культуры. Гэта вера мільёнаў нашых продкаў, вера дзесяці пакаленняў ліцвіноў-беларусаў. Менавіта вуніяцтва захавала тую нацыянальную глебу, дзякуючы якой потым пачалося беларускае Адраджэнне.

# УЛАДАРАННЕ ЖЫГІМОНТА ВАЗЫ

Шведская падатковая кніга часоў Жыгімонта Вазы




На пачатку свайго кіравання Жыгімонт выдаў прывілей, якім зацвердзіў трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага. Гэта адбылося ў студзені 1588 г. на каранацыйным Сойме і было адказам на патрабаванне ліцьвінскай шляхты, якая ў адваротным выпадку адмаўлялася прызнаць манарха. Новы збор законаў скасоўваў прынцыпы Люблінскай уніі з Польшчай і замацоўваў суверэнітэт Княства ў канфедэрацыйнай Рэчы Паспалітай.



Рэнесансавы партрэт вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы. Невядомы мастак. 1600 г.



Ухвала Генеральнага з'езда Вялікага Княства Літоўскага, скліканага ў 1593 г. у Вільні дзеля разгляду становішча ў дзяржаве. У той час Жыгімонт Ваза пасля смерці бацькі адначасова зрабіўся і каралём Швецыі, што выклікала незадавальненне на яго пратэстанцкай радзіме і трывогу ў Літве-Беларусі

Пасля смерці Сцяпана Батуры вялікім князем літоўскім і каралём польскім быў абраны Жыгімонт Ваза – сын караля Швецыі Юхана і Кацярыны, дачкі Жыгімонта Старога. Новы манарх уладарыў 45 гадоў, пад час якіх у нашай дзяржаве адбываліся вельмі значныя падзеі.

Жыгімонт Ваза падтрымаў Берасцейскую царкоўную вунію, але не дапусціў грэцка-каталіцкіх біскупаў у Сенат. Гаспадар абкружыў сябе вузкім колам магнатаў, чужаземцаў і езуітаў. Ён быў прыхільнікам узмацнення каталіцкай царквы, але разам з тым дзеля захавання рэлігійнай талеранцыі выдаў некалькі прывілеяў, якія забяспечвалі правы вернікаў-праваслаўных.

Спробы вялікага князя і караля ўвесці ў Рэчы Паспалітай абсалютную манархію ў 1606 г. выклікалі ў краіне рокаш – збройнае выступленне шляхты. Сярод іншага яна дамагалася і разрыву нявыгаднага для дзяржавы хаўрусу Жыгімонта з Габсбургамі і Святой Рымскай імперыяй. Змаганне з шляхтай скончылася кампрамісам і амністыяй. Сойм пацвердзіў, што і надалей манархі ў дзяржаве будуць выбірацца, а не атрымліваць трон у спадчыну.

Замежная палітыка Жыгімонта Вазы была актыўнай, але непаслядоўнай. Калі ў 1592 г. памёр ягоны бацька, наш манарх адначасова стаў і каралём Швецыі. Аднак ён уступіў у востры канфлікт з шведскай пратэстанцкай шляхтай, якая праз сем гадоў скінула яго з каралеўскага пасаду. Намагаючыся вярнуць карону, Жыгімонт уцягнуў Вялікае Княства ў працяглую вайну з паўночнай суседкай.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1587–1632 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы.
1588 г. – Гаспадар зацвердзіў трэці Статут дзяржавы.
1592–1599 гг. – Жыгімонт Ваза адначасова з'яўляецца каралём Швецыі.
1605–1606 гг. – Цараванне ў Маскоўіі Дзімітра І.
1608–1610 гг. – Авантура Дзімітра ІІ (Самазванца).






Генеалагічнае дрэва Жыгімонта Вазы з выявай Горадні. Гравюра Д. Куста. 1608 г.

На ўсходнім кірунку вялікі князь планаваў на добраахвотнай аснове далучыць да Рэчы Паспалітай Расею і стварыць там царкоўную вунію. Дзеля гэтага ён меркаваў пасадзіць у Крамлі свайго стаўленіка або зрабіць царом сына Уладзіслава.





Дзімітр Іванавіч Вялікі, цар маскоўскі. Тагачасны «лятучы лісток», выдадзены ў Рэчы Паспалітай

Расейскі цар Барыс Галуноў мусіў весці зацятую барацьбу з Дзімітрам I, якога падтрымліваў Жыгімонт Ваза. Невядомы мастак XVII ст.



Сустрэча Жыгімонта Вазы і Дзімітра I. Мастак М. Неўраў. 1874 г.



Срэбныя капейкі, выбітыя пасля абрання каралевіча Уладзіслава Вазы расейскім царом. 1611 г.

Ад Жыгімонта атрымаў дапамогу Дзімітр I, які называў сябе малодшым сынам цара Івана IV, што насуперак афіцыйнай версіі нібыта не загінуў, а застаўся жывы. (Дарэчы, ёсць звесткі, што ў магіле царэвіча Дзімітра ў 1990-х гадах сапраўды знайшлі не парэшткі цела, а «ляльку».) Існуе версія, што прэтэндэнтам на крамлёўскі пасад быў Рыгор Атрэп'еў з шляхоцкага беларускага роду. Ён меў добрую адукацыю, валодаў некалькімі мовамі і ведаў вайсковую справу. На чале аддзелаў ліцьвінскай і польскай шляхты падпарадкаваў сабе значную частку Расейскай дзяржавы і заняў Маскву. Але, каранаваўшыся ў 1605 г. як цар Дзімітр I, ён адмовіўся перадаць у склад Рэчы Паспалітай абяцаныя раней за падтрымку Смаленскую і Северскую землі.

Неўзабаве новага маскоўскага ўладара забілі баяры-змоўшчыкі. Яму на змену прыйшоў Дзімітр II, у мінулым – настаўнік у Шклове. Як і папярэднік, ён з войскам, што складалася пераважна з нашых суайчыннікаў, авалодаў на ўсходзе вялікімі абшарамі, але ўзяць Масквы не здолеў і быў забіты.

У 1609 г. Жыгімонт пачаў з Расеяй вайну, у ходзе якой маскоўскі ўрад змушана абвясціў каралевіча Уладзіслава царом. Аднак неўзабаве на крамлёўскі трон быў абраны Міхаіл Раманаў.

Вялізныя вайсковыя падаткі і спусташэнні вялі нашую краіну да заняпаду.



Абранне на трон Міхаіла Раманава запачаткавала ў Расеі новую царскую дынастыю. Невядомы мастак XVII ст.





Вялікі князь і кароль Жыгімонт Ваза. Мастак М. Кобэр. Канец XVI ст.

Недальнабачнасць Жыгімонта Вазы ў выбары еўрапейскіх хаўруснікаў выклікала шматлікія напады на Рэч Паспалітую крымскіх татараў і туркаў. У 1621 г. наш вялікі гетман Ян Кароль Хадкевіч атрымаў бліскучую перамогу над туркамі пад Хацінам, але нерашучыя дзеянні манарха не дазволілі напоўніцу выкарыстаць яе.

Палітыка Жыгімонта Вазы шмат у чым прывяла да змяншэння ролі Рэчы Паспалітай у Еўропе.





Дукат Жыгімонта Вазы. Аверс. 1621 г.





Карта Вялікага Княства Літоўскага, створаная Г. Меркатарам і Ё. Гондыюсам. Амстэрдам. 1630 г.

# ВАЙНА З ШВЕЦЫЯЙ

Гетмана Яна Караля Хадкевіча ў Еўропе лічылі адным з найталенавіцейшых военачальнікаў. Невядомы мастак першай паловы XVII ст.

Пазбаўлены ў 1599 г. шведскага трону, вялікі князь і кароль Жыгімонт Ваза не пагадзіўся з гэтым і распачаў цяжкую і доўгую вайну за панаванне на Балтыйскім моры. Зачэпкаю для яе стала ўлучэнне Эстляндыі ў склад Рэчы Паспалітай. У часе вайны асабліва вызначылася войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з Янам Каралём Хадкевічам, які паходзіў з старажытнага ліцвінскага роду.

## Гетман Хадкевіч

Дзяцінства будучага славутага ваяра прайшло ў родавым замку-палацы ў маёнтку Мыш недалёка ад Баранавічаў. З малых гадоў Янка выявіў цікавасць да вайсковай справы. Ён добра ездзіў на кані, страляў з лука і агняпальнай зброі. Вучыўся Хадкевіч у Віленскай акадэміі, а потым у Нямеччыне і італійскіх універсітэтах Падуі і Венецыі. Ян Караль грунтоўна ведаў гісторыю, геаграфію, матэматыку, дасканала валодаў лацінай. Разам з тым ён настойліва спасцігаў вайсковае майстэрства: штудыяваў кнігі знакамітых палкаводцаў, вывучаў на востраве Мальта досвед змагання тамтэйшых рыцараў з туркамі.

Камандуючы ўласным аддзелам конніцы, Ян Караль Хадкевіч атрымаў першыя перамогі пад час ваеннай экспедыцыі ў Малдавію і Валахію. Гэты поспех неўзабаве прынёс яму высокую пасаду палявога гетмана.

Дзякуючы выдатнаму вайсковаму таленту Хадкевіч звычайна дасягаў перамог над значна большымі непрыяцельскімі сіламі. (Трэба ўлічыць, што шведскае войска было адным з найлепшых у Еўропе.) Так, наш гетман разбіў шведаў пад Кокенгаўзенам (1601 г.) і Дорпатам (1603 г.). У бітве пад Белым Каменем у 1604 г. дзве тысячы нашых жаўнераў разграмілі 7-тысячны варожы корпус. У наступным годзе Хадкевіч атрымаў булаву вялікага гетмана.

Ягоным улюбёным родам войскаў былі гэтак званыя крылатыя гусары. Да іх панцыраў мацаваліся вялікія крылы з пёрамі, якія пад час атакі сваім гулам наводзілі на ворага жах. Менавіта беларускія гусары з бел-чырвона-белымі сцяжкамі на дзідах прынеслі ў тыя гады нашай арміі найбольшую славу. Яны дапамаглі Хадкевічу здабыць фантастычную перамогу пад Кірхгольмам.

Ад самага пачатку вайны з шведамі Хадкевіч быў у Інфлянтах. Ён усталяваў у войску суровую дысцыпліну, аднак заўсёды клапаціўся пра рыштунак і забеспячэнне падначаленых. Калі дзяржаўныя грошы на заробак жаўнерам сталі прыходзіць з перабоямі, гетман самаахвярна ўзяў утрыманне арміі на сябе, дзеля чаго заклаў уласныя маёнткі.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1560–1621 гг. – Жыццё і дзейнасць Яна Караля Хадкевіча.
1600–1629 гг. – Вайна Рэчы Паспалітай з Швецыяй.
1601 г. – Шведы разбітыя пад Кокенгаўзенам.
1603 г. – Перамога над шведамі пад Дорпатам.
1604 г. – Разгром шведскага войска пад Белым Каменем.
1605 г. – Сойм прызначыў Я. Хадкевіча вялікім гетманам.
27 верасня 1605 г. – Перамога над арміяй Карла IX пад Кірхгольмам.
Сакавік 1609 г. – Разгром шведскага флоту пад Салісам.
1620 г. – Пачатак вайны з Турцыяй.
Верасень 1621 г. – Бітва пад Хацінам.



Беларускія «крылатыя» гусары былі найбольш баяздольнымі фармаваннямі нашай арміі. Гравюра XIX ст.





Шведскі кароль Карл IX меў славу не толькі здольнага палкаводца, але і надзвычай жорсткага чалавека, які часта катаваў сваіх ворагаў. Невядомы мастак. 1600 г.

## Кірхгольмская бітва

27 верасня 1605 г. 4-тысячны корпус Хадкевіча на беразе Дзвіны каля вёскі Кірхгольм (цяпер латвійскі Саласпілс) сустрэўся з арміяй шведскага караля Карла IX, якая налічвала 14 тысяч жаўнераў. Нашае войска складалася цалкам з ліцьвіноў-беларусаў. Імі былі і ўсе камандзіры: Ян Пётра Сапега, Вінцэнт Война, Ян Кішка, Тамаш Дуброва, Марцін Гедройц...

Гетман вымусіў шведаў атакаваць першымі. Ён загадаў нашай лёгкай конніцы ўвязацца ў бой і адступіць. Карл IX, паверыўшы ў блізкую перамогу, кінуў у наступ і кавалерыю, і сваю праслаўленую пяхоту, якая разам з гарматамі спусцілася з зручных пазіцыяў на ўзвышшы. Шведы нечакана апынуліся пад моцным агнём нашых пяхотнікаў. І тут з флангаў на ворага абрынулася гусарская конніца ліцьвіноў...

Польскія падручнікі называюць разгром шведаў пад Кірхгольмам трыюмфам польскай зброі. Аднак у сапраўднасці, як даўў вядомы даследнік Анджэй Рахуба, палякаў там не было. На падмогу войску Вялікага Княства прыйшлі толькі 300 райтараў курляндскага герцага.



Гусарскі афіцэр у Кірхгольмскай бітве. Фрагмент карціны П. Снайдэрса. 1619 г.

План бітвы пад Кірхгольмам, у якой трыюмфальна перамаглі войскі Вялікага Княства на чале з гетманам Янам Каралём Хадкевічам. Гравюра пачатку XVII ст.



Пад Кірхгольмам шведы, паводле розных звестак, страцілі ад 6 да 9 тысяч жаўнераў, кінулі на пабаявішчы ўсю артылерыю і 60 баявых сцягоў. З войска Вялікага Княства Літоўскага загінула ўсяго блізу 100 вояроў і 200 былі параненыя. Слава пра перамогу разнеслася па ўсім свеце. Віншаванні вяліраму гетману прыслалі папа рымскі і бальшыня еўрапейскіх манархаў. Ваенны трыюмф Хадкевіча, на думку спецыялістаў, стаўся адной з найвялікшых тактычных перамог у сусветнай гісторыі.

## Марская перамога пад Салісам


Ян Кароль Хадкевіч з гетманскай булавой. Невядомы мастак першай паловы XVII ст.




Уланы і фельд'егеры войска Вялікага Княства Літоўскага. Тагачасныя акварэлі

Пад час кампаніі 1608 г. шведская армія з 12 тысяч жаўнераў высадзілася на ўзбярэжжы Латвіі і, выкарыстаўшы часовую адсутнасць Хадкевіча ў Інфлянтах, заняла вялікую тэрыторыю. Маючы ўсяго 2 тысячы кавалерыстаў і невялікую артылерыю, наш гетман пастанавіў адваяваць страчанае. Ён штурмам вызваліў Парнаву (Пярну) у Эстоніі, а затым рушыў на дапамогу абложанай ворагам Рызе. Атрымаўшы звесткі, што недалёка знаходзіцца шведскі флот, Хадкевіч распрацаваў і здзейсніў бліскучы план.

Паблізу гарадка Саліс (цяпер Салацгрыва ў Латвіі) вялікі гетман пасадзіў сваіх ваяроў на некалькі караблёў, захопленых раней у непрыяцеля і набытых у марскіх гандляроў. Рэшта размясцілася проста на лодках. Натхнёныя Хадкевічам спешаныя коннікі, сярод якіх шмат хто раней ніколі не бачыў мора, рушылі на ворага. Іх вялі адвага і вера ў ваярскі геній гетмана.

Уначы ў вусці ракі Салацы ліцвіны раптоўна з'явіліся перад варожым флотам і накіравалі на яго некалькі падпаленых брандэраў (суднаў з выбуховымі і палкімі рэчывамі). Два шведскія караблі загарэліся і пачалі тануць. У святле пажару нашыя гарматы трапна ўдарылі па астатніх. Ратуючыся, непрыяцельскія маракі панічна выходзілі ў адкрытае мора.

Марская бітва пад Салісам увайшла ў летапіс беларускай вайсковай славы. Вядомы пісьменнік Юльян Нямцэвіч у XIX ст. напісаў пра «бацьку» гэтай перамогі такія словы: «Толькі генію ўласціва знаходзіць магчымасці, якіх звычайны розум не заўважае».


Гарматы з Нясвіжскага замка Радзівілаў. Канец XVI – пачатак XVII ст. Цяпер знаходзяцца ў Кракаве


«Крылаты» гусар другой паловы XVII ст. Мастак А. МакБрайд. 1980-я гады





План Хацінскай бітвы. Гравюра Ж. Лаўра. 1621 г.






Харугва Гарадзенскага павета (уверсе), а таксама харугвы гетманская і каралеўскага войска Жыгімонта Вазы (унізе). Першая палова XVII ст.

## Турэцкая кампанія


Трактат аб прызнанні перамогі арміі Рэчы Паспалітай над туркамі пад Хацінам. 9 кастрычніка 1621 г.

Адначасова з шведскай вайной Рэч Паспалітая ад 1609 г. вяла баявыя дзеянні супраць Расейскай дзяржавы. Дзякуючы Яну Каралю Хадкевічу адбаранiўся і застаўся ў нашай краіне Смаленск.

Пазней разгарэлася яшчэ адна вайна – з Асманскай імперыяй. Турэцкі султан Асман II рыхтаваў вялікі паход на поўнач. Ён заявіў, што разгроміць Рэч Паспалітую і будзе маліцца Алаху на беразе Балтыйскага мора. Наступ з поўдня даручана было адбіваць Хадкевічу, якога прызначылі камандаваць аб'яднаным войскам Вялікага Княства і Польшчы.

У верасні 1621 г. пад Хацінам (цяпер Чарнавіцкая вобласць Украіны) наш гетман з 70-тысячнай арміяй, у склад якой уваходзілі і запарожскія казакі, перамог удвая з лішкам большыя сілы туркаў. Абарона ўмацаванага лагера Хадкевіча, які нягледзячы на цяжкую хваробу некалькі разоў асабіста ўзначальваў баявыя вылазкі, доўжылася цэлы месяц. Страціўшы 80 тысяч жаўнераў з 150 000, султан прызнаў паразу. Ян Хадкевіч сканаў у Хацінскім замку пад час бітвы. Прадчуваючы блізкую смерць, ён забараніў паведамляць пра яе, каб не падарваць баявы дух сваіх ваяроў.

Сучаснікі пісалі, што разам з вялікім гетманам памерла «вялікае шчасце Айчыны мілай». Дзяржава сапраўды развіталася з адным з найвыдатнейшых палкаводцаў у сваёй гісторыі.

Падпісаны ў тым самым 1621 г. мір з Асманскай імперыяй пакінуў ранейшую мяжу нязменнай і вывеў Рэч Паспалітую з небяспечнай вайны.

Замірэнне з Швецыяй было падпісанае толькі праз восем гадоў. Рэч Паспалітая панесла значныя тэрытарыяльныя страты. У яе ўладанні засталася толькі паўднёва-ўсходняя частка Інфлянтаў.

Вайна 1600–1629 гг. пакінула ў нашай гісторыі бліскучыя перамогі, але аслабіла дзяржаву, якая сталася закладніцай амбіцыяў Жыгімонта Вазы ў барацьбе за шведскую карону.

# ВОЙНЫ З РАСЕЯЙ У ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ XVII СТАГОДДЗЯ



Палявы гетман Вялікага Княства Ян Пётр Сапега з сваімі аддзеламі актыўна падтрымліваў Дзімітра II. Літаграфія з малюнка В. Герсана. Другая палова XIX ст.

## Паходы на Маскву

На пачатку 1609 г. Дзімітр II (Самазванец) завяваў палову Маскоўскага царства і стаяў каля сценаў яго сталіцы. Цар Васіль Шуйскі папрасіў дапамогі ў Швецыі, з якой ваявала Рэч Паспалітая. Гэта сталася падставаю для абвяшчэння вайны Расеі. Вялікае Княства і Польшча мелі на мэце вяртанне захопленых расейцамі земляў і найперш Смаленска.

Улетку 1610 г. беларускія і польскія палкі, якімі камандаваў гетман Станіслаў Жалкеўскі, разбілі пад Клушынам (паблізу Гжацка) 35-тысячную непрыяцельскую армію. У гетмана было ўсяго 6325 кавалерыстаў, 200 пяхотнікаў і чатыры гарматы.

Разгром гетманам С. Жалкеўскім у пяць разоў большых расейскіх сілаў выклікаў у Маскве паніку. Баярскі ўрад пазбавіў Шуйскага ўлады і запрасіў на трон каралевіча Уладзіслава, якога афіцыйна абвясцілі царом. Неўзабаве нашае войска заняло расейскую сталіцу. У маскоўскі гарнізон увахлдзілі два палкі Вялікага Княства на чале з мазырскім харужым палкоўнікам Язэпам Будзілам і палкоўнікам Эразмам Стравінскім.



Гетман Станіслаў Жалкеўскі з палоннымі знатнымі маскоўцамі (у тым ліку былым царом Васілём Шуйскім) на сойме Рэчы Паспалітай 1611 г. Тагачасная гравюра Тамаша Макоўскага паводле карціны Т. Далабэлі

Расейцы адваявалі Маскву толькі праз два гады, пасля чаго царом абралі Міхаіла Раманава. Спроба вялікага гетмана Яна Караля Хадкевіча выратаваць беларуска-польскі гарнізон з аблогі і вярнуць на трон Уладзіслава была запознены. Наша невялікае 3-тысячнае войска мусіла адысці.

Новы паход на Маскву адбыўся ў 1617–1618 гг. Войска ўзначальваў сам Уладзіслаў, але фактычным кіраўніком выправы быў гетман Хадкевіч. Расейскі гарнізон адбіў штурм, аднак значныя страты ў людзях і вычарпанасць запасаў прымусілі непрыяцеля пайсці на перамовы.

### ХРАНАЛОГІЯ

1609–1618 гг. – Вайна Рэчы Паспалітай з Расеяй.
Верасень 1610 г. – Войскі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы занялі Маскву.
1610–1612 гг. – Цараванне ў Расеі Уладзіслава Вазы.
Чэрвень 1611 г. – У Расеі адваяваны Смаленск.
1612 г. – Паход вялікага гетмана Яна Караля Хадкевіча на Маскву.
1617–1618 гг. – Паход на Маскву каралевіча Уладзіслава.
1618 г. – Дзявулінскае замірэнне.
1632–1634 гг. – Вайна Расеі з Рэччу Паспалітай.
1632–1648 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Уладзіслава Вазы.
1634 г. – Палянаўскае замірэнне.
1648–1651 гг. – Вайна з казакамі.
31 ліпеня 1649 г. – Бітва пад Лоевам.





Фрагмент карціны «Бітва пад Клушынам». Злева – ліцьвінска-польскія гусарскія харугвы гетмана С. Жалкеўскага. Мастак Сымон Багушэвіч. Сярэдзіна XVII ст.



Узбраенне райтара (найманага кавалерыста) з войска Вялікага Княства Літоўскага. Сярэдзіна XVII ст.



Гетман Станіслаў Жалкеўскі, які разбіў расейскую армію, заняў Маскву і дамогся абрання на крамлёўскі трон каралевіча Уладзіслава. Невядомы мастак XVII ст.



Партрэт вялікага князя і караля Уладзіслава Вазы. Мастак Ф. Люкс. 1639 г.




Аблога Смаленска. Гравюра Х. Келера. 1610 г.




Афіцэр харугвы Вялікай булавы Другой брыгады нацыянальнай кавалерыі. Тагачасная акварэль



Тытульны аркуш кнігі Пётры Казіміра Ляцкага «Сем герояў Хадкевічаў». Вільня. 1642 г.

## Вяртанне Смаленска

Горадам, вакол якога разгарнуліся галоўныя баявыя дзеянні ў той вайне, стаў старажытны беларускі Смаленск, захоплены Масковіяй яшчэ ў 1514 г. Смаленскі замак уяўляў сабой адно з найбуйнейшых абарончых збудаванняў на ўсходзе Еўропы. Даўжыня ягоных мураваных сценаў складала блізу 6,5 кіламетра, вышыня – 10–12 метраў, а таўшчыня сягала 6 метраў. Над мурамі пагрозліва ўзвышаліся 38 вежаў.

У магутнай смаленскай фартэцы знаходзіўся вялікі царскі гарнізон на чале з Міхаілам Шэіным. Аблога Смаленска доўжылася болей за 20 месяцаў, але ў чэрвені 1611 г. горад быў узяты прыступам і вернуты ў склад Вялікага Княства. У тых падзеях вызначыліся ваяры-ліцвіны Льва Сапегі.

У 1613 г. Смаленск абкружыла расейскае войска, аднак ліцвінскія аддзелы Яна Пётры Сапегі і Аляксандра Лісоўскага змусілі ворага зняць аблогу. Маючы ў тыле смаленскую фартэцу, Княства правяло паспяховыя экспедыцыі на Бранск і Старадуб.



Тагачасны медаль з выяваю вялікага князя і караля Уладзіслава Вазы, выбіты ў гонар вызвалення Смаленска. Медзь. Аверс. 1611 г.

Навершнік параднай партызаны (так у нас называліся алебарды-пратазаны)





Марцыян Аляксандр Агінскі ў выглядзе лісоўчыка. Малюючы гэты партрэт, мастак другой паловы XIX ст. Юльюш Косак карыстаўся накідам Рэмбранта, зробленым у 1654 г.

## Лісоўчыкі

Еўрапейскую вядомасць у той вайне атрымала лёгкая беларуская кавалерыя, названая паводле імя яе камандзіра лісоўчыкамі. Аляксандр Язэп Лісоўскі, віленскі шляхціч і таленавіты военачальнік, стварыў надзвычай мабільныя аддзелы з адметнай тактыкай. Узброеныя шаблямі, дзідамі, лукамі, а таксама мушкетонамі, лісоўчыкі, якія не мелі абозу, рабілі імклівыя рэйды па глыбокіх варожых тылах.

Ваюючы спачатку на баку Дзмітра ІІ, Лісоўскі з сваімі некалькімі тысячамі вершнікаў браў Каломну, Галіч, здзяйсняў паспяховыя паходы ў Пскоўскую, Ноўгарадскую, Уладзіміра-Суздальскую землі.

Фармаванні лісоўчыкаў захаваліся і пасля раптоўнай смерці іхнага камандзіра (магчыма, атручанага маскоўцамі). Іх ваярскае майстэрства і нястрымны напор зведалі Францыя, Італія, Нямеччына, Чэхія і Вугоршчына, дзе нашы кавалерысты ваявалі пазней як найміты германскага імператара.



Гусар. Гравюра А. дэ Брэйна. 1587 г.

## Дзявулінскае замірэнне

Вайна 1609–1618 гг. завяршылася замірэннем, падпісаным у вёсцы Дзявуліна каля Тройца-Сергіевай лаўры пад Масквой. Абодва бакі былі знясіленыя і спадзяваліся атрымаць перадышку, аднак не збіраліся адмаўляцца ад сваіх планаў. Тут зноў выявіўся выдатны дыпламатычны талент Льва Сапегі, які трымаўся ўпэўнена і бескампрамісна.

Маскоўская дэлегацыя ўрэшце адмовілася ад прэтэнзіяў на Смаленск і Смаленшчыну, а таксама на Чарнігаўскую і Ноўгарад-Северскую землі. Апрача Смаленска ў склад Вялікага Княства вярталіся Мажайск, Дарагабуж, Вязьма – агулам 30 гарадоў. Аднак каралевіч Уладзіслаў не адмаўляўся ад тытула маскоўскага цара. У сваю чаргу не хавала нязгоды з вялікімі тэрытарыяльнымі стратамі Расея.

Улетку 1615 г. гетман Хадкевіч, каб адцягнуць расейскія сілы ад Смаленска, накіраваў Лісоўскага ўглыб непрыяцельскага абшару. Наша кавалерыя, праходзячы часам 150 кіламетраў за суткі, захапіла горад Карачаў і разграміла пад Арлом войска князя Хаванскага. Галоўнай арэнаю яе дзеянняў стала Паволжа. Звязаўшы буйныя царскія сілы, Лісоўскі дапамог адстаяць Смаленск. «Лісоўчык ваюе, што пажар бушуе», – гаворыцца ў паэме сярэдзіны XVII ст.



Баявы гусарскі шышак (так званы «папэнгаймэр»)

Медаль у гонар перамогі нашых войскаў пад Смаленскам. Бронза. Аверс. 1634 г.

## Смаленская кампанія

У студзені 1633 г. ваявода М. Шэін з 20 тысячамі кавалерыі і пяхоты, а таксама моцнай артылерыяй узяў у аблогу Смаленск, захоп якога быў галоўнай мэтаю вайны. Наша 2-тысячная залога на чале з Самулём Друцкім-Сакалінскім трымала гераічную абарону. Палявы гетман Крыштоп Радзівіл здолеў прарваць блакаду і правесці ў горад значнае падмацаванне. Тым часам разам з ваярамі мужна баранілі свае месты палачане і віцьбляне.



Старадаўнія смаленскія фартыфікацыі. Гравюра XIX ст.

На пачатку верасня 1633 г. пад Смаленск падышла армія новага вялікага князя і караля Уладзіслава Вазы. Ён прывёў 25 тысяч ліцьвіноў і палякаў, а таксама некалькі тысяч запарожскіх казакоў. Ваяводу Шэіна адкінулі ад смаленскіх сценаў і абкружылі. У лютым 1634 г. ён падпісаў акт пра капітуляцыю, паводле якога пакідаў пераможцам усе свае 123 гарматы і 129 баявых сцягоў. За гэта Шэіна прысудам расейскай Баярскай думы пакаралі смерцю.

Мірная дамова, падпісаная на рацэ Палянаўцы паміж Вязьмай і Дарагабужам, пацвярджала асноўныя ўмовы Дзявулінскага замірэння.

Смерць вялікага князя і караля Жыгімонта Вазы у 1632 г. сталася штуршком да пачатку новай вайны, якую часта называюць Смаленскай. Увосень таго самага года царскія ваяводы захапілі Асвею, Друю, Себеж, Невель, Езярышча, Усвят, Вяліж, Сураж, Дарагабуж, Рослаў, Амсціслаў, Крычаў... Але на Полаччыне і ў Падняпроўі расейскае войска мусіла весці цяжкія баі, бо гарады ўдавалася браць толькі штурмам.



Капітуляцыя расейскага ваяводы Міхаіла Шэіна перад вялікім князем і каралём Уладзіславам Вазам пад Смаленскам. Невядомы мастак XVII ст.





Вялікі гетман Януш Радзівіл. Невядомы мастак першай паловы XVII ст. Нясвіжская калекцыя Радзівілаў



Бітва войска Рэчы Паспалітай з казакамі. Малюнак з рэльефа ў Сэн-Жэрмэнскім саборы Парыжа



Узяцце ў палон казацкага палкоўніка Міхайлы Крычэўскага ў бітве пад Лоевам 31 ліпеня 1649 г. Габелен з Нясвіжскай мануфактуры Радзівілаў. Сярэдзіна XVIII ст.

## Вайна з казакамі

У 1648 г. украінскі гетман Багдан Хмяльніцкі выступіў супраць уладаў Рэчы Паспалітай. Ён накіраваў у Вялікае Княства Літоўскае шматлікія загоны казакоў. Планаваўся захоп беларускага Падняпроўя і ўлучэнне яго ў склад казацкай дзяржавы. Частка мясцовых жыхароў падтрымала акупантаў.

Увесь поўдзень нашай краіны трапіў у рукі казакоў, якія разам з пагромамі панскіх маёнткаў рабавалі простых людзей, выразалі габраяў. На заваёўнікаў рушыў з сваімі аддзеламі палявы гетман Януш Радзівіл. Выдатна ўзброеныя шляхоцкія палкі бралі горад за горадам, жорстка караючы казакоў ды іх хаўруснікаў. Пінск на два дні аддалі «на агонь і рабунак», бо ягоныя жыхары бараніліся разам з казакамі. Бабруйцы пад час аблогі папрасілі прыняць капітуляцыю і адпаведна яе ўмовам выдалі акупантаў ды іхных памагатых. Радзівіл стрымаў слова і не дазволіў сваім жаўнерам пустошыць места. Як сведчаць мемуары ўдзельніка кампаніі, нават за адну ўзятую хустку гетман загадаў павесіць рабаўніка на гарадской браме.

Найбуйнейшая бітва адбылася ўлетку 1649 г. пад Лоевам. Разгромленае арміяй Вялікага Княства казацкае войска страціла 8 тысяч забітымі і 3 тысячы патанулымі ў Дняпры.

У выніку ваенных дзеянняў вялізныя абшары паўднёва-ўсходняй Беларусі зазналі жудаснае спусташэнне. Сойм Рэчы Паспалітай мусіў вызваліць шэраг паветаў ад выплочвання падаткаў. Вайна 1648–1651 гг. не прынесла ні паўстанцам, ні дзяржаве анічога, апрача крыві ды разбурэнняў.

У 1654 г. на Вялікае Княства Літоўскае абрынулася самая цяжкая ў нашай гісторыі вайна, якую сучаснікі называлі «крывавым патопам».

# КРЫВАВЫ ПАТОП



Гетман Багдан Хмяльніцкі. Невядомы мастак XVII ст.

## Маскоўскае нашэсце

У Маскве ўважліва сачылі за вайной з казакамі ў Беларусі і змаганнем Польшчы з войскам Хмяльніцкага ва Украіне. Цар пачаў разглядаць украінскага гетмана як хаўрусніка ў сваіх захопніцкіх планах. Казаччына знясільвала Рэч Паспалітую і стварала зручны момант для нападу. Пасля Пераяслаўскай Рады, якая ў студзені 1654 г. прыняла пастанову пра пераход Украіны «пад царскую руку», вайна зрабілася непазбежнай.

Увесну таго самага года на ўсходнія абшары нашай дзяржавы з Вялікіх Лукаў, Вязьмы і Бранска ўварваліся тры вялізныя расейскія арміі. На дапамогу ім з поўдня рушылі на Беларусь пасланыя Хмяльніцкім 20 тысяч казакоў гетмана Івана Залатарэнкі. Разам сілы захопнікаў складалі блізу 100 тысяч.



З дваццацігадовага ўладарання вялікага князя і караля Яна Казіміра Вазы толькі паўтара года прыпала на мірны час. Невядомы мастак пачатку XVIII ст.

Масква прыкрывалася словамі пра абарону праваслаўных ад уціску «проклятых ляхов». Напачатку абвяшчанні цара Аляксея Міхайлавіча, што ён захавае правы і маёмасць беларускай шляхты і забяспечыць усім праваслаўным спакойнае жыццё, мелі на памежных з Расеяй землях даволі значны ўплыў.

Вялікае Княства Літоўскае, якое не паспела загаіць раны пасля нядаўняга ваеннага ліхалецця, было дрэнна падрыхтаванае да нападу з усходу. Апрача ўсяго дзяржава не мела вялікага гетмана: новы манарх Ян Казімір марудзіў з прызначэннем на гэтую пасаду Януша Радзівіла, перакананага прыхільніка незалежнасці Княства.

Нарэшце атрымаўшы гетманскую булаву, Радзівіл здолеў сабраць дзеля абароны краіны 10-тысячнае войска. Пад Шкловам ён выйграў вялікую бітву з непрыяцелем, страціўшы ўсяго 700 ваяроў, тым часам як маскоўцы – у дзесяць разоў болей. Але тая перамога не мяняла катастрафічнай сітуацыі. За першыя месяцы вайны царскія стральцы і казакі занялі Полацак, Магілеў, Воршу, Шклоў, Крычаў ды дзясяткі іншых гарадоў і мястэчкаў. Тыя, што адмаўляліся ад капітуляцыі, цар загадаў разбураць, а іх насельніцтва вынішчаць або выводзіць у палон. Не зважаючы на гэта, большасць гарадоў не пагаджаліся здавацца і ўпарта адбіваліся. Віцебск абаранялі пераважна мяшчанства. Побач з ваярамі біліся на сценах жыхары Гомеля і Дуброўны. Тры месяцы трымалі аблогу смаленцы, паўтара года – жыхары Старога Быхава.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1648–1668 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Яна Казіміра Вазы.
1654–1667 гг. – Вайна Расеі з Рэччу Паспалітай.
1655–1660 гг. – Вайна з Швецыяй.
12 жніўня 1655 г. – Кейданская дамова пра вунію Вялікага Княства Літоўскага з Швецыяй.
25 чэрвеня 1660 г. – Разгром царскіх войскаў пад Палонкай.
1 лютага 1661 г. – Магілёўскае паўстанне супраць расейскіх захопнікаў.
2 снежня 1661 г. – Вызваленне Вільні.
1667 г. – Андрусаўскае замірэнне.





Вялікі гетман Януш Радзівіл. Гравюра паводле партрэта Д. Шульца. 1670 г.

Захапіўшы Дуброўну, царскія стральцы спалілі горад, зраўнавалі яго валы, а ўсіх жыхароў забралі ў няволю. Найболыш страшны лёс напаткаў Амсціслаў. Там, як сведчаць расейскія гістарычныя дакументы, «шляхты, поляков, литвы и иных служилых людей побито больше десяти тысяч». Астатніх ваявода Трубяцкой вывеў у палон, папярэдне знішчыўшы места. У руіны ператварыліся Рэчыца, Жлобін, Рагачоў. У 1655 г. была ўзятая Вільня, дзе вусцішную разню ўчынілі казакі Залатарэнкі і стральцы ваяводы Чаркаскага. У кляштарах яны гвалцілі і забівалі манашак. Касцёл святога Міхала ўбачыў рабаванне магілы канцлера Льва Сапегі. «Вызваліцелі праваслаўных» пустошылі і палілі віленскія праваслаўныя храмы. Палова месцічаў загінула, астатнія пакінулі горад.



Маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч выкарыстоўваў у распачатай ім вайне з нашай дзяржавай тактыку «выпаленай зямлі». Невядомы мастак XVII ст.

**Вялікае Княства Літоўскае ў XVII ст.**




Ужо на другі год вайны амаль уся Беларусь (з вынятка Берасцейшчыны і Панямоння) апынулася пад акупацыяй. Няскоранымі заставаліся некалькі фартэцаў, у тым ліку Стары Быхаў, Ляхавічы і Слуцак, якія пляцо ў пляцо баранілі праваслаўныя і вуніяты, пратэстанты і каталікі, а таксама юдэі. Адзінства жыхароў Вялікага Княства незалежна ад этнічнага паходжання і верavызнання было яскравай праявао дзяржаўнага патрыятызму продкаў.



Аліўскі мірны трактат, якім завяршылася вайна Рэчы Паспалітай з Швецыяй. 3 траўня 1660 г.

## Вайна з Швецыяй

З падзеямі маскоўскага нашэсця перапляталася вайна, якая распачалася ў 1655 г. нападам шведскага караля Карла X Густава на Польшчу. Шведы хутка акупавалі большую частку польскіх земляў з Варшавай і Кракавам і занялі Жамойць. Улетку першага года вайны непрыяцель захапіў Браслаў і Друю, а пазней узяў у аблогу Берасце.

У тых умовах частка магнатаў, каталіцкіх герархаў і вайсковых чыноў Вялікага Княства на чале з вялікім гетманам Янушам Радзівілам заключылі ў жніўні 1655 г. у Кейданах пагадненне пра вунію з Швецыяй. Кейданскі акт прадугледжваў аб'яднанне Княства і Швецыі на роўных правах (вунія з Польшчай скасоўвалася). Пры гэтым кароль Карл X Густаў абавязваўся спрыяць выгнанню з нашых абшараў расейскага войска, а вызваленыя гарады, замкі і землі вярнуць былым уладальнікам.

Прыхільнікі вуніі з Швецыяй разлічвалі такім шляхам і надалей бараніць Вялікае Княства Літоўскае ад агрэсіі з боку Масквы і ад польскай экспансіі. Свае подпісы пад дамовай паставілі блізу 1150 асобаў.

Аднак бальшыня шляхты і войска не прынялі аб'яднання з Швецыяй і захавалі вернасць гаспадару Яну Казіміру Вазу. Супраць Януша Радзівіла ўзбунтавалася ягоная ж армія. Гетман неўзабаве памёр (магчыма, быў атручаны). Акт Кейданскай вуніі не ажыццявіўся.

Для Рэчы Паспалітай гэтая вайна завяршылася падпісаннем ў 1660 г. Аліўскага замірэння. Паводле яго Ян Казімір Ваза адмаўляўся ад прэтэнзіяў на шведскі трон. Рэч Паспалітая прызнавала за Швецыяй заваёвы на поўнач ад Дзвіны. Курляндскае і Земгальскае герцагствы і Інфлянцкае ваяводства заставаліся супольным уладаннем Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы.



Помнік Янушу Радзівілу ў Кейданах (цяпер Кедайняй, Летува). Скульптар А. Босас. 2006 г. Фота Зьмітра Герасімовіча



Шведскі кароль Карл X Густаў згодна з Кейданскай вуніяй быў абвешчаны і вялікім князем літоўскім. Мастак С. Бурдон. 1653 г.

## У расейскай няволі

На захопленых расейскімі войскамі землях Княства панавалі гвалт і рабункі. У рэлігійнай палітыцы царскія ўлады кіраваліся тут прынцыпамі: «униатам не быть», «костелам не быть, а петь в домах», «жидам в Белой Руси не быть и жития никакого не имети». Але і прыналежнасць да праваслаўя не ратавала ад марадзёрства і здзекаў. Дакументы захавалі шмат прыкладаў, калі «браты па веры» нішчылі праваслаўныя храмы і забівалі святароў, на месца якіх прысылалі надзейных папоў з Масковіі. «Навошта столькі крыўды, крадзяжоў, пакутаў і забойстваў у гарадах і вёсках, у лясах і на палях, за што ў кожным месцы чуецца плач і ліюцца слёзы?» – у роспачы пісаў да царскіх ваяводаў праваслаўны епіскап полацкі і віцебскі Каліст.



Гэты нагруднік ліцьвінскага вояра застаўся не прабітым ні куляю, ні халоднай зброяй. Сярэдзіна XVII ст.

Папулярная сярод нашай шляхты шабля-карабэля. Другая палова XVII ст.



Гравюра невядомага мастака з выявай Вільні (у цэнтры). 1666 г.

Дзясяткі тысяч нашых продкаў прымусова выводзіліся ў Маскоўшчыну. Цар Аляксей Міхайлавіч не хаваў намеру перасяліць на свае землі 300 тысяч беларусаў. Кожны маскоўскі памешчык мог прыехаць у Беларусь і купіць у царскіх стральцоў колькі заўгодна палонных па 3–5 рублёў за «галаву». Звычайна выбіралі маладых жанчын і дзяцей ад 10 да 16 гадоў. Асобнай групай самых каштоўных перасяленцаў былі рамеснікі, якіх часам зывабілвалі абяцаннем высокіх заробкаў, але найчасцей забіралі сілай. Адначасова ў акупаваных гарадах цар спрабаваў сяліць на сталае жыхарства сваіх ратнікаў, якім адводзілася зямля і плаціліся скарбовыя грошы на будаўніцтва.

Цэлыя паветы былі спустошаныя, выпаленыя і знялюджаныя. Ад безлічы непахаваных людзей і жывёлаў пачалася эпідэмія чумы, што суправаджалася голадам.




У 1657 г. Берасце ўзялі ў аблогу шведска-вугорскія войскі.
На гравюры добра відаць старадаўні горад, які ў першай палове XIX ст.
будзе дашчэнту зруйнаваны расейцамі дзеля будаўніцтва
на яго месцы «Брестской крепости».
Мастак Э. Дальбэрг. Нюрнбэрг. 1696 г.



Партрэт удзельніка войнаў Рэчы Паспалітай з Расеяй палявога гетмана Уладзіслава Валовіча з родавым гербам. Гравюра Лаўрэна Вілаца. 1669 г.



Кармеліцкі касцёл Дзевы Марыі ў Амсціславе быў сведкам крывавых падзеяў 1654 г. XVII – пачатак XVIII ст. Фота Анатоля Кляшчука. 2007 г.



Міхал Казімір Пац у 1659 г. заняў пасаду генеральнага рэгімэнтара (камандзіра) войска Вялікага Княства Літоўскага, а пазней стаў вялікім гетманам. Невядомы мастак XVII ст.

## Народны супраціў

Першыя сялянскія і мяшчанскія аддзелы самаабароны, якія ахоўвалі вёскі ды мястэчкі, перашкаджаючы рабункам і вываду людзей у палон, узнікі ўжо на самым пачатку расейскага ўварвання. Найбольш чынны партызанскі рух разгарнуўся на Смаленшчыне, а таксама ў ваколіцах Полацка, Віцебска, Магілева і на Амсціслаўшчыне. У ліпені 1654 г., калі ваявода Трубяцкой узяў у аблогу Амсціслаў, 15-тысячнае царскае войска атакавала аддзел з трох тысяч беларускіх сялянаў Калесніцкаўскай воласці. Тады сама ў адкрыты бой з рэгулярнымі маскоўскімі сіламі няраз уступалі партызаны на Полаччыне.

Узімку 1654/55 г., калі наш гетман Януш Радзівіл вёў паспяховае контрнаступленне, партызаны рабілі засады на дарогах, вынішчалі дробныя расейскія аддзелы, узялі ў палон некалькіх варожых ваяводаў. Поплеч з сялянамі, што складалі аснову супраціву, ваявала і шляхта, з асяроддзя якой выйшла бальшыня партызанскіх камандзіраў.

У 1657–1658 гг. народнае змаганне з захопнікамі пашырылася на Менскае і Навагрудскае ваяводствы. Партызаны фактычна трымалі пад кантролем усю Магілеўшчыну. У шэрагі змагароў уліваліся ўсё больш мяшчанаў і шляхты, якая мела вайсковы досвед, што рабіла ўдары па ворагу адчувальнейшымі.

Імкненне вызваліцца ад захопнікаў і прынесеных імі азіяцкіх парадкаў ахапіла і беларускія гарады. Па іх пракацілася цэлая хваля антымаскоўскіх паўстанняў, найбуйнейшае з якіх выбухнула ў Магілеве. Ягоныя жыхары, што здалі горад расейскім стральцам без бою, не вытрымаўшы гвалту і бясконцага рабавання, 1 лютага 1661 г. выразалі ўвесь 7-тысячны царскі гарнізон. Тое самае адбылося ў Амсціславе, Шклове, Гомелі, Дзісне, Себежы, Старым Быхаве.

Шырокі народна-вызвольны рух спрыяў пераходу войскаў Рэчы Паспалітай да наступальных дзеянняў.



Шляхоцкі герб «Пнейня»

Нашы партызаны вызвалілі Глыбокае, Бешанковічы, Лукомль і заблакавалі расейскі гарнізон у Віцебску. Цар мусіў накіроўваць у Беларусь адмысловыя карныя экспедыцыі з артылерыяй. Яны палілі партызанскія вёскі, бязлітасна расправляліся з узятымі ў палон, але супраціў не спыняўся.





Абарона Ляхавічаў ад расейскіх войскаў у 1660 г. Тагачасная гравюра

## Бітва пад Палонкай

Дзеля кіравання захопленымі землямі ў Маскве быў створаны Прыказ Вялікага Княства Літоўскага. Але Літва-Беларусь упарта не пагаджалася на ролю расейскай правінцыі.

Каб канчаткова падпарадкаваць няскораную краіну, увосень 1659 г. Аляксей Міхайлавіч паслаў сюды вялікую армію пад камандаю князя Івана Хаванскага. Як заўсёды, выкарыстоўваючы на нашым абшары тактыку выпаленай зямлі, царскія стральцы дайшлі да Горадні і захапілі Берасце.

Аднак пасля падпісання ў 1660 г. міру з Швецыяй на акупантаў рушылі занятыя раней у вайне на поўначы харугвы Вялікага Княства на чале з гетманам Паўлам Янам Сапегам. Пад рукой у яго было 8 тысяч ваяроў. На дапамогу Сапегу прывёў 4-тысячную польскую дывізію Стэфан Чарнецкі.

Злучанае ліцвінска-польскае войска вызваліла Слонім і пайшло на дапамогу абаронцам Ляхавіцкага замка, які трымаў у аблозе Хаванскі. Бітва з галоўнымі сіламі маскоўскага ваяводы адбылася 25 чэрвеня 1660 г. каля мястэчка Палонка паміж Слонімам і Ляхавічамі.

На правым крыле непрыяцельскай арміі стаяла конніца самога Хаванскага, на левым – князя Шчарбатага, пасярэдзіне – пяхота і конныя нямецкія наймітырайтары. У цэнтры нашага войска заняла пазіцыі дывізія Чарнецкага, на флангах – харугвы Сапегі, А. Палубінскага і С. Кміціча. Расейцы мелі больш за 20 тысяч ратнікаў, па двое на кожнага нашага ваяра.

Кавалерыйскай атакай бітву пачаў Хаванскі, але контратака гусараў Рэчы Паспалітай атрымалася такой імклівай, што варожая пяхота, якая стаяла перад пераправай цераз рэчку Палонку, паспела зрабіць толькі адзін залп, а потым была пасечаная і патопленая. Вырваўшыся на другі бераг, нашыя жаўнеры мелі выбар: загінуць або перамагчы.

Ваявода Хаванскі даў загад уступіць у бой сваім найлепшым баярскім палкам і нямецкай кавалерыі. Нейкі час зыход гарачай сечы заставаўся няясным, але жаўнерам гетмана Сапегі дадавала моцы прага помсты за ранейшыя паразы і паняволеную Айчыну...

Працягам гэтай перамогі стаўся яшчэ адзін разгром князя Хаванскага ў 1661 г. пад Кушлікамі паблізу Полацка. Неўзабаве была адваяваная Вільня. Ход вайны карэнным чынам змяніўся, бо з'явілася магчымасць перанесці ваенныя дзеянні на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы.

У бітве пад Палонкай загінула 16 тысяч маскоўцаў. Гэта быў поўны разгром галоўнай царскай арміі, што тады дзейнічала ў Вялікім Княстве. Перамога засведчыла пераход стратэгічнай ініцыятывы да войска Рэчы Паспалітай.

Кавалерыст і панцырны казак арміі Вялікага Княства Літоўскага. Другая палова XVII ст. Мастак А. МакБрайд. 1980-я гады





Шалом райтара войскаў Багуслава Радзівіла. Сярэдзіна XVII ст.




Смаленск у XVII ст. Гравюра 1687 г.

Вялікае Княства выйшла з той вайны з катастрафічнымі стратамі. Насельніцтва беларускіх земляў зменшылася больш чым напалову: з 2,9 мільёна чалавек у 1648 г. да 1 мільёна 350 тысяч – у 1667-м. Загінуў або пад прымусам пакінуў Бацькаўшчыну кожны другі. У Полацкім, Віцебскім і Амсціслаўскім ваяводствах, якія найдаўжэй знаходзіліся пад акупацыяй, не ацалела і траціны насельніцтва. У ваяводскім Менску засталося ўсяго 170 жыхароў.

## Андрусаўскае замірэнне

Дзве знясіленыя вайной краіны пачалі перамовы, якія завяршыліся падпісаннем у вёсцы Андрусава пад Смаленскам замірэння на трынаццаць з паловай гадоў. Да Масквы адыходзілі ўсходнебеларускія землі – Смаленшчына і заходняя Браншчына. Аднак захопленыя паўночныя абшары і Інфлянты вярталіся Вялікаму Княству. Расеі не ўдалося дасягнуць асноўнай мэты – знішчэння нашай дзяржавы.

Тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага паменшылася з 370 да 312 тысяч квадратных кіламетраў. Праз пяць гадоў маскоўскі ўрад перадаў Вільні беларускія Невель, Себеж і Веліж, пасля чаго мяжа паміж Расейскай дзяржавай і Вялікім Княствам заставалася амаль нязменнай да канца XVIII ст.

Андрусаўская дамова давала палонным права вярнуцца на радзіму, аднак яго атрымалі толькі святары, шляхта, жаўнеры, татары ды габраі, прычым далёка не ўсе змаглі ім пакарыстацца. Ліцьвінскую шляхту высылалі служыць у сібірскія астрогі за тысячы кіламетраў ад дому. У гарнізоне Табольска, напрыклад, ліцьвіны-беларусы складалі да 30%. Асноўная ж маса выведзеных на ўсход жыхароў нашай дзяржавы – сяляне і мяшчане – заставалася на чужыне нават без надзеі на вяртанне. Разам з сотнямі тысяч палонных Расея, парушыўшы ўмовы замірэння, пакінула сабе і нарабаваныя за гады вайны велізарныя культурныя каштоўнасці.

План Віцебска 1664 г.



Большасць гарадоў і мястэчкаў былі, як тады казалі, «абернутыя ў нівеч», гэта значыць ператвораныя ў папялішчы. У Полацку з 1500 даваенных «дымоў» засталося 102 (страты – 93%), у Віцебску гэтыя лічбы складалі адпаведна 981 і 56 (95%). Тысячы беларускіх майстроў мусілі аздабляць царскія палацы і множыць багацце расейскай знаці. У нашых жа гарадах рамесная вытворчасць больш ніколі не ўзнялася да ранейшага роўню. Глыбокі заняпад перажывала сельская гаспадарка. З галоўнага экспарцёра збожжа ў Еўропе Вялікае Княства пасля вайны ператварылася ў краіну, якая з цяжкасцю забяспечвала ўласныя патрэбы.



Пад час той вайны Вялікае Княства Літоўскае страціла і заморскія ўладанні: Гамбію ў Афрыцы і востраў Табага ў Вест-Індыі, якімі разам з Польскай Каронай валодала праз агульнага васала – Курляндскае і Земгальскае герцагства.

Даваенная колькасці насельніцтва Беларусь дасягнула толькі праз стагоддзе, але страты ў вышэйшых пластах ліцьвінскага грамадства – шляхце і мяшчанстве, якія пацярпелі найбольш, так і не ўдалося аднавіць. Гаспадарчы заняпад і аслабленне міжнароднага становішча Вялікага Княства і Польшчы былі галоўнымі прычынамі таго, што Ян Казімір Ваза ў 1668 г. зрокся пасаду і назаўсёды пакінуў Рэч Паспалітую.

Вайна з Расеяй у сярэдзіне XVII ст. сталася сапраўднай нацыянальнай трагедыяй. Яе наступствы на некалькі стагоддзяў вызначылі дэмаграфічнае, эканамічнае і культурнае аблічча краіны. Да перажытай тады нашым народам катастрофы сыходзяць вытокі шмат якіх цяперашніх беларускіх праблемаў.

Вялікае Княства Літоўскае. Картограф Дж. Блаў. Галандскі марскі атлас. Амстэрдам. 1664 г.



# ВЯЛІКІ КНЯЗЬ І КАРОЛЬ ЯН САБЕСКІ



Наш дзяржаўны герб часоў Яна Сабескага. Малюнак 1677 г.

Пераемнікам вялікага князя і караля Яна Казіміра Вазы стаў Міхал Вішнявецкі. Пры ім узмацніліся ўсобіцы паміж магнацкімі групоўкамі. Чатыры Соймы з шасці былі сарваныя, і грамадзянскую вайну перадухіліла толькі тое, што ў 1672 г. на Рэч Паспалітую напала Асманская імперыя. Манарх падпісаў ганебны мір, паводле якога туркі атрымлівалі Падолле, але Сойм не зацвердзіў гэтае дамовы і пастанавіў працягваць вайну. У той нялёгкі для дзяржавы момант пасля смерці Вішнявецкага на пасад быў абраны вядомы сваім талентам палкаводца Ян Сабескі.



Бітва пад Венай. Фрагмент батальнай карціны невядомага мастака канца XVII ст.

Вялікую славу прынесла Яну Сабескаму бітва 1673 г. пад Хацінам, там, дзе на паўстагоддзя раней разбіў туркаў Ян Кароль Хадкевіч. Цяпер войскі Рэчы Паспалітай знішчылі турэцкую армію Гусейн-пашы, які меў пад сваёй камандай 35 тысяч вояроў. Гэтая перамога фактычна і зрабіла Сабескага гаспадаром дзяржавы.

Ён з маладых гадоў удзельнічаў у вайне з казакамі Хмяльніцкага, потым ваяваў супраць шведаў і расейцаў. У дваццаць тры гады Сабескі атрымаў чын палкоўніка, у трыццаць сем – пасаду палявога гетмана. У бітве каля Падгайцаў на Украіне (1667 г.) ён з 3 тысячамі жаўнераў разграміў 30-тысячнае казацка-татарскае войска і праз год быў прызначаны вялікім каронным гетманам. Новыя цяжкія паразы ён нанёс крымскім татарам у 1671 і 1672 гг.

Заняўшы трон, новы манарх засяродзіўся на барацьбе з Асманскай імперыяй, якая несла велізарную пагрозу ўсёй Еўропе.

У 1683 г. Рэч Паспалітая падпісала трактат аб дружбе з Аўстрыяй. Калі праз некалькі месяцаў туркі ўзялі ў аблогу Вену, Ян Сабескі з 27-тысячным войскам Рэчы Паспалітай рушыў на дапамогу хаўруснікам. Прызнаючы нашага вялікага князя і караля выдатным палкаводцам, германскі імператар і нямецкія князі дарučылі яму камандаваць агульнымі сіламі хрысціянскіх дзяржаваў.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1669–1673 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Міхала Вішнявецкага.
1672–1676 гг. – Вайна Рэчы Паспалітай з Турцыяй.
1673 г. – Разгром турэцкай арміі пад Хацінам.
1674–1696 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Яна Сабескага.
1683–1699 гг. – Новая вайна Рэчы Паспалітай з Асманскай імперыяй.
12 верасня 1683 г. – Бітва пад Венай.



12 верасня 1683 г. адбылася генеральная бітва, у якой узялі чынны ўдзел войскі Вялікага Княства Літоўскага. На чале нашай цяжкой кавалерыі стаяў трыццацігадовы надворны маршалак Язэп Багуслаў Слушка, які за праяўленае пад Венай ваеннае майстэрства быў прызначаны палявым гетманам. Віленскі кашталян Эрнэст Дэнгаф камандаваў брыгадай ліцьвінскай пяхоты, што мужна білася на правым фланзе злучаных войскаў хрысціян.

Турэцкая армія была разбітая. Неўзабаве гэты бліскучы поспех Ян Сабескі замацаваў новай перамогай пад Парканамі (цяперашняя Славаччына). Хоць вайна яшчэ працягвалася, пагроза для Рэчы Паспалітай прамінула.

Ваенным трыюмфам Яна Сабескага паспрыялі рэформы, праведзеныя ім у арміі Рэчы Паспалітай. У камплектаванні ўзброеных сілаў дзяржавы ён зрабіў стаўку не на паспалітае рушанне, а на прафесійнае войска. З улікам тагачасных еўрапейскіх дасягненняў былі мадэрнізаваныя пяхота, артылерыя і сапёрныя фармаванні.

Ян Сабескі, які атрымаў добрую адукацыю ў Кракаўскім універсітэце і шмат падарожнічаў па Еўропе, застаўся ў нашай гісторыі таксама як шчодры мецэнат, апякун навукі і мастацтва.

Шляхоцкія гербы



«Пагоня»



«Корсак»



«Прозараў»



Гравюра з кнігі Лаўрэна Вілаца «Залаты век», прысвечанай гістарычнай перамозе над туркамі. Вільня. 1686 г.



Мірза Алі Гірэй камандаваў татарскім войскам, якое ў хаўрусе з турэцкай арміяй узяло ў аблогу Вену. Гравюра Я. Сандрарта. 1684 г.



Вялікі князь і кароль Ян Сабескі. Мастак М. Бачарэлі. 1780-я гады

Разгром туркаў пад Венай, якую разам з таварышамі па зброі ратавалі тысячы нашых продкаў-ліцьвіноў, меў велізарнае значэнне для ўсёй Еўропы. Хрысціянскі свет атрымаў вельмі патрэбны перадых для кансалідацыі сілаў у далейшым змаганні з асманскай агрэсіяй.

На адгорце: Другую бітву з туркамі пад Хацінам нашыя войскі таксама выйгралі. Гравюра Ё. Бэнсгаймэра. 1674 г.


DELINEATIO INSIGNIS VICTORIÆ, AB EXERCITU POLONICO LITHVANICOQ,
PROPE CHOCIMUM Â TURCIS REPORTATÆ. D. XI NOVEMB. AO. M DC LXXIII.
Abbildung der berühmten VICTORI, welche die Königl: Polnischen u: Grossfürstl
Littauische Armeen, den Türkken bey Chocim aberhalten. Ao. 1673. d. 11 9ber.
Ioh: Benssheimer faeieb. & excudeb.

# КУЛЬТУРНЫ ЎПЛЫЎ НА РАСЕЮ



Анёл. Фрагмент аздобы Уваскрасенскага сабора Новаерусалімскага манастыра. Беларускія майстры Сцяпан Палубес і Ігнат Максімаў. Сярэдзіна XVII ст.

Дачыненні Вялікага Княства Літоўскага з Расейскай дзяржавай не абмяжоўваліся выключна войнамі. Знаходзячыся побач, дзве краіны не маглі не ўзаемадзейнічаць у сферы культуры. У XVI–XVIII стст. вызначальным быў уплыў Вялікага Княства. Менавіта дзякуючы нашым суайчыннікам у адсталую Масковію траплялі перадавыя еўрапейскія ідэі, новыя віды мастацтва, прагрэсіўныя тэхналогіі. На жаль, вельмі часта гэта адбывалася не натуральным шляхам, а ў выніку гвалтоўных перасяленняў беларусаў-ліцьвіноў на ўсход. Яны пачаліся з першых збройных канфліктаў, але асабліва масавымі зрабіліся пад час вайны 1654–1667 гг.

Маскоўскі ўрад планаваў вывесці ў сваю дзяржаву з акупаванай тэрыторыі 300 тысяч беларусаў, але ў сапраўднасці колькасць выгнаннікаў перасягнула гэты лік. Найперш захопнікі адпраўлялі ў Маскоўшчыну нашых гараджанаў-рамеснікаў.




Масковія. Картографы Дж. Блаў і В. Блаў. Сярэдзіна XVII ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

1629–1680 гг. – Жыццё і дзейнасць Сімяона Полацкага.
1654 г. – У Расею вывезеная разам з майстрамі Куцеінская друкарня.
1667–1668 гг. – Будаўніцтва беларусамі царскага палаца ў Каломенскім.
1672 г. – С. Полацкі стварыў першы ў Расеі тэатр.
1677 г. – Адкрыццё С. Полацкім другой у Расеі друкарні.
1683–1686 гг. – Стварэнне беларусамі іканастаса Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве.
1691 г. – Сцяпан Палубес стварыў паліхромныя маёлікавыя рэльефы апосталаў для маскоўскай Успенскай царквы.



Беларускія майстры збудавалі і аздобілі ў падмаскоўным Каломенскім царскі палац, які складаўся з сямі двух- і трохпавярховых харамаў, злучаных паміж сабою і расфарбаваных у розныя колеры. Гэты палац называлі восьмым цудам свету. Ілюмінаваная гравюра 1780 г.





Сцяпан Палубес. Узор «павінае вока», выкарыстаны ў аздабленні храма Пакрова Багародзіцы ў Ізмайлаве. 1679 г.



Беларуская кахля на сценах царквы Успення Маці Божай у Ганчарах

Такой адмысловай каляровою кахляй нашыя майстры ўпрыгожылі царкву святога Сергія Раданежскага ў вёсцы Камягіна пад Масквой



Фрагменты ўнікальнага дэкору фасада рэзідэнцыі круціцкіх мітрапалітаў у Маскве. Беларускія кахляры-цаніннікі Сцяпан Палубес, Ігнат Максімаў ды іншыя. Сярэдзіна XVII ст.

## Беларускія майстры

Першую партыю рамеснікаў-ліцьвіноў маскоўскі патрыярх Нікан загадаў пасяліць пры знакамітым Іверскім манастыры на возеры Валдаі. Затым туды прывезлі вялікую групу майстроў з Воршы, Копыся, Шклова і Дуброўны – друкароў, кніжных шытароў, разьбяроў, кахляроў. Разгарнуўшы пад кіраўніцтвам копыскага мешчаніна Ігната Максімава вытворчасць невядомай раней у Маскоўі шматкаляровай рэльефнай кахлі (расейскія рамеснікі ўмелі рабіць толькі аднакаляровую – зялёную або брунатную), нашыя майстры аздобілі ёю ўвесь манастырскі комплекс.



Апрача Іверскага манастыра беларускія кахляры ўпрыгожылі Уваскрасенскі сабор Нова-Ерусалімскага манастыра на Істры (узведзены беларускім дойлідам Якавам Бухвостывым), церамны палац Крамля, царкву Рыгора Неакесарыйскага ў Маскве і Пакроўскі сабор у Ізмайлаве. Майстар-беларус Сцяпан Іванаў (па мянушцы Палубес) стварыў унікальныя маёлікавыя рэльефы апосталаў для маскоўскай царквы Успення ў Ганчарах. Супольна з Ігнатам Максімавым ён вырабіў 1170 вялікіх пяцікаляровых кахляў з раслінным арнаментам для галоўнага фасада рэзідэнцыі круціцкіх мітрапалітаў у Маскве.

Некаторыя творы Сцяпана Палубеса цяпер можна пабачыць у музеі народнага мастацтва ў Каломенскім. Там беларусы збудавалі архітэктурны шэдэўр XVII ст. – Каломенскі палац, які наш суайчыннік Сімяон Полацкі называў восьмым цудам свету. Найбольш уражвала сучаснікаў аздабленне інтэр'еру: мастацкая размалёўка сценаў і столі, узорыстыя вокны, аб'ёмная разьба па дрэве. Цікавасць, змяшаную з жахам, выклікалі зробленыя майстрамі-ліцьвінамі драўляныя фігуры звяроў, якія дзякуючы асаблівым механізмам маглі рухацца і падаваць галасы.



План Масквы з вышыні птушынага палёту, створаны Д. Вітам. Амстэрдам. 1697 г.




У другой палове XVII ст. выведзеныя на чужыну беларускія майстры складалі пятую частку маскоўскага жыхарства. Палонных і вымушаных перасяленцаў звычайна сялілі ў адмысловай Мяшчанскай слабадзе. Перапісная кніга рэгіструе сярод яе насельніцтва рамеснікаў 52 спецыяльнасцяў. Многія з іх, напрыклад звязаныя з збройнай справаю або ювелірным мастацтвам, раней у Расеі былі невядомыя.



Маскоўскі Новадзявочы манастыр. Мастак І. Вейс. XIX ст.

Менавіта нашыя продкі прынеслі ўсходнім суседзям аб'ёмную разьбу, запачаткаваўшы ў Расеі развіццё скульптуры.

І сёння вернікаў і турыстаў уражвае веліччу і хараством пяціярусны пазалочаны іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве. Гэты геніяльны мастацкі помнік – плён працы арцелі беларускіх майстроў пад кіраўніцтвам шклоўскага разьбяра Кліма Міхайлава, які ўзначаліў крамлёўскую Палату разьбярскіх і сталярскіх справаў.

Найлепшых майстроў збіралі пры царскім двары. У 1660-х гадах у Срэбнай палацы Крамля працавала блізу пяцідзесяці «літоўскіх людзей», або беларусаў-ліцьвіноў. Мноства беларусаў служылі ў Залатой і Майстроўнай палатах. 68 ліцьвіноў пераважна з Полацка і Віцебска пералічаныя ў спісах Збраёвай палаты. Нашыя зброевікі здаўна высока цаніліся ў Маскве. Яшчэ ў 1586 г. беларус з паходжання Андрэй Чохаў (Чэхаў) адліў там славутую «Цар-гармату».



Славутую «Цар-гармату» з Маскоўскага крамля ў 1586 г. зрабіў беларускі майстар Андрэй Чохаў (Чэхаў)



У 1674 г. у Мяшчанскай слабадзе жыло 612 беларускіх сем'яў. Іх дзеці вучыліся ў школе, якую трымаў ліцьвін Якуб Якаўлеў. Манах з Полацка Варлам выкладаў там «лацінскую і польскую грамату». Сучасныя расейскія гісторыкі здзіўлены адзначаюць, што ў той, амаль цалкам непісьменнай, Маскве пад пастановамі сходаў жыхароў Мяшчанскай слабады стаяла 36% уласнаручных подпісаў, а агульны працэнт пісьменных набліжаўся да 50.





Непаўторны ў сваёй дасканаласці і прыгажосці іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра стварылі беларускія майстры на чале з разьбяром Клімам Міхайлавым і пазалотнікам Дарафеем Залатаровым

## Уклад у духоўнае жыццё

Нашы суайчыннікі ў Масковіі працавалі не толькі ў сферы матэрыяльнай культуры, але і плённа ўплывалі на духоўнае жыццё суседняй краіны.

Беларусы з Мяшчанскай слабады сталі акторамі першага ў Расеі прыдворнага тэатра, адчыненага ў 1672 г. У трупу набралі 26 юнакоў і дзяўчат, некаторыя з якіх раней удзельнічалі ў тэатральных паказах у Полацку, Віцебску, Воршы ды іншых беларускіх гарадах. Праз некалькі гадоў актораў было ўжо 60. Нават за тэатральную залу, дэкарацыі і касцюмы адказвалі беларусы – Хведар Юр'еў з-пад Вільні з сваімі падначаленымі «делал к комедийному строению всякое плотницкое дело». 25 краўцоў і шаўцоў пад кіраўніцтвам былых шклоўцаў Трафіма Данілава і Сцяпана Фёдарава шылі тэатральныя ўборы.



Сцэна з спектакля «Блудны сын» у пастаноўцы беларускіх актораў у Маскве. Гравюра другой паловы XVII ст.

«Друкарскі двор» у Маскве XVII ст. Кнігавыдавецкая справа ў расейскай дзяржаве была запачаткаваная беларусамі Іванам Федаровічам (Фёдаравым) ды Пётрам Мсціслаўцам і працягвалася дзякуючы пераселеным з Літвы-Беларусі друкарам. Гравюра XIX ст.

Шмат ліцьвіноў служылі, найчасцей пад прымусам, у крамлёўскіх палацах спевакамі ды музыкамі, моцна ўплываючы на расейскае музычнае мастацтва. Вядомы, напрыклад, загад цара Аляксея Міхайлавіча прыслаць з Полацкага Багаяўленскага манастыра знакамітага «воспевака» Івана Коклю.



У Іверскім манастыры на Валдаі дзейнічаў «друкарскі завод», вывезены разам з майстрамі з Куцеінскага Багаяўленскага манастыра пад Воршай. Яны выдалі «Часаслоў», «Святцы», «Акафісты» і шэраг іншых кніг, ілюстрацыі да якіх рабіў аршанскі гравёр Паісій. Пазней куцеінскіх друкароў перавялі ў падмаскоўны Уваскрасенскі манастыр, а затым на сталічны «Друкарскі двор». У той час у Маскоўшчыну з захопленых беларускіх земляў адправілі ўсе нарабаваныя друкарні з кірылічным шрыфтам, аднак маскоўскія праваслаўныя герархі перашкаджалі наладжванню шырокай кнігавыдавецкай справы.

Дзякуючы беларусу з паходжання Епіфану Славінецкаму расейцы атрымалі пераклады шматлікіх твораў айцоў царквы, грэцка-славянска-расейскі лексікон. Праз перакладзены гэтым асветнікам трактат заснавальніка навуковай анатоміі А. Вэзалія «Пра будову чалавечага цела» маскоўскія лекары змаглі далучыцца да дасягненняў еўрапейскай медычнай навукі. Славінецкі ўпершыню пазнаёміў усходніх суседзяў з геліяцэнтрычнай тэорыяй М. Каперніка.



Ілюстрацыя з кнігі заснавальніка навуковай анатоміі Вэзалія «Пра будову чалавечага цела» (1543 г.), пераклад якой зрабіў беларус Епіфан Славінецкі

Узоры паэтычных эксперыментаў Сімяона Полацкага







Сімяон заснаваў сваю, незалежную ад патрыярхавай цэнзуры друкарню. Пра значнасць гэтай падзеі кажа той факт, што колькасць друкарняў у Расеі адразу падвоілася (замест адной стала дзве). Тым часам у Рэчы Паспалітай дзейнічалі 134 друкарні.



Дзякуючы беларусу Сімяону Полацкаму ў Расеі адбылася сапраўдная рэвалюцыя ў культуры. Гравюра XIX ст.

## Сімяон Полацкі

Выдатнае месца ў культуры Расеі заняў найзнакамiцейшы з беларускіх перасяленцаў, асветнік, пісьменнік, педагог і грамадскі дзяяч Сімяон Полацкі (сапраўднае імя славутага палачаніна – Самойла Пятроўскі-Сітняновіч).

Пасля заканчэння Кіева-Магілянскай калегіі (з 1701 г. акадэмія), якую праваслаўныя лічылі найлепшай навучальнай установай Рэчы Паспалітай, ён вучыўся ў Віленскай акадэміі. Там Самойла стаў прыхільнікам паяднання хрысціянскіх цэркваў і ўступіў у грэцка-каталіцкі Ордэн базыльянаў.

«Крывавы патоп» сярэдзіны XVII ст. змусіў Полацк вярнуцца ў родны горад, дзе ён прыняў пострыг пад імем Сімяон. Пазней у пошуках магутнага мецэната ўжо вядомы за межамі Вялікага Княства паэт, які пісаў па-беларуску, па-лацінску, па-польску і па-царкоўнаславянску, выехаў у Расею. Там Полацкага прызначылі выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей, у тым ліку будучага цара-рэфарматара Пятра І. Але абсягі дзейнасці нашага суайчынніка былі нашмат шырэйшымі. Як прадстаўнік барокавай культуры ён выступаў за асвечаны абсалютызм і лічыў абавязкам уздымаць культуру суседняй краіны.



Велізарную папулярнасць меў зроблены С. Полацкім вершаваны пераклад Псалтыра з ілюстрацыямі С. Ушакова. 1680 г.



Кіева-Магілянская акадэмія. Гравюра 1740 г.

Сімяон стаў першым у Расеі прафесійным пісьменнікам і пакінуў пасля сябе цэлую школу паэтаў. Балышыню сваіх вершаў ён сабраў у кнігі «Рифмологион, или Стихослов» і «Вертоград многоцветный». «Вертоград» уяўляў сабой своеасаблівую энцыклапедыю, адкуль чытач мог атрымаць звесткі з розных галін ведаў. Вялікую славу прынёс Полацкаму ягоны вершаваны пераклад Псалтыра, які стаў літаратурнай асновай сотняў музычных твораў.





У часы «крывавага патопу» Самойла Пятроўскі-Сітняновіч пад імем Сімяон стаў манахам Полацкага Багаяўленскага манастыра

Пасля смерці Сімяона застаўся найбагацейшы ў Масковіі кнігазбор: трактаты Цыцэрона, Тамаша Аквінскага, Эразма Ратэрдамскага, граматыкі, слоўнікі, зельнікі...

Маскоўская праваслаўная царква абвясціла Сімяонавым творам анафему і забараніла згадваць іх як ерэтычныя. Велізарныя заслугі С. Полацкага перад расейскай культурай былі ацэненыя толькі праз некалькі стагоддзяў.



Кніга Сімяона Полацкага «Вертоград многоцветный» была своеасаблівай энцыклапедыяй

Полацкі склаў праект першай у Расеі вышэйшай навучальнай установы, паводле якога стваралася маскоўская Славяна-грэцка-лацінская акадэмія.
Ён адчыніў першы ў Расейскай дзяржаве тэатр і напісаў для яго некалькі п'есаў.

Беларусы спрыялі развіццю ў суседняй краіне рамёстваў, пісьменства, мастацтва, прыродазнаўства, медыцыны, філасофскай і грамадскай думкі. Разам з тым наша талерантная краіна давала прытулак уцекачам і вымушаным перасяленцам з Расеі, дзе ўсякае вальнадумства або адступленне ад «истинно православной» веры бязлітасна каралася. У другой палове XVI ст. у Вялікім Княстве Літоўскім жылі і прапаведвалі вядомы расейскі рэлігійны мысляр Феадосій Касой і ягоны вучань Фама. Ратуючыся ад жорсткага пераследу, дзясяткамі тысяч сяліліся на нашых землях расейскія старавеpы.



Маскоўская Тэатральная плошча. У цэнтры – Заіконаспасаўскі манастыр, дзе быў пахаваны С. Полацкі. Фота XIX ст.

Маскоўшчына засталася далёка ўбаку ад Рэнесансу і Рэфармацыі, якія вызначалі далейшы рух агульнаеўрапейскай цывілізацыі. Канчаткова не страціць з ёю лучнасці Расейскай дзяржаве дапамаглі нашы суайчыннікі – перасяленцы з Вялікага Княства Літоўскага, што было ўсходнім рубяжом Еўропы.



Помнік асветніку, пісьменніку і педагогу Сімяону Полацкаму ў яго родным горадзе. Скульптар Аляксандр Фінскі. 2002 г.

Аўтограф С. Полацкага

# ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА. ХАЎРУСНІКІ ЦІ ЗАХОПНІКІ?


Цар Пётр І. Мастак Ян Купецкі. 1711 г.

Пасля скону Яна Сабескага вялікім князем і каралём быў абраны саксонскі курфюрст Аўгуст. Ён стаў хаўруснікам Пятра І у Паўночнай вайне з Швецыяй, куды ўцягнуў і Рэч Паспалітую. Вялікае Княства зноў зрабілася тэатрам баявых дзеянняў. Частка магнатаў на чале з Сапегамі і Пацамі падтрымала шведаў. Іх прыхільнікі ўзвялі на трон Станіслава Ляшчынскага, пасля чаго ў дзяржаве распачалася грамадзянская вайна.

На нашых землях дзейнічала 70-тысячная расейская армія. Каб пазбавіць непрыяцеля правіянту, фуражу і прытулку, Пётр І у ваеннай кампаніі супраць Карла XII выкарыстоўваў тактыку выпаленай зямлі. У сваіх паводзінах хаўруснікі больш нагадвалі захопнікаў. Прыклады нялюдскай жорсткасці ў абыходжанні з беларускім насельніцтвам даваў сам цар.

Улетку 1705 г. разам з князем А. Меншыкавым і некалькімі афіцэрамі Пётр І асабіста ўдзельнічаў у забойстве пяці вуніяцкіх святароў у Полацкім Сафійскім саборы. Пасля гэтага наш найстаражытнейшы храм быў абрабаваны і ў ім зрабілі вайсковы склад з парахавым сховішчам у сутарэннях. Напярэдадні адыходу з горада расейцы ўзарвалі парахавыя запасы і ператварылі сабор у руіны.

Здзекі і рабункі зазналі ад «саюзнікаў» шмат якія гарады і мястэчкі Вялікага Княства. У Менску царская кавалерыя з казакамі і калмыкамі абчысціла грэцка-каталіцкі кляштар Святой Тройцы, Святадухаўскую царкву на Высокім рынку ды яшчэ некалькі вуніяцкіх і праваслаўных манастыроў і храмаў. Менскае праваслаўнае брацтва заклікала месцічаў да зброі, і на Нямізе марадзёры атрымалі адпор.


Генералісімус Аляксандр Меншыкаў. Гэты найбліжэйшы паплечнік расейскага цара быў беларусам з паходжання. Невядомы мастак XVIII ст.


Ліст Меншыкава Пятру І пра месцазнаходжанне войск непрыяцеля. Горадня. 21 верасня 1707 г.


Ратыфікацыйны акт дамовы Пятра І з вялікім князем і каралём Аўгустам ІІ аб хаўрусе супраць Швецыі. 1699 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

1697–1706, 1709–1733 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Аўгуста Моцнага.
1700–1721 гг. – Паўночная вайна.
1704–1709, 1733 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Станіслава Ляшчынскага.
1706 г. – Шведы занялі Нясвіж, Клецак, Наваградак.
Верасень 1708 г. – Расейскія войскі зруйнавалі і спалілі Магілеў, Віцебск, Воршу, Дуброўну, Амсціслаў, Быхаў.
9 кастрычніка 1708 г. – Бітва каля вёскі Лясной.
1 траўня 1710 г. – Салдаты Пятра І узарвалі Полацкі Сафійскі сабор.
1716 г. – Віленская шляхоцкая канфедэрацыя.
1717 г. – «Нямы сойм» зацвердзіў пратэкцыю расейскага цара над Рэччу Паспалітай.





Горадня. Гравюра Г. Бадэнэра. Пачатак XVIII ст.


Вялікі гетман Казімір Ян Павел Сапега ў Паўночнай вайне стаў на бок шведаў. Невядомы мастак пачатку XVII ст.

Адступаючы ў верасні 1708 г. на Украіну, расейскія войскі спалілі Воршу, Амсціслаў, Дуброўну... Зрабаваны дашчэнту і выпалены быў Магілеў, які датуль лічыўся адным з найпрыгажэйшых гарадоў Еўропы. Царскія казакі аддалі агню Віцебск, дзе згарэлі замкі, ратуша, чатыры касцёлы і 12 цэркваў. Менавіта Пётр І аддаў загад знішчыць замак у Смалянах пад Воршай.

Партрэт расейскай імператрыцы Кацярыны І, якая была дачкою ліцьвіна Сымона Скаўрона. Мастак Ж.-М. Нацье. 1717 г.


Дамова пра «вечны мір» Рэчы Паспалітай з Расеяй, падпісаная ў 1686 г.

Беларускія землі шмат пацярпелі і ад шведаў, якія займалі Вільню, Горадню, Наваградак, Нясвіж, Клецак, Докшыцы, Карэлічы, Пінск, Магілеў... Жаўнеры Карла XII таксама руйнавалі нашыя замкі, да прыкладу Гальшанскі і Ляхавіцкі, вывозілі бібліятэкі, архівы ды іншыя культурныя скарбы.


Бацька Карла XII шведскі кароль Карл XI правёў паспяховую рэформу ўзброеных сілаў сваёй дзяржавы. Невядомы мастак XVII ст.

Карта Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага напярэдадні Паўночнай вайны, выдадзеная К. Алярдам. Амстэрдам. 1696 г.

«Скокі смерці».
Карціна невядомага мастака XVIII ст.
Захоўваецца ў Гарадзенскім кляштары брыгітак



Узарваны расейскімі «хаўруснікамі» ў 1710 г. Полацкі Сафійскі сабор быў адбудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі віленскага барока.
Фота Сяргея Плыткевіча. 2007 г.





Удзельнік Паўночнай вайны палявы гетман Вялікага Княства Літоўскага Станіслаў Эрнэст Дэнгаф. Невядомы мастак першай паловы XVIII ст.



Беларус з паходжання ўкраінскі гетман Піліп Орлік шляхоцкага герба «Корчак» ваяваў супроць Расеі на баку Карла XII. Ва Украіне шануецца як аўтар першай нацыянальнай канстытуцыі. З карціны сучаснага ўкраінскага мастака В. Зубкова

Увосень 1708 г. пад вёскай Лясной каля Прапойска расейскае войска разбіла корпус А. Левенгаўпта, які рухаўся на злучэнне з галоўнымі сіламі шведаў. На Украіну, да Карла XII, як сцвярджалі царскія генералы, прыйшло толькі 5 тысяч жаўнераў, а 9 тысяч назаўсёды засталіся ў беларускай зямлі. Пётр I называў бітву пад Лясной «маці Палтаўскай баталіі».

Перамога пад Палтавай аддала поўную перавагу Расеі. Шведы ды аддзелы іх хаўруснікаў Сапегаў былі выгнаныя з усёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Аўгуст пры падтрымцы Пятра I вярнуў сабе трон. Аднак, хоць на гэта не было ніякай ваеннай патрэбы, расейская армія працягвала заставацца на тэрыторыі Вялікага Княства.

Спроба Аўгуста ўмацаваць сваю ўладу ў дзяржаве, абапіраючыся на саксонскае войска, выклікала супраціў у Польшчы і Княстве. У сакавіку 1716 г. на з'ездзе ў Вільні ўтварылася канфедэрацыя (збройнае аб'яднанне) ліцьвінскай шляхты. Яна падтрымала абвешчаную ў Польшчы Тарнагродскую канфедэрацыю. Працівнікі Аўгуста запатрабавалі захавання шляхоцкіх вольнасцяў і вываду з Рэчы Паспалітай саксонскай арміі, супраць якой былі распачатыя ваенныя дзеянні. Выкарыстаўшы сітуацыю, «міратворац» Пётр I яшчэ больш павялічыў у Княстве расейскую вайсковую прысутнасць. За «саюзніцкую дапамогу» давялося заплаціць дарагую цану.



Харугва ліцьвінскага грэнадзёрскага батальёна часоў Аўгуста Моцнага. Малюнак-рэканструкцыя



Тагачасны расейскі медаль у гонар перамогі пры Лясной. Медзь. Аверс і рэверс



Бітва каля вёскі Лясной. Мастак Ж.-М. Наццье. 1717 г.



Жалезны нагруднік канца XVII ст. Такія нестандартныя элементы баявога рыштунку, аздобленыя выявамі батальных сюжэтаў, былі на ўзбраенні старшых афіцэраў і генералаў шведскай арміі





Шышак часоў Паўночнай вайны.



«Камандэрвэр'я» 1710 г. з вензелем Карла XII

Шпага тыпу «камандэрвэр'я». 1715 г.



Кіраса вазра цяжкой шведскай кавалерыі. Канец XVII ст.



Меч ката. Пачатак XVIII ст.

Тагачасная парадная колкая зброя – канчар



Карл XII застаўся ў гісторыі як апошні кароль вялікадзяржаўнай Швецыі. Партрэт невядомага мастака пачатку XVIII ст.



Ладуннік (патранташ) на дзесяць набояў. Першая палова XVIII ст.

За гады вайны Беларусь страціла ад баявых дзеянняў, голаду і эпідэміяў 700 тысяч жыхароў – кожнага трэцяга. Усяго 10% насельніцтва захавалася ў Шклоўскім графстве. Зноў апынулiся ў глыбокім занядпадзе сельская гаспадарка, рамёствы, гандаль.

У 1717 г. Варшаўскі сойм моўчкі (за што быў названы «нямым») прыняў навязаныя Расеяй умовы пагаднення паміж канфедэратамі і Аўгустам, паводле якіх цар рабіўся пратэктарам Рэчы Паспалітай. Яе войскі скарачаліся да 24 тысяч (18 тысяч у Польшчы і 6 тысяч у Вялікім Княстве Літоўскім). Тым часам арміі бліжэйшых суседзяў былі шматкроць большымі: у Расеі – 350 тысяч, Аўстрыі – 280 тысяч, Прусіі – 200 тысяч. Царскае войска пакінула беларускія землі толькі ў 1719 г.

Выйграўшы Паўночную вайну, Расея замацавала сваю гегемонію ва Усходняй Еўропе, а Рэч Паспалітая ўсё больш нагадвала не хаўрусніка, а прыдатак царскай імперыі.



Нагрудны панцыр часоў Паўночнай вайны



Нагруднік лёгкаўзброенага афіцэра



Гэтак званы «карацэнавы» панцыр ваяроў Рэчы Паспалітай. XVII–XVIII стст.





Баявы палаш з «Пагоняй»

Рынграф (афіцэрскі нагрудны знак) гвардыі Вялікага Княства Літоўскага. Першая палова XVIII ст.





Аддзел кавалерыі прыватнага войска князёў Радзівілаў. Фрагмент гравюры А. Басана. 1770-я гады



Вялікі князь і кароль Станіслаў Ляшчынскі. Законна абраны Соймам, ён не задавальняў Расею і мусіў саступіць уладу Аўгусту III, які заняў трон дзякуючы расейскім і аўстрыйскім штыхам. Мастак Д. Крафт. 1706 г.

Вялікі князь і кароль Аўгуст найперш клапаціўся пра гаспадарчыя і культурныя інтарэсы роднай Саксоніі. Сваю мянушку Моцны ён атрымаў не за ўзмацненне незалежнасці дзяржавы, а за фізічную дужасць і шматлікія любоўныя прыгоды.

Калі ў 1733 г. манарх памёр, абсалютнай большынёю галасоў Сойм зноў абраў вялікім князем і каралём Станіслава Ляшчынскага. Аднак у Пецярбурзе заявілі, што не дапусцяць яго да ўлады. Штыхі расейскіх і аўстрыйскіх жаўнераў узвялі на трон сына Аўгуста Моцнага – Аўгуста III. Як пісаў у сваіх дэпешах адзін тагачасны царскі генерал, «присутствие наших солдат придает соответствующее направление мыслям здешних жителей».

Межы Рэчы Паспалітай у першай палове XVIII ст. засталіся без зменаў, але яе рэальны суверэнітэт быў амаль страчаны.

Карта Рэчы Паспалітай, створаная Г. Молам. 1736 г.



# ЗАНЯПАД ВЯЛІКАГА КНЯСТВА



Вялікі князь і кароль Аўгуст III больш займаўся справамі роднай Саксоніі, а ў Рэчы Паспалітай бываў наездамі. Мастак П. Ратары. 1755 г.

Войны сярэдзіны XVII і пачатку XVIII ст. давялі нашую дзяржаву да глыбокага заняпаду ва ўсіх сферах жыцця.

У жудасным стане знаходзілася гаспадарка. Палова ранейшага ворыва ляжала пусткаю. Тыповай карцінай былі зарослыя пустазеллем і лесам палі, пакінутыя вёскі і маёнткі. Гарады Вялікага Княства, якія некалі сваім выглядам і роўнем матэрыяльнай культуры не адрозніваліся ад заходнееўрапейскіх, цяпер палохалі падарожнікаў руінамі і папялішчамі. Дзясяткі гарадоў і мястэчкаў Сойм мусіў вызваліць ад падаткаў у дзяржаўны скарб.

Агульныя чалавечыя страты Беларусі ў вайне 1654–1667 гг. і Паўночнай вайне склалі блізу 2,5 мільёна чалавек. Гэта была дэмаграфічная катастрофа, якой не перажываў, бадай, ніводны еўрапейскі народ.





Срэбны талер часоў Аўгуста III. 1737 г. Аверс і рэверс



Чума 1710 г. у Вільні. Алегарычная гравюра Ігната Ксавера Карэнды паводле малюнка Францішка Пелікана. 1799 г.



Карона Аўгуста II Моцнага. Горны крышталь, залочанае срэбра

Адыходзілі ў мінулае часы рэлігійнай таleranцыі. Праўнае становішча праваслаўных і пратэстантаў хутка пагаршалася. Да абвастрэння міжканфесійнай напружанасці прычынілася і супрацоўніцтва часткі праваслаўнага духавенства з расейскімі захопнікамі.

## ХРАНАЛОГІЯ

1696 г. – Пастанова Сойму Рэчы Паспалітай пра замену ў Вялікім Княстве Літоўскім дзяржаўнай мовы (беларускай на польскую).

1733–1763 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Аўгуста III.

1764 г. – Дамова паміж Расеяй і Прусіяй пра захаванне ў Рэчы Паспалітай шляхоцкіх вольнасцяў і права «лібэрум вэта».





Паляванне на мядзведзя ў Белавежскай пушчы. Акварэль Я.-Г. Мюнца. Другая палова XVIII ст.

Рэшта ліцьвінскай шляхты пераходзіла ў каталіцтва. Пасля смерці ў 1667 г. праваслаўнага троцкага кашталяна Аляксандра Агінскага ў складзе Сената засталіся толькі каталікі. Калі ў першай палове XVII ст. Соймы нярэдка бралі некаталікоў пад абарону, дык цяпер, наадварот, яны пачалі прымаць дыскрымінацыйныя пастановы. У 1673 г. праваслаўных пазбавілі права атрымліваць шляхоцтва. Праз тры гады былі скасаваныя ранейшыя прывілеі праваслаўных брацтваў. Іншаверцы страчвалі магчымасць удзельнічаць у соймавых паседжаннях. На талеранцыю некаталікі маглі разлічваць толькі ў межах цывільнага жыцця.

Праўда, трэба заўважыць, што на той час бальшыня насельніцтва Княства ўжо вызнавала грэцка-каталіцкую веру. На пачатку XVIII ст. у дзяржаве засталася ўсяго адна праваслаўная епархія – Амсціслаўска-Магілеўская, але і на Магілеўшчыне вуніяты мелі колькасную перавагу. Расейскія гісторыкі сцвярджаюць, нібыта вунія служыла мостам для пераводу беларусаў «у лацінскі касцёл», але гэта не адпавядае фактам. Насамрэч грэцка-каталіцкая царква з яе народнымі традыцыямі і беларускай мовай у казаннях, навучанні і кнігадрукаванні сталася своеасаблівым бар'ерам для пераходу ў рыма-каталіцтва. Аднак вуніяцтва было вераю сялянаў і мяшчанаў, а вярхі грамадства, якія вызначалі дзяржаўную палітыку, ужо цалкам належалі да рыма-каталікоў.

Узмацненне пазіцыяў каталіцтва вяло за сабой паланізацыю, бо касцёл у Вялікім Княстве падпаў пад моцныя польскія ўплывы. У 1696 г. канфедэрацыйны Сойм замяніў дзяржаўную беларускую мову Княства на польскую. Пасля гэтага ўсе дакументы дзяржаўнага справаводства павінны былі выдавацца па-польску. Тым не менш гэта не касавала магчымасці выкарыстання ўраداўцамі дзяржаўных актаў, выдадзеных дагэтуль па-беларуску. Соймавая пастанова адлюстроўвала рэальныя поспехі паланізацыі. У тым часе польскую мову часта ўжывалі нават праваслаўныя святары і брацтвы. Яшчэ ў 1630 г. Віленскае праваслаўнае брацтва выдала па-польску школьны лемантар (азбуку).



Удзельнікі павятовых і ваяводскіх соймікаў пад час паседжанняў нярэдка хапаліся за шаблі. Фрагмент гравюры XVIII ст.

Каб захаваць жыццяздольнасць, дзяржава мела вострую патрэбу ў рэформах. Аднак для іх правядзення адсутнічала моцная цэнтральная ўлада. Шляхта не хацела адмаўляцца і ад малой часткі сваіх «залатых вольнасцяў», якія вялі да палітычнай анархіі. Дзейнасць Сойму была паралізаваная шляхоцкім правам «лібэрум вэта» (ад лацінскага liberum veto – «свабода забароны»). У адпаведнасці з ім соймавая пастанова не прымалася, калі супраць яе выступіў хоць адзін дэпутат.

Шляхоцкія гербы



«Гойсівус»

«Клот»

Тытульны аркуш кнігі пастановаў Сойму 1697 г.



PRZYWILEIE
CONSTITUCIE
SEYMOWE
Za Panowania Krolewskiego Mci
AUGUSTA II.

У 1652–1764 гг. чатыры з кожных пяці Соймаў былі сарваныя. Тое самае адбывалася на павятовых сойміках, дзе нярэдка ўспыхвалі збройныя сутычкі і палітычных апанентаў проста забівалі. Шляхта лічыла права «лібэрум вэта» сваёй вялікай заваёвай, але на справе яно выкарыстоўвалася магнатамі, каб заблакаваць непажаданыя пастановы.



Шляхоцкі герб «Мікуць»



Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька. Невядомы мастак. 1760-я гады

Баляванне шляхты ў палацы Радзівілаў. Мастак Аляксандр Арлоўскі. Першая палова XIX ст.



З канфедэрацыі дзвюх дзяржаваў Рэч Паспалітая ператварылася фактычна ў канфедэрацыю асобных паветаў, дзе ўладарылі свае «манархі» – магнаты. У сярэдзіне XVIII ст. у Вялікім Княстве дамінаваў род Радзівілаў. «Кароль у Варшаве, а Радзівіл у Нясвіжы», – казалі яны, падкрэсліваючы сваё поўнае самаўладдзе, забяспечанае не толькі велізарнымі багаццямі, але і вялікім прыватным войскам. Да прыкладу, Каралю Станіславу Радзівілу, вядомаму пад мянушкаю «Пане Каханку», належала 16 гарадоў і 683 вёскі. Як сведчаць сучаснікі, на сесію Галоўнага Літоўскага трыбунала ў Менск ён прыязджаў з вайсковым аддзелам на 300 шабляў (што складала толькі 1/30 частку прыватнага войска князя). Радзівілы, Сапегі, Агінскія ды іншыя арыстакратычныя роды, не лічачыся з дзяржаўнымі інтарэсамі, вялі паміж сабой сапраўдныя войны.

Рэч Паспалітая страціла міжнародны прэстыж і ператварылася ў «заезную карчму» для войскаў суседніх дзяржаваў.



Палітыка Рэчы Паспалітай усё больш залежала ад Пецярбурга. Партрэт цэсарэвіча Пятра Фёдаравіча і вялікай княгіні Кацярыны Аляксандраўны. Мастак Г. Грот. 1740-я гады



Срэбны коўш князя Караля Станіслава Радзівіла для віна, мёду, а таксама для асвячонай вады. Вільня. 1691 г.







Карта Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства, выдадзеная ў 1739 г. у Амстэрдаме

У захаванні такога становішча былі зацікаўленыя краіны-суседзі. Дамова 1764 г. паміж Расеяй і Прусіяй змяшчала сакрэтны артыкул, які абавязваў падтрымліваць у Рэчы Паспалітай шляхоцкія вольнасці і «лібэрум вэта». Гэта сталася адказам на першыя спробы рэформаў, скіраваных на абмежаванне феадальнай анархіі.

За вялікім князем Аўгустам III Княства трыццаць гадоў жыло без вайны. Але мірны перыяд не быў выкарыстаны на ўмацаванне дзяржавы. Манарх вёў супярэчлівую і недальнабачную палітыку, прычым большую частку свайго ўладарання прабавіў у роднай Саксоніі. За кошт падаткаў, сабраных з нашых продкаў, ён набываў творы мастацтва для славутай цяпер Дрэздэнскай галерэі.





Медаль у гонар завяршэння канфлікту магнацкіх родаў Сапегаў і Агінскіх. Медальер Х. Вэрмут. Срэбра. Рэверс. 1698 г.

Станіславу Аўгусту Панятоўскаму было наканавана стаць апошнім манархам Рэчы Паспалітай. Мастак Язэп Ксавер Гескі. 1783 г.



Вялікі князь і кароль Станіслаў Аўгуст разлічваў пад пратэкцыяй Пецярбурга правесці рэформы, каб утаймаваць магнатаў і выратаваць Рэч Паспалітую ад Прусіі, якую ён лічыў галоўным ворагам дзяржавы. Аднак насамрэч значна больш небяспечнай была ўсходняя суседка.

# ПЕРШЫ ПАДЗЕЛ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

На пачатку 1764 г. Сойм Рэчы Паспалітай разгледзеў праграму рэформаў, закліканых змяніць дзяржаўны лад і вывесці краіну з крызісу. Прадугледжвалася павелічэнне войска з 24 да 50 тысяч. Пры вырашэнні эканамічных пытанняў скасоўвалася права «лібэрум вэта». Дэпутаты вызваляліся ад абавязковых наказаў соймікаў.

Намаганні рэфарматараў выклікалі трывогу ў Расеі і Прусіі. Імператрыца Кацярына II і прускі кароль Фрыдрых II узаемна абавязаліся не дапускаць у Рэчы Паспалітай прагрэсіўных пераўтварэнняў, а ў выпадку неабходнасці выкарыстоўваць зброю.

У верасні 1764 г. пры падтрымцы Расеі вялікім князем і каралём быў абраны былы каханак і фаварыт Кацярыны II Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Папярэдне ён атрымаў ад паслоў з Пецярбурга таемную інструкцыю, паводле якой павінны быў «во все время своего государствования интересы нашей империи собственными почитать, их остерегать и им всеми силами по возможности поспешествовать». Пагадзіўшыся на такія ўмовы, Панятоўскі перадвызначыў лёс дзяржавы і сваю асабістую трагедыю як апошняга манарха.

У 1766 г. Расея запатрабавала ад Сойму і Станіслава Аўгуста ўраўнаваць у правах з каталікамі праваслаўных і пратэстантаў. Для Кацярыны II і яе ўрада гэта была толькі зачэпка для ўмяшання ў нутраныя справы нашай дзяржавы. Сам кіраўнік расейскай дыпламатыі граф М. Панін цынічна прызнаваўся, што сапраўднае паляпшэнне становішча праваслаўных у Рэчы Паспалітай прынесла б імперыі толькі шкоду, бо выклікала б масавыя ўцёкі сялянаў у Вялікае Княства Літоўскае. Рэч у тым, што прыгоннае права ў Расеі вызначалася значна больш жорсткай эксплуатацыяй і нагадвала рабства.

Апрача таго, пасол імператрыцы Кацярыны II пратэставаў на Сойме супроць абмежавання права «лібэрум вэта». Пад моцным ціскам дэпутаты пакінулі гэтую «шляхоцкую вольнасць» некранутай, але патрабаванне наконт «дысідэнтаў» (іншаверцаў) засталося нявыкананым, што Пецярбург таксама выкарыстаў у сваіх інтарэсах.

Пры падтрымцы Расеі ў Слуцку была створаная канфедэрацыя (збройнае аб'яднанне) праваслаўнай і пратэстанцкай шляхты. Яе ўзначалілі праваслаўны магілеўскі епіскап Георгі Каніскі і кальвініст граф Грабоўскі. Акт канфедэрацыі падпісалі ўсяго 270 шляхцічаў, але гэтага хапіла, каб Расея пад лозунгам дапамогі «адзінаверцам» увяла ў Вялікае Княства 40-тысячнае войска.



Епіскап магілеўскі Георгі Каніскі. Кацярына II выкарыстоўвала яго звароты ў абарону праваслаўных Рэчы Паспалітай у сваіх палітычных мэтах. Невядомы мастак канца XVIII ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

1764–1795 гг. – Уладаранне вялікага князя і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага.
1767 г. – Слуцкая шляхоцкая канфедэрацыя.
1768 г. – Утварэнне патрыятычнай Барскай канфедэрацыі.
1769 г. – Барскія канфедэраты разбілі расейцаў пад Берастравіцай, Слонімам і Баранавічамі.
1771 г. – Царскія войскі на чале з А. Суворавым перамаглі каля Сталовічаў гетмана М. К. Агінскага.
5 жніўня 1772 г. – Першы падзел Рэчы Паспалітай.





Тагачасная карыкатура невядомага мастака на першы падзел Рэчы Паспалітай. Расейская імператрыца Кацярына II адрывае сабе беларускія землі да Бярэзіны. Побач Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які схапіўся за галаву, а таксама аўстрыйскі імператар Ёзэф II і прускі кароль Фрыдрых II

Адначасова дзясяткі тысяч шляхцічаў-каталікоў з ліку праціўнікаў рэформаў аб'ядналіся ў сваю генеральную канфедэрацыю на чале з Каралём Станіславам Радзівілам (па мянушцы «Пане Каханку»). Яны звярнуліся да расейскай імператрыцы з просьбаю захаваць асновы даўнейшага дзяржаўнага парадку.



Парадны партрэт імператрыцы Кацярыны II. Мастак Ф. Рокатаў. 1770-я гады



Кацярынінскі міністр М. Панін кіраваў у расейскім урадзе Калегіяй замежных справаў і ўдзельнічаў у падрыхтоўцы першага падзелу Рэчы Паспалітай. За гэта вяльможа быў узнагароджаны землямі з прыгоннымі сялянамі ў захопленай Расеяй частцы Полацкага ваяводства. Мастак А. Рослен. 1777 г.




Пажар у Вільні. Фрагмент гравюры другой паловы XVIII ст.



Ордэн-медальён Белага Арла. XVIII ст.



Ордэн святога Станіслава – адна з самых высокіх узнагародаў Рэчы Паспалітай. Канец XVIII ст.



Землі Вялікага Княства Літоўскага, захопленыя Расеяй у выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай. Карта Т. Лотэра. 1778 г.

Барская канфедэраты разлічвалі на дапамогу Заходняй Еўропы, але падтрымка адтуль практычна абмежавалася накіраваннем вайсковых інструктараў. Тым не менш у няроўным змаганні з расейскімі рэгулярнымі войскамі аддзелы патрыётаў у 1769 г. выйгралі бітвы пад Бераставіцай, Слонімам і Мышшу (каля Баранавічаў). Паміж Менскам і Мядзелам паспяхова вялі баявыя дзеянні канфедэраты Сымона Касакоўскага, які нават здзяйсняў рэйды на тэрыторыю Расеі.

Сойм 1767 г., маршалкам якога стаў Кароль Радзівіл, задаволіў усе ўмовы Расеі. Асновы дзяржаўнага ладу (у тым ліку і права «лібэрум вэта»), якія ўсё больш падточвалі Рэч Паспалітую, былі названыя «вечнымі і нязменнымі». Гарантам іх захавання прызнавалася Кацярына II. Цяпер мяняць нутраны парадак дзяржавы можна было толькі тады, калі на тое згаджаліся Расея і Прусія. Каб захаваць карону, Станіслаў Аўгуст мусіў зацвердзіць соймавыя пастановы.

Праціўнікі расейскай гегемоніі ў 1768 г. стварылі сваю канфедэрацыю ў мястэчку Бар на Украіне. Да патрыётаў далучыліся значныя сілы ліцьвінскай шляхты, а таксама частка мяшчанаў і сялян Вялікага Княства. Змаганне супраць царскіх войскаў і прыхільнікаў Панятоўскага ахапіла Полацкае, Амсціслаўскае, Берасцейскае ваяводствы, Ваўкавыскі, Ашмянскі, Браслаўскі паветы, наваколле Гомеля... Расейскія ўлады афіцыйна прызнавалі, што «мятежников» падтрымлівае мясцовы люд.

Пасля доўгіх ваганняў на бок паўстанцаў стаў Радзівіл «Пане Каханку», прыватнае войска якога налічвала 10 тысяч пяхоты і кавалерыі. У вёсцы Лань ягоныя жаўнеры разбілі расейцаў пад камандаю князя Мяшчэрскага, але штурм царскімі войскамі Нясвіжа так напалохаў Радзівіла, што ён згадзіўся на капітуляцыю.





Рынграфы (нагрудныя афіцэрскія знакі) удзельнікаў Барскай канфедэрацыі



У 1771 г. на бок барскіх канфедэратаў перайшоў вялікі гетман Міхал Казімір Агінскі. Невядомы мастак. 1791 г.



Паходная куртка-вятроўка барскага канфедэрата

Увосень 1771 г. да барскіх канфедэратаў перайшоў вялікі гетман Міхал Казімір Агінскі з войскам. Ён разграміў расейцаў пад вёскай Бездзеж паблізу Дарагічына, але неўзабаве каля Сталовічаў, непадалёку Баранавічаў, пацярпеў цяжкую паразу ад выдатна ўзброеных і загартаваных у захопніцкіх паходах войскаў А. Суворава. Пасля гэтага барацьба канфедэратаў пачала згасаць. У сакавіку 1772 г. на ўсходнім Палессі склалі зброю іх апошнія аддзел.

Тысячы ўдзельнікаў Барскай канфедэрацыі, сярод якіх блізу 70% складалі сяляне, былі асуджаныя на сібірскую катаргу. Нашая дзяржава аказалася безабароннай перад магутнымі суседзямі.

5 жніўня 1772 г. Расея, Аўстрыя і Прусія падпісалі ў Санкт-Пецярбурзе канвенцыю пра першы падзел Рэчы Паспалітай. Царская імперыя «прырэзала» сабе ўсходнія землі Вялікага Княства Літоўскага: усё Амсціслаўскае ваяводства, амаль усё Віцебскае, Полацкае да правага берага Дзвіны, частку Менскага ваяводства і Інфлянты. На захопленых абшары плошчаю 92 тысячы квадратных кіламетраў жылі 1 мільён 300 тысяч чалавек.

У красавіку 1773 г. у Горадні для зацвярджання падзелу быў сабраны Сойм Рэчы Паспалітай. З рашучым пратэстам на ім выступіў удзельнік Барскай канфедэрацыі, пасол ад Навагрудскага павета Тадэвуш Рэйтан. Яго падтрымалі толькі двое: яшчэ адзін навагрудскі дэпутат Самуль Корсак і менскі пасол Станіслаў Багушэвіч. Згодніцкая большасць ратыфікавала акт першага падзелу.



Удзельнік патрыятычнай Барскай канфедэрацыі пасол (дэпутат) ад Навагрудскага павета Тадэвуш Рэйтан (справа) роспачна пратэстуе супраць намеру варшаўскага Сойму 1773 г. узаконіць першы падзел дзяржавы. Сучаснікі шанавалі Рэйтана як нацыянальнага героя. Мастак Ян Матэйка. 1866 г.

Ганна Кацярына Радзівіл разам з мужам Каралём Станіславам, канцлерам Вялікага Княства, стала заснавальніцаю шмат якіх мануфактур. Невядомы мастак першай паловы XVIII ст.

# РЭФОРМЫ. КАНСТЫТУЦЫЯ 1791 ГОДА

## Эканамічны рост

Першы падзел Рэчы Паспалітай паскорыў у ёй прагрэсіўныя пераўтварэнні. Іх правядзенню спрыяла тое, што Расея на нейкі час вывела з тэрыторыі нашай дзяржавы сваю армію.

Ва ўладаннях магнатаў, дзе жыла трэцяя частка насельніцтва краіны, сялянаў пераводзілі на чынш (грашовы аброк), пачыналі выкарыстоўвацца сельскагаспадарчыя механізмы і больш рацыянальныя метады працы. Збожжа вывозілася на продаж у Гданьск, Каралявец, Рыгу ды іншыя гандлёвыя цэнтры Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Урад Вялікага Княства рабіў захады для развіцця гандлю. Былі ўведзеныя агульнадзяржаўныя меры вагі, даўжыні і аб'ёму, а таксама адзіные мыта. Праз палескія балоты пракладаліся пінска-слонімскі і пінска-валынскі тракты. Агінскі суднаходны канал, збудаваны на сродкі вялікага гетмана Міхала Казіміра Агінскага, праз Шчару і Ясельду злучыў басейн Дняпра з Нёманам. Гэта зрабіла значна больш зручным перавоз збожжа ў балтыйскія порты. Тады ж распачалося пракладанне яшчэ аднай унікальнай воднай магістралі – Дняпроўска-Бугскага, або Каралеўскага, канала, што па Прыпяці і Мухаўцы, а затым па Бугу выводзіў з Дняпра ў Віслу.

Ад сярэдзіны XVIII ст. у Вялікім Княстве, як у гарадах, так і ў вёсцы, пачалося ажыўленне эканомікі. Пра гэта сведчыла павелічэнне экспарту, у якім галоўнае месца займалі прадукты земляробства і лясных промыслаў.

У гарадах і мястэчках, магнацкіх уладаннях ствараліся мануфактуры – перадавыя для свайго часу прадпрыемствы, заснаваныя на падзеле працы. Радзівілы, да прыкладу, адчынілі 23 мануфактуры. Найбольш вядомай з іх была закладзеная ў Нясвіжы суконная мануфактура, ператвораная потым у «пярсярню», дзе выраблялася персідскія тканіны. Пазней гэтае найбуйнейшае ў Вялікім Княстве прадпрыемства перанеслі ў Слуцак, і яно праславілася знакамітымі слуцкімі паясамі. У краіне і за яе межамі карысталася попытам прадукцыя шмат якіх радзівілаўскіх мануфактураў: габеленавых у Міры і Альбе, фаянсавай у Свержані, шкляных гутаў у Налібаках і Урэччы. Да буйных прадпрыемстваў належалі «зялезная фабрыка» Яўхіма Храптовіча ў Вішневе, фаянсавая мануфактура Агінскіх у Целяханах пад Пінскам.



Агінскі суднаходны канал злучыў басейн Дняпра з Нёманам. Фота канца XIX ст.

У другой палове XVIII ст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі працавалі 53 мануфактуры.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1765–1780 гг. – Рэформы Антона Тызенгаўза.
1765–1784 гг. – Будаўніцтва Агінскага канала.
1775 г. – Пачатак будаўніцтва Дняпроўска-Бугскага канала.
1788–1792 гг. – Чатырохгадовы сойм Рэчы Паспалітай.
3 траўня 1791 г. – Сойм зацвердзіў першую ў Еўропе Канстытуцыю.
20 кастрычніка 1791 г. – Прыняцце Соймам ухвалы «Узаемнае заручэнне Абодвух Народаў».



Такія вышыванкі выраблялі на гарадзенскіх мануфактурах. Другая палова XVIII ст.





Адзін з ініцыятараў эканамічных рэформаў падскарбі Вялікага Княства Антон Тызенгаўз. Тагачасны рэльеф

## Рэформы Тызенгаўза

Прыкладам патрыятычна настроеных дзеячоў, што верылі ў вялікую сілу навукі і рэформаў, стаў падскарбі (міністр фінансаў) Вялікага Княства Антон Тызенгаўз.

У падначаленых яму каралеўскіх эканоміях падскарбі палепшыў апрацоўку зямлі, увёў парнікова-цяплічную сістэму, выкарыстоўваў заходнееўрапейскую тэхніку. Для сялянаў ствараліся «камунальныя касы» – своеасаблівае страхаванне на выпадак неўраджаю або стыхійнага бедства. Рэформы прадугледжвалі добраўпарадкаванне вёсак, утрыманне дактароў і фельчараў, а таксама вясковых радзільняў. Уводзіліся санітарныя правілы дзеля засцярогі людзей і жывёлы ад эпідэміяў.

Эканамічныя поспехі былі звязаныя з прыходам новага пакалення, якое натхнялася ідэямі агульнаеўрапейскай эпохі Асветніцтва.

У Гарадзенскай эканоміі Тызенгаўз заснаваў 21 мануфактуру, дзе выраблялі самую розную прадукцыю – ад гарматаў і карэтаў да посуду, карункаў і картаў для гульні. Выпісаныя з-за мяжы спецыялісты вялі навучанне мясцовых майстроў. Цэнтрам эканамічных пераўтварэнняў падскарбія было гарадзенскае прадмесце Гарадніца. Там размяшчаліся школы мерніказў, бухгалтараў і будаўнікоў, гандлёвая і камерцыйная канторы...



Партрэт Антона Тызенгаўза. Мастак Ян Рустэм. 1819 г.

Дзейнасць падскарбія сягала далёка за межы гаспадарчых рэформаў. Ён падтрымліваў створаную ў нашай дзяржаве Адукацыйную камісію – першае ў Еўропе міністэрства адукацыі. З ініцыятывы Тызенгаўза ў Горадні былі адчыненыя медычная акадэмія, кадэцкі корпус, тэатр і тэатральна-музычная школа, пачала выходзіць газета.

Аднак рэформы А. Тызенгаўза сутыкнуліся з вялікімі цяжкасцямі. Работнікамі на ягоных, як і на іншых мануфактурах, былі пераважна прыгонныя сяляне, што не мелі зацікаўленасці ў выніках сваёй працы. З другога боку, у дзяржаве яшчэ не існавала развітога рынку для рэалізацыі мануфактурных тавараў. Пасля адхілення падскарбія ад пасады амаль усе яго прадпрыемствы былі зачыненыя як стратныя.

Палац Тызенгаўза ў Горадні. Сучаснае фота



Даўняя Рынкавая плошча ў Горадні. Злева – гандлёвыя рады і дом Тызенгаўза. Справа – Фарны касцёл («Фара Вітаўта»). Акварэль Напалеона Орды. Сярэдзіна XIX ст.





Чатырохбаковы пояс
да шляхоцкага строю.
Выраб славутай
Слуцкай мануфактуры
князёў Радзівілаў




Гетман Вялікага Княства
Літоўскага, кампазітар,
паэт і мецэнат Міхал
Казімір Агінскі.
Літаграфія XIX ст.



Палац Агінскіх у Слоніме. Фота канца XIX ст.



Келіх з шляхоцкім
гербам «Шранява».
Урэцкая гута
(шкляная
мануфактура).
Другая палова
XVIII ст.

Пляшка
з шляхоцкім гербам
«Стары Конь».
Урэцкая
або Налібацкая гута.
Другая палова
XVIII ст.



Шляхоцкія строі канца
XVIII ст.: жупан і кунтуш
з слуцкім поясам.
Нацыянальны музей
у Варшаве







Медаль у гонар
соймавай пастановы
пра павелічэнне войска
Рэчы Паспалітай.
Медзь. Аверс і рэверс.
1789 г.

## Чатырохгадовы сойм

Калі ў 1788 г. Расея занялася вайной з Турцыяй і аслабіла свой пратэктарат над Рэччу Паспалітай, быў скліканы вальны Сойм, які потым назвалі Вялікім, або Чатырохгадовым. Большасць ягоных удзельнікаў сталі дэпутатамі ўпершыню і належалі да прыхільнікаў рэформаў. Сярод іх вылучаліся падканцлер Яўхім Храптовіч, берасцейскі староста Казімір Нестар Сапега, пасол ад Пінскага павета Мацей Бутрымовіч. Дэпутаты разглядалі цэлую праграму зменаў у дзяржаўным ладзе. На пачатку паседжанняў паслы ўтварылі канфедэрацыю «дзеля найдакладнейшага гарантавання бяспекі і паляпшэння Айчыны».

Сойм часткова ўраўнаваў правы шляхты і мяшчанаў. Гарадскія жыхары атрымалі магчымасць набываць зямлю і маёнткі, а шляхта – займацца гандлем і рамяством. Невялікім гарадам, што былі пазбаўленыя перад тым самакіравання, вярнулі іх магдэбургскія правы.

Войска Вялікага Княства Літоўскага павінна было павялічыцца з 6 да 32 тысяч. Абмяркоўваўся праект аднаўлення незалежнасці праваслаўнай царквы ад расейскіх духоўных уладаў. Грэцка-каталіцкаму мітрапаліту надалі годнасць сенатара, што сталася прызнаннем ролі вуніяцкай царквы, прыхільнікамі якой ужо была пераважная большасць насельніцтва Вялікага Княства.

Рэформы, распачатыя Чатырохгадовым соймам, мелі тыпова буржуазны характар. Іх працягам сталася прыняцце Канстытуцыі.


DYARYUSZ SĄDOWY
ADAMOWI CZARTORYSKIEMU
OFIAROWANY

Тытульная старонка
«Дыярыюша Трыбунала
Вялікага Княства
Літоўскага». 1782 г.


DYARYUSZ
SEYMU ORDYNARYJNEGO
OBOYGA NARODOW
W WARSZAWIE

Тытульны аркуш збору
соймавых дакументаў.
1788 г.



Разліковы дакумент на выплату
заробкаў працаўнікам Урэцкай гуты,
заснаванай Ганнай Кацярынай
Радзівіл у 1737 г.
Гэтае прадпрыемства
праіснавала да 1846 г.



Ініцыятар шырокіх эканамічных
пераўтварэнняў на Палессі,
пасол на Сойм ад Пінскага павета
Мацей Бутрымовіч.
Невядомы мастак
канца XVIII – пачатку XIX ст.



Берасцейскі староста Казімір Нестар Сапега
на Чатырохгадовым Сойме быў абраны маршалкам
канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага
і актыўна падтрымаў прыняцце Канстытуцыі.
Мастак Язэп Пешка. 1781 г.



Дыванок з гербам Радзівілаў «Трубы». Выраб адной з шматлікіх мануфактур, якія належалі гэтаму магнацкаму роду. Другая палова XVIII ст.





Медаль «За веру, караля і закон», якім узнагароджваў вялікі князь і кароль Станіслаў Аўгуст. Срэбра. Аверс і рэверс. 1770 г.

## Канстытуцыя 1791 года

3 траўня 1791 г. бальшыня дэпутатаў Сойма аддала свае галасы за першую ў Еўропе і другую ў свеце (пасля Злучаных Штатаў Амерыкі) Канстытуцыю.

Адпаведна з ёю ствараўся адзіны ўрад, які павінен быў служыць «усяму грамадству, Кароне Польскай і Вялікаму Княству Літоўскаму». Абвяшчаліся свабода друку і сумлення, галоснасць і незалежнасць суда. Мяшчанам гарантавалася недатыкальнасць асобы. Дзяржава абяцала захоўваць рэлігійную талеранцыю.

Канстытуцыя выводзіла краіну на шлях буржуазнага развіцця, давала ёй шанец супроцьстаяць вонкавай пагрозе. Аднак дзяржава ў тэксце Канстытуцыі называлася «Польшчай». Нічога не гаварылася пра захаванне ўласных дзяржаўных органаў Вялікага Княства Літоўскага. Гэта давала некаторым гісторыкам падставы сцвярджаць, што Княства ўвайшло ў склад Польшчы.

Насамрэч справа выглядала інача. Віленскі, гарадзенскі, лідскі ды большая частка іншых павятовых соймікаў пад час працы Чатырохгадовага сойма патрабавалі ад сваіх паслоў захаваць для Вялікага Княства асобную Скарбовую камісію, Статут 1588 г., права правядзення кожнага трэцяга вальнага Сойму ў Вільні або Горадні.

Канстытуцыя скасоўвала выбарнасць караля і права «ліберум вэта», тым самым ліквідоўваючы феадальную анархію.







Медаль у гонар Канстытуцыі 3 траўня 1791 г. Аверс і рэверс

Прыняцце Соймам Канстытуцыі 1791 г. Канстытуцыя ліквідавала феадальную анархію і стварала спрыяльныя ўмовы для развіцця вытворчых сілаў грамадства. Гэта адкрывала перспектывы ўмацавання Рэчы Паспалітай, давала шанец на яе ратаванне перад вонкавай пагрозай. Малюнак Яна Пятра Норбліна. 1791 г.





Старонка рукапіснага тэксту Канстытуцыі Рэчы Паспалітай. 1791 г.

20 кастрычніка 1791 г. дэпутаты-ліцьвіны правялі праз Вялікі сойм ухвалу пад назовам «Узаемнае заручэнне Абодвух Народаў», якая замацоўвала федэрацыйную аснову Рэчы Паспалітай. У прынятым дакуменце пастанаўлялася, што Вялікае Княства Літоўскае павінна мець «такую самую колькасць міністраў і нацыянальных пасадаў ды з такімі самымі тытуламі і паўнамоцтвамі, як і Карона».

Паводле новага адміністрацыйнага падзелу агульная дзяржава ўтварала тры часткі: Вялікапольшча, Малапольшча і Літва, ці Вялікае Княства Літоўскае, якое ў сваю чаргу складалася з Віленскага, Троцкага, Полацкага, Берасцейскага і Менскага ваяводстваў, а таксама Інфлянцкага і Жамойцкага княстваў.




Канстытуцыя 3 траўня 1791 г. Тытульны разгорт



Важную ролю ў дзейнасці Чатырохгадовага Сойму адыгрываў перакананы прыхільнік рэформаў падканцлер Вялікага Княства Яўхім Ігнат Язэп Літавор-Храптовіч. Мастак Ян Дамель. (Копія партрэта Дж. Б. Грасі.) Канец XVIII ст. – пачатак XIX ст.

У другой палове XVIII ст. Вялікае Княства Літоўскае пераадолела эканамічны і грамадска-палітычны крызіс. Але час быў упушчаны. Далейшы лёс краіны трымалі ў сваіх руках замежныя манархі.



Замкавы пляц у Варшаве. Мастак Б. Белота. 1767–1768 гг.

У адрозненне ад палітычнага жыцця нашая культура ў другой палове XVII – XVIII ст. не зазнала глыбокага заняпаду. Вялікае Княства Літоўскае адчула на сабе дабратворны ўплыў еўрапейскай эпохі Асветніцтва, якая сцвярджала ў жыцці грамадства і дзяржавы прыярытэт навукі і розуму.

# АДУКАЦЫЯ І НАВУКА Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVII – XVIII СТАГОДДЗІ

## Асвета

На пачатку XVIII ст. адукацыя ў дзяржаве па-ранейшаму заставалася ў руках царквы. Пачатковыя веды давалі школы пры манастырах і кляштарах, праваслаўных і вуніяцкіх брацтвах. Дзейнічалі навучальныя ўстановы Таварыства Ісуса (езуітаў), дамініканцаў, кармелітаў ды іншых каталіцкіх ордэнаў. Езуіцкія калегіюмы існавалі ў Полацку, Пінску, Амсціславе, Берасці, Вільні, Віцебску, Воршы, Горадні, Дарагічыне-Набужскім, Магілеве, Менску, Навагрудку, Нясвіжы, Жодзішках (Ашмянскі павет), Юравічах (Мазырскі).



Пасля Паўночнай вайны шмат навучальняў у гарадах і мястэчках краіны адчыніў Ордэн піяраў. Падабенства навучальнай праграмы піярскіх школаў да перадавой езуіцкай, але менш суровая дысцыпліна рабілі іх вельмі папулярнымі. У піяраў мелі магчымасць бясплатна навучацца дзеці бедных пластоў насельніцтва, у тым ліку сялянства. Пад кіраўніцтвам асветніка і педагога Станіслава Канарскага ў сярэдзіне XVIII ст. была праведзена рэформа піярскіх школаў, у праграме якіх значнае месца занялі прыродазнаўчыя і свецкія гуманітарныя навукі, а таксама замежныя мовы. Найбольш вядомыя піярскія калегіюмы працавалі ў Вільні, Віцебску, Воранаве, Лідзе, Полацку, Шчучыне, Дуброўне, Геранёнах на Ашмяншчыне, Лужках (Дзісенскі павет), Любешаве на Берасцейшчыне.



Менскі (уверсе) і гарадзенскі кляштары езуітаў. Акварэлі Напалеона Орды. Другая палова XIX ст.



Значным асяродкам адукацыі быў Пінскі езуіцкі калегіюм. Гравюра XIX ст.

MISSALE
ROMANUM
EX DECRETO SACROSANCTI CONCILII TRIDENTINI
RESTITUTUM
S. PII V. PONTIFICIS MAXIMI
JUSSU EDITUM
CLEMENTIS VIII. et URBANI VIII.
AUCTORITATE RECOGNITUM
POLOCIÆ APUD PATRES SCHOLARUM PIARUM.
MDCCCXXVI.

Імшал, выдадзены ў 1826 г. у друкарні Вышэйшага ліцэя піяраў у Полацку

## ХРАНАЛОГІЯ

| | |
|---|---|
| Блізу 1600 г. – пасля 1651 г. – | Жыццё і дзейнасць Казіміра Семяновіча. |
| 1634–1689 гг. – | Жыццё і дзейнасць Казіміра Лышчынскага. |
| 1650 г. – | Выхад у Амстэрдаме кнігі К. Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі». |
| 1651–1714 гг. – | Жыццё і дзейнасць Галляша Капіевіча. |
| 1708 г. – | Зацверджанне новага кірылічнага шрыфта, створанага Г. Капіевічам. |
| 1728–1810 гг. – | Жыццё і дзейнасць Марціна Пачобута-Адляніцкага. |
| 1740–1805 гг. – | Жыццё і дзейнасць Габрыэля Грубэра. |
| 1773–1794 гг. – | Дзейнасць у Вялікім Княстве Літоўскім Адукацыйнай камісіі – першага ў Еўропе міністэрства адукацыі. |
| 1775 г. – | Адкрыццё Гарадзенскай медычнай акадэміі. |





Кіева-Магілянская акадэмія лічылася вышэйшай навучальнаю ўстановай для праваслаўных жыхароў Рэчы Паспалітай. Фота 1990-х гадоў

Шырокую сетку школаў, якія спаборнічалі з езуітамі і піярамі, меў вуніяцкі Ордэн базыльянаў. Адрозна ад каталіцкіх навучальняў тут захоўвала свае пазіцыі беларуская мова.

Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, моладзь Вялікага Княства магла працягваць вучыцца ў Віленскай акадэміі або ва ўніверсітэтах Заходняй Еўропы.

Шмат выхадцаў з Літвы-Беларусі вучыліся ў Кіева-Магілянскай акадэміі, якую лічылі вышэйшай навучальнай установай для праваслаўных Рэчы Паспалітай.

Актыўны дзяяч Адукацыйнай камісіі, палітык, філосаф і педагог Гуга Калантай стаў адным з аўтараў Канстытуцыі 1791 г. і ідэолагам левага крыла паўстання Тадэвуша Касцюшкі. Мастак Язэп Пешка. 1791 г.



## Адукацыйная камісія

Важныя змены ў эканоміцы і грамадска-палітычным жыцці дзяржавы вымагалі карэннага рэфармавання сістэмы адукацыі. Гэтым занялася створаная ў 1773 г. Адукацыйная камісія Рэчы Паспалітай – фактычна першае ў Еўропе міністэрства асветы. У яго стварэнні ўдзельнічалі педагогі, вучоныя, палітыкі Гуга Калантай, Ян Снядэцкі, Ігнат Масальскі... У Вялікім Княстве дзейнасцю камісіі кіраваў падканцлер Яўхім Храптовіч, які наведаў шэраг еўрапейскіх краінаў і быў добра знаёмы з ідэямі Асветніцтва.



Першы старшыня Адукацыйнай камісіі Ігнат Якуб Масальскі. Мастак Францішак Смуглевіч. 1785–1786 гг.





Фрагмент глобуса, які належаў Галоўнай школе Вялікага Княства Літоўскага. Ён быў створаны ў сярэдзіне XVIII ст. і адлюстроўваў тагачасныя геаграфічныя адкрыцці



Сонечны гадзіннік. 1770-я гады

Статут камісіі ставіў перад выкладчыкамі задачу імкнуцца, каб іх выхаванцы «дасягалі поспехаў разважаннямі, а не завучваннем на памяць». Ад рэлігійных навук перавага ў праграмах пераходзіла да прыродазнаўчых і грамадскіх. Новая сістэма асветы павінна была рыхтаваць адукаваных і карысных для дзяржавы грамадзян-патрыётаў.

Адукацыйная камісія мела на мэце вызваленне асветы ад беспасярэдняга ўплыву царквы і наданне навучанню свецкага характару.

Віленская езуіцкая акадэмія пасля рэфармавання атрымала назоў Галоўнай школы Вялікага Княства Літоўскага.




Стваральнік Гарадзенскай медычнай акадэміі і Гарадзенскага батанічнага сада, натураліст, хірург і анатам Жан-Эмануэль Жылібэр. Гравюра М. Салена. Канец XVIII ст.

На пачатку 1780-х гадоў у той частцы Беларусі, што засталася ў Рэчы Паспалітай, Адукацыйная камісія адчыніла 200 пачатковых школаў. Там займалася 2500 вучняў, прычым трціну іх складалі дзеці сялянаў. У Горадні, Ваўкавыску, Навагрудку, Паставах, Пінску, Мазыры, Бабруйску, Берасці ды іншых гарадах і мястэчках былі створаныя 20 сярэдніх школаў, заканчэнне якіх давала магчымасць паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Значную ролю ў пашырэнні навуковых ведаў адыграла Гарадзенская медычная акадэмія, адчыненая падскарбіем Антонам Тызенгаўзам, што падтрымліваў Адукацыйную камісію. Акадэміяй кіраваў вядомы вучоны-натураліст, хірург і анатам Жан-Эмануэль Жылібэр. Гэтая першая ў Вялікім Княстве навучальная ўстанова па падрыхтоўцы медычнага персаналу мела тры аддзяленні: «сучасных лекараў для гарадоў», «правінцыйных лекараў і хірургаў» і «павівальнага мастацтва». Большасць студэнтаў паходзіла з прыгонных сялянаў і ўтрымлівалася за дзяржаўны кошт.

При акадэміі дзейнічалі анатамічны тэатр, музей, першы ў Рэчы Паспалітай батанічны сад, які разнастайнасцю і колькасцю раслінаў не саступаў найлепшым садам Еўропы.

Пазней выкладчыкі акадэміі разам з абсталяваннем былі накіраваныя ў Вільню, у Галоўную школу Вялікага Княства, дзе на гэтай базе адчыніўся медычны факультэт.



Будынак Гарадзенскай медычнай акадэміі, адчыненай падскарбіем Антонам Тызенгаўзам. Гэта была першая ў Вялікім Княстве Літоўскім навучальная ўстанова, якая рыхтавала лекараў розных спецыяльнасцяў. Пазней яна стала асноваю для медычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Акварэль Напалеона Орды. Сярэдзіна XIX ст.





Нутраны двор Полацкага калегіюма. Малюнак Габрыэля Грубэра. 1785 г.

## Полацкі езуіцкі калегіюм

Тым часам на захопленых Расеяй усходнебеларускіх землях Таварыству Ісуса ўдалося захаваць свае калегіюмы. Самым значным з іх быў Полацкі, дзе налічвалася каля трохсот студэнтаў. Праграмы гэтых навучальняў таксама ўдасканальваліся ў адпаведнасці з дасягненнямі еўрапейскай адукацыі. У 1770-х гадах у Полацкім калегіюме выкладаліся польская, расейская, беларуская, французская, нямецкая, лацінская і грэцкая мовы, антычная літаратура, гісторыя, фізічная і палітычная геаграфія, алгебра, тэарэтычная і практычная механіка, цывільная і вайсковая архітэктура, тэорыя жывапісу, этыка, псіхалогія, логіка, касмалогія, астраномія, эксперыментальная фізіка, вышэйшая матэматыка...

Выпускнікамі Полацкага калегіюма былі адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Ян Баршчэўскі, польскі пісьменнік і гісторык Нікадым Мусніцкі, беларускі мастак Валянцін Ваньковіч, выдавец і рэдактар першага ў Вялікім Княстве інфармацыйнага тыднёвіка «Літоўскі кур'ер» Францішак Папроцкі, расейскі скульптар і гравёр Фёдар Талстой... Каб даць сваім дзецям прыстойную адукацыю, расейская знаць часта прывозіла іх у Беларусь.



У Полацкім калегіюме атрымаў адукацыю славуты расейскі скульптар і гравёр Фёдар Талстой. Адзін з яго класічных медальёнаў, прысвечаных падзеям вайны 1812 г.



Адзін з стваральнікаў новай беларускай літаратуры, выхаванец Полацкага калегіюма Ян Баршчэўскі ў Пецярбурзе. Літаграфія Р. Жукоўскага. Першая палова XIX ст.



Маці Божая і святая Дарота. Абраз XVIII ст. Полацкая мастацкая галерэя




Экслібрыс бібліятэкі Полацкага калегіюма, якая была адной з найбагацейшых у Вялікім Княстве




Падручнік лацінскай мовы. Полацак. 1794 г.

Полацкі калегіюм быў своеасаблівай філіяй Віленскай акадэміі. Высокі ровень выкладання і выдатная навуковая база калегіюма прывялі пазней да яго пераўтварэння ў акадэмію з універсітэцкім статусам.




Тытульны аркуш ангельскамоўнага выдання «Вялікага мастацтва артылерыі». Лондан. 1729 г.



Лічыльная машына механіка і гадзіннікавага майстра Еўны Якабсона, сканструяваная ў 1760-х гадах у Нясвіжы, дазваляла рабіць арыфметычныя аперацыі з лікамі ад 1 да 1000 000 000. Знаходзіцца ў Музеі імя М. Ламаносава ў Пецярбурзе



Ілюстрацыі з кнігі К. Семяновіча вылучаюцца сваёй дакладнасцю і высокім навуковым роўнем. Старонка першага выдання. Амстэрдам. 1650 г.



Вынаходнік шматступеневай ракеты ды аўтар іншых рэвалюцыйных дасягненняў у галіне артылерыі і ракетнай тэхнікі Казімір Семяновіч. Гравюра А. Басэ. Сярэдзіна XVII ст.




Імаверны партрэт філосафа Казіміра Лышчынскага. Тагачасная гравюра

Бліскучы трактат Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі», які стаўся адной з вяршыняў навуковай думкі, неаднаразова перавыдаваўся ў розных краінах і да канца XVIII ст. заставаўся адзіным у Еўропе грунтоўным падручнікам (адначасова і глыбокім даследаваннем) у галіне артылерыі і ракетабудавання.

## Навуковыя дасягненні

У другой палове XVII–XVIII ст. Вялікае Княства Літоўскае дало Еўропе шмат знакамітых навукоўцаў і асветнікаў.

Ліцвін Казімір Семяновіч вынайшаў шматступеневую ракету і стаў аўтарам шэрагу рэвалюцыйных вынаходак у гэтай сферы, што дае ўсе падставы лічыць яго папярэднікам славутых вучоных і вынаходнікаў К. Цыялкоўскага, А. Бінга і Р. Годарда. У 1650 г. у Амстэрдаме выйшла напісаная па-лацінску кніга К. Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі», якая была перакладзеная пазней на ангельскую, французскую, нямецкую, галандскую, дацкую ды іншыя еўрапейскія мовы. Па кнізе нашага суайчынніка вучыўся Айзэк Ньютан. Ёсць сведчанні, што ёю часта карыстаўся Напалеон Банапарт.

Старэйшым сучаснікам Семяновіча быў філосаф Казімір Лышчынскі. Ён выступіў супраць рэлігійнага светаразумення, сцвярджаючы, што свет існуе вечна, а прырода развіваецца паводле ўласных законаў. Мысляр стаў адным з першых у Вялікім Княстве прыхільнікам ідэяў утапічнага сацыялізму. Будучыня чалавецтва ўяўлялася яму заснаванай на свабодзе і сацыяльнай роўнасці. За напісанне трактата «Аб неіснаванні бога» К. Лышчынскага, якога называюць беларускім Джардана Бруна, пакаралі смерцю.






Падручнік геаметрыі, выдадзены на ўзор кніг Галляша Капіевіча. 1708 г.




Тытульны аркуш кнігі Г. Капіевіча «Граматыка». 1706 г.

Наш зямляк Галляш Капіевіч стварыў гэтак званы грамадзянскі кірылічны шрыфт, які ў 1708 г. зацвердзіў Пётр І. Менавіта ім карыстаюцца сёння народы з кірылічным пісьменствам.

Плённа займаўся выдавецкай дзейнасцю ў Амстэрдаме асветнік і перакладнік, выпускнік Слуцкай кальвінскай школы Галляш Капіевіч. Яму належаць вялікія заслугі ў развіцці адукацыі ў Расеі. Дзякуючы Капіевічу выйшлі першыя ў гісторыі расейскамоўныя падручнікі арыфметыкі, граматыкі, рыторыкі, астраноміі, марской справы – цэлая бібліятэка з двух дзясяткаў кніг навуковага і асветніцкага характару.

Марцін Пачобут-Адляніцкі. Працы аб зацьменнях Месяца. Вільня. 1766 г.






Партрэт рэктара Галоўнай школы Вялікага Княства Літоўскага, славутага астранома, сябра-карэспандэнта Парыжскай акадэміі навук Марціна Пачобута-Адляніцкага. Мастак Язэп Аляшкевіч. Пачатак XIX ст.

У навуковым свеце добра ведалі імя вучонага-прыродазнаўца Марціна Пачобута-Адляніцкага, выхаванца Гарадзенскага езуіцкага калегіюма і Віленскай акадэміі, які потым удасканальваў веды ў Пражскім універсітэце і астранамічных абсерваторыях Францыі, Англіі, Італіі, Нямеччыны. Пачобут-Адляніцкі стаў дырэктарам найстарэйшай ва Усходняй Еўропе Віленскай абсерваторыі, заснаванай у 1753 г., а затым узначаліў Галоўную школу Вялікага Княства (былую Віленскую акадэмію). Еўрапейскую славу вучонаму прынеслі складзеныя ім табліцы руху Меркурыя і адкрыццё новага сузор'я, названага Цяльцом Панятоўскіх.



Мемарыяльная дошка, усталяваная на радзіме Габрыэля Грубэра ў сталіцы Славеніі Любляне з нагоды 200-годдзя ягонае смерці

Вялікі ўклад у развіццё навукі і культуры ў нашай дзяржаве зрабіў вучоны-энцыклапедыст, славенец з нараджэння Габрыэль Грубэр, які выкладаў у Полацкім езуіцкім калегіюме прыродазнаўчыя і матэматычныя дысцыпліны, а таксама маляванне і архітэктуру. Дзякуючы Грубэру калегіюм меў абсталяваныя на еўрапейскім роўні астранамічны, фізічна-матэматычны, хімічны і мінералагічны кабінеты. З ініцыятывы вучонага там былі адчыненыя друкарня, музей і карцінная галерэя. Разам з полацкімі механікамі Грубэр удзельнічаў у стварэнні ўнікальных для таго часу робатаў. Менавіта ён падрыхтаваў умовы для ператварэння калегіюма ў акадэмію.

За выдатныя навуковыя дасягненні вучоны-прыродазнавец Марцін Пачобут-Адляніцкі быў абраны сябрам Каралеўскай акадэміі навук у Лондане і сябрам-карэспандэнтам Французскай акадэміі. Ягоным імем названы кратэр на Месяцы.

Значны ўплыў на светапогляд дзеячоў нашай навукі і культуры зрабілі ідэі французскіх асветнікаў Вальтэра, Д. Дзідро, Ш. Мантэск'ё, Ж.-Ж. Русо. Вядома, што Русо пагадзіўся на прапанову А. Тызенгаўза пасяліцца ў Беларусі, і толькі выпадак не дазволіў яму зрабіць гэта.




Тытульны разгорт кнігі твораў Гарацыя. Выданне Полацкага калегіюма, друкарня якога выпускала літаратуру на дзесяці мовах. 1803 г.



Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта. Сучаснае фота

Трактат антычнага лекара і натураліста Кляўдыя Галена «Мастацтва медыцыны». 1561 г. Кнігазбор Віленскай акадэміі

## Бібліятэкі

Важную ролю ў распаўсюджванні новых ідэяў і дасягненняў навукі адыгрывалі бібліятэкі. Яны існавалі пры калегіюмах і навучальнях у Вільні, Полацку, Горадні, Берасці, Менску, Слуцку, Наваградку, Бабруйску, Мазыры, Пінску, Паставах ды ў іншых гарадах Вялікага Княства.

Найбуйнейшы кнігазбор сярод навучальных установаў мела Віленская акадэмія.

Аснову бібліятэкі Полацкага езуіцкага калегіюма складалі выданні XVI–XVIII стст. на лацінскай, беларускай, польскай, французскай, нямецкай мовах, у тым ліку творы антычных аўтараў, еўрапейскіх гуманістаў і энцыклапедыстаў. Разам з імі захоўваліся старажытныя манускрыпты, каля ста друкаваных на розных мовах Бібліяў.







Кніга з фамільнай бібліятэкі Сапегаў, якая налічвала блізу трох тысяч каштоўных выданняў. На вокладцы – герб гэтага славутага магнацкага роду «Ліс»

У Нясвіжскім замку Радзівілаў захоўваліся тысячы кніг і старадаўніх рукапісаў. Гравюра У. Гумінскага. XIX ст.

Самай багатай прыватнай бібліятэкай не толькі Вялікага Княства Літоўскага, але і ўсёй Рэчы Паспалітай заслужана лічылася Нясвіжская, заснаваная Мікалаем Радзівілам Чорным. У 1772 г. яна налічвала больш за 20 тысяч тамоў. Там захоўваліся інкунабулы (найстаражытнейшыя друкаваныя кнігі, выдадзеныя ў XV ст.), антычная і рэнесансавая літаратура, гістарычныя і юрыдычныя выданні, рэфармацыйныя творы.

Славіўся сваім багаццем кнігазбор Сапегаў, які апрача разнастайнай літаратуры па юрыспрудэнцыі, гісторыі, геаграфіі, тэалогіі, мовазнаўстве ўлучаў архіў старажытных актаў і ўнікальную калекцыю гравюраў. Бібліятэкі, што належалі гэтаму славутаму магнацкаму роду, існавалі ў Слоніме, Ружанах, Дзярэчыне.

У маёнтку Шчорсы на Наваградчыне стварыў знакамітую бібліятэку на некалькі тысяч тамоў падканцлер Яўхім Храптовіч, які ў часе падарожжаў па Францыі, Нямеччыне і Галандыі набыў калекцыю еўрапейскіх выданняў XVI–XVII стст., а потым імкнуўся сабраць усе значныя кнігі эпохі Асветніцтва.

Ганарыліся прыватнымі кнігазборамі полацкія вуніяцкія арцыбіскупы Фларыян Грабніцкі і Ясон Юнаша-Смагарэўскі.





Рэдкія выданні з калекцыі Яўхіма Храптовіча. «Юдэйскія старажытнасці» Язэпа Флавія. Парыж. 1535 г. «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні. Кракаў. 1611. «Ілюстраваная геаграфія Еўропы» Крыстофа Гайдмана. 1658 г.



У палацы вялікага канцлера Яўхіма Ігната Язэпа Літавора-Храптовіча ў Шчорсах пад Наваградкам знаходзілася бібліятэка з шасці тысяч друкаваных тамоў і вялікая колькасць рукапісных кніг і дакументаў. Гравюра сярэдзіны XIX ст. з малюнка Напалеона Орды



Багатым кнігазборам ганарыўся полацкі вуніяцкі арцыбіскуп Ясон Юнаша-Смагарэўскі. Гравюра канца XVIII ст.

Вялікае Княства Літоўскае па-ранейшаму выконвала ролю цывілізацыйнага моста паміж Еўропай і Расеяй.

Віленскі катэдральны касцёл у 1786–1801 гг. быў перабудаваны ў стылі класіцызму паводле праекта архітэктара Лаўрына Гуцэвіча. Акварэль П. Росі. 1796 г.

# КУЛЬТУРА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА Ў ЭПОХУ АСВЕТНІЦТВА

## Архітэктура і мастацтва

Значныя здабыткі мела ў XVII–XVIII стст. архітэктура Вялікага Княства. Паводле праектаў вядомых дойлідаў Я. Глаўбіца, Дж. Сака, К. Спампані ды іншых узводзіліся і перабудоўваліся кляштары, магнацкія рэзідэнцыі. Да найлепшых архітэктурных узораў таго часу належаць збудаванні ў стылі барока віленскія касцёлы святога Казіміра, святой Тэрэзы, святых Пятра і Паўла, касцёлы і кляштары езуітаў, бернардзінцаў, брыгітак у Горадні, францысканцаў у Пінску, бернардзінцаў і бернардзінак у Слоніме, касцёл і кляштар езуітаў у Менску, Міхалішкі касцёл аўгусцінцаў, Магілеўская Мікалаеўская царква, Віцебская ратуша...



Маёнтак у Залессі паблізу Смаргоні, які на пачатку XIX ст. належаў палітыку, кампазітару і літаратару Міхалу Клеафасу Агінскаму, сучаснікі называлі «Паўночнымі Афінамі». Гравюра з малюнка Леанарда Ходзькі. 1822 г.

Барока зрабіла адчувальны ўплыў на беларускую школу іканапісу, якая разам з тым па-ранейшаму вызначалася глыбокай сувяззю з народным светапоглядам і фальклорнымі матывамі.



Сабор святога Стэфана ў Полацку. Сярэдзіна XVIII ст. Узарваны ў 1964 г. Фота пачатку XX ст.



Фрагменты інтэр'еру Полацкай Сафіі. Другая палова XVIII ст.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1705–1753 гг. – Жыццё і дзейнасць Францішкі Уршулі Радзівіл.
1718 г. – пасля 1760 г. – Жыццё і дзейнасць Саламеі Пільштыновай (Русецкай).
1724–1809 гг. – Дзейнасць Нясвіжскай капэлы.
1738–1750 гг. – Перабудова Полацкага Сафійскага сабора ў стылі віленскага барока.
1740–1791 гг. – Дзейнасць Нясвіжскага тэатра Радзівілаў.
1745–1807 гг. – Жыццё і дзейнасць Францішка Смуглевіча.
1754 г. – Выйшла кніга Францішкі Уршулі Радзівіл «Камедыі і трагедыі».
1758–1790 гг. – Дзейнасць Нясвіжскай балетнай школы.
1762–1835 гг. – Жыццё і дзейнасць Яна Рустэма.
1769–1780 гг. – Дзейнасць Гарадзенскага тэатра А. Тызенгаўза.
1787 г. – Прэм'ера «Камедыі» Каятана Марашэўскага.





Гарадзенскі касцёл святога Францішка Ксавера. Канец XVII ст. Сучаснае фота

Выдатнымі помнікамі віленскага барока сталі перабудаваны Полацкі Сафійскі сабор, Беразвецкі манастыр базыльянаў, Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў, Івянецкі касцёл і кляштар францысканцаў. Важную ролю ў станаўленні школы гэтага своеасаблівага кірунку барока адыграў Ян Глаўбіц.

У другой палове XVIII ст. з'явіліся збудаванні, у якіх спалучыліся рысы барока і класіцызму, – Гарадзенскі каралеўскі палац, Ружанскі палацавы комплекс. Палацава-паркавыя ансамблі існавалі ў Слоніме, Шчорсах (Навагрудчына), Дзярэчыне (паблізу Зэльвы). Найбольш старадаўнія помнікі садова-паркавага мастацтва, якія захаваліся да нашых дзён, – рэгулярныя паркі ў Бачэйкаве (Бешанковіцкі раён) і ў вёсцы Дубай (Пінскі раён). Надзвычай цікавы італійскі парк быў створаны ў маёнтку Залессе паблізу Смаргоні, які належаў Агінскім.

Палацы і замкі магнатаў аздабляліся высокамастацкімі габеленамі і партрэтамі. Апісанне Нясвіжскай рэзідэнцыі Радзівілаў за 1770 г. пералічвае 984 творы выяўленчага мастацтва на палатне і дрэве.

У сярэдзіне XVIII ст. склаўся і атрымаў пашырэнне адметны стыль віленскага барока. Ён вызначаўся вытанчанасцю прапорцыяў, скульптурнай пластычнасцю фасадаў і інтэр'ераў, маляўнічасцю франтонаў і ажурных вежаў. У гэтым стылі стваралізя шматлікія вуніяцкія храмы.

Касцёл Спачыну Дзевы Марыі ў мястэчку Будслаў Мядзельскага раёна. XVII – другая палова XVIII ст. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2007 г.



Фрагмент фрэскавай размалёўкі Магілеўскага касцёла святога Станіслава. На думку некаторых даследнікаў, тут адлюстраваны момант чытання прывілея, дадзенага вялікім князем і каралём Уладзіславам Вазам на будаўніцтва гэтага храма і кармеліцкага кляштара пры ім. Мастак Павел Пятроўскі. Сярэдзіна XVIII ст.





Францысканскі касцёл Ушэсця Дзевы Марыі ў Пінску. Першая чвэрць XVIII ст. Сучаснае фота



Сядзіба Ромераў у вёсцы Малое Мажэйкава Лідскага раёна. Канец XVIII ст. Фота 2007 г.



Інтэр'ер адной з залаў Нясвіжскага замка Радзівілаў. Фота 1930-х гадоў



Скульптуры святых з аздаблення Пінскага францысканскага касцёла. Дрэва. Залачэнне і серабрэнне. 1720–1730-я гады





Сцэны з жыцця Францішка Ксавера. Фрэска ў гарадзенскім касцёле ў гонар гэтага святога. Сярэдзіна XVIII ст.

У жывапісе пераважыў свой росквіт жанр партрэта. У ім, а таксама ў гістарычным, батальным, пейзажным жанрах плённа працаваў прадстаўнік класіцызму Францішак Смуглевіч. У другой палове XVIII ст. пачаўся творчы шлях майстра партрэта Яна Рустэма.

Мастацтва графікі папоўнілі працы Аляксандра і Лявона Тарасевічаў, Васіля Вашчанкі, Гершкі Ляйбовіча.

У скульптуры пад уплывам барока нашыя майстры стварылі з дрэва ўнікальныя алтарныя ансамблі ў Гарадзенскім касцёле езуітаў і Пінскім касцёле францысканцаў. Узнікла свецкая скульптура – бюсты магнатаў, гістарычных дзеячоў, мастацкія надмагіллі.



«Замак болю». Гравюра Гершкі Ляйбовіча паводле малюнка М. Пэдэці. 1747 г. Нясвіж.




Выдатны мастак таго часу Ян Рустэм. Гравюра Г. Кіслінга. 1814 г.



Славуты жывапісец, графік і педагог Францішак Смуглевіч. Мастак Язэп Пешка. 1790-я гады

Шырокую вядомасць у краіне і за яе межамі набылі творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, асабліва слуцкія паясы, карэліцкія шпалеры, урэцка-налібацкае шкло.



Васіль Вашчанка. Таемная вячэра. Гравюра з кнігі «Акафісты штодзённыя». Магілёў. 1698 г.



Мармуровы анёл. Фрагмент дэкору Нясвіжскага замка

Партрэт вялікага гетмана і канцлера Міхала Сервацыя Вішнявецкага. Невядомы мастак XVIII ст. Нясвіжская калекцыя Радзівілаў





Біскуп Ян Стафан Гедройц. Мастак Францішак Смуглевіч. Канец XVIII ст.



Партрэт жывапісца Язэпа Ксавера Гескага. Невядомы мастак канца XVIII – пачатку XIX ст.

Пад уплывам эстэтыкі барока і ідэяў Асветніцтва пашыралася жанравая разнастайнасць твораў, якія набывалі выразны свецкі характар і набліжаліся да жыцця. Узнікла інтымная лірыка, гумарыстычная паэзія, парадыйнасатырычная проза і драматургія.

## Літаратура

Пасля соймавай пастановы 1696 г., якая замяніла нашу дзяржаўную мову на польскую, сфера выкарыстання беларускай яшчэ болей звузілася. У гэты перыяд літаратура ў Вялікім Княстве Літоўскім стваралася пераважна на польскай, а часам на лацінскай мовах.


Паэт, драматург і перакладчык Францішак Дыяніз Князьнін. Малюнак невядомага мастака другой паловы XVIII ст.

Прыхільнік класіцызму паэт Міхал Карыцкі пісаў на лаціне. Самым папулярным яго творам была паэма «Птушыны сойм» – сатыра на шляхту і магнатаў Рэчы Паспалітай. Творчасць Карыцкага паўплывала на лацінамоўную паэзію эпохі Асветніцтва ў Польшчы і Украіне.


HISTORYA
JANA KAROLA
CHODKIEWICZA
WOIEWODY WILENSKIEGO
HETMANA WIELKIEGO W. X. L.

Impavidus pro patria mori. Horat.

TOM I.

W WARSZAWIE
w Drukarni Nadworney J. K. Mci.
R. MDCCLXXXI.

Кніга Адама Нарушэвіча «Гісторыя Яна Караля Хадкевіча». Варшава. 1781 г.

Прадстаўніком сентыменталізму быў паэт і драматург Францішак Князьнін. Яго пяру належаць напісаныя па-лацінску і па-польску байкі, любоўная і рэлігійная лірыка, пастаралі з элементамі беларускага фальклору.



Паэт, гісторык і асветнік Адам Тадэвуш Станіслаў Нарушэвіч. Мастак Ян Пётр Норблін. Літаграфія першай паловы XIX ст.

Польскамоўны паэт, перакладнік і гісторык Адам Нарушэвіч пакінуў у сваёй творчай спадчыне палітычныя оды, пераклады з французскай і лацінскай моваў, дыярыюшы з апісаннем падарожжаў вялікага князя і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага па падуладных яму землях.




Драматург, паэт і кнігавыдавец, выкладчык Віленскай акадэміі Францішак Багамолец. Апрача ўласных твораў выдаваў пераклады антычных аўтараў, апублікаваў гістарычныя хронікі М. Бельскага, М. Стрыйкоўскага, А. Гваніні. Малюнак невядомага мастака другой паловы XVIII ст.

Драматург Каятан Марашэўскі здабыў славу найперш сваёй беларуска-польскай «Камедыяй», галоўны герой якой – прыгонны селянін Дзёмка. Аўтар сцвярджаў у п'есе асветніцкую думку, што шчасце залежыць не ад лёсу, а ад чалавечых учынкаў. «Камедыя» Марашэўскага ў сучаснай апрацоўцы і цяпер у рэпертуары беларускіх тэатраў.

Папулярнасцю карысталіся і драматургічныя творы Міхала Цяцерскага: камедыі «Шлюб, перакулены дагары штучкамі арлекіна» і «Лекар па прымусе» (на вядомы сюжэт Мальера, але з беларускімі героямі і мясцовым каларытам), лібрэта оперы «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас».


Бібліятэкі магнатаў часта мелі галерэі з выявамі знакамітых асобаў. Партрэт вялікага князя і караля Жыгімонта Аўгуста. Мастак М. Бачарэлі. 1780-я гады

Аўтаркай шматлікіх арыгінальных п'есаў і перакладаў была княгіня Францішка Уршуля Радзівіл, першая жанчына-драматург у Рэчы Паспалітай, а таксама таленавітая паэтка. У 1754 г. асобнай кнігаю выйшлі яе «Камедыі і трагедыі».

Надзвычай каларытныя мемуары, якія нагадваюць прыгодніцкі раман, стварыла ў 1760 г. ліцвінка з Навагрудчыны, падарожніца і лекарка Саламея Пільштынова (у дзявоцтве Русецкая). Яна дасціпна апісала побыт і норавы Вялікага Княства, Турцыі, Расеі, Аўстрыі. Польскамоўныя ўспаміны нашай таленавітай суайчынніцы перасыпаныя беларусізмамі, народнымі прыказкамі і прымаўкамі. У 1993 г. кніга С. Пільштыновай пад назовам «Авантуры майго жыцця» выйшла ў перакладзе на беларускую мову і, нягледзячы на вялікі наклад, хутка стала рэдкасцю.








Сцэны з спектакляў паводле твораў Францішкі Уршулі Радзівіл у пастаноўцы Нясвіжскага тэатра: «Шчаслівае няшчасце», «Дасціпнае каханне», «Каханне – зацікаўлены суддзя». Гравюры Міхала Жукоўскага. Сярэдзіна XVIII ст.



Фрагмент дэкору менскага катэдральнага касцёла Дзевы Марыі, збудаванага ў першай палове XVIII ст. Фота Анатоля Кляшчука. 2007 г.




Драматург і паэтка Францішка Уршуля Радзівіл. Скульптар Ганна Балуха. 2008 г.

Выдатнай з'явай нашай культуры ў гэтую эпоху сталі прыватныя тэатры, якія дасягнулі прафесійнага роўню. Найбольшую вядомасць у Вялікім Княстве і далёка за яго межамі мелі тэатры Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку, Тызенгаўза ў Горадні, Агінскага ў Слоніме. 60 актораў налічвала тэатральная трупа ў маёнтку Дзярэчын, што належаў Сапегам. Разам з тэатрамі звычайна ствараліся капэлы.



Арганы віленскага касцёла святых Пётры і Паўла. XVIII ст.

## Тэатр і музыка

Пры Нясвіжскім тэатры існавала балетная, музычная і вакальная школы. Спектаклі адбываліся ў адмысловым будынку «камедыхаўзе» ў суправаджэнні Нясвіжскай капэлы – прыдворнага аркестра князёў Радзівілаў. У рэпертуар уваходзілі камедыі, трагедыі, оперы Францішкі Уршулі Радзівіл, творы Мальера, Вальтэра, балеты і пантамімы. Нясвіжскія акторы з поспехам выступалі ў іншых гарадах краіны.

Слонімскі тэатр, заснаваны вялікім гетманам Міхалам Казімірам Агінскім, меў выключныя тэхнічныя магчымасці. Да прыкладу, пад час спектаклю маглі біць два вялікія фантаны, асветленыя бенгальскімі агнямі. Існавала таксама размешчаная на Агінскім канале плывучая сцэна на баржах для водных феерыяў і тэатралізаваных баталіяў з удзелам кавалерыі. У чатырох'ярусных ложах тэатра маглі змясціцца дзве тысячы гледачоў. Славілася майстэрствам Слонімская капэла. Рэпертуар тэатра Агінскага ўлучаў 60 опер (у тым ліку «Цыганы» на лібрэта Ф. Князьніна), 18 балетаў, тры музычныя камедыі, 253 сімфоніі. Музыку да некаторых сцэнічных твораў пісаў сам Агінскі, які, дарэчы, падказаў Гайдну сюжэт ягонай знакамітай араторыі «Стварэнне свету».



Міхал Клеафас Агінскі быў не толькі дзяржаўным і вайсковым дзеячом, але і таленавітым кампазітарам. Мастак Дж. Грасі. Канец XVIII ст.

Вядомасць як кампазітар атрымаў пазней яшчэ адзін Агінскі – Міхал Клеафас, аўтар папулярных паланэзаў (у тым ліку славутага «Развітання з Айчынай»), рамансаў, фартэпіянных п'есаў і напісанай на ўласнае лібрэта оперы «Зеліда і Валькур, або Банапарт у Каіры». Мелодыя каванціны Фігаро ўпершыню прагучала за восем гадоў да стварэння Моцартам оперы «Вяселле Фігаро» ў вакальным цыкле Міхала Клеафаса Агінскага «Да Касі».

Культурныя дасягненні нашай краіны ў эпоху Асветніцтва ў сваіх лепшых праявах стаялі ўпоравень з здабыткамі заходнееўрапейскай культуры і значна ўплывалі на расейскае мастацтва.

Нашы кампазітары ўзбагацілі музычнае мастацтва Еўропы шэрагам адкрыццяў. Да іх належыць выкарыстанне вакальных цыклаў задоўга да «афіцыйнага» пачынальніка гэтага жанру Бэтховэна. Творы Мацея Радзівіла сталі першымі еўрапейскімі аркестровымі ўзорамі паланэзаў. Крыху пазней першую оперу «Фаўст» у супрацоўніцтве з Гётэ напісаў Антон Генрык Радзівіл.

Магнаты Вялікага Княства запрашалі да сябе прызнаных майстроў тэатральнага і музычнага мастацтва з Заходняй Еўропы, але большасць трупы або аркестра заўсёды складалі акторы і музыкі з мясцовых сялянаў і мяшчанаў. Гарадзенскі балет і слонімскія танцоры сталі пазней асноваю каралеўскага Варшаўскага балета.



Разгорт гімнала з Гарадзенскага бернардзінскага кляштара. XVIII ст.

Побач з прыватнымі працягвалі свае традыцыі гэтак званыя школьныя тэатры, што існавалі пры навучальных установах. Шырока вядомы быў тэатр Забельскага дамініканскага калегіюма (каля вёскі Валынцы Верхнядзвінскага раёна), дзе выкладалі знаныя драматургі К. Марашэўскі і М. Цяцерскі. Там была пастаўленая «Камедыя» Марашэўскага – першая беларуская камедыя, дзе галоўныя персанажы гавораць па-беларуску.

# ДРУГІ ПАДЗЕЛ ДЗЯРЖАВЫ



Сімвалічнае пакаранне здраднікаў-таргавічанаў праз павешанне іх партрэтаў. Мастак Ян Пётр Норблін. 1794 г.

Вялікую занепакоенасць Канстытуцыя 3 траўня выклікала ў Расеі. Для інтэрвенцыі была падрыхтаваная 160-тысячная армія. Утварэнне Таргавіцкай (ад назову мястэчка Таргавіцы на Украіне) канфедэрацыі незадаволеных рэвалюцыйнымі пераменамі ў дзяржаве дало падставу для расейскага ўварвання.



Stanislaw August etc.

Паведамленне караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага пра тое, што ён далучаецца да прарасейскай Таргавіцкай канфедэрацыі. 24 ліпеня 1792 г.



Станіслаў Аўгуст у каранацыйным строі. Мастак М. Бачарэлі. 1792 г.

Бальшыня «палітычнага народа» Вялікага Княства Літоўскага падтрымала прынятую Соймам Канстытуцыю. Узімку 1792 г. усе 11 яе артыкулаў былі ўхваленыя на 32 з 34 павятовых соймікаў. Але супраць рэформаў Чатырохгадовага сойму выступілі кансерватыўныя колы магнатаў і шляхты, незадаволеныя ўмацаваннем цэнтральнай улады.

Санкт-Пецярбург запатрабаваў ад урада Рэчы Паспалітай скасаваць Канстытуцыю. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі звярнуўся па падтрымку да прускага караля Фрыдрыха Вільгельма II, з якім у 1790 г. падпісаў абарончую дамову. Аднак той пакінуў нашую дзяржаву ў адзіноце, бо ўжо меў таемнае пагадненне з Расеяй пра новы падзел нядаўняй хаўрусніцы.

Злучыўшыся з канфедэратамі, велізарнае расейскае войска перамагло аддзелы патрыётаў і ўлетку 1792 г. заняло тэрыторыю Княства. Сучаснік тых падзеяў пісаў: «Увесь край, дзе вялася вайна, ад маскоўцаў і сваіх стаў дашчэнту спустошаны, так што засталіся нам толькі неба і зямля». Кароль Станіслаў Аўгуст далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі. Канстытуцыя і рэформы Вялікага сойму скасоўваліся.

У нашай гісторыі Аляксандр Сувораў застаўся як камандзір акупантаў і карнікаў. Гравюра М. Уткіна. XIX ст.







Медаль з выявай генеральнага маршалка Таргавіцкай канфедэрацыі Станіслава Шчэнснага Патоцкага. У часе вызвольнага паўстання Тадэвуша Касцюшкі быў як здраднік завочна асуджаны да смяротнага пакарання, ад якога ўратаваўся дзякуючы высокім расейскім апекунам. Медальер Ё. Гольтзгаўсэр. Срэбра. Аверс. 1786 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

27 красавіка 1792 г. – Стварэнне Таргавіцкай канфедэрацыі магнатаў і шляхты, незадаволеных пастановамі Чатырохгадовага сойму.

Травень 1792 г. – Пачатак інтэрвенцыі Расеі на тэрыторыю Вялікага Княства.

23 студзеня 1793 г. – Другі падзел дзяржавы.

Лістапад 1793 г. – Апошні Сойм Рэчы Паспалітай прызнаў новыя межы.







Падзелы Рэчы Паспалітай. Штрыхамі пазначаныя землі, адарваныя ад дзяржавы нашых продкаў у 1793 г. Картограф Дж. Сіман. Нью-Ёрк. 1821 г.





Срэбны талер Станіслава Аўгуста – адна з апошніх манет Рэчы Паспалітай. Аверс і рэверс

У Горадні быў скліканы Сойм Рэчы Паспалітай. Ён не адлюстроўваў сапраўдных настрояў у дзяржаве, бо патрыятычныя сілы абвясцілі яму байкот. Месца паседжанняў абкружылі расейскія войскі. Упартых дэпутатаў-незалежнікаў арыштавалі, астатнія, запалоханыя і падкупленыя, галасавалі так, як загадваў расейскі пасол.

Сойм, якому наканавана было стаць апошнім у гісторыі дзяржавы, узаконіў чарговы захоп земляў і афіцыйна скасаваў Канстытуцыю 1791 г. Цяпер урад Рэчы Паспалітай мог мець усяго 15-тысячную армію і канчаткова страціў магчымасць весці самастойную палітыку.

У зняважанай, разарванай на часткі краіне выспяваў пратэст.



Каралеўскі палац у Горадні. Акварэль сярэдзіны XVIII ст.

На пачатку 1793 г. на тэрыторыю Рэчы Паспалітай увайшла пруская армія. 23 студзеня Расея і Прусія падпісалі акт аб другім падзеле нашай дзяржавы. Царская імперыя далучыла цэнтральныя беларускія землі прыкладна па лініі Друя–Пінск, а таксама ўсходнюю Валынь, Кіеўскае і Брацлаўскае ваяводствы на Украіне – разам 250 тысяч квадратных кіламетраў.

# ПАЎСТАННЕ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ. ТРЭЦІ ПАДЗЕЛ



Прыжыццёвы партрэт Тадэвуша Касцюшкі, створаны невядомым мастаком другой паловы XVIII ст.

Нацыянальна-вызвольнае паўстанне, якое выбухнула ў 1794 г., было накіраванае супраць расейскіх і прускіх акупантаў. Паўстанцы мелі на мэце аднаўленне незалежнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., вяртанне Канстытуцыі 3 траўня 1791 г. і працяг рэформаў Чатырохгадовага сойму. На чале змагароў стаў Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, які 24 сакавіка абвясціў у Кракаве Акт паўстання.

Касцюшка быў нашчадкам беларускага шляхоцкага роду і заўсёды падкрэсліваў сваё ліцьвінскае паходжанне. Ён прыйшоў на свет у фальварку Марачоўшчына паблізу Косава (цяпер Івацэвіцкі раён). Пасля навучання ў Варшаўскім кадэцкім корпусе і Парыжскай вайсковай школе Тадэвуш добраахвотна ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі, дзе яму было нададзенае званне генерала. За шэраг перамогаў, атрыманых рэспубліканцамі дзякуючы яго таленту вайсковага інжынера, Касцюшка стаў нацыянальным героем ЗША. Нашаму выдатнаму суайчынніку пастаўленыя помнікі ў Вашынгтоне, Кліўлендзе, Чыкага, а ў штаце Місісіпі ягоным імем названы горад.

Вярнуўшыся на радзіму, Тадэвуш ваяваў супраць прарасейскай Таргавіцкай канфедэрацыі, а як толькі пачалося паўстанне, узначаліў яго.

Следам за Польшчай у красавіку 1794 г. паўстала Вялікае Княства. У ноч з 22 на 23 красавіка патрыёты авалодалі Вільняй, дзе ўладу ўзяў у свае рукі часовы ўрад – Найвышэйшая Літоўская Рада.



Сядзіба Касцюшкаў у Марачоўшчыне (цяпер Івацэвіцкі раён). На другім плане – Косаўскі палац Пуслоўскіх. Літаграфія паводле малюнка Напалеона Орды. Сярэдзіна XIX ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

1746–1817 гг. – Жыццё і дзейнасць Тадэвуша Касцюшкі.
1761–1794 гг. – Жыццё і дзейнасць Якуба Ясінскага.
24 сакавіка 1794 г. – Тадэвуш Касцюшка абвясціў у Кракаве Акт паўстання.
23 красавіка 1794 г. – Да паўстанцаў перайшла ўлада ў Вільні. Стварэнне Найвышэйшай Літоўскай Рады.
Красавік–травень 1794 г. – Паўстанцы ўзялі Гародню, Берасце, Наваградак, Слонім, Пінск, Ваўкавыск, Кобрынь, Ашмяну, Ліду, Браслаў.
7 траўня 1794 г. – Дывізія Я. Ясінскага разбіла расейскае войска каля вёскі Паляны.
Чэрвень 1794 г. – Рэйд Міхала Клеафаса Агінскага ў Менскую губерню.
Ліпень–жнівень 1794 г. – Рэйд Караля Серакоўскага па Берасцейскім і Наваградскім ваяводствах.
Жнівень 1794 г. – Рэйды М. К. Агінскага на Дынабург і Стафана Грабоўскага на Меншчыну.
17 верасня 1794 г. – Крупчыцкая бітва паўстанцаў з войскамі А. Суворава.
24 кастрычніка 1795 г. – Трэці падзел Рэчы Паспалітай.
25 лістапада 1795 г. – Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адрокся ад трону.



Вынятка з кнігі запісаў Косаўскага касцёла аб хросце Т. Касцюшкі.



На абшары Княства арганізатарам і кіраўніком паўстання стаў трыццацітрохгадовы палкоўнік Якуб Ясінскі. Яго паплечнікамі былі Тамаш Ваўжэцкі, Міхал Клеафас Агінскі, Стафан Грабоўскі, Кароль Серакоўскі.

Ясінскі скончыў кадэцкі корпус у Варшаве, браў удзел у ваенных дзеяннях супраць расейскіх войскаў у 1792 г., а потым увайшоў у канспірацыйную групу, якая рыхтавала паўстанне. Ён належаў да «віленскіх якабінцаў» – прыхільнікаў ідэяў Францускай рэвалюцыі, што выступалі з патрабаваннямі рэспубліканскага дзяржаўнага ладу, роўнасці станаў і адмены прыгону. Артыкулы «якабінскага» характару друкавала «Віленская нацыянальная газета», што была органам Найвышэйшай Літоўскай Рады.

Маючы літаратурныя здольнасці, Ясінскі пісаў палітычныя і патрыятычныя творы, а ў часе паўстання – вершаваныя пракламацыі на беларускай мове.

Напачатку ініцыятыва знаходзілася ў руках інсургентаў (паўстанцаў), якіх у Княстве налічвалася блізу 40 тысяч. Яны вызвалілі Берасце, Гародню, Наваградак, Слонім, Пінск, Ліду, Браслаў... Паўстанцкі рух ахапіў усю тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага ў межах 1793 г.



Правадыр паўстанцаў у Літве-Беларусі Якуб Ясінскі. Партрэт невядомага мастака канца XVIII ст.




Пячатка Якуба Ясінскага

Найвышэйшая Рада прызначыла Якуба Ясінскага камандзірам арміі Вялікага Княства. У паўстанцкае войска ішлі людзі ўсіх станаў – шляхта, мяшчане, святары, узброеныя косамі сяляне-касінеры. У аддзелах Ясінскага спявалі «Песню беларускіх жаўнераў»:

*Нашто зямлю нам забралі?*
*Пашто ў путы закавалі?*
*Дакуль будзем так маўчаці?*
*Годзе нам сядзець у хаце!*
*Возьмем косы ды янчаркі,*
*Пойдзем гордыя гнуць каркі!*
*Пойдзем жыва да Касцюшкі,*
*Рубаць будзем маскалюшкі!*



Тадэвуш Касцюшка – жаўнер свабоды. Прыжыццёвы партрэт. Мастак Язэп Пешка. Пачатак XIX ст.

Баявая каса паўстанцаў, зробленая з прылады сялянскай працы




Узнагародны паўстанцкі пярсцёнак з надпісам «Айчына – свайму абаронцу»

Касцюшка заяўляў пра ўраўнанне правоў каталікоў і вернікаў іншых канфесіяў, называў праваслаўных «братамі і суграмадзянамі». Вуніяцкія і праваслаўныя святары ўваходзілі ў склад паўстанцкіх камітэтаў і камісіяў. Палітыка талеранцыі, а таксама абяцанне скасаваць прыгоннае права прывялі да актыўнай падтрымкі паўстанцаў беларускім сялянствам. «Уся зямля змагаецца супраць нас», – гаварылася ў адным з расейскіх вайсковых рапартаў.



Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. Невядомы мастак XIX ст.

У траўні 1794 г. Ясінскі з дывізіяй, дзе большасць складалі сяляне, разграміў расейцаў каля Палянаў паблізу Ашмяны. За гэтую перамогу ды іншыя вайсковыя поспехі камандзір інсургентаў-ліцвіноў атрымаў ранг генерал-лейтэнанта. З мэтаю пашырэння абсягу паўстання ён загадаў стварыць конныя фармаванні для ваенных экспедыцыяў на землі, захопленыя Расеяй у выніку першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай.

Найбольш значнымі былі рэйды аддзела Міхала Клеафаса Агінскага (не толькі здольнага камандзіра, але і аўтара «Маршу паўстанцаў 1794 года» ды іншых папулярных баявых песняў) на Валожын і Івянец, а пазней на Дынабург, а таксама экспедыцыя Стафана Грабоўскага. У жніўні 3-тысячны аддзел Грабоўскага прайшоў праз Івянец, Ракаў, Койданаў, Пухавічы, Асіповічы, Бабруйск, дзе знішчыў расейскі гарнізон, але мусіў вяртацца і пад Любанню быў разбіты. Паспяховы рэйд па маршруце Высокае–Шарашова–Пружаны–Ружаны–Слонім здзейсніў у ліпені–жніўні 4-тысячны корпус Караля Серакоўскага.



Генерал артылерыі Вялікага Княства Літоўскага Францішак Сапега кіраваў паўстаннем у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах, а таксама на ўсходнім Падляшшы. Невядомы мастак пачатку XIX ст.



Гармата канца XVIII ст.





Бітва касцюшкаўцаў з расейцамі на пераправе. Акварэль Аляксандра Арлоўскага. Пачатак XIX ст.



Паўстанцы-касінеры. Невядомы тагачасны мастак

Расея кінула на інсургентаў Вялікага Княства Літоўскага 30-тысячную рэгулярную армію. Тым часам у паўстанцкім кіраўніцтве не было адзінства. Касцюшка пабаяўся абаперціся на просты народ і нічога не зрабіў дзеля вызвалення прыгонных. Выкарыстаўшы гэта, царская ўлады разгарнулі сярод сялянства прапаганду, абяцаючы яму забраную ў «паноў-бунтаўнікоў» зямлю.

Пад ціскам варшаўскіх кансерватараў, напалоханых рэвалюцыйнай праграмай «віленскіх якабінцаў» і намерам аднавіць незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага, Касцюшка адхіліў Якуба Ясінскага ад камандавання паўстаннем у Княстве. Яго замяніў польскі генерал Міхал Вяльгорскі, што вылучаўся паслухмянасцю, але не вайсковымі здольнасцямі. Найвышэйшая Літоўская Рада была абвінавачаная ў сепаратызме, дзеяннях супраць «вуніі братніх народаў» і распушчаная. Замест яе ўтваралася памяркоўная Цэнтральная дэпутацыя Вялікага Княства. Усё гэта паслабляла і без таго невялікія параўнаўча з карнікамі сілы паўстанцаў.

У сярэдзіне жніўня чатыры расейскія дывізіі захапілі Вільню. На пачатку восені на поўдні Беларусі з'явілася войска генерала А. Суворава, якое Санкт-Пецярбург перакінуў сюды пасля замірэння з Турцыяй. 17 верасня каля вёскі Крупчыцы пад Кобрынем адбылася самая буйная за час паўстання бітва. Суворову супрацьстаялі аддзелы інсургентаў на чале з генералам К. Серакоўскім. З абодвух бакоў вялі бой блізу 20 тысяч чалавек. У шэрагах паўстанцаў мужна змагаліся з карнікамі тры тысячы сялян-касінераў, якія амаль цалкам загінулі. Бітва завяршылася арганізаваным адыходам корпуса Серакоўскага пад Берасце, але там праз два дні ён быў разбіты.

Найдаўжэй інсургенты трымаліся ў Горадні, якую 30 верасня наведаў Тадэвуш Касцюшка. На ягоны загад нашыя паўстанцы адступілі да Варшавы. 10 кастрычніка ў бітве пад Мацяёвіцамі Касцюшка пацярпеў паразу і трапіў у палон. Пасля гэтага кіраўніком паўстання на ўсім абшары Рэчы Паспалітай стаў ліцвін Тамаш Ваўжэцкі родам з Браслаўшчыны.

Баявы цэп касінераў-касцюшкаўцаў

Параза паўстання прывяла ў 1795 г. да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Прусія і Аўстрыя далучылі да сваіх уладанняў рэшту тэрыторыі Польшчы і суседнія землі Заходняй Украіны. Расея захапіла частку заходнеўкраінскага абшару і землі Літвы-Беларусі – 120 тысяч квадратных кіламетраў з 1,2 мільёна жыхароў. Толькі Беластоцкая акруга, населеная пераважна беларусамі, адышла да Прусіі, аднак у 1807 г. і яна трапіла пад царскую ўладу. Такім чынам, адрозна ад Альбова (Львова) ва ўкраінцаў і Караляўца (Кёнігсбэрга) у жамойтаў Беласток страціў магчымасць стаць асяродкам беларускага адраджэння.



Скарбовы білет вартасцю 10 грошаў

Карта трох падзелаў Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. Гравёр Дж. Кэры. Лондан. 1799 г.

Пад сцягамі Якуба Ясінскага адважна ваявалі беларускія татары. Полк Аляксандра Улана ў складзе корпуса Стафана Грабоўскага ўдзельнічаў у рэйдзе на Меншчыну. У бітвах пад Крупчыцамі і Мацяёвіцамі вызначыўся полк Мустафы Ахматовіча. Пры канцы паўстання нашыя татары разам з братамі па зброі гераічна баранілі Варшаву.

4 лістапада салдаты Суворава штурмам узялі варшаўскае перадмесце Прагу (на правабярэжжы Віслы) і з нечалавечай лютасцю знішчылі ўсіх яе абаронцаў і жыхароў – блізу 25 тысяч чалавек. У гэты дзень загінуў у баі і Якуб Ясінскі.

Польскі гісторык Г. Масціцкі пісаў пра тыя падзеі: «Расейцы не шкадавалі нікога. У мацярок адбіралі ад грудзей немаўляткаў, каб не выраслі і не адпомсцілі. Манашак, што былі ў кляштары бернардзінак, згвалцілі і зарэзалі. З дамоў выцягвалі для п'янай уцехі няшчасных кабетаў, гвалцілі і забівалі... Пляцы былі засланыя трупамі. Разам з людскімі целамі грувасціліся трупы коней, сабак, катоў, бо раз'юшаныя выглядам крыві расейскія салдаты не выпускалі жывымі нават жывёлаў».

6 лістапада Варшава здалася. Частка паўстанцаў трапіла ў расейскі і прускі палон, іншыя перайшлі на нелегальнае становішча і падаліся ў выгнанне.

25 лістапада 1795 г. кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі зрокся свайго пасаду.

Рэч Паспалітая знікла з палітычнае карты свету. Разам з ёю спыніла сваё існаванне і дзяржава нашых продкаў – Вялікае Княства Літоўскае, ператворанае ў частку Расейскай імперыі. Нашыя землі ўвайшлі ў тры створаныя ў 1795 г. генерал-губернатарствы: Беларускае (Полацкая і Магілеўская губерні), Літоўскае (Слонімская і Віленская губерні, а таксама Ковенская і Гарадзенская вобласці) і Падольскае (Менская, Валынская і Падольская губерні).

Бюст Касцюшкі ў пасольстве Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі. Скульптар Алесь Шатэрнік. 2005 г.



A NEW MAP OF POLAND, AND THE GRAND DUCHY OF LITHUANIA, Shewing their DISMEMBERMENTS and Divisions BETWEEN AUSTRIA, RUSSIA AND PRUSSIA, in 1772, 1793 & 1795. FROM THE LATEST AUTHORITIES: By JOHN CARY Engraver. 1799.

# ПАД РАСЕЙСКАЙ УЛАДАЙ



Партрэт імператара Паўла І. Мастак С. Шчукін. 1797 г.

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай даўняя мара расейскіх цароў здзейснілася: Вялікае Княства Літоўскае стала часткаю Расейскай імперыі. Маркс і Энгельс трапна назвалі гэтую краіну жандарам Еўропы, а Ленін – турмой народаў.

У царскай, а потым у савецкай імперыі захоп нашых земляў называўся не інакш як уз'яднаннем, хоць ніколі раней Літва-Беларусь у складзе Расеі не знаходзілася. Продкі галасавалі за «уз'яднанне» нагамі. За два дзесяцігоддзі пасля трагічнага 1772 года, калі адбыўся першы падзел, з захопленай тэрыторыі Полацкага, Віцебскага і Амсціслаўскага ваяводстваў за мяжу, у Вялікае Княства Літоўскае, перайшло больш за 30 тысяч сялянаў. У сваіх нотах расейскі ўрад называў гэтыя масавыя ўцёкі «неразумнай эміграцыяй», ацэньваючы агульную колькасць перасяленцаў у 300 тысяч «галоў».

Кацярына II і яе сын імператар Павел I раздалі сваім дваранам на далучаным абшары 208,5 тысячы «душ мужеска полу». Такім чынам, блізу паўмільёна беларусаў зрабіліся прыгоннымі расейскіх памешчыкаў, прычым пераважная большасць гэтых сялянаў раней жылі на дзяржаўных землях і былі асабіста вольныя. Кіраўнік задушэння паўстання Тадэвуша Касцюшкі А. Сувораў атрымаў ва ўзнагароду цэлае Кобрынскае староства ды іншыя землі з 25 тысячамі душаў.



Руіны замка ў Смалянах. Мастак Язэп Пешка. 1802 г.

Траецкі касцёл на радзіме Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў мястэчку Воўчыне Камянецкага раёна, дзе ў 1938–1988 гг. знаходзіліся парэшткі апошняга манарха Рэчы Паспалітай. Фота Віктара Максімюка, 2005 г.



## ХРАНАЛОГІЯ

1775 г. – Указ Кацярыны II пра пазбаўленне ўсходнебеларускіх гарадоў і мястэчкаў магдэбургскага права.

1793 г. – Вызначэнне 25-гадовага тэрміну рэкруцкай службы.

1794 г. – Указ аб пераводзе вуніятаў у праваслаўе.
Увядзенне для габраяў «мяжы аселасці».

1795 г. – Дзеянне магдэбургскага права скасаванае на ўсім абшары былога Вялікага Княства Літоўскага.

1797 г. – Сялянскія бунты супроць узмацнення прыгонніцтва ў Полацкім, Віцебскім, Гарадоцкім і Суражскім паветах.

1807–1809 гг. – Антыпрыгонніцкія выступленні па Магілеўшчыне, у Слуцкім, Ігуменскім і Рэчыцкім паветах.

1811 г. – Спроба аднавіць Вялікае Княства Літоўскае (праект Міхала Клеафаса Агінскага).

Феадальная гаспадарка ў Расеі вызначалася прымітыўнасцю, а формы эксплуатацыі былі больш цяжкія, чым тыя, што існавалі ў нашай дзяржаве. Гаспадары атрымалі права прадаваць сялянаў без зямлі.



Рэкруты-ліцьвіны мусілі служыць чужой уладзе і гінуць у расейскіх захопніцкіх войнах. Грэнадзёр Полацкага мушкецёрскага палка царскай арміі. Літаграфія XIX ст.



Прыгонных, якія раней пераважна плацілі грашовы аброк, пагналі на паншчыну. Памешчыкі тысячамі здавалі сялянаў на будаўнічыя работы ў далёкія расейскія губерні. Невыпадкова адразу пасля канчатковага захопу Вялікага Княства пачаліся сялянскія бунты. Вяскоўцы часта ўцякалі з праваслаўнай Расеі-«выратавальніцы» на Беласточчыну, пад уладу пратэстанцкай Прусіі.

Пагоршылася і становішча гарадскога насельніцтва. Мяшчанаў таксама абклалі падушным падаткам і ў вайсковай павіннасці прыраўнялі да сялянаў. Падаткі ў беларускіх губернях да 1811 г. заставаліся ў чатыры-пяць разоў цяжэйшыя, чым у расейскіх.

Прафесійнае войска Вялікага Княства Літоўскага было расфармаванае. На змену яму прыйшлі невядомыя раней у нашай краіне рэкруцкія наборы. У рэкруты бралі маладых, здаровых мужчынаў ад 19 да 35 гадоў. Спачатку яны служылі ўсё жыццё, а ў 1793 г. тэрмін абмежавалі «ўсяго» чвэрткай стагоддзя. Мірным часам Пецярбург вымагаў ад 500 душаў аднаго салдата, у вайну – чатырох, пяці і нават васьмі. Тым часам рэкруцкая павіннасць не накладвалася на Латвію, Эстонію, Бесарабію, Грузію, Фінляндыю, а пазней і Украіну, якая пасылала на службу казацкія палкі.

У нашых гарадоў і мястэчкаў адабралі старыя гербы і скасавалі магдэбургскае права на самакіраванне.

Ліцьвіны рабіліся гарматным мясам у захопніцкіх царскіх паходах. Толькі ў 1811 г. беларускія губерні далі ў расейскую армію 14750 рэкрутаў.

Мундзір афіцэра Гарадзенскага гусарскага палка расейскай арміі. Пачатак XIX ст.



Гомельскі палац быў пабудаваны на загад генерал-фельдмаршала П. Румянцава, які ў 1776 г. атрымаў ад Кацярыны II беларускія землі з тысячамі прыгонных сялянаў. У часе задушэння паўстання Тадэвуша Касцюшкі ён быў галоўнакамандуючым расейскімі войскамі. Пазней Гомелем валодаў генерал-фельдмаршал І. Паскевіч, што камандаваў царскай арміяй пры задушэнні вызвольнага паўстання 1831 г. у Літве-Беларусі і рэвалюцыі 1848–1849 гг. у Вугоршчыне (Венгрыі). Мастак Адам Ідзкоўскі. 1840 г.



Царскія асігнацыі вартасцю 25 і 10 рублёў.



Захоп Вялікага Княства Расеяй адбываўся пад выглядам абароны правоў праваслаўных. Між тым яны складалі пры канцы XVIII ст. усяго 6% насельніцтва нашай краіны і ніякіх выгодаў, трапіўшы ў імперыю, не атрымалі. Каталікоў налічвалася значна болей, але Пецярбург не чыніў ім асаблівых перашкодаў. Гэта была вера вярхоў мясцовага грамадства, з якімі новая ўлада намагалася ўсталяваць лаяльныя стасункі. На далучаных да Расеі землях нават працягваў дзейнічаць скасаваны папам рымскім у 1773 г. Ордэн езуітаў.

Вуніяты ж, да якіх у гэты час належала больш за 3/4 жыхароў краю, трапілі пад жорсткі перасьлед царскай адміністрацыі. Прычынаю было тое, што грэцка-каталіцкая вера захоўвала мову і традыцыі народа, перашкаджаючы рабіць ліцьвіноў-беларусаў расейцамі. У адказ на гвалт і здзекі значная частка вернікаў перайшла ў каталіцтва. Толькі ў 1795 г. на Меншчыне рыма-каталікамі сталі 200 тысяч вуніятаў.

Сьвяты Антон Падуанскі. Абраз XVIII ст. Полацкая мастацкая галерэя



Партрэт расейскага імператара Аляксандра І. Мастак Ф. Кругер. 1812 г.



Выгляд Шклова з боку магілёўскага тракту. Акварэль Язэпа Пешкі. Пачатак XIX ст.

Кацярына ІІ выдала ўказ аб пагалоўным пераводзе вуніятаў у праваслаўе.

Ліцьвіноў пазбавілі права набываць адукацыю ў замежных унівэрсітэтах.

Расейская імперыя ніколі не ведала рэлігійнай і нацыянальнай талеранцыі. Беларусаў наагул не прызнавалі за асобны народ, а лічылі папсаванымі палякамі, якія таксама былі папсаванымі расейцамі. Адпаведным было стаўленьне і да мовы. Нашых продкаў нават пазбавілі права на ўласныя імёны і прозьвішчы. Пасля захопу ўсходніх земляў Вялікага Княства царскія пісары ў дакументах перайначвалі Язэпаў у «Иосифов», Тамашоў – у «Фомов», Якубаў – у «Яковов»... Да беларускіх прозьвішчаў дадаваліся расейскія канчаткі, а сялянаў часта запісвалі на прозьвішча памешчыка.

З манастырскіх, царкоўных і прыватных бібліятэк былога Княства ў Расею вывозілі летапісы і архівы славутых шляхоцкіх родаў.



Пячатка генерала Таварыства Езуса (Ордэна езуітаў).
У 1773 г. ордэн быў скасаваны рымскім папам, аднак захаваўся на захопленых Расеяй землях дзякуючы прысязе езуітаў на вернасьць Кацярыне ІІ



Пільны нагляд уводзіўся над навучальнымі ўстановамі. Моваю выкладаньня ў школах і навучальных у першыя дзесяцігодзьдзі была польская. Якраз тады, ужо ў Расейскай імперыі, паланізатары дасягнулі вялікіх посьпехаў. У Пецярбурзе спачатку меркавалі, што на захопленых землях лепей мець справу з адным палякамі. Імператар Павал І і ўвогуле палічыў Літву-Беларусь польскім краем, што неадкладна выкарысталі для паланізацыі насельніцтва польскія нацыяналісты.

З другога боку, працягвалася русіфікацыя. Не было даверу нават мясцоваму праваслаўнаму духавенству. Сьвятароў-беларусаў накіроўвалі служыць углыб імперыі, а на іх месца ехалі расейцы, што не ведалі ні мовы, ні традыцыяў прыхаджанаў. Яны не прызнавалі беларускіх сьвятаў, змагаліся з калядаваньнем, Купальлем ды іншымі спрадвечнымі звычаямі. «Присланные священники не способны к поддержанию хороших отношений с людьми, этот край населяющими. Они стали ненавистны народу», – дакладвалі ў Пецярбург губернатары.

Мяшчане, купцы і рамесьнікі юдэйскага веравызнаньня мусілі плаціць удвая большыя за хрысьціянаў дзяржаўныя падаткі.

Расейскія ўлады ўстанавілі для габраяў «мяжу аселасьці», за якой ім нельга было сяліцца. Але і на дазволенай тэрыторыі, што прыкладна супадала з межамі былога Вялікага Княства, юдэі не маглі жыць па-за гарадамі і мястэчкамі.



SZKOLA POWIATOWA GRODZIEŃSKA
Na stopniu Gimnazyum będąca

Пасьведчаньне Гарадзенскай паветовай школы. 1822–1823 гг.
У першай траціне XIX ст. царскія ўлады дазвалялі польскую мову ў навучаньні, што актыўна выкарыстоўвалі паланізатары

Колішняя рэзыдэнцыя князёў Сапегаў у мястэчку Ружаны Пружанскага раёна. Фота Зьмітра Герасімовіча. 2005 г.





Салдаты Літоўскага палка расейскай арміі, сфармаванага з ліцьвіноў-беларусаў. Сучасны малюнак-рэканструкцыя



Гарады і мястэчкі былога Вялікага Княства былі пазбаўленыя ранейшых гербаў.

Былі ўведзеныя абмежаванні для жанчын. У Рэчы Паспалітай шляхцянкі і мяшчанкі валодалі маёмаснымі правамі, у Расейскай імперыі – не. Гэта рэзка звужала эканамічныя магчымасці асабіста вольных ліцьвінак і наагул паніжала іх статус у грамадстве.





Гербы мястэчка Цырын (уверсе) і горада Дзвінска (Дынабурга)

Шляхоцкія гербы



«Анцута»



«Гадземба»

Разеткі з шляхоцкімі гербамі з капліцы-пахавальні роду Арэшкаў (Ажэшкаў) у вёсцы Закозель Драгічынскага раёна









Ліцьвінская шляхта слухае песню гусляра пра былую веліч Айчыны. Ілюстрацыя мастака другой паловы XIX ст. Міхала Андрыёлі да паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», дзеянне якой адбываецца на Навагрудчыне

Панарама Шклова. Канец XVIII ст.



Шляхта і магнаты, якія далі прысягу на вернасць царскаму трону, захавалі маёнткі і атрымалі ўсе тыя правы, што і расейскае дваранства. Аднак шляхта была незадаволеная скасаваннем ранейшых шырокіх прывілеяў і ставілася да новай улады варожа. Тая, у сваю чаргу, бачыла небяспеку ў існаванні вялікага шляхоцкага стану, удзельная вага якога ва ўсім насельніцтве захопленых земляў даходзіла да 12%. Імператар Аляксандр I пачаў гэтак званы разбор шляхты, якая мусіла дакументальна пацвердзіць свае правы. У адваротным выпадку шляхціцу прапаноўвалі запісацца ў падатковыя станы сялянаў або мяшчанаў.

Былы «палітычны народ» страціў уладу, але яшчэ меў надзеі на адраджэнне ў нейкіх формах дзяржаўнага жыцця. У 1811 г. група магнатаў пад кіраўніцтвам Міхала Клеафаса Агінскага прапанавала Аляксандру I праект аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага разам з будучай канстытуцыяй. Паводле праекта яно складалася з васьмі заходніх губерняў: Віленскай, Віцебскай, Валынскай, Гарадзенскай, Менскай, Магілеўскай, Падляшскай і Кіеўскай. Такім чынам рабілася спроба не проста аднавіць Вялікае Княства, але і вярнуць яму землі, страчаныя ў выніку Люблінскай вуніі з Польшчай у 1569 г. Агінскі ўключыў у праект параграф пра паступовае вызваленне сялянаў ад прыгону. Іншлі перамовы, аднак яны сутыкнуліся з супраціўам расейскага дваранства. Апрача таго, неўзабаве пачалася вайна 1812 г., якая адкрывала іншыя магчымасці аднавіць Вялікае Княства.



Палітык і кампазітар Міхал Клеафас Агінскі ўзначаліў групу магнатаў, якая прапанавала імператару Аляксандру I аднавіць Вялікае Княства Літоўскае з уласнай канстытуцыяй. Мастак Ф. Грэнье. Першая палова XIX ст.

Анексія нашых земляў палітычна і эканамічна адсталай Расеяй вырвала іх з агульнаеўрапейскага руху цывілізацыі. Становішча пераважнай большасці насельніцтва пагоршылася. Перапынілася тэндэнцыя пераходу ад шляхоцкай да дэмакратычнай рэспублікі. Рэзка абмежавалася свабода чалавечай асобы і ўмацаваўся прыгон. Без сваёй дзяржавы запавольвалася нацыянальнае самасцверджанне народа.

Фасад Крычаўскай суднабудаўнічай мануфактуры. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Крычаўскае стараства было «пажалавано» расейскаму графу Р. Пацёмкіну





План перабудовы Полацка пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай. 1793 г.

# ВАЙНА 1812 ГОДА. СПРОБА АДНАВІЦЬ ДЗЯРЖАВУ

На пачатку XIX ст. напалеонаўская Францыя ў барацьбе за гегемонію ў Еўропе сутыкнулася з кааліцыяй Расеі, Аўстрыі і Прусіі. У вайне 1805–1807 гг. Напалеон атрымаў перамогу і стварыў на польскіх землях, якія раней належалі Прусіі, падуладнае яму Варшаўскае княства.

Расея рыхталася да рэваншу: на абшары колішняга Вялікага Княства былі сканцэнтраваныя царскія арміі М. Барклая дэ Толі і П. Баграціёна агульнай колькасцю 157 тысяч салдатаў і афіцэраў. Утрыманне гэтага велізарнага кантынгенту непасільным цяжарам легла на плечы мясцовага насельніцтва. Яго коштам у васьмі беларускіх гарадах на загад вайсковых уладаў ствараліся буйныя склады правіянту на 58 476 чалавек (чатыры пяхотныя і дзве кавалерыйскія дывізіі) кожны. У артылерыйскія часціны забіралі найлепшых коней. Уводзіліся дадатковыя пастаўкі гарэлкі і свойскай жывёлы «для салдацкіх вінных і мясных порцыяў». Разлік за харчаванне адбываўся не грашыма, а аблігацыямі. Апрача таго, за адзін толькі пярэдваенны год у нашых губернях набралі амаль 15 тысяч рэкрутаў. Такім чынам расейскі ўрад імкнуўся максімальна выкарыстаць людскія і матэрыяльныя рэсурсы Літвы-Беларусі ў сваіх імперскіх мэтах. Гэткая палітыка працягвалася і ў XIX, і ў XX стст.

Сустрэча Напалеона і Аляксандра I у Тыльзіце ў 1807 г. Тагачасная гравюра Г. Кіслінга

Вайна 1812 года ў расейскай гісторыі называецца Айчыннай, але для нашых продкаў яна мела зусім іншы характар. З Напалеонам звязваліся надзеі на аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага.

Вайна зрабілася немінучай, але Прусія ў апошні момант адмовілася дапамагчы Расеі нанесці першы ўдар. Перахапіўшы ініцыятыву, Банапарт у 1812 г., у ноч на Янаў дзень, перайшоў з сваім паўмільённым войскам расейскую мяжу на Нёмане.



Сутычка з французамі пад Горадняй 25 кастрычніка 1812 г. Сучасны расейскі мастак А. Авяр'янаў

**ХРАНАЛОГІЯ**

24 чэрвеня 1812 г. – Пераправа Напалеона цераз Нёман.
28 чэрвеня 1812 г. – Французскага імператара вітае Вільня.
1 ліпеня 1812 г. – Утварэнне Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага.
6 ліпеня 1812 г. – Урачыстая сустрэча маршала Даву ў Менску.
1 жніўня 1812 г. – Загад Напалеона аб стварэнні войска Вялікага Княства Літоўскага.
26–28 лістапада 1812 г. – Пераправа рэштак Вялікай арміі цераз Бярэзіну.



Ужо праз чатыры дні пасля пачатку баявых дзеянняў французаў радасна вітала Вільня. Першымі ў былую сталіцу пад бел-чырвона-белымі сцягамі ўвайшлі жаўнеры князя Дамініка Радзівіла, які сваім коштам сфармаваў і ўзброіў уланскі полк. Шмат ліцьвіноў ваявала і ў палках польскага генерала Юзафа Панятоўскага. Горад грымеў воклічамі: «Слава імператару!», «Слава вызваленцу!» Жаданне служыць у напалеонаўскім войску выказалі амаль усе студэнты Віленскага ўніверсітэта.



Удзельнік паходу на Маскву князь Дамінік Геранім Радзівіл. Гэтага адважнага і таленавітага кавалерыйскага камандзіра высока цанілі маршал Мюрат і сам Напалеон. Прыжыццёвы партрэт невядомага мастака

Не менш урачыстая сустрэча была наладжаная ў Менску маршалу Даву. Віншавальныя прамовы ў гонар вызвольнікаў гучалі ў Магілеве, дзе Напалеону прысягнуў праваслаўны епіскап Варлам. Расейскія чыноўнікі ўцякалі на ўсход, і ліцьвінская шляхта з дазволу французскіх уладаў стварала свае камісіі дзеля кіравання паветамі і губернямі. Сяляне таксама чакалі французаў з надзеяй, бо чулі, што ў Варшаўскім княстве Банапарт скасаваў прыгон. Вызваленне абвяшчалі і пракламацыі, у тым ліку на беларускай мове, якія закідваліся перад пачаткам вайны ў заходнія губерні Расеі.

Царскія арміі дасягнулі поспеху ў некалькіх лакальных бітвах, але, не маючы магчымасці злучыцца, адыходзілі ўглыб Расейскай імперыі, пакідаючы непрыяцелю спустошаныя беларускія гарады і вёскі. У выніку перамогі расейцаў над французамі пад Кобрынем у горадзе з 630 дамоў ацалела толькі 82. Без бою быў пакінуты Дрысенскі ўмацаваны лагер – пабудаваная перад вайной фартэцыя, разлічаная на 100-тысячны гарнізон.

Паблізу мястэчка Кляспіцы пад Полацкам корпус маршала Удзіно быў пераможаны Якавам Кульневым, але горад застаўся ў руках французаў, а сам расейскі генерал загінуў. У полацкім наваколлі баі ішлі фактычна за сталіцу імперыі – Санкт-Пецярбург, шлях на які прыкрываў корпус генерала П. Вітгенштэйна.



Гусар Гарадзенскага палка царскай арміі. Літаграфія XIX ст.



Помнік, усталяваны на месцы гібелі генерал-маёра кавалерыі Якава Кульнева на беразе ракі Дрысы паблізу Полацка



Парадны партрэт расейскага генерала Пятра Вітгенштэйна. Мастак Ф. Кругер. 1844 г.



Памятны медаль у гонар уступлення Напалеона ў Вільню. Французскі імператар уручае меч польскаму жаўнеру, а тарчу – ліцьвіну. Медальер Б. Андру. Медзь. Аверс. 1812 г.

Да жніўня Банапарт заняў амаль усе беларускія землі, з выняткам Рэчыцкага, Мазырскага і частак Бабруйскага і Беліцкага (Гомельскага) паветаў. Бабруйскую фартэцу з 5-тысячным гарнізонам напалеонаўскія войскі проста абышлі і пакінулі ў тыле.

Нашыя землі афіцыйна называліся «вызваленымі ад расейскага прыгнёту». Напалеон абвясціў пра аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага з сталіцай у Вільні. Яно складалася з Гарадзенскай, Віленскай, Менскай губерняў і Беластоцкай вобласці, перайменаваных у дэпартаменты. Кожны дэпартамент меў свайго ваеннага губернатара-француза.

Ваенная ўлада ў адноўленым Вялікім Княстве Літоўскім належала генерал-губернатару, цывільная – Часоваму ўраду. Ён складаўся з сямі камітэтаў: харчавання і складоў, паліцыі, фінансаў, вайсковага, судовага, нутраных справаў, народнай асветы і рэлігіі. Камітэты ўзначалілі вядомыя ў краі дзеячы: былы літоўскі маршалак Станіслаў Солтан, граф Язэп Серакоўскі, князь Аляксандр Сапега, рэктар Віленскага ўніверсітэта Ян Снядэцкі.




Дзеля падтрымання ў краіне парадку на загад імператара фармаваліся аддзелы нацыянальнай гвардыі і літоўскай (паводле назову дзяржавы) жандармерыі, а затым пачалося стварэнне ўзброеных сілаў Княства. Ліцьвінскія шляхцічы-добраахвотнікі склалі ў імператарскай гвардыі кавалерыйскі полк. Паспяхова дзейнічаў эскадрон выведнікаў з беларускіх татараў.



Старшыня Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага Станіслаў Солтан пасля вайны 1812 г. мусіў жыць у эміграцыі. Мастак Ё. Лампі Старэйшы. Пачатак XIX ст.

За абяцанне вярнуць незалежнасць Напалеон вымагаў стотысячнага войска і велічэзных паставак фуражу і харчу. Сяляне не дачакаліся вызвалення ад прыгону. Пачаліся бясконцыя рэквізіцыі, якія нагадвалі сапраўдныя рабункі.



Імператар Аляксандр I. Тагачасны партрэт. Мастак Л. Поль

У гісторыкаў існуе меркаванне, што на выпадак палітычнага гандлю з расейскім імператарам Аляксандрам I Банапарт меў намер стварыць у Падняпроўі і Прыдзвінні яшчэ адну падуладную яму дзяржаву пад назовам Беларусь.

Аднак валадара Еўропы мала цікавіла рэальнае адраджэнне нашай краіны. Выкарыстоўваючы настроі значнай часткі насельніцтва, ён пераследваў свае мэты.

Часовы ўрад Вялікага Княства не меў права прымаць пастановаў без згоды французскага камісара і найперш мусіў займацца зборам падаткаў для Вялікай арміі. У жніўні быў падпісаны ўказ, паводле якога нашыя губерні павінны былі даць Вялікай арміі 528 тысяч тонаў збожжа, 100 тысяч тонаў аўса і 53 тысячы кароў. Гэта пагражала краіне голадам.





Шмат хто з ліцьвіноўбеларусаў, якія ваявалі пад сцягамі Напалеона Банапарта, сталі ўдзельнікамі вызвольнага паўстання 1831 г. Мундзір капітана Аляксандра Сабанскага



У 1812 г. Вялікае Княства Літоўскае было на некалькі месяцаў адноўленае. Медальён з выявою сябра Часовага ўрада Княства рэктара Віленскага ўніверсітэта, матэматыка, філосафа і асветніка Яна Снядэцкага. Скульптар Вінцэнт Смакоўскі. Пачатак XIX ст.



Афіцэрская шапка 17-га літоўскага ўланскага палка Вялікай арміі. 1813 г.



Галаўны ўбор афіцэра 3-га літоўскага палка лёгкай кавалерыі напалеонаўскай гвардыі. 1812 г.




Кашкет шарагоўца-ліцьвіна часоў Т. Касцюшкі. Многія былыя паўстанцы ўступілі ў Вялікую армію Напалеона




Шапка кавалерыста 3-га літоўскага гвардзейскага палка. 1812–1813 гг.


Французы пад Віцебскам у ліпені 1812 г. Менавіта ў Віцебску Напалеон вырашыў ісці на Маскву. Тагачасная літаграфія


Паштоўка, прысвечаная 100-годдзю кампаніі 1812 г.

Праз месяц пасля Вільні французскі імператар уступіў у Віцебск. Не зважаючы на цяжкія страты і ваенныя няўдачы пад Кобрынем, Мірам і Полацкам, Напалеон прайшоў ад Нёмана сотні вёрстаў і набыў пяць мільёнаў новых падданых. У Віцебску ён тэатральна адшпіліў шпагу і заявіў, што кампанія 1812 г. завершаная, але ўжо праз некалькі дзён прыняў фатальнае рашэнне ісці на Маскву.

Між тым настрої ў грамадстве мяняліся не на карысць Напалеона, што істотна блытала яму карты. Патрыёты Вялікага Княства перажывалі расчараванне. З Часовага ўрада выйшаў нядаўні заўзяты банапартыст Аляксандр Сапега, які нdraz выконваў асабістыя даручэнні «валадара Еўропы». Сяляне стваралі партызанскія аддзелы. Перад Барадзінскай бітвай Банапарт накіраваў 10 тысяч жаўнераў на дапамогу 12-тысячнаму віцебскаму гарнізону, які партызаны фактычна трымалі ў аблозе.

Адступленне былой Вялікай арміі з Масквы ўвосень 1812 г. хутка ператварылася ва ўцёкі. У кастрычніку–лістападзе расейскія войскі авалодалі Полацкам, Віцебскам, Менскам, Магілевам, Барысавам. Рашучым контрударам Банапарту ўдалося выбіць генерала Чычагова з Барысава і каля вёскі Студзёнкі пераправіць свае войскі цераз Бярэзіну. Адтуль яны бязладна адступалі на Вільню. У мястэчку Смаргонь імператар, пераапрануўшыся ў мундзір польскага ўлана, пакінуў армію. Яе рэшткі ў снежні перайшлі Нёман.

Часовы ўрад Вялікага Княства Літоўскага яшчэ блізу года працаваў у Варшаве, Кракаве і Дрэздэне, марна спадзеючыся, што Напалеон распачне новую кампанію ў Расеі.

Частка ліцьвінскіх палкоў Вялікай арміі, у якіх налічвалася 25 тысяч нашых суайчыннікаў, была разбітая, частка адступіла і змагалася не за свае інтарэсы. За чужую Айчыну ваявалі і дзясяткі тысяч ліцьвіноў, найперш паднявольных рэкрутаў, што служылі тады ў расейскім войску. Паводле падлікаў некаторых гісторыкаў, на пачатку вайны іх было 130 тысяч. Братоў прымусілі біцца з братамі.


Напалеонаўскія войскі на Бярэзіне ў лістападзе 1812 г. Фрагмент карціны Януара Сухадольскага. 1866 г.



На зноў захопленых землях Вялікага Княства расейцы паводзілі сябе як на варожай тэрыторыі, здзекуючыся з жыхароў і займаючыся рабаваннем. Славуты камандзір расейскіх партызанаў Дзяніс Давыдаў «вызначыўся» такім чынам у Горадні, дзе сярод іншага прымушаў каталікоў у храмах хрысціцца «правільна», па-праваслаўнаму. З Нясвіжскага замка Радзівілаў генерал Чычагоў адправіў у Пецярбург і Маскву сорак вазоў культурных каштоўнасцяў і архіваў. Кутузаў прапанаваў цару перадаць героям вайны маёнткі тых абшарнікаў, што падтрымалі Напалеона. Каб замірыцца з мясцовай арыстакратыяй, Аляксандр I на гэта не пагадзіўся, але ўсялякія перамовы пра аднаўленне Вялікага Княства пад пратэктаратам Расеі былі спыненыя.

Наша краіна заплаціла за напалеонаўскую авантуру страшную цану. У баявых дзеяннях, ад голаду і пошасцяў загінуў мільён чалавек, кожны чацверты. Трупы спальвалі на вогнішчах да вясны 1813 г. У асобных гарадах насельніцтва скарацілася ў тры разы. Нягледзячы на тое, што шмат сялянаў змагаліся з французамі ў партызанскіх аддзелах, прыгон пасля вайны ўзмацніўся.


Французскія войскі адыходзяць праз Вільню. Мастак Ян Дамель. 1812–1820 гг.

На востраве Святой Алены, у выгнанні, Банапарт прыйшоў да высновы, што прычынаю яго разгрому ў 1812 г. сталі зробленыя на нашай зямлі памылкі – не столькі ваенныя, як палітычныя.


Такія шаблі былі на ўзбраенні кавалерыі ў пачатку XIX ст.


Помнік падзеям 1812 г. у Полацку. Фота С. Пракудзіна-Горскага. Пачатак XX ст.


Напалеон у Фонтэнбло. Мастак П. Дэлярашэ. 1845 г.



Масонскія знакі

# ВЫЗВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА

## Таемныя таварыствы

Цэнтрам патрыятычнага руху заставалася Вільня, дзе канцэнтраваліся грамадскія і навукова-культурныя сілы краю. Магутным асяродкам вальналюбівых памкненняў быў Віленскі ўніверсітэт. Менавіта там з ініцыятывы студэнтаў Тамаша Зана, Адама Міцкевіча, Язэпа Яжоўскага, Анупрэя Петрашкевіча і Францішка Малеўскага ўзнікла таемнае таварыства філаматаў, якое атрымала назоў ад грэцкага слова philomáthēs (той, хто імкнецца да ведаў).

Напачатку сябры таварыства ставілі перад сабой толькі культурніцкія мэты, выступаючы за пашырэнне асветы, але ва ўмовах наступу рэакцыі маладымі людзьмі неўзабаве авалодалі палітычныя ідэі. У праграме з'явіліся патрабаванні нацыянальнай незалежнасці народаў і скасавання прыгону. Ідэйным натхняльнікам філаматаў быў гісторык і грамадскі дзяяч Яўхім Лялевель. (Гэта яму належаў звернуты да дэмакратаў Расеі крылаты заклік: «За нашу і вашу свабоду!»)

Спадзяванні на аднаўленне Рэчы Паспалітай патрыёты звязвалі найперш з «сярэднім класам», як яны называлі шляхту. Дзеля пашырэння сваіх ідэяў філаматы стварылі своеасаблівыя філіі – «прамяністых» і філарэтаў (ад грэцкага philaretos – той, хто любіць дабрачыннасць). Кіраўніком больш радыкальнага таварыства філарэтаў, якое налічвала блізу трохсот удзельнікаў, абралі Тамаша Зана. Арганізацыі філаматаў дзейнічалі ў Полацкім ліцэі піяраў, а таксама ў сярэдніх навучальных установах Свіслачы і Віцебска.

Створаная царызмам каланіяльная імперыя адрозна, напрыклад, ад Брытанскай была не заморскай, а кантынентальная. Геаграфічна калоніі знаходзіліся побач з метраполіяй, а часам мелі і этнічную блізкасць з ёй. Гэта дазваляла не толькі маскаваць прыгнёт, але і накідаць паняволеным народам чужую гісторыю, культуру, мову. Аднак на захопленых землях былога Вялікага Княства Літоўскага не спынялася нацыянальна-вызвольная барацьба.



Адзін з кіраўнікоў таварыства філаматаў, будучы паэт і фальклarыст Ян Чачот. Гравюра Ф. Робэра. Першая палова XIX ст.



Старшыня таварыства філарэтаў выпускнік фізічна-матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта Тамаш Зан, каб уратаваць арыштаваных паплечнікаў, усю віну ўзяў на сябе. Літаграфія канца XIX ст.



Антон Адынец. Малюнак Валянціна Ваньковіча. 1822 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1806–1831 гг. – Жыццё і дзейнасць Эміліі Плятэр.
1806–1833 гг. – Жыццё і дзейнасць Міхала Валовіча.
1808–1839 гг. – Жыццё і дзейнасць Сымона Канарскага.
1817–1823 гг. – Дзейнасць таемнага студэнцкага таварыства філаматаў.
1820–1823 гг. – Дзейнасць таварыства філарэтаў.
1823 г. – Царскі ўказ пра забарону ў імперыі масонскіх ложаў.
1825 г. – Стварэнне таварыства «Вайсковыя сябры».
1827 г. – Заснаванне таемнага студэнцкага таварыства «Патрыёты Айчыны» («Племя сарматаў»).
Студзень 1831 г. – Арганізацыя падпольнага Віленскага цэнтральнага паўстанцкага камітэта.
Сакавік 1831 г. – Пачатак паўстання ў Літве-Беларусі.
19 чэрвеня 1831 г. – Бітва на Панарскіх гарах пад Вільняй.
1836 г. – Арганізацыя нелегальнага «Дэмакратычнага таварыства».
1846–1849 гг. – Дзейнасць «Братняга саюза літоўскай моладзі».






Кніга І. Дамейкі «Араўкарыя і яе жыхары». Вільня. 1860 г.



Адзін з ініцыятараў стварэння таварыства філаматаў Францішак Малеўскі. Малюнак Валянціна Ваньковіча. Пачатак 1840-х гадоў



Сябра таварыства філаматаў Ігнат Дамейка зрабіў бліскучую навуковую кар'еру ў Чылі і стаў нацыянальным героем гэтай краіны. Гравюра другой паловы XIX ст.

Сябры таемных таварыстваў маюць вялікія заслугі ў вывучэнні гісторыі і культуры нашага народа. Яны збіралі фальклор, пад час паседжанняў чыталі навуковыя рэфераты і мастацкія творы.

У сустрэчах, якія ладзілі «прамяністыя» ў ваколіцах Вільні, брали ўдзел сотні маладых людзей. Там вяліся палітычныя дыспуты, гучалі патрыятычныя вершы і народныя песні. У дакументах філаматаў гаварылася пра неабходнасць захоўваць традыцыі продкаў, любіць і вывучаць сваю «прыродную мову», якою для большасці была беларуская.

Шмат хто з былых філаматаў і філарэтаў здабыў славу ў розных галінах дзейнасці. І. Дамейка ў эміграцыі праславіўся як выдатны вучоны-геолаг і мінеролаг, даследнік Чылі, Я. Кавалеўскі – як прызнаны манголазнаўца. Я. Чачот, Т. Зан, А. Ходзька, А. Адынец сталі вядомымі паэтамі. Большыню твораў яны напісалі папольску, але нязменна падкрэслівалі адданасць роднай зямлі – Літве-Беларусі.

У 1823 г. таварыства філаматаў і яго філіі раскрыла паліцыя. Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ян Чачот, Ігнат Дамейка, Антон Адынец, Аляксандр Ходзька ды іншыя апынуліся за кратамі. Тамаш Зан быў засуджаны да зняволення ў фартэцы, потым да высылкі і здолеў вярнуцца на радзіму толькі амаль праз дваццаць гадоў. Пазней Міцкевіч апеў сваіх таварышаў у неўміручай паэме «Дзяды».



Легендарны дзяяч вызвольнага руху Сымон Канарскі ў царскай вязніцы. Невядомы мастак першай паловы XIX ст.

На дзейнасць патрыятычных арганізацыяў мелі значны ўплыў масоны («вольныя муляры») – сябры міжнароднага таемнага таварыства, якіх аб'ядноўваў пошук шляхоў «духоўнага абнаўлення грамадства». У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. на абшары былога Вялікага Княства налічвалася блізу пятнаццаці масонскіх ложаў, куды ўваходзілі сотні «вольных муляраў», у тым ліку вельмі вядомыя ў краі асобы.

«Братамі» віленскай ложы «Руплівы ліцьвін» былі філосаф Анэл Доўгірд, мастак Ян Рустэм, кампазітар Ян Голанд. У 1827 г. Тамаш Зан стаў сябрам іншай віленскай ложы «Школа Сакрата», якой кіраваў пісьменнік Ян Ходзька, пазней зняволены за сувязь з філаматамі.



Адам Міцкевіч. Мастак Е. Сонтаг. Літаграфія пачатку XIX ст.

Старонка артыкула Адама Міцкевіча «Пра народны дух». Парыж. 1832 г.

У снежні 1825 г. «Вайсковыя сябры» сарвалі прысягу Мікалаю I у сапёрным батальёне, дзе адной з ротаў камандаваў К. Ігельстром. Ён разам з М. Рукевічам і А. Вягеліным атрымаў смяротны прысуд, які замянілі дзесяцігадовай катаргай.


Адзін з актыўных удзельнікаў вызвольнага паўстання 1794 г. Ігнат Патоцкі быў зняволены ў Пецярбурзе, а потым мусіў весці жыццё эмігранта. Мастак Матэвуш Такарскі. Канец XVIII ст.

У Навагрудку дзейнічала ложа «Вузел адзінства», у Горадні – «Сябар чалавека», у Слуцку – «Уладзіслаў Ягайла». Больш за 200 «братоў» збірала на таемныя паседжанні менская «Паўночная паходня», блізу 150 – нясвіжская «Святыня спакою». Але ў 1823 г. выйшаў указ імператара Аляксандра I пра забарону ўсіх масонскіх ложаў.

Колішні філарэт Міхал Рукевіч у 1825 г. заснаваў нелегальнае таварыства «Вайсковыя сябры», якое мела на мэце змаганне за «вольнасць» і «ўсеагульны дабрабыт». Яно дзейнічала ў дыслакаваным у Гарадзенскай губерні і Беластоцкай вобласці Літоўскім асобным корпусе царскай арміі, дзе значную частку афіцэраў складалі ліцвіны. Апрача вайскоўцаў паплечнікамі М. Рукевіча сталі мясцовыя шляхцічы, чыноўнікі, гімназісты і студэнты.

Афіцэрскі корцік XIX ст.

Паводле палітычных ідэалаў «Вайсковыя сябры» былі даволі блізкія да Паўночнага таварыства дзекабрыстаў. Сувязь з ім падтрымлівалася праз капітана Канстанціна Ігельстрома, знаёмага з расейскім дваранскім рэвалюцыянерам Вільгельмам Кюхельбекерам. Аднак лёс Літвы-Беларусі не цікавіў дзекабрыстаў, якія лічылі царскую імперыю чыста расейскай дзяржавай. Да прыкладу, кіраўнік Паўднёвага таварыства Павел Пестэль у сваёй «Рускай Праўдзе» сцвярджаў, што беларусы «должны отказаться от права особой народности». Найменні «нерусских народов» імперыі ён прапаноўваў проста скасаваць.

У 1827 г. у Віленскім універсітэце ўтварылася новае нелегальнае студэнцкае таварыства «Патрыёты Айчыны», або «Племя сарматаў». Галоўнай сваёй мэтай яно абвяшчала вызваленне земляў былой Рэчы Паспалітай з-пад расейскай ўлады. Неўзабаве арганізацыя была выкрытая і яе кіраўнікоў Канстанціна Заху, Адама Траскоўскага і Фелікса Лісоўскага выслалі шараговымі салдатамі ў дзейную армію на Каўказ.

У Віленскай медычна-хірургічнай акадэміі з ініцыятывы студэнта Францішка Савіча ў сярэдзіне 1830-х гадоў узнікла нелегальнае «Дэмакратычнае таварыства», што выступала за вызваленне сялянаў, роўнасць станаў і перадачу ўлады народу. Праз тры гады арганізацыя была разгромленая, а яе кіраўнік высланы ў салдаты на Каўказ.



Пячаткі і знакі масонскіх ложаў Літвы-Беларусі


У гэтым будынку ў Беластоку (вул. Рынак Касцюшкі) адбываліся сходы таварыства «Вайсковыя сябры». Фота Зьмітра Герасімовіча. 2005 г.




Гісторыка Тадэвуша Чацкага, які даследваў гісторыю і права Вялікага Княства Літоўскага, расейскія ўлады некалькі разоў арыштоўвалі за антыўрадавую дзейнасць. Гравюра Ё. Саўндэрса паводле карціны М. Бачарэлі. Пачатак XIX ст.



Партрэт доктара медыцыны Аўгуста Бекю. Гэты прафесар Віленскага ўніверсітэта браў удзел у разгроме патрыятычнага таварыства філаматаў, за што Адам Міцкевіч вывеў яго ў паэме «Дзяды» ў вобразе лекара, якога за грахі забівае пярун. Бекю і сапраўды памёр ад удару маланкі. Літаграфія Марцэла Янушкевіча паводле карціны Яна Рустэма. Першая палова XIX ст.

Дэмакратычнай рэспублікай бачылі ў будучым сваю краіну сябры заснаванага братамі Аляксандрам і Францішкам Далеўскімі «Братняга саюза літоўскай моладзі» («Саюза свабодных братоў») з цэнтральнай сядзібай у Вільні і аддзяленнямі ў Менску, Горадні, Навагрудку, Слоніме, Лідзе.


Філаматы і філарэты натхняліся ідэямі гісторыка і грамадскага дзеяча Яўхіма Лялевеля. Менавіта яму належыць крылаты заклік «За нашу і вашу свабоду!», звернуты да дэмакратаў былой Рэчы Паспалітай і Расейскай імперыі. Фота другой паловы XIX ст.

Нелегальны «Братні саюз літоўскай моладзі» аб'ядноўваў некалькі сотняў студэнтаў і вучняў, шляхцічаў, чыноўнікаў і рамеснікаў. Рыхтуючы антыўрадавае паўстанне, удзельнікі арганізацыі наладзілі сувязі з салдатамі Менскага гарнізона і Бабруйскай фартэцыі. У фальварку Бараўляны пад Менскам выраблялася зброя і адліваліся кулі. Жандарам удалося разграміць і гэтае таварыства, але змаганне супроць імперскага прыгнёту працягвалася.

Нелегальныя патрыятычныя арганізацыі стваралі і ліцвіны-беларусы, якія навучаліся ў расейскіх універсітэтах. У 1829 г. за прыналежнасць да таемнага таварыства быў арыштаваны студэнт Пецярбургскай медычна-хірургічнай акадэміі ігуменскі шляхціч Казімір Чарноўскі. У казематах Петрапаўлаўскай і Шлісельбургскай цытадэляў ён стварыў унікальны праект металёвай субмарыны, а таксама распрацаваў канструкцыю рухомага перыскопа і стаў аўтарам шэрагу іншых вынаходак. Але гэта не змяніла лёс вязня: пасля пяці гадоў у адзіночнай камеры Казіміра чакала высылка на поўнач і смерць у далёкім Сарапуле.


Колішняя сталіца Вялікага Княства Вільня была цэнтрам вызвольнага змагання з расейскімі каланізатарамі. Гравюра першай паловы XIX ст.



Сцяг паўстанцаў 1831 г.

Найбольш актыўна змаганне разгарнулася на Віленшчыне, а пазней – у ваколіцах Белавежскай пушчы. У Ашмянскім, Браслаўскім, Дзісенскім і Вілейскім паветах колькасць змагароў дасягнула 10 тысяч. Усяго на землях колішняга Вялікага Княства ў 1831 г. узялі ў рукі зброю каля 35 тысяч патрыётаў.

## Паўстанне 1831 года

Вальналюбны дух Тадэвуша Касцюшкі і Якуба Ясінскага па-ранейшаму натхняў патрыётаў краю. Увесну 1831 г. услед за Польшчай Літва-Беларусь зноў паўстала. Правадыры паўстання – як радыкалы-рэспубліканцы, прыхільнікі Яўхіма Лялевеля, так і кансерватары-арыстакраты на чале з Адамам Чартарыйскім – дамагаліся ўзнаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Інсургентаў падтрымлівала каталіцкае і вуніяцкае святарства. Інтарэсы сялянаў амаль не ўлічваліся, а таму асноўнай сілаю паўстанцаў была шляхта.



Змагароў за незалежнасць у Літве-Беларусі натхняла Маці Божая Вастрабрамская. Тагачасны медальён. Срэбра

Раменная бляха з адзення інсургента



Заява Эміліі Плятэр пра добраахвотнае далучэнне да паўстанцаў «толькі з любові да Айчыны». 25 сакавіка 1831 г.



Удзельнік вызвольнага паўстання 1831 г. Міхал Валовіч (злева) з сябрам і паплечнікам Артурам Завішам. Пасля паразы паўстання Міхал вярнуўся з эміграцыі на радзіму, каб працягваць змаганне. Абодва загінулі ад рук расейскіх карнікаў. Малюнак невядомага мастака першай паловы XIX ст.

На памежжы Віцебскай і Віленскай губерняў паспяхова ваявал паўстанцкі аддзел, створаны маладой графіняй Эміліяй Плятэр – беларускай фалькларысткай і паэткай, якая за мужнасць у баях атрымала званне капітана.



Паэтка і фалькларыстка графіня Эмілія Плятэр у часе паўстання заслужыла славу ліцьвінскай Жаны д'Арк. Малюнак Я. Расэна. Пачатак XX ст.

Вільня апынулася ў паўстанцкай блакадзе, але вызваліць горад не ўдалося. Тым не менш напачатку інсургенты атрымалі некалькі перамогаў. 3-тысячны шляхоцка-сялянскі аддзел заняў і колькі дзён утрымліваў Дзісну.





Медаль у гонар вызвольнага паўстання 1831 г. Медальер Ж. Бурэ. 1832 г.



Удзельнік паўстання 1831 г. Яўстах Каэтан Сапега пасля паразы змагароў за свабоду стаў эмігрантам. Нашчадак славутага магнацкага роду адмовіўся ад прапановы цара Мікалая І вярнуць сабе маёмасць наўзамен прысягі на вернасць расейскаму трону. У выніку багатыя музейныя і кніжныя зборы, а таксама архіў Сапегаў былі вывезеныя ў Пецярбург. Невядомы мастак сярэдзіны XIX ст.

Добра ўзброенае рэгулярнае царскае войска ў траўні перамагло паўстанцаў у Менскай і Віленскай губернях, але барацьба разгарэлася на Гарадзеншчыне – у Белавежскай пушчы і яе наваколлі. Нацыянальны ўрад у Варшаве накіраваў на дапамогу інсургентам-ліцьвінам моцны аддзел генерала Д. Хлапоўскага, які разбіў у пушчы царскіх карнікаў. Ён злучыўся з мясцовымі партызанамі і 12-тысячным корпусам генерала А. Гелгуда. Аднак у чэрвені на Панарскіх гарах пад Вільняй аб'яднаныя сілы інсургентаў прайгралі бітву 26-тысячнаму расейскаму войску. Карнікі страцілі там 365 салдатаў і афіцэраў, дакументаў пра нашых палеглых не захавалася.

Генерал Г. Дэмбінскі з чатырма тысячамі змагароў здолеў адарвацца ад ворага і праз Жодзішкі, Смаргонь, Дзятлава, Дзярэчын, Зэльву, Поразава і Белавежскую пушчу адступіў на захад. Гэты паход выклікаў паўстанне ў Навагрудскім і Слонімскім паветах. Інсургентаў узначаліў там удзельнік вайны 1812 г. на баку Напалеона паветовы маршалак Язэп Кашыч. Ягоны аддзел вырас да тысячы вояроў, якія сярод іншых удалых дзеянняў вызвалілі мястэчка Беліцу, а ў Навагрудку раззброілі расейскую вайсковую каманду і выпусцілі з астрога арыштаваных паплечнікаў. У ліпені іскры паўстання перакінуліся на поўдзень – у Рэчыцкі, Мазырскі і Пінскі паветы, але і гэтыя выступленні былі асуджаныя на няўдачу. У жніўні расейскія карнікі задушылі апошнія агмені супраціву.

Слонімскаму шляхцічу-рэвалюцыянеру Міхалу Валовічу па вяртанні на радзіму ўдалося сфармаваць невялікі аддзел партызанаў і распачаць дзеянні супраць царскай адміністрацыі. Але ў траўні 1833 г. змагары былі разбітыя, а Валовіч паводле прысуду ваенна-палявога суда павешаны ў Горадні.

Нягледзячы на рэпрэсіі, у народзе мацнела пачуццё нацыянальнай годнасці. Праз трыццаць гадоў край зноў падняўся на змаганне.

Тысячы патрыётаў мусілі пакідаць краіну. Сярод іх знаходзіўся Генрык Дмахоўскі, які стаў вядомым скульптарам і стварыў для Кангрэса ЗША бюсты Т. Касцюшкі і Т. Джэфэрсана. Тры дзесяцігоддзі пражыў на чужыне яшчэ адзін удзельнік паўстання паэт, фалькларыст і мастак Аляксандр Рыпінскі. Эмігрантамі зрабіліся інсургент, у будучым вучоны з сусветным імем Ігнат Дамейка і прыхільнік паўстанцаў Адам Міцкевіч. У Парыжы выдаваў творы А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Я. Лялевеля адзін з арганізатараў паўстання ў Ашмянскім, Навагрудскім і Слуцкім паветах Яўстах Янушкевіч, які пакінуў надзвычай цікавыя мемуары.

Дзеля аднаўлення збройнага змагання выгнанцы падрыхтавалі ў Францыі экспедыцыю на чале з актыўным удзельнікам мінулага паўстання Язэпам Заліўскім. Невялікія групы эмісараў разлічвалі перайсці расейскую мяжу і стварыць партызанскія фармаванні. У экспедыцыі браў удзел вядомы дзяяч вызвольнага руху Сымон Канарскі, якога пазней схапілі і расстралялі ў Вільні.



Бубен аднаго з часцінаў Літоўскага асобнага корпусу расейскай арміі, у якім служылі ўдзельнікі таварыства «Вайсковыя сябры»

Паўстанне 1831 г. мела і міжнароднае значэнне. Геройчная барацьба нашых продкаў не дазволіла Расеі паслаць войскі на задушэнне рэвалюцыі ў Францыі.

# КАЛАНІЯЛЬНЫ ЎЦІСК. РУСІФІКАЦЫЯ

Карта Еўропы з алегарычнай выявай расейскага самаўладдзя. 1870 г.




Улады канфіскоўвалі маёнткі, пазбаўлялі паўстанцаў дваранскіх правоў (шляхоцтва адабралі ў 10 тысяч нашых суайчыннікаў). На далучаным да імперыі абшары хутка пашыралася землеўладанне расейскіх дваранаў і чыноўнікаў, якія дзеля гэтага атрымлівалі шматлікія прывілеі. На плячах гараджанаў і сялянства ляжаў велізарны цяжар падаткаў і павіннасцяў. Разам узятыя даходы Менска, Віцебска, Магілева, Горадні, Полацка, Берасця, Пінска і Бабруйска былі ў 2,5 раза меншыя за гадавы даход, які расейскі князь Паскевіч атрымліваў з аднаго толькі Гомельскага маёнтка.

У 30-х гадах XIX ст. праводзілася чыстка дзяржаўных установаў, судоў, органаў асветы ад службоўцаў мясцовага паходжання. Месцы звольненых займалі народзінцы цэнтральных расейскіх губерняў, якіх вабілі вялікія даплаты да заробкаў. Усё справаводства было пераведзенае на расейскую мову.

Пасля паўстання 1831 г. нацыянальны ўціск на землях Літвы-Беларусі рэзка ўзмацніўся. Пры расейскім урадзе быў створаны адмысловы Камітэт па справах заходніх губерняў, мэтаю дзейнасці якога стала поўная русіфікацыя краю.



Расейская ўлада ў захопленым краі трымалася на армейскіх штыхах. Генерал-фельдмаршал князь І. Паскевіч. Мастак С. Маршалкевіч. Першая палова XIX ст.



Гомельскі маёнтак князя Паскевіча ўражваў багаццем і раскошаю нават асобаў імператарскай дынастыі. Мастак М. Залескі. Сярэдзіна XIX ст.

Справа канцылярыі царскага міністра асветы пра забарону ў беларускім друку лацінскага шрыфту і немагчымасць выдання беларускага перакладу паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», зробленага Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам. 1859 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

1820 г. – Закрыццё Полацкай акадэміі.

1831 г. – Скасаванне дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага ў Віцебскай і Магілеўскай губернях.

1831–1848 гг. – Дзейнасць Камітэта па справах заходніх губерняў.

1832 г. – Закрыццё Віленскага ўніверсітэта.

1836 г. – Перавод навучання ў школах на расейскую мову.

1839 г. – Скасаванне Берасцейскай царкоўнай вуніі і далучэнне грэка-каталікоў да расейскай праваслаўнай царквы.

1840 г. – Царскі ўказ пра забарону выкарыстання ў афіцыйных дакументах назоваў «Літва» і «Беларусь» і іх замену на «Северо-Западный край».

Скасаванне дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага ў Менскай, Гарадзенскай і Віленскай губернях і поўнае ўвядзенне расейскага заканадаўства.

1842 г. – Закрыццё Віленскай медычна-хірургічнай акадэміі.

1859 г. – Забарона выкарыстання ў беларускім друку лацінскага шрыфту.

1864 г. – Забарона размаўляць у навучальных установах на роднай (не расейскай) мове.

Закрыццё Горы-Горацкага земляробчага інстытута.



Полацкі кадэцкі корпус. Ровень адукацыі ў ім быў нашмат ніжэйшы за той, што давала Полацкая акадэмія. Паштоўка пачатку XX ст.



У ажыццяўленні сваіх імперскіх планаў каланізатары цалкам пагарджалі інтарэсамі нашых людзей. Адным з самых красамоўных прыкладаў гэтага стаў драматычны лёс Берасця. Дзеля пабудовы вайсковай фартэцы расейскія ўлады знішчылі цэлы горад, які лічыўся адным з найпрыгажэйшых ва Усходняй Еўропе. Берасцейцаў перасялілі за тры кіламетры, а на месцы іхных зруйнаваных дамоў, старажытных храмаў, манастыроў, палацаў у 1830–1840-х гадах была ўзведзеная царская цытадэль.

Ад 1837 да 1867 г. у пяці беларускіх губернях дзейнічала палажэнне, паводле якога нават асоба дваранскага стану вольна перамяшчацца магла толькі па сваёй губерні, а каб выехаць за яе межы, трэба было мець адмысловы дазвол.

Спачатку ў Віцебскай і Магілеўскай губернях, а потым і на ўсёй тэрыторыі колішняга Вялікага Княства было скасаванае дзеянне Статута 1588 г.

У школах усіх роўняў расейская мова замяніла польскую, якую наагул забаранілі выкладаць. Разам з тым за ўвесь перыяд свайго гаспадарання ў Беларусі царскія ўлады не дазволілі адчыніць ніводнай беларускай школы.

Каланіяльныя ўлады мэтанакіравана распраўляліся з навучальнымі ўстановамі, што зрабіліся моцнымі асяродкамі апазіцыі царызму. Яшчэ ў 1820 г. была зачыненая Полацкая акадэмія, якая мела ўніверсітэцкі статус. Трэцяя частка студэнтаў Віленскага ўніверсітэта ўдзельнічала ў паўстанні 1831 г. Гэта сталася падставаю для закрыцця галоўнай вышэйшай школы нашай краіны. На аснове ўніверсітэцкага медычнага факультэта ўлады стварылі Віленскую медычна-хірургічную акадэмію, але і яна праіснавала ўсяго дзесяць гадоў. Пасля гэтага ў краі зусім не засталося вышэйшых навучальных установаў. (Заснаваны ў 1848 г. Горы-Горацкі земляробчы інстытут царскія ўлады ў 1864 г. таксама зачынілі за ўдзел выкладчыкаў і студэнтаў у новым вызвольным паўстанні.) Каланізатары ставілі за мэту пазбавіць Літву-Беларусь сваёй інтэлігенцыі.

Русіфікатары кіраваліся меркаваннем, што расейская школа зробіць для заняволення краю нязмерна болей за расейскую армію.

У правядзенні палітыкі русіфікацыі і вынішчэнні ўсяго нацыянальнага найбольш вызначыўся былы дзекабрыст Міхаіл Мураўёў, які з 1832 г. служыў менскім ваенным губернатарам. Звяртаючыся да беларускага дваранства, ён папярэджваў: «Помните, что если вы не станете по своим мыслям и чувствам русскими, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край».

На праваслаўны ўзор быў перабудаваны і славуты Фарны касцёл («Фара Вітаўта») у Горадні. Паштоўка пачатку XX ст.



Навучальныя карпусы Горы-Горацкага земляробчага інстытута, зачыненага царскімі ўладамі ў 1864 г. за ўдзел выкладчыкаў і студэнтаў у паўстанні К. Каліноўскага. Акварэль Напалеона Орды. Другая палова XIX ст.





Ліст Язафата Булгака (на той час епіскапа берасцейскага) у справе абароны вуніяцкай царквы. 1801 г.




Медаль «Торжество православия» ў гонар гвалтоўнага скасавання царкоўнай вуніі. 1839 г.



Язафату Булгаку выпала быць апошнім грэцка-каталіцкім мітрапалітам. Смерць гэтага непахіснага абаронцы вуніі ў 1838 г. паскорыла расправу з ёю. Мастак Іван Хруцкі. 1838 г.



Партрэт расейскага імператара Аляксандра I. Першая палова XIX ст. Пасля вайны з Францыяй ён праводзіў рэакцыйную палітыку, у выніку чаго ўзмацніліся нацыянальны прыгнёт і прыгонніцтва

Закрыццё вуніяцкіх храмаў, кляштараў і навучальных установаў суправаджалася масавым дзікунскім паленнем кніг і знішчэннем царкоўных інтэр'ераў, якія не адпавядалі канонам расейскага праваслаўя.

Актыўная падтрымка паўстання 1831 г. грэцка-каталіцкім духавенствам узмацніла наступ на вуніятаў, што складалі больш за тры чвэрці беларускага насельніцтва. Імператар Мікалай I загадаў зачыніць сорак базыльянскіх кляштараў, якія ён называў «неприятельскими крепостями».

Але нават ва ўмовах жорсткага пераследу ў Беларускай вуніяцкай дыяцэзіі (царкоўнай акрузе) у 1838 г. з 680 святароў за далучэнне да праваслаўя падпісаліся толькі 186. Тым не менш у наступным годзе пад апекаю каланіяльных уладаў адбыўся Полацкі царкоўны сабор, што прыняў пастанову пра вяртанне грэка-каталікоў «в лоно прародительской веры, дабы пребывать отныне в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода».

Ліцьвіноў-вуніятаў пераводзілі ў праваслаўе з шматлікімі здзекамі, пра што абурана пісалі Леў Талстой і Аляксандр Герцэн.

Былыя вуніяты супрацьўляліся ўвядзенню ў набажэнства расейскай мовы. Запісы фалькларыстаў сведчаць, што ўжо ў другой палове XIX ст. у праваслаўных парафіях вернікі на загад святара спяваць «Господи, помилуй!» адказвалі: «Мы не маскалі, каб так спяваць!»

Падзяліўшы нашых суайчыннікаў на праваслаўных і каталікоў, царскія ўлады атрымалі магчымасць даводзіць, нібыта каталікі – гэта выключна палякі, а праваслаўныя – рускія.



Падрыхтаваўшы глебу забаронай народнае веры, царызм зрабіў новы ўдар па нацыянальным быцці ліцьвіноў-беларусаў. У 1840 г. Мікалай I адмысловым загадам забараніў ужываць у афіцыйных дакументах найменні «Літва», «літоўскі» і «Беларусь», «беларускі». Замест іх у дачыненні да Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай, Ковенскай, Магілеўскай і Менскай губерняў уводзіўся назоў «Северо-Западный край». Праз тыдзень царскім указам Статут Вялікага Княства на ўсёй гэтай тэрыторыі быў заменены на расейскае заканадаўства.

З яшчэ большым размахам працягвалася рабаванне нашых культурных і гістарычных скарбаў, каб сцерці ў будучых пакаленнях памяць пра былую незалежную дзяржаву. На ўсход вывезлі Галоўны архіў Вялікага Княства з сотнямі тамоў Літоўскай Метрыкі, які падзялілі паміж пецярбургскімі і маскоўскімі ўстановамі. Архіў зачыненага Віленскага ўніверсітэта быў перададзены расейскаму міністэрству народнай асветы. Адпраўлялі ў расейскія сталіцы багатыя бібліятэкі нашых арыстакратаў і навучальных установаў.

Кнігазбор Віленскай альма-матэр, які налічваў 52 тысячы тамоў, перадалі па частках у Пецярбург, Харкаў і Кіеў.

Полацак развітаўся з бібліятэкай колішняй акадэміі, дзе захоўвалася 40 тысяч кніг і рукапісаў, у тым ліку, магчыма, неацэнны Полацкі летапіс ці яго копія. Публічная бібліятэка ў Пецярбурзе выбрала сабе «все редкие и роскошные издания, коих она не имеет и, следовательно, могущие служить ее украшением». У бібліятэку Пецярбургскага ўніверсітэта трапілі 6274 кнігі. Следам за імі ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў павезлі ўнікальныя калекцыі створанага полацкімі айцамі-езуітамі музея і найлепшыя творы карціннай галерэі.



Выпускнік Полацкага кадэцкага корпуса Гасан Канапацкі (з знакамітага роду беларускіх татараў) насуперак выхаванню ў вернападданніцкім духу стаў актыўным дзеячом нашага нацыянальнага руху



Удзельнік паўстання 1863 г. Уладзіслаў Дыбоўскі, які надоўга быў пазбаўлены магчымасці займацца навуковай працай, пазней здабыў еўрапейскую вядомасць у галіне батанікі і заалогіі

Царскі сатрап-русіфікатар Міхаіл Мураўёў у юнацтве быў дзекабрыстам. Фота 1856 г.






Беларуская вёска на Прыпяці. Фота пачатку XX ст.




«Выгнанец з Белай Русі». Кніга пра выгнанне з Расейскай імперыі сяброў Таварыства Ісуса і ліквідацыю яго навучальных установаў. 1821 г.

Чвэрць стагоддзя мусіў жыць і працаваць за мяжой мастак і кампазітар Напалеон Орда. Фота другой паловы XIX ст.



Беларус з паходжання кампазітар Мадэст Мусаргскі. Мастак І. Рэпін. 1881 г.

Беларусы былі «гарматным мясам» у захопніцкіх царскіх войнах на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі. Карціна Януара Сухадольскага «Здача фартэцы Абас-Абад». Сярэдзіна XIX ст.

Такое раскраданне нашых нацыянальных каштоўнасцяў адбывалася скрозь. Сёння ў адной толькі Дзяржаўнай бібліятэцы Расеі ў Маскве знаходзяцца 82 скарынаўскія выданні (прычым ёсць дублетныя). У нашай жа Нацыянальнай бібліятэцы іх толькі дзесяць, а на радзіме першадрукара, у полацкім Музеі беларускага кнігадрукавання, няма ніводнага. На пальцах адной рукі можна злічыць славутыя слуцкія паясы (пераважна іх фрагменты), якім пашчасціла застацца ў Беларусі. Між тым у расейскіх музейных зборах іх налічваюцца дзясяткі, а магчыма, і сотні (да прыкладу, 14 – у Музеі этнаграфіі ў Пецярбурзе).

У Расею была вывезеная бальшыня мастацкіх калекцыяў ліцвінскай арыстакратыі. Унікальныя творы, сабраныя ў Нясвіжскім замку Радзівілаў, аздобілі сабой пецярбургскія і маскоўскія музейныя экспазіцыі. Мастацкі збор Сапегаў цяпер можна ўбачыць у Смаленскім гістарычна-археалагічным музеі.

Нашыя продкі разглядаліся як заходняе адгалінаванне «русского племени» без сваёй асобнай мовы і культуры. Палітыка царызму мела ў Літве-Беларусі выразны каланіяльны характар.

Адкрыццё ў Ноўгарадзе помніка 1000-годдзю Расеі, створанага скульптарам-беларусам Міхаілам Мікешыным. Мастак Б. Вілевальдэ. 1864 г. Ноўгарадская дзяржава з яе моцнымі дэмакратычнымі традыцыямі мела свой адметны гістарычны шлях. Захапіўшы ў XV ст. Ноўгарад, маскоўцы прысабечылі яго багатыя культурныя здабыткі. Прысвоілі яны і ягоную гісторыю, пра што яскрава сведчыць святкаванне там юбілею, які фактычна быў 1000-годдзем не Расеі, а захопленай ёю зямлі



У Пецярбурзе вырашалася нават тое, колькі гарадоў дазволена мець Беларусі. Калі ад 1861 да 1905 г. у расейскіх губернях статус гарадоў атрымалі блізу 400 паселішчаў, то на нашых землях толькі два – Горы-Горкі і Смаргонь.

Каланіяльныя ўлады навязалі краю монакультуру – бульбу, каб гнаць гарэлку ледзь не для ўсёй імперыі. Літва-Беларусь трапіла ў жудасную водкупную сістэму, што прыносіла расейскаму бюджэту велізарныя даходы. Чалавек, які адкупляў сабе права гандляваць у нейкай тэрыторыі скарбовай гарэлкай, фактычна займаўся спойваннем насельніцтва, карыстаючыся ў гэтым дзяржаўнай падтрымкай.



Выдатны матэматык і механік, першая ў свеце жанчына-прафесар Соф'я Кавалеўская паходзіла з беларускага шляхоцкага роду Корвін-Крукоўскіх. Фота 1890 г.

Расейскі ўрад спойваў беларусаў, абавязваючы кожнага селяніна выпіць за год пэўную колькасць гарэлкі. Калі ж той адмаўляўся, то ўсё адно мусіў сплаціць за неспажытую атруту вызначаныя грошы. Нашыя продкі нярэдка адказвалі на гэта так званымі «цвярозымі бунтамі». Змаганне супраць спойвання ўзначальвалі каталіцкія і вуніяцкія святары.

Каланізатары высмоктвалі як матэрыяльныя багацці, так і інтэлектуальныя сілы краю. Адсутнасць вышэйшых навучальных установаў, забарона беларускай мовы ў навучанні і кнігадрукаванні спрычыняліся да таго, што шмат нашых суайчыннікаў рабіліся дзеячамі расейскай навукі і культуры.



Парадныя сходы Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, дзе вучыліся многія таленавітыя беларусы. Мастак І. Іваноў. 1830 г.

Беларусамі-ліцьвінамі з паходжання былі вядомыя літаратары XIX ст. Тадэвуш (Фадзей) Булгарын і Фёдар Глінка, кампазітары Язэп (Восіп) Казлоўскі, Міхаіл Глінка, Мадэст Мусаргскі, скульптар Міхаіл Мікешын... Таленавітых прыгонных артыстаў з Беларусі прадавалі імператарскім тэатрам Пецярбурга і Масквы. На іх сцэнах з бліскучым поспехам выступалі прымадонны Пелагея і Кацярына Азарэвічы, а потым дзве дачкі Кацярыны – Марыя і Надзея.



Кампазітар Міхаіл Глінка быў родам з беларускай Смаленшчыны. Фотапартрэт 1850-х гадоў

У навуковым свеце здабылі сабе славу аўтар першага японска-расейскага слоўніка Язэп Гашкевіч, укладальнік першага слоўніка якуцкай мовы Эдвард Пякарскі, падарожнікі Мікалай Перавальскі (Пржавальскі) і Рыгор Грум-Грымайла (Грум-Гржымайла), даследнікі Сібіры Ян Чэрскі і Бенядзікт Дыбоўскі, матэматык Соф'я Кавалеўская (Корвін-Крукоўская), пісьменнік і падарожнік, аўтар грунтоўнага апісання тагачасных Казахстана і Кіргізіі Адольф Янушкевіч, заснавальнікі сучаснага глебазнаўства Васіль Дакучаеў і эвалюцыйнай палеанталогіі Уладзімір Кавалеўскі...

Нашчадкамі беларусаў-паўстанцаў 1863 г. былі славутыя пісьменнік Аляксандр Грын (Грынеўскі) і кампазітар Дзмітр Шастаковіч. Дарэчы, з ліцьвінскіх шляхоцкіх родаў, якія апынуліся ў Расеі, паходзілі пісьменнікі Фёдар Дастаеўскі, Іван Бунін і Юры Алеша, а паэт і актор Уладзімір Высоцкі, як вядома, вёў свой радавод з населенай беларусамі Мяшчанскай слабады ў Маскве.

Аляксандр II загінуў ад рук нарадавольца, беларускага шляхціча Ігната Грынявіцкага. Сакавік 1881 г.



# ПАЎСТАННЕ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА



Шляхоцкі герб «Калінова», якім карыстаўся род Каліноўскіх



Валер Урублеўскі быў адным з найбольш выдатных кіраўнікоў паўстання. 1860-я гады



Паўстанец Ігнат Здановіч, павешаны ў Вільні 2 студзеня 1864 г. Фота 1861 г.

У 1863 г. Літва-Беларусь зноў паўстала супроць імперскага прыгнёту. Змагароў узначаліў выдатны сын нашага народа Вінцэнт Канстанцін Каліноўскі.

Яго радзіма – вёска Мастаўляны Гарадзенскага павета (цяпер у Падляшскім ваяводстве Польшчы). Каліноўскі паходзіў з шляхоцкага роду, вядомага ад XVII ст. Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Свіслацкай павятовай навучальні, а затым скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Ужо ў студэнцтве ён разам з братам Віктарам далучыўся да палітычнай барацьбы з царызмам і ўвайшоў у рэвалюцыйны гуртох Зыгмунта Серакоўскага і Яраслава Дамброўскага. Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, Каліноўскі стварыў у Горадні і Гарадзенскай губерні нелегальную арганізацыю, а ўвосень 1861 г. стаў сябрам Камітэта руху (пазней перайменаваны ў Літоўскі правінцыйны камітэт) – віленскага цэнтра падрыхтоўкі вызвольнага паўстання ў Літве-Беларусі.



Нацыянальны герой Беларусі Кастусь (Вінцэнт Канстанцін) Каліноўскі. Фота Ахіла Банольдзі. 1862 г.




Вокладка даклада Аддзела кіравання правінцыямі Літвы Нацыянальнаму ўраду ў Варшаве. 28 красавіка 1863 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

| | |
|---|---|
| 2 лютага 1838 г. – 22 сакавіка 1864 г. – | Жыццё і дзейнасць Кастуся Каліноўскага. |
| 1862–1863 гг. – | Выданне нелегальнай «Мужыцкай праўды», першай газеты на беларускай мове. |
| 1 лютага 1863 г. – | Маніфест Часовага ўрада Літвы з заклікам да паўстання. |
| 13 лютага 1863 г. – | Захоп інсургентамі горада Пружаны. |
| 11 сакавіка 1863 г. – | Пераход кіраўніцтва паўстаннем да «белых». |
| 6 траўня 1863 г. – | Паўстанцы ўзялі горад Горы-Горкі. |
| 3 чэрвеня 1863 г. – | Бітва паўстанцаў з царскімі войскамі каля Мілавідаў. |
| 10 лютага 1864 г. – | Арышт К. Каліноўскага. |





Адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання Зыгмунт Серакоўскі. Пакараны смерцю на Лукішскім пляцы ў Вільні 27 ліпеня 1863 г. Фота А. Корзана. Пачатак 1860-х гадоў

Пячаткі Літоўскага камітэта – Часовага паўстанцкага ўрада






N 3.

MUŽYCKAJA PRAUDA.

Dzianciuki!



10

MUŽYCKAJA PRAUDA.

Dzianciuki!

Трэці і шосты нумары нелегальнай беларускай газеты «Мужыцкая праўда»

Справе будучага збройнага змагання служыла і нелегальная беларуская газета «Мужыцкая праўда», што Каліноўскі пачаў выдаваць у 1862 г. супольна з паплечнікамі па рэвалюцыйнай арганізацыі Валерам Урублеўскім, Феліксам Ражанскім і Станіславам Сангінам. Надзелены яскравым публіцыстычным і літаратурным талентам, Кастусь Каліноўскі быў аўтарам і рэдактарам большасці нумароў газеты, якую нязменна падпісваў псеўданімам «Яська-гаспадар з-пад Вільні».

«Мужыцкая праўда» пашыралася па ўсім абшары краю. Яна выкрывала русіфікатарскую палітыку, вяла гаворку пра рэкруцкія наборы і рэлігійны прыгнёт, імкнулася развеяць ілюзіі сялянаў, звязаныя з царскім маніфестам пра скасаванне прыгоннага права. «У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці памаскоўку, а то для таго, каб цябе саўсім перарабіці на маскаля...» – звярталася газета да простага люду. Апошні, сёмы, нумар газеты пабачыў свет ужо ў час паўстання. Там гучаў заклік да барацьбы з каланізатарамі: «Падумайце добра да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашу вольнасць!.. Трэба нашым хлопцам спяшаць з віламі ды з косамі там, дзе дабіваюцца волі ды праўды».

Увосень 1862 г. Кастусь Каліноўскі стаў на чале Літоўскага правінцыйнага камітэта і згуртаваў вакол сябе найбольш паслядоўных рэвалюцыянераў, якіх адрозна ад лібералаў («белых») называлі «чырвонымі». Гэтае крыло паўстанцкага кіраўніцтва выступала за роўныя правы станаў, за перадачу зямлі сялянам і ў перспектыве – за дэмакратычную рэспубліку. Каліноўскі лічыў, што народы былога Вялікага Княства павінны самі вырашыць пытанне пра сваю незалежнасць. (Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што паўстанцкі правадыр выказваў ідэю стварыць цалкам незалежнае і ад Польшчы, і ад Расеі Вялікае Княства Літоўскае.) «Белыя» ж бачылі будучыню ў аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.



Паўстанцы. Акварэль 1863 г.



Інсургент. Фота 1863 г.

Загад паўстанцкага начальніка Беластока
пра збор складак на падтрымку інсургентаў.
31 траўня 1863 г.



N.1.

ROZKAZ

NACZELNIKA MIASTA BIAŁEGOSTOKU

Doszło do wiadomości Naczelnika Miasta że niektóre osoby poważyli się zbierać pieniądze i inne rzeczy na korzyść Narodowego powstania, nie mając na to upoważnienia od Rządu, a zatem nie podlegając Jego kontroli; a także — iż wielu, a mianowicie kobiety, z ujmą swego honoru, przez swą łatwowierność przyjmują za prawdę i rozpowszechniają najniedorzeczniejsze wieści, rozsiewane przez ludzi złej woli, — przechwalają się, iż coś czynią na korzyść kraju, — lub przez domysły najmylniej wykazują osoby niby należące do organizacii, a przez to niejako stają się niepłatnymi pomocnikami moskiewskich szpiegów; a zatem Naczelnik Miasta postanawia:

Osoby, które się poważą bez upoważnienia Władzy Narodowej zbierać jakie bądź składki na rzecz powstania, karać według praw, — Imiona zaś gadatliwych, jako szkodliwych, w pismach Narodowych ogłaszać.

Policii Miejskiej i wszystkim Członkom Organizacii rozkazuje, o ludziach notowanych natychmiast właściwej Władzy donosić.

Dan Maja 31 d. 1863 r.






Паўстанцкі сцяг
з гербамі
Польшчы
і Літвы-Беларусі

Праз тыдзень пасля першага збройнага выступлення інсургентаў у Варшаве Літоўскі правінцыйны камітэт быў пераўтвораны ў Часовы ўрад Літвы, які 1 лютага 1863 г. выдаў да жыхароў краю маніфест аб паўстанні.

У сакавіку–красавіку пачалося хуткае стварэнне паўстанцкіх аддзелаў, куды пераважна ўступалі шляхта, чыноўнікі, студэнты і навучэнцы. Пятую частку ўзброеных змагароў складалі сяляне, што, адгукнуўшыся на заклік Каліноўскага, браліся за косы і вілы. Некаторыя паўстанцкія аддзелы ўяўлялі сабой даволі вялікую сілу. Да прыкладу, пад камандаю Зыгмунта Серакоўскага дзейнічала створанае на Ковеншчыне 2-тысячнае злучэнне.

Паўстанцкія фармаванні ўзначалілі адданыя ідэалам свабоды патрыёты: Валер Урублеўскі, Рамуальд Траўгут, Людвік Нарбут, Ігнат Будзіловіч, Цітус Далеўскі, Генрык Дмахоўскі, Антон Трусаў, Тамаш Грыневіч, Людвік Звяждоўскі, Фелікс Віславух, Отан Грабніцкі, Юльян Бакшанскі, Баляслаў Кульчыцкі, Лявон Плятэр, Раман Рагінскі, Баляслаў Святарэцкі, Зыгмунт Мінейка...

Напачатку паўстанцы атрымалі некалькі значных перамог. Аддзел Людвіка Звяждоўскага заняў горад Горы-Горкі на ўсходзе Беларусі. На захадзе інсургенты авалодалі Пружанамі і мястэчкам Свіслач. З баямі прайшло праз Гарадзенскую губерню да Пінскага павета фармаванне Рамана Рагінскага. Паспяхова ваявалі з расейскімі карнікамі на Лідчыне змагары Людвіка Нарбута.

Паўстанцкі вайсковы начальнік Магілёўскага ваяводства Людвік Звяждоўскі. Павешаны карнікамі 27 лютага 1864 г.
Фота сярэдзіны XIX ст.



Ад лета 1863 г.
Цітус Далеўскі
быў найбліжэйшым
памочнікам Кастуся
Каліноўскага
ў кіраўніцтве
паўстаннем.
Расстраляны
на Лукішскім пляцы
11 студзеня 1864 г.
Тагачаснае фота



Паўстанец Лявон
Плятэр, расстраляны
ў Дынабургу
27 траўня 1863 г.
Фота сярэдзіны XIX ст.



Rząd narodowy K.n. 307.
Wydział zarządz: Prow: Litwy
mianuje obywatela Stanisława Wiskowskiego
naczelnikiem miasta Hory-Horki
Wilno 13/1 Marca 1863

Загад
паўстанцкага
ўрада аб
прызначэнні
Станіслава
Віскоўскага
начальнікам
горада
Горы-Горкі





Адзін з кіраўнікоў
паўстання, рэзідэнт
урада «белых»
у Літве-Беларусі
Якуб Гейштар.
Фота 1870-х гадоў

Але царскія ўлады змаглі падмануць значную частку сялянаў, якія паверылі, нібыта «паны б'юцца за вяртанне прыгону». Шырокага сялянскага паўстання баяўся і лагер «белых». Іх задаволіла б аднаўленне Рэчы Паспалітай. Яны не прымалі дэмакратычнай праграмы Каліноўскага і разлічвалі не на падтрымку сялянства, а на дапамогу заходнееўрапейскіх дзяржаваў. Захапіўшы ў свае рукі цэнтр паўстання ў Польшчы, «белыя» здолелі расфармаваць рэвалюцыйны Часовы ўрад Каліноўскага і стварылі Аддзел кіравання правінцыямі Літвы на чале з буйным абшарнікам Якубам Гейштарам.

У Віцебскай і Магілёўскай губернях рэгулярныя царскія войскі задушылі змаганне ўжо ў траўні. Былі разбітыя і амаль усе аддзелы інсургентаў на Меншчыне. Расейскія карнікі доўга не маглі справіцца з «мяцежнікамі» толькі на Гарадзеншчыне, дзе ваяводскім камісарам стаў Каліноўскі, а ў шэрагах паўстанцаў ваявала шмат сялянаў.



Наш суайчыннік Рамуальд Траўгут у кастрычніку 1863 г. узначаліў Нацыянальны ўрад у Варшаве і стаў кіраўніком усяго паўстання. Павешаны ў Варшаўскай цытадэлі 5 жніўня 1864 г.
Фота сярэдзіны XIX ст.



Загад пра
расстрэл
у Горадні
паўстанца
Дамініка
Талінскага



Пісталеты паўстанцаў

Царскі ўрад выпусціў медаль «За усмирение польского мятежа». Яго наклад быў 368 тысяч 133 паасобнікі, што сведчыла як пра велізарныя сілы, кінутыя супроць паўстанцаў, так і пра маштаб змагання з каланізатарамі.



Шабля-
карабэля
часоў
паўстання
1863 г.

На тэрыторыі колішняга Вялікага Княства Літоўскага ад лютага да жніўня 1863 г. адбылося блізу 100 бітваў і баявых сутычак каліноўцаў з царскай арміяй. Найбольшай была бітва пад Мілавідамі (цяпер Баранавіцкі раён), дзе расейцам супрацьстаялі гарадзенскі, наваградскі, пружанскі, ваўкавыскі і слонімскі паўстанцкія аддзелы. Злучаныя сілы інсургентаў, якімі камандаваў Аляксандр Лянкевіч, адбілі ўсе атакі добра ўзброеных і вымуштраваных карнікаў. Сёння пра тую перамогу нагадваюць у Мілавідах капліца-помнік і мемарыяльны камень.




Медны царскі
медаль
«За усмирение
польского
мятежа».
1864 г.



Віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў, празваны Вешальнікам. Фота сярэдзіны 1860-х гадоў

Агульная колькасць змагароў, палеглых у Літве-Беларусі, невядомая. З ліку тых, каго ўзялі ў палон або арыштавалі, 128 былі павешаныя ці растраляныя, 853 асуджаныя на катаргу, блізу 12,5 тысячы – на высылку ці службу ў арыштанцкіх ротах. На больш чым 6 тысяч інсургентаў наклалі адміністрацыйныя пакаранні.

На пачатку лета кіраўніцтва паўстаннем зноў перайшло да «чырвоных». Рэвалюцыйны ўрад (Выканаўчы аддзел Літвы) узначаліў Каліноўскі, які імкнуўся шырэй далучыць да змагання сялянаў і даць яму новае дыханне. Аднак гераічная барацьба ўжо была асуджаная на паразу.

Задушэннем вызвольнага руху з траўня 1863 г. кіраваў новы віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў, які атрымаў ад Аляксандра II надзвычайныя паўнамоцтвы. За свае крывавыя «подзвігі» гэты хітры і бязлітасны царскі сатрап атрымаў мянушку Вешальнік. Ён не грэбаваў анікімі сродкамі: дзейнічаў подкупамі і шантажом, падпісваў смяротныя прысуды і загадваў заліваць магілы паўстанцаў экскрэментамі, каб не дапусціць там патрыятычных маніфестацыяў. Вядомы выпадак, калі Вешальнік асудзіў на смерць маладога слонімскага шляхціча Адама Пуслоўскага, які ўдзельнічаў у паўстанні ўсяго некалькі гадзінаў.

Тым не менш баі на захадзе Літвы-Беларусі працягваліся да пачатку 1864 г. Канцом паўстання можна лічыць арышт Кастуся Каліноўскага і яго пакаранне смерцю на Лукішскім пляцы ў Вільні 22 сакавіка 1864 г.

З царскай вязніцы наш нацыянальны герой перадаў на волю звернуты да народа запавет – «Ліст з-пад шыбеніцы»: «Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду... Няма, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку... Но як дзень з ночай не ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць, не для дабра, но на пагібель нашу».

Пасля экзекуцыі цела Каліноўскага перавезлі на Замкавую гару (цяпер вядомая як гара Гедзіміна) і пахавалі разам з іншымі пакаранымі смерцю паўстанцамі на тэрыторыі расейскага гарнізона. Каланізатары баяліся, што магіла паўстанцкага правадыра і яголых паплечнікаў зробіцца месцам паломніцтва патрыётаў. Каб як мага надзейней схаваць сляды, там зрабілі пляцоўку для гульні афіцэраў у крыкет.



Віленскі Лукішскі пляц, на якім была вядомая турма, дзе трымалі арыштаваных і захопленых у палон інсургентаў, а таксама выконвалі смяротныя прысуды. Фота Яна Чаховіча. 1870-я гады



Палац губернатара ў Вільні. Літаграфія з «Віленскага альбома» Яна Вільчынскага. Сярэдзіна XIX ст.





Паўстанцы-каліноўцы ў Сібіры. Фота 1880-х гадоў

Царызм святкаваў перамогу. У вялікадзяржаўным чадзе дзейнасць Мураўёва Вешальніка апраўдвала не толькі ліберальная расейская прэса, але нават паэты-дэмакраты, у тым ліку Мікалай Някрасаў, што прысвяціў ката паўстанцаў прывітальную оду.

Каланізатары патапілі паўстанне ў крыві. У нашым краі быў устаноўлены рэжым жорсткіх законаў, накіраваных на татальную русіфікацыю. Разам з тым сялянства атрымала ад урада значныя палёгкі ў рэалізацыі рэформы 1861 г. У Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губернях выкупная плата за сялянскія надзелы была зменшаная нават на 65–75 %.

У польскай і расейскай гістарыяграфіі паўстанне 1863–1864 гг. ацэньваецца як польскае, але гэта не адпавядае сапраўднасці. І напярэдадні, і ў ходзе збройнай барацьбы на землях былога Вялікага Княства існавала моцная плынь ліцвінскага (беларускага) нацыянальна-вызвольнага руху на чале з К. Каліноўскім. Супраць царскіх карнікаў ваявалі тысячы нашых суайчыннікаў. Сярод іх знаходзілася ўжо шмат тых, хто гатовы быў ахвяраваць жыццё не за Рэч Паспалітую, а за сваю будучую незалежную дзяржаву. Паўстанцы мелі беларускую газету, у іх шэрагах змагаліся нашыя пісьменнікі Францішак Багушэвіч, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Фелікс Тапчэўскі.

Апошні вядомы гісторыкам удзельнік таго паўстання Ігнат Абрамовіч памёр у 1944 г. у 105-гадовым веку і пахаваны ў мястэчку Краснае пад Маладзечнам.



Магіла апошняга паўстанца 1863 г. Ігната Абрамовіча ў вёсцы Краснае пад Маладзечнам. Фота Аляксандра Ружэчкі. 2002 г.

Вызвольнае паўстанне 1863–1864 гг. было адным з нешматлікіх у гісторыі XIX ст. прыкладаў, калі найлепшыя сыны паняволенага народа, баронячы чалавечую і нацыянальную годнасць, паўсталі супроць велізарнай імперыі. Коштам іхных жыццяў Літва-Беларусь выказала пратэст расейскаму феадалізму і дэспатызму, засведчыўшы прыхільнасць да еўрапейскіх каштоўнасцяў, канстытуцыйнасці і парламентарызму.




Тытульны аркуш і разгорт рукапіснай кнігі «Шлях у Сібір. Падарожжа вязня». 1863–1865 гг.

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ


Адзін з ідэйных «бацькоў» беларускага нацыянальнага Адраджэння, славіст, прафесар Віленскага ўніверсітэта Міхал Бабро́ўскі. Літаграфія першай паловы XIX ст.

Расейская імперыя, якая была «турмой народаў», сталася і месцам фармавання новых нацыяў. Насуперак уціску і русіфікацыі ў XIX ст. пачаў набіраць сілу наш нацыянальны рух. Ён быў падрыхтаваны дзейнасцю навукоўцаў, творчай інтэлігенцыі, патрыятычных студэнцкіх арганізацыяў. У гэтым асяродзі выспявала высновa пра існаванне самабытнага беларускага этнасу.

Аднымі з пачынальнікаў беларускага Адраджэння былі выхадцы з сем'яў вуніяцкіх святароў прафесары Віленскага ўніверсітэта Міхал Бабро́ўскі і Ігнат Даніловіч, якія выступілі супроць вялікадзяржаўных расейскіх і польскіх тэндэнцый. Яны з патрыятычных пазіцыяў асвятлялі гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, выказваліся за аднаўленне яго самастойнасці і вяртанне дзяржаўнага статусу беларускай мове. М. Бабро́ўскі, да прыкладу, нанова адкрыў для айчыннай і еўрапейскай навукі імя і справу Францішка Скарыны. І. Даніловіч даследваў Статуты Вялікага Княства, апісаў і часткова апублікаваў блізу 2500 пісьмовых крыніцаў па гісторыі Літвы-Беларусі.



Зборнік дыпламатычных дакументаў часоў Вялікага Княства Літоўскага, укладзены і апісаны гісторыкам і правазнаўцам Ігнатам Даніловічам, які марыў пра адраджэнне беларускай мовы і дзяржаўнасці

Пра самастойнасць беларускага этнасу сведчылі матэрыялы, сабраныя і выдадзеныя этнографамі Паўлам Шэйнам, Міхалам Федароўскім, Еўдакімам Рамановым, Мікалаем Нікіфароўскім, Аляксандрам Ельскім...

У 1870 г. быў апублікаваны «Слоўнік беларускай мовы» Івана Насовіча. Канчаткова абгрунтаваў самастойнасць нашай мовы ў сям'і іншых славянскіх моваў, вызначыў межы яе пашырэння і склаў адпаведную карту выдатны вучоны-славіст Яўхім Карскі. Ягонае фундаментальнае (у сямі кнігах) даследванне «Беларусы» сталася неацэнным здабыткам у справе Адраджэння.

## ХРАНАЛОГІЯ

1784–1848 гг. – Жыццё і дзейнасць Міхала Бабро́ўскага.
1787–1843 гг. – Жыццё і дзейнасць Ігната Даніловіча.
24 снежня 1798 г. – 11 лістапада 1855 г. – Жыццё і дзейнасць Адама Міцкевіча.
1794(?) г. – 12 сакавіка 1851 г. – Жыццё і дзейнасць Яна Баршчэўскага.
7 ліпеня 1796 г. – 23 жніўня 1847 г. – Жыццё і дзейнасць Яна Чачота.
4 лютага 1808 г. – 29 снежня 1884 г. – Жыццё і дзейнасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.
29 верасня 1823 г. – 15 верасня 1862 г. – Жыццё і дзейнасць Уладзіслава Сыракомлі.
21 сакавіка 1840 г. – 28 красавіка 1900 г. – Жыццё і дзейнасць Францішка Багушэвіча.
16 верасня 1859 г. – 6 чэрвеня 1934 г. – Жыццё і дзейнасць Браніслава Эпімаха-Шыпілы.
1 студзеня 1861 г. – 29 красавіка 1931 г. – Жыццё і дзейнасць Яўхіма Карскага.
14 чэрвеня 1867 г. – 30 верасня 1934 г. – Жыццё і дзейнасць Мітрафана Доўнара-Запольскага.
28 жніўня 1874 г. – 11 сакавіка 1941 г. – Жыццё і дзейнасць Аляксандра Уласава.
7 чэрвеня 1880 г. – 7 снежня 1943 г. – Жыццё і дзейнасць Вацлава Іваноўскага.
9 снежня 1881 г. – 20 жніўня 1919 г. – Жыццё і дзейнасць Івана Луцкевіча.
7 ліпеня 1882 г. – 28 чэрвеня 1942 г. – Жыццё і дзейнасць Янкі Купалы.
3 лістапада 1882 г. – 13 жніўня 1956 г. – Жыццё і дзейнасць Якуба Коласа.
9 сакавіка 1883 г. – 3 сакавіка 1944 г. – Жыццё і дзейнасць Францішка Аляхновіча.
8 лістапада 1883 г. – 23 студзеня 1938 г. – Жыццё і дзейнасць Вацлава Ластоўскага.
29 студзеня 1884 г. – 23 сакавіка 1942 г. – Жыццё і дзейнасць Антона Луцкевіча.
9 снежня 1891 г. – 25 траўня 1917 г. – Жыццё і дзейнасць Максіма Багдановіча.
6 студзеня 1892 г. – 29 лістапада 1949 г. – Жыццё і дзейнасць Адама Станкевіча.
18 лютага 1893 г. – 10 лютага 1938 г. – Жыццё і дзейнасць Максіма Гарэцкага.
16 лістапада 1898 г. – снежань 1942 г. – Жыццё і дзейнасць Вінцэнта Гадлеўскага.


Сюжэты і вобразы паэзіі Адама Міцкевіча былі навеяныя мінуўшчынай, фальклорам і прыродай яго радзімы. Дагератып 1850-х гадоў





Карта Яўхіма Карскага сталася значным дасягненнем беларускай этнаграфіі, але не ўлічвала іншых, апрача мовы, этнаграфічных прыкметаў, а таксама агульнасці гістарычнага лёсу народа ды яго духоўнай і матэрыяльнай культуры. 1903 г.

Набірала сілу новая беларуская літаратура, першымі значнымі творамі якой сталі ананімныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Сёння можна лічыць даказаным, што першую напісаў Вікент Равінскі, а другую – Канстанцін Вераніцын.



«Нарысы простанароднага жыцця ў Віцебскай Беларусі» Мікалая Нікіфароўскага. Віцебск. 1895 г.


Адзін з заснавальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі. 1910-я гады



Этнограф і фалькларыст Павел Шэйн. Фота 1890-х гадоў

На пачатку XX ст. буйныя навуковыя даследванні з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага надрукаваў адзін з заснавальнікаў нашай нацыянальнай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі. Ён сказаў прарочыя словы пра тое, што народ, які меў сваю дзяржаву, будзе мець яе зноў.

На жаль, не захавалася беларускамоўнай спадчыны нашага выдатнага суайчынніка Адама Міцкевіча, але асноўныя тэмы і вобразы яго паэзіі былі навеяныя жыццём, гісторыяй, фальклорам і прыродай Літвы-Беларусі. Сябар Міцкевіча Ян Чачот выдаў у Вільні шэсць зборнікаў запісаных ім «Вясковых песняў», дзе апублікаваў і блізу трыццаці сваіх беларускіх вершаў.



Медаль,
прысвечаны паэту
Уладзіславу Сыракомлю
(Людвіку Кандратовічу).
Медальер
Даніэль Залескі.
Бронза. Аверс. 1857 г.

Па-беларуску і па-польску пісаў свае паэтычныя творы Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч). Ён апрацоўваў народныя песні, прысвяціў Літве-Беларусі гістарычна-краязнаўчыя працы «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах», «Менск», «Нёман ад вытокаў да вусця».

Велізарны ўклад у новую беларускую літаратуру зрабіў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, які ў вершаваных апавяданнях, аповесцях і баладах «Вечарніцы», «Купала», «Гапон», «Шчароўскія дажынкі» шырока выкарыстоўваў нацыянальны фальклор, адлюстроўваў побыт і звычаі ліцьвіноў-беларусаў. Ён па-беларуску перастварыў паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», але публікацыю перакладу забараніла царская цэнзура. За ўдзел у паўстанні Каліноўскага пісьменніка кінулі ў турму, а потым трымалі пад наглядам паліцыі. У 1866 г. В. Дунін-Марцінкевіч стварыў бліскучую вострасатырычную камедыю «Пінская шляхта».



Выдатнае месца сярод беларускіх пісьменнікаў першай паловы XIX ст. займае Ян Баршчэўскі. Ягоны галоўны твор – кнігу «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» сучаснікі параўноўвалі з славутымі арабскімі казкамі «Тысяча і адна ноч».



Беларускія дзяўчаты
з Случчыны.
Фота 1912 г.



Класік беларускай літаратуры
Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч
быў удзельнікам паўстання
К. Каліноўскага.
Фота Антона Прушынскага. 1863 г.




Тытульны аркуш кнігі
В. Дуніна-Марцінкевіча
«Дудар беларускі».
Менск. 1857 г.




Тытульны аркуш кнігі Рамуальда
Зямкевіча «Ян Баршчэўскі – першы
беларускі пісьменьнік XIX сталецьця».
Вільня. 1911 г.



Віленскі касцёл святога
Казіміра. Фота Яна Булгака.
Пачатак XX ст.

## ХРАНАЛОГІЯ

1870 г. – Апублікаваны «Слоўнік беларускай мовы» Івана Насовіча.
1884 г. – Пачаў выходзіць часопіс «Гомон», орган беларускай фракцыі «Народнай волі».
1891 г. – Выданне ў Кракаве першай кнігі Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская».
1903 г. – Утварэнне першай беларускай палітычнай партыі – Беларускай Сацыялістычнай Грамады.
1906 г. – Заснаванне ў Пецярбурзе легальнага беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца».
23 лістапада 1906 г. – Пачаў выходзіць беларускі тыднёвік «Наша Ніва».
1907 г. – Утварэнне Беларускага настаўніцкага хаўрусу ў Вільні.
1907–1913 гг. – Дзейнасць першага прафесійнага беларускага тэатра Ігната Буйніцкага.
1910 г. – Выданне «Кароткай гісторыі Беларусі» В. Ластоўскага.
1911–1921 гг. – Дзейнасць Віленскага беларускага музычна-драматычнага гуртка Ф. Аляхновіча.
1913 г. – Заснаванне ў Вільні Беларускага выдавецкага таварыства.
1913–1915 гг. – Выданне газеты «Беларус».





Класік
нашага
прыгожага
пісьменства
былы
паўстанец
1863 г.
Францішак
Багушэвіч.
Мастак
Язэп
Драздовіч.
1930-я гады




Багушэвічава
«Дудка беларуская».
Пецярбург. 1907 г.




«Смык беларускі»
Сымона Рэўкі
з-пад Барысава
(Ф. Багушэвіча).
Вільня. 1918 г.

Велізарную ролю ў нацыянальным Адраджэнні адыграў класік беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч.

У 1891 г. у Кракаве, які знаходзіўся ў складзе Аўстра-Вугоршчыны, пабачыла свет кніга Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская». Родную краіну паэт называў Беларуссю, а яе мову – беларускай. «Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!.. – пісаў Ф. Багушэвіч у прадмове да «Дудкі». – Можа, хто спытае, гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывец: яна ад Вільна да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілеў, Вільня...»

Кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча выдаваліся па-беларуску лацінкай. І наагул у нашым тагачасным друку лацінскі шрыфт выкарыстоўваўся вельмі шырока. На лацінцы выходзілі шмат якія творы і зборнікі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі... Пазней гэтая традыцыя працягвалася ў Заходняй Беларусі і на эміграцыі.

У другой палове XIX ст. беларускі нацыянальна-культурны рух пачаў перарастаць у палітычны. Ужо К. Каліноўскі быў прыхільнікам стварэння ў будучым на землях былога Вялікага Княства дэмакратычнай рэспублікі, не залежнай ні ад Польшчы, ні ад Расеі.



Паэтка Цётка
(Алаіза Пашкевіч)
у беларускім
нацыянальным строі.
З фотаздымка
пачатку XX ст.

Сядзіба-музей Ф. Багушэвіча ў вёсцы Кушляны
Смаргонскага раёна. Сучаснае фота





Вокладка аднаго з тамоў «Витебской
старины», зборнікаў гістарычных
дакументаў, укладзеных гісторыкам
і краязнаўцам Аляксеем Сапуновым.
Віцебск. 1884 г.



Пісьменнік і мастак, сын высланага ў Сібір удзельніка паўстання 1863 г. Карусь Каганец паходзіў з таго самага беларускага роду Кастравіцкіх, які даў Францыі паэта Гіёма Апалінэра. Пачатак XX ст.

На пачатку XX ст. арганізацыйнае, ідэйнае і палітычнае кіраўніцтва нацыянальна-вызвольным рухам узяла на сябе заснаваная ў 1903 г. першая беларуская палітычная партыя – Беларуская Сацыялістычная Грамада. Яе стваральнікамі былі браты Іван і Антон Луцкевічы, якіх заслужана называюць «бацькамі» беларускага Адраджэння, а таксама Вацлаў Ластоўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Вацлаў Іваноўскі, Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Алесь Бурбіс. За бліжэйшую мэту Грамада мела знішчэнне царскага самаўладдзя і сцверджанне дэмакратычных свабодаў у супольным з іншымі народамі імперыі змаганні. У нацыянальным пытанні першая праграма партыі прадугледжвала ўтварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі. Грамада стала адным з галоўных арганізатараў Першага Усебеларускага з'езда.



Храм, пабудаваны на тым месцы, дзе ў сакавіку 1881 г. сябар падпольнай арганізацыі «Народная воля» беларус Ігнат Грынявіцкі смяротна параніў цара Аляксандра II. Фота С. Пракудзіна-Горскага. Пачатак XX ст.

Увесну 1881 г. беларускі шляхціч Ігнат Грынявіцкі выканаў смяротны прысуд, вынесены цару Аляксандру II падпольнай арганізацыяй «Народная воля». Праз тры гады група «народавольцаў»-студэнтаў з Беларусі пачала выдаваць у Пецярбурзе орган сваёй фракцыі нелегальны гектаграфічны часопіс «Гомон». На яго старонках з рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыяў абвяшчалася пра існаванне беларускай нацыі.

Ужо з сярэдзіны 1880-х гадоў беларуская мова шырока выкарыстоўвалася навучэнцамі настаўніцкіх семінарый і Віленскага настаўніцкага інстытута. Моладзь збірала фальклор, арганізоўвала «нядзельныя школы», наладжвала сувязі з «народавольцамі». У інстытуце склаўся беларускі гурток, які пасля рэпрэсіяў перайшоў на нелегальнае становішча. Па нейкім часе кіраўнікоў гуртка Мамовіча і Апеньчанку арыштавалі і загналі на тры гады ў дысцыплінарны батальён.

У апошнія дзесяцігоддзі XIX ст. у этнічнай свядомасці жыхароў беларускіх губерняў адбыліся вельмі істотныя змены. На перапісе, праведзеным у Расейскай імперыі ў 1897 г., беларусамі назвалі сябе 5 885 547 чалавек. 74% насельніцтва нашага абшару лічылі роднай мовай беларускую. Яе прызналі роднай 60% настаўнікаў, больш за 50% асобаў дваранскага стану, 40% чыноўнікаў, 30% паштова-тэлеграфных службоўцаў, 20% лекараў. Сярод сялянства найменне «беларусы» выцесніла большасць лакальных саманазоваў. Гэта сведчыла пра замацаванне тэрміну «Беларусь» за ўсёй нашай этнічнай тэрыторыяй.





Паэт Адам Гурыновіч – гімназіст. 1880-я гады



№ 1

Наша Доля

Наш палетак.

Да чытацелёў.

Першая легальная беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета «Наша Доля», орган Беларускай Сацыялістычнай Грамады, выходзіла 10-тысячным накладам кірыліцай і лацінкай

Рэвалюцыйныя падзеі 1905 г. ліквідавалі забарону на беларускі друк. У наступным годзе ў Пецярбурзе пачало дзейнічаць першае беларускае легальнае выдавецкае таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца». Неўзабаве выдавецтва было заснавана і ў Вільні.

Вільня зрабілася прызнаным цэнтрам нашага нацыянальнага руху. Яе ўзнёсла называлі «крывіцкай Мэккай» і «беларускім Сыёнам». Непарыўна звязаная з Вільняй і ейнай славутай Вострай Брамай неўміручая «Пагоня» Максіма Багдановіча, якая стала адным з нацыянальных беларускіх гімнаў.







Карта шашы губерняў "Северо-Западного края". Картограф Б. Герц. Вільня. 1900-я гады

Увосень 1906 г. у Вільні пачала выходзіць «Наша Доля» – першая легальная беларуская газета. Пад ціскам цэнзуры яна мусіла спыніць існаванне, аднак тым часам ужо з'явілася новае нацыянальнае выданне – «Наша Ніва». Гэтаму грамадска-палітычнаму, літаратурна-мастацкаму і навукова-папулярнаму тыднёвіку належаць велізарныя заслугі ў згуртаванні ўсіх сілаў, якія змагаліся за адраджэнне краіны. Заснавальнікамі «Нашай Нівы» былі браты Іван і Антон Луцкевічы ды іх паплечнік Аляксандр Уласаў. Газета выдавалася ў Вільні да жніўня 1915 г., а потым, пасля доўгага перапынку, выкліканага вайной, выходзіла ў 1920 г.



Палітык, публіцыст і гісторык Антон Луцкевіч стаў адным з ідэолагаў беларускага Адраджэння пачатку XX ст. 1930-я гады



Група віленскай беларускай інтэлігенцыі. Справа ўнізе – Іван Луцкевіч. Фота 1915 г.



Цана асобнаго нумару 5 кап.

Год IV Вільня 26 (⁸/₂₁) марца 1909 г. № 13 і 14.

# Наша Ніва

Першая Беларуская Газэта з Рысункамі

Выходзіць што тыдзень рускімі і польскімі літэрамі.

Адрес редакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вуліца, д. № 20.

Горад Вільня.



Cena asobnaho numeru 5 kap.

Hod VI. Wilnia, Studnia 20 (Jeanwara) 1911 h. № 3.

# NAŠA NIWA

PIERŠAJA BIELARUSKAJA HAZETA Z RYSUNKAMI.

Wychodzić što tydzień ruskimi i łacinskimi literami.

Adres redakcii i administracii: Wilnia, Wilenskaja wulica № 20.

Č—czytać jak polskaje CZ.
Š—czytać jak polskaje SZ.

## Emihracija u Ameryku.

Ад 1906 да 1912 г. газета «Наша Ніва» друкавалася лацінкаю і кірыліцай

Рэдакцыя тыднёвіка займалася кнігавыданнем, папулярызацыяй беларускага тэатра, фальклору і ўсёй нацыянальнай культуры. Заслугамі «Нашай Нівы» былі яе клопаты пра збіранне нашай даўніны, вяртанне народу ягонай гістарычнай памяці. Пры газеце захоўвалася ўнікальная калекцыя Івана Луцкевіча, што сталася пазней асновою Віленскага Беларускага музея. У 1910 г. газета з нумара ў нумар друкавала «Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага, якога даследнікі вобразна называюць «неадменным сакратаром Адраджэння». У прадмове да сваёй кнігі ён пісаў: «Гісторыя – гэта фундамент, на якім будуецца жыццё народу. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундаменту, каб будынак быў моцны...»

«Наша Ніва» сталася сапраўды народнай, агульнабеларускай газетай, асяродкам і рухавіком нацыянальнага жыцця. Яна невымерна шмат зрабіла для развіцця беларускай літаратуры, выпрацоўкі нормаў літаратурнай мовы і правапісу. Менавіта тут апавяданнем «Музыка» дэбютаваў Максім Багдановіч. З публікацыяў у тыднёвіку пачалі творчы шлях Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, Канстанцыя Буйла, Зміцер Бядуля, Уладзіслаў Галубок... У «Нашай Ніве» ўпершыню пабачылі свет урыўкі з «Новай зямлі» Якуба Коласа, паэмы «Курган» і «Бандароўна» Янкі Купалы, які ў 1914–1915 гг. быў рэдактарам газеты.



Палітык, мовазнавец, пісьменнік і педагог Язэп Лёсік. Фота пачатку XX ст.



Янка Купала і Якуб Колас. 1920-я гады





Удзельнікі Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. У другім шэрагу ў цэнтры сядзяць (злева направа) Усевалад Фальскі, старшыня Народнага Сакратарыята Беларусі Язэп Варонка і стваральнік таварыства Фларыян Ждановіч. У трэцім шэрагу ў цэнтры стаіць Уладзіслаў Галубок. Красавік 1918 г.

На пачатку XX ст. быў створаны прафесійны беларускі тэатр, «бацькамі» якога заслужана лічацца Ігнат Буйніцкі, Францішак Аляхновіч, Фларыян Ждановіч, Усевалад Фальскі, Алесь Бурбіс. У станаўленні нашага тэатра і наагул у пашырэнні адраджэнскіх ідэяў вялікі плён мелі беларускія вечарыны, дзе разам з пастаноўкамі п'есаў дэкламаваліся вершы, выконваліся народныя песні і танцы.

Актор Першага таварыства беларускай драмы і камедыі Адам Церах. Фота 1920 г.



Пісьменнік і тэатральны дзяяч Францішак Аляхновіч. 1930-я гады. З калекцыі былога Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні

Удзельнікі хору Уладзіміра Тэраўскага з вучнямі Менскай беларускай пачатковай школы № 20. 1918 г.



Сяброўская кніжка Грамады беларускай моладзі ў Горадні

Выхаванец Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі Вінцэнт Гадлеўскі пазней стаў адным з выдатных дзеячоў нацыянальнага Адраджэння, лідарам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Пачатак 1910-х гадоў

Важным чыннікам нацыянальнага Адраджэння стаў моладзевы рух. Яго асяродкамі разам з Вільняй і Горадняй былі Маладзечна, Нясвіж, Свіслач ды іншыя гарады, дзе месціліся настаўніцкія семінарыі. Паколькі расейскія каланіяльныя ўлады зачынілі ў Літве-Беларусі ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы, беларускі студэнцкі рух развіваўся ва ўніверсітэцкіх цэнтрах метраполіі.

У часе навучання ў Пецярбургскім горным інстытуце будучы палітык Клаўдусь Дуж-Душэўскі быў актыўным удзельнікам беларускага студэнцкага руху. Сярэдзіна 1910-х гадоў

Менскі гімназіст Антон Луцкевіч (справа) з невядомымі. Фота канца 1890-х гадоў

Язэп Драздовіч на беларускіх настаўніцкіх курсах. 1920–1921 гг.

Мастак Язэп Драздовіч. «Пагоня». 1927 г.

Студэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута Вацлаў Іваноўскі, які неўзабаве стаў заснавальнікам першага легальнага беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца». Фота пачатку 1900-х гадоў

Прызнанымі лідарамі хрысціянскай дэмакратыі і ўсяго беларускага рэлігійнага руху сталі ксяндзы Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі.

Абвестка пра пастаноўку Купалавай «Паўлінкі» ў беларускім асяродку Казані. 1910-я гады



Адно з шматлікіх перавыданняў «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевіча. Вільня. 1920 г.

Віленскі гімназіст Браніслаў Тарашкевіч, які ў будучым стаў выдатным вучоным і палітыкам. Пачатак 1910-х гадоў

Рэкламны плакат Першай краёвай выставы рамёстваў і народнага мастацтва Летувы і Беларусі. Ф. Рушчыц. Вільня. 1913 г.

Працэсам нацыянальнага адраджэння спрыяла творчасць мастака Фердынанда Рушчыца. Фота Яна Булгака. 1912 г.

Беларускае Адраджэнне падтрымлівалі людзі розных веравызнанняў, станаў і сацыяльных групаў. Сярод іх была і ліцьвінская арыстакратыя. Да прыкладу, княгіня Магдалена Радзівіл фінансавала суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца». З матэрыяльнай падтрымкі гэтай ахвярнай жанчыны адчыняліся беларускія школы, выйшлі першыя кнігі М. Багдановіча, К. Буйлы ды іншых аўтараў.

Пад час Першай сусветнай вайны браты Луцкевічы разам з В. Ластоўскім выступілі з прапановай аднавіць Вялікае Княства Літоўскае з сталіцай у Вільні. Аднак гэтая ідэя не знайшла падтрымкі ў дзеячоў летувіскага адраджэння.

Медаль у гонар графа Эмерыка Гутэн-Чапскага, які ў сваім маёнтку Станькава (цяпер Дзяржынскі раён) стварыў музей з багатай калекцыяй гістарычных дакументаў, кніг, твораў мастацтва і старадаўняй зброі. Аверс. Канец XIX ст.

У беларускім руху актыўны ўдзел бралі і некаторыя арыстакраты. Княгіня Магдалена Радзівіл адчыняла беларускія школы, была фундатаркаю выдавецтваў, газеты «Беларус», а таксама першых кніг Максіма Багдановіча і Канстанцыі Буйлы. На здымку Магдалена Радзівіл з беларускім архітэктарам Лявонам Вітанам-Дубейкаўскім (справа) і ўкраінскім вуніяцкім святаром Язафатам Жанам. Варшава. 1920 г.

Значную ролю ў нашым Адраджэнні адыграў выдавец, фальклярыст і мовазнавец Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Фота 1920-х гадоў

Выкладчыкі і навучэнцы Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі. Фота 1917 г.

# Летувіскі нацыянальны рух


Адзін з «бацькоў» летувіскага нацыянальнага адраджэння Ёнас Басанавічус. Фота пачатку XX ст.

Параўнаўча з беларускім нацыянальны рух летувісаў – нашчадкаў балцкай меншасці Вялікага Княства – асабліва пасля паўстання 1863 г. адбываўся ў значна больш спрыяльных умовах. Расейскія ўлады вырашылі падтрымаць яго ў супрацьвагу моцным пазіцыям палякаў. Пецярбург зрабіў летувіскую мову адной з моваў навучання ў Марыямпальскай дзяржаўнай вышэйшай навучальні, якая стала цэнтрам падрыхтоўкі летувіскай эліты. Летувіскую мову выкладалі таксама ў Сейненскай і Сувалкаўскай гімназіях. У той самы час выкладанне па-беларуску ў школах усіх роўняў знаходзілася пад забаронай. Вялікую ролю ў нацыянальным руху нашых суседзяў адыграў летувіскі каталіцкі клір. Яшчэ перад паўстаннем біскуп Матэвус Валанчус дамогся дазволу адчыняць пры касцёлах парафіяльныя школы з выкладаннем на роднай мове вучняў. Такім чынам адрозна ад беларусаў малыя летувісы адразу вучыліся чытаць і пісаць па-свойму.


N.10 ir 11. Tilžėje. 1884 m.

Antras **AUSZRA.** metas.

Dvi „Auszri“ Lietuvoje.

Першы летувіскі часопіс «Аўшра», які друкавалі ў Прусіі і нелегальна перапраўлялі цераз мяжу

Выпускнікі Марыямпальскай навучальні Вінцас Кудзірка і Ёнас Басанавічус, «бацькі» летувіскага адраджэння канца XIX – пачатку XX ст., стварылі міф пра Вялікае Княства Літоўскае як выключна «літоўскую» (летувіскую) дзяржаву. З ім не стасавалася ніводная гістарычная крыніца, але гэты міф атрымаў шырокае распаўсюджанне і стаўся падмуркам для адбудовы летувіскамоўнай Літвы. Царская адміністрацыя не пярэчыла таму, што ўсю нашую гісторыю прывязвалі да нашчадкаў балцкіх плямёнаў – этнічнай меншасці колішняга Вялікага Княства Літоўскага. Для Расеі галоўным тут было закрэсліць гістарычную перспектыву беларусаў, якіх планавалася цалкам зрусіфікаваць, пазбавіўшы спадзеву на аднаўленне сваёй дзяржавы.


Скульптурная кампазіцыя з бронзы «Летувіская школа», створаная П. Рымшам у 1906 г. Сёння яе можна ўбачыць на адной з ковенскіх вуліц


Урок у Віленскай летувіскай школе. Пачатак XX ст. Нацыянальны музей Летувы




Коўна, найбуйнейшы горад Летувы, на пачатку XX ст.

У летувіскай мове не існавала нават слова для абазначэння герба дзяржавы нашых продкаў, і яго прыдумалі толькі ў сярэдзіне XIX ст. («Пагоня» была названая «Vitis»). На свой лад летувісы змянялі імёны гістарычных дзеячоў. Вялікі гетман Канстанцін Астрожскі не мог і ўявіць, што некалі ператорыцца ў Астрагішкіса. Вядомы гісторык Адам Ганоры Кіркор быў перакручаны ў Адомаса Ганорыса Кіркораса, Пац стаў Пацасам, Серакоўскі – Серакаўскасам... (Прычым такім напісаннем летувісы карысталіся і ў тэкстах на іншых мовах.)

ГОВОРИТЬ ПО ЛИТОВСКИ СТРОГО ВОСПРЕЩАЕТСЯ

Такія абвесткі можна было сустрэць на дзвярах царскіх установ


СЕНАСЪ
АУКСА АЛТОРЮСЪ
АРБА
СУРИНКИМАСЪ ИВАЙРЮ МАЛДУНЪ ИРЪ ГѢСМЮНЪ,
ДЕВА БАЙМИНГАМЪ КАТАЛИКУЙ
ВЫСОКЮНСЫ АТСЫЭИМУНСЫ РЕЙКАЛИНГУ
парвейзѣтасъ
ирь су прадѣиму трущу памокима апей Сакрамента Пакутосъ Ш. ирь пѣкурювъ рейкалингѣсю Малдувъ ирь Гѣсмювъ.
ВИЛНЮѢ
Спаустувенъ Р. М. Ромма.
1866.

Малітоўнік «Залаты алтар», надрукаваны кірыліцаю ў той час, як летувіскі друк лацінкаю ў Расеі быў пад забаронай

Надзвычай важным стаўся ў той сітуацыі моўны фактар. Беларуская мова адрозна ад летувіскай была забароненая як мова адукацыі і друку. Па-летувіску ж выходзіла багата рознай літаратуры: буквары, граматыкі, календары, малітоўнікі, кантычкі, катэхізісы. Нават пасля паўстання 1863 г. расейская ўлада не забараніла летувісам друк на роднай мове. (Праўда, яны мусілі карыстацца не лацінскім, а кірылічным шрыфтам.)

Нашыя суседзі на доўгі час прысвоілі сабе ўсю гістарычную і культурную спадчыну Вялікага Княства ўлучна з яго назовам – «Літва» (у форме «Летува»). Яны здзейснілі свой намер не толькі дзякуючы пэўнай падтрымцы расейскіх імперскіх (а затым і савецкіх) уладаў. Даследнік гэтай праблемы сучасны амерыканскі гісторык Тымаці Снайдэр піша, што ажыццявіць такую «прыватызацыю» суседзям дапамагло і сацыяльнае паходжанне іхных «абуджальнікаў нацыі». Першае пакаленне інтэлігентаў-летувісаў складалі не шляхцічы, якім ужо само паходжанне і кодэкс гонару не дазволілі б займацца фальшаваннем, а ксяндзы і настаўнікі – дзеці заможных сялянаў. Ім, на думку Снайдэра, вельмі лёгка было замоўчваючы або ігнаруючы гістарычныя факты, збудаваць «монаэтнічную інтэрпрэтацыю гісторыі Літвы», дзе беларусам проста не засталося месца.


Помнік кнігаўношу ў Коўне. Скульптар Ю. Зікарас. Бронза. 1939 г.

Апрача таго, калі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай усе беларускія землі ўрэшце апынуліся ў Расейскай імперыі, летувісы мелі замежную базу для забеспячэння свайго нацыянальнага руху. У склад Прусіі трапіла гэтак званая «малая Летува», дзе ў спрыяльных для развіцця ўласнай культуры ўмовах жыло блізу 100 тысяч жамойтаў. Гэта давала магчымасць кантактаў з Еўропай, пашырэння ў свеце звестак пра свае нацыянальныя патрэбы. (Да 1904 г. у Тыльзіце і Кёнігсбэрзе па-летувіску выйшла блізу 3300 найменняў кніг і блізу 120 перыядычных выданняў агульным накладам некалькі мільёнаў паасобнікаў.) Невыпадкова ў 1918 г. якраз нямецкая падтрымка была вырашальнай у стварэнні Летувіскай дзяржавы з сталіцаю ў Вільні (дзе, паводле дадзеных перапісу насельніцтва 1897 г., летувісаў налічвалася меней за 2%).

Міф пра Вялікае Княства Літоўскае як летувіскую дзяржаву нашыя суседзі здолелі паспяхова ўкараніць у сусветную гістарыяграфію.

Грамадска-палітычная і літаратурная газета «Гоман» выступала за нацыянальна-культурнае адзінства беларусаў і незалежную Беларускую рэспубліку ў складзе адроджанага ў форме канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага

# КАНФЕДЭРАЦЫЯ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА


Niezwyczajny dadatak. Cena 5 fen. (3 kap.)
HOMAN
BIEŁARUSKAJA WIŁENSKAJA CZASOPIŚ
Wychodzić dwa razy u tydzień: u aŭtorki i piatnicy.
Wilnia, 5 listapada 1916 h.
Z WARSZAWY telehrafujuć:
Da życharoŭ Warszaŭskaho Hieneral-Hu-...
...juć poŭnuju nadzieju, szto žadańnia dzierżaŭnaho i nacyonalnaho razwićcia Karaleŭstwa Polskaho ciapier buduć spoŭnieny z naležnaj uwahaj na abstnyje palitycznyje waruniki En-...

Ідэя аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага – вядома, ужо ў новых формах і на іншай аснове – працягвала жыць і на пачатку XX ст. Спадзяваннем на ажыццяўленне такога праекта спрыялі падзеі Першай сусветнай вайны, якая актывізавала на Еўрапейскім кантыненце нацыянальныя рухі паняволеных народаў і іхнае імкненне да незалежнасці.

Беларусі вайна прынесла велізарныя чалавечыя ахвяры і разбурэнні, звязаныя як з баявымі дзеяннямі, гэтак і з тактыкай «выпаленай зямлі», што выкарыстоўвалася тут расейцамі. Пасля гвалтоўнай эвакуацыі насельніцтва ўглыб імперыі на Віленшчыне яго колькасць зменшылася на 22 %, на Берасцейшчыне – на 44 %, а на Гарадзеншчыне – больш чым напалову. На ўсход найперш высялялі праваслаўных беларусаў і не мабілізаваную ў войска інтэлігенцыю. У выніку тут узніклі спрыяльныя ўмовы для паланізацыі краю праз польскі касцёл. Палякі планавалі далучыць «крэсы» да сваёй будучай дзяржавы, летувісы выношвалі ўласныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі.

У такіх умовах беларускія нацыянальныя лідары зрабілі стаўку на рэалізацыю ідэі Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага – стварэння на абшары колішняга Княства супольнай дзяржавы. Адным з ініцыятараў стаў выдатны дзяяч беларускага Адраджэння Антон Луцкевіч.


Адным з ініцыятараў стварэння Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага быў Антон Луцкевіч. Фота 1921 г.



Прыхільнік беларускага нацыянальнага Адраджэння, адзін з найбагацейшых землеўласнікаў Менскай губерні Эдвард Вайніловіч. Вядомы таксама як дабрачынец і фундатар менскага касцёла святых Сымона і Алены («Чырвонага касцёла»). 1903 г.


Віленскі беларускі асяродак. У цэнтры на другім плане стаяць Іван Луцкевіч і Аляксандр Уласаў. 1915 г. З калекцыі былога Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні

## ХРАНАЛОГІЯ

1915 г. – Праект Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага.

1916 г. – Беларускі народны камітэт у Вільні прапанаваў утварыць дзяржаўны альянс будучых незалежных Беларусі, Летувы, Латвіі і Украіны.

Верасень 1917 г. – Беларускі нацыянальны камітэт у Менску падтрымаў ідэю стварэння Беларуска-Летувіскай дзяржавы.



Гэтак званая «Дэкларацыя 32-х» – адозва польскіх «крэсовых» дзеячоў пра намер далучыць беларускія і летувіскія землі да Польшчы. Гэты дакумент канчаткова перакрэсліў ідэю аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага. 12 снежня 1917 г.


Drukowane jako manuskrypt.

DEKLARACJA
Polaków z polskiej i polsko-białoruskiej części Litwy.

Najdostojniejsza Rado Regencyjna!
My, których przodkowie byli krzewicielami zachodniej cywilizacji na wschodzie Europy, cywilizacji tam organicznej związanej z polskością, a mającą swój wyraz w katolicyzmie, pomni wielkiej tradycji unji, pomni zlania Litwy z Koroną przez Konstytucję 3-go maja, oraz powstania nasze, w których ojcowie nasi krwią swą usiłowali zakreślić wschodnie granice państwa polskiego, — uznajemy się za uprawnionych do mówienia o losach kraju, z którym nas łączy tysiące węzłów.
Nie chcemy naszego rodzimego kraju wystawić ani na pastwę rewolucji rosyjskiej, rozkładającej wszystko w anarchji, ani na pastwę tej reakcji, która niechybnie przyjdzie i znów skieruje energię społeczeństwa rosyjskiego na niweczenie nierosyjskich narodowości, a przedewszystkiem polskiej. Widzimy jasną przyszłość dla naszego kraju tylko w Polsce, która potrafi uszanować wszelkie lokalne właściwości i wszelkie etnograficzne pierwiastki, tymbardziej, iż one jakkolwiek innojęzyczne nie są obce naszemu obyczajowi, gdyż ulegały w ciągu wieków wpływom naszym. Pomni jesteśmy i tej siły liczebnej i gospodarczego żywiołu polskiego na Litwie geograficznej. Zaznaczamy przytem, że sprawa prowincji, które reprezentujemy nie jest tylko lokalną sprawą, ale podstawą sprawy polskiej, gdyż tylko przez Wileńszczyznę, Grodzieńszczyznę, przez Województwa Brzesko-Litewskie z powiatem Pińskim, przez osiągnięcie linji Berezyny i Dźwiny, — Polska może się stać organizmem żywotnym, zdolnym do regulowania kwestji

...Państwowe w Lublinie
15


Пячатка Школьнай камісіі Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны

Сталіцай Канфедэрацыі Вялікага Княства меркавалася зрабіць Вільню. Фота Яна Булгака. Пачатак XX ст.

Улетку 1916 г. Беларускі народны камітэт на чале з Антонам Луцкевічам прапанаваў ідэю больш шырокага дзяржаўнага ўтварэння ад Балтыйскага да Чорнага мора. Гэтыя «Злучаныя Штаты» павінны былі складацца з Беларусі, Летувы, Латвіі і Украіны. Замест адной дзяржавы з аўтаномнымі тэрыторыямі планавалася стварыць канфедэрацыйны альянс незалежных дзяржаваў.

У 1917 г. беларускія арганізацыі працягвалі выступаць за ўтварэнне Беларуска-Летувіскай дзяржавы, прычым рабілі гэта, нягледзячы на пазіцыю Летувіскай тарыбы (Рады), што заявіла аб прэтэнзіях на беларускія землі. Ідэю такой дзяржавы падтрымаў у верасні 1917 г. Беларускі нацыянальны камітэт у Менску.

Пры канцы студзеня 1918 г. у Вільні прайшла Беларуская канферэнцыя, якая прыняла рэзалюцыю аб імкненні стварыць незалежную суверэнную дэмакратычную дзяржаву з двух асноўных нацыянальных тэрыторыяў – беларускай і летувіскай, «у найцяснейшай еднасці з Курляндыяй».

Курс беларускіх арганізацыяў на дзяржаўнае адзінства з Летувой, Латвіяй, а ў перспектыве і з Украінай вызначалі найперш эканамічныя прычыны, у прыватнасці неабходнасць мець выйсце да мора, а таксама патрэбы нацыянальнай абароны.

Аднак погляды кіраўнікоў летувіскага і беларускага нацыянальных рухаў усё больш разыходзіліся. На пачатку 1918 г. была абвешчаная незалежнасць Летувы, а затым – Беларускай Народнай Рэспублікі, пасля чаго пытанне пра канфедэрацыю ўжо не ўздымалася.


У падтрымку адраджэння Вялікага Княства выступала вядомая публіцыстка і гісторык Канстанцыя Скірмунт. Фота 1930-х гадоў

9 снежня 1915 г. быў апублікаваны Універсал Канфедэрацыі. Ён паведамляў, што галоўная мэта праекту ў тым, каб беларускія і летувіскія землі, якія здаўна прыналежалі да Вялікага Княства Літоўскага, а цяпер апанаваны нямецкімі войскамі, сталі ў новых гістарычных умовах «непадзельнае цела» на грунце незалежнасці Летувы і Беларусі як суцэльнай дзяржавы, забяспечваючы ўсім нацыям у яе межах усе правы. Вызначэнне нутранога ладу будучай краіны ўскладалася на Устаноўчы сойм у сталіцы – Вільні. У склад дзяржавы меркавалася ўлучыць Віленскую і Ковенскую, а таксама часткі Гарадзенскай, Сувалкаўскай, Менскай і Курляндскай губерняў.



Больш за пяць гадоў Беларусь заставалася тэатрам ваенных дзеянняў. Нямецкі артылерыйскі аддзел на маршы. Паштоўка 1916 г.

Нямецкі бліндаж часоў Першай сусветнай вайны, які захаваўся ў раёне Смаргоні. Фота 2007 г.

# АБВЯШЧЭННЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ І ЛЕТУВЫ

Акт абвяшчэння незалежнасці Летувы. 16 лютага 1918 г.



Mažosios Lietuvos Tautinės Tarybos

AKTAS

Atsižvelgdami į tai, kad viskas, kas yra, turi teisę gyvuoti, ir į tai, kad mes Lietuviai šiomi Prūsų Lietuvoj gyvenantieji sudarome šito krašto gyventojų daugumą, reikalaujame mes, remdamies ant Wilsono Tautų paties apsisprendimo teisės, priglaudimą Mažosios Lietuvos prie Didžiosios Lietuvos. Visi savo parašu šitą pareiškimą priimantieji pasižada, visas savo jėgas už įvykdinimą minėtojo siekio pašvęsti.

Prūsų Lietuvos Tautinė Taryba

## Летувіская Рэспубліка

Летувіская тарыба ў снежні 1917 г. заявіла пра аднаўленне незалежнай Летувіскай дзяржавы (з сталіцай у Вільні) у хаўрусе з Нямеччынай. З яе падтрымкай 16 лютага 1918 г. адбылося абвяшчэнне Дэкларацыі незалежнасці Летувы. Нямеччына прызнала новую дзяржаву, і акупацыйныя ўлады перадалі Тарыбе цывільную ўладу.

Паміж Тарыбай і Віленскай беларускай радай існавала дамоўленасць пра магчымасць стварэння ў будучым федэрацыйнай Беларуска-Летувіскай дзяржавы. У выніку ў склад Тарыбы былі ўлучаныя шэсць прадстаўнікоў Віленскай рады, у тым ліку такія надзвычай аўтарытэтныя ў беларускім руху асобы, як Вацлаў Ластоўскі ды Іван Луцкевіч, а ў кабінеце міністраў незалежнай Летувы з'явілася Міністэрства беларускіх справаў на чале з Язэпам Варонкам.



Першая Летувіская тарыба. 1917 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

5 снежня 1917 г. – Пачатак працы Першага Усебеларускага з'езда.
16 лютага 1918 г. – Абвяшчэнне незалежнасці Летувы.
21 лютага 1918 г. – Першая Устаўная грамата да народаў Беларусі.
9 сакавіка 1918 г. – Другая Устаўная грамата да народаў Беларусі.
25 сакавіка 1918 г. – Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.





Будынак Менскага гарадскога тэатра (цяпер Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы), дзе распачаў сваю працу Першы Усебеларускі з'езд. Фота пачатку XX ст.

## Беларуская Народная Рэспубліка

У снежні таго ж 1917 г. у Менску адбыўся Першы Усебеларускі з'езд (кангрэс), на якім прысутнічалі 1872 дэлегаты з усяго беларускага этнічнага абшару – ад Беласточчыны да Смаленшчыны.

Спачатку на кангрэсе, старшынёй якога быў абраны Іван Серада, прагучала прапанова стварыць Беларускую Рэспубліку ў складзе федэратыўнай Расеі. Аднак сярод дэлегатаў усё большую вагу набіралі незалежніцкія настроі. Ім спрыяла і тое, што адначасова бальшавікі вялі ў Берасці перамовы пра мір з немцамі без уліку інтарэсаў Беларусі.



Перамовы немцаў і расейскіх бальшавікоў у Берасці, на якія беларуская дэлегацыя ў выніку патрабавання расейскага боку не была дапушчаная. Студзень 1918 г.



Адзін з заснавальнікаў і ідэйных кіраўнікоў беларускага нацыянальнага руху Іван Луцкевіч быў улучаны ў склад Тарыбы. Фота 1916 г.




Карта Беларускай Народнай Рэспублікі (укладальнік Аркадзь Смоліч), выдадзеная на французскай мове ў 1919 г. для ўдзелу Надзвычайнай місіі БНР у Парыжскай мірнай канферэнцыі



Старшыня першага ўрада БНР – Народнага Сакратарыята – Язэп Варонка. Фота 1919 г.

Запрошаныя на з'езд камуністы ад удзелу ў паседжаннях ухіліліся, але пільна сачылі за падзеямі. Паўночна-Заходні абкам РСДРП(б) на чале з А. Мясніковым (Мяснікянам) не прызнаваў ні права беларусаў на самавызначэнне, ні нават самога існавання беларускай нацыі. Убачыўшы, што кангрэс займае прынцыпова іншую пазіцыю, 18 снежня бальшавікі разагналі яго з дапамогай вайсковай сілы.

Частка дэпутатаў была арыштаваная, але Рада, якой Першы Усебеларускі кангрэс перадаў краёвую ўладу, здолела абраць Выканаўчы камітэт. Яго ўзначалілі адзін з кіраўнікоў Беларускай Сацыялістычнай Грамады Язэп Варонка.

Сябар першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі Алесь Бурбіс. Пачатак 1920-х гадоў





Старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта, удзельнік Усебеларускага з'езда Раман Скірмунт пазней стаў сябрам Рады БНР і ўзначаліў нацыянальны ўрад. Фота 1910-х гадоў

БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА. НАРОДНЫ САКРАТАРЫЯТ. 1918 г. №

Бланк і пячатка Народнага Сакратарыята БНР

З другой паловы лютага 1918 г. пачаўся наступ нямецкіх войскаў, што прывяло да ўцёкаў бальшавікоў з Менска і пераходу Выканаўчага камітэта на легальнае становішча. Камітэт неадкладна выдаў Першую Устаўную грамату да народаў Беларусі, у якой абвясціў сябе часовай уладай і ўзяў курс на скліканне Усебеларускага Устаноўчага Сойму на аснове агульнага выбарчага права.

Быў створаны ўрад – Народны Сакратарыят, узначалены Я. Варонкам. Але Менск захапілі немцы, якія канфіскавалі ўрадавую грашовую касу і разагналі службоўцаў. У адказ на такую палітыку Нямеччыны Народны Сакратарыят неаднаразова выступаў з нотамі пратэсту. У іх гаварылася, што акупацыя кайзераўцамі «пазбавіла Беларускі ўрад магчымасці стварыць неабходную ўзброеную сілу для адстойвання недатыкальнасці сваёй тэрыторыі». У сваіх заявах кіраўніцтва БНР звяртала ўвагу на тое, што «немцы вялі палітыку загульвання з бальшавікамі, перашкаджаючы стварэнню і развіццю дзяржаўных структураў». Гэтыя факты зніпраўджваюць створаны савецкімі гісторыкамі міф аб «пракайзераўскім» і «пранямецкім» характары Беларускай Народнай Рэспублікі.

Не зважаючы на варожае стаўленне нямецкіх акупацыйных уладаў, Выканкам Рады Усебеларускага з'езда звярнуўся да жыхароў Беларусі з Другой Устаўнай граматай. Яна акрэслівала дзяржаўны лад краіны, а таксама правы і свабоды яе грамадзянаў. Беларусь «у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу» абвяшчалася Народнай Рэспублікай.

Ва ўмовах, калі ідэя незалежнасці заваёўвала ўсё шырэйшыя колы прыхільнікаў, Выканкам Рады Усебеларускага з'езда абвясціў яе Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі. У склад новага органа з Віленскай беларускай рады ўвайшлі Іван ды Антон Луцкевічы і Вацлаў Ластоўскі. 23 сакавіка на паседжанні Народнага Сакратарыята А. Луцкевіч заявіў, што фармальна Беларусь працягвае заставацца тэрыторыяй Расеі, а гэта не адпавядае надзеям і памкненням беларускага народа.



Нямецкія салдаты на менскіх вуліцах у 1918 г. Кайзераўскі ўрад не прызнаў БНР і не дазволіў беларусам стварыць уласныя ўзброеныя сілы

Увечары 24 сакавіка пачалося гістарычнае пасеаджанне Рады БНР, якое доўжылася ўсю ноч і завяршылася назаўтра ранішай прыняццем наступнага дакумента:



## 3-я Устаўная грамата Рады Беларускае Народнае Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыцснуў быў Беларусь; ня пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных звязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя звязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам ды інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Устаўнай Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Дана ў Мэнску-Беларускім*
*24 сакавіка 1918 року.*

Абшар БНР, куды ўвайшлі ўсе этнічныя беларуская землі, складаў блізу 400 тысяч квадратных кіламетраў. Там жыло тады прыкладна 15 мільёнаў чалавек. (Дзеля параўнання: тэрыторыя сучаснай Рэспублікі Беларусь – 207,6 тысячы квадратных кіламетраў, насельніцтва – менш за 10 мільёнаў.)

Тэкст Трэцяй Устаўнай граматы БНР у газеце «Вольная Беларусь»

ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

Тыднёвік палітычны і літэратурны.

Цана асобнага № 40 кап.

Нiхай жыве Вольная Беларусь!

Год выдання II.

№ 11. 1918 г. 31-го сакавіка 1918 г. № 11.

**Устаўная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Рашучы акт.**

**Вольная Беларусь.**



Першы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі: (злева направа, сядзяць) Алесь Бурбіс (1885–1922), Іван Серада (1879–пасля 1943), старшыня Язэп Варонка (1891–1952), Васіль Захарка (1877–1943); (стаяць) Аркадзь Смоліч (1891–1938), Пётра Крэчэўскі (1879–1928), Кастусь Езавітаў (1893–1946), Антон Аўсянік (1888–1933?), Лявон Заяц (1890–1933)

Абвяшчэнне незалежнасці БНР было рашучым пратэстам супраць падзелу Беларусі бальшавікамі і кайзераўцамі паводле падпісанай імі Берасцейскай дамовы. Уся наша этнічная тэрыторыя абвяшчалася адзінай дэмакратычнай дзяржавай. Народны Сакратарыят зацвердзіў дзяржаўную пячатку з «Пагоняй» і бел-чырвона-белы сцяг. Наладжваліся палітычныя і эканамічныя сувязі Беларусі з замежжам. Прэс-бюро БНР дзейнічалі ў Берліне, Капенгагене, Рызе, Таліне ды іншых еўрапейскіх сталіцах.



Пячатка Міністэрства нутраных справаў БНР



Пячатка Міністэрства абароны БНР

Незалежную Беларускую Народную Рэспубліку дэ-юрэ або дэ-факта прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Латвія, Летува, Польшча, Турцыя, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславакія, Эстонія. Ідэю беларускай дзяржаўнасці не магло ўжо ігнараваць і бальшавіцкае кіраўніцтва Расеі.







Маркі Беларускай Народнай Рэспублікі 1918–1919 гг.

Пашпарт грамадзяніна БНР





Дом у Менску, дзе была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі (цяпер вул. Валадарскага, 9). Малюнак-рэканструкцыя Віктара Сташчанюка. 1988 г.



Камандзір Слуцкай брыгады БНР – збройных сілаў антыбальшавіцкага Слуцкага збройнага чыну 1920 г. Антон Сокал-Кутылоўскі. 1910-я гады

Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Том I. Кніга 1. Вільня–Нью-Ёрк–Менск–Прага. 1998 г.







«Беларуская дзяржаўнасць». Зборнік дакументаў і матэрыялаў, прысвечаных падзеям нацыянальна-вызвольнага руху ў 1914–1921 гг. Выданне Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва ў ЗША. Нью-Ёрк. 1988 г.

Ганаровая варта Першага беларускага палка каля вайсковай камендатуры Горадні. Фота Л. Гелгара. 1919 г. З калекцыі былога Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні



# БССР І ЛІТБЕЛ

Маніфест пра абвяшчэнне БССР быў апублікаваны ў газеце яе Часовага ўрада толькі 19 студзеня 1919 г.

## Абвяшчэнне БССР

30–31 снежня ў Смаленску адбылася Паўночна-заходняя абласная канферэнцыя бальшавікоў, якая заявіла пра сябе як пра I з'езд КП(б)Б і прыняла пастанову аб стварэнні Беларускай ССР у межах Смаленскай, Віцебскай, Магілеўскай, Менскай і Гарадзенскай губерняў з тымі часткамі сумежных з імі Сувалкаўскай, Віленскай, Ковенскай і Чарнігаўскай, дзе пераважала беларускае насельніцтва. Не маючы на гэта ніякіх паўнамоцтваў нашага народа, бальшавікі сфармавалі ўрад будучай рэспублікі, спіс якога быў складзены ў Маскве.

5 студзеня ўрад БССР пераехаў у Менск і вельмі хутка зразумеў, што прызнанне дзяржаўнасці Беларусі з'яўляецца для Масквы не больш чым цынічнай палітычнай гульнёй. Ужо 16 студзеня 1919 г. бальшавіцкае кіраўніцтва загадала «ў сувязі са зменай вонкавых абставінаў» перадаць Смаленскую, Магілеўскую і Віцебскую губерні ў склад РСФСР. (Значная частка гэтай тэрыторыі не вернутая і дасюль.) Яшчэ праз некалькі дзён выкліканыя ў Маскву прадстаўнікі марыянеткавай беларускай дзяржавы даведаліся ад Леніна пра план злучэння «абрэзанай» БССР з таксама створанай бальшавікамі Летувіскай (Літоўскай) Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай. Гэтае буфернае ўтварэнне, як раней і БССР, патрэбнае было Крамлю дзеля абароны перад пагрозаю вайны з Польшчай.

Сябры першага савецкага ўрада Беларусі Фабіян Шантыр, Усевалад Фальскі і Язэп Дыла былі арыштаваныя чэкістамі (Шантыра неўзабаве расстралялі), а старшыня ўраду Зьміцер Жылуновіч пазбег арышту толькі дзякуючы ўцёкам з Менска.

Абвяшчэнне незалежнасці БНР і яе фактычнае прызнанне шмат якімі еўрапейскімі дзяржавамі змусілі савецкую Расею даць беларускім камуністам дазвол на стварэнне БССР.

Старшыня Часовага рабоча-сялянскага ўрада савецкай Беларусі Зьміцер Жылуновіч. Пачатак 1930-х гадоў

Так званы Часовы рабоча-сялянскі ўрад пад кіраўніцтвам Змітра Жылуновіча (літаратурны псеўданім Цішка Гартны) 1 студзеня 1919 г. выдаў Маніфест пра абвяшчэнне БССР. Ён паўтараў ідэю нашай дзяржаўнасці, якую ўжо абвясціла Другая Устаўная грамата БНР, але не дэклараваў дэмакратычных свабодаў.

Дэлегаты Першага Усебеларускага з'езда саветаў працоўных. Менск. 2–3 лютага 1919 г.

В ЭТОМ ЗДАНИИ 30-31 ДЕКАБРЯ 1918 г. ПРОХОДИЛ ПЕРВЫЙ СЪЕЗД КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БОЛЬШЕВИКОВ БЕЛОРУССИИ, КОТОРЫЙ ОБЪЯВИЛ ОБ ОБРАЗОВАНИИ БЕЛОРУССКОЙ СОВЕТСКОЙ СОЦИАЛИСТИЧЕСКОЙ РЕСПУБЛИКИ

Мемарыяльная дошка на будынку, дзе было абвешчана пра ўтварэнне БССР. Смаленск. Фота Генадзя Мацура. 2009 г.

### ХРАНАЛОГІЯ

| | |
|---|---|
| 1 студзеня 1919 г. – | Абвяшчэнне бальшавікамі ў Смаленску Беларускай ССР. |
| 5 студзеня 1919 г. – | Пераезд кіраўніцтва БССР з Смаленска ў Менск. |
| 16 студзеня 1919 г. – | Пастанова ЦК РКП(б) пра далучэнне да РСФСР Віцебскай, Смаленскай і Магілеўскай губерняў. |
| 17 лютага 1919 г. – | Абвяшчэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Летувы і Беларусі (ЛітБела). |
| 31 ліпеня 1920 г. – | Другое абвяшчэнне БССР у межах былой Менскай губерні. |



## Утварэнне і скон ЛітБела

У лютым 1919 г. адбылося аб'яднанне дзвюх савецкіх марыянеткавых дзяржаваў у Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (ЛітБел) з сталіцай у Вільні. У склад ЛітБела ўваходзілі Віленская, Менская, Гарадзенская, часткі Ковенскай і Сувалкаўскай губерняў з насельніцтвам блізу 4 мільёнаў чалавек.

Фармальна такое ўтварэнне нібыта мела гістарычныя падставы, але насамрэч аніяк не адпавядала інтарэсам народаў былога Вялікага Княства Літоўскага і найперш – беларусаў.

ЛітБел разрываў нашу этнічную тэрыторыю. У гэтай «дзяржаве» нічога нацыянальна-беларускага не было – ні дзяржаўнай мовы, ні перыядычных выданняў, ні прысутнасці ў кіраўнічых органах. Урад ЛітБела, які ўзначальваў летувіс В. Міцкявічус-Капсукас, не меў у сваім складзе ніводнага беларуса. Усё беларускае, пачынаючы з мовы, лічылася контррэвалюцыйным. Літаратура выдавалася толькі па-летувіску, па-польску і па-расейску. Сялянства ў рэспубліцы, з выняткам беднаты, пазбаўлялася права голасу.

Зварот Язэпа Пілсудскага да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага, выдадзены па-беларуску ў Вільні. Красавік 1919 г.

**Da žycharoŭ byŭš. W. Kn. Litoŭskaha.**

Waš kraj užo sto kolkiździesiat hadoŭ nia wiedaje swabody, hnybiony warožym gwałtam rasiejskim, niamieckim, balšewickim,—gwałtam, katory, nia pytajučysia nasieleńnia, nakidaŭ čužackija prymierniki pastupkaŭ, źwiazywajučy wolu, časta łamajučy žyćcio.

Hetakaja biazupynnaja niawola, dobra wiadomaja i mnie samomu, bo radziŭšamusia na hetaj niešcaślіwaj ziamielcy, pawinna być urešci spyniena i na hetaj byłcym zabytaj praz Boha staroncy pawinny zapanawać swaboda dy prawa swabodnaj ničym niezwiazanaj hutarki ab žadańniach i patrebach.

Polskaje wojska, katoraje ja z saboj prywioŭ, kab wykinuć haspadarawańnie gwałtu i siły, kab spynić kirawańnie krajem procіŭ woli žycharoŭ, hetaje wojska niasie usim Wam swabodu.

Chaču Wam dać mahčymaść razwiazać unutranyja nacyjanalnyja i relihijnyja sprawy hetak, jak sami zachočacie, biez jakohaniebudź gwałtu abo nacisku z boku Polščy.

Dzieła hetaha, nia hledziačy na toje, što na Wašaj ziamli hrymiać jašče harmaty dy ljecca kroŭ,—nia uwodžu Wajenny Zahad, ale cywilny, u katory paklіču miajscowych ludziej, synoŭ hetaje ziamli.

Mety hetaha Cywilnaha uradu woś jakija:

1) Dapamahčy žycharam hutaryć ab swaim losie i swaich patrebach praz swabodna wybranych predstaŭnikaŭ. Wybary hetyja buduć zrobleny na asnowie roŭnaha, tajnaha, ahulnaha, prostaha, biaz rožnicy połu hałasawańnia.

2) Pamahčy kamu treba žyunaściu, pamahčy ŭ pracy wytwarajučaj, abaspiečyć ład i supakoj.

3) Zaapiekawacca usimi, biaz rožnicy wiery i nacyjanalnaści.

Na čale Uradu ja pastawiŭ Jura Osmołowskaha, da katoraha prosta, abo praz ludziej im naznačanych zwiertajciesia adkryta i ščyra ŭ kožnaj patrebie i u sprawach, katoryja ležać Wam na sercy i cikawiać Was.

**J. Piłsudzki.**

Wilnia, 22 krasawika 1919 h.

Начальнік адроджанай Польскай дзяржавы Язэп Пілсудскі. Тагачасная беларуская паштоўка

Начальнік адроджанай Польскай дзяржавы Язэп (Юзаф) Пілсудскі ў красавіку 1919 г. выдаў «Зварот да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага», дзе дэклараваў не ўмешвацца ў нутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы беларусаў і летувісаў і даць ім права самім вырашаць свой лёс. Пілсудскі нераз сустракаўся з беларускімі дзеячамі і шчодра раздаваў абяцанні (аж да згоды стварыць беларуска-польскую федэрацыю). У верасні 1919 г. ён выступіў у Менску на беларускай мове, якую добра ведаў, бо з паходжання быў ліцвінам-беларусам. Але, як паказалі далейшыя падзеі, пераважыла пазіцыя польскіх шавіністаў, што не прызнавалі Беларусі.

Пазней, напалоханы імклівымі наступальнымі дзеяннямі палякаў, Ленін прапанаваў Польшчы ўсю тэрыторыю былога ЛітБела ўзамен на мір. Пілсудскі пайшоў на маўклівае пагадненне і не падтрымаў наступу Дзянікіна на Маскву. Ён ратаваў бальшавікоў, каб потым падзяліць з імі беларускія і ўкраінскія землі.

31 ліпеня 1920 г. адбылося другое абвяшчэнне БССР. Узнавіць буферны ЛітБел было ўжо немагчыма, бо рэальна існавала незалежная Летува. Каб перадухіліць пераход улады ў рукі нацыянальных сілаў у Беларусі, бальшавікі і пагадзіліся на аднаўленне БССР. Але гэтым разам яе тэрыторыя складалася толькі з шасці паветаў былой Менскай губерні агульнай плошчай усяго 52,4 тысячы квадратных кіламетраў. Якраз тады нарадзілася вядомая дагэтуль прыказка: «У Беларусі тры сталіцы – Менск, Лагойск і Плешчаніцы».

«Дзяржава двух народаў», як у прапагандысцкіх мэтах называлі ЛітБел, не была прызнаная ніякім, апрача савецкай Расеі, і хутка выявіла нежыццяздольнасць. Ужо праз два месяцы пасля яе ўтварэння польскія войскі занялі Вільню, і ўрад ЛітБела пераехаў у Дзвінск, потым у Менск, Бабруйск, Смаленск. Пры канцы лета 1919 г. палякі акупавалі ўсю тэрыторыю ЛітБела, улады якой не паспелі стварыць нават асноўных атрыбутаў дзяржаўнасці.

# ДАЧЫНЕННІ ПАМІЖ БНР І ЛЕТУВОЙ

Сябар Віленскай беларускай рады Янка Станкевіч. Фота 1921 г.

## Міністэрства беларускіх справаў у Летуве

Міністэрства беларускіх справаў у Летуве было ўтворанае ў адпаведнасці з дамоваю паміж Віленскай беларускай радай і Летувіскай тарыбай у лістападзе 1918 г. Тады сама ў склад Тарыбы ўвайшлі шэсць прадстаўнікоў Рады, у тым ліку В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, Я. Станкевіч.

Юрысдыкцыя міністэрства пашыралася на тэрыторыю былой Гарадзенскай губерні, Лідскі, Ашмянскі і Вілейскі паветы Віленскай і Аўгустоўскі павет Сувалкаўскай губерні. Гэты абшар плошчаю 40 тысяч квадратных кіламетраў і з насельніцтвам блізу 2 мільёнаў чалавек павінен быў мець статус аўтаномнай адзінкі з дзяржаўнай беларускай мовай.

Ва ўмовах нямецкай, а затым польскай акупацыі Беларусі дзейнасць Міністэрства беларускіх справаў, скіраваная на забеспячэнне нацыянальных інтарэсаў, была цалкам апраўданая. У яго кампетэнцыі знаходзіліся пытанні мясцовага самакіравання, прызначэнне школьных інспектараў, суддзяў, следчых ды іншых службоўцаў. Міністэрства накіравала сваіх камісараў у Горадню, Беласток, Бельск, Ліду, Дзятлава, Белавежу, Саколку і Крынкі. Яно афіцыйна пратэставала супроць увядзення на абшар Беларусі польскіх войскаў.

Удзельнікі Беларускага з'езда ў Вільні, на якім была ўтвораная Віленская беларуская рада. Люты 1918 г.

У снежні 1918 г. у Горадню з захопленай бальшавіцкімі войскамі Вільні пераехаў урад Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з Антонам Луцкевічам. На нейкі час Горадня стала сталіцай БНР. Там размяшчацца таксама створаны Міністэрствам беларускіх справаў у Летуве Першы гарадзенскі беларускі полк.

Амерыканская місія маёра Роса на вакзале ў Горадні 20 сакавіка 1919 г. Стаяць у першым шэрагу злева: летувіскі прадстаўнік пры місіі д-р Бартушка, маёр Рос, невядомы, Кастусь Езавітаў, невядомы, палкоўнік М. Лаўрэнцеў, капітан Леанід Калугін. Ззаду за палкоўнікам Лаўрэнцевым стаяць: злева Аляксандр Цвікевіч, справа Васіль Захарка

Будынак у Горадні, дзе на пачатку 1919 г. знаходзіўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Сучаснае фота

### ХРАНАЛОГІЯ

1918–1923 гг. – Дзейнасць Міністэрства беларускіх справаў у Летуве.
12 ліпеня 1920 г. – Падпісанне савецка-летувіскай мірнай дамовы.
22 ліпеня 1920 г. – Нота пратэсту ўрада БНР супроць перадачы беларускіх этнічных тэрыторыяў Летуве.
11 лістапада 1921 г. – Падпісанне міжурадавай дамовы паміж БНР і Летувіскай Рэспублікай пра ўзаемнае прызнанне, супрацоўніцтва і аб'яднаныя дзеянні супраць Польшчы.
Лістапад 1923 г. – Прэзідыум Рады і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі пакінулі Летуву.



Тытульны разгорт «Расейска-крыўскага (беларускага) слоўніка» Вацлава Ластоўскага. Коўна. 1924 г.

Міністр Язэп Варонка ў жніўні 1919 г. накіраваў краінам Антанты ноту пратэсту, дзе абгрунтоўваліся правы беларускага народа на тэрытарыяльную цэласць. Аднак усё больш моцнае процідзеянне польскіх акупацыйных уладаў прывяло да пераезду міністэрства ў Коўну (Каўнас). Пазней там апынуліся таксама Прэзідыум Рады і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з Вацлавам Ластоўскім.

«Дудка беларуская» Францішка Багушэвіча, выдадзеная пры дапамозе Міністэрства беларускіх справаў у Летуве. Коўна. 1922 г.

У 1920–1930-х гадах у Коўне існаваў Беларускі цэнтр, кіраўніком якога пэўны час быў аўтарытэтны палітычны дзяяч Клаўдусь Дуж-Душэўскі. У тагачаснай сталіцы Летувы выходзіў літаратурна-навуковы і грамадскі часопіс «Крывіч», друкавалася іншая беларуская літаратура. Тут В. Ластоўскі выпусціў такія значныя выданні, як «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» і «Гісторыю беларускай (крыўскай)» кнігі, якая ўяўляла сабой агляд больш як 1000 рукапісных кніг, грамат і старадрукаў «з пачатку зараджэння беларускага пісьма да XIX ст.»

У 1919–1923 гг. Кабінет міністраў БНР узначальваў Вацлаў Ластоўскі. Фота 1921 г.

Вокладка «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ластоўскага. Коўна. 1926 г. Мастак Мсціслаў Дабужынскі

Часопіс «Вайсковы», які выдаваўся на беларускай мове Вайскова-навуковым аддзелам Міністэрства абароны Летувы. 1921 г.

Грамада беларускіх і летувіскіх дзеячоў у Горадні. У першым шэрагу (злева направа) начальнік канцылярыі Міністэрства беларускіх справаў у Летуве Пётра Крэчэўскі, сябра Летувіскай тарыбы Іван Карчынскі, міністр беларускіх справаў Язэп Варонка; у другім шэрагу (першы злева) начальнік беларускай камендатуры Горадні палкоўнік Кастусь Езавітаў. 1919 г.



Консул Беларускай Народнай Рэспублікі ў Коўне, вайсковы дзяяч, паэт і гісторык Аляксандр Ружанцоў. 1930-я гады



Дамінік Сямашка. У 1920–1923 гг. ён быў міністрам беларускіх справаў у летувіскім урадзе, але замест таго, каб бараніць нашы нацыянальныя інтарэсы, падтрымліваў ідэю стварэння «Вялікай Летувы» за кошт беларускіх земляў

Перадаючы Летуве Віленшчыну і Гарадзеншчыну, расейскія бальшавікі цалкам ігнаравалі абвешчаныя імі ж самімі прынцып свабоднага самавызначэння нацый. Дадзеныя першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расейскай імперыі 1897 г. сведчылі, што, да прыкладу, у Гарадзенскім павеце беларусы складалі 65,7%, летувісы – 1,4%, у Лідскім адпаведна 73,1 і 8,7%, у Ашмянскім – 79,5 і 3,7%.



Банкет у Горадні, прысвечаны першым угодкам абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 сакавіка 1919 г.

## Беларуска-летувіскія супярэчнасці

Кіраўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі ад самага пачатку нараз сутыкалася з прэтэнзіямі Летувы на велізарную частку нашага этнічнага абшару. У адказ на заявы ўрада БНР, што Вільня – адвечная сталіца Беларусі, яе палітычны і духоўны цэнтр, летувісы запатрабавалі Гарадзенскую і Вілен-





У 1919–1920 і 1926–1940 гг. прэзідэнтам Летувы быў Антанас Смятона. Канец 1920-х гадоў

Прэзідэнт Летувіскай Рэспублікі ў 1920–1926 гг. Аляксандрас Стульгінскіс. Фота 1924 г.

скую губерні, якія былі большымі за тэрыторыю ўсёй Летувы. Яе ўрад прызнаваў, што на згаданым абшары, у прыватнасці ў Вільні і Віленскім краі, абсалютная бальшыня насельніцтва не лічыць сябе летувісамі і не ведае летувіскай мовы, але безапеляцыйна сцвярджаў, што гэта – збеларушаная частка Летувіскай дзяржавы.

Новай прычынай абвастрэння стасункаў сталася падпісанне ў ліпені 1920 г. савецка-летувіскай мірнай дамовы, у якой РСФСР прызнавала незалежнасць Летувы. Паводле дададзенай да тэксту гэтага дакумента карты дзяржаўная мяжа Летувы падыходзіла да Валожына, Мядзела, Вілейкі і Маладзечна. На летувіскім баку заставаліся Нарач і Браслаўскія азёры. Аднак летувіская дэлегацыя на перамовах (беларускі бок ад удзелу ў іх быў наагул адхілены) настойвала на ўлучэнні ў склад сваёй дзяржавы значна большай тэрыторыі – не толькі Віленскай і Гарадзенскай губерняў, але і часткі Менскай.

Першы прэзідэнт незалежнай Чэхаславакіі Тамаш Масарык падтрымліваў беларусаў. Фота 1930-х гадоў





Прэзідэнцкі палац у Коўне. 1930-я гады

Кіраўніцтва БНР 22 ліпеня 1920 г. накіравала ўрадам РСФСР і Летувы, а таксама мірнай канферэнцыі ў Парыжы, «усім дзяржавам і культурным народам свету» ноту пратэсту. «Умовы гэтага міру, – падкрэслівалася ў ёй, – парушаюць самым грубым чынам нацыянальныя, культурна-эканамічныя і суверэнныя правы беларускага народа, бо гэты мір заключаны за кошт гістарычных і этнаграфічных беларускіх земляў з гарадамі Горадняй і Вільняй». Савецкая Расея не адказала на ноту, што давала падставы пэўным сілам у Летуве ўжо ў 1990-х гадах раз-пораз друкаваць карту 1920 г. і ўзгадваць старыя прэтэнзіі.



Сталіцай міжваеннай Летувіскай Рэспублікі была Коўна. 1930 г.

Пасля падпісання савецка-летувіскай мірнай дамовы стаўленне да беларускіх структураў у Летуве рэзка змянілася. Летувіскі ўрад ліквідаваў асобныя беларускія вайсковыя часціны. Міністэрства беларускіх справаў урэшце мусіла спыніць сваё існаванне. У 1923 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пераехала з Коўны ў Прагу.

# СЯРЭДНЯЯ ЛІТВА



Узнагародныя крыжы Першай літоўска-беларускай дывізіі, якою камандаваў генерал Люцыян Жалігоўскі



Удзельнік захопу Вільні польскімі войскамі генерал Эдвард Рыдз-Смiглы. Фота Яна Булгака. 1919 г.

У сваіх палітычных мэтах бальшавікі пагадзіліся з прэтэнзіямі Летувы на Віленшчыну, а таксама на Горадню, Ліду, Браслаў ды іншыя беларускія гарады

## Палітычная сітуацыя

У 1918–1919 гг. савецкая Расея адмоўна ставілася да стварэння летувісамі сваёй дзяржавы. Аднак пасля акупацыі палякамі ЛітБела сітуацыя змянілася, бо Летува рабілася хаўруснiцай бальшавікоў у змаганні з Польшчай. Прызнаўшы ў ліпені 1920 г. незалежнасць Летувы, Масква, па сутнасці, падтрымала яе прэтэнзіі на Віленскі край разам з гарадамі Горадняй, Шчучынам, Лідай, Ашмяной, Смаргонню і Браславам. Летувісам была перададзена захопленая Чырвонай арміяй Вільня.

Адначасова на гэтыя тэрыторыі, а потым і на саму этнічную Летуву прэтэндаваў польскі бок. Пад ціскам краінаў Антанты ў кастрычніку 1920 г. Польшча мусіла пайсці на падпісанне дамовы, паводле якой Віленшчына пераходзіла Летуве. Але начальнік Польскай дзяржавы народзінец Віленскага краю Язэп Пілсудскі не пагадзіўся на перадачу сваёй «малой радзімы» суседзям.




Горадня. Касцёл брыгітак. Фота Яна Булгака на паштоўцы 1920-х гадоў



Ліда. Вуліца Віленская. Паштоўка пачатку 1920-х гадоў

**ХРАНАЛОГІЯ**

7 кастрычніка 1920 г. – Падпісанне польска-летувіскай дамовы аб перадачы Віленшчыны Летуве.

8 кастрычніка 1920 г. – Пачатак «паўстання» Літоўска-беларускай дывізіі генерала Л. Жалігоўскага.

12 кастрычніка 1920 г. – Абвяшчэнне незалежнасці Сярэднай Літвы.

20 лютага 1922 г. – Сойм Сярэдняй Літвы прыняў пастанову пра далучэнне да Польшчы.



Народжаны ў Ашмяне камандзір Першай літоўска-беларускай дывізіі Люцыян Жалігоўскі даволі прыхільна ставіўся да беларускай справы, што на пэўным этапе забяспечыла яму падтрымку Найвышэйшай Рады БНР. Фота 1919 г.

## «Паўстанне» дывізіі Жалігоўскага

У той няпэўнай палітычнай сітуацыі Варшава, звязаная абавязкамі перад Антантай, вырашыла разыграць «беларускую карту». Стаўка рабілася на так званыя «літоўска-беларускія» дывізіі Польскага войска, што складаліся пераважна з беларусаў заходняй часткі нашай краіны, сярод якіх былі жывыя традыцыі ліцьвінскага патрыятызму. Ужо назаўтра пасля падпісання польска-летувіскай дамовы супроць яе ўмоваў «узбунтавалася» Першая літоўска-беларуская дывізія генерала Люцыяна Жалігоўскага.

Дывізія Жалігоўскага складалася з Віленскага, Гарадзенскага, Менскага і Сувалкаўскага палкоў. Перад самым «бунтам» Пілсудскі загадаў перадаць гэтай дывізіі яшчэ Лідскі і Ковенскі палкі.

Л. Жалігоўскі нарадзіўся ў 1865 г. у Ашмяне. Быў удзельнікам расейска-японскай вайны, камандаваў палком у Першую сусветную. У 1918–1919 гг. ён ваяваў з бальшавікамі ў складзе польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага і Добраахвотніцкай арміі Дзянікіна, а затым ягоная дывізія далучылася да Польскага войска.

Падначаленыя Жалігоўскаму вайсковыя часціны захапілі Вільню і рушылі на Коўну. Яны занялі Кейданы (цяперашні Кедайняй) і былі спыненыя летувісамі толькі ў раёне Шырвінтаса. Польшча заявіла міжнароднай супольнасці, што адбываецца беларуска-летувіскі канфлікт, да якога яна не мае дачынення.

Пры пасярэдніцтве Лігі Нацыяў бакі падпісалі замірэнне. 12 кастрычніка 1920 г. Віленшчына была абвешчаная незалежнай дзяржавай пад назвам Сярэдняя Літва, а яе фактычным кіраўніком стаў Л. Жалігоўскі.




Пасведчанне да ўзнагароднага крыжа Літоўска-Беларускага фронту



Генерал Л. Жалігоўскі сярод штабных афіцэраў пад час палявой імшы перад Віленскай катэдрай. 1920 г.




Ганаровая адзнака войскаў Сярэдняй Літвы. 1920 г.



Вайсковая адзнака 77-га пяхотнага палка, які ўваходзіў у склад збройных сілаў Сярэдняй Літвы. 1922 г.



Крыж Беларускага палка ўланаў Польскай арміі. 1919–1920 гг.

## Прамежкавая дзяржава

Сярэдняя Літва займала тэрыторыю блізу 10 тысяч квадратных кіламетраў. Апрача сталічнай Вільні найбольш буйнымі як гарадамі былі Ашмяна, Смаргонь і Трокі (Гародню і Ліду Пілсудскі адразу далучыў да Польшчы). Сярэдняя Літва мела 530 тысяч насельніцтва. Паводле афіцыйных звестак, беларусаў было тут 40%, але напраўду – значна болей.

Функцыі дзяржаўнай улады выконвала прызначаная Жалігоўскім Часовая кіраўнічая камісія на чале з В. Абрамовічам. Яна складалася з «краёўцаў» – прыхільнікаў аўтаноміі Літвы-Беларусі, якія на першае месца ставілі мясцовыя (краёвыя) інтарэсы. Яны не пагаджаліся на інкарпарацыю Сярэдняй Літвы Польшчай і выступалі за федэрацыйную сувязь з Летувой.

Часовая камісія стварыла самастойную судовую сістэму. Краіна мела свае грошы, сімволіку, паштовыя маркі, на якіх змяшчаліся герб «Пагоня», выявы архітэктурных помнікаў Віленшчыны, партрэты гістарычных і культурных дзеячоў, у тым ліку вялікага князя і караля Ягайлы, Тадэвуша Касцюшкі, Адама Міцкевіча.

На тэрыторыі краіны налічвалася некалькі сотняў прамысловых прадпрыемстваў. Улады распрацавалі праекты электрыфікацыі і правядзення зямельнай рэформы.

Люцыян Жалігоўскі даволі прыхільна ставіўся да беларускай справы, што забяспечыла яму падтрымку Найвышэйшай рады БНР. Ліберальная нацыянальная палітыка Часовай камісіі стварыла спрыяльныя ўмовы для развіцця беларускамоўнай адукацыі. Увесну 1921 г. у Сярэдняй Літве дзейнічала 186 беларускіх школаў, Віленская беларуская гімназія і Барунская настаўніцкая семінарыя. Беларускім сектарам урадавага дэпартамента асветы кіраваў вядомы палітык і культурны дзяяч Браніслаў Тарашкевіч. Ва ўрад увайшоў таксама Вацлаў Іваноўскі, прызначаны «дырэктарам апраўізацыі» (адказным за харчовае забеспячэнне краіны).

Урачыстасці з нагоды далучэння да Польшчы. Язэп Пілсудскі (сядзіць шосты справа) з польскімі ўрадоўцамі і прадстаўнікамі Часовай кіраўнічай камісіі Сярэдняй Літвы. Вільня. 18 красавіка 1922 г. Фота Яна Булгака



У Сярэдняй Літве разгарнулі дзейнасць беларускія арганізацыі. Яе каардынаваў Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні. Неаднаразова прапаноўвалася назваць дзяржаву «Заходняя Беларусь», але на гэта не пагадзіўся польскі бок.












Паштовыя маркі Сярэдняй Літвы



Начальнік Польскай дзяржавы маршал Я. Пілсудскі ўручае жаўнерам узнагароды на віленскім Лукішскім пляцы. Фота Яна Булгака. 1922 г.

Пасля беспаспяховай спробы Пілсудскага вярнуць войска Сярэдняй Літвы ў склад Польскай арміі, яно было дэмабілізаванае, і Жалігоўскі пакінуў Вільню.

У красавіку 1921 г. у Брусэлі пад эгідай Лігі Нацыяў адбылася польска-летувіская канферэнцыя, прысвечаная лёсу Сярэдняй Літвы. Рада БНР і ўрад Вацлава Ластоўскага накіравалі старшыні канферэнцыі ліст, дзе гаварылася, што «найбольш справядлівым рашэннем была б перадача гэтых спрадвечна беларускіх земляў Беларускаму Ураду».

## Далучэнне да Польшчы

Палітычная і эканамічная залежнасць ад Польшчы абумовіла нядоўгі гістарычны лёс Сярэдняй Літвы. Польскі ўрад усё больш настойліва патрабаваў ад Жалігоўскага няўхільнага выканання дырэктываў Варшавы. Быў кардынальна зменены склад Часовай кіраўнічай камісіі.

Пытанне палітычнай прыналежнасці краіны канчаткова павінен быў вырашыць Сойм Сярэдняй Літвы. Аднак супраць выбараў у Сойм выступіла Ліга Нацыяў, якая прыняла пастанову правесці ў Сярэдняй Літве плебісцыт. Дзеля забеспячэння парадку на яе тэрыторыю прадугледжвалася ўвесці замежныя войскі. Рашуча пярэчылі гэтым планам Расея і Летува, якая разарвала з Польшчай дыпламатычныя дачыненні і фактычна знаходзілася з ёю ў стане вайны.

Не падтрымлівалі правядзенне плебісцыту і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. У мемарандуме дэлегацыі БНР Лізе Нацыяў ад 18 снежня 1920 г. падкрэслівалася, што значная частка беларускага жыхарства пад час нямецкай акупацыі пакінула гэтыя землі і яшчэ не вярнулася. Таксама звярталася ўвага на тое, што беларусы пад дыктатам польскай адміністрацыі, бадай, не змогуць «праўдзіва выразіць сваю волю».

Працяглыя спрэчкі і перамовы вакол будучыні Сярэдняй Літвы скончыліся тым, што пад ціскам Польшчы ў студзені 1922 г. там усё ж прайшлі выбары ў Сойм. Беларускі нацыянальны камітэт і большая частка беларускага насельніцтва байкатавалі галасаванне.

Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў супольна з іншымі антыпольскімі сіламі рыхтавала збройнае паўстанне, але гэтыя планы былі раскрытыя дэфензівай.

Як і чакалася, абраны Сойм Сярэдняй Літвы пастанавіў, што «Віленскі край без усякіх умоваў і агаворак робіцца неадлучнай часткай Польшчы». 24 сакавіка 1922 г. польскі Сейм пацвердзіў гэтую пастанову. Сярэднюю Літву ператварылі ў Віленскае ваяводства Польшчы, дзе ўсе дзевяць паветаў былі населеныя беларусамі.

У савецкія часы існаванне Сярэдняй Літвы ў палітычных мэтах замоўчвалася. Пра яе (адрозна ад ЛітБела) у Беларусі не згадвалі ні школьныя, ні ўніверсітэцкія падручнікі. Сярод іншага гэта рабілася і дзеля таго, каб «не падагравать незалежніцкія настроі».

# СТАЛІЦА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ



Адзін з лідэраў нашага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі Браніслаў Тарашкевіч. Фота 1919 г.

Савецка-польская вайна 1920 г. завяршылася падпісаным без удзелу беларускіх палітыкаў (іх не дапусцілі на перамовы) Рыжскім мірным трактатам 1921 г. Паводле яго велізарная частка нашай краіны была далучаная да Польшчы. Гэтыя землі атрымалі назоў "Заходняя Беларусь". Дзяржаўная мяжа прайшла зусім побач з Полацкам, Менскам і Слуцкам. (У пэўны момант бальшавікі былі згодныя аддаць палякам усю Беларусь, але на гэта не пагадзілася польская дэлегацыя. Пераважыла меркаванне, што гэтак шмат "прагльнуць" не ўдасца.)

Неафіцыйнай палітычнай, культурнай і навуковай сталіцай адрэзаных зямель стала Вільня, якую называлі «сэрцам Заходняй Беларусі».

Беларускі нацыянальны камітэт да 1938 г. каардынаваў адсюль дзейнасць заходнебеларускіх грамадскіх арганізацый і ўстаноў. У Вільні знаходзіліся кіраўнічыя органы Беларускай партыі эсэраў, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД), Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), Беларускага сялянскага саюза, Таварыства беларускай школы... Нейкі час у Вільні нелегальна працаваў ЦК Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Заходняя Беларусь складалася з 29 паветаў, якія ўваходзілі ў Беластоцкае, Віленскае, Навагрудскае і Палескае ваяводствы. Край меў плошчу 113 тысяч квадратных кіламетраў і насельніцтва больш за 3,5 мільёна чалавек (1921 г.). Найбуйнейшымі гарадамі былі Вільня, Горадня, Беласток, Навагрудак, Пінск, Баранавічы, Ліда, Слонім.

Былая сталіца Вялікага Княства зрабілася найбуйнейшым цэнтрам беларускага друку. Тут дзейнічалі заснаванае яшчэ ў 1913 г. Беларускае выдавецкае таварыства, а таксама выдавецтвы Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага сялянска-работніцкага клуба, Таварыства беларускай школы, выдавецтва У. Знамяроўскага...




Будучы філосаф, аўтар знакамітага эсэ «Адвечным шляхам» Ігнат Канчэўскі (Абдзіраловіч) пад час вучобы ў Віленскай рэальнай навучальні. Фота пачатку 1910-х гадоў

Сцяг заходнебеларускіх камуністаў. Другая палова 1920-х гадоў



Паэт, публіцыст і драматург Леапольд Родзевіч браў актыўны ўдзел і ў палітычным жыцці. Пачатак 1920-х гадоў



Плённа супрацоўнічаў з беларускімі культурнымі ўстановамі мастак Мсціслаў Дабужынскі. Фота 1930-х гадоў

## ХРАНАЛОГІЯ

1919–1938 гг. – Дзейнасць у Вільні Беларускага нацыянальнага камітэта.
1919–1944 гг. – Дзейнасць Віленскай беларускай гімназіі.
1921 г. – Рыжская мірная дамова, паводле якой Заходняя Беларусь адыходзіла да Польшчы.
У Вільні пачынае працу Таварыства беларускай школы.
Заснаванне ў Віленскім універсітэце Беларускага студэнцкага саюза.
1921–1944 гг. – Дзейнасць ў Вільні Беларускага музея імя І. Луцкевіча.
1922 г. – Утварэнне Беларускага пасольскага клуба з сядзібай у Вільні.
Адкрыццё ў Вільні Беларускай драматычнай майстроўні.
1923 г. – У Вільні размяшчаецца ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі.
1925 г. – Заснаванне ў Вільні Беларускага сялянскага саюза.
1926–1936 гг. – Дзейнасць Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.
1927 г. – Стварэнне ў Вільні арганізацыі маладых беларускіх пісьменнікаў і мастакоў «Веснаход».



У Вільні выходзілі дзясяткі перыядычных выданняў разнастайных кірункаў. Адна толькі БСРГ выпускала газеты «Жыццё беларуса», «Беларускі звон», «Беларуская крыніца», «Беларуская ніва», «Беларуская справа», «Наш голас», «Наша справа», «Народны звон», «Народная справа», часопіс «Маланка» ды іншыя перыёдыкі. З мэтаю пашырэння хрысціянскага веравучэння і беларускай ідэі царкоўныя арганізацыі розных канфесіяў выдавалі газеты і часопісы «Беларуская зарніца», «Праваслаўны беларус», «Студэнцкая думка», «Светач Беларусі», «Хрысціянская думка». Вялікую чытацкую аўдыторыю меў створаны БХД часопіс «Калосьсе». Дзякуючы адчыненай хрысціянскімі дэмакратамі Віленскай друкарні імя Францішка Скарыны чытачы рэгулярна атрымлівалі навуковую, грамадска-палітычную, мастацкую і рэлігійную літаратуру, а таксама папулярны часопіс «Шлях моладзі». Паводле статыстычных звестак, пададзеных Віленскім універсітэтам у 1928 г., па колькасці і накладах перыядычных выданняў у Вільні другое месца (следам за палякамі, якім належала ўлада) займалі беларусы. На трэцім месцы быў габрайскі друк, на чацвертым – расейскі і на пятым – летувіскі.

Шматстайным было літаратурна-мастацкае і навуковае жыццё горада. У Вільні дзейнічалі Беларускі народны тэатр ды яшчэ некалькі тэатральных калектываў. Асабліва шмат для папулярызацыі нацыянальнага тэатра зрабіла Беларуская драматычная майстроўня. У 1927 г. маладыя літаратары і мастакі Заходняй Беларусі заснавалі сваю арганізацыю «Веснаход». Тысячы наведнікаў штомесяц прымаў Беларускі музей імя Івана Луцкевіча. Беларускае навуковае таварыства адзначыла 400-я ўгодкі беларускага кнігадрукавання ў Вільні і Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г.



БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Гаварыльня, ці што іншае?

Віленскі тыднёвік «Беларускі Звон», рэдактарам-выдаўцом якога быў драматург Францішак Аляхновіч

У 1920-х – 1930-х гадах у Вільні жылі і працавалі вядомыя дзеячы нашага нацыянальнага Адраджэння, культуры і навукі Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Уладзімір Самойла, Адам Станкевіч, Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч, Францішак Аляхновіч, Максім Танк, Пётра Сергіевіч...

**Мяжа, якая падзяліла Беларусь паводле Рыжскай дамовы. 1921 г.**





Сябар беларускага культурна-асветнага гуртка «Зарніца» Мікола Мамчыц. Фота 1920-х гадоў




Штэмпель бібліятэкі Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні

Выкладчык матэматыкі, а затым дырэктар Віленскай беларускай гімназіі Барыс Кіт пасля Другой сусветнай вайны зрабіў бліскучую кар'еру вучонага ў ЗША. За заслугі ў ажыццяўленні касмічнай праграмы абраны акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Фота 1960-х гадоў





Урок роднай літаратуры ў Віленскай беларускай гімназіі. 1920-я гады

Выключная роля ў нацыянальнай адукацыі належала Віленскай беларускай гімназіі, якая была заснаваная Іванам Луцкевічам і ягонымі паплечнікамі і дзейнічала ў 1919–1944 гг. У розны час у ёй працавалі Адам Станкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Аркадзь Смоліч, Рыгор Шырма, Барыс Кіт, Антон Грыневіч, Язэп Драздовіч, Антон Неканда-Трэпка, Францішак Грышкевіч ды іншыя выдатныя вучоныя, літаратары, педагогі. З гімназіі пачалі свой творчы і грамадскі шлях паэты Наталля Арсеннева (аўтарка беларускага рэлігійнага гімну «Магутны Божа»), Хведар Ілляшэвіч, Алесь Салагуб, Валянцін Таўлай, пісьменнік Кастусь Акула, мастак Раман Семашкевіч, навуковец, старшыня Рады БНР Вінцук Жук-Грышкевіч. Тут вучыліся вучоны-скарыназнавец, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку Вітаўт Тумаш, гісторык, аўтар папулярнай кнігі «Беларусь учора і сяньня» Язэп Найдзюк, журналіст і педагог Янка Багдановіч, гісторык і выдавец Вацлаў Пануцэвіч, публіцыст і грамадскі дзяяч Лявон Луцкевіч... Нездарма Віленскую беларускую гімназію называюць нашым нацыянальным універсітэтам.

Параўнальна з дзейнасцю беларусаў летувіская прысутнасць у тагачаснай Вільні адчувалася нязмерна слабей. Інакш і не магло быць, бо летувісы складалі тут усяго 1,5% насельніцтва.

Урок гісторыі ў Віленскай беларускай гімназіі праводзіць настаўнік Мікола Ілляшэвіч. 1929 г.






Студэнт Карлавага ўніверсітэта ў Празе паэт, публіцыст і крытык Уладзімір Жылка. У сваёй нізцы «Вершы аб Вільні» ён назваў нашу старажытную сталіцу «беларускай Меккай». Фота сярэдзіны 1920-х гадоў



Выпускнік Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі Канстанцін Стаповіч стаў вядомым рэлігійным і грамадскім дзеячом, а таксама здабыў вядомасць як паэт Казімір Сваяк. Пачатак 1910-х гадоў






Фота выкладчыкаў і выпускнікоў Віленскай беларускай гімназіі 1922/23 навучальнага года. У цэнтры тагачасны дырэктар гімназіі Антон Неканда-Трэпка

«Муры старой, каханай Вільні» апяваў паэт Уладзімір Жылка. Свае творы прысвячалі ёй Наталля Арсеннева, Казімір Сваяк, Максім Танк, Вінцук Адважны, дзясяткі іншых беларускіх літаратараў.

*Ты, Вільня, мяне ўзгадавала,*
*Тут сьніў я дзіцячыя сны!..* –

з удзячнасцю пісаў Францішак Аляховіч. А Міхась Козыр (Кастусь Акула) у адным з сваіх вершаў падкрэсліваў старажытную крывіцкую гісторыю нашай даўнейшай сталіцы:

*Прывітаньне табе, Вільня!*
*Слаўны горад Крывічоў, –*
*Места памятак магільных*
*Нашых прадзедаў, дзядоў.*

У той час на Віленскім радыё працаваў паэт, будучы нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш, які сімпатызаваў беларусам. Дзякуючы гэтаму ў эфіры гучалі нашы песні, лекцыі на беларускую тэматыку.

Выкладчыкі Віленскай беларускай гімназіі з першым выпускам. У другім шэрагу знізу (злева направа) Францішак Аляхновіч; гісторык, выдавец і публіцыст ксёндз Адам Станкевіч; дырэктар Міхась Кахановіч; Антон Луцкевіч і Максім Гарэцкі. У трэцім шэрагу (крайняя справа) будучая выдатная паэтка Наталля Арсеннева. 15 чэрвеня 1921 г.





Пячатка Беларускага студэнцкага саюза Віленскага ўніверсітэта




Дырыжор і фалькларыст Рыгор Шырма (сядзіць крайні злева) і кампазітар Канстанцін Галкоўскі (у цэнтры) з маладымі беларускімі літаратарамі, сярод якіх Наталля Арсеннева (сядзіць крайняя справа) і Максім Танк (стаіць трэці справа). Фота канца 1920-х гадоў

Актыўнасць беларускага жыцця ў Вільні не азначала, што яно не сутыкалася з перашкодамі. Наадварот, польскія ўлады ўвесь час рабілі захады, каб абмежаваць, а ў перспектыве і знішчыць беларускі нацыянальны рух. Да прыкладу, з палітычных прычынаў нараз праводзілі звальненні выкладчыкаў Віленскай беларускай гімназіі. Як «недастаткова кваліфікаваны» быў пазбаўлены права выкладаць беларускую літаратуру выдатны публіцыст і літаратурны крытык Антон Луцкевіч. У сумна вядомай віленскай турме Лукішкі праходзілі загартоўку Максім Танк, Піліп Пестрак, Валянцін Таўлай, Міхась Машара ды іншыя заходнебеларускія пісьменнікі. Рэпрэсіі зазналі тысячы актывістаў палітычных партыяў і грамадскіх арганізацый. Тым не менш у гэты перыяд Вільня зрабіла велізарны ўнёсак у беларускую справу, у захаванне нацыянальнай ідэі, мовы і культуры народа.



Славуты беларускі спявак-тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі (з кветкамі), Канстанцін Галкоўскі (сядзіць) і Рыгор Шырма (стаіць за ім злева) з удзельнікамі хору Беларускага студэнцкага саюза. Вільня. 1932 г.



Сябры заходнебеларускага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Веснаход» Наталля Арсеннева (сядзіць другая злева), Ігнат Дварчанін (стаіць злева) ды іншыя з дырэктарам Беларускага музея ў Вільні Антонам Луцкевічам (сядзіць у цэнтры). Вільня. 1927 г.



Сенатар Сейма Польскай Рэспублікі, беларускі палітык і царкоўны дзяяч Вячаслаў Багдановіч. 1922 г.

У Заходняй, як і ў савецкай Беларусі, існавала ўпэўненасць, што пасля аб'яднання Бацькаўшчыны Вільня абавязкова будзе ў яе складзе.





LIETUVIŲ, GUDŲ IR UKRAINŲ STUDENTŲ SĄJUNGOS

GERB. P.

BALIUN-KONCERTAN

KURIS BUS MAGNIFICENCIJOS REKTORIAUS KUN. D-RO Č. FALKOVSKIO GLOBOJAMAS

KOMITETAS

БЕЛАРУСКІ, УКРАІНСКІ І ЛІТОЎСКІ СТУДЭНСКІЯ САЮЗЫ

БАЛЬ-КАНЦЭРТ

ЯКІ АДБУДЗЕЦЦА ПАД ПРОТЭКТАРАТАМ ЯГО МАГНІФІЦЭНЦЫІ КС. РЭКТАРА ДР. Ч. ФАЛЬКОЎСКАГА Ў НЯДЗЕЛЮ 9-га ЛЮТАГА 1930 Г. У САЛЯХ ГАНДЛЁВА-ПРАМЫСЛОВАГА КЛЮБУ (ВУЛ. МІЦКЕВІЧА 33/А).

КАМІТЭТ.

АКАДЕМІЧНІ ГУРТКИ УКРАЇНСЬКИЙ, ЛИТОВСЬКИЙ І БІЛОРУСЬКИЙ

ВАШУ ВСЕЧЕСНІСТЬ

КАНЦЕРТ-БАЛЬ

ЯКИЙ ВІДБУДЕТЬСЯ ПІД ПРОТЕКТОРАТОМ ЙОГО МАГНІФІЦЕНЦІЇ РЕКТОРА Кс. Д-РА ФАЛЬКОВСЬКОГО

В НЕДІЛЮ, ДНЯ 9 ЛЮТОГО Ц. Р. В САЛЯХ КЛЮБУ ГАНДЛЕВО-ПРОМИСЛОВОГО (МІЦКЕВИЧА 33/А).

КОМІТЕТ.

Запрашэнне на канцэрт-баль Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні. 1930 г.



Школьны аркестр з навучэнцаў Віленскай беларускай гімназіі. Унізе крайні злева сядзіць Вітаўт Тумаш, у будучым вядомы дзяяч нашай паваеннай эміграцыі, скарыназнавец. Другая палова 1920-х гадоў



Вучнёўскі хор Віленскай беларускай гімназіі пад кіраўніцтвам Альбіна Стаповіча. Крайні справа стаіць Хведар Ілляшэвіч, пазней вядомы беларускі паэт. Другая палова 1920-х гадоў



Славуты заходнебеларускі мастак Пётра Сергіевіч. 1931 г.

Партрэт грамадска-культурнага і рэлігійнага дзеяча Станіслава Глякоўскага, які ўзначальваў беларускую каталіцкую парафію і выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі. Мастак Пётра Сергіевіч. 1932 г.

Ліга Нацыяў фактычна прызнала адыход Віленшчыны з Вільняй да заходнебеларускага абшару. У незалежнай Летуве з сталіцаю ў Коўне шмат хто ўспрымаў гэта як незваротную страту. У 1930-х гадах у летувіскім друку гучалі прапановы памяняць назоў дзяржавы на Жэмайцію, а герб «Пагоня» – на жамойцкага «Мядзведзя». Такія публікацыі адлюстроўвалі не толькі настроі ў грамадстве, але і пазіцыю ўрадавых колаў. Тагачасны прэм'ер-міністр Летувы Ёзас Тубяліс у 1935 г. афіцыйна заявіў пра славянскае паходжанне «Пагоні» і падрыхтоўку новага герба.

Такім чынам, страціўшы Вільню, летувісы гатовыя былі адмовіцца і ад прэтэнзіяў на гістарычную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Аднак падзеі пачатку Другой сусветнай вайны прынеслі ім неспадзяваны падарунак з Масквы.




Свае першыя вершы Наталля Арсеннева напісала ў гады навучання ў Віленскай беларускай гімназіі. Паэтка пад час шпацыру па Вільні з грамадскімі ды культурнымі дзеячамі Міколам Шчорсам і Станіславам Станкевічам. Фота 1932 г.

# СТРАТА ВІЛЬНІ І ВІЛЕНСКАГА КРАЮ



Урачыстая арка для сустрэчы чырвонаармейцаў у адным з мястэчак Беласточчыны. Верасень 1939 г.

## «Вызваленчы паход» у Заходнюю Беларусь

Бальшавіцкі СССР 23 жніўня 1939 г. падпісаў з нацысцкай Нямеччынай дамову аб ненападзе, вядомую ў гісторыі па прозвішчах кіраўнікоў замежнапалітычных ведамстваў дзвюх дзяржаў як пакт Молатава–Рыбентропа. Да пакта быў прыкладзены дадатковы сакрэтны пратакол, у якім Сталін і Гітлер дзялілі Польскую дзяржаву на сферы ўплыву. Мяжа павінна была прайсці прыкладна па рэках Нараў, Буг, Вісла і Сан. Летува пакідалася гітлераўцам. У сакрэтным пратаколе адзначалася, што Савецкі Саюз і Нямеччына прызнаюць прэтэнзіі Летувы на Віленскі край. Абодва бакі планавалі выкарыстаць сітуацыю ва ўласных мэтах.

Першай на Польшчу 1 верасня 1939 г. напала Нямеччына. У той час калі палякі абаранялі Варшаву, свае войскі рушыў на захад Сталін. Савецкая прапаганда абвясціла гэта «вызваленчым паходам» на дапамогу заходнім беларусам і ўкраінцам.

На працягу дзесяці дзён Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь апынуліся пад бальшавіцкай уладай. Такім чынам быў скасаваны падзел Беларусі паводле Рыжскага трактата 1921 г. У выніку тэрыторыя рэспублікі вырасла больш чым на 100 000 квадратных кіламетраў, а насельніцтва – на 4,5 мільёна чалавек.




Такімі плакатамі ўвосень 1939 г. былі заклеены заходнебеларускія гарады і мястэчкі




Карта, прыкладзеная да пакта Молатава–Рыбентропа. Маскоўская газета «Известия» за 18 верасня 1939 г.

## ХРАНАЛОГІЯ

23 жніўня 1939 г. – Падпісанне пакта Молатава–Рыбентропа з сакрэтным пратаколам пра падзел Польскай дзяржавы.

1 верасня 1939 г. – Напад гітлераўскай Нямеччыны на Польшчу пачалася Другая сусветная вайна.

17 верасня 1939 г. – Пачатак «вызваленчага паходу» Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь.

19 верасня 1939 г. – Савецкія войскі занялі Вільню. Віленскі край становіцца часткаю Беларусі.

28 верасня 1939 г. – Паводле дадатковага сакрэтнага пратакола да пакта Молатава–Рыбентропа Летува і Вільня перадаюцца ў савецкую «зону ўплыву».

10 кастрычніка 1939 г. – СССР перадаў Вільню і Віленскую вобласць Летуве ў абмен на згоду стварыць на яе тэрыторыі савецкія вайсковыя базы.

28 кастрычніка 1939 г. – Вільню занялі летувіскія войскі.




Савецкая паштовая марка, прысвечаная «вызваленчаму паходу». 1940 г.





ПРОЛЕТАРИИ ВСЕХ СТРАН, СОЕДИНЯЙТЕСЬ!

ОСВОБОЖДЕННЫЙ БЕЛОСТОК

№ 13 19 ОКТЯБРЯ 1939 г. Цена 10 копеек (10 грошей)

ШИРЕ РАЗМАХ ПРЕДВЫБОРНОЙ АГИТАЦИИ

Избирательные комиссии деятельно готовятся к дню выборов в Народное Собрание.

На Железной улице

СОБРАНИЕ ПАРТИЙНОГО АКТИВА гор. МИНСКА

Адна з газет, якія пачалі выдаваць «вызвольнікі» ў 1939 г.

Ацэньваючы тыя падзеі, газета «Нью-Ёрк Таймс» ў нумары за 18 верасня 1939 г. называла нацызм «карычневым камунізмам», а камунізм «чырвоным фашызмам» і пісала, што свет хутка зразумее: у яго ёсць толькі адзін выбар – паміж дэмакратыяй, свабодай і мірам, з аднаго боку, і дэспатызмам, тэрорам і вайной – з іншага.

Аднак шмат хто з беларусаў верыў, што сапраўды надышоў час вызвалення і далучэння да свабоднай і незалежнай Беларусі. Былі выпадкі, калі пад кіраўніцтвам мясцовых камуністаў жыхары сустракалі чырвонаармейцаў хлебам-соллю і кветкамі. Але большасць насцярожана чакала далейшых падзеяў.




Агітацыйная ўлётка з заклікам на выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі

Пры канцы кастрычніка Народны (Нацыянальны) сход у Беластоку, на які былі старанна падабраныя дэпутаты, аднагалосна прагаласаваў за абвяшчэнне ў Заходняй Беларусі савецкай улады. Далучаны абшар стаў часткаю БССР. Тут стварыліся пяць новых абласцей – Баранавіцкая, Беластоцкая, Берасцейская, Вілейская і Пінская.

Задзіночанне ў межах адной рэспублікі адпавядала нацыянальным інтарэсам беларусаў і рабіла больш выразнай нашу гістарычную перспектыву. Але за гэта была заплочаная вельмі дарагая цана. Неўзабаве ў былой Заходняй Беларусі пачаліся масавыя дэпартацыі і фізічнае вынішчэнне «антысавецкіх элементаў». Адбывалася рабаванне эканамічнага і культурнага багацця краю. Новая ўлада рэзка абмежавала правы рэлігійных супольнасцяў. У адукацыі хутка быў узяты курс на русіфікацыю. Захоўвалася нават старая савецка-польская мяжа з заставамі, што дало некаторым гісторыкам падставы параўнаць гэты абшар з велічэзным канцлагерам.

Напачатку Масква рабіла крокі дзеля таго, каб заваяваць прыхільнасць заходніх беларусаў: зніжаліся падаткі і цэны на некаторыя тавары, сяляне-бедняки атрымлівалі зямлю і крэдыты, адчыняліся беларускія школы.

Апрача таго, па-за межамі БССР засталіся вялікія тэрыторыі з беларускім насельніцтвам. Крывадушная палітыка Крамля красамоўна выявілася ў гандлі Вільняй і Віленшчынай.




Мітынг у падтрымку далучэння да Савецкага Саюза, арганізаваны новай уладай у адной з беластоцкіх вёсак. Восень 1939 г.

Праваслаўны крыж у мемарыяльным комплексе «Катынь». Чвэрць палонных афіцэраў Польскай арміі, расстраляных на загад Сталіна пад Смаленскам у 1940 г., былі беларусамі. Фота Генадзя Мацура. 2009 г.





Касцёлы святой Ганны і бернардзінцаў у Вільні. Фота Яна Булгака. Пачатак XX ст.

## Вільня зноў беларуская

Заходнія беларусы лічылі Вільню сваім бясспрэчным духоўным і культурным цэнтрам. У беларускім савецкім грамадстве таксама існавала перакананасць у непарыўнасці лёсаў Вільні і Беларусі. Нацыянальныя колы былі ўпэўнены, што горад нарэшце апынецца ў складзе беларускай рэспублікі. Узбуйнення яе тэрыторыі за кошт Віленшчыны чакалі ў БССР і камуністы. Тым больш Камінтэрн у свой час вызначыў, што Заходняя Беларусь улучае ў сябе Вільню і Віленскі край.

15 верасня 1939 г. адбылося паседжанне НКВД БССР, дзе Вільня таксама разглядалася як «частка былых польскіх земляў, якія трэба далучыць да Беларускай ССР». (НКВД, вядома, вырашаў уласную задачу – «ізаляцыю» заходнебеларускіх «ворагаў савецкай улады».)

На трэці дзень «вызваленчага паходу», 19 верасня 1939 г., часціны Чырвонай арміі ўвайшлі ў Вільню. У зводцы савецкага Генштаба за гэты дзень паведамлялася: «На поўначы – у Заходняй Беларусі – пасля двухгадзіннага бою нашыя войскі занялі Вільню».



Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Орган Часовага Упраўлення Віленскай Акругі

# ВІЛЕНСКАЯ ПРАЎДА

№ 1 22 верасня 1939 г. пятніца

**Горача вітаем Чырвоную Армію, Совецкі ўрад і таварыша Сталіна за аказаную нам дапамогу ў вызваленні ад польскіх паноў і капіталістаў**

**З прамовы па радыё Старшыні Совета Народных Камісараў СССР таварыша В. М. Молатава**

17 верасня 1939 г.

**Вітаем рашэнне совецкага ўрада**

**РЭЗАЛЮЦЫЯ**

**Будзем жыць у брацкай сям'і народаў СССР**

Ад 22 верасня 1939 г. у Вільні пачала выходзіць газета «Віленская праўда», з якой супрацоўнічалі Антон Луцкевіч, Францішак Грышкевіч ды іншыя беларускія дзеячы



Хаты над ракой Вільняй. Лінарыт Міхася Сеўрука. 1937 г.

24 верасня ў актавай зале Віленскай беларускай гімназіі адбылася афіцыйная ўрачыстасць з нагоды далучэння Вільні да Беларусі «на векі вякоў». Пра гэта казалі ў сваіх выступах і тагачасны загадчык аддзела прапаганды ЦК КП(б)Б Іван Клімаў, які ўзначальваў савецкую адміністрацыю Заходняй Беларусі, і віленскія беларускія дзеячы на чале з былым прэм'ерам урада БНР Антонам Луцкевічам. Ён, у прыватнасці, заявіў: «Беларусь зноў стала адзінай... Вялікая праца перад намі, праца дзеля адбудовы ўсяго таго, што гадамі падміналася і нішчылася польскімі панамі. Утварэнне адзінай вольнай савецкай Беларусі адчыняе для беларускай культуры шлях да хуткага развіцця наперад».

Цэнтральныя менскія газеты ў другой палове верасня выйшлі пад лозунгамі «Вільня – зноў беларуская!» У савецкіх выданнях, прычым не толькі ў БССР, друкаваліся артыкулы, дзе давodзіліся гістарычныя правы Беларусі на Вільню і тлумачылася, што Вялікае Княства Літоўскае было беларускай дзяржаваю.




Замкавая гара з вежай Гедзіміна ў Вільні. Паштоўка 1918 г.





Як шмат кажа беларускаму сэрцу Вільня! Фота Дзяніса Раманюка. 2001 г.



Фрагмент дэкору віленскага палаца Радзівілаў. Фота Яна Булгака. 1916 г.

Вільняй і Віленшчынай у тыя тыдні кіравалі пасланцы з Менска. Была створаная Віленская вобласць. Беларускую мову прызналі афіцыйнай. На ёй, як і ў іншых абласных цэнтрах рэспублікі, пачала выходзіць газета «Віленская праўда», якая з нумара ў нумар змяшчала матэрыялы аб гістарычным праве беларускага народа на Вільню і Віленскі край. У Вільні знаходзілася і рэдакцыя галоўнай савецкай газеты для Заходняй Беларусі – «Свабодная Беларусь». Адчыняліся беларускія школы і арганізацыі. У беларускую гімназію, якая існавала і за польскім часам, паступалі тысячы заяваў. Каб задаволіць іх, арганізавалі дзесяць паралельных класаў. Але і гэтага было мала, і таму ўлады пастанавілі адчыніць у Вільні Другую беларускую гімназію. Былі створаныя курсы для падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы ў вясковых школах.

У Свянцянах (цяпер Швянчоніс у Летуве), Эйшышках (цяпер Эйшышкіс) ды іншых гарадах і мястэчках адбываліся мітынгі, дзе прымаліся рэзалюцыі пра ўваходжанне ў склад БССР. Самы вялікі ва ўсёй Заходняй Беларусі мітынг прайшоў у Вільні. На Лукішскім пляцы сабралася 75 тысяч гараджанаў – трацiна ўсяго насельніцтва. У рэзалюцыі мітынга, на якім сярод іншых выступаў і А. Луцкевіч, гаварылася, што працоўныя Вільні галасуюць за ўваходжанне ў склад Беларускай ССР.

Аднак горад заставаўся ў Беларусі ўсяго сорак дзён.

На Віленшчыне ішла падрыхтоўка да выбараў у беларускі «парламент» – Народны сход. З таго часу захаваліся спісы выбарцаў, складзеныя, дарэчы, на нашай мове. Энтузіязм віленскіх беларусаў нарадзіў нават чуткі пра пераняcенне з Менска ў Вільню сталіцы БССР.



Вільня. Уваходная брама Свята-Траецкага манастыра (Базыльянскіх муроў), дзе месцілася Беларуская гімназія. Фота С.Пракудзіна-Горскага. 1910-я гады




Сябры і хаўруснікі. Сталін ціснe руку Рыбентропу. Газета «Бэрлінэр цайтунг» 1939 г.

## Планы Масквы і Берліна

Падзеі верасня 1939 г. прывялі СССР і Нямеччыну да неабходнасці ўдакладнення ранейшых намераў. Войскі вермахта захапілі на ўсход ад Варшавы вялікую этнічна польскую тэрыторыю, якая паводле пакта Молатава–Рыбентропа належала да савецкай «зоны ўплыву». Сталін і ягонае абкружэнне пагадзіліся з гэтым, убачыўшы сваю выгаду. Акупацыя цэнтральнай Польшчы Чырвонай арміяй не дазваляла б маскавацъ захопніцкую акцыю пад «вызваленчы паход» і хавала ў сабе небяспеку, што хаўруснікі Польшчы – Англія і Францыя – абвесцяць вайну не толькі Нямеччыне, але і Савецкаму Саюзу.

28 верасня Масква і Берлін падпісалі новы сакрэтны пратакол. Немцы павінны былі пакінуць захопленыя імі Берасейскую фартэцу (Брэсцкую крэпасць) і Берасце (на яго цэнтральным пляцы за некалькі дзён да гэтага адбыўся супольны парад савецкіх і гітлераўскіх войскаў). СССР адмаўляўся на карысць немцаў ад цэнтральнапольскіх земляў, але наўзамен атрымаў Летуву.

У пакуль яшчэ незалежнай Летуве з велізарнай увагаю сачылі за падзеямі. На самым пачатку Другой сусветнай вайны там не пагадзіліся з прапановай немцаў – Вільня ў абмен на дапамогу ў баявых дзеяннях на тэрыторыі Польшчы. Супраць былі б Брытанія і Францыя, а магчыма, і Савецкі Саюз. Як піша сучасны амерыканскі гісторык Тымаці Снайдэр, летувіскі ўрад «разлічваў, што ў кароткатэрміновай перспектыве нямецкая ўлада будзе горшая за савецкую, у сярэднетэрміновай – што СССР выйдзе пераможцам у будучай вайне з Нямеччынай, а ў доўгатэрміновай – што калі за Вільню давядзецца заплаціць незалежнасцю, то лепей падпісаць гэткае пагадненне з Савецкім Саюзам».

Братанне чырвонаармейцаў і гітлераўскіх салдатаў у Берасці. Восень 1939 г.

Супольны парад савецкіх і нацысцкіх войскаў. Берасце. 22 верасня 1939 г.



Як толькі чырвонаармейцы захапілі Вільню, летувіскія дыпламаты ў Маскве звярнуліся да савецкіх уладаў з просьбай перадаць горад Летуве. Тады ад звароту проста адмахнуліся, але сітуацыя імкліва мянялася. 1 кастрычніка летувіскі міністр замежных справаў Ёзас Урбшыс даведаўся пра змены сфераў уплыву і пра тое, што за Вільню трэба будзе расплочвацца прысутнасцю 20-тысячнага кантынгенту савецкіх войскаў у Летуве. Масква нават не палічыла патрэбным паведаміць пра гэта ў Менск, што лішні раз падкрэслівае марыянеткавы характар так званай беларускай савецкай дзяржавы.



10 кастрычніка 1939 г. СССР і Летува падпісалі пагадненне, згодна з якім Віленшчына пераходзіла Летуве. У Менску яшчэ нічога не ведалі. У той самы дзень газета «Звязда» апублікавала дзве карэспандэнцыі з Вільні. У адной з іх паведамлялася, як віленчукі рыхтуюцца да выбараў дэпутатаў у Народны сход Заходняй Беларусі. Адметна, што савецка-летувіская дамова пра Віленшчыну не публікавалася, пакуль Вярхоўны Савет СССР не задаволіў «просьбу» Народнага сходу ў Беластоку пра далучэнне «вызваленых земляў» да БССР.



Пераможцы. Сяброўская сустрэча савецкіх і гітлераўскіх вайскоўцаў. Восень 1939 г.

Наркам замежных справаў СССР В. Молатаў даў наступнае тлумачэнне: «Мы ведаем, што большасць насельніцтва гэтага рэгіёну – не летувісы. Але гістарычная мінуўшчына і памкненні летувіскага народа цесна звязаныя з горадам Вільня, і ўрад СССР палічыў за неабходнае пайсці насустрач гэтым маральным фактарам». Зразумела, што насамрэч ні пра якую мараль гаворкі не ішло. СССР атрымаў за сваё «дабрадзейства» права размясціць у Летуве савецкія вайсковыя базы, а ўлетку 1940 г. захапіў усю краіну разам з дзвюма іншымі балтыйскімі рэспублікамі – Латвіяй і Эстоніяй.

Каб змякчыць незадаволенасць ужо акупаванай Летувы, савецкі ўрад праявіў новы «клопат» – перадаў ёй у лістападзе 1940 г. яшчэ 2,6 тысячы квадратных кіламетраў пямежнай тэрыторыі БССР. З прылеглымі, населенымі пераважна беларусамі землямі ад нашай рэспублікі былі адарваныя гарады Свянцяны (цяпер Швянчоніс), Салечнікі (цяпер Шальчынінкай) і славуты курорт Друскенікі (цяпер Друскінінкай).

1 лістапада 1939 г. беларусы даведаліся, што Масква адарвала ад Беларусі і перадала Летуве 7120 квадратных кіламетраў з 457000 жыхароў – Віленшчыну разам з Вільняй.




Сталінскі падарунак. Колерам пазначаны абшар, перададзены Летуве паводле дамовы паміж Масквой і Коўнам 10 кастрычніка 1939 г.

Пасля падпісання хаўрусніцкай дамовы СССР з нацысцкай Нямеччынай. 1939 г.





Актыўны ўдзельнік антыбальшавіцкага Слуцкага збройнага чыну Сяргей Бусел. У Заходняй Беларусі ён не здрадзіў ідэалам маладосці, займаючыся палітычнай і выдавецкай дзейнасцю. Увосень 1939 г. арыштаваны і асуджаны на 15 гадоў зняволення. Фота 1920-х гадоў

## Расправа з беларускай інтэлігенцыяй

Чыстка Вільні ад «антысавецкіх элементаў» распачалася адразу ж пасля заняцця горада Чырвонай арміяй. За сорак дзён знаходжання ў складзе Беларусі было дэпартавана амаль 1000 віленчукоў. Як толькі СССР і Летува падпісалі дамову аб перадачы Віленшчыны, савецкая адміністрацыя рэзка змяніла стаўленне да віленскіх беларускіх дзеячоў, якіх раней меркавалі выкарыстаць на планаваным у Вільні Нацыянальным сходзе. Іван Клімаў меў загад арыштаваць іх у адпаведнасці з складзеным у НКВД спісам. У ліку іншых былі схопленыя вядомы публіцыст і вучоны Уладзімір Самойла, аўтар нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макар Краўцоў (Касцевіч), рэдактар газеты хрысціянскіх дэмакратаў «Беларуская крыніца» Янка Пазьняк (дзед Зянона Пазьняка), беларускі сенатар Вячаслаў Багдановіч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання Сяргей Бусел, сябры Беларускага навуковага таварыства Вінцук Жук-Грышкевіч і Антон Неканда-Трэпка. Неўзабаве большасць з іх загінулі.



Удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху, аўтар верша-гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макар Краўцоў быў закатаваны на допытах у савецкай турме. 1920 г.

Трагічны лёс чакаў і лідара беларускага руху ў Вільні Антона Луцкевіча. Колішні прыхільнік аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага і адзін з стваральнікаў БНР ведаў, што такое сталінская дыктатура, але дзеля выратавання беларускай справы і нацыянальнай інтэлігенцыі спрабаваў шукаць кампрамісу з бальшавікамі. Усё было марна: Луцкевіча таемна схапілі і адправілі ў менскую турму. Праз два з паловаю гады жыццё выдатнага сына нацыі абарвалася на адным з перасыльных пунктаў.

Тая частка беларускай інтэлігенцыі Вільні, што яшчэ заставалася на волі, сталася сведкай рабавання бальшавікамі нашых нацыянальных культурных каштоўнасцяў. Зборы Беларускага музея імя Івана Луцкевіча спехам грузілі ў вагоны і вывозілі ў Менск. Па дарозе віленскія скарбы раскрадаліся і гінулі.




Лідар беларускага руху ў Вільні Антон Луцкевіч у савецкай няволі. У верасні 1939 г. арыштаваны і перавезены ў Менск. Прысуджаны да васьмі гадоў канцлагераў. Памёр на перасыльным пункце ў горадзе Аткарску Саратаўскай вобласці. Фота з следчай справы



Касцёл святых Пётры і Паўла ў Вільні. Паштоўка 1930-х гадоў



Адзін з лідараў нацыянальна-вызвольнага змагання ў Заходняй Беларусі, кіраўнік Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і рэдактар часопіса «Хрысьціянская думка» Янка Пазьняк быў зняволены і вывезены з Вільні. Далейшы лёс невядомы. Фота 1915 г.





Палітык і грамадскі дзяяч, колішні дырэктар Віленскай беларускай гімназіі Антон Неканда-Трэпка, засуджаны на 10-гадовую высылку ў Сібір. Фота 1930-х гадоў

Але найцяжэйшаю культурнай стратаю была сама перадача Вільні і прылеглых земляў. Па-першае, ва ўмовах таталітарнага рэжыму і асімілятарскай палітыкі летувіскіх уладаў гэта адрывала ад беларускай нацыянальнай ідэі амаль паўмільёна беларусаў. Па-другое, Крэмль, ігнаруючы гістарычныя факты, падтрымаў прэтэнзіі Летувы на тое, што менавіта яна, а не Беларусь выступае спадкаемкай колішняй магутнай еўрапейскай дзяржавы. У выніку, паколькі адбылося зліццё старога палітычнага назову і новага этноніма «Летува», знікала сувязь паміж сучаснай Беларуссю і Вялікім Княствам Літоўскім.

29 кастрычніка пасля ўрачыстай цырымоніі ўзняцця летувіскага сцяга на гары Гедзіміна ў гарадскім садзе выступіў генерал Вінцас Віткаўскас. Ён казаў пра «радасць летувіскага народа ў сувязі з далучэннем Вільні». Публіка напружана ўслухоўвалася ў гукі незнаёмай мовы. Генерала разумелі пераважна толькі ягоныя падначаленыя-вайскоўцы ды ўведзеная ў горад летувіская паліцыя.



Панарама старой Вільні. Фота Дзяніса Раманюка. 2000 г.



Вучоны і педагог, выкладчык Віленскай беларускай гімназіі Вінцэнт Жук-Грышкевіч у 1939 г. атрымаў восем гадоў зняволення. 1930 г.

Калі 28 кастрычніка 1939 г. на віленскіх вуліцах з'явіліся летувіскія вайскоўцы з корпуса генерала В. Віткаўскаса, яны зазналі сапраўдны шок. Іхнай мовы амаль ніхто не разумеў. Ніхто не вітаў іх – наадварот, шмат хто ўспрымаў прыхадняў як яшчэ адну ўладу, якая надоўга тут не затрымаецца. Выхаваныя ў адпаведным духу летувісы, як занатаваў адзін з іх афіцэраў, «замест казачнай князёўны ўбачылі вуліцы чужога невядомага горада, дзе размаўлялі на чужой мове».



Летувіскі жаўнер у Вільні. Восень 1939 г.

Перадача этнічнай беларускай тэрыторыі Віленшчыны ў склад Летувы сталася вынікам злачыннай змовы паміж сталінскім СССР і гітлераўскай Нямеччынай, якія пайшлі на такі крок, кіруючыся выключна сваімі імперскімі інтарэсамі.

Віленскі край стаў першай тэрытарыяльнай стратаю Беларусі ў Другой сусветнай вайне.

# ВІЛЕНШЧЫНА Ў 1939–1944 ГАДАХ І ПАВАЕННЫМ ЧАСЕ

Жаўнеры корпуса генерала Віткаўскаса на ўрачыстасцях з нагоды сталінскай перадачы Вільні Летуве. 29 кастрычніка 1939 г.



## Вільня пад летувіскай уладай

Далучэнне Вільні да Летувы прывяло да хуткага росту тут летувіскага насельніцтва, якое раней складала ўсяго 1,5%. З этнічнага летувіскага абшару сюды пераязджала чынавенства, ехалі вайскоўцы, паліцыя, перасялялі рабочых і сялянаў. Іншамоўных жыхароў, якіх па-ранейшаму была значная большасць, новая ўлада абвясціла колішнімі летувісамі, якіх трэба вярнуць да сваіх «сапраўдных каранёў». Такую ідэю і паклалі ў падмурак палітыкі на атрыманых ад Сталіна землях.

У грамадзянстве вельмі часта адмаўлялі нават народжаным у Вільні і на Віленшчыне. Афіцыйная прапаганда і чынавенства сцвярджалі, што беларускае насельніцтва – гэта насамрэч «страчаныя летувісы», якія мусяць дадаць да прозвішчаў канчаткі «ас», «іс», «ус» і вярнуцца да сваёй праўдзівай нацыянальнасці. Беларусы цярпелі дыскрымінацыю пры ўладкаванні на дзяржаўную службу. Сярод іх значна павялічылася беспрацоўе.



Летувіскія вайскоўцы сустрэлі ў Вільні сцяну неразумення. Лістапад 1939 г.

Гэтая палітыка, па сутнасці, не змянілася і пасля абвяшчэння ў ліпені 1940 г. Летувіскай ССР. У тым самым годзе Масква перадала новай «братняй рэспубліцы» частку тэрыторыі БССР плошчаю болей за дзве з паловай тысячы квадратных кіламетраў з насельніцтвам 82 тысячы чалавек, пераважную большасць якога складалі беларусы.

Гэты падарунак Сталіна мусіў падсаладзіць «літоўскім таварышам» іхнюю «радасць» з нагоды ўлучэння Летувы ў склад Савецкага Саюза.

Прэм'ер-міністр незалежнай Летувы Антанас Мяркіс, якога прызначылі кіраўніком віленскай адміністрацыі, казаў, што трэба «прымусіць усіх думаць, як летувісы», і «вывесці з Віленскага краю ўсялякі чужынскі элемент», пад якім разумелі найперш беларусаў, палякаў і габраяў.



Мітынг у Вільні ў падтрымку абвяшчэння савецкай улады. 1940 г.



Новая адміністрацыя зачыняла беларускія школы і культурна-асветныя арганізацыі, усяляк імкнучыся сцерці праявы беларускай прысутнасці ў горадзе і на Віленшчыне. На гары Гедзіміна быў спалены мемарыяльны драўляны крыж, усталяваны ў 1921 г. на месцы пахавання Кастуся Каліноўскага і яшчэ чатырнаццаці пакараных смерцю паўстанцаў. Мармуровая пліта з імёнамі ўсіх змагароў бясследна знікла.

Звесткі пра нацыянальны склад насельніцтва Віленскага краю да 1939 г. (як і пра тое, што напачатку Вільня з прылеглым абшарам знаходзілася ў складзе Беларусі) былі засакрэчаныя.



Салдаты вермахта ў ваколіцах Вільні. Чэрвень 1941 г.

## Нямецкая акупацыя

Пад час акупацыі Летувы гітлераўскай Нямеччынай колькасць беларускай інтэлігенцыі і наагул свядомых беларусаў у Вільні хутка зніжалася. З аднаго боку, ініцыятарамі карных антыбеларускіх акцыяў выступалі польскія шавіністы. Яны або «здавалі» беларусаў (абвінавачваючы іх у сімпатыях да камуністаў) немцам, або дзейнічалі наўпрост праз аддзелы падпольнай польскай Арміі Краёвай. У сваю чаргу і летувіскія паліцэйскія фармаванні, якія вылучаліся не меншай жорсткасцю, таксама разглядалі гарадское і вясковае беларускае насельніцтва як сваіх ворагаў. (Большая частка Віленшчыны разам з Вільняй была ў гэты час далучаная да генеральнай акругі «Летува».) Трэцяй антыбеларускай сілай былі засыланыя з-за лініі фронту агенты НКВД, што мелі заданне не дапусціць стварэння нашых незалежніцкіх арганізацыяў.

Тым не менш у гады вайны ў Вільні працавалі некалькі пачатковых беларускіх школаў, гімназія і настаўніцкая семінарыя. Аднавіў дзейнасць Беларускі музей імя Івана Луцкевіча. Выдавалася беларускамоўная газета «Беларускі голас», якую рэдагаваў славуты драматург Францішак Аляхновіч. Ён жа стаў кіраўніком віленскага камітэта падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі (БНП), што мела на мэце ўтварыць адзіны нацыянальны фронт дзеля змагання з нацыстамі і бальшавікамі за незалежную Беларусь. Сярод актывістаў партыі былі Вацлаў Іваноўскі і Станіслаў Грынкевіч.



Рэдактар газеты «Беларускі голас» выдатны драматург Францішак Аляхновіч у гады нацысцкай акупацыі кіраваў віленскім камітэтам Беларускай незалежніцкай партыі і быў забіты савецкім агентам. Фота Яна Булгака. Сярэдзіна 1910-х гадоў



Рэлігійны дзяяч, гісторык, выдавец і публіцыст Адам Станкевіч у часе нямецкай акупацыі ўваходзіў у Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні, які служыў прыкрыццём для дзейнасці падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі. Фота пачатку 1930-х гадоў

Своеасаблівым прыкрыццём для нелегальнай дзейнасці патрыётаў служыў дазволены немцамі Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні, куды разам з Францішкам Аляхновічам уваходзілі вядомыя беларускія дзеячы Адам і Янка Станкевічы. У сакавіку 1944 г. савецкі агент Ё. Пятрайціс застрэліў Аляхновіча ва ўласнай кватэры.



Кампазітар Антон Грыневіч. Фота 1916 г. Калекцыя былога Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні. Большая частка ягоных збораў трапіла ў бібліятэку Акадэміі навук і музейныя фонды Летувы

У лютым 1944 г. адбылася адміністрацыйная рэарганізацыя акупаваных украінскіх, беларускіх і прыбалтыйскіх земляў. Паводле ўказу Гітлера з складу райхскамісарыята «Украіна» былі выдзеленыя і далучаныя да генеральнай акругі «Беларусь» Берасцейскі, Кобрынскі, Пінскі і Петрыкаўскі раёны. Адначасова ў склад акругі «Беларусь» была перададзеная частка акругі «Летува» зь Вільняй. Нацысты дзейнічалі ў сваіх мэтах, але, безумоўна, улічвалі этнічныя і гістарычныя аспекты. Беларускія незалежнікі звязвалі з рэарганізацыяй свае спадзяванні.



Сяргей Новік–Пяюн, вядомы беларускі паэт, які загадваў пад час Другой сусветнай вайны Слонімскім краязнаўчым музеем. 1970-я гады



Прэзідэнт створанай з дапамогай нямецкіх акупантаў Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслаў Астроўскі. Фота 1940-х гадоў



Нямецкі афіцэр і летувіскае камандаванне на аглядзе нацыянальных вайсковых фармаванняў. Віленскі катэдральны пляц. 1941 г.

Удзельнікі святкавання 25-годдзя Віленскай беларускай гімназіі. Вільня. 1944 г.



У захопленай немцамі Еўропе Летува была адной з першых краінаў, дзе ў масавым маштабе пачаўся генацыд габраяў. З дапамогаю тысяч летувіскіх добраахвотнікаў нацысты да канца 1941 г. знішчылі ў Вільні блізу 22 тысяч габрайскага насельніцтва, якое жыло ў міры з суседзямі-беларусамі з часоў Вялікага Княства Літоўскага. З 70 000 віленскіх габраяў засталіся жывымі толькі блізу 7 тысяч.






Прапагандысцкі плакат новай улады

Між тым, 13 ліпеня 1944 г. савецкія войскі пры падтрымцы польскіх аддзелаў выбілі немцаў з Вільні. Пра свае прэтэнзіі на горад заявілі палякі, чыя Армія Краёва змагалася не толькі за незалежнасць Польшчы, але і за вяртанне ёй Вільні. Летувісы, натуральна, лічылі, што горад мусіць належаць ім, але былі надзвычай устрывожаныя. Іхны масавы калабарацыянізм і, наадварот, шырокі супрацоў беларусаў нацысцкай акупацыі (разам з велізарнымі чалавечымі і эканамічнымі стратамі) у той час давалі падставы для перагляду лёсу Вільні з Віленшчынай і вяртання гістарычнай справядлівасці. Але Сталін палічыў, што больш выйграе, калі пакіне горад летувісам, і аднавіў Летувіскую ССР з сталіцай у Вільні.



Савецкія танкі на вуліцах Вільні. Ліпень 1944 г.



Педагог Язэп Шнаркевіч, які выкладаў у 1941–1944 гг. у віленскіх беларускіх школах. Тагачаснае фота



Нямецкі Райх. Нацысцкі фотаплакат першай паловы 1940-х гадоў

Захаваліся прысвечаныя тым падзеям згадкі вядомага пісьменніка Юстаса Палецкіса, які займаў пасаду старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета ЛССР і ў складзе ўрадавай дэлегацыі трапіў на прыём да Сталіна: «Мы меркавалі пра будучыню Вільні, баючыся, што яна нам не дастанецца. Ведалі, што Беларусь моцна пацярпела ў вайне і там актыўна змагаліся з немцамі, тым часам у нас усё было інакш. Сядзім, маўчым... Сталін кажа: «Ну што прыціхлі?» Мы не адважваемся сказаць, а ён гаворыць: «Я думаю, што мяжа павінна прайсці вось так», – і пазногцем правёў па карце. Тады мы, узрадаваныя (Вільня з нашага боку!), падаліся да карты, каб сёе-тое падправіць. Так мы здабылі Вільню».



У гады Другой сусветнай вайны адзін з кіраўнікоў нашага нацыянальнага руху пачатку XX ст. Вацлаў Іваноўскі ўзначальваў Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні, а затым згадзіўся заняць пасаду бургамістра Менска. Іваноўскі падтрымліваў сувязі з незалежніцкімі беларускімі коламі, а таму ў ягоным знішчэнні былі зацікаўленыя як бальшавікі, так і нацысты. Пахаванне палітыка, забітага ў снежні 1943 г., на менскіх Кальварыйскіх могілках

Летувіскі савецкі ўрад не толькі не дазволіў адчыніць у Вільні ніводнай беларускай школы, але і ліквідаваў беларускую гімназію з настаўніцкай семінарыяй.

## Знішчэнне беларускага асяроддзя пасля вайны

У паваеннай савецкай Летуве вынішчэнне беларускага культурнага асяроддзя ў Вільні працягвалася з яшчэ большай, чым да вайны, паслядоўнасцю. Славуты гістарычна-этнаграфічны музей імя Івана Луцкевіча ў 1945 г. быў фактычна разрабаваны. Большая частка яго збораў трапіла ў летувіскія музейныя фонды і бібліятэку Акадэміі навук Летувы. Новыя гаспадары паклапаціліся пра тое, каб залічыць унікальныя беларускія калекцыі ў спадчыну летувісаў. Нават знакамітыя слуцкія паясы і ўрэцкае шкло былі абвешчаныя «вырабамі летувіскіх рамеснікаў». Тым часам гэбісты праводзілі новыя арышты віленскіх беларускіх дзеячоў і іхных сем'яў, якіх у лепшым разе чакала дэпартацыя.

Узгадніўшы свае дзеянні з Масквой і камуністычнай Варшавай, летувіскія ўлады замест беларускіх школаў насаджалі польскія і расейскія. Калі ў міжваенны перыяд польскамоўны Віленскі ўніверсітэт быў навучальнай установай, дзе беларусаў імкнуліся асіміляваць, то пасля вайны гэтая вышэйшая школа стала ўстановай, куды беларусаў проста не прымалі. Вакол Вільні месціліся сотні беларускамоўных вёсак, да мяжы з Беларуссю было ўсяго трыццаць з нечым кіламетраў, але колькасць студэнтаў-беларусаў не перавышала 1%.

Дзе толькі магчыма, беларусаў запісвалі ў дакументах летувісамі, адпаведным чынам мяняючы імёны і прозвішчы. Тое самае адбывалася ў літаратуры, навуковых працах, на мемарыяльных дошках.

За савецкім часам нават знакамітыя слуцкія паясы ў віленскіх музеях называліся «вырабамі летувіскіх рамеснікаў»





Трокі.
Гравюра беларускага мастака Валянціна Рамановіча.
1930-я гады.
Не кожны сучасны турыст з Беларусі ведае, што цяперашні Тракай – гэта гістарычныя Трокі, а Мядзінінкай – Меднікі



Штоф з Урэцкай гуты.
Шліфаванае шкло з гравіроўкай. XVIII ст.
Прадукцыя нашых славутых гутаў таксама падавалася як летувіская культурная спадчына

Міцкевіч рабіўся Міцкявічусам, Каліноўскі – Калінаўскасам, Васілеўскі – Васіляўскасам. Часам беларускае прозвішча проста перакладалася: да прыкладу, Жвірбліс замест Верабей. Нават Пётру Сергіевічу, славутаму віленскаму мастаку, даводзілася катэгарычна пратэставаць, каб яго не пісалі Пятрасам Сергіявічусам.

Адначасова ўлада ўсяляк спрыяла масаваму выезду нелетувіскага насельніцтва. У 1945–1948 гг. запісаліся палякамі і з'ехалі ў Польшчу каля 100 тысяч жыхароў Віленшчыны, сярод якіх большую частку складалі беларусы. На іх месца перасялялі сялянаў з этнічнай Летувы. Найперш дзякуючы гэтаму да пачатку 1950 г. у Вільні з'явіліся дзясяткі тысяч новых жыхароў. Такі працэс доўжыўся ў наступныя дзесяцігоддзі і даў свой плён.

У савецкай Вільні пазачынялі ўсе беларускія выданні, затое пачала выходзіць польскамоўная газета «Чырвоны штандар». Ксяндзы-палякі ўбівалі ў галовы беларусам-каталікам Віленшчыны, што і яны – палякі. Улады не пярэчылі, бо былі зацікаўленыя ў дэнацыяналізацыі беларускага насельніцтва, якое ўпарта не хацела ператварацца ў летувісаў. Адначасова праводзілася татальная летувізацыя тапанімікі Віленскага краю: Трокі ператварыліся ў Тракай, Меднікі – у Мядзінінкай, Салечнікі – у Шальчынінкай, Свянцяны – у Швянчоніс.



Створаная Ё. Камараўскасам у 1893 г. карта Вільні сцвярджала яе нібыта адвечную летувіскую прыналежнасць і актыўна выкарыстоўвалася ў летувізацыі

Вежы выдатнага помніка нашай гісторыі Мірскага замка, які летувісы, як і ўсю гістарычную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага, называюць сваім. Фота Антаніны Рашчынскай. 2008 г.



«Oratorium». Гімн Вільні. Мастак Людамір Сляндзінскі. 1965 г.



Беларусь ёсць адзінай краінай-пераможцай у Другой сусветнай вайне, якая панесла тэрытарыяльныя страты. Апрача перададзенай Летуве Віленшчыны, у жніўні 1945 г. Масква пры поўнай бяздзейнасці менскіх уладаў падаравала «польскім таварышам» амаль усю Беластоцкую вобласць БССР (у тым ліку населеныя пераважна беларусамі Аўгустоўскі, Беластоцкі, Бельскі, Бранскі, Дуброўскі, Заблудаўскі, Сакольскі раёны), а таксама частку Берасцейскай вобласці (Кляшчэльскі і Гайнаўскі раёны). У 1950 г. адбылося яшчэ адно «ўдакладненне мяжы», калі на карысць Польшчы перадалі шэраг беларускіх паселішчаў. Сярод іх была і родная вёска К. Каліноўскага Мастаўляны.

Паводле звестак усесаюзнага перапісу насельніцтва 1959 г., з 236 100 віленчукоў 79 400 (34%) назваліся летувісамі, 69 400 (29%) – расейцамі, 47 200 (20%) – палякамі, 14 700 (6%) – беларусамі. Такім чынам, доля летувісаў вырасла больш чым у 20 разоў (у 1939 г. яна не складала і 2%). Перапіс 1970 г. засведчыў, што летувісаў было ўжо 50,5%, а колькасць расейцаў, палякаў і беларусаў зменшылася адпаведна да 20, 19 і 5 адсоткаў.

У адказ на вонкавую лаяльнасць летувіскіх камуністаў Масква фактычна дазволіла ў Летуве побач з камуністычнай і нацыяналістычную ідэалогію. Не было аніякіх пярэчанняў таму, што спадчына Вялікага Княства Літоўскага абвяшчалася выключна летувіскай, а Вільня – насуперак гістарычным фактам – спрадвечна летувіскім горадам. За савецкім часам у Летуве выйшлі сотні навуковых і навукова-папулярных выданняў, дзе гэтыя падыходы ўсяляк прапагандаваліся і абгрунтоўваліся. Да прыкладу, у кнізе «Lietuvos piles» («Летувіскія замкі») да такіх былі аднесены Наваградскі, Лідскі, Мірскі, Полацкі ды іншыя беларускія замкі. Летувіскімі паэтамі абвяшчаліся Ян Вісліцкі і Мікола Гусоўскі. Рабіліся спробы залічыць у лік выдатных дзеячоў летувіскай культуры нават Францішка Скарыну.

Змены межаў Беларусі ў 1918–1945 гадах




Ад страты Вільні пацярпела найперш Беларусь, але не толькі яна. Палітыка тагачасных летувіскіх уладаў прывяла да разбурэння ўнікальнай культурнай прасторы, створанай некалькімі народамі.



Але найцяжэйшаю з усіх тэрытарыяльных стратаў была страта нашай шматвяковай сталіцы Вільні.



Колькі падзеяў бачылі гэтыя віленскія муры! Фота Дзяніса Раманюка. 2001 г.

Як вядома, у Летувіскай ССР, як і ва ўсім паваенным Савецкім Саюзе, згадваць сакрэтныя пратаколы да пакта Молатава–Рыбентропа забаранялася. Напярэдадні распаду СССР на мітынгах і дэманстрацыях летувісы характарызавалі пакт як нацыянальную трагедыю. Пры гэтым замоўчвалася тое, што менавіта дзякуючы змове Сталіна і Гітлера Летува атрымала Вільню. Аднак пра сталінскі падарунак добра памятала кіраўніцтва савецкай імперыі.

Заява Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, прынятая ў сувязі з абвяшчэннем Летувой свайго суверэнітэту, была надрукаваная 1 красавіка 1990 г. у газеце «Звязда». Гэты дакумент заканчваўся наступнымі словамі: «У сувязі з выкладзеным мы будзем вымушаныя настойваць на вяртанні Беларускай ССР беларускіх земляў».

11 сакавіка 1990 г. Летува першай з савецкіх рэспублік абвясціла пра свой дзяржаўны суверэнітэт. У той дзень летувіскі парламент на чале з Вітаўтасам Ландсбергісам прыняў Акт аб узнаўленні незалежнасці.

У адказ 28 сакавіка таго самага года Вярхоўны Савет Беларускай ССР, у якім рэй тады вяла кансерватыўная камуністычная большасць, накіраваў у Вільню рэзкую заяву. Яна нагадвала, што ў 1939–1940 гадах без згоды БССР Летуве «былі перададзеныя спрадвечныя беларускія тэрыторыі». Летувісаў папярэджвалі: «Пры выхадзе Літоўскай ССР з Савецкага Саюза Беларуская ССР не будзе лічыць сябе звязанай законамі, указамі і іншымі актамі адносна перадачы Літве часткі беларускіх земляў». Адначасова падкрэслівалася, што «Дагавор аб перадачы Літоўскай Рэспубліцы горада Вільні і Віленскай вобласці і аб узаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам і Літвой» быў вынікам сакрэтнага дадатковага пратакола да савецка-нямецкай дамовы аб ненападзе ад 23 жніўня 1939 г., якую з'езд народных дэпутатаў СССР у 1989 г. прызнаў «юрыдычна беспадстаўнай і несапраўднай».

Такім чынам мясцовыя камуністы, якія шэсцьдзесят гадоў праводзілі саветызацыю і русіфікацыю Беларусі, ператварыліся на загад Крамля ў «абаронцаў нацыянальных інтарэсаў». Відавочна, што Масква ў сваіх геапалітычных мэтах прадугледжвала стварыць на нашых землях яшчэ адну «гарачую кропку» тыпу Карабаха або Прыднястроўя.

Беларускія нацыянальна-дэмакратычныя колы, у тым ліку кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне» і фрактоўская апазіцыйная фракцыя ў Вярхоўным Савеце не падтрымалі ўльтыматыўнай заявы на адрас незалежнай Летувы. Пазней тысячы грамадзян Беларусі выступілі з асуджэннем карнай акцыі савецкіх войскаў каля Віленскага тэлецэнтра. З візітам салідарнасці Вільню наведала дэлегацыя парламенцкай апазіцыі БНФ, а таксама – дзякуючы настойлівасці дэпутатаў-дэмакратаў – і афіцыйная дэлегацыя Вярхоўнага Савета.

Пасля канчатковага распаду Савецкага Саюза праблема Вільні пачала разглядацца на іншым роўні. На пачатку 1992 г. вялікая група грамадскіх і культурных дзеячоў Беларусі звярнулася ў гэтай справе да найвышэйшага заканадаўчага органа ўжо незалежнай Беларусі. Акадэмік Радзім Гарэцкі, заслужаны дзяяч мастацтваў Максім Лужанін, старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету Яўген Лецка, вядомыя вучоныя і пісьменнікі Мікола Ермаловіч, Арсень Ліс, Барыс Сачанка ды іншыя прапанавалі Вярхоўнаму Савету цэлы комплекс захадаў. У звароце гаварылася пра неабходнасць абмеркаваць пытанне прызнання незаконнымі і антыдэмакратычнымі ўсіх актаў урадаў Савецкай Расіі і СССР, з аднаго боку, і Летувы – з другога, па дзяржаўным размежаванні паміж Летувой і Беларуссю, якія былі падпісаныя без удзелу прадстаўнікоў беларускага народа і без уліку народнага волевыяўлення.

Аўтары звароту, апублікаванага «Звяздой» 11 студзеня 1992 г., патрабавалі станоўча развязаць пытанне аб дэнансацыі дагавораў 1920–1940-х гадоў з Летувой, што «мелі захопніцкі характар і прывялі да падзелу беларускіх земляў». Вярхоўным уладам Беларусі і Летувы прапаноўвалася стварыць супольную камісію для распрацоўкі кампрамісная варыянта будучага ўладкавання Вільні і Віленскага краю (статус самакіравання, свабоднага горада, незалежнай ад Летувы і Беларусі зоны або аўтаноміі) «з запрашэннем экспертаў-назіральнікаў Савета Бяспекі ААН».

Зварот выклікаў у прэсе шырокую дыскусію, удзельнікі якой практычна аднадушна падтрымалі згаданыя прапановы. Аднак кіраўніцтва Вярхоўнага Савета не паставіла іх на разгляд. Тым самым была праігнараваная воля беларусаў як у Рэспубліцы Беларусь, так і ў Вільні і Віленскім краі.

Для вырашэння далейшага лёсу Вільні і Віленскага краю прапаноўвалася стварыць міждзяржаўную камісію з запрашэннем экспертаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый





Сілуэты старое Вільні. Фота Дзяніса Раманюка. 1999 г.

# БЕЛАРУСЫ Ў СУЧАСНАЙ ЛЕТУВЕ

Плакат сучаснага беларускага мастака-віленчука Алега Аблажэя



Некалькі дзесяцігоддзяў віленскія беларускія дзеячы, якія ацалелі пасля рэпрэсіяў і вярнуліся на радзіму з сталінскіх лагераў і высылкі, вымушаныя былі падтрымліваць паміж сабой выключна асабістыя кантакты. «Цэнтрамі прыцягнення» былі пісьменніца Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая), мастак Пётра Сергіевіч, сыны Антона Луцкевіча Лявон і Юрка ды іншыя захавальнікі беларускіх культурных традыцыяў.

Паводле дадзеных перапісу 1989 г., у Летуве жыло 63 тысячы беларусаў (у Вільні – 30300). Пасля расейцаў і палякаў яны займалі трэцяе месца сярод нацыянальных меншасцяў, але адрозна ад дзвюх першых доўгі час былі пазбаўленыя як права навучацца на роднай мове, так і астатніх праяваў нацыянальнага жыцця.







Экслібрысы Зоські Верас і Лявона Луцкевіча. Мастак Вячка Целеш



Амаль усё сваё свядомае жыццё пражыў у Вільні наш выдатны мастак Пётра Сергіевіч. Фота 1960-х гадоў



Фрагмент муроў вакол касцёла святых Пятра і Паўла з капліцаю на Антокалі ў Вільні. Пётра Сергіевіч. 1949 г.

**ХРАНАЛОГІЯ**

1989 г. – Стварэнне Таварыства беларускай культуры ў Летуве.

24–25 чэрвеня 1989 г. – У Вільні адбыўся Устаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

1991 г. – У Вільні адноўленае выданне газеты «Наша Ніва».
На віленскіх могілках Росы сімвалічна перапахаваны Іван Луцкевіч.

1993 г. – Адкрыццё Віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны.

1994 г. – У Вільні прайшоў Першы з'езд беларусаў Балтыі.

1995 г. – Дамова паміж Беларуссю і Летувой аб добрасуседстве і супрацоўніцтве.

1997 г. – Пачала выходзіць газета беларусаў Летувы «Рунь».
У Вільні адбылося паседжанне Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

1 студзеня 2000 г. – У Вільні пачала вяшчанне беларускамоўная радыёстанцыя «Балтыйскія хвалі».

2001 г. – Віленскія беларусы дакладна высветлілі месца пахавання Кастуся Каліноўскага на Замкавай гары.





Дэмантаванне помніка У. Леніну ў Вільні. 1991 г.

Толькі пры канцы 1980-х гадоў, калі ў СССР набраў сілу працэс палітычнай лібералізацыі, беларусы Віленшчыны і ўсёй Летувы атрымалі пэўныя магчымасці для аб'яднання і грамадска-культурнай дзейнасці. Сярод першых утварыліся Таварыства беларускай культуры ў Летуве і Клуб аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына». З дапамогаю летувіскіх дэмакратаў і віленскіх беларускіх арганізацый у чэрвені 1989 г. у Вільні адбыўся Устаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне».

Беларусы Віленшчыны бралі чынны ўдзел у змаганні за аднаўленне незалежнасці Летувы, у тым ліку ў вядомай абароне Віленскага тэлецэнтра ад савецкіх войскаў. Дзевяць нашых суайчыннікаў – Алег Аблажэй, Андрэй Балаховіч, Крысціна Балаховіч, Сяргей Дубавец, Ангеліна Якшцене (Русак), Уладзімір Кузьменка, Валянцін Стэх, Юрась Шаўцоў, Станіслаў Зялёнка – за праяўленыя тады адвагу і самаахвярнасць былі ўзнагароджаныя медалямі Летувіскай Рэспублікі.

Пад час штурму Віленскага тэлецэнтра савецкімі войскамі. 13 студзеня 1991 г.








Віленскія дахі. Фота Дзяніса Раманюка. 2000 г.



Вільня развітваецца з змагарамі за незалежнасць Летувы, якія загінулі пры абароне тэлецэнтра. Студзень 1991 г.



Выдатны знаўца беларускай Вільні сын Антона Луцкевіча Лявон з шматгадовым кіраўніком Таварыства беларускай культуры ў Летуве Хведарам Нюнькам (злева). Фота 1990-х гадоў




Кніга Лявона Луцкевіча «Вандроўкі па Вільні» – найлепшы праваднік для таго, хто выпраўляецца ў беларускую духоўную Мекку. Віленскае беларускае выдавецтва «Рунь». 1998 г.

Выдадзеныя ў наш час у Вільні ўспаміны беларускага эмігранта з Вялікабрытаніі Юр'я Весялкоўскага. 1999 г.

Ад 1989 г. дзяржаўнае тэлебачанне і радыё Летувы транслюе беларускамоўныя перадачы. Шмат гадоў беларускія тэлевыпускі вяла паэтка і журналістка Тацяна Сапач. Яе калега Тацяна Поклад працуе віленскім карэспандэнтам беларускай службы Радыё «Свабода». Пэўны час у Вільні дзейнічала незалежная беларускамоўная радыёстанцыя «Балтыйскія хвалі», якая вяшчала на Беларусь.

На аснове беларускамоўных класаў, што ўтварыліся пры некалькіх віленскіх школах, у 1993 г. адчыненая беларуская сярэдняя школа імя Францішка Скарыны. Беларускія класы былі створаныя ў Вісагінасе ды іншых гарадах Віленшчыны.



Непаўторная панарама колішняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. 1980-я гады





Помнік Францішку Аляхновічу на віленскіх могілках Росы. 2008 г.

У Літоўскім адукацыйным універсітэце створаны цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры, які вядзе навучанне студэнтаў-беларусістаў.

Разам з аднаўленнем беларускамоўнай адукацыі адрадзіўся беларускі друк. Менавіта ў Вільні ў 1991 г. было адноўленае выданне газеты «Наша Ніва». У заснаванай ёю кніжнай серыі «Vostraja Brama» выйшлі творы Васіля Быкава, Адама Глобуса, Славаміра Адамовіча, Аляксандра Лукашука, Зьмітра Бартосіка, Сяргея Абламейкі ды іншых вядомых і маладых беларускіх пісьменнікаў.

Віленскія беларусы пэўны час выпускалі сваю газету «Рунь», а таксама стварылі аднайменнае выдавецтва. Там, у прыватнасці, пабачылі свет кнігі Лявона Луцкевіча «Вандроўкі па Вільні», Міраславы Русак «Лявонава доля», Сымона Шаўцова «Мая адысея», Юр'я Весялкоўскага «Па сьлядох Другой сусьветнай вайны». У серыі «Партрэты віленчукоў» выйшлі кніжкі пра Зоську Верас, шматгадовага рэдактара легендарнай «Нашай Нівы» пачатку XX ст. Аляксандра Уласава, сусветна вядомага вучонага ў галіне астранаўтыкі Барыса Кіта, грамадскага і культурнага дзеяча Янку Шутовіча, кампазітара Канстанціна Галкоўскага...



РУНЬ

Беларуская газета ў Вільні

Малітва за Вільню па-беларуску

Віленская беларуская газета «Рунь». № 59, 2008 г.




Сучасныя віленскія беларускія выданні



NAŠA NIVA

Vilnia Nr.18, 1993

KALADNY NUMAR "NN"

"MIENSKAJA OPERA"

НАША НІВА

№6 1992 г.

…ня, Wilno, Vilnius

Л. Галубовіч

…ілы — больш чым багатыя,

Сум па імпэрыі

«НОКТУРНО»

У 1991 г. у Вільні пачала выходзіць адроджаная «Наша Ніва». Асобныя яе нумары друкаваліся беларускай лацінкай, што падкрэслівала пераемнасць «нашаніўскай» традыцыі пачатку XX ст.

Вежы старой Вільні. 2001 г.






У Вільні выйшаў шэраг папулярных кніг, прысвечаных беларускай гісторыі і культуры




У 1990-х гадах і на пачатку XXI ст. у Вільні надрукаваны шэраг кніг, прысвечаных нашаму гістарычнаму мінуламу, у тым ліку «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча, «Беларусь мяцежная» Ніны Стужынскай, «Адкуль наш род» Уладзіміра Арлова, «Дзесяць бітваў» Міхася Чарняўскага, «Асобы, якія тварылі гісторыю» Зьмітра Санько, «Культавае дойлідства Заходняй Беларусі» Сяргея Харэўскага, «Дзеля Рэчы Паспалітай Беларусі» Юрася Дубовіка, «150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі», укладзеная Зьмітром Санько і Іванам Саверчанкам, дзве кнігі першага тома «Архіваў Беларускае Народнае Рэспублікі», падрыхтаваныя Сяргеем Шупам.

У сучасным жыцці Вільні прыкметную ролю адыгрывае Таварыства беларускай культуры, якое шмат гадоў узначальвае Хведар Нюнька. Віленскія беларусы штогод адзначаюць Дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі і ўгодкі Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання. Дзякуючы актыўнасці Таварыства наша старажытная сталіца з'яўляецца традыцыйным месцам правядзення з'ездаў беларусаў Балтыі. Тут адбываліся паседжанні цяперашняга складу Рады БНР.

З Вільняй звязаны лёс вядомых беларускіх літаратараў Алега Мінкіна і Сяргея Дубаўца, які доўгі час быў рэдактарам аднаўленай «Нашай Нівы». Тут жывуць і працуюць мастакі Алег Аблажэй, Крысціна Балаховіч, Станіслаў Зялёнка, Алесь і Сяргей Поклады, што ўваходзяць у аб'яднанне беларускіх мастакоў Балтыі «Маю гонар». З поспехам адбываюцца выставы фотамастака Дзяніса Раманюка.



Мемарыяльная дошка на будынку былой Віленскай беларускай гімназіі ў гонар яе выпускніцы выдатнай паэткі Наталлі Арсенневай. Злева направа: аўтар дошкі скульптар Алесь Шатэрнік, старшыня Таварыства беларускай культуры ў Летуве Хведар Нюнька і ініцыятар ушанавання памяці Н. Арсенневай першы міністр замежных справаў незалежнай Беларусі Пятро Краўчанка. 2005 г.



Віленскі ўніверсітэт. Фота Дзяніса Раманюка. 2002 г.





Касцёлы старажытнай Вільні. Фота Дзяніса Раманюка. 2000 г.

Таварыства беларускай культуры ў Летуве сталася ініцыятарам адкрыцця мемарыяльных дошак у гонар Францішка Скарыны, Янкі Купалы, Максіма Гарэцкага, Пётры Сергіевіча, Браніслава Тарашкевіча, Наталлі Арсенневай, Рыгора Шырмы, Адама Станкевіча ды іншых выдатных беларусаў, чый лёс непарыўна звязаны з Вільняй і Віленшчынай.



Мемарыяльная дошка на доме, дзе ў 1923–1926 гг. жыў Браніслаў Тарашкевіч

На могілках Росы сімвалічна перапахаваныя Іван Луцкевіч і Францішак Аляхновіч. Ім, а таксама Антону Луцкевічу пастаўленыя помнікі.

На гэтым старадаўнім некропалі знайшлі свой апошні прыстанак шмат якія вядомыя дзеячы нашай гісторыі і культуры. Сярод іх пісьменнікі Уладзіслаў Сыракомля, Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), паэт і святар Казімір Сваяк (Кастусь Стаповіч), гісторык і археолаг Яўстах Тышкевіч, архітэктар і грамадскі дзяяч Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Віленскія беларусы клапоцяцца пра захаванне іхных магілаў і стварэнне надмагільных помнікаў.

Больш за 20 беларускіх культурніцка-асветных арганізацый, сярод якіх Таварыствы беларускай мовы і беларускай школы Віленскага краю, аб'яднаныя ў Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый Летувы. Вільня стала гасцінным прытулкам для Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.



Бюст Івана Луцкевіча ў сядзібе Таварыства беларускай культуры ў Летуве. Сучаснае фота

У 1995 г. Беларусь і Летува падпісалі Дамову аб добрасуседстве і супрацоўніцтве. Сярод іншага гэты дакумент гарантуе правы нашых суайчыннікаў, якія жывуць у суседняй дзяржаве, на захаванне сваёй мовы, культуры і нацыянальных традыцыяў.

Такімі самымі правамі карыстаюцца ў нашай краіне летувісы, большыня якіх кампактна жыве ў паасобных вёсках Астравецкага і Варанаўскага раёнаў Гарадзеншчыны. Там адчыненыя дзве сярэднія летувіскія школы, а ў вёсцы Рымдзюны дзейнічае Летувіскі грамадска-культурны цэнтр.

  

Эпоха Вялікага Княства Літоўскага –
надзвычай важны перыяд беларускай гісторыі.
Нашыя землі ў сярэдзіне XIII ст. сталіся стваральным ядром гэтай моцнай
сярэднявечнай дзяржавы. Сталіцамі Вялікага Княства Літоўскага былі
спачатку старажытны беларускі Навагрудак,
а затым заснаваная крывічамі яшчэ ў XI ст. Вільня. Аб'яднаўшыся, беларускія
княствы адрозна ад расейскіх пазбеглі мангола-татарскага прыгнёту.
Найвышэйшай магутнасці Вялікае Княства дасягнула за князем Вітаўтам.
Яно мела выйсце да Балтыйскага і Чорнага мораў і займала тэрыторыю
больш як 900 тысяч квадратных кіламетраў, з'яўляючыся самай буйной
краінай Еўропы. У Вялікім Княстве Літоўскім панавала беларуская культура,
а беларуская мова была дзяржаўнай. На ёй гаварылі манархі ды іх двор,
на ёй вялі справаводства ў вялікакняскай канцыляры і ўсіх установах.
Нашыя продкі займалі ў краіне большасць пасадаў.
Дзяржаўнае жыццё ў Вялікім Княстве Літоўскім, або, скарочана, у Літве,
праходзіла пераважна ў беларускіх нацыянальных формах.
Менавіта там скансалідаваўся беларускі этнас. Па назове дзяржавы
яе жыхары ў той час з гонарам называлі сябе ліцьвінамі.
Цягам некалькіх стагоддзяў Княства паспяхова бараніла сваю незалежнасць
ад захопнікаў з захаду і ўсходу. Ліцьвінскія ваяры здабылі бліскучыя перамогі
пад Грунвальдам, Воршай, Кірхгольмам, Хацінам, Палонкай...
Літва-Беларусь была неадлучнаю часткаю Еўропы. Нашыя гарады,
як у Нямеччыне, Францыі або Галандыі, жылі паводле права на
самакіраванне, якога на ўсход ад Смаленска ніколі не было.
Вялікае Княства Літоўскае стала ўсходнім аванпостам Рэнесансу
і Рэфармацыі, што вызначылі далейшы рух еўрапейскай цывілізацыі.
Створаныя ліцьвінамі-беларусамі мастацкія і літаратурныя шэдэўры,
навуковыя трактаты годна папоўнілі скарбніцу агульнаеўрапейскай
культуры. Дзякуючы выдатнаму гуманісту Францішку Скарыну
мы атрымалі друкаваную Біблію на сваёй мове раней за расейцаў і ўкраінцаў,
палякаў і летувісаў, французаў і ангельцаў – наагул,
раней за большасць еўрапейскіх народаў.



  

Пасля Люблінскай вуніі Вялікае Княства зрабілася часткаю
канфедэрацыйнай Рэчы Паспалітай, але захавала самастойнасць
і праіснавала да канца XVIII ст.
Гарантыяй нашага дзяржаўнага суверэнітэту быў Статут 1588 г. –
самы дасканалы збор законаў у тагачаснай Еўропе.
Палітычны заняпад Рэчы Паспалітай прывёў да захопу Літвы-Беларусі
Расейскай імперыяй. Аднак ідэя аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага
яшчэ доўга жыла ў розумах і сэрцах лепшых людзей краю, якія зноў і зноў
паўставалі супраць чужынскага панавання.
Жамойць ды іншыя землі, населеныя продкамі сучасных літоўцаў-летувісаў,
займалі менш за 1/15 абшару нашай дзяржавы. Але міфалагізацыя гісторыі
і спрыяльная палітычная кан'юктура далі паўночна-заходнім суседзям
магчымасць на пачатку XX ст. прысвоіць сваёй маладой дзяржаве гістарычны
назоў Літва (Летува). Разам з гэтым яны насуперак фактам
заявілі аб выключных правах на ўсю гістарычную і культурную
спадчыну Вялікага Княства Літоўскага.
У 1939 г. у выніку змовы Сталіна і Гітлера Летува атрымала Вільню
з Віленскім краем. Гэты набытак дазволіў летувісам замацаваць міф
пра балцкі характар Вялікага Княства Літоўскага.
Як у савецкія часы, так і пасля распаду СССР летувіская гістарычная навука
і адукацыя зыходзілі з таго, што спадчынніцай Вялікага Княства
ёсць толькі іх краіна. Пазіцыі гэтага міфу па-ранейшаму моцныя
і ў міжнароднай гістарыяграфіі.
Ёсць рэальныя падставы спадзявацца, што цяпер, калі Летува ўступіла
ў Еўразвяз, яе падыходы да гісторыі будуць мяняцца адпаведна еўрапейскім
стандартам. Але сцвердзіць свае правы на гістарычную спадчыну
Вялікага Княства Літоўскага павінны мы самі, нашчадкі ліцьвіноў.
Гэтай справе і служыць кніга, якую вы трымаеце ў руках.



Аўтар тэксту і мастак выказваюць шчырую падзяку

Юрасю Бохану
Сяргею Вечару
Таццяне Дземідовіч
Сяргею Занкевічу
Міхалу Іенькову
Пятру Казакевічу
Русцісу Камунтавічусу
Андрэю Катлярчуку
Вітаўту Кіпелю
Уладзіміру Кітурку
Сяргею Краўчуку
Уладзіміру Крукоўскаму
Генадзю Мацуру
Міхасю Міндзібекаву
Валеру Пазьнякову
Уладзіміру Піскуру
Валеру Ратнікаву
Зьмітру Сасноўскаму
Анджэю Струмілу
Вользе Стужынскай
Дарафею Фіёніку
Аляксею Хадыку
Міхасю Чарняўскаму
Яўгену Юрцэвічу

ІЛЮСТРАВАНАЯ ГІСТОРЫЯ

**Краіна Беларусь.**
**ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ**

Аўтар тэксту Уладзімір Арлоў
Мастак Зьміцер Герасімовіч
Рэдактар Зьміцер Санько
Карэктары Яніна Марціновіч, Марыя Кавальчук
Апрацоўка ілюстрацый Юлія Драч

**ISBN 978-985-6919-82-7**

KALLIGRAM, spol. s r.o.
Staromestská 6/d, P O Box 223, 811 03 Bratislava, Slovakia
Друкарня «NEOGRAFIA», Martin, Slovakia

Наклад 5000 асобнікаў

